ISSN 0130—8068

# Полымя

## 7

У НУМАРЫ:

*110 гадоў з дня нараджэння*
**ЯНКА КУПАЛА**
**З падцэнзурных твораў**
Вершы

**ГЕНРЫХ ДАЛІДОВІЧ**
**Заходнікі**
**Раман**

**РЫГОР БАРАДУЛІН**
**Вершы**

**Магілёўская хроніка**
**ТРАФІМА СУРТЫ І**
**ЮРЫ ТРУБНІЦКАГА**



**1992**

# Полымя



(759)

**1992**

**ЛІПЕНЬ**

**ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС
ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ**

**ВЫХОДЗІЦЬ СА СНЕЖНЯ 1922 ГОДА**



На белорусском языке

**Мінск,
выдавецтва «Полымя»**

# ЗМЕСТ




**Издательство «Полымя» Министерства информации Республики Беларусь. Минск**

Рэдакцыя часопіса «Полымя», 220005, Мінск, Захарава, 19.

Тэлефоны: галоўнага рэдактара, намесніка галоўнага рэдактара — 33-20-12; адказнага сакратара, аддзелаў прозы, нарыса і публіцыстыкі, гісторыі літаратуры і культуры — 33-20-91; аддзелаў паэзіі, крытыкі і літаратуразнаўства, навукі і мастацтва, машыннага бюро — 33-49-91.

Выдавецтва «Беларускі Дом друку», 220041, Мінск, праспект Францыска Скарыны, 79.

## *Да 110-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы*

ЯНКА КУПАЛА

# З ПАДЦЭНЗУРНЫХ ТВОРАЎ

## Хаўруснікам

«Gazeta Codzienna»
І «Виленский вестник»
Сабраліся хэўрай,
Як свінні на сметнік.

І ну ж гаманіці,
Ўхмыляцца пад вусам,
Як лепш атуманіць
Мазгі беларусам.

«Gazetka» бармоча:
Нех бэндзе ён ляхам,
А «Вестник» — «пусть лучшэ
Маскоўскім прёт шляхам».

Спрачаліся доўга
Як край наш раскрасці,
Дый спеліся ўрэшце:
Парваць на дзве часці.

Адна часть Варшаве
Лізаць ногі будзе,
Маскве хай другая
Нясе свае грудзі.

Забыліся толькі,
Хаўруснікі ночы,
Спытаць беларуса,
Чым сам ён быць хоча?

Па-мойму ж, не варта,
Панкі, так лезць з жылаў...
Як свінням — не глянуць
Вам дальш свайго рыла.

19.X.1913 г.

## На ўсе рукі

Ён з начальствам знае дзела:
Па-расейску валіць смела;
Ліжа, выйшаўшы за вёску,
Ласку панскую па-польску.
Нават жыду — у доўг як просе —
«Гутэн морген!» — буркне ў носе.
Калі ж сядзе у кутузку,
Усіх кляне па-беларуску.

# Сваякі

Раз абселі беларуса
Маскалі ды ляхі,
І давай яму сваяцтва
Тыкаці з-пад пахі:

— Ты мой ісцінны браточак! —
Маскалёк бармоча;
— Ты мой хрэснік, мой сыночак! —
Юда-Лях сакоча.

Беларус жа ім на тое:
— Сваячкі мае вы:
Смачны жолуд вам на каву,
Дый высока дрэва!

1914 г.

# Груганы

Адзін з захаду груган,
А другі з усходу
Прыляцелі на сяло,
На чужую шкоду.

І давай паміж сабой
Гутарыць, хваліцца:
— Круму! Круму! Што за рай!
Ёсць чым пажывіцца!

Дасюль елі мерцвякоў,
А цяпер затое
Будзем піць мы кроў жывых,
Мяса есць жывое!

# Жыды!

Жыды! «Хрыстапрадаўцы і прыблуды»!
О, слава вам, ўсебеларускія жыды!
Я веру вам, хоць чорнай граззю ўсюды
Плюе вам цар і раб, стары і малады.

Нявольнікі вы сёння з намі разам
На беларускай змучанай зямлі,
Дзе чорны здзек пасвенчаным абразам
Гняце вас разам, як звяр'ё, ў крутой пятлі.

Вы ўскрэснеце, жыды, услед за Беларусяй,—
Сцяг ваш і нашая паходня будуць жыць,
Хоць наш магільнік кветкай апрануўся,
Хоць згубны мор над намі гібеляй імжыць!

Калі ў Гішпаны ўзбунтаваны людзі
З сваёй краіны выгналі вас напасмех,
На беларускім полі вашы грудзі
Навек знайшлі дняванне, страву і начлег.

Шлі дні. І вас у ланцугі скавалі
Бязбожны каралі і дэспаты-цары.
Адны вас беларусы шанавалі,
Як блізкіх родных — да святлейшае пары.

Масква й Варшава аплюлі вам імя
І ў дзікай чэрні ненавісць збудзілі к вам,
А Беларусь пад крыллямі сваімі
Вас грэла й вашым нянькаю была дзяцям.

Пасля, жыды, вы зрэкліся народу,
Які вам шчыра даў багацце і прыпын;
Пайшлі прыдбаць сабе чэсць і выгоду
Да сільных тых, хто даў вам вісельню і чын!

Раскіданыя гібнуць па ўсім свеце.
Вы Месіі чакаеце яшчэ, жыды,—
Тэй Месіі ждуць Беларусі дзеці
І з вамі пойдуць, як вы з намі, ўсе тады.

Ваш ясны светач там, дзе Палестына,
Наш ясны светач — Маці-Беларусь адна;
Спадзе ланцуг ваш у сляпым загіну,
Спадзе ланцуг наш і заззяе ўсім вясна!

Цяпер за вамі слова ў буру гэту:
Пайсці ці не, з народам нашым да святла...
Пара, жыды, паны усёга свету,
Сплаціці доўг, які вам Беларусь дала!

1919 г.

**Публікацыя Барыса САЧАНКІ.**



ГЕНРЫХ ДАЛІДОВІЧ

# ЗАХОДНІКІ

РАМАН

## 1

— Не ведаю, хлопча, добра я раблю ці не, але мушу сказаць,— прамовіў дзядзька Францішак, калі выбраліся з лесу і запыніліся каля пагонкі.— На тваю Марысю пазырквае Кураглядаў...

Гэта не была для Сцяпана навіна. Марыся расказвала яму — і ўжо не раз,— што той, за вочы Курашчуп, на пачатку года загаворваў гулліва ды непрыстойна, а цяпер пачаў нахабна заступаць дарогу, хапаць за рукі і абы-што шаптаць на вуха. Надоечы Марыся мусіла ўжо не толькі прыкрыкнуць, але нават і злосна адштурхнуць ды прыстрашыць, што паскардзіцца мужу.

Пачуўшы, што пра гэта пачалі ўжо вось гаварыць людзі, Сцяпан уздрыгнуў, але змаўчаў (як і ўсе ў радні, быў не пыхкі і не вельмі гаваркі). Сцяў губы, прыплюшчыў вочы, адвёў позірк ад недалёкай, за вярсту, сцішанай пад высокімі голымі ліпамі роднай вёскі і зірнуў убок: на блізенькі зялёна-цемнаваты акраек лесу і на цярушліва-хмарнае неба, каб, можа, туды — у сыр-бор ды ў халаднаватую высь — адпусціць свой раптоўны сардэчны боль ці адтуль, як здавалася, з вечнага спакою, узяць крыху супакаення для занылай душы.

— Я не хачу, нават баюся, каб ты што благое падумаў, а то, крый божа, распусціў дома рукі,— увесь светлы дзень, калі працавалі ў лесе, дзядзька амаль маўчаў, толькі зрэдку загадваў, што і як рабіць, а цяпер вось загаманіў і павёў гутарку асцярожна, не сваім гучным, цвёрдым, а нібы нясмелым ды не зусім шчырым голасам.— Каб было што, дык ужо ўсе паласкалі б зубы... Ды, кажуць, ён круціцца са сваёй сакратаркаю.

Сцяпан зноў не абзыўнуўся.

— І з ім, хлопча, не гарачыся. Ён — улада... І, сам ведаеш, дурыла!

Што праўда — то праўда: гэты Кураглядаў паспеў за кароткі

час уесціся ў печань усім Янкавінам. І сам, і са сваім фінагентам Клопікавым.

— Ну, не набірай абы-чаго ў галаву! Хоць ён і курашчуп, але твая Марыся лішняга не дазволіць! — усміхнуўся дзядзька, ляпнуў яго па плячах і, падперазаны пілой, з сякерай і з наламаным хваёвым памялом, пашкрэбаў на свой блізкі хутар Амшарок.

Сцяпан паглядзеў крыху ўслед высокаму, дужаму і мудраму бацькаваму брату — той, гэтак неспадзявана і балюча развярэдзіўшы душу, аддаляўся, меншаў, знікаў у прыцемках,— а потым крануў лейцамі каня і пакрочыў па тупкай ужо сцежачцы, слухаючы, як радасна фыркае, весела спяшаецца дадому Гняды, прыемна шапацяць колы па сырым жвірыстым пяску, знаёма рыпяць дуга і гужы, а заадно вабна ляжаць агромністыя валуны ўздоўж дарогі. Гэтыя камяні — а іх сем ад лесу да вёскі — тут здаўна, іх ніхто не чапае, яны быццам нейкія святыя істоты ці помнікі; калі трэба каменне на падмуроўку альбо ў склеп, дык людзі шукаюць яго на сваім альбо гуртавым полі, а калі трэба пазбавіцца ад дробнага камення, што ўсё выплывае і выплывае з зямлі, то яго падбіраюць, але не кідаюць абы-як тут, пры дарозе альбо ў лесе, а знаходзяць яму сваё месца. Раней, за палякамі, вазілі пад Налібакі, на дарогу-брукаванку, а цяпер скідаюць у адно месца — вось сюды непадалёку ў лес, на Ваўкавеньку.

Пасля лагчыны, на горцы, як на далоні сталі бачныя Янкавіны — з гэтага, паўночнага, крычатоўскага, боку ў адзін шнурок, уздоўж дарогі-вуліцы, пад старымі насадамі. Калі сюдой падыходзіў паджылы чалавек, то спачатку нібы бачыў старую вёску — тую, што адбудавалася пасля першай сусветнай і савецка-польскай войнаў і што была да самай нядаўняй блакады: цесную, прысадзістую, з невялікімі вокнамі, амаль спрэс саламяную, толькі сям-там, у Засценку, з высокімі аплазаванымі ці пашаляванымі дамамі, накрытымі гонтай і нават чарапіцаю, з вялікімі, хараша аздобленымі вокнамі, з верандамі. Але, апамятаўшыся ад былога малюнка, як вось цяпер Сцяпан, кожны мусіў бачыць тое, што ёсць наяве: тут і там свежыя накрытыя дахамі ці яшчэ ненакрытыя зрубы з аголенымі альбо забітымі аполкамі аконнымі прагаламі, паміж зрубамі — быццам пусткі, хоць на самай справе там — нізкія, заглыбленыя ў дол зямлянкі. І толькі зрэдку — новыя дамы з чырвонымі комінамі, з вокнамі на адну, а то ўжо і на дзве палавіны. Адным словам, пазалетась вярнуўшыся з бежанцаў і з Германіі, Янкавіны адбудоўваюцца, спрабуюць зноў, як і раней пасля ліхалецця, стаць на ногі. Што да Сцяпана, дык ён, першы яшчэ пазалетась зладзіўшы каля папялішча зямлянку, ужо здолеў абжыць домік на дзве палавіны і ўзбіцца на такую-сякую гаспадарку.

Каля плашкавай дрывотні Сцяпан падцялежыў калёсы і выкуліў з іх галлё, вярхоўе — усё тое, што можна паліць у лесе ці па дазволе леснікоў забіраць дадому,— распрог каня, уцягнуў калёсы ў гуменца, а пасля, не спяшаючыся, не заходзячы ў хату, пачаў ухаджацца ў хляве: даваў сена каню, карове, цялушачцы, авечцы з ягнятамі і з кожнай хвілінай усё больш і больш распаляўся ад незразумелай злосці. Калі выходзіў на двор, дык кідаў позірк на акно, што было каля сянец і глядзела сюды: там, на кухні, сядзела маці і трымала пад пахі яго двухгадовага Юзіка. Сын — у мяккіх атопачках, у доўгай кашульцы і шапачцы, завязанай шнурочкамі на шыі,— як толькі бачыў яго, бацьку, імкнуўся на двор, ледзь не вырываючыся з бабчыных натруджаных рук. Тыя разы, вярнуўшыся з лесу, Сцяпан адразу ішоў да акна, гуляў-пацвельваўся са сваім першынцам-любімцам, а то заходзіў у хату і заносіў яму прыгожую шышку ці злоўленую птушачку, а сёння не пайшоў, каб не сустракацца і не бачыцца з Марысяй — тая магла выйсці альбо высірнуць з-за сынавых і свекрывіных плячэй.

Праўда, звычайна Марыся, як толькі ўгледжвала яго ў двары, адразу ж выбягала з хаты, каб сказаць якую вясковую навіну ці штосьці запытаць, з ласкай зазірнуць у вочы, а ў зацішным, схаваным ад чужога вока месцы і прытуліцца, але во сёння не паказваецца...

Пазней, калі прынёс у хату абярэмак дроў, убачыў: Марысі няма дома. Раней, калі яна выходзіла ў вёску, быў спакойны, а вось цяпер — не, у сэрца нібы кальнула стрэмка.

— Заседзелася недзе наша маладая...— быццам вінавата сказала маці, гадáмі яшчэ не старая (ёй было сорак пяць гадоў, ён, Сцяпан, яе старэйшы сын), але на выгляд зусім пажылая ўжо жанчына: знясільваючая праца, чацвёра дзяцей, смерць мужа ў раннім веку, блакада і прымусовы вываз на нямецкія землі паклалі свой цяжкі адбітак.

Ён нічога не адказаў, пачаў накладаць дровы: спачатку тут, на кухні, у пліце, а пасля ў другой палавіне хаты — у стаяку. Сын — худзенькі, але пруткі, падобны і на яго, светлавалосага бацьку, і на смуглаватую маці — таптаўся побач, то намагаючыся ўхапіць паленца, то спрабуючы ўсесціся на рукі, а старая ў гэты час пачала даставаць з новай, але добра варкай печы цяжкія чорныя саганы. Што да Марысі, дык яна вярнулася дадому, калі ён з сынам на каленях сядзеў каля палаючага стаяка і задуменна пазіраў на агонь, а маці насыпала дробную бульбу ў памытыя саганы — на заўтрашні дзень.

— Загулялася...— Марыся яшчэ з парога замітусілася і кінулася да свекрыві перахапіць яе работу.

«Загулялася! — новая стрэмка цяла Сцяпанава сэрца.— Дзе? І з кім?»

Пазней, калі пад столлю з шырокіх габляваных дошак і моцных кантовых бэлек свяціла падвешаная на дроце лямпа, а на стале цёпла і смачна пахла ў глінянай місцы неабіраная звараная бульба, вабіў агурочны расол, запраўлены звараным яйкам, цыбуляй і смятанай, Сцяпан моўчкі сцізорыкам абіраў лушпінне — сабе і для сына, а заадно касіў позірк на жонку. Тая, вярнуўшыся з цёмнага ўжо двара і борздка скінуўшы ватовачку і хустку, вось цяпер мыла рукі над мядніцай. А калі выпрасталася, пачала гарэзна ўглядацца ва ўмураванае ў печ люстэрачка, папраўляць грэбенем чарнявыя валасы, пасміхацца сама сабе, у яго ад любасці і болю ажно зайшлася душа: якая ўсё ж вабная яна!Мае дваццаць адзін год, сярэдняга росту, пакруглелая пасля родаў — усе яе дзявочыя сукенкі, як вось і гэтая сіняя з белым гарошкам, ужо цеснаватыя, да трэску на швах напінаюцца на ладных клубах і на высокіх грудзях, і ад яе хочаш ці не хочаш, але не адвядзеш зачараваныя вочы. А яшчэ гэты па-дзёрзку загнуты носік на круглаватым твары, чарнявыя вочы і пышныя валасы!.. Не дзіва, што ўпадабалася таму памаўзліўцу!

Марыся, калі падабрала пад белую хустку валасы і села насупраць за стол, адразу ж перахапіла яго позірк — здаецца, і цяпер ясна, аддана, з любоўю, а ён, прыгнечаны прыкрым настроем, адводзіў вочы, моўчкі еў, але які не быў згаладалы, а вялікага смаку сёння не адчуваў. Марыся, мусіць, душой учула вір ягоных спрэчных пачуццяў, узбудзілася: колькі разоў то недарэчы смяялася, гаварыла абышто, а то замаўкала з недаўменнем, гарэла ад чырвані, а пазней, калі папілі падсалоджанага сахарынаю ліповага і малінавага настою, кінулася прыбіраць са стала, мыць пасуду.

Сцяпан жа, дагледзеўшы агонь у стаяку і зачыніўшы ўюшку, не запаліў тут, у «белай хаце», свечку, хуценька распрануўся і шуснуў пад стылаватую коўдру, жадаючы, каб Марыся сёння легла не з ім, а з сынам — бывала, калі той прычэпліваўся, Марыся брала яго сюды, у гэты пакой, і клалася з ім на асобным, бліжэйшым да стаяка і дзвярэй, ложку. Ды па ім не выйшла: Юзік, як чуў, падаўся спаць з бабу-

ляй (тая, відаць, зразумела, што ён, Сцяпан, насупіўся за штосьці на Марысю, маўчала ўвесь вечар альбо загаворвала зусім пра іншае, а цяпер настойліва прасіла малога застацца з ёю на печы: «Я ж адна, Юзічак, баюся спаць»). Марыся, прыбраўшы на кухні і патушыўшы святло, прыйшла сюды.

Як і кожны вечар, Марыся пачала рыхтавацца да свайго звычайнага і ў той жа час непаўторнага рытуалу перад сном. Звычайна яна садзілася на край пасцелі, спіной да яго, сцягвала сукенку, вабна святлеючыся ў змроку, а пасля здымала бялізну і, калі было не зусім цёмна, гарэзна і лёгка кідала скінутае яму на твар, хуценька расшпільвала на спіне станік і, падтрымліваючы яго локцямі, хаваючы грудзі, намагалася выхапіць з-пад падушкі доўгую начную кашулю, апусціць станік і нацягнуць яе на сябе. Ён звычайна з узбуджэннем чакаў якраз гэтых хвілін і ў міг, калі яна ўздымала рукі ды цэліла трапіць галавой у выраз кашулі, хапаў яе, пруткую, дужую, і паміж імі пачыналася сапраўдная барацьба. Урэшце Марыся скаралася, выпускала з рук кашулю, і яны, задыханыя, запалымнелыя, прытульваліся і заміралі ў доўгім слодычным пацалунку... Пра гэта пасля яны ніколі не гаварылі, яно было іхняй таямніцай, кожны насіў яе пры сабе, але ўсё гэта, здаецца, вельмі маладое, гуллівае і не зусім сур'ёзнае, моцна яднала іх, а па-другое, заўсёды было і чымсьці новым, патрэбным, як многае дзіўнаватае ў іхнім узросце.

Сёння Марыся таксама апусцілася на край; неўзабаве паказала свае гладкія плечы, хвалюючы раўчук на спіне, які вось хораша закрылі апушчаныя цёмныя валасы. Але, цяпер не чуючы ягонага адмыслова затоенага дыхання, напружанасці для рыўка, Марыся нібы здзівілася — заціснула локцямі станік і азірнулася. Бачачы, што ён ляжыць зусім нерухома, бадай, упершыню за сумеснае жыццё не заспяшалася хаваць сваё спрытнае і прыгожае цела, нырнула пад коўдру і прытулілася.

— Які цёпленькі! — шчаслівa прашаптала і, ужо ўражаная яго стрыманасцю: — Ты стаміўся? Хапаў, падымаў за сябе і за дзядзьку?

— Стаміўся,— нехаця, абы не маўчаць, буркнуў ён. Маючы яшчэ толькі дваццаць тры гады, не малую мужчынскую сілу, ён, лічы, не ведаў добра, што гэта такое — стома ад работы.

Каб была старэйшая — калі не з адпалымнелай, то ўжо з прыціхлай душой альбо мела спакайнейшы характар,— дык Марыся, як і кожная крыўдлівая жанчына, раптоўна пахаладнела б, насупілася, але...

— Мы зараз прагонім тваю стому...— Загарэзнічала яна, дала волю рукам, а заадно прыпала да ягоных вуснаў. Такое дазволіла сабе толькі сам-насам і пад начным полагам.

Сцяпан, як ні стрымліваўся, толькі дзеля прыліку адказваючы на пяшчоты, пачаў паволі супакойвацца, дабрэць, праганяць прэч рэўнасць і злосць, нават падакараў сябе: ну і дурань! Не, не можа яго Марыся адцурацца, падпусціць да сябе чужога мужчыну, тым болей гэткага нягодніка, як Кураглядаў, кахае і шануе толькі яго, мужа. А калі разлагодзіўся, дык не мог ужо быць абыякавы да жончыных ласак — узбудзіўся, а потым імгненна нібы ўспыхнуў агнём.

Некалі, калі толькі пажаніліся і пачалі жыць як муж ды жонка, абое доўгі час былі сарамлівыя, няўклюдныя, дык такія незвычайныя хвіліны, як цяпер, вельмі ўзбуджалі, але не заўсёды прыносілі вялікую радасць, часамі нават наадварот — расчараванне, сорам і пакуты, нават крыўду адно на аднаго. Цяпер, калі былі ўжо сталейшыя сямейнікі, калі Марыся пасля родаў адчула сама і ведала, як паказаць яму сваю жаноцкасць, было іначай. Цяпер яны разумелі, адчувалі адно аднаго без слоў — па адмысловай усмешцы, па пяшчотных дотыках, па пацалунках. Так вось і ў гэтыя хвіліны. Спачатку ні

ён, ні яна, задыхаючыся, не маглі вымавіць слова ці паўслова, толькі трымцелі, але пазней, калі гэтае трымценне пачало ўтаймоўвацца, успламяніла кожную жылачку, і душа душы, цела целу пачалі спяваць адну пяшчотную песню, першай, як і раней, здолела ціха выдыхнуць Марыся:

— Сцяпанка, міленькі мой, залаценькі...

Ён слухаў, нібы нейкі голас здалёку, яшчэ далікатней лашчыў яе, на ўсю глыбіню душы радуючыся, колькі чаго цудоўнага можа даваць маці-прырода.

Пасля яны спачатку побач, а потым крыху воддаль ляжалі зморaныя, але шчаслівыя, з нейкім новым акрыленым усведамленнем гэтага цяжкога, але мілага свету.

— Я цябе вельмі люблю, Сцяпанка,— прашаптала Марыся, узяла яго руку і прытуліла да сваёй гарачай шчакі.

— І я,— скупа, але з радасцю адказаў ён.

— Я з табой такая шчаслівая, што часамі ўжо баюся...

— Не трэба,— папрасіў ён, ведаючы, што часамі трэба быць вельмі асцярожным і са сваімі патаемнымі думкамі, і са сваім словам, каб самому не наклікаць на сябе бяды.— Маўчы.

— Маўчу,— прашаптала са згодаю. Заціхла, перажываючы ўжо новую ўцеху: ён моўчкі, дзякуючы, пачаў лашчыць яе валасы, шыю, пруткія грудзі. Калі ж яго рука паслабела, а рухі замарудзіліся — значыць, ён пачынаў драмаць, яна ўзяла яго руку, сама знайшла ёй месца: ён любіць засынаць, калі расслаблена, але ўладна, як муж, як гаспадар, пакладзе яе, цёплую, з пульсуючымі жылачкамі на пальцах, на яе мала́ды, тугі жывот.

## 2

Спалі моцна, як пабітыя.

Ды па звычцы прачнуліся раптоўна, тады, калі трэба было ўставаць. Праўда, падымацца дужа не хацелася, вабіла хоць хвіліну-другую папесціцца пад цёплай коўдрай. Але хочаш ці не хочаш, а мусіш пакідаць ложак, каб і ў час ухадзіцца, і каб вёска не высмеяла, што Грыгарцэвічы — гультаі-лежні...

Першай заварушылася Марыся — пачала яшчэ вялай рукой абмацваць пад падушкай адзенне. Узяўшы, паднялася, села, апусціла ногі долу і змагалася са сном. Калі ён зноў убачыў у паўзмроку яе паглядныя плечы пад распушчанымі валасамі, дык мігам абудзіўся і нечаканым рыўком згроб паўсонную Марысю — як, бывала, і раней, на досвітку: яны, пасвяжэлыя пасля ночы, гарэзавалі і, спяшаючыся, былі блізкія. У тых прагных пацалунках і спешных ласках таксама была свая маладая вабнасць. Але цяпер Марыся нечакана папрутчэла, не дала яму волі, а неўзабаве змусіла і затаіцца: там, у «чорнай хаце», пачуўся гаспадынін крэкт, а пасля і тупат.

Трошкі збянтэжаныя, трошкі засцерагаючыся, яны рэзка адхінуліся, падхапіліся і пачалі хуценька апранацца. Калі выйшлі на кухню, дзе толькі што маці запаліла лучыну на пліце, былі ўжо з затоенымі пачуццямі, захопленыя гаспадарскімі турботамі. Маці, стрымана, але задаволена адказаўшы на цёплае нявестчына прывітанне, пачала падпальваць у печы, а яны, маладыя, падаліся на двор: Марыся даіць карову, ён даваць сена быдлу.

Паснедаўшы, Сцяпан запрог каня і, маючы ўжо ў кішэні кажушка загорнутыя ў ручнічок акраец хлеба і апольчык сала, цыбуліну, падаўся на работу.

У лес сталыя янкавінцы ездзілі ўжо другі тыдзень — на своеасаблівыя сёлета лесанарыхтоўкі. Гуртам рэзалі ў гаі былога хатаўскога пана дрэва на школу. Да блакады ў вёсцы было некалькі казённых будынкаў — гміна (за «першымі» Саветамі рэўком, за «другімі» — сельсавет, у гэтую вайну — валасць), школа, крама, карчма,— але ў блакаду ўсё гэта, як і людскія хаты, згарэла. Дык вось цяпер адбудоўваецца. Хоць яшчэ многія з вёскі жывуць у зямлянках, але найперш, як настояў Кураглядаў, «надо восстанавливать, обустраивать Советскую власть»,— летась грамадой пабудавалі сельсавецкі будынак і «падсобныя памяшканні» да яго, а сёлета вось узяліся за школу: яна, як і крама, пакуль што па большых і лепшых людскіх хатах.

Калі мінуў настылае цемнаватае поле (уздоўж сырых валуноў было яго пяць дзесяцін зямлі) і ўехаў у ціхі лес, пацягнула рэзкім холадам: тут, у цяні, яшчэ бялеўся снег, шарэў стары, асенні, лёд. Аднак адчуў іншае, прыемнае, хваляванне: паблізу, злева на горцы, ягоны лапік сасняку. Калі ўсё будзе добра, дык налета трэба будзе папрасіць дзядзьку і яго сыноў ды рэзаць страявое дрэва — на трысценак. Гэтая хата, што даў ружэвіцкі цесць, не толькі малаватая, але і стаялая ўжо; калі падмеўся мець вялікую сям'ю (яны з Марысяй дамовіліся, што ў іх будзе сама меней чацвёра дзяцей, каб у брата быў брат, а ў сястры — сястра), то трэба дабудаваць яшчэ якіх два пакоі. Далей, у былым панскім, а цяпер дзяржаўным лесе, даўся ў нос дым — ён, канечне, напоўз сюды за ноч з іхніх вогнішчаў: кожны пасля сваёй работы забіраў дамоў буйнейшыя ацяробкі, а ўсё дробнае, каб яно не засмечвала, не даводзіла да хваробы лес, зносіў у лоўж і паліў. Сям-там на выразках вунь куродыміцца і цяпер —ці яшчэ звечара, ці хтосьці ранні падварушыў папялішча ўжо зараз. Як вось і дзядзька Францішак: чакаючы яго, падгарнуў на выгаралую, белую ад попелу сярэдзіну з краёў галавешкі, раздзьмухаў — дымок з цяпельца віўся без ахвоты і сілы, баючыся ранняй лясной змрочнасці і стыласці.

Сцяпан павітаўся з дзядзькам — той, як і ўсе ў іхняй радні, не вельмі гаваркі, моўчкі хітнуў галавой у адказ, пачаў памагаць распрагаць каня.

Яшчэ зімой аб'ездчык і ляснік на вялікім кавалку лесу зачасалі сякерай, пранумаравалі тыя сосны, што трэба было паваліць янкавінцам. Сцяпану і дзядзьку трапілі нумары 30—45. І не простыя — яны былі на тоўстых, звышстогадовых цяжкіх, налітых смалой хвоях. Зрэзаць і апусціць іх на зямлю было даволі цяжка. Сёння тут чакала адмысловая, не вельмі натужлівая, але асцярожная работа — рэзаць ацярэбленыя ўжо дрэвіны на кавалкі: што — на дылі і дошкі, што — на зруб ці на кроквы. Калі не сёння, дык заўтра-паслязаўтра трэба будзе цягаць тыя кавалкі да дарогі.

Калі падкінулі каню сена, пачалі адмяраць пілой на самым блізкім ад дарогі дрэве патрэбныя часткі і паволі рэзаць, хмялеючы ад церпкага смольнага паху. Неўзабаве, калі пад'ехалі астатнія янкавінцы, лес загуў, зазвінеў ад людскіх галасоў і піл, а крыху пазней і задрыжэў: за паўвярсты, дзе велічна, спакойна ці, наадварот, трывожна камліўся акраек Налібацкай пушчы, валіў карабельныя і некарабельныя сосны леспрамгас — ацярэбленыя доўгія і таўшчэзныя хваіны, елкі вазілі на будоўлю аж у Мінск, куды, да слова, сёлета падалося некалькі спакушаных вярбоўшчыкамі маладых янкавінскіх хлопцаў і дзяўчат. Адна з іх, Тэця Навіцкая, паспела ўжо сысціся з чужым хлопцам ды з праваслаўным, «рускім», чым не толькі пакрыўдзіла, але разлавала бацькоў-каталікоў.

Пад полудзень, калі прабілася праз вясновую шэрань і праяснела, падняло неба сонца, калі ўволю, усмак напрацаваліся, Сцяпан і дзядзька прыселі на тоўсты сасновы камель паблізу агню, выцерлі пот з лоба і ўзяліся за хлеб ды сала. Якраз у гэты час пачаў набліжацца

сюды цяжкі гул-стогн, а неўзабаве на блізкай дарозе паказаліся шэрая кабіна, дзе сядзеў малады мужчына ў ваенным выцвілым бушлаце без пагонаў, у заліхвацкай насунутай на вочы кепцы, за кабінай і над ёй — тоўстыя хвоі з няроўна зрэзанымі камлямі. Мужчыны пільна назіралі, як паўзла расцягнутая машына, завальваючыся на выбоінах, слухалі, як нібы трашчыць, стогне дрэва, а потым доўга праводзілі вачыма чырвоную анучку на самай вытырклай верхавіне.

— Калі і мы, і яны,— кіўнуў дзядзька Францішак на лесавоз,— гэтак будзем пляжыць пушчу і далей, дык хутка злысім яе... І рускі пан да Свабоды, і польскі да трыццаць дзевятага гэтак не нішчыў...

Не змаўляючыся, нібы хто занёс над імі меч, абодва пахапліва азірнуліся: пакуль гула машына, лічы, да самага вогнішча нячутна падышоў чалавек. Кураглядаў. І не адзін, а са сваім рослым, нямецкай пароды, сабакам — з ім, здаецца, не разлучаецца ні на хвіліну. Ён у яго быццам за целаахоўніка.

Кураглядаў — сярэдняга росту, гадоў на пяць старэйшы за Сцяпана, круглатвары, з маленькімі бясколернымі, але пранізлівымі вачыма, у выцертых афіцэрскіх галіфэ, шынялі без пагонаў і ў фуражцы без кукарды — падслухоўваў. Не збянтэжыўся, што яго заўважылі ў гэткай позе, напаў:

— Что — жалко? Даже чужого?

Як і заўсёды, з адной манерай — ці крычыць, ці яхіднічае. Падае сябе за вялікага начальніка. Строгага, грознага, на кім трымаецца не толькі тутэйшая ўлада, але і ўвесь свет.

Дзядзька Францішак вельмі не злякаўся, але абачліва змаўчаў. Кураглядаў падышоў, паставіў нагу на дрэва, здаецца, любуючыся бліскучым хромавым ботам і сінім, з чырвоным кантам галіфэ. Ззаду натапырыўся кабур — трэба ці не трэба, але Кураглядаў заўсёды са зброяй.

— Вот куркулістыя душы! — хмыкнуў той.— Вот моцны ўласніцкі інстынкт!

Яны зноў не адказалі, а Кураглядаў не адыходзіў, ушчуваў:

— Што — школа не трэба? Для вашых жа дзяцей і ўнукаў! Га, дзед?

— Трэба,— падаў голас дзядзька.

— Мінск, рэспубліку, краіну адбудоўваць не трэба?

— Трэба.

— Дык чаго ныеш? — хоць у Янкавінах усе называлі старэйшых толькі на «вы», але Кураглядаў усім «тыкаў».— Супраць аднаўлення, пад'ёму і росквіту савецкай дзяржавы?

— Я не супраць гэтага,— адказаў дзядзька, стараючыся «не блытацца ў палітыку».— Мне лесу шкода. Во гэтаму дзераву,— паляпаў далоняй па хваіне,— трэба болей ста гадоў расці, лічы, два чалавечыя пакаленні. Калі мы будзем гэтак вырэзваць, як рэжам цяпер, дык нашым унукам нічога не застанецца. А па-другое, злысела лес зарасце кустоўем, крапівою — ягад і грыбоў не будзе.

— Аднаасобнік! — скрывіўся Кураглядаў.— Ніякай свядомасці!

— Я кажу пра тое, што трэба думаць пра заўтрашні дзень, рабіць усё па-гаспадарску.

— А мы, па-твойму, хто? Няўмекі і марнатраўцы?

Дзядзька, бачачы, што злосны цяпер старшыня задзіраецца (кажа «мы» і пагрозна мае на ўвазе не толькі аднаго сябе), змаўчаў. Адрэзаў ад акрайца скібку хлеба, а ад апольчыка — шматок сала, паказаў, што будзе есці, не хоча траціць час на пустыя гавэнды.

— Мысліш ты, дзед, па-старому,— сказаў Кураглядаў.— З такім мысленнем сацыялізм не пабудуеш.

Дзядзька зноў «не дакрануўся» да палітыкі. Вучаны-правучаны за жыццё наконт гэтага.

— Каб пабудаваць сацыялізм, трэба на першы план высоўваць не прыватныя, а агульныя інтарэсы, з-за дробных ахвяр бачыць вялікае.

Стары слухаў, а Кураглядаў, любуючыся сабой, уталкоўваў як настаўнік і тутэйшы правадыр:

— Мы будуем новы лад па навуцы. І па вялікай навуцы, дзед. Таварыш Сталін мудра вядзе нас па ленінскім шляху.

— Я думаю, кажу, пра другое...— Асцярожна вёў сваё дзядзька.— Каб некалі не каяцца, не кусаць сабе локці за тое, што і як робіцца цяпер...

— Не бойся,— запэўніў Кураглядаў.— Гэта пры вашым капіталізме было абы-што, а пры нашым сацыялізме ўсё будзе добра. Сацыялізм, паўтараю, гэта — вялікая навука, дыялектыка, прагрэс. Вышэй марксісцка-ленінскага вучэння нічога не было, няма і не будзе. Калі хутка адарвем вас ад хутароў і палосак, калектывізуем, то па-новаму зажывяце, зусім іншы свет убачыце...

— А калі будуць тут калхозы, ведаеце?

— Будзе дырэктыва зверху — будзем і рабіць,— важна прамовіў Кураглядаў, перавёў вочкі на яго, Сцяпана.— Званілі з раёна: прыйшлі табе дакументы. Так што можаш выязджаць у сваю Польшчу.

Сцяпан ужо некалькі месяцаў чакаў такой весткі, а пачуў яе — разгубіўся.

— Не хочацца быць таварышам, хочацца быць панам! — пакпіў Кураглядаў.— Пшэкі, такую вашу!.. Ніхто ні слова па-польску, малоцяць па-беларуску, але ўсе — не абы-хто, а шляхта! Палякі! Ва ўсіх толькі каталіцкія імёны!

Яны моўчкі праглынулі кпіны і абразу, як было ўжо не раз і не два. Некалі войт, пан Збыхальскі, крычаў пад злосць: «Хлопы! Маскалі!» А гэты: «Шляхта! Пшэкі!» Крыўдзься, злуйся — усё адно. Ніхто не заступіцца, не абароніць. Наадварот, паскардзься наверх, папрасі, каб супынілі крыўдзіцеля — не яму, а табе дастанецца на арэхі.

— Так што, пан,— сказаў Кураглядаў Сцяпану,— можаш пакідаць лес. Табе ўжо наша школа не трэба.

— Даробім сваё да канца, як і трэба,— за яго адказаў дзядзька.— Не яго, дык другія дзеці будуць вучыцца.

— Камлі на дошкі сцягвайце ў адно месца, на вянкі — у другое, вярхоўе — у трэцяе,— хоць не было на гэта ніякай патрэбы, закамандаваў Кураглядаў.

Калі ён пераможна і ганарліва адышоў, гладзячы па карку сабаку, дзядзька абурыўся:

— О то чалавек! Так і глядзіць, каб укусіць! Прыслалі ж ліха на галаву. Як якая брыда — дык нам...— І ўжо жуючы хлеб ды сала, пашкадаваў: — З'едзеш — не будзе ў вёсцы каваля...

Сцяпан яшчэ за польскім часам вывучыўся ў старога крычатоўскага каваля, пачаў сам стукаць-ляпаць у кузні з шаснаццаці гадоў, рабіў і робіць усё, што трэба вёсцы: нажы, сякеры, сярпы, завесы, а таксама ўсякае начынне для калёс, саней і плугоў. Тое-сёе з інструментаў сабраў яму бацька-нябожчык, а тое-сёе прыдбаў ён сам — найбольш тады, калі быў у Рубяжэвічах і пазнаўся з партызанамі. У іх нямала чаго купіў — за тое, што правіў ім зброю, а таксама за гарэлку.

— З нашага вялікага роду Грыгарцэвічаў толькі я з сынамі тут застануся...— Пахітаў галавой дзядзька.— Хто памёр, загінуў у вайну, хто па ўсім свеце...

— Каб не мама, нікуды я не паехаў бы,— сказаў Сцяпан, адчуваючы, як да горла падкочваецца даўкі камяк, баліць душа.— Яна хоча, каб мы ўсе разам жылі. І якраз там, у Польшчы.

— Хто ведае, хлопча, дзе яно будзе лепш,— зморшчыў лоб, уздыхнуў дзядзька.— Ці там, на нямецкіх землях, ці тут, у калхозах...

Хвіліну памаўчаў, задумліва рэжучы сцізорыкам сала, а пасля скрушліва дадаў:

— Хоць усюды будзе гэты «мудры» вусаты. І там, і тут. Усюды будуць яго «вучоныя» парадкі...

Дзядзька непакоіўся не проста так, як кажуць, па спрадвечнай сялянскай насцярозе, боязі ўсяго новага ці па нейкай заядлай варожасці да Савецкай улады і Сталіна: не, прычына была іншая. У трыццаць дзевятым, калі іх, як тады гаварылі, «вызвалілі сталінскія сокалы», Янкавінам добра-такі дасталося. Калі дагэтуль ніхто з вёскі не сядзеў у турме, самае вялікае толькі трапляў у пастарунак, дзеківалі перад носам пальцам і адпускалі, то энкэвэдэ вывезла не толькі польскага асадніка, войта, ляснічага і настаўніка, але і ўсіх карэнных багацейшых людзей. Усе яны нібы боўтнулі ў ваду. Дык з таго часу трывога і страх перад Сталіным і яго «сокаламі». Той, як не раз напамінае Кураглядаў, лічыць іх, што былі пад акупацыяй, «не внушающими доверия». Значыць, у любую часіну можаш чакаць бяды. З-за ўсякай дробязі, а то і без ніякай зачэпкі...

— Хто ж ведае: будуць трэсці, вывозіць каго перад калхозамі ці не? — вымавіў уголас свае думкі дзядзька.— Якога няўдаліцу і гультая Супраневіча ці яго сына-п'яніцу не зачэпяць, пакінуць, яшчэ ўздымуць, а нас з табой... Мы першыя пасля вайны сталі на ногі, дык нас могуць першымі схапіць і заперці ў Сібір. У іх лютая нянавісць да багатых гаспадароў...

— Хіба мы з вамі багатыя?

— Можам пабагацець...

— Цяпер, можа, абыдуцца ўжо без гвалту,— паразважыў Сцяпан.

— Каб не гналі сілаю, не білі, дык на халеру нам той калхоз...— Сказаў дзядзька.— Чалавек там не гаспадар, а парабак. Начальнікі такія, як гэты наш Курашчуп. Гонару, пыхі процьма, а розуму і толку ніякага. Мянташыць языком, крычыць, дакляруе шчасце, рай на зямлі, але рабіць па-гаспадарску нічога не ўмее. Але не скажаш гэтага ні яму, ні другому якому: ты, бачыш, не толькі яго, але і ўладу бэсціш! Паспрабуй падступіся да такіх! Агледзецца не паспееш, як страшную бірку начэпяць, павалакуць за краты!

Пасля:

— Паедзеш ці не паедзеш — жыць, хлопча, будзеш добра. Такія рукі, як у цябе, усюды трэба і будуць у цане. Абы толькі новай вайны не было.

Падсілкаваўшыся, яны ўзяліся за новую работу — пачалі цягаць канём парэзаныя бярвёны да дарогі, каб пазней узваліць іх на расцягнутыя калёсы і завезці ў вёску.

## 3

Кураглядаў падымаўся позна.

Амаль заўсёды прачынаўся з цяжкім, змрочным настроем: то балела галава, суха і дзяркаты было ў роце пасля ўчарашняй выпіўкі, то проста чагосьці злаваўся на ўвесь белы свет — можа, і з-за таго, што яшчэ адзін светлы дзень трэба маркоціцца тут, у ціхай і нялюбай вёсцы, што напалавіну яшчэ ў зямлянках. Як ні адмаўляўся, не паслухалі, сарвалі з добрай пасады ў горадзе, прыперлі сюды «на перавыхаванне».

Сёння абудзіўся не сам, перапыніла сон Франя — сельсавецкая

прыбіральшчыца ці, як ён называў яе па-гарадскому, тэхнічка. Гэтая глухаватая старая загучна застукала-заляскала дзвярыма.

Калі ён пакінуў спальню, гасцінную і выйшаў на кухню, строга зірнуў на гэтую адзінокую пажылую кабеціну ў валёнках, паўсачку і цёплай хустцы. Жанчына злякалася, баючыся ягонага гневу.

Яго ўсцешыў яе гэты сполах, дык буркнуў міралюбна:

— Здравствуй.

— Здраствуйця,— пакланілася яна. Яшчэ нядаўна, як і ўсе тут, «дабрыдзенькала», а цяпер вось адказала так, як ён вучыў. Праўда, не назвала яго па імені і па бацьку. Цяжка прывыкаць заходнікам да гэтага: запомнілі змалку, што ў вёсцы маладых называюць толькі па імені, а калі трэба загаварыць да жанатых і замужніх, да пажылых, то да імені дадаюць словы «дзядзька» альбо «цётка».

У гэты час падняўся з-пад лаўкі і радасна памкнуўся яму насустрач малады, але ўжо высокі, дужы сабака-аўчар — яго ён выгадаваў, прывучыў да сябе з маленькага кволага шчаняці нямецкай аўчаркі. Больш — гэты Дзік быў адзінай тут істотай, якой ён цалкам верыў і на якую спадзяваўся кожную хвіліну: сабака ратаваў яго і ад вяскоўцаў, і ад бандытаў з лесу. Пагладзіўшы сабачую чорна-рыжую поўсць на спіне, запытаў у Франі:

— Усё нармальна?

— Сельсавет, пошту памыла, кароўку падаіла і падсвінакам есці дала,— адказала.— І вам сняданак ужо гатовы.

Ён задаволіўся, але не падзякаваў; пазней, калі вярнуўся са двара, выпіў ледзь не збан халоднага кіслага малака, нехаця пакорпаўся ў місе з бульбай ды ў патэльні з салам і яйкамі, некалькі скварчын аддаў Дзіку і падаўся на работу.

Як заўсёды, ішоў сваім дваром, куды дазваляў зазірнуць толькі асобным людзям: паблізу былі сельсавецкія (а гэта значыць, як лічыў, ягоныя) гуменца, хлеў і канюшня, дзе былі казённыя фураж і конь, уласныя падсвінакі і карова.

З параднага ўваходу, каля драўлянага ганка з калонамі, на стрэшцы якога вісеў чырвоны сцяг, стаяла ўжо некалькі тутэйшых і незнаёмых мужчын-прасіцеляў у ватоўках, кажушках і лапцях. Так званая «шарачковая шляхта». Убачыўшы пагрознага сабаку і яго, усе замаўчалі, наструнілася — ён строга і недаступна хітнуў галавой на іхнія мяккія, можа, нават трохі ліслівыя прывітанні ды паклоны і, не запыняючыся, не загаворваючы, пашнураваў у будынак. Які ты начальнік, калі не шануеш сябе і сваю пасаду, калі цябе не баяцца?!

Насупраць уваходных дзвярэй быў доўгі калідор з вокнамі ад вуліцы, са свежавымытай, жоўтай падлогаю, з бакамі цёплых стаякоў з чырвонай цэглы і пабеленых мелам, з драўлянаю сцяной, што адгароджвала яго жытло. Злева было некалькі дзвярэй. Самыя крайнія былі адчыненыя. Тут знаходзілася іхняя пошта. Сюды, ведаючы ўсе гаспадаровы хады, адразу ж ткнуўся Дзік, а ўслед за ім зайшоў і ён. Можа, ёсць што для яго з раёна. Па тым, як маладая светлавалосая і зыркатая, як труска, паштавічка спешна падхапілася, адчуў: штосьці прыйшло. Калі падала лісткі (а там усё было зашыфраванае), абмацаў іх позіркам: важнае што ці якая-небудзь драбяза? На хаду паспеў ухапіць: ёсць сапраўды сакрэтнае. Гэта адразу ўзбудзіла яго.

Як і кожны раз, ідучы ў свой кабінет, па дарозе адчыняў дзверы і разам з сабакам зазіраў у пакой: ці на месцы яго работнікі? Як і кожны раз, на месцы: і начальнік пашпартна-ваеннага стала Навуменкаў, і фінагент Клопікаў, і сакратар Валянціна. Тут, у яе кабінеце, цёрся і Мішка — сельсавецкі конюх і яго асабісты вознік. Малады яшчэ, халасцяк, той хіхікаў, штосьці бессаромнае гудзеў у вушы таксама маладой, незамужняй Валянціне. Але, убачыўшы яго, хмурнага, як зубра, зніякавеў і куляй вышмыгнуў з пакоя.

Ужо на калідоры Кураглядаў накінуўся на яго:

— Чаму не колеш дровы?

— Баяўся вас пабудзіць...— нахабна зманіў той. Малы, шчуплы, чорны, як цыган, гультай і хітрун.

— Не хлусі,— абарваў ён, бачачы, што той хавае вочы, выкручваецца, як уюн на патэльні.— Да яе клінкі падбіваеш...

— Далібог, не.

— Ціха ты! — сыкнуў на яго Кураглядаў.— Ідзі калі дровы, не замінай людзям працаваць.

Адчуўшы, што злосць Кураглядава не вялікая і не страшная, Мішка нахабнавата ўхмыльнуўся: ат, ведаю, як вы тут «працуеце», сядзіце сіднямі цэлымі днямі, ловіце, б'яце мух ці вымалёўваеце на паперцы свае «начальніцкія» подпісы; варта вам, старшыні, пайсці — Навуменкаў і Клопікаў гуляюць у шашкі альбо таксама разбягаюцца. Кураглядаў, ужо нямала знаючыся з гэтым жулікаватым лайдаком, добра зразумеў яго ўхмылку: што ні кажы, круцячыся каля яго і ягоных людзей, Мішка нямала пра іх усіх ведае, сам бярэ ўдзел у частых іхніх выпіўках і ўсякіх хаўрусах. Але, каб не даць таму шмат волі, Кураглядаў бесцырымонна наставіў два выцягнутыя пальцы, паказаў, што выпара імі вочы — Мішка, на сваёй скуры ведаючы, што ён як начальнік тое-сёе дазваляе, але і можа люта адпомсціць, не дазволіў сабе больш нічога лішняга, адскочыў і марсянуў з калідора. Канечне, за гумно, дзе ляжалі прывезеныя яму, Кураглядаву, і парэзаныя ўжо дровы.

«Здаецца, я зашмат прыблізіў яго да сябе,— крочачы да свайго кабінета, падумаў ён.— Зашмат ведае ўсяго пра мяне і можа ў любую хвіліну нанесці ўдар... Трэба неяк нейтралізаваць яго».

Адамкнуў замок і, упусціўшы сабаку, зайшоў у свой пахкі астылым дымам кабінет, пачціва і з глыбокай бояззю зірнуў на партрэт Сталіна над сталом. Калі распрануўся, сеў за стол і хвіліну-другую азіраў яго — жоўты па баках і з чорным дэрмацінам пасярэдзіне, на вялікі чарнільны прыбор і гадзіннік з тоўстага белага шкла, на тумбачку-прамакатку, на сінія плямiны на ёй і на стале, урэшце, на маўклівы цяпер чорны тэлефон — на ўсё тое, што робіць пакой кабінетам, і не абы-якім, а начальніцкім. Пасля адамкнуў сейф, праверыў, ці на месцы ўсе наганы (зброя на выпадак ЧП) і замілавана ўзяў адтуль пудэлак з пячаткаю — яшчэ адзін атрыбут, што дае яму тут вялікую сілу над усімі бліжэйшымі вёскамі і людзьмі. Палюбаваўшыся, схаваў пячатку і ўзяўся чытаць шыфртэлеграмы, думаючы, каму з падначаленых што даручыць.

У дзверы асцярожна пастукалі, а неўзабаве ў праёме паказалася мужчынская галава без шапкі.

— Я заняты,— нахмурыўся Кураглядаў.— Чакайце, вас паклічуць.

Чалавек, бачна было, хацеў сказаць, што яму штосьці вельмі пільнае трэба і што для яго, гаспадара, дарагая кожная хвіліна, але, учуўшы сабачы рык, хуценька зачыніў за сабою дзверы. Кураглядаў апусціў руку і пагладзіў вернага служаку па хібе: малайчына, Дзік!

Зрэшты, можна было б пусціць, паслухаць гэтага мужчыну і іншых людзей, хутка памагчы, але ці трэба прывучваць: калі захочаш — заходзь, што ні папрасі — ён усё дазволіць. Няхай найперш ведаюць іншае: у яго ёсць і вышэйшыя клопаты, ён павінен найперш служыць дзяржаве, партыі і «бацьку ўсіх народаў». Падумаўшы так, Кураглядаў раптоўна замёр, баючыся сваіх не зусім спелых дум, азірнуўся са страхам: не, не трэба не толькі гаварыць, але і думаць іначай: спачатку — Той, потым — партыя і дзяржава... Уздыхнуў, змахнуў з лоба халодны пот: во Той — начальнік! Сапраўды правадыр, бацька. Нават не — Бог. Сядзіць далёка і высока,

але ўсё бачыць, усё ведае. Яго голасу не чуеш, але адчуваеш кожнай жылкаю, дрыжыш ад страху і любіш яго! Не хапае розуму ўсё гэта зразумець, але ўсё зразумелае і незразумелае зліваецца ў адну вялізную і велічную сілу — С Т А Л І Н...

На нейкі час яго нібы паралізавала ад гэтай магіі, моцы і страху — можа, і ад галавакружнай боязі: вунь куды і на што вынесла яго жыццёвая плынь, што дала і чым абавязала, калі трэба трымаць вуха востра, не мала, але і не шмат штосьці рабіць самому, умець спрытна, заўсёды «ідэйна» гаварыць. Потым пачаў пакрыху супакойвацца, верачы, што ў яго будзе шчаслівая планіда, што яна дазволіць яму жыць, працаваць і нават ціхенька, тоячыся, грашыць сабе ў асалоду.

Акрыялы Кураглядаў стукнуў кулаком па сцяне — амаль тут жа ў кабінет зайшла маладая, але дзябёлая, з шырокімі клубамі і паўнагрудая рыжая сакратар сельсавета Валянціна Зубрэвіч. Тутэйшая, але з дальняй вёскі (усе яго кадры, апроч Мішкі ды Франі, былі не янкавінскія — значыць, «без месніцкіх настрояў»).

Дзік, бачачы знаёмага чалавека, быў спакойны, высалапіў язык і ціхамірна дыхаў. Ведаў: гаспадар з гэтай асобай амаль заўсёды гаворыць лагодна.

Зубрэвіч села насупраць, апусціла галаву. Штосьці сёння невясёлая. Хацеў спачатку запытаць, што ў яе, але перадумаў: асабістае, тым болей чужое асабістае зранку — на апошняе месца.

— Дакладвай, Валянціна Казіміраўна,— звыкла, не строга, але і не мякка прамовіў, дастаў з кішэні «Казбек», лічы, начальніцкую адзнаку, вытрас папяросу, пакамячыў яе і прыкурыў.

— Ёсць ад людзей пяць заяў на лес,— не падымаючы на яго вачэй, сказала тая.— Чалавек з Хатавы просіць запісаць дзіця.

— Усё? — прыжмурыўся ад дыму.

— Пакуль што ўсё, Апанас Лукіч,— адказала Зубрэвіч, прывыкшы ўжо да «інтэлігентных» зваротаў.

— Добра,— лагодна прамовіў.— Ты вольная. Пакліч да мяне Клопікава і Навуменкава.

Валянціна выйшла. Ні то з сумам, ні то з нейкай крыўдаю.

«Вельмі папаўнела,— падумаў.— Бадай, ужо зацяжкая і непаваротлівая для сваіх гадоў. Не тое што кавалёва жонка, Марыся. Вось тая стройная і лёгкая. А якая ў той шыя! На самай справе лебядзіная, быццам у артысткі!»

Ягоныя думкі пра жанчын перапынілі падначаленыя-мужчыны:

— Можна?

Паказаў пальцам: заходзьце, садзіцеся. Паселі. На крэслах, што стаялі найбліжэй да яго стала. Адзін апусціўся злева, другі — справа. Абодва, як і ён, у вайсковай форме без пагонаў. Праўда, спачатку, гледзячы на яго, спрабавалі насіць усё афіцэрскае, але ён не дазволіў: не трэба, каб раўняліся з ім, хопіць з іх простага салдацкага. Знаёмыя па партызанстве, амаль сябры. Гэта і добра (разумеюць адзін аднаго з паўслова, гнуць адно), гэта і дрэнна (так і глядзі, каб не выйшла панібрацтва ці не прадалі за капейку). Клопікаў — з Магілёўшчыны, Навуменкаў — з Гомельшчыны.

Абодва цяпер, у яго кабінеце, «на ковре», прыкідваліся звышсур'ёзнымі, ведаючы, што ён з раніцы ўладны і сярдзіты, не дазваляе ніякіх вольнасцей. Яны, вольнасці,— пасля работы, калі можна «расслабіцца». Як, да слова, учора, калі ўтраіх асушылі ці не чатыры пляшкі гарэлкі. Клопікаў — лысы і мурлаты таўсцючок — і сёння хацеў пагладзіць Дзіка, але той не даўся, пагрозна загірчэў.

— Што ў цябе, Іван? — запытаў у яго Кураглядаў, бачачы добра знаёмы абветраны, чырванаваты твар, дзе асабліва вызначаюцца зялёна-рудаватыя бессаромныя вочы, тоўсты мясісты нос і адтапыраныя цяжкія губы.

— Справы неблагія, Апанас Лукіч,— адказаў той, дастаў з рудога, з жоўтымі жалезнымі акантоўкамі партфеля разлінееныя і запоўненыя лісткі, падаў яму.— Вось колькі ўжо аддалі падаткаў.

Кураглядаў пагартаў лісткі, вельмі не спрабуючы разабрацца, што ў іх (будзе пад лупай глядзець кожнае прозвішча, кожную лічбу, калі яму дадуць наганяй з раёна і калі ён пакліча аднаго Клопікава і абрушыць на яго ўвесь свой «партыйны і дзяржаўны» гнеў).

— Меры трэба ўзмацніць,— сказаў. За час, што на кіруючай рабоце, вельмі прывык ужо да гэтых «прыняць меры» і «ўзмацніць меры».

— Ясна,— згадзіўся Клопікаў.— Але самі ведаеце, Апанас Лукіч: вёскі адбудоўваюцца, кожная капейка, кожнае цяля альбо парася на ўліку...

— Усё роўна цісні.

— Ясна.

— Яны, чэрці, несвядомыя. Калі хто і мае, дык вельмі не кінецца аддаваць.

— Ясна, Лукіч. Узмоцнім меры.

— Ну, а ў цябе што, Барыс? — запытаў Кураглядаў у Навуменкава — русявага, з гладкім, нібы ў дзяўчыны, тварам, не рэзкага і не ўспылістага, як ён ці Клопікаў, а далікатнага. Можа, і таму, што ён даволі са змрочным мінулым: прыйшоў да іх у партызаны з падпольшчыкаў, лепш сказаць — з паліцыі, дзе быў нібы па заданні. Яго доўга трос іхні асабіст, хацеў расстраляць, доўга не верачы ні аднаму яго слову, але Навуменкаў нядаўна, пасля вайны ўжо, падаў у органы бяспекі і ў райком даведку ад іншага, незнаёмага ім асабіста, нейкага маскоўскага палкоўніка, які пацвердзіў яго версію.

— Чакаю вашых указанняў, таварыш Кураглядаў,— аддана, але і ў той жа час хітра адказаў Навуменкаў. Учора, як і заўсёды, выкручваўся, піў мала, дык, бач, цяпер свежы, выгалены, пыхкі ад маладога здароўя. Колькі ён ні намагаўся, ніколі яго не спаіў, не змусіў развязаць язык.

— Указанні будуць,— сказаў Кураглядаў, падняўся і, адчуваючы, што ранішні боль паступова адыходзіць, захадзіў па пакоі. Як хадзіў у партызанскай зямлянцы іхні камандзір атрада.— Нам паступіла важная шыфртэлеграма.— Панізіў голас, каб ніхто не мог пачуць, у тым ліку і Зубрэвіч.— Трэба ціха, без шуму заскочыць на хутар Амшарок, схапіць Грыгарцэвіча Адама Францавіча і даставіць яго ў ваенкамат.

Усе трое, жывучы тут, добра ведалі, што гэта такое — «даставіць у ваенкамат». Не ўсе тутэйшыя хлопцы хочуць ісці ў армію. Напалохаліся, калі іх, вывезеных у Германію, патрэслі пасля вайны яшчэ там, за мяжою: на каго ўскінулі вайсковы шынель, каго адправілі ў Данбас ці ў лагеры. Некаторыя, каму летась падышлі гады служыць, не з'явіліся па позвах, пахаваліся. Хто яшчэ сядзіць недзе ў нары, а хто прыбіўся да бандаў. Дваіх сёлета злавілі і судзілі.

— Раз нельга гарантаваць, што гэты Адам пойдзе ў армію добраахвотна, то трэба браць знянацку,— сказаў Кураглядаў.— Аперацыю назначаю на заўтра, на шэсць гадзін раніцы. Зброю выдам а палавіне шостай. У раён нававбранца павязеш ты, Навуменкаў.

— Ёсць,— адказаў той.

— Значыць, сёння не толькі не напівацца, але не браць у рот і кроплі,— загадаў Кураглядаў.— Сёлета мы не павінны правaліць прызыўную кампанію, як правалілі летась. Калі той раз удалося спісаць промах на мясцовую нелаяльнасць, то цяпер Мірзоеў ды Уладароў ацэняць правал як халатнасць. Зразумелі дыялектыку?

— Ясна,— сказаў Клопікаў.

— Падумайце як след, калі хочаце цешыцца воляй, а не быць за калючым дротам...— пастрашыў ён, на нейкі час страхуючыся ад

яшчэ адной спробы панібрацтва, а заадно звальваючы клопат на чужыя плечы. І да Навуменкава: — Скажы, Барыс, Валянціне, што праз гадзіну, не, праз паўгадзіны буду вольны, дык магу прымаць грамадзян.

## 4

Кураглядаў сам часта заходзіў, цяпер заходзіць у чужыя кабінеты (скажам, да таго ж першага сакратара райкома партыі Уладарова ці да начальніка раённай службы бяспекі Мірзоева), дык добра ведаў, што гэта такое — ісці да начальніка, хвалявацца, падбіраць патрэбныя словы, перажываць, калі цябе абсякуць ці адправяць ні з чым. Але лад ёсць лад, і ён завёў у сельсавеце дзень прыёму па «асабістых пытаннях», завёў свой рытуал. Вось і цяпер, пасляпаўгадзіны, выкурыўшы новую цыгарэціну і выпіўшы шклянкі са дзве вады з графіна, стукнуў у сцяну — давай, сакратар, пускай людзей (два стукі — для Клопікава, тры — для Навуменкава, чатыры — для Мішкі).

Першая зайшла кабета. Сцяпанава маці і Марысіна свякроў. Ішла да стала нясмела, трымаючы ў руцэ клуначак.

— Сядайце, калі ласка,— адказаўшы на прывітанне, запрасіў завучана ветліва.— Слухаю вас.

— Пане... таварышок...— Жанчына, здаецца, забыла тыя словы, што прыдумала раней, сумелася. Ды яшчэ, можа, і ад таго, што ён умеў пранікнёна і строга пазіраць наведвальніку ў вочы і бянтэжыць таго сваім позіркам.

— Запомніце: я — «таварыш старшыня» альбо «таварыш Кураглядаў»,— паправіў, ведаючы, што многія мясцовыя яшчэ не прывыклі як трэба звяртацца да яго.— Паноў і тут ужо няма. Усе мы — роўныя. Таварышы.

— Выбачайце...

— Ваша прозвішча, імя і імя па бацьку? — запытаў ён, ведаючы, што такое простае пытанне вельмі дысцыплінуе чалавека. Разгарнуў свой блакнот, падрыхтаваўся ўсё ў яго запісваць.— Год нараджэння? Месца жыхарства? Занятак? Дзе былі ў акупацыі? Просьба?

— Як ведаеце, мы едзем у Польшчу,— з ранейшым хваляваннем пачала тлумачыць жанчына.— Дык трэба ў раён даведка, што мы нічога тут не вінныя...

— Рашылі ўсё ж ехаць?

— Ага.

Што ж, трэба даваць адпаведную даведку. Ёсць урадавае пагадненне, па якім той, хто лічыць сябе палякам ці хоча злучыцца са сваёй сям'ёй, мае права выехаць адгэтуль, з заходніх зямель.

— З лесанарыхтоўкамі справіліся?

— Справіліся.

— Пастаўкі аддалі?

— Аддалі. Усе.

— Праверым.

Ведаў: гэта — праўда. Яе сын, Сцяпан, адзін з нямногіх, хто ўхітраецца ўсё аддаць у свой час. Можа, і таму, што не быў у Германіі, ажаніўся з дзяўчынай з не спаленай у блакаду вёскі. За вайну тое-сёе сабраў, адразу пасля нямецкага адыходу пачаў адбудоўвацца, першы стаў на ногі. З іншымі, хто яшчэ жыве ў зямлянках, цяжэй. Калі ўсе за зіму нарэзалі і вывезлі да чыгункі свае «кубы», дык патрэбныя нормы мяса, малака, яек здалі толькі крыху болей за палавіну насельнікаў. У таго-сяго нядоімкі яшчэ за леташні год.

— Несвядомыя вы, грамадзянка Грыгарцэвіч,— папікнуў.— Як вы можаце так лёгка пакідаць СССР ды сваю БССР? Вы ж — не палякі. Вы — рускія. Ну, беларусы.— Пацiснуў плячыма.— Не разумею вашу дыялектыку, логіку!

— Мае меншыя дзеці там,— гатовая была заплакаць Грыгарцэвічыха.— Два сынэ, дачка.

— Баяцца сюды вяртацца?

— Не тое што баяцца...— заасцярожнічала тая.— Так ужо выйшла, пане... таварыш... старшыня.

— Ідзіце да сакратара, няхай піша вам патрэбныя даведкі,— адаслаў.— А я падпішу і пячатку пастаўлю. Едзьце, калі вам не дарагая Радзіма.

— Дзякую,— старая паднялася і паклала перад ім клуначак.

— Што гэта? — абурыўся ён.

— Яйкі.

— Забярыце! Хто я вам? Хабарнік? — закрычаў.— Што — і Калініну так неслі? Не! Не неслі! А я ж ваш Калінін! Народны, гэта значыць ваш, слуга!

«Знайшла што прынесці! — злаваўся ў думках.— Хапае яек і ад сваіх нясушак. Няма, каб даць адрэз добрага сукна, што прывезлі з Германіі!..»

Жанчына зусім разгубілася.

Ён злосна бухнуў у сцяну: наступны.

Грыгарцэвічыха, падабраўшы клуначак, згараючы ад сораму, падалася з кабінета. Мужчына, што паказаўся неўзабаве і які, канечне, чуў яго крык ды бачыў, што не ўзялі падарунка, утаптаўся сюды зусім нясмела. Можа, сапраўды баяўся, можа, хітраваў. Хіба як след зразумееш іх, гэтых хутаранцаў і аднаасобнікаў: асцярожныя, нібы ўгодлівыя, а на самай справе найперш намагаюцца падмануць, абвесці вакол пальца. Зазірае вось корч у вочы, здаецца, лезе аж у душу са сваёй просьбай і пакорай. Але пазней, дабіўшыся ўсяго, бадай, будзе пасміхоўвацца, цешыцца: маўляў, крычы-крычы сабе, хай цябе пранцы, але зрабі ўсё, што трэба. Маўляў, калі пан з крыку пачынае ды моцна лае, дык дабром кончыць, а калі надта прыемна сустракае, дык ліха замышляе. Цэлую сваю філасофію прыдумалі гэтыя заходнікі.

— Ваша прозвішча, імя і імя па бацьку? — ён зноў пачаў са сваіх звыклых запытнняў.

— Мне, таварышок, трэба лесу,— адказаўшы, хто ён і адкуль, закамячыў сваю вушанку барадач, хоць на справе быў не такі ўжо стары.— На столь у другой палавіне хаты, на дылі і вокны.

«Калі што і вартае прынёс, то ўжо не дасць,— падумаў ён.— Значыць, трэба змяніць тактыку».

— Чаму па-польску заява? — мякка падакараў.— Я па-польску не разумею.

— Дачка напісала. А яна да вайны канчала польскую школу.

— А чаму не напісала па-свойму?

— А хіба можна пісаць па-свойму?

— Можна.

— Добра, таварышок.

— Не «таварышок» і не «панок» я, а — «таварыш старшыня»,— паўшчуваў Кураглядаў.— Я табе — таварыш, ты — мне. Ясна?

— Але, але,— згадзіўся абачлівы, ліслівы, а на справе, мусіць, хітрушчы аброслы мужчына.— Ведаеце, не так і лёгка прывыкнуць да новага...

— Што тут прывыкаць?! Да сваёй, роднай улады! Якая тут цяжкая дыялектыка?!

Стары змаўчаў, адмыслова зірнуў яму ў вочы. Кураглядаў зразумеў

гэты запытальны позірк, наўмысна нагнуўся і пачаў нібы па вялікай патрэбе корпацца ў ніжняй шуфлядзе стала. Адчуў: наведвальнік вышмаргнуў штосьці з кішэні і паклаў на стол. Па тым, як яно пакацілася, здагадаўся: пляшка.

Як толькі падняў галаву, нібы незадаволіўся:

— Нашто гэта?

— Проша, вазьмеця,— папрасіў той.— Чысценькая і моцная.

— Не трэба гэтага,— міралюбна прамовіў, але паўтарачку, заткнутую чорным гумовым коркам, не адсунуў.

— На здароўечка.

Кураглядаў адчыніў сейф — спачатку паклаў туды бутэльку, а пасля дастаў «дасье», тоўсты сшытак, куды сакратарка перапісала для яго ўсе сельсавецкія сем'і і куды ён на кожнага дарослага запісваў свае «даныя».

— За вамі яшчэ няздадзенае мяса, кіло масла,— сказаў мужчынебарадачу.

— Сям'я вялікая...— Закалаціліся ў таго вялікія дужыя рукі.— Толькі летась цялушачку набыў, сёлета парасят купіў...

— Для мяне гэта не мае вялікага значэння. Для мяне вы — даўжнік перад дзяржавай.

— Ага, даўжнік...

— Вось якія вы! — падакараў Кураглядаў.— Хочаце дзяржаве не даваць, а толькі ад яе ўсё атрымоўваць!

— Каб раней, дык са свайго лесу нарэзаў бы тых хваін,— адмыслова апраўдаўся той.— Але цяпер ад мяне страявы лес адабралі, выразалі ўжо...

— Заўтра, а можа, паслязаўтра, калі выдасца вольная хвіліна,— нібы не чуючы апошніх слоў, строга абарваў ён,— сам пад'еду, на месцы пагляджу вашыя патрэбы. Чакайце.

— Дзякую-дзякую,— закланяўся ўспацелы стары. Дзівак-чалавек: дзень будзе араць, рэзаць дровы ці касіць — нават кроплі на лобе не заблішчыць, а пабудзе хвіліну-другую ў начальніцкім кабінеце — выскачыць як апараны.

Уполудзень, калі дазволіў зайсці яшчэ некальвім мужчынам, ці не ўважыў іхнія просьбы, калі Клопікаў і Навуменкаў падаліся абедаць (можа, і да Клопікава, які прыстаў у суседняй вёсцы да маладой удавы), Кураглядаў пасядзеў крыху ў кабінеце, а потым, адчуваючы, што сёння ўжо накрычаўся, выліў на іншых сваю злосць, падабрэў. Накіраваўся ў сакратарчын кабінет. За ім падаўся і Дзік, а пасля без каманды, толькі ад дотыку пальцамі да спіны, запыніўся і сеў каля дзвярэй — каб нікога туды не пусціць.

Зубрэвіч сядзела на сваім месцы і падшывала паперкі — што-што, а дакументы павінны быць спарадкаваныя і заўсёды пад рукамі. Для сябе і для ўпаўнаважаных, якіх, бывае, няма па тыдню ці месяцу, а, бывае, па два-тры разы на дзень, і кожны ткне нос да паперак.

— Працуеш? — усміхнуўся ён, узяў дзверы на кручок, зайшоў за стол і паклаў далоні на дзябёлыя дзявочыя плечукі, адчуваючы, як ад гэтага дотыку пайшло-пабегла цяпло па целе і шпарчэй пульсуе кроў.

Валянціна ніжэй нагнула галаву і плечы — сёння чамусьці не захіхікала і не загарэзнічала, а была нібы незадаволеная, непадатная. Ён пагладзіў яе па загарэлай, са светлымі валаскамі шыі, апусціў рукі ніжэй і пачаў ціснуць-мяць яе грудзі — найперш з-за іх, спакусліва адтапыраных пад белаю блузкай, ён, маючы адмысловы мужчынскі голад, прыліп да яе.

— Не трэба, Апанас Лукіч,— ціха папрасіла яна.

— Чаму — «не трэба»? — пад'юшчыўся сам і падбіваў яе на грэх.— Як гэта — «не трэба»?

Сілай змусіў яе падняцца, пасля ашчаперыў з усяе моцы, горнучы да сябе і з заплюшчанымі вачыма шукаючы яе трошкі падфарбаваных і ад таго адмыслова пахкіх вуснаў. Валянціна ўпіралася далонямі яму ў плечукі, адварочвала галаву, неяк дзіўна сёння стогнучы ад бяссілля альбо роспачы.

Кураглядаў узмацніў націск, запалымнеў і нават затрымцеў ад раз'юшанага прыроднага поклічу. І чым яна болей супраціўлялася, тым болей ён хацеў дабіцца свайго.

— Ну, што ты? — здзівіўся і ўзлаваўся заадно, не могучы адолець яе дужыя рукі і даць патрэбную волю сваім.

Можа, толькі праз паўгадзіны, калі заціснуў яе каля стаяка ў кут, калі спачатку буркнуў пару ласкавых слоў, а пасля мусіў маніць, паклясціся ў каханні, здолеў скарыць — яна, нечакана здаўшыся, была пакорлівая, а праз нейкі час ажывілася, са стогнам, з плачам спатоліла яго пажаднасць.

Калі пазней адвярнуліся і папраўлялі на сабе апратку, ён адчуў прыкры сорам — з-за таго, што гэтак прасіў пяшчоты, плёў столькі няшчырай лухты (цяпер вось не хочацца паўтарыць з таго ніводнага слова).

Пачуў: Валянціна плача. Ціха, але нейкімі ўдушлівымі слязьмі. На табе! Яшчэ слёзы! Ды жаночыя, страшнейшыя за нож!

— Ты — чаго?

Яна адвярнулася і прытулілася да сцяны. Паніклая, з апушчанымі плечукамі.

— Ну, чаго? — запытаў ужо раздражнёна.

— Апякла...

— Што?

— Ну... Стаяк вельмі гарачы, а вы ўсё ціснулі да яго...

— А! — зразумеў усё адразу. Узвесяліўся, не зусім прыемна для яе зарагатаў.— Вось чаму ты спачатку халодная, як лёд, была, а потым кідацца пачала!

— Вам смешна, а мне пячэ,— пакрыўдзілася.— І не толькі гэта...

— А што яшчэ? — ухмыльнуўся.

— Грубая я...

— Як — гэта? — запытаў паўшэптам, устрывожана, адчуваючы, як яго прабірае холад.

— Яшчэ пытаеце...

— Дык што — ад мяне?

— Ад каго ж!

На табе! Трапіў у сіло! Уліп! З той, машыністкай-сакратаркай, толькі шуры-муры былі, тая, гарадская, асцярожная і хітрая, не дапусцілася да такога, а гэтая вясковая разява... Што будзе? Яшчэ адна вымова? Далоў з работы? Але куды яшчэ ніжэй апусцяць? Зноў ісці шафёрам? А па-другое, што будзе з жонкай, з сынам, што пакуль там, на сваёй радзіме? Як, як сухім выскачыць з вады?

— А не ад Мішкі? — пачаў адводзіць ад сябе віну, перакідваць на яе і на іншага мужчыну.

— Не.

— Але ж ты ляжала з ім...

— Не ляжала.

— Як гэта — не ляжала? Я сам разагнаў вас!

— Я ж казала вам...— Заплакала наўзрыд.— Ён сілком мяне браў. Але не ўзяў.

— Хто там вас ведае... Адзін раз не ўзяў, а другі...

— Не было. Нічога з ім не было. А грубая я, можа, чацвёрты месяц.

«Не шанцуе мне з рыжымі...— Падумаў гнятліва.— Жонка рыжая, Святлана рыжая і гэтая разява рыжуля...»

— Дык нічога з ім не мела?

— Не.

Адчуў: не маніць, балюча ёй, што ён гэтак крыўдзіць яе недаверам і нагаворам, што няўдзячны за яе пяшчоту і ласкі.

— Ну, ціха! Не рві душу! — прыкрыкнуў.— Ты ж не зялёнае дзяўчо. Павінна ведаць, што трэба цяпер рабіць...

— Запазнілася...

— «Запазнілася»! — разлютаваўся ажно.— Дурніца!

— Канечне, дурніца,— яшчэ большую волю дала слязам.— Папусцілася...

— Гаварыла каму пра гэта? Якой-небудзь бабе па сакрэце? — Пацішэў, узяў сябе ў рукі.

— Не.

— Маўчы,— папрасіў і загадаў заадно.— Пастараемся што-небудзь прыдумаць.

З прыкрым настроем выйшаў з будынка, запыніўся на ганку і закурыў.

Пасля ранішнй змрочнасці павышэла, паблакітнела вунь неба, усплыло і зіхацела сонца, недзе паблізу заліваўся песняю шпак, але яго ўсё гэта веснавое не ўсцешыла. Раўнуў на ўсе лёгкія:

— Мішка!

Ні гу-гу. Крыкнуў яшчэ раз. Зноў не чуваць і не відаць таго Мішкі. Пакрочыў за гумно. Як учора ляжала, так і сёння ляжыць парэзаная горка дроў, а побач — грудок пажаўцелых і зусім трошкі свежапаколатых пален.

Зазірнуў у гумно: так і ёсць, храпе лайдачына на сене. Схапіў граблі, каб ткнуць з усяе сілы, але Мішка ўчуў рып дзвярэй і ягоны грукат, падхапіўся, заплюскаў павекамі.

— Прылёг на хвіліну...

— Я табе дам «хвіліну»! — Кураглядаў кінуўся з граблямі, але вёрткі Мішка выскачыў з загарадкі, шмыгнуў у другія дзверы, у яго двор. Ужо ўпагон ён даў каманду:

— Запрагай, гультай, Ваську. Паедзем на аб'ект.

«Аб'ект» — гэта той кавалак былога панскага бору, дзе цяпер янкавінцы рэжуць лес на школу. Вялікай патрэбы ехаць туды не было, вяскоўцы робяць усё як след самі, можна было ісці абедаць, але нядаўні голад прапаў. Ды варта яшчэ раз паказаць: там, у лесе, усё ідзе не само па сабе, не па волі «талковых гаспадароў», такіх, як, скажам, Францішак Грыгарцэвіч, а якраз работа добра ладзіцца пад яго назіркам, парадамі і камандамі. Дык трэба падагнаць, «узмацніць меры».

Як і ён, гэтак і ягоны любімец, жарэбчык Васька, здзекаваўся з Мішкі. Можа, і таму, што Мішка, здаецца, употай лупцаваў таго. Вось і цяпер рыжа-руды, на высокіх, з белымі надкапытнікамі нагах Васька не даваў малярасламу Мішку накінуць хамут, штурхаў, а то цаляў, таптаў ногі — раз за разам Мішка войкаў і падскокваў ад болю. Назіраючы за гэтым, Кураглядаў спачатку злаваўся, а потым усцешыўся і пачаў пасміхоўвацца.

Папраўдзе сказаць, несалідны з Мішкі возчык. Драбяза. Мала таго, што малога росту, дык яшчэ неадукаваны, грубаваты, з непаважанай у вёсцы сям'і. Але талкавейшыя на такую работу ісці не хочуць, трымаюцца за гаспадарку, а па-другое, яму трэба якраз гэты абібок і вяртун, які не любіць многіх у вёсцы і можа часамі быць яго добрым памочнікам.

За вёскай, калі Васька не цягнуў, а проста імчаў лёгкую былую панскую брычку, Кураглядаў (а ён, адваліўшыся і паклаўшы локці на спінку задняга сядзення, раскашоўваўся на мяккім матрацы) ткнуў Мішку наском бота: спыніся. Калі той нацягнуў лейцы і стрымаў падбадзёранага ад бегу Ваську, запытаў:

— Якія маеш навіны?

Гэта значыла, што Мішка, як і раней, павінен быў дакласці, што адбылося ў вёсцы за суткі, хто што гаварыў, ці не абражаў часамі яго асабіста і сельсавет.

— Ніякіх важных навін няма,— паціснуў плячыма Мішка.

— Штосьці ты, друг, перастаў мне падабацца,— прамовіў Кураглядаў.— Няшчыры і не адданы Савецкай уладзе. Я ж табе не раз ужо казаў і яшчэ раз скажу: я павінен усё пра ўсіх ведаць... Не толькі ўсіхныя словы, учынкі, але і думкі.

— Далібог, нічога такога не пачуў,— зноў паціснуў плячыма Мішка.

— Лесавікі да каго-небудзь не зазіралі?

— Не бачыў і не чуў.

— Але ж яны ёсць, ходзяць вакол ды паблізу.

— Не ведаю.

— Што ты можаш сказаць пра Адама Грыгарцэвіча, што ў Амшарку жыве?

— А што?

— Адказвай, калі цябе старэйшыя пытаюць.

— Яны — лічы, шляхта,— сказаў Мішка.— Ганарлівыя. Нас, Супраневічаў, і цяпер за людзей не лічаць.

— Варожыя да Савецкай улады?

— Бывае, плятуць абы-што.

— Што? — атакаваў Кураглядаў.

— Ну, што вы...

— Не круціся! Расказвай нават пра самае непрыемнае. Кажу ж, я павінен пра ўсё ведаць.

— Кажуць, вы — Курашчуп...

— Што гэта значыць? Мянушка?

— Ага. Што вы — бабнік і п’яніца.

— З кім гэта, па-іхняму, я распуснічаю?

— Кажуць, напіваецеся з Клопікавым і Навуменкавым, а гуляеце з Валяй.

— Ты гэта сапраўды чуў ад злых языкоў ці сам, прайдоха, сачыняеш?

— Чуў! Далібог!

— А яшчэ што?

— Ну і ўсё.

— Не шмат інфармацыі. Сапраўды, нічога сур’ёзнага. Адны вясковыя плёткі.

— Што чуў, тое чуў. Усе, здаецца, пры мне асцерагаюцца гаварыць, як вы кажаце, пра сур’ёзнае.

— Баяцца? — ухмыльнуўся Кураглядаў.— Лічаць за начальніка?

— Бачаць жа: я пры вас...

— Мала, друг, чуеш і бачыш. Асабліва — небяспечнае для мяне і для ўлады,— сказаў Кураглядаў.— Я ж душой адчуваю: не любяць тут мяне. А значыць — і таго, каго я прадстаўляю... Так?

Мішка паціснуў плячыма.

— Так,— упэўніў яго і сябе Кураглядаў.— Прыкідваюцца святымі авечкамі і прымаюць, кормяць лесавікоў. Былі б рады, каб тыя звялі не толькі нас, савецкіх кіраўнікоў, але і нашу ўладу. А ты... Своечасова не перасцерагаеш замыслы і падкопы. Значыць, пакрываеш, заадно з варожым элементам.

— Не.

— «Не, не!» — перакрывіў Кураглядаў.— Не забывай, друг: калі ты такі мярзотнік, то на першага цябе справу афармлю, у Сібір затуру!

Як бачыў, апошнія словы цяжка ўпалі на Мішку. Не дурны, сэрцам

адчуў: не жартуюць з ім. Гэта раней, за панамі, не лёгка было чалавека арыштаваць і судзіць, надта палітычных (бывала, за іх заступаўся, абараняў не толькі СССР, але і ўвесь свет), а цяпер прыедуць, схопяць, запратораць чорт ведае куды, і ніхто тут не пікне, за мяжой голасу не падасць.

— Канечне, не ўсе любяць вас,— пайшоў насустрач Мішка.

— Ну, а хто тут найбольш ненавідзіць мяне? Давай імя, імя па бацьку і прозвішча!

— Здаецца, стрыечны брат таго Адама, пра якога вы пыталі...— Падаткнуў Мішка, маючы асабістую злосць на таго (яшчэ да вайны той балюча адлупцаваў яго за ўкрадзеную капу сена).

— Хто гэта?

— Сцяпан. Каваль наш.

— Чаго гэта ён? — нібы здзівіўся Кураглядаў.— Ён жа ў вайну знаўся з намі, партызанамі. Зброю правіў, звесткі важныя пра немцаў і паліцаяў даваў. Ад самога Чарнышова адпаведную ахоўную даведку мае.

Мішка зноў пацiснуў плячыма:

— Не ведаю. Але чуў, як ён бэсціў вас на чым свет стаіць.

«Канечне, з-за Марысі. Бачыць жа: і раней, і цяпер я не супраць патрымаць яе ў руках».

— Дык чаго ты, ёлупень, маўчыш пра такія рэчы?! — накінуўся Кураглядаў на свайго «ад'ютанта».— Старшыні сельсавета пагражае тэрарыстычны акт, а ён, боўдзіла, не перасцерагае! Заўтра ж напішы на маё імя дакладную! Я яму дам Польшчу і панства!

«Адразу ж перапраўлю данос у органы»,— падумаў, зларадна цешачыся, што гэтага гордага каваля могуць добра патрэсці і што яго красуня можа стане больш ветлівай, а то і нават прыбяжыць прасіць помачы.

— Што гавораць пра абрабаваны ў Ніўным магазін? — перапыніў свае мары і надзеі, запытаў яшчэ ў Мішкі пра важныя для яго рэчы.

— Кажуць, яго абабралі тыя, што ў лесе...

— І пра гэта напішы. І ўвогуле час ужо навесці нас на бандыцкі след.

— Усе кажуць: ніхто не бачыў ніякіх бандытаў.

— Дык хто, па-твойму, забіў нядаўна старшыню сельсавета ў Лясным, міліцыянера каля Шашкоў? Хто магазіны чысціць? Чэрці? Я? Ці, можа, ты?

— Далібог, сам я нікога з лесу не бачыў і нічога пра іх не чуў!

— Глядзі, друг! — прыстрашыў Кураглядаў.— Утоіш што-небудзь небяспечнае — кару маю ведаеш! Туды трапіш, пра што і не сніў! — І на ўсякі выпадак яшчэ закінуў наперад сваё, патаемнае абвінавачванне: — Не да шашняў з Валяю будзе!.. Ды на мяне ўсякія брудныя плёткі распускаць! Калі хочаш раскашоўвацца тут, то адчувай, балван, дыялектыку жыцця!..

## 5

На хутар Амшарок паехалі на досвітку.

Ехалі на брычцы моўчкі: спераду на сваім, возніцкім, месцы сядзеў Мішка (пра «аперацыю» яму і цяпер нічога не сказалі), побач з ім прыляпіўся засяроджаны Навуменкаў, ззаду, на мяккім тапчане, селі Кураглядаў і Клопікаў. Усе ўтульваліся ў каўняры шынялёў: па-першае, ад ранішняй волкай зябкасці, а па-другое, ад сваёй паўваеннай

місіі — як-ніяк ехалі са зброяй. Хутка сустрэча, кажуць, з гаспадарлівым і мудрым, але, па іхніх назіраннях, з вельмі нелаяльным хутаранцам. Папарадзе шпаркага Ваські бег Дзік.

Дабіраліся амшароўскаю пагонкай; вакол, на ўзгорках і ў лагчынах, палосілася янкавінскае поле: дзе чорнае, пераараное, дзе пад папарам і затравелае, дзе пад зялёненькаю ўжо руннню. Адным словам, аднаасобніцкае поле з гаспадарскіх акрайкаў.

«Былі палоскі — быў хлеб, пааралі межы — прапаў хлеб» — так у галодны трыццаць трэці год гаварыў той-сёй з самых заняпалых у кураглядаўскім Ветраве, і гэта, канечне, было «кулацкім фальклорам», «контррэвалюцыйнай прапагандаю». Тыя, хто адчаяўся і кляў Савецкую ўладу, паехалі пад вартаю за свет альбо ўвогуле зніклі, «ператварыліся ў лагерны пыл», але іхнія словы, бывае, успамінаюцца. Боязна, нават не хочацца думаць, але факт: цяпер, у цяжкую часіну, вось тут, можа, якраз гэтыя палоскі ратуюць людзей ад голаду (невыпадкова ж вярхі не завіхаюцца рабіць тут калгасы): на сваім полі, поплаве, сенакосе ды ў лесе чалавек — гаспадар (сам сабе начальства, аграном, інжынер, заатэхнік і працаўнік), як след пра ўсё дбае, а вось у калгасе — толькі рабсіла, нямая жывёліна, дык працуе на чужое з-пад палкі. Цьфу, у думках Кураглядаў адагнаў прэч такія «перажыткі», не, якраз калектывізацыя — генеральная лінія, падмурак для светлай будучыні, шчасце для народа, дык трэба думаць толькі пра калгасы і, калі прыйдзе час, усталёўваць іх тут рашуча. Чорт пабяры, часамі не разумееш сам сябе: як ні выганяй, усё роўна ў табе, у душы, нібы жыве іншы чалавек з іншым, чым у афіцыйнай прапаганды, у таго ж Сталіна альбо ў цябе самога, думкамі, і тыя патаемныя думкі, бывае, вярэдзяць розум і сэрца, збіваюць, пратэстуюць супраць хлусні, падману... Не, прэч, прэч усё тое, што, можа, і праўдзівае, але не супадае з «лініяй», нясе небяспеку табе! Жыццё такое, што галоўнае ў ім не тое, што ёсць ці што і як трэба, што ты думаеш, лічыш патрэбным і разумным, паганым і добрым, а тое, што і як вызначаецца Зверху, што, як і дзеля чаго трэба табе, «наменклатуры», рабіць, перамагаючы ўсякія «нюні». Відаць, такая ўжо цяжкая доля тых, каго вылучылі кіраваць рэвалюцыйнымі зменамі, людзьмі: ламі сам сябе, гні іншых у «імя лініі, вышэйшай ідэі»! І, здаецца, чым вышэй пасада — тым болей трэба мардаваць сваю душу, выціскаючы з яе ўсё асабістае, шчырае, звычайнае чалавечае, і быць жорсткім, бязлітасным з усімі, хто пад табой...

Вось, да слова, той жа зямляк (з суседняга раёна), Уладароў. Аднагодак, крыху толькі з большай адукацыяй, закінуты пасля блакады ў іхні лес са спецгрупай. Спачатку, няўтульна адчуваючы сябе сярод партызан, незнаёмых людзей самых розных нацыянальнасцей, і не ўмеючы паводзіцца з мясцовымі насельнікамі, па-зямляцку цёрся паблізу яго, Кураглядава, як кажуць, елі з аднаго кацялка, але потым, калі пачаў асвойвацца, уздымацца па камандзірскай лесвіцы (камандзір узвода, роты, памочнік камісара брыгады), заадно пачаў і аддаляцца, не падпускаць да сябе блізка. Цяпер вось тут першы сакратар райкома партыі — дык зусім далёка і высока. Калі ўзнікла ягоная, кураглядаўская, «асабістая справа», мог бы знішчыць яе альбо па-сапраўднаму заступіцца на бюро, але, асцерагаючыся, клапоцячыся найперш пра сябе і сваю пасаду, аддаў на расправу, сплавіў сюды... Калі ўспомніць пра зямляцтва, дык толькі дзеля аднаго: каб памагаў гнуць тое, што яму трэба. І памагаеш. Бо нідзе не дзенешся. Трэба служыць і прыслужваць. Як гаспадару — таму, хто дае чыны, заробак і... жыццё!

Хутаранін Грыгарцэвіч жыў найбліжэй да вёскі, у полі, каля незразумела як узніклага тут азярка і лугу, Амшарка, а іншыя хутары былі воддаль: некаторыя таксама ў полі, астраўкамі, некато-

рыя — за лесам, на вялікіх палянах. Тыя, дальнія хутары з дзіўнымі назвамі (Ваўкавенька, Ляжджа, Падзера, Ляйтаркі) былі яшчэ «польскія» і сталыпінскія, іншыя, па другі, ніўнянскі, бок вёскі (Палько, Марачымох) заявіліся за «новымі палякамі». У блакаду ўсе яны, як і іхні цэнтр, Янкавіны, згарэлі, але цяпер вось пакрыху, але настойліва аднаўляліся.

Заднелася добра ўжо, калі пад'ехалі да Грыгарцэвічавай сядзібы — абгароджанага акоранымі жэрдкамі поплава (на ім цяпер спрабавалі тое-сёе згрызці стары сівы конік, чорна-белая карова і гэтакага ж колеру цяля, чорнай масці авечка з ягнятамі), некалькіх невысокіх будынкаў пад адной саламянай страхою, з глухімі сценамі адсюль, ад пагонкі і поўначы. Цяпер тут, каля крайняй дашчанай сцяны, былі і людзі — гаспадар і малодшы сын. Пілавалі на козлах алехавыя дровы. Калі Навуменкаў саскочыў і сам адсунуў жэрдзіну ў варотах і брычка павярнула да іхняга селішча, яны, Грыгарцэвічы, міжволі запынілі работу і ўталопіліся ад нечаканасці на няпрошаных гасцей. Чаго яны? Ды так рана? Амаль усім сельсаветам!

Яны ж, запыніўшыся каля разакоў, борздка саскочылі з брычкі і ў адзін момант абкружылі Грыгарцэвічаў. Тыя былі адзін да аднаго: рослыя, плячыстыя, з глыбокімі спакойнымі вачыма і прамымі важкімі насамі. Бацька меў сіваватыя вусы і бараду, а сын быў без вусоў і без барады, толькі з падрослым за ноч шчаціннем, выглядаў зусім молада і хвацка.

— Чужыя людзі на хутары ёсць? — не вітаючыся, атакаваў старога гаспадара Кураглядаў, сціскаючы ў правай кішэні шыняля наганавую рукаятку. Не вымалі рук з кішэнь і яго калегі, пасвілі вачыма кожны рух абодвух Грыгарцэвічаў. Заадно насцярожваліся і ад таго, што за сцяною пачуўся трывожны сабачы брэх: тут, на хутарах, сабакі вельмі небяспечныя, вельмі добра служаць гаспадарам. Можа, вось хто ўжо ўскочыў ад перасцярогі, шмыгнуў на гарышча, цікуе за імі альбо нават і нацэліў на іх рулю...

— Не, нікога чужога няма,— адказаў стары гаспадар.

— Вы ўзброеныя? — свідраваў яго вачыма Кураглядаў і, бачачы, што той не зусім яго разумее, патлумачыў: — Маеце пры сабе наганы, рэвальверы?

— Не,— нібы спакойна, але затрывожана адказаў Грыгарцэвіч-бацька.

Кураглядаў не вельмі паверыў, хітнуў галавой Клопікаву — той тут жа абмацаў з галавы да ног старога і маладога, пасля развёў рукі: не, зброі ў іх няма.

— Хадзем у хату,— загадаў Кураглядаў.

Рушылі. Гаспадары — паперадзе, яны — за імі. У двары Кураглядаў здзівіўся: глядзі ты, плошча малая, як размінуцца людзям і быдлу, але тупка, чыста. Можа, і таму, што гной з хлява сцякае ў яміну за тыльнай сцяною, а вада са страхі — па жолабе за вугал дрывотні, тое лішняе, што трапіць тут пад ногі, адразу, як відаць, падбіраецца рыдлёўкай і выкідваецца ў блізкі гародчык, дзе цяпер да ўсяго шарэецца попел і чарнеюцца выкінутыя зімой на двор галавешкі. За гародчыкам — летняя загарадка для свіней.

Малады Грыгарцэвіч падаўся ў хату, а стары прытрымаў вялікага чорна-белага сабаку, каб той, не дай божа, не парваў старэнькі ланцуг і не накінуўся на прышлых. Клопікаў і Навуменкаў пакрочылі ў дом, а ён затрымаўся і пачакаў гаспадара — марсяне яшчэ куды і пакліча каго-небудзь альбо выцягне з-пад страхі вінтоўку ці кулямёт. У іх, хутаранцаў, усё ёсць...

Калі зайшлі ў хату, Кураглядаў убачыў: яго памочнікі — спрытныя людзі. Загналі навабранца за стол, а самі селі абапал. Каля палаючай печы, сашчапіўшы рукі, стаіць невысокая гаспадыня ў

доўгай цёмнай спадніцы і валёнках, нема пазірае на ўсіх. Кураглядаў, не вітаючыся, акінуў позіркам хату ў адзін прасторны пакой, скрывіўся на абразік на покуце і зазірнуў за светлую шырму за стаяком: там, на драўляным ложку, на матрацы, напхнутым саломаю, спала маладая пара, паблізу ў падвешанай калысцы — дзіця. Заўважыў: малады кучаравы мужчына — дужэц-мядзведзь, маладзіца — зграбная, круглаваты твар свежы, чысты, шыя танкаватая, у разрэзе начной кашулі хораша і вабна вымалёўваюцца вяршочкі белых грудзей, а таксама прынадна кідаецца ў вочы яе спрытная рука, што супакоілася на мужавай грудзіне пад яго кашуляю. Адпусціўшы занавеску, ён падаўся да стала.

— У якой бандзе? З кім? — як кажуць, адразу ўрэзаў у лоб абсаджанаму яго людзьмі Адаму Грыгарцэвічу.

Той аж вырачыў ад нечаканасці вочы, няўцямна зірнуў на бацькоў.

— Што вы, таварышок, гаворыце? — першая апамяталася гаспадыня, зайшла і стала збоку. Калі яна, жанчына, мае голас, апярэджвае мужа, дык гэта значыць, што тут, у сям'і, няма звыклага для заходнікаў дамастроеўскага ладу.— Ні ў якай ён бандзе. Дома. На гаспадарцы. Хацеў па вярбоўцы ў Мінск ехаць, але мы не пусцілі.

— Бандытам памагаеце? — напаў ужо на яе, не ў прыклад сваім мужчынам дробную, несамавітую.

— Нікога мы не ведаем, нікому ліхому не памагаем,— смела адказала тая.— Даём тое-сёе старцам, жабракам альбо людзям здалёку, што ў сельсавеце мальдуюцца, удзень па вёсках ходзяць, але...

— Вось што, малады чалавек, грамадзянін Адам Францавіч Грыгарцэвіч,— Кураглядаў не даслухаў залішне, на яго думку, бойкую кабеціну, пабарабаніў пальцамі па стале.— Табе выпадае вялікі гонар — служба ў нашай доблеснай Чырвонай ці, як цяпер называюць па-новаму, Савецкай Арміі. Так што збірайся, паедзеш у раён.

Гаспадыня пляснула рукамі, а гаспадар ад такой раптоўнай навіны асеў паблізу на столак; Адам неяк задумліва і пільна ўталопіўся яму ў вочы.

— А божачка! — выдыхнула жанчына.

— Ціха! Ніякага шуму-гаму! — загадаў Кураглядаў.— Вашага сына забіраюць не ў турму, а клічуць, паўтараю, у доблесную, пераможную Чырвоную Армію, дзе ён пазбавіцца ад буржуазных, месніцкіх поглядаў, перавыхаваецца і стане сапраўдным савецкім чалавекам.

— Калі яму трэба заявіцца? — акрыяў, ціха запытаў гаспадар.

— Паслязаўтра. Але ехаць трэба сёння. Праз паўгадзіны.

— Чаго гэтак спяшацца? — пачаў заклікаць да развагі стары Грыгарцэвіч.— Дазвольце, як і трэба, людзей паклікаць, пасядзець за сталом, добрае слова сказаць хлопцу на дарогу. А то не толькі на дарогу — на ўсё жыцце...

— Мы дазволім, пакінем на гэтыя дні дома, а ён — у лес? — пакпіў Кураглядаў.— А нам,— кіўнуў на сваіх калег,— за гэта ў Сібір?

— Нікуды ён не пабяжыць,— запэўніў гаспадар.— Калі трэба, дык няхай служыць. Як дзед служыў у рускім войску, а я — у польскім.

— Калі гаварыць дыялектычна, то ты, гаспадар, разважаеш цвяроза,— памякчэў Кураглядаў.— Але, на жаль, паверыць на слова не магу.— І далей. Адкрыта, у лоб: — Я вам не давяраю. Можаце падмануць, падвесці пад манастыр.

— А вы паверце. Вось паглядзіце: усё будзе так, як я кажу.

— Не!

— Але ж рана-позна трэба давяраць і верыць. Бо як жа жыць нібы

са змеямі? З недаверам вы будзеце асцерагацца не толькі нас, але і нашага ценю...

— А вы, заходнікі? — перапыніў яго Кураглядаў.— Давяраеце мне?

— Мы — другое... — уздыхнуў Грыгарцэвіч.— Вы для нас новы чалавек. Нам трэба да вас болей прыгледзецца. Як раней мы прыглядаліся да войта...

— Параўнаў! — хмыкнуў Кураглядаў.— Што войт, а што старшыня сельсавета! Войт — чужак, калі не пан, дык панскі служака, а я... Я — свой. Толькі вы... Вы не толькі ў партызаны не пайшлі, але...— Махнуў рукой.— Ат, што гаварыць! Супраць Савецкай улады вы! Некалі, калі пераменіцеся, можа, і паверым. Цяпер — не.

— У чым ці за што мы такія грэшныя?

— Вы сапсаваныя даўняй польскай нянавісцю да Расіі! Вас пранізаў класавы, сацыяльны страх перад рэвалюцыяй! Вы не хочаце сацыялістычнага ладу жыцця, калгасаў! Вы — прыватнікі, аднаасобнікі з ног да галавы! Вы... Адным словам, вас трэба доўга яшчэ перавыхоўваць, каб вы сталі нармальныя савецкія людзі.

— Я не хацеў бы гаварыць, але вы змушаеце...— Напружыўся, пачырванеў стары.

— Давай-давай! — натхніў Кураглядаў.— Мне нават цікава пагаварыць, як кажуць, па душы. Хоць бы ў такой, кажучы дыялектычна, экстрэмальнай сітуацыі!

— Можа, таварыш Кураглядаў, не нам, а найперш вам трэба паказаць: якраз вы — нармальныя людзі...

— Што ты маеш на ўвазе? — насупіўся Кураглядаў.

— Калі настойваеце, дык скажу,— з адчаю ўзгарэўся стары Грыгарцэвіч.— За палякамі гаварылі і пісалі ў газэтах, што вы, бальшавіке, гаворыце адно, а робіце зусім другое: адабралі ў людзей зямлю, садзіце, б'яце самых працавітых, разумных і талковых... Я сваімі вачыма чытаў адну кніжку, дзе чалавек расказваў, як на вашых Салаўках сядзеў... Гэта ж пекла там для невінаватых людзей было...

— Хлусня! Буржуазная прапаганда! — ускіпеў Кураглядаў.— Зламысны намер класавага ворага ашальмаваць Краіну Саветаў, уладу рабочых і сялян!

— Нашы каторыя хлопцы пайшлі праз мяжу да вас, каб паглядзець усё на свае вочы, а то і каб застацца, але... Ніхто не вярнуўся, нікога цяпер няма жывога...

— Гэтыя вашы малойчыкі былі шпіёны буржуазнай Польшчы!

— Якія, даруйце, «шпіёны»! Простыя вясковыя людзі. Дапытныя, разумныя.

— Тым больш шпіёны! — сказаў, як адрэзаў, Кураглядаў.— У нас, каб вы ведалі, нікога дарэмна не садзілі і не расстрэльвалі. Калі прыбіралі каго, дык злачынцаў, ворагаў народа! Тых, хто хацеў падарваць моц нашай дзяржавы і аддаць яе капіталістычнаму свету!

— Ды бачылі. На свае вочы...

— Што — бачылі?

— Як і каго ў трыццаць дзевятым хапалі і вывозілі...

— Ну, каго?

— Ляснічых, настаўнікаў, багацейшых гаспадароў.

— Ворагі і кулакі!

— Наадварот. Яны — тая моц, на якой трымаецца ўсё...

— Не, дзед,— працадзіў скрозь зубы Кураглядаў.— Яны, ты — мала сказаць «не внушающие доверия», як мякка кажа пра вас таварыш Сталін. Вы ў прынцыпе нашыя непрыяцелі. Мы цяпер навідавоку пачулі АСА...

Стары ўскінуў бровы: што гэта такое?

— АСА — антысавецкая агітацыя,— патлумачыў Кураглядаў.

Гаспадар змаўчаў. Зразумеў: што і як ні скажы, Кураглядава не пераканаеш. Нават больш — ён усё паверне супраць цябе. Кожнае слова перакруціць, гатовы ўтапіць у лыжцы вады за яго.

У гэты час за шырмай пачуўся рып ложка, пасля тупат. Кураглядаў рэзка павярнуўся і па прывычцы выхапіў з кішэні наган: можа, старэйшы гаспадароў сын крадзецца з сякерaю? Не. З-за шырмы высунуўся нічым не ўзброены, босы, у споднім, высокі і плячысты, вельмі падобны на Адама малады мужчына, з-за яго мірна, але насцярожана выглядала таксама босая маладзіца ў доўгай кашулі.

— Не стойце за спіной,— зморшчыўся Кураглядаў, махнуў рукой са зброяй на гэты, засланы ўжо ложак.— Сядзьце там.

Тыя паслухмяна адно за адным закрочылі да бацькоўскай пасцелі.

— Нам ясныя вашыя ідэйныя погляды,— сказаў Кураглядаў гаспадару.— Спыняем перапалку. Збярыце харчу на два-тры дні, дайце лыжку і міску, запрагайце каня — і во з таварышам Навуменкавым гайда ў раён.

— А божачка! — загаласіла гаспадыня.— Дзіцятка маё роднень-кае!

— Збірай,— скупа і цвёрда абарваў яе енк стары Грыгарцэвіч, нібы зажаваў, аж захадзілі жаўлакі.— Дасць бог — усё будзе добра.

— Правільна, дзед,— пахваліў яго Кураглядаў.— Спадзявацца на помач Захаду — марная справа. Трэба прывыкаць, што тут ёсць і будзе навек СССР, што служба ў яго Узброеных сілах — наш святы абавязак!

Пазней, калі ціхманаму Адаму сабралі клунак, калі гаспадары і нечаканыя адмысловыя госці разам селі за стол і ўзялі па чарцы (сапраўды, па адной), пад жаночы плач ішлі за гумно да запрэжанага ўжо каня, Кураглядаў перасцярог гаспадара і сына-навабранца:

— Па дарозе дурыць не варта. Саскочыў з калёс — ужо дэзерцір і бандыт. Суправаджаючы будзе страляць без папярэджання.

І бацька, і сын не абялілі, не ачарнілі. Моўчкі ішлі да калёс, дзе таптаўся збянтэжаны Мішка. Канечне, успомніў сваю ўчарашнюю размову з Кураглядавым і палічыў: якраз з-за яго языка во забіраюць хлопца. Калі ён наблізіўся, паспрабаваў ці то штосьці запытаць, ці то паспачуваць, гаспадар раптоўна і рэзка таўхануў яго локцем, што ён ледзь устояў на нагах, але засмяяўся — лісліва, вінавата, як адхлістаны за збродлівасць сабака.

Кураглядаў, бачачы гэта, адчуў: гаспадаровая злосць не так на гэтага маладога шкодлівага блазнюка, як на яго, старшыню сельсавета. Таму ён падспешыў, каб Грыгарцэвічы хутчэй развіталіся, каб бацька з малодшым сынам ад'язджаліся — каб хутчэй збыць са сваіх рук вялікую турботу і перакласці яе на плечы Навуменкава, а пазней — на ваенкамат. Калі ўрэшце тыя аддаліліся, нібы атрос рукі і з палёгкай, рассмакавана пасля чаркі гарэлкі ўсміхнуўся заплаканай гаспадыні:

— Ну што, мамаша? Хопіць слёз, варта было б яшчэ ўзяць па адной кроплі, каб вашы шчасліва дабраліся ў горад. Добра ў вас тут кажуць: «Госць выпіць рад, калі гаспадар дасць прыклад!»

Тая, разгубленая, сумная, можа, паслухала б, запрасіла ў хату і знайшла б яшчэ адну пляшку чыстай і моцнай самагонкі, але старэйшы яе хмурны сын рэзка кінуў:

— Якая п'янка, калі і ў вас, і ў нас наперадзе рабочы дзень?

«Ну, сволач! Пачакай!» — Кураглядаў, як свечка, загарэўся ад такой своеасаблівай запаленай запалкі. Звузіў вочы, апаліў позіркам, але ўголас буркнуў:

— Я жартую.— І Мішку строга: — Паехалі.

Доўгі час, седзячы побач з Клопікавым, утаймоўваў гнеўнае па-

чуццё да непачцівага маладога хутаранца, думаючы, якую помсту яму прыдумаць.

«Калі ты так да мяне, то нашкрэбаю цыдулу на твайго татулю Мірзоеву!»

Потым, збаўляючыся ад прыкрасці, зларадна пацешыўся з Мішкі:

— А не любяць, друг, цябе аднавяскоўцы! Ну, што скоса глядзяць на мяне, ясна: я — чужынец, у некаторай ступені заваёўнік, начальства. Начальства нідзе не любяць. А вось чаму так ненавідзяць цябе, га?

— Я ж казаў ужо, не любяць за тое, што я з вамі,— адказаў той.— Усе лічаць, што якраз я ўдаў тых, хто хаваўся і не ішоў у войска.

— Што ж, яны разважаюць дыялектычна. Без цябе мы іх не злавілі б.

Мішка замаўчаў.

Кураглядаў не паспачуваў яму, павучыў:

— Чорт з імі. Не любяць цябе — і ты не любі, не шкадуй, хоць і свае. Будзь з намі, дык выйграеш... Рана-позна мы гэтай шарачковай шляхце зломім рогі, выб'ем пыху, важнасць, змусім кланяцца нам... Панове, пшэкі, такую вашу! Мужыкі мужыкамі, а нос дзяруць! Пачакайце, будзе не тое, што вы хочаце, а тое, што мы зробім! Пакажам яшчэ калхозную жысць — хопіць, панімаеш, бліны на два бакі маслам мазаць!..

Ён бурчэў; маўчаў не толькі Мішка, але і Клопікаў. Верны, адданы ўладзе і яму ягоны фінагент быў цяпер чагосьці маркотны — здаецца, таіў, перамагаў штосьці цяжкое ў душы. Зрэшты, чалавечая душа — цемень. Гаварыць-то гаворыць як трэба, збірае падаткі, хоча дагадзіць і спадабацца, але, можа, яшчэ з перажыткамі, не да канца непахісны і цвёрды: усё ж з гэтага краю, каб іншая доля, мог бы быць гэткі самы хутаранец...

На паўдарозе да вёскі сустрэлі чалавека.Маладую жанчыну. Марысю Грыгарцэвіч. У спрытных, відаць, польскіх альбо нямецкіх боціках (не, іх зрабіў рубяжэвіцкі шавец), у караткаватай, трошкі ніжэй каленяў, спадніцы, у чорным прыталеным паўсачку і з'еханай ледзь не на патыліцу хустцы, хараша расчырванелая пры шпаркай хадзе. Мусіць, спяшалася да сваякоў, дзе толькі што былі яны.

Калі меліся параўняцца, яна хуценька абсунула хустку ледзь не на лоб, збочыла і, толькі на міг кінуўшы на іх позірк ды павітаўшыся, прашмыгнула паўз іх (шэпчучы сама сабе: «Соль вам у вочы, дзяркач у зубы, а таўкач пад бокі!»).

— Спакуса, Лукіч? — злавіўшы яго пажадны позірк, пасміхнуўся Клопікаў. Ведае яго слабінку да жанчын. А калі ўбачыў яго незадаволеныя вочы, нібы апраўдаўся: — Спакуса і вялікая! Трэба ж, каб бог даў такое хараство простай сялянцы!

Ён не адказаў, ледзь стрываў, каб не азірнуцца.

— Спрытная казуля! — усё цмокаў Клопікаў.— Але... Веруючая, адналюбка. Не ўломіш, каб і захацеў.

— Што праўда, то праўда,— усё чуючы, згадзіўся Мішка.— За сваім Сцяпанам як нітка за іголкай.

«Сапраўды красуня! — пазайздросціў Кураглядаў.— І дастаюцца яны чорт ведае каму, а не табе...»

Аж здзівіўся: не ксёндз, пазнаў ужо жанчыну і не адну, нямала чаго інтымнага ўжо ведае, але вось уяўленне малюе, што гэтая Марыся — іншая, адмысловая, і з ёй было б усё іначай, тое, што можа толькі даць сувязь з жаданай жанчынай. Яе, здаецца, нават кахаў бы, а не толькі браў бы, як, да слова, бярэ Валянціну. Хоць, калі падумаць добра, не зразумееш, што такое гэтае каханне — тое, сапраўднае, пра якое ў кніжках пішуць. Што да яго, дык ён нікога яшчэ не кахаў, толькі таго-сяго хацеў, чапляўся, як кажуць, да дзесяці —

тры грэбліва адыходзілі ці ў лыч смалялі, тры хіхікалі і гатовыя былі саступіць, а астатнія паддаваліся. Паволі ён па позірку ўжо, усмешцы і па адным дотыку пазнаваў: згодзіцца альбо не згодзіцца быць з ім, браў-хапаў, што трапляла пад руку, пакуль на перадапошняй працы не залавілі, як кажуць, на гарачым. Пасля гэтага, атрымаўшы строгую вымову і мусіўшы паехаць у гэтыя прыпушчанскія Янкавіны, кляўся сабе «болей не гарэць па інтымнай лініі», абыходзіць за вярсту гэтае спакуслівае і небяспечнае жаночае племя, але... цяжка адолець матухну-прыроду і адмысловы голад...

«Дыялектыка і, можа, вышэйшая...— падумаў цяпер сам сабе.— Уцеха, радасць і вялікае няшчасце ад гэтых жанчын! Колькі з-за іх чаго загублена! Якія светлыя галовы прапалі!»

## 6

Сцяпан, як толькі заставаўся ў хаце адзін, даставаў з шафы невялікую бліскучую жалезную, падораную яму вайскоўцамі скрыначку, здымаў вечка — у скрыначцы ляжалі дарагія сямейныя рэліквіі і патрэбныя дакументы: пярсцёнкі і крыжыкі, бацькавыя вайсковыя ўзнагароды, метрыкі і квітанцыі за аддадзеныя пастаўкі, паперка ад былога высокага партызанскага начальства, што ён, Сцяпан, «оказывал содействие партизанам в борьбе против немецко-фашистских захватчиков». Зверху ўсё гэта накрывалі новенькія і гладзенькія цвёрдыя вокладачкі — іхнія з Марысяй візы на выезд у Польшчу.

Ён яшчэ і яшчэ раз перачытваў тое, што было прыгожым почыркам напісана па-руску і па-польску, разглядаў пячаткі. Верыў і не верыў, што ўсё гэта пра яго і для яго, што гэтыя паперы насуперак усяму дазваляюць навек пакінуць вёску, родны край і падацца хоць не ў самы далёкі, але ўсё ж няблізкі свет («Курыца — не пціца, Варшава — не заграніца»,— гаварылі ў Янкавінах), да незнаёмых людзей і звіць там сабе гнязо. Як ні намагаўся, пакуль што не мог як след усвядоміць, што гэта такое — жытло на новым, чужым месцы, і што яго трэба рабіць якраз яму, а заадно ў душы падымалася, расла адчайная трывога: штосьці ён дзеіць не так і не тое, пакідае альбо разбурае такое, што... Нават цяжка было ўявіць, што будзе з ім, кім стане без Янкавін, без сваякоў і аднавяскоўцаў, з якімі жыў, пазнаваў свет, цярпеў процьму ўсякага ліха і нягод, з якімі становіцца на ногі цяпер. Хто і што чакае яго там, на чужыне? Удача? Шчасце? Альбо цяжкое прывыканне, сум і гібенне?

Якраз у гэтую, пакутлівую для яго хвіліну пачуўся ў сенцах лёгкі тупат. Канечне, ідзе Марыся — яна ў гэтыя неспакойныя, нават узбуджаныя дні намагаецца чым болей быць поруч. Праўда, мала гаворыць, але неяк вельмі запытальна і чулліва зазірае ў вочы, сваім душэўным станам трывожачы, бунтуючы яго душу. Ён хуценька паклаў дакументы ў скрыначку, зачыніў і спешна пхнуў яе ў шафу, а сам памкнуўся з лепшага пакоя.

З Марысяй сустрэліся на кухні. Вінавата, а заадно і з пяшчотай усміхнуўся, але Марыся цяпер не адказала ўсмешкай, не загарэзавала, не прытулілася, спачатку са сполахам, адчаем зірнула ў вочы, а потым, клічучы за сабой, падалася да акна, што выходзіла на вуліцу-брукаванку.

— Едзе...— трывожна прамовіла.

Марыся дагэтуль даволі ахвотна згаджалася пакінуць Янкавіны, як у свой час лёгка пакінула сваю родную вёску, выйшла за яго замуж і перабралася сюды, але апошнія дні, калі ён прывёз з раёна да-

кументы, узбудзілася — нават не, разгубілася, усё, як кажуць, падала ў яе з рук. Цяпер яна першая, а ён за ёй падаліся на двор. Там яны адразу ўбачылі, як з брукаванкі збочвае да іхняга плота конь, а на калёсах, на ахапку сена, звесіўшы цераз драбіны ногі ў лапцях, сядзіць пажылы барадаты дзядзька ў кажушку і аблавушцы.

Чаканы, але цяпер страшнаваты госць памалу споўз долу, прывязаў лейцы да шула — яго гняды конь адразу нагнуўся, цягнучыся да маладога пырніку, дзьмухаўца і крапівы, што падскочылі ўжо каля абагрэтых сонцам плота і зямлі. Хамут аб'ехаў на конскую галаву, агаліў трошкі прыпацелую шыю — жывёліна выпрасталася, падкінула цяжар на карак.

— Які цёмны і пануры чалавек...— прашаптала Марыся, хоць, па-першае, зусім мала ведала гэтага каржакаватага хатаўца, а па-другое, той не быў асабліва страшны, а звычайны тутэйшы жыхар. (Так пайшло спрадвеку, што ў гэтым баку жылі людзі і русявыя, нават светлавалосыя, з блакітнымі вачыма, і цемнаватыя, зялёна-рудавокія. Хтосьці казаў, што калісьці тут, па адзін і другі берагі Нёмана, аселае людское племя змяшалася з прышлым.)

— Чалавек як чалавек,— прамовіў Сцяпан, хоць у самога затрапяталася сэрца, а па руках, па нагах, здаецца, па ўсім целе пайшлі-пабеглі адмысловыя дрыжыкі.

— Ідзі,— зноў прашаптала Марыся, бачачы, як прыезджы дзядзька нібы мімаходзь, а на самай справе па-сялянску чэпка акінуў позіркам і плот з дробных пашчапаных хваін, і агародчык за ім, дзе імкнулася ў рост маладая антонаўка і дзе была ўжо ўскапаная зямля пад раннія кветкі, і хату, і ўвогуле ўсю сядзібу.— Сустракай адзін...

Сцяпан паслухаў, пакрочыў да варот. Іх было двое: праз адныя, вузкія (брамку) хадзілі самі і хадзіла жывёла, праз другія, шырокія, на дзве палавіны (браму), заязджалі ў двор з калясьмі. Госць сам цяжкавата, спакойна зайшоў у двор — стаптаны на сцежцы і парослы гусінай лапкай уздоўж,— усміхнуўся, паказваючы пракураныя, але моцныя зубы:

— Ну, здароў, пане Стэфусь.

Сцяпана, як казала маці, у свой час хацелі назваць Стэфусем, але бацька ў апошнюю хвіліну перадумаў, назваў трошкі іначай. Многія людзі, хоць і не чулі пра тое, усё роўна блытаюць яго імя.

— Чакаў?

— Чакаў, дзядзька Адольф,— ціснучы руку ў адказ, сказаў Сцяпан. Ён ведаў гэтага пакупніка. Як і знаў тое, што ў таго цяпер у адной хаце жывуць два жанатыя сыны і іх трэба аддзяліць: аднаго пакінуць пры бацьках, а другому, мабыць, старэйшаму памагчы паставіць свой дом ці купіць жытло ў іншай вёсцы — на зямлі аднаго ж сельсавета.

Калі яны парукаліся, а потым на нейкую хвіліну заціхлі, пачулі: воддаль шахкае-звініць піла.

— Абразае нехта дзерава? — па-першае, як вясковы, адразу ўсё зразумеў хатавец, а па-другое, якраз з гэтай зачэпкі пачаў нялёгкую размову. А па-трэцяе, мусіць, здзівіўся: ну, янкавінцы, ну, шляхта, бач, не ставяць зрубы толькі з акораных бярвёнаў, але абразаюць, выштукоўваюць, каб усё было як след, як у лепшых, местачковых, вёсках, дзе пры дамах былі веранды, нейкія адмысловыя калоны, паддашкі з выгабляваных дошак, прыгожыя шматузорныя франтоны з акенцамі, выразаныя ліштвы на вокнах — люд дбаў не толькі пра тое, дзе жыць, але і як жыць. Тутэйшым будаўнічым, сталярным умельствам захапляліся і войт, і немцы, але да яго, здаецца, зусім абыякавы Кураглядаў. Ён толькі крывіцца: «Няма чаго рабіць! Трэба хутчэй усім з зямлянак перабірацца, а каторыя з жыру бесяцца!»

— Школу ставяць,— патлумачыў Сцяпан.— Хто абразае дзерава, хто рэжа дошкі і дранку. Усёй вёскай.

— Свая школа — гэта добра,— парадаваўся хатавец.— Налета ўнуку ісці ў першы клас, праз два гады — унучцы.

Канечне, для яго няблага: у свой час на месцы будзе сямігодка.

— Ну, паказвай, гаспадар, свой маёнтак,— сказаў госць-купец, пераводзячы пільны позірк на хату.

— Глядзіце.

— Паляжалае ўжо дрэва...— Цмокнуў хатавец, азіраючы бліжэйшую шэрую, з патрэсканымі бярвёнамі сцяну.— Я ж помню: твой цесць рэзаў яго яшчэ за царом.

— Паляжалае, але моцнае,— адказаў Сцяпан.— Калі па-новаму ставячы зруб, дзе-небудзь заразалі, дык, паверце, піла ад яго адскоквала.— І для пераканаўчасці бухнуў разы са два кулаком па шырокім, цвёрдым бервяне, паказваючы, якое яно смолкае і трывалае. Бервяно не ўвабрала ўдар, гук, як убірае старое, спарахнелае дрэва, а загудзела — усім сваім натуральным, здаровым нутром.

— Рамы падгніваюць,— знайшоў іншую загану хатавец.

— Зверху крыху,— паправіў Сцяпан.— Усярэдзіне як свежыя.

Купец вобмельгам, але прыдзірліва агледзеў выразаныя шалёўку і ліштвы і, бачачы, што тыя яшчэ дыхтоўныя, падаўся абыходзіць невысокую, невялікую хату — акінуў позіркам нядоўгія і нешырокія сенцы з плашак, пасля — прыбудоўку з бярвёнаў, пад якой быў склеп. Затым падаўся азіраць дрывотню з акораных абрэзкаў, хлеў са старога, яшчэ з таго веку дрэва, гуменца з плашак і абрэзкаў — будавалася ўсё з таго, што, па-першае, было пад рукамі, а па-другое, каб лішне не марнаваць страявога лесу. На полі, прысеўшы і пацёршы пальцамі грудкі зямлі, той пацмокаў:

— Не пясочак, але і не чарназём.

— Такая ж зямля, дзядзька, як і ў вас,— спакойна адказаў Сцяпан.— Зямлі не перайначыш. Якая ест, такая ест. Але добра дай гною, дай ласкі — дык і гэтая аддзячыць.

Хатавец змаўчаў. Старэйшы, ён усё добра разумеў і сам, па-гаспадарску пазіраў на палоску шэра-жаўтаватага поля, на высокую грушу-дзічку пры пагонцы, на высозную яблыню-райку яшчэ воддаль, на гуртавым узгорку, і, канечне, думаў: тут жыць можна, як і ўсюды, абы добра кеміла галава ды па-належаму даць работу рукам. Ды, навучаны дзядамі-прадзедамі, рашыў адчайвацца, усё прыніжаць — збіваць цану.

— Ну, хадзем у хату, пане Стэфусь,— натупаўшыся і паназіраўшы, урэшце абцёр рукі ён.— Зірнем, што там у цябе за харомы.

Ідучы, моўчкі яшчэ раз абмацаў вачыма сенцы, зазірнуў у кладоўку, у адчынены склеп, а ўжо ў хаце, затрымаўшы позірк на Марысі ў цеснаватай сукенцы, што прыгожа і вабна аздабляла стройную постаць, лагодна ўсміхнуўся ў вусы:

— Добры дзень, пані гаспадынька! — А пачуўшы адказ, дадаў:— Красуня! На ўсе тутэйшыя вёскі! Некалі, дзяўчом, як помню, была падцыглястая, лупаценькая, а цяпер, глядзі ты, як вылюдзела!

Марыся спакойна выслухала здзіўленне і пахвалу, нават, здаецца, задзірыста падняла галаву. Хатавец моўчкі праглынуў гэтую адмысловую жаночую дзёрзкасць, зноў засяродзіўся:

— Пакажэце, што тут і як у хаце.

Патупаўся, павагаўся на падлозе — яна не зарыпела, не прагнулася, пасля агледзеў печ, пліту, зайшоў у лепшую хату.

— Ну, што я вам скажу, людзі,— прамовіў.— Жыць можна. Давайце цанавацца.

Яны, мужчыны, селі абапал стала, Марыся засталася стаяць каля печы.

— Якую хочаце плату? Золатам? Савецкімі рублямі? Ці тым і тым?

— Тым і тым,— прамовіў Сцяпан, маючы на ўвазе, што золата возьме з сабою ўпотай (яно спатрэбіцца ўсюды, у Польшчы таксама), а пра грошы пойдзе гутарка ў сельсавеце, калі будуць афармляць куплю-продаж.

— Але, пане Стэфусь, золата я многа не магу даць,— адразу агаварыўся хатавец.— Дзе яго ўзяць? Саветы, вайна... За хлопца свайго нямала немцу ўваліў, каб з палону выбавіць.

— Дык колькі можаце золатам даць — умяшалася ў размову Марыся, парушаючы тутэйшае няпісанае правіла: калі гутараць, рашаюць штосьці сур'ёзнае мужчыны, кабеце трэба надта не лезці, не парушаць ход мужчынскіх думак і гаворкі.

Купец зразумеў, што маладая гаспадыня з норавам, мае права на голас, дык адказаў ёй:

— Дваццаць пяць рублёў, пані Марыся.

— Мала,— сказала тая.— Сама меней дайце пяцьдзесят.

— А дзе ж, мілая мая, я гэтулькі вазьму? — занелюбіў, але праз сілу ўсміхнуўся стары.— Кажу ж, Саветы, вайна падчысцілі.

— Пазычце ў каго.

— Хто ж пазычыць? Золата!

— Дзядзька, не круцеце! — узгарэлася Марыся, ведаючы, што яе Сцяпан не любіць весці гандаль, можа саступіць хітраму і гаваркому хатаўцу.— За паперкі мы вам хаты, гаспадарку не аддадзім.

— Нічога, пані Марыся, я не кручу,— апраўдаўся той.— І, як ты кажаш, задарма не хачу ўзяць ваша дабро. Трохі дам золата, а астатняе заплачу цяперашнімі грашыма. Ну, яшчэ пярсцёнак залаты, загарак нямецкі маю. Калі хочаце, бярыце.

Праз гадзіны дзве, калі сышліся на цане, узялі задаткам дзесяць залатых царскіх рублёў і трыста новых, выпілі па чарцы, пакупнік паехаў дадому.

— Бачыў, як настойваў, каб мы ўзялі задатак? — сумна запытала ў Сцяпана Марыся.— Мы: усё, дамовіліся, толькі вам прададзім, а ён — у адно: добра, дзякуй, але ўсё ж, панове, вазьмеце трохі загадзя... Спадабалася яму наша сядзіба. Яшчэ як да душы!

Сцяпан маўчаў; Марыся, падпёршы далонямі шчаку, сядзела за сталом і гаротна пазірала на двор, далей, на янкавінскае поле і лес, дзе ўжо нямала пратаптала сваіх сцяжын і сцежачак, да чаго прывыкла, як да свайго. Вось па яе гладкай і свежай шчацэ пакацілася-пабегла празрыстая ручаінка.

Сцяпанава сэрца раптоўна нібы перавярнулася, кальнула і занылазапякло ад болю.

— А можа, нікуды мы не паедзем? — міжволі вырвалася ў яго само па сабе.

Марыся імгненна павярнулася, з надзеяй зірнула яму ў вочы, але тут жа і ачахла.

— Мы ж задатак узялі...

— Задатак можна і вярнуць.

— Брыдка будзе. Людзі абы-што пачнуць гаварыць. Як пра несур'ёзных і не сталых.

— Якое тут брыдка, калі мы хочам застацца на сваёй бацькаўшчыне?!

— Глядзі сам, Сцяпанка,— прамовіла яна.— Як рошыш, так і будзе. Ехаць — дык ехаць, застацца — дык застацца. Ты ж — гаспадар, як кажуць, галава.

— А ты — шыя,— усміхнуўся.— Куды шыя павернецца — туды і галава.

— Не, я не буду настойваць.

Ён закахана паклаў ёй на плячук далонь. Яна прытулілася шчакой да яго дужай, але лёгкай рукі, арасіла яе слязьмі:

— Харошы мой і любы...

Ён прыгарнуў яе, здаецца, зусім лёгкую і слабую. Яна падняла галаву, і іхнія вусны, здаецца, самі па сабе самкнуліся ў доўгім пацалунку. Калі перавялі дыханне, яна радасна прашаптала:

— Сцяпанка, у нас будзе дзіцятка.

— Дзяўчынка?

— Дзяўчынка.

— І такая паглядная, як ты?

— Не ведаю, любы,— адказала.— Няхай будзе падобная на цябе. Кажуць, калі дачка пойдзе па бацьку, дык будзе шчаслівая. Дык няхай будзе ёй шчасце.

— Няхай,— па-маладому ўсцешыўся ён.— Але я хачу, каб яна была падобная і на цябе.

— Няхай,— усцешылася і яна.

— Калі яна тут заявілася, дык няхай тут і народзіцца,— сказаў.— На сваёй зямлі, у сваёй хаце...

# 7

Увечар, калі вярнулася ад Францішка Грыгарцэвіча маці і парадавалася, што яны, на яе думку, добра прадалі сядзібу, Сцяпан пачаў нялёгкую размову.

— Мамуся,— улучыў хвіліну і загаварыў ён, калі кабеты памылі пасуду, прыбралі на кухні і прыселі на хвіліну не столькі адпачыць, але каб пабыць разам у добрай сямейнай згодзе.— А можа, усё ж застанемся тут?

Маці (а яна сядзела пры пліце і папраўляла лучыну) устрапянулася, прыклала руку да ўпалых грудзей і аж разгубілася. Затрывожана зірнула на яго, на нявестку — яны, седзячы побач на столаку, не вытрымалі яе жаласна-напалоханага позірку і таго болю, што, мусіць, затапіў яе душу.

— Што вы, дзеці?

І яшчэ праз хвіліну:

— Рашылі ж разам ехаць, задатак узялі ад чалавека!

Сцяпан, ведаючы, што Марысі яго слова як мёд на душу, але яна будзе маўчаць, павёў сваё далей:

— Шкода, душа баліць, мамуся, пакідаць агораны дом, гаспадарку, вёску, сваіх людзей. Пераажылі ліхалецце, на ногі станавіцца пачалі...

— А мне, дзеці, душа і сэрца не баляць? — скрушліва захітала галавой маці.— Я ж болей за вас тут пражыла. Усё знаёмае, роднае якраз тут, бацькі і прадзеды, нябожчык Уладак у гэтай зямлі ляжаць... Хіба я паехала б куды ў свет, каб не так усё склалася?

Ражком белай хусткі выцерла пад вачыма, неяк уміг сагнулася, быццам увайшла ў сябе:

— Хіба я сама тую нашу хату паліла, у Нямеччыну з дзецьмі ездзіла? Хіба я вінаватая, што бавэр Юзіка збіў па галаве, розум хлопцу парушыў? Ці хіба я падгаворвала, каб Анелька з Антонікам Сталіна баяліся і не хацелі вяртацца дадому?

Маці выказвала праўду і праўду цяжкую, што агромністым цяжарам навальвалася на Сцяпана. Ён, старэйшы сын, можа, вінаваты перад маці, перад усёй сям'ёю: па-першае, збег з абозу, калі ў блакаду гналі немцы аднавяскоўцаў і маці з малодшымі дзецьмі ў Стоўбцы

да чыгункі, па-другое, цяпер, не хочучы ехаць у Польшчу, дзе новыя польскія ўлады далі ім дом, гаспадарку на былой нямецкай зямлі, можа, навек бурыць іхнюю дружную сям'ю. Каб тады паехаў у Германію, можа, выратаваў бы Юзіка ад бяды (той, васемнаццацігадовы, заляцўся да гаспадаровай дачкі, яна адказвала ўзаемнасцю, дык яе бацька скалечыў яго за гэта), а заадно, канечне, угаварыў бы шаснаццацігадовую Анельку і чатырнаццацігадовага Антоніка не баяцца ні Сталіна, ні той страшнай Сібіры альбо калгасаў і не пераязджаць у Польшчу на чужое. За ўсё гэта і вінаваты, і невінаваты. Як старэйшы сын, як бацькавая падмога. Хоць каб не мітрэнга ў свеце, дык усё было б добра...

— Кажу ж, тамтутэйшыя ўжэнднікі падакляравалі, што табе дадуць асобны дом, кузню,— зноў, як і ў першыя дні вяртання ў Янкавіны, пачала спакушаць лепшым і лягчэйшым жыццём маці.— Я сама бачыла: дом той цагляны, вялікі, белай бляхаю накрыты.

— Але ж ён чужы, мамуся.

— Ведама, не свой. Але былога гаспадара выслалі да немцаў. Кажуць, навечна.

— Хто ведае: навечна ці не...— уздыхнуў Сцяпан.— Можа, прыйдзецца калі і ўцякаць адтуль. На свеце ўсё не вечнае: ні войны, ні мір, ні дамовы ўсякія. Немцы, адыходзячы адгэтуль, казалі: «Пачакайце, мы яшчэ прыйдзем сюды...»

— А што ж мне рабіць? — паскардзілася маці.— Як мне разарвацца паміж вамі? Застануся тут — душа мая сохнуць будзе: як там хворы Юзік, як там самыя малодшыя? Паеду туды — па вас сэрца балець будзе...

— Юзіка мы маглі б забраць і лячыць тут, а Анелька з Антонікам... От, зелянота, набралі сабе ў галаву: палякі, дык трэба жыць у Польшчы! Блазнюкі!

— А хіба мы, сынок, не палякі?

— Каталікі, але не палякі.

— А хто ж мы? Расейцы?

— Тутэйшыя. Беларусы. І не трэба саромецца гэтага, лічыць: раз ты беларус — дык ты мужык... Мы — такія, як і ўсе людзі.

— Але мала дзе, сынок, прызнаюць такую нацыю. Ні ў Нямеччыне ні ў Польшчы.

— Хто ж іншы будзе прызнаваць нас, калі мы самі сябе не прызнаём? Ці то саромеемся самі сябе, ці то па-дурному адракаемся, аддаёмся ў чужыя хіжыя рукі...

— А па-другое, Анелька, калі паглядзела свет, хоча іначай жыць. Акуратна, у чысціні.

— А што — у нас ужо зусім цёмна і брудна? — незалюбіў ён.

— Немцы жывуць лепш і чысцей, сынок. У іх і дарогі добрыя, і дамы, і ўсё нераўня нашаму. Яны — як панэ.

— І ў нас жыць можна.

— Можна,— уздыхнула маці.— Але мы не скора дажывём да іхняга. Да такіх гаспадарак, да электрыкі, да машын усякіх, да такіх, выбачайце, прыбіральняў з белай пліткаю...

— А мне і тут добра.

— Бо ты лепшага не бачыў, сынок. І наўрад ці ўбачыш. Калі будуць калхозы...

— Калхозы могуць і ў Польшчы быць, мамуся,— адказаў ён.— Раз Сталін і там кіруе, то ён і там ад свайго не адступіць.

— Можа,— згадзілася маці.— Бачу: мне адной прыйдзецца туды ехаць. Ты будзеш жыць па адзін бок мяжы, мы — па другі...— Цяжка ўздыхнула.— Я дык, можа, болей не ўбачу ні вёскі, ні людзей нашых, ні вас...

Потым, калі леглі спаць, Сцяпан і Марыся доўгі час ляжалі моўчкі.

— Пакрыўдзілася на нас мамуся,— першая падала голас Марыся. Узяла яго руку, паклала сабе на жывот.— Але ж яно, праўда, мае права заявіцца на свет на роднай зямлі...

## 8

Праз некалькі дзён Сцяпан павёз маці ў Стоўбцы.

Конь трухаў, фыркаў, а яны абое сядзелі моўчкі: Сцяпан — спераду, спусціўшы набок, цераз драбіны, ногі ў хромавых ботах, што абуваў толькі зрэдку, старая Аршуля — збоку, угнуўшыся, самотна пазіраючы на навакольнае падзеленелае поле і яшчэ не абмыты як след веснавымі дажджамі, цьмяны лес, на знаёмыя і малазнаёмыя вёскі — на гэтыя Дзераўную, Заброддзе, Брухачы, Шашкі, Дудкі і іншыя, падобныя (новыя зрубы і зямлянкі, асобныя ці пад адной страхой будыніны, гародчыкі, маладыя садкі), а ў чымсьці (стрэхамі, вокнамі, паплавамі, лужкамі ці аселіцамі, нават слупамі і частаколінамі ў платах) розныя. Яны, гэтыя вёскі, адна за адной заяўляліся, заставаліся ззаду — можа, для яе знікалі з вачэй ужо назаўсёды. На гэтай прыпушчанскай зямлі было нямала яе сцежак-дарожак, пратаптаных у маленстве і ў сталыя гады, і вось яна адрываецца ад усяго гэтага, і яе, як той апалы ліст, вецер ды лёс нясуць-імчаць кудысьці — далей і далей ад роднага дрэва.

Як і дагэтуль, featuresзнае пачуццё кіпела і ў Сцяпанавай душы: яна раздвойвалася і ад вялікай віны, і ад сваёй праваты. Яму хацелася сказаць маці штосьці цёплае, пяшчотнае, але ён не знаходзіў самых патрэбных слоў, маўчаў, хмурнічаў і неяк несвядома пазіраў на падсохлую, шэра-белую брукаванку з мазутнымі плямінамі ды на зялёную, з высокай старой травою ўзбочыну, дзе ляжаў ці то папяросны пачак, ці то газетны шматок альбо адчыненая, рыжаватая ад кансерваў бляшанка. Конь, калі бег адзін ці сустракаўся з іншым канём, быў спакойны, але калі чуў, а потым і бачыў каля сябе матацыкл альбо цяжкі лесавоз, падымаў вушы, кідаўся ў аглоблях, а перад Стоўбцамі, перад шырокай мінска-брэсцкай шашой, па якой адна за адной шнуравалі машыны, лез у нос асфальтны і дымны пах, увогуле разгубіўся і занерваваўся — Сцяпан мусіў аддаць лейцы маці, злезці, узяць свайго звыклага толькі да вёскі любімца за аброць і перавесці праз шашу, па якой той ішоў вельмі насцярожана і нязграбна.

У Стоўбцы — невялікі, але чысты гарадок з многімі брукаванымі вуліцамі, з прыгожымі драўлянымі, а там-сям і двух-трохпавярховымі цаглянымі дамамі, з больш кідкай і гусцейшай, чым у вёсках, зелянотай, што вельмі хораша зіхацела цяпер пры шчодрым сонцы, з адмысловым людам (прыезджыя сяляне ў лапцях альбо ў ботах, з торбамі за плячыма, надзьмутыя мужчыны ў паліто і з партфелямі, вайскоўцы і, мусіць, іхнія жонкі ў шыкоўных замежных боціках, паліто і яркіх берэтах, чорны барадаты цыган, які вязе на калёсах з гумовымі коламі гару пустых скрынь, гурцік вясёлых дзяцей з чырвонымі гальштукамі),— прыехалі пасля полудня. На круглаватай плошчы паблізу станцыі, дзе якраз стаяў цягнік, чмыхаў і шпурляў увысь воблака белага саладжавага дыму, Сцяпан запыніў каня, даў яму сена, а сам пайшоў браць маці білет да Брэста. Раней, да вайны, калі маці была толькі ў некалькіх суседніх вёсках, яна нізашто не падалася б адна нават у тое «Бжэсце» альбо «Бярэсце», але цяпер, пабыўшы на свеце, праехаўшы не раз гэтаю дарогай, ехала без звычайнага сялянскага страху. На станцыі, што адмыслова пахла хлоркай, свежай вадою і дымам, сёння не працавалі ні буфет, ні пошта: і калі-

дор, і зала былі запруджаныя пастрыжанымі маладымі хлопцамі і вайскоўцамі. Каб узяць білет, Сцяпан мусіў прастаяць за афіцэрам болей як гадзіну — той браў, можа, не меней за сотню квіткоў. Калі вярнуўся на плошчу, убачыў: маці абкружылі маладыя прыгожыя цыганкі ў доўгіх і featured рознакаляровых сукенках, побач з цыганкамі — іхнія напаўраспранутыя чарнамазыя дзеці.

— Дарога ваша, цётка, будзе шчаслівая,— абварожвала круглатварая бойкая чарняўка, трымаючы матчыную руку і разглядаючы яе багатую на раўчучкі далонь.— Сын паправіцца, стане на ногі, але беражыце яго ад новай бяды... Дачка ваша хутка выйдзе замуж... Малодшы сын ваш будзе вашым апірышчам у вашай глыбокай старасці, бо жыць вы будзеце доўга.

Сцяпан строга і непрыязна агледзеў варажбітак, асцерагаючыся, каб тыя не хапанулі чагосьці з калёс. Тая, што тлуміла галаву маці, паспеўшы за некалькі хвілін шмат пра іх уведаць, усміхнулася ласкава:

— Старэйшы ваш? — І ўжо гулліва яму: — Красівы малады мужчына! Пазалаці, красавец, руку — скажу тваю будучыню.

— Не трэба,— схмурыўся ён.— Адыдзіце. Я не веру ў вашыя казкі.

— Не будзь такі горды, красавец,— усміхалася прыгожымі вачыма і, здаецца, зазірала ў душу маладая гаваркая варажбітка.— Гардыня, бывае, губіць чалавека.

— Добра-добра,— адмахнуўся ён, як і ўсе янкавінскія мужчыны маючы насцярогу да гэтых хітрых людзей.

— Заплаці, сынок, няхай пагадае,— папрасіла маці.— Мне лягчэй будзе, калі ўсё і пра цябе знацьму.

— Яна табе такога нагаворыць! Толькі слухай,— пасміхнуўся.

— Горды! — матлянула галавой варажбітка. Прыплюшчыла вочкі, зірнула без крыўды, без пагарды, а, здаецца, спачувальна.— Перасцерагу, красавец: беражыся! Хутка, нават вельмі хутка цябе чакае вялікая неспадзяванасць... Па вачах тваіх бачу...

— Добра-добра,— зноў адмахнуўся ён.— Ідзіце сваёй дарогай, а я з сабой разбяруся сам.

— Дарэмна ты адагнаў іх,— падакарала маці, калі шумны цыганскі гурт адышоў і прычапіўся да іншых прыезджых людзей.— Чуў: нешта неспадзяванае чакае цябе?!

— А вы верыце ёй?

— Веру. Яны многа ведаюць, умеюць гадаць, што і калі будзе ў свеце, з кожным чалавекам. Яны і вайну прадбачылі, і блакаду, і наш вываз у Нямеччыну...

— Казкі і байкі.

— Не казкі і не байкі, сынок,— прамовіла маці, а потым сумнавата ўсміхнулася: — А ты, калі сярдуеш, рыхтык нябожчык-бацька. І вочы такія, і ніжняя губа гэтак падрыгвае... І гутарка гэтакая самая...

Ён змаўчаў, адчуваючы, як спачатку балюча сціснулася, а потым затухкала сэрца. Бацька памёр у першы месяц вайны. Забалеў зуб, а ад нарыву сапсавалася кроў. Быў бы дзе паблізу які ўрач — канечне, выратаваў бы ад такой простай хваробы. Налета было б яму яшчэ ўсяго пяцьдзесят гадоў.

Памаўчаўшы, запытаў у маці:

— Вы не крыўдзіцеся на нас, мамуся? За тое, што не едзем з вамі?

— Якая крыўда, сынок?! Жывіце як жывецца. Марыся твая — не толькі харошая, але і добрая маладзіца, спрытная гаспадыня. Усё ўмее рабіць і робіць спраўна. Будзеце жыць. Беражыся толькі, з ужэнднікамі гэтымі будзь асцярожны. Прысланыя, не вялікага розуму, але злыя і помслівыя. Не лезь да палітыкі. З людзьмі ладзь, не гні карак перад дужым і багатым, не здзекуйся са слабога і беднага...

— Ну то дзякуй вам, што не пакідаеце на нас зла.

— Якое зло, сынок?! Да свайго дзіцяці?! — захітала галавой маці.— Кажу ж, мне хочацца, каб усе разам, на маіх вачах жылі, усе былі здаровыя, накормленыя і апранутыя, каб дзеткі вашы тэж шчаслівыя былі. Але калі не выходзіць разам жыць, дык будзем паасобку.— Гаротна ўсміхнулася.— Не мы такія першыя, не мы такія апошнія... Ты будзеш беларус, а мы будзем палякамі...

Што так — то так. Ужо на Сцяпанавай памяці многія з Янкавін падаліся ў свет: хто паехаў на заробкі, каго вывезлі ў трыццаць дзевятым і ў вайну, каго нядаўна пасадзілі ці забралі ў войска — з палову вёскі вярнулася, пачало жыць у зямлянках, а з палову разбрылося па розных кутках гэтай зямлі.

— Можа, не едзь, Сцяпанка, дадому наноч,— перасцерагла маці.— Перастрэнуць яшчэ не дай бог у лесе ліхадзеі. Каня, калёсы адбяруць, а самога ці з сабой павядуць, ці... Папрасіся, можа, пераначаваць у Навіцкіх з Налібак, выедзь раніцай.

— Не так многа ўжо тых ліхадзеяў, як пра гэта гавораць,— супакоіў ён.— Болей плятуць пра гэта ды на нас абы-што чапляюць...

— Беражыся, сынок. Беражонага і бог беражэ. І цыганка, чуў, перасцерагала.

Пазней, калі ўжо зашарэлася, калі на пахкім тытунёвым дымам і хлоркай вакзале і на халодным пероне скупа свяцілася па лямпачцы, калі Сцяпан унёс у запоўнены навабранцамі вагон матчын куфэрак (у ім, у двайным дне, схаваў некалькі залатнікоў, што даў яму цесць), маці плакала наўзрыд. Не вытрываў, даў волю слязіне і ён: з усёй вялікай радні тут засталіся толькі ён ды дзядзька Францішак з сынамі.

Паехаў дадому адразу, як толькі цягнік засвістаў, сыпнуў уверх сноп іскраў, заляскаў жалезам і скрануўся з месца. На душы была нейкая палёгка, што скончыўся цяжкі дзень, маці ўдала паехала, а заадно на душы было і цяжка — можа, і ад каменю сіратлівасці, адзінокасці: маці хоць не ўмешвалася ў яго гаспадаранне, давярала яму як сталаму ўжо мужчыну, але магла і ўмела даць добрую параду. Цяпер ужо не дасць.

За Стоўбцамі ехаў у суцэльнай цемнаце, дарогу выбіраў не ён, а конь. Доўга паўляжаў на сене, успамінаў усё да драбніц, што было сёння, адчуваючы непрадказальнасць і загадкавасць гэтага жыцця, чалавечых лёсаў. Толькі за апоўнач пачаў патроху падступацца сон. Але ў Дзераўной, калі затрэсліся на бруку калёсы, прахапіўся і даехаў дадому без сну.

## 9

— Афонька!!!

Кураглядаў рэзка ўскінуў галаву: у кабінеце стаяў невысокі, худы, даўно ўжо няголены мужчына ў зношаным салдацкім шынялі, з пустой торбай у апушчанай руцэ. І здзіўлены голас, і нягеглая чалавечая постаць былі вельмі знаёмыя — яшчэ адтуль, з далекаватага ўжо ветраўскага юнацтва. Так, Сяргееў з яго роднага Ветрава. Бядняк-галетнік, першы іхні старшыня калгаса. Застары на свае сорак гадоў, сівы, маршчыністы, неяк надта ўвесь апушчаны — як у іх казалі, «ледащий мужичёнка».

Пазнаўшы і ўзрадаваўшыся, зямляк хацеў кінуцца з абдымкамі, але яго намер астудзіў Дзік. Сабака, прадчуваючы рывок да гаспадара, не толькі загірчэў, але і ўскочыў, раўнуў так, што бедны Сяргееў

адскочыў да дзвярэй і ўмлеў, закрыўшыся рукамі і, як бачна было, вялізнаю торбаю. Кураглядаў пагладзіў Дзіка па паднятым чорным хібе — той супакоіўся і апусціўся на падлогу.

— А, Іванавіч! — усміхнуўся Кураглядаў, падняўся і выйшаў з-за стала.— Ну, здароў-здароў!

Той схапіў і моцна затрос яго руку, лісліва зірнуў у вочы:

— Ну, Афоня! Чысты, гладкі! Начальнік! А ўсе ў нашай вёсцы лічаць: прапаў Лукічоў сын! Магілка недзе на свеце!

Кураглядаву не зусім прыемныя былі гэтыя словы. І гэтае даўняе «Афонька», што цяпер прыніжала яго, гэтае «прапаў», што чымсьці пагражала яму.

— Як ты тут апынуўся?!

— Доўга расказваць, Іванавіч,— адказаў ён.— Адным словам, я тут па спецзаданні, але шмат на гэты конт распаўсюджвацца не магу.

— Чэсна кажу: Маруся твая, усе ў вёсцы лічаць — ты прапаў на вайне.

«Прапаў». Не загінуў смерцю храбрых, а — прапаў!» — зноў незалюбіў, але ўголас запытаў:

— Ну, а як ты, жывы-здаровы, сюды дапяў?

— Дапяў...— Пасмутнеў неспадзяваны госць.— Дарога прывяла... Голад... Мяшочнік я...

Кураглядаў адвёў вочы: штосьці жаласнае і сарамлівае варухнулася ў душы. Там жа, дзе жыве гэты Сяргееў, і яго сям'я. Жонка, сын. Гадоў сем ужо не бачыў іх.

— Ды садзіся, Іванавіч,— забраў руку, якую, як відаць было, агаладнелы зямляк не хацеў выпускаць, як нейкую чароўную палачку.

— Галадаем мы, пухнем ад голаду, Лукіч...— Той паслухаў, сеў і па-жаночаму захліпаў, шморгаючы носам. Колішні не дурны, вясёлы і зычлівы чалавек.— Ні хлеба, ні сала, ні бульбы... Нічога... Хто чэзне, хто памірае, а хто, як вось я, кінуўся ў свет... Дронавы і Лукашовы паехалі ў Заходнюю Украіну, а мы, Сяргеевы, прыбіліся сюды, у Заходнюю Беларусь. Злезлі на станцыі ў Стоўбцах, падаліся сюды. Яны засталіся ў Дзераўной, а я, як ты кажаш, дапяў у гэтую вёску, ледзь не ў пушчу. Прашу ў людзей якую бульбіну, акраец хлеба, скарынку-лупінку... Тут сказалі, каб я спачатку ў сельсавет зайшоў, запісаўся, а тады па хатах ужо хадзіў.

— Мой загад...— усміхнуўся Кураглядаў. Затым не столькі патлумачыў, як падстрашыў.— Тут табе не спакойная, савецкая Расія, тут — адмысловая зона. Заходнікі. Нелаяльныя людзі, а то і бандыты альбо іхнія памагатыя. Як кажа таварыш Сталін, «не внушающие доверия».

— Ажно гэты строгі ці нават грозны начальнік — ты, Афо..., Лукіч!

— Рады бачыць мяне? — усміхнуўся Кураглядаў.— Ды якраз тут?

— Зямляк жа, Лукіч! Свой чалавек!

— Ладна,— задаволіўся Кураглядаў.— Ніякай даведкі табе не трэба, сам старшыня сельсавета асабіста цябе ведае. І па вёсцы не хадзі, не прасі і не кланяйся, бо нічога табе надта не дадуць. Сам бачыш: вёска са́ма адбудоўваецца пасля блакады. Ды не ўніжай сябе, мяне, нашу старану. Зойдзем да мяне, накармлю, напаю і ў дарогу тое-сёе дам. І табе, і маім.

— О то радыя будуць, Лукіч! — падхапіўся Сяргееў.— Каб ты бачыў: на тваёй Марусі адны косці ды скура! Як кажуць, жывот да спіны прыліп. І малец твой — таран, белы-белы, галава ў яго часта баліць ды з носа кроў ідзе...

— Я тут партызаніў,— пачаў апраўдвацца Кураглядаў.— Пасля ўцёку немцаў не ведаў: ці на фронт пайду, ці тут на партыйнай

альбо савецкай рабоце застануся, дык не выклікаў сваіх... Ды, кажу, тут вельмі пашыраны бандытызм, патайное супраціўленне савецкай уладзе... Нас тут не любяць... Так што, Іванавіч, тут яшчэ праходзіць нябачны фронт. Так і чакай: пальнуць з-за вугла па башцэ ці ў спіну з абрэза. Альбо нават і з кулямёта...

Калі ішлі з сельсавета па двары ў хату, каб адолець адчужэнне і пашукаць еднасці, Кураглядаў запытаў:

— А ты ваяваў?

— Ваяваў, Лукіч,— падбягаючы і лісліва зазіраючы ў вочы, адказаў Сяргееў.— У пяхоце. На пузе прапоўз, пехатою пратэпаў да самага гітлеравага логава, на сцяне рэйхстага распісаўся!

— Герой! У гісторыю ўвайшоў!

— Маю ордэны, медалі, але...

Кураглядаў не даслухаў, упусціў у сенцы, потым у хату спачатку сабаку, пасля — несамавітага госця з торбай пад пахаю. Той, убачыўшы чысцюткую падлогу, самаробны, але вабны ходнічак, белую печ, свежыя фіранкі на вокнах і белы абрус на стале, зноў не ўтрываў здзіўлення:

— Тваё жытло?

— Маё-маё. Праходзь, чаго затаптаўся? Чысціні збаяўся?

— Не тое, што чыста — вылізана! Плюнуць няма куды!

— Заходнікі, Іванавіч, любяць лад! Набожныя, гарэлкі амаль не п'юць, не мацюкаюцца!

— Сумныя людзі, Лукіч!

— Своеасаблівыя.

— І гавораць дзіўна. Здаецца, па-нашаму, але шмат чаго я не разумею.

— Гэта, Іванавіч, такая беларуская мова,— патлумачыў Кураглядаў, а пасля, калі госць скінуў выцерты запылены шынель, прыткнуў яго на лаве ў парозе, застаўся ў выцвілай і зашмальцаванай гімнасцёрцы, пасміхнуўся: — І праўда: таран ты! Жывот — каля спіны!

— Не хлушу, Лукіч, агаладнелі,— пахмурна пахітаў галавою Сяргееў.— Сталі мала на людзей падобныя. Як якія дзікія туземцы. Ён з зайздрасцю агледзеў яго поўныя шчокі, дзябёлыя плечы і досыць напхнуты ўжо жывот пад афіцэрскім мундзірам і папругаю, дыхтоўныя сінія галіфэ і хромавыя боты.

— Што ты хочаш, Іванавіч. Вайна...— Пахітаў галавой і Кураглядаў, хаваючы позірк.— Калі б не яна, праклятая, то інакш жылі б. Багата, прыгожа, весела.

У гэтую хвіліну пачуўся тупат, а неўзабаве сюды хуценька, лічы, убегла Франя ў сваім звыклым чорным паўсачку. Адразу завінавацілася:

— Выбачайце, не агледзела, што вы ўжо дадому пайшлі.

— Нічога-нічога,— супакоіў яе Кураглядаў.— Вось знаёмы нарыхтоўшчык з Вянкоў завітаў, дык мушу пайсці трохі раней з работы. А ты зрабі нам што-небудзь на зуб узяць.

Наўмысна не сказаў, што госць — ягоны аднавясковец. Не варта, па-першае, каб ведалі, што гэты нехлямяжы чалавек — зямляк, а па-другое, пачнуць яшчэ пра тое, што не трэба, распытваць у таго.

Франя, толькі кіўнуўшы госцю, ведаючы, што нельга абы-куды ўсоўваць язык, моўчкі і ўвішна дастала з печы чыгунок, вялікай драўлянай лыжкай начэрпала з яго ў гліняныя місы духмяных буракоў з капустай, костачак з мясам, потым абгарнула чыгунок анучкай, ашчаперыла яго далонямі і наліла ў місы тлустага шчолаку. Затым дастала з печы яшчэ адзін чыгунок і ў іншыя гліняныя міскі наклала з яго тушанай бульбы з салам. Кураглядаў быў спакойны, стрымана мыў у парозе над мядніцай рукі, а Сяргееў, як бачыў, не зводзіў з місак

зачараванага позірку, раз за разам каўтаў сліну. А калі паклікалі яго таксама памыць рукі, то, здаецца, дрыжэў ад хвалявання і голаду.

Калі Франя запытальна зірнула на яго, што яшчэ трэба, Кураглядаў загадаў:

— Дастань з пограба мех бульбы і кошык бручкі, буракоў ды моркві. Потым можаш ісці дадому. Я сам прыбяру са стала.

— Добра,— прамовіла тая і падалася з хаты.

— Канспірацыя! — падняў палец угору Кураглядаў, усміхаючыся Сяргееву.— Ты — мясцовы, з нашага раённага горада. Ясна?

Той не зважаў на яго словы, як кажуць, ужо еў вачыма тое, што было на стале. Кураглядаў схадзіў у залу і прынёс адтуль падараваную ўчора хатаўскім чалавекам паўтарачку гарэлкі, дзве чаркі. Вырваў зубамі корак, наліў празрыстага пітва.

Сеўшы, Сяргееў пазіраў са здзіўленнем і на гэтыя чаркі:

— Як і ў Еўропе!

— Тут, Іванавіч, калі п'юць, дык не з рыла і нават не са шклянак альбо кубкаў,— пасміхнуўся Кураглядаў.— А вось з такіх панскіх кілішкаў.

— Дык і ты барын ужо! — паліслівіў Сяргееў, ужо не могучы справіцца са слінай.— Каб не быў у Германіі, дык і не ведаў бы, як браць гэтыя чаркі, нажы і відэльцы!

— Ну давай, Іванавіч, вып'ем па-зямляцку за тое, што жывыя ў ліхалецце засталіся, што сустрэліся як сябры.

Сяргееў дрыготкай рукою нязграбна — не пальцамі, а ўсёй далонню — узяў чарку на доўгай ножцы з пятаком на канцы, дакрануўся да яго чаркі і кульнуў з яе ўсё сабе ў рот. Неўзабаве акуратна ставіў кілішак на стол, але вочы яго вырачыліся, а рот разявіўся. Толькі калі занюхаў хлебам, выдыхнуў з піяцкім задавальненнем:

— Спірт!

— Не, Іванавіч,— усцешана ўсміхнуўся Кураглядаў.— Мясцовая паравая, перагнаная гарэлка.

Сяргееў толькі хітнуў галавой (не гарэлка, а агонь!) і накінуўся на капусту. Апякаў рот, зяхаў, але сёрбаў лыжка за лыжкай.

Пазней, калі кульнуў яшчэ некалькі чарак, спатоліў голад, не столькі ўдзячна, як няшчыра палез лашчыцца:

— Ну, Афонька! Барын! Яй-богу, барын! З панскіх чарак п'еш, шчы жырныя, картошку з салам колькі хочаш навaрачваеш! Вунь якія кавалкі сабаку кідаеш! Пакаёўку, як зразумеў, трымаеш!

— Што — мы не маем права тут кіраваць, добра пажыць? — акрыліўся падпіты, але яшчэ з ясным розумам Кураглядаў.— Мы ж вызвалілі іх ад буржуазіі, нясём ім святло, новае жыццё! Мы пралівалі сваю кроў!

Ён асабліва зычна вымаўляў гэтае «мы»: з аднаго боку, сюды, да гэтага «мы», прымешваўся і Сяргееў, але, з другога боку, не, да гэтых «мы» адносіліся найперш ён, Кураглядаў, і іншыя, вышэйшыя, са становішчам людзі, да якіх Сяргееву, зразумела, было далёка.

— Барын! — цягнуў адно і тое ж Сяргееў. Лічы, на вачах касеў, дык палезла-паперла з яго ўсё тое, што дагэтуль стрымліваў.— А мы там — галота і цямнота. Ядзім тое, што ядуць свінні. І я з сям'ёй, і твая Маруська.

— Пацярпіце — хутка палягчэе.

— Калі? Каму? — лыпаў бялёсымі вейкамі, тыцкаўся яму ў плячук Сяргееў.— Што ні кажы, нас пакінула без хлеба не толькі вайна. Найперш нас агалілі ўлада, калгасы, Афонька... Глядзі: тут не было гэтай напасці, людзі ўсё страцілі ў вайну, будуюцца, а ўжо з хлебам! Бо тут кожны сам сабе гаспадар, робіць для сябе, а не для чорта лысага альбо для нейкай ненажэрнай прорвы.

— Не многа тут таго хлеба.

— Колькі ні ёсць, але ёсць. А ў нас няма зусім,— ап'янелы Сяргееў надзіва ўчэпліваўся за самае балючае.— У нас... Вось летась амаль усё калгаснае зерне забралі ў раён, у Дзёгцеў. Згрувасцілі ў адну кучу пад адкрытым небам, а тут — дождж... Усё ляснула. Калгасы, далібог, калгасы давялі нас да торбы. Ленін даваў нам некалі зямлю, а Сталін яе забраў. А што значыць селянін без сваёй зямлі? Што значыць дзяржава без сапраўдных гаспадароў? Я ж быў у Еўропе, бачыў...

— Хто — хто, а ты, Іванавіч, не вельмі цягнуўся да зямлі.

— Я — не. Але цягнуліся іншыя — працавітыя, талковыя. Яны накармілі б і сябе, і ўсіх. Дык не. Разагналі, пабілі іх. Пакінулі адных гарлапанаў і абібокаў...

— Цыц! — абарваў яго Кураглядаў.— Маўчы, дурань, калі хочаш галаву на карку насіць! Ты што — такую страшную агітацыю развёў!

— Якую — «агітацыю»? Праўду!

— Дурную «праўду»!

— Непрыемную, горкую, але праўду з праўды!

— Прыкусі язык, кажу! Набяры ў рот вады, калі хочаш жыць,— хоць малодшы і гаспадар, паўшчуваў Кураглядаў.— Пацярпець трэба крыху. Ты ж быў наш першы старшыня калгаса, перадавы чалавек новай эпохі, дык умееш так, як трэба, думаць і гаварыць.

— Дурні мы з табой, Афонька. А ў Крамлі — абманшчыкі, языкачосы вялікія,— стаяў на сваім Сяргееў.— Яны ці не ўмеюць гаспадарыць як след, ці наўмысна з нас здзекуюцца, робяць нас жабракамі, каб мы за наш жа кавалак хлеба ім рукі цалавалі...

— Спыні, такую тваю, кулацкую прапаганду! — запатрабаваў Кураглядаў.— Давай яшчэ па чарцы возьмем ды пра іншае што, болей прыемнае пагаворым.

— Давай, Афонька,— нібы згадзіўся перамяніць гутарку той.— Жулік, лабатрас ты быў, але во... начальнікам стаў! — Палез цалавацца, а калі яшчэ выпіў, дык «аддзячыў»: — І за што цябе так узвысілі? Няўжо тут няма сваіх вартых людзей?

— Дыялектыка, Іванавіч. Мяне ўзвысіла вайна, мая бальшавіцкая свядомасць. Адказную пасаду мне даверыла партыя.

— А чаму мяне вайна не ўзвысіла? Быў хамут — і застаўся хамут,— захліпаў Сяргееў.— Вайна... Нам жа гудзелі ў вушы: яе не будзе, а калі яна пачнецца, дык разгарыцца на чужой зямлі і мы абыдземся малою крывёю. Так дадзім, што вораг дзесятаму закажа!

— І далі!

— Калі і як — «далі»? Калі нас прыперлі да самай Масквы! Калі ўсю дарогу да яе і ад яе заслалі нашымі людзьмі!

— Што да адступлення, то гэта была наша тактыка, Іванавіч. Наўмысна заманьвалі ворага ўглыб, як некалі Напалеона. А што да ахвяр, дык яны дапусцімыя. Яны, як бачыш, ды наш гераізм прынеслі нам вялікую перамогу.

— Падбрэхіч ты, Афонька! Гад! Сволач!

— Ну, дзякуй! За маю дабрыню!

— Ты — «добры»? Што, як барсук, зашыўся тут, п'еш-жуеш, Маруську з мальцам на галодную смерць кінуў? Ці ты завёў тут сабе цыпу?

— Закрый хлябала! — бухнуў кулаком па стале Кураглядаў, не рады, што прывалок дадому вось такога няўдзячнага свінчука, пасадзіў за стол, а той лезе туды з нагамі.— Па мордзе захацеў? Вон пайсці? Альбо хочаш, каб я зараз пазваніў куды-небудзь і здаў цябе як міленькага? Калі здам, дык ведай: ні ордэнамі, ні медалямі не ўратуешся, пойдзеш у Сібір марозам вымарожваць з сябе заходнюю заразу!

— Афонька! — кінуўся ад страху, абслініў яго Сяргееў.— Друг! Ды я ж люблю цябе, чорта... Не вытрываў... Панімаеш, заела. Крыўдна мне, баліць душа. За ўсё-ўсё...

— Кажу ж, будзь мужчынам, пацярпі. Хутка палягчэе.

— Калі?

— Хутка.

— На святое ніколі...— зморшчыўся Сяргееў.— Зрэшты, хрэн з ім усім! Давай яшчэ вып'ем, Афонька!

— Кідай ты гэтае «Афонька-Афонька»! Я ж не пацан табе!

— Лукіч! — упёрся той лобам у яго плячук.— Вып'ем! І песні паспяваем. Нашы, франтавыя. Хоць ты і тылавы пацук.

— Я — не тылавік, я — партызан! Народны мсціўца!

— Помсціў, схаваўшыся пад бабскаю спадніцай!

— Ты гэта, друг сітцавы, кінь! — Кураглядаў зноў узвіўся, схапіў кволага субяседніка за гімнасцёрку, што з яе пырснула некалькі гузікаў. Ад злосці забыў, што гэта свой чалавек, лічы, радня тут, уяўляў яго найпершым непрыяцелем.— Я ваяваў, як і ты. Сырэў, мёрз, галадаў, хадзіў кожны дзень па вастрыі брытвы, трапляў пад аблавы, засады і бамбёжкі! Я хадзіў на небяспечныя баявыя заданні. Я... Таксама, каб ты ведаў, ордэн, медалі маю!

— Я ж не супраць,— ледзьве выдыхнуў Сяргееў.— Але франтавікі жартуюць...

— Я не дазволю так жартаваць,— кіпеў уз'юшаны Кураглядаў.

— Не буду, не буду, Лукіч,— залепятаў той.— Адпу-сці, ка-лі ла-ска. Я ж твой друг. З аднаго сяла. З бядняцкай, лічы, пралетарскай сям'і. Дык хіба я вораг? Уладзе? Табе? Я ж першы старшыня калгаса быў! Я Сталіна люблю, як бацьку!

## 10

— Анкеты нашы чыстыя, Лукіч,— загугнеў затым, пасля новай чаркі, Сяргееў.— Канечне, невыпадковаты тут начальнік! Так сказаць, праваднік у жыццё нашай лініі!

— Я тут мясцовы Калінін.

— Ага, Лукіч, Калінін-Калінін!

Госць даверліва прытуліў галаву да яго галавы, нібы найлепшы сябра альбо нават брат, абняў. Кураглядаў расчуліўся: вось цяпер зямляк сапраўды паводзіць сябе па-зямляцку.

— Ты ж, Лукіч, з такога балота! Дурань з дурняў!

— Ну... З балота, дурань, але не тупы. Іначай не трапіў бы ў наменклатуру!

— Дуб!

— Але зялёны!

— Я, Лукіч, пра тое, што сям'я ваша была вялізная, а хата, гаспадарка былі зусім малыя, нікчэмныя. Жылі разам дзед і баба, твой бацька і маці, яшчэ два жанатыя бацькавыя браты. Колькі ж вас, малечы, было ў тваіх бацькоў?

— Дзевяцера.

— Дзевяцера. А ўсіх вас, мусіць, было не меней дваццаці пяці. Як цяпер бачу, спалі ўсюды: на печы, на палках, на куфрах, на падлозе. Як палягуць усе, не прайсці. Начадзяць за ноч — раніцай, выбачай, Лукіч, можа, не зусім цэнзурна, не дыхнуць, галаву ў бакі водзіць. Елі па чарзе. Спачатку дзед з сынамі, потым — баба і дзеці, пасля іх — нявесткі. Так, Лукіч?

— Так, Іванавіч.

— Душыліся ў цеснаце, бо не было як дзяліцца. Жылі перабіваючыся з хлеба на квас. Як твой дзед гаварыў: «Стужа да нужа — нет

іх хужа; холад ды голад — не легча таго». Помніш?

— Помню.

— Грызні, боек, канечне, хапала,— гаварыў захоплены ўспамінамі Сяргееў.— Не толькі мужчыны, але і бабы, бывала, адна на адну з кулакамі, з чапёламі кідаліся. І не толькі вы адны так жылі, але і мы, і іншыя. І ваабшчэ... Ні радыё, ні кіно не бачылі. Самае вялікае — выпіўкі па вялікіх святах альбо царква. Але аптымізм наш быў высокі, Лукіч. Якраз мы заўсёды былі класава свядомыя, першыя ў калгас пайшлі, па багацеях ударылі...

— Не толькі ўдарылі — разам з упаўнаважаным Бяздомным выкарчавалі іх пад корань!

— Мы, Сяргеевы, любілі прыходзіць да вас. Любілі паслухаць твайго дзеда Хвядота, верхаводу на нашай вуліцы. Помніш, ён вельмі любіў баяць, як служыў у царскай арміі, калі і з кім з «высшего общества» знаўся, піў гарэлку.

Кураглядаў напружыўся — і нібы пачуў тагачасны дзедаў голас:

«Помню, сядзім мы, рускія маракі, у Севастопалі ў шынку з французскімі маракамі. Ясна, на стале — мора пітва (гарэлка, каньяк, ром, лікёр, чаго вы, цемра ветраўская, ніколі ў вочы не бачылі) і горы закусі... П'ём, перамаўляемся на мігі: хто каго перап'е! Карацей, ранапозна ўсе пападалі мордамі на стол, трымаемся толькі французскі капітан і я... Куляем фужэрамі: ён — фужэр і я — фужэр, я — фужэр і ён — таксама... Словам, так я падагнаў мусьё, што ён не толькі паў, але згарэў ад гарэлкі... Я ж за яго душу яшчэ наверх адзін фужэр смалянуў...»

Альбо:

«Помню, сядзім мы ў шынку разам з графам Львом Мікалаевічам Талстым, п'ём, гаворым пра вайну ў Крыме...»

— Брахаў шмат твой дзед, Лукіч,— перапыніў яго міжвольныя ўспаміны Сяргееў.— Але брахаў, халера, прыгожа!

— Гаварыў, што, напіўшыся, з чортам размаўляў...— сказаў Кураглядаў.

— Паверу, бо і я з чортам абдымаўся... Тады, калі старшынёй калгаса быў... Але, Лукіч, ёсць і паганыя нашы землякі. Вось Лыкавы, з якімі ты пароднiўся. Цёмныя, панурыя, злыя і, скажу табе чэсна, нібы пустым пыльным мяшком сцебанутыя. Вось цешча твая, Фёкла. Дурніца, любіла ўспамінаць, як яна адзін раз была ў горадзе, начавала ў сяброўкі па дзяцінстве. Легла яна на печы. Сяброўка, падслепаватая жанчына, кажа ёй: «Фёклачка, чаго ж легла абутая? Разувайся, у хаце цёпла».— «Ды я, мілачка, разутая».— «Дык жа, Фёклачка, чуні на табе».— «Ды не, мілачка, то мае ногі такія».— «О, божа! Хіба ж можна так загужавець!» Фёкла расказвала з гонарам пра сябе і асуджала сяброўку-чысцёху. А цесць твой... Як малы быў, злавіў ката, падвесіў яго да дрэва і падпаліў. Кот дзіка заенчыў, ірвануўся і, увесь у агні, шуснуў пад страху гумна, дзе было сена на зіму. А, абы з кім ты звязаўся, Лукіч!

Кураглядаву спадабаліся гэтыя справядлівыя словы, але ён абачліва змаўчаў, параіў толькі яшчэ выпіць. Калі ён прынёс яшчэ адну пляшку, Сяргееў усцешыўся:

— І куплёную маеш!

— Маю, Іванавіч. Вып'ем за наша шчаслівае жыццё!

Выпілі, спрабуючы падчапіць відэльцамі астылыя скрылікі бульбы.

— І мне, Лукіч, усё жыццё не шанцавала на баб,— паспачуваў Сяргееў.— Ужо жанаты, мужчына, павёз я аднойчы ў горад прадаваць парасяты. Прадаю патроху. Апошнюю свіначку купіла маладая дамачка. «Гаспадар,— кажа мне вельмі ж ласкава, апускаючы вочкі,— будзь добры, падвязі парася да майго дома».— «А што будзе?» — скалю зубы, як і кожны заскаліў бы. Баба, брат, дык баба: твар як

пісаны, гладкая, спераду і ззаду ўсяго многа! «Пляшку, жаркое пастаўлю». Жаркое — дык жаркое. Спакусіўся, павёз тое парася. Занёс яго ў хлеўчык, зайшоў у дом. Яна — праўда, ставіць на стол пляшку, дастае з печы патэльню. Але толькі наліла чаркі, толькі я яе за мяккае месца ўшчыкнуў, як выходзяць з суседняга пакоя тры дурылы. Карацей, прыставілі да майго горла нож і абчысцілі мае кішэні. Я, ясна, маўчаў, але, чорт ведае як і ад каго, пра гэта ўведалі ў вёсцы. Колькі пазубаскалілі, колькі мая Анютка мызу мне драла, чыркала тупой пілою! І на вайне... Многія гулялі з медсёстрамі, прачкамі — хоць бы што, сыходзіла з рук, я адну з авіяпалка толькі пагладзіў — ледзь не запёрлі ў штрафную роту... Жыў ці не жыў, бачыў што добрае ці не бачыў — не ведаю... Не ўтрымаўся я ў сядле яшчэ тады, у трыццатыя, зляцеў на скаку. І тое, што ваяваў, фашызм дабіваў у логаве і Еўропу вызваляў, не спрыяе. Быў цёмны мужык і ёсць мужык, не ўцёк ад чорнай сялянскай працы, ад знаёмых нястач. Ты вось, Лукіч, спрытнейшы! Фраер! Не — нават прыдурак!

— Я, Іванавіч, лепш улавіў дыялектыку жыцця! — адказаў Кураглядаў.— Помніш, новая ўлада нам дала зямлю? На, бяры — працуй, багацей. Тады наша вялікая сям'ішча падзялілася, мой бацька і яго браты пачалі жыць асобна. Старэйшы дзядзька, Яўграф, зашчыраваў, як кажуць, хутка апрыўся, куркулём стаў, дык яго пазней сход беднаты пастанавіў раскулачыць і выслаць з Ветрава.

— Сход «беднаты», «пралетарыяў»! — хмыкнуў Сяргееў.— Гэта так нам, дурням, тады ў галаву ўбілі! Па-сённяшняму — сход усіх няўдаліц, гультаёў і зайздроснікаў на чужое дабро! Яны пастанаўлялі «абашчэствляць» не толькі «арудзія труда», быдла, але і кажухі, валёнкі, маслабойкі, самавары, радыё — усё, чаго самі не мелі!

— Ну ты! Фармулюруй як след!

— Скажы чэсна, Лукіч: не з-за зайздрасці ты асабіста нават Яўграфа, дзядзьку, трыбушыў?!

— Не! Найперш з-за класавай свядомасці. Кажу ж, я змоладу адчуў дыялектыку...— «ідэйна» апраўдаўся Кураглядаў. У яго было ўжо за правіла: чым болей выпіваў і чым болей мог абы-што мянціць дурны язык, тым болей ён змушаў сябе прамаўляць толькі бальшавіцкімі лозунгамі. Гэта берагло і беражэ яго ад небяспечных даносаў.— Я свядома памагаў дзядзьку выкарчоўваць. Як кулака. Як варожы сацыялізму элемент.

— Які ён кулак?

— Кулак! Уласніцкае, а гэта значыць буржуазнае нутро ў яго было, кулацкая філасофія і псіхалогія, нянавісць да калгасаў і ўвогуле да нашага ладу.

— Не, Лукіч. Гаспадар быў Яўграф! Дбайны і талковы!

— А я кажу: кулак! Ён майго бацьку-бедняка не любіў, прылюдна класава абражаў: абібок, табе нельга даваць зямлю! Ты толькі марнуеш яе! Калі хочаш хлеб круглы год есці, аддай зямлю мне і ідзі да мяне ў парабкі!

— Хіба гэта не праўда, Лукіч? Яўграф накарміў бы і сябе, і вас, і яшчэ шмат прадаваў бы!

— Бацька мой не меў уласніцкай прагнасці, не нёс патэнцыяльнай пагрозы сацыялізму і камунізму. І нас да яе, прагнасці, не вучыў.

— Помню,— пахітаў галавой Сяргееў.— Ты змалку ўхіляўся ад чорнай работы, але спрабаваў уварваць лепшы кавалак. Змоладу цягнуўся да піянераў і камсамольцаў, тачыў зубы на чужое дабро, лез на сходах языкачосіць. Спачатку з цябе пасміхоўваліся: як казаў твой дзед, мальчышка, жаўтароцік, а пасля баяцца пачалі. Убачылі: ты і бацьку роднага ўтопіш у лыжцы вады, абы карысць сабе мець.

— Я рана паказаў усім: я — не жаўтароцік, не олух, я — барацьбіт за новы лад, я — сіла, звязаная з вялікай вышэйшай сілай! — заківаў пальцам Кураглядаў.— Мяне, Іванавіч, Бяздомны, наш камсамольскі важак, што прыехаў з горада, агледзеў і настроіў на патрэбны лад. Якраз па яго падказцы я і на дзядзьку Яўграфа напаў, засведчыў сваю свядомасць і адданасць, і табе, старэйшаму, памагаў калгас у Ветраве ўсталёўваць.

— Памагаў, Лукіч. Сярдзітыя мы з табой былі на кулакоў і на іхняе дабро. Помніш, колькі іхніх кажухоў, валёнак, коўдраў сабе забралі, а то прапілі? А мёду, зерня? Аднойчы ты нават ледзь не згарэў ад гарэлкі.

— Малады зусім быў, не загартаваны.

— А я...

— Не крыўдзься, Іванавіч, але ты не ўмееў мысліць дыялектычна,— перапыніў яго Кураглядаў.— Ты не народжаны для наменклатуры. Ты то задумваўся, то перажываў, калі мусіў рабіць не тое. Ведаючы, што нічога не зменіш, што цябе многія асуджаюць, ты заліваў душу гарэлкай, падаў, як кажуць, з трыбуны і цвёрда не вёў лінію. Піць — пі, але... Прачынайся, пакутуй ад учарашняга, ачухвайся і гні-гні лінію далей! Цісні, даві ўсіх незадаволеных і няўгодных! Калі трэба, то — і свайго дзядзьку ды бацьку! Вось тады ты — кіраўнік!

— Спачатку і я, Лукіч, не шкадаваў нікога і нічога, рабіў усё, што загадвалі,— захліпаў Сяргееў.— Але я ці то адумаўся, ці то паў духам, калі мяне пасадзілі. За тое, што быў занадта паслухмяны, што мая башка «закружылася ад поспехаў». За тое, што не сябе, а мяне зрабілі дурнем, ворагам у вачах сваіх людзей! Хіба за гэта яны не змеі? Не паганцы? Не прахвосты?

— Але ж цябе хутка выпусцілі.

— Зміласцівіліся. Але ў душу наплявалі. Нават больш — мяне зламалі. Свае ж, «дарагія і родныя». Спажылі і з агідаю адкінулі!

— Ерунда! Каб ты лепш зразумеў лінію, дыялектыку, служыў верна і далей, ты зноў бы падняўся. Ты ж, кажу, запіў. Па-чорнаму, дзіка, да адключкі.

— А чым іншым, скажы ты мне, разумны, наш чалавек можа заліць боль змучанай душы?

— І я, Іванавіч, не святы, як ты кажаш, часамі заліваю гарэлкай свае пакуты, але ад лініі не адстаю, не збочваю, устойваю на нагах на ўсіх паваротах.

— Я — нягоднік, а ты — гад, вырадак! Падліза! Падбрэхіч! Сучка! Каб не такія сволачы, як ты...

— А ты — асёл! Баран! Абэлтух! — Кураглядаў схапіў земляка за грудзіну, але той ужо не збаяўся яго гневу: быў амаль непрытомны, толькі боўтаў галавой ды час ад часу лыпаў вейкамі, гадаючы, дзе ён і з кім. Бачачы гэта, Кураглядаў павалок таго ад стала ў суседні пакой, але апусціў не на ложак, а на хаднік каля яго: ведаў, што п'яны госць можа набурыць у пасцель.

Сяргееў яшчэ штосьці адчуваў, мармытаў, спрабаваў брыкацца нагамі, але ні з сабой, ні з ім саўладаць ужо не мог.

Кураглядаў жа накіраваўся зноў да стала. Ён мог і хацеў кульнуць яшчэ чарку-другую. Але толькі ўзяўся за пляшку, як застукалі з цёмнага двара ў шыбіну.

Хітнуўся за акно, намацаў у кішэні наган:

— Хто?

— Мы, Лукіч. Друззя.

Клопікаў і Навуменкаў.

— Што вы хочаце?

— Хочам зайсці да вас, Лукіч. Пагаварыць,— адказаў Клопікаў.

— Мяне няма дома.
— А хто ж гаворыць?
— Дамавы.
— Лукіч! Пусці!
— Прэч!
— Нуй сволач жа ты, Лукіч! Без нас п'еш!
— Што!!! — зароў ён, адчуваючы, што тыя дагэтуль стаялі каля акна і падцікоўвалі.— Заб'ю!

Кінуўся ў сенцы. Але калі выскачыў на ганак, то калег і падначаленых не ўбачыў. Чуў: тупаюць ужо за домам. Прыстрашыў наўздагон:

— Я — вам! Самі вы — сволачы!

Пастаяў, хістаючыся, каля плота, адчуваючы і сваю ўладу, і сваю крыўду на п'яных Сяргеева і Клопікава, што абразілі яго, начальніка. Штосьці пад'юшчвала дастаць наган, стрэліць у паветра, паклікаць варту, усю вёску, сабраць людзей і сказаць ім вельмі важную прамову, каб яны, няўдзячныя, ведалі, як трэба жыць далей, як паважаць уладу і яго. Ён дастаў наган, сціснуў рукаятку, але ў апошнюю хвіліну стрымаўся і не стрэліў.

«Не зразумеюць жа нічога, чэрці...— Пашкадаваў сябе.— Ладна, шляхта, спіце, сапіце ў дзве дзюркі — нідзе не дзенецеся. Я яшчэ скажу вам сваё слова...»

Схаваў наган, задраў галаву ўверх і зірнуў у начное цёмнае, ні то нізкае, ні то бяздоннае неба. Нічога, апроч акіяну цемры, не ўбачыў, толькі чуў, як ад узбуджанай крыві шуміць у галаве. Нечакана нават для сябе — ці то ад журботы, ці чорт ведае ад чаго — працяжна і надрыўна завыў па-воўчаму, даючы ход з душы ўсяму свайму патаемнаму і змрочнаму...

## 11

Сяргееў паехаў ад яго праз некалькі дзён. Лепш сказаць — толькі праз двое сутак удалося, лічы, выпхнуць яго з хаты.

Кураглядаў пачаставаў яго да адвалу, падарыў торбу і мяшок дабра, даў падводу, каб ён усё сваё сабранае завёз у Стоўбцы, напісаў для жонкі пару слоў і папрасіў Сяргеева лішне не балбатаць пра яго, але адчуваў: калі той вып'е, не толькі ўсё раскажа, што тут бачыў і чуў, але і яшчэ абы-чаго напрыдумляе: кожны падарожны любіць з фантазіяй расказваць пра свае прыгоды. Гэтая пагроза, а таксама і тое, што яму нядаўна, на днях, нагрубіяніў п'яны Клопікаў, псавала настрой, і Кураглядаў быў апошні час змрочны і злы. Хмурыўся на гаротную Валю, піхаў-біў, як ката, няўдалага Мішку, не дапускаў на вочы Клопікава, хоць той лез пішчом, ліслівіў, аж непрыемна было. Ён адчуваў: трэба нейкі час, можа, нават і некалькі дзён, альбо варта добра «забутыліць», каб «прайшла бура», каб ён супакоіўся і зноў стаў лагодны. Да новай добрай выпіўкі і да непрыемнага апахмелку. Адпаведна, сельсавет, Янкавіны ў гэтыя дні былі напружаныя, пацішаныя і чакалі самых розных нечаканасцей ад яго раз'юшанага гневу.

Як вясновыя праменні падточваюць вадой снег, так і яго дрэнны настрой скрануў, змусіў палепшыцца тэлефонны званок старшыні суседняга сельсавета, былога саслужыўца, гаваркога і вясёлага Курлова.

— Кіруеш, дзядзька Апанас? — павітаўшыся, жартам запытаў той.

— Ды, разумееш, шмат усякай драбязы...— паскардзіўся ён, хоць

у гэтую хвіліну сядзеў за сваім сталом і не ведаў, што рабіць, нудзіўся ад суму. Хоць бы якую паперку прынесла Валя, хоць бы зазірнуў Мішка, каб за штосьці накрычаць на яго.

— Работа — не воўк, у лес не збяжыць. Ды яе ўсю не пераробіш. Так?

— Можа, і так,— згадзіўся, мякчэючы душой.

— Дык што, дзядзька? — таямніча, але са знаёмымі ноткамі ў голасе запытаў Курлоў.— Можа, развеемся?

— Ёсць дзе?

— Ёсць.

— Вартае ўвагі?

— Вартае.

— І...

— І — «і»...— наперад знаючы, пра што ён хоча запытаць, адказаў той.— У нас усё павінна быць і «і»... Так што чакаем у вызначаны час на вызначаным месцы...

Калі паклаў трубку, Кураглядаў набраў на поўную грудзіну паветра, пабухаў кулакамі сабе па рэбрах, а потым выдыхнуў. Тое, што і сёння параіў Курлоў, узбудзіла. Сапраўды, тое развее. Хоць...

Не паспеў дадумаць, як у дзверы далікатна пастукалі. Калі дазволіў зайсці, утаптаўся Клопікаў. Ці здаровы звыш меры, ці з адмысловым тварам выпівохі — вунь і шчокі, і кончык тоўстага носа чырвоныя. Зірнуў на яго асцярожна, запытальна:

— Не дужа заняты, Апанас Лукіч?

— Што табе трэба? — груба запытаў на пытанне ён.

— Чалавек з Хатавы прасіў жа сёння дзіця запісаць...

— Няхай прыходзіць сюды і запісвае.

— Ён меўся прыйсці, але я адгаварыў, сказаў, што самі прыедзем...— Панізіў голас, як і раней, у добрую згоду, пачаў заварожваць: — Ён пару гонак выгнаў, парсючка на хрэсьбіны закалоў...

— Ну, а ты тут пры чым? У цябе, здаецца, іншая работа,— абарваў яго.— Калі я паеду, каб уважыць чалавека, дык з тым, з кім трэба. З сакратаром сельсавета.

Клопікаў занерваваўся, пачаў папраўляць на сабе салдацкую гімнасцёрку, папругу: яго хітры ход даваў асечку.

— Ну, я хачу суправаджаць вас. Каб нішто непрадбачанае не здарылася.

— Я сёння заняты,— буркнуў ён, адвёў вочы і пачаў мацаць позіркам стол. Нібы тут яго чакалі важныя паперы.

— А заўтра, Апанас Лукіч?

— Да заўтрашняга яшчэ трэба дажыць. А па-другое, менш думай пра асабістае, больш дбай пра работу. Усё ж слаба спаганяеш пастаўкі. Сам змушаеш, каб я прыняў супраць цябе меры...

Клопікаў патаптаўся, а потым, як пабіты, пакінуў кабінет.

«Няхай паперажывае трохі... А то абнаглеў ужо».

Кураглядаў наўмысна засядзеўся — не выходзілі, чакалі, калі ён рушыць з сельсавета, і астатнія. Калі вярнуўся дадому, завохкаў, пачаў маніць Франі, што прастудзіўся, што хоча раней легчы ў пасцель. Адмовіўся ад яе паслуг, ад зёлак, якімі яна ўжо не раз выганяла з яго хваробы, адаслаў яе з хаты. Праўда, калі ўцямнелася, колькі разоў запальваў і тушыў лямпу, каб варта, усе ў вёсцы бачылі: ён дома. Затым, калі паступова вёска ўлягласся, у адно злілася з ноччу, замкнуў дома паслухмяную аўчарку і ціха выйшаў з хаты. Крыху пастаяў на ганку, прыслухаўся і, пачуўшы, як паблізу, перад сельсаветам, перакінуўшыся словам-другім з кімсьці з позніх прахожых, пратупаў вясковы вартавы з сабакам, асцярожна крадучыся, па прывычцы добра бачачы ў цемнаце, загуменнем, а пасля па поплаве пакрочыў за вёску — да пагонкі, што вяла да крычатоўскага лесу.

Неўзабаве за развілкаю (адна дарога вяла ў суседнія Крычаты, другая — у Пруды), у сасновым падлеску, сышоўшы з дарогі і затаіўшыся, даволі доўга стаяў і напружана ўслухоўваўся: ці не пакоціцца па лесе і пачне набліжацца калёснае тарахценне.

Калі дачакаўся адпаведнага шуму, дык адразу стрымгалоў не вымкнуўся на дарогу: ехаць маглі і чужыя людзі, у тым ліку і лесавікі. Праўда, тут яны заяўляюцца рэдка, вельмі не сваволяць, калі прыходзяць, дык ціха і да патрэбных людзей, атабарыліся за Налібакамі, дзе большыя і гусцейшыя лясы і робяць рэйды ў болей далёкія вёскі. Трэба сказаць, з уладаю асцерагаюцца счэпліваецца (праўда, аднаго старшыню сельсавета забілі-такі і яшчэ па двух стралялі), а вось усіх тутэйшых участковых трымаюць у заўсёдным страху і даволі часта па іх бабахаюць. Не ўсе з іх нават начуюць дома. Ужо сёлета чатыры з іх пайшло на той свет, два ці тры параненыя.

Калі калёсы прыпыніліся непадалёку і з іх пачулася знаёмае савінае куганне, Кураглядаў з палёгкай уздыхнуў, выйшаў са схованкі і ўжо не столькі вачыма, колькі адчуваннем разгледзеў: свае. Невысокі, мажны Курлоў і іхні ўчастковы Лявонаў — праўда, цяпер, канечне, у цывільным. Сёння з імі была яшчэ адна жывая душа — сабака. Ён ляжаў на калёсах, і яго, здаецца, за ашыйнік трымаў Курлоў і супакойваў, каб той лішне гучна не гірчэў на чужога чалавека:

— Тише, подруга, тише.

— Нашто пёс? — здзівіўся Кураглядаў, падаючы руку Курлову, а затым і расламу Лявонаву.

— Гэта не ён, а яна,— загадкава адказаў Курлоў.— Нашто — убачыш пазней.

— У Лукіча ў печані засеў страх ад начнога сабачага брэху...— пахмыльнуўся добра знаёмы абодвум Лявонаў.— Асабліва ў час гаспадарчых аперацый...

— А ў цябе — не? — агрызнуўся Кураглядаў.— Ты не даваў драла ад паліцаяў, калі тых падымалі на ногі сабакі? Не раз і не два вяртаўся з-за сабак з пустымі рукамі? Мала іх ты перастраляў за вайну?

— Ты ж, Лукіч, любіш мысліць і паступаць «дыялектычна»,— пасміхнуўся Курлоў,— дык няўжо не разумееш: у пэўных выпадках сабака можа быць не толькі ворагам, але і другам?

— Ладна, філосафы,— абарваў ён кпіны.— Скажыце: куды накіроўваемся сёння?

— У Пруды,— адказаў Лявонаў.

— Блізка...

— Далей — небяспечна. Узмоцненая ўсюды варта, ёсць тайная сувязь па рацыі з раёнам...— зноў патлумачыў Лявонаў.— Нават я не ведаю, дзе і ў каго перадатчык. Яго ўстанавілі не з міліцыі, а з органаў бяспекі.

«Божа, і тут, у Янкавінах, энкэвэдэ дала камусьці рацыю? — пахаладнеў ад нечаканай навіны Кураглядаў.— Але каму? Клопікаву? П'яніцу? Не. Навуменкаву? Ненадзейнаму элементу? Дык каму? Можа, новай настаўніцы, зусім цывільнаму чалавеку? Але ж яна яшчэ дзяўчынка!»*

— Паехалі,— абарваў яго затрывожаныя думкі Курлоў.

Паселі на калёсы, павярнулі з крычатоўскай дарогі і пакацілі па прудской. Праўда, гэтая дарога ў Пруды была не галоўная — тая, насыпаная яшчэ за палякамі, ішла з іншага боку Янкавін, гэтая была пабочная: сюдой ездзілі ў лес, на луг, на Сядзіўную, але, аб'язджаючы хутары, можна было трапіць і ў Пруды. Якраз гэтым шля-

* Нашмат пазней тая прызналася, што сапраўды ёй чэкісты даверылі рацыю. Не столькі Мішка Супраневіч, а якраз яна, засакрэчаная, паспрыяла злавіць янкавінскіх дэзерціраў, а таксама некаторых лесавікоў. На пенсію яна выйшла з ордэнам, дэпутаткай, заслужаным работнікам асветы.

хам хадзілі і ездзілі ў бліжэйшыя вёскі, вярталіся з іх партызаны. Тут найменш, чым дзе, было рызыкі з кім-небудзь сустрэцца, а пры сутыкненні нос у нос было лёгка сігануць убок, у кустоўе і ў густы лес.

Яны аб'ехалі вось такой, малаходжанай, дарогай і Пруды — вёску суседняга, Налібоцкага ці, як тут казалі, Налібацкага сельсавета, дзе старшынёй быў добра знаёмы, але непрыязны да іх чалавек. Калі трапілі на прудскі супрацьлеглы бок, збочылі з дарогі, навязалі каня за дрэва, а самі (Курлоў трымаў на шнурку сабаку) падаліся праз кустоўе да прудскага ручая і невялікай неглыбокай рэчачкі, што пятляла пасярод лугу і лесу, а сям-там у лісцяным, найбольш альховым і яловым лесе. Мясціны тут былі нізкія, балоцістыя, дык яны, людзі, ідучы цяпер навобмацак, часта западалі ў багністыя ямкі, чвякалі ў гразі. Калі дайшлі да ручая, то не пасняшаліся адразу яго пераходзіць, наўмысна, можа, і сотню крокаў, пакуль не засцюдзянелі ногі, праплюхалі па нібы ільснянай цяпер вадзе — збіць свой след, а заадно абмыць боты.

— Выходзім на сушу,— падаў каманду Лявонаў, адчуўшы тупкі бераг. Ен жа вывеў іх у кустоўе, дзе былі куп'іныя ўзгоркі, ямкі з вадой, а потым — на патрэбны поплаў перад вёскай (улетку тут шмат белых і круглаватых, як гусінае яйка, грыбоў).

Вёскі амаль не было відаць, яна толькі адчувалася цёмнымі ценямі, адмысловым сваім цяплом і заціхлым жыццём, што, здаецца, дыхала, абвалаквала, толькі цяпер, як звычайна, не вабіла, а насцярожвала. Як і трэба было чакаць, іх учулі прудскія сабакі: спачатку падаў голас самы нядрэмны і пільны, а потым паднялі брэх і астатнія.

— Маладыя дурныя! — прамовіў Лявонаў, маючы на ўвазе, што за апошнія год-паўтара прудскія людзі, як і іншыя вакол, пагадавалі са шчанюкоў новых сабак, што не ведалі вайны і што не баяліся, як ранейшыя, брахаць на чужых людзей і на чалавека са зброяй.

Аж брала злосць: спыняліся, затойваліся — сціхаў брэх, толькі краталіся — зноў чуліся звяглівыя галасы. Вось ужо адзін ненавязаны сабака выскачыў з вёскі і, стоячы недзе паблізу плота, намагаўся адагнаць іх прэч.

— Вартаўнікоў Рэкс,— прашаптаў Лявонаў. І Курлову: — Адпускай, Кузьміч, сучку.

Курлоў нагнуўся, адвязаў матузок і адпусціў спадарожніцу. Тая, аднак, не кінулася наперад, здаецца, падтуліла хвост і ціснулася да іх, але калі Курлоў раз-другі тыцнуў яе ботам, завішчэла і рванула ў цемру. Прудскі сабака заціх і, як чуваць было, памкнуўся насустрач нечаканай госці — сутыкнуўшыся, абое спачатку загірчэлі, наваг счапіліся, а пасля, чутно было, пабеглі ўздоўж вясковых агародаў. Дзіва: раптам замоўклі і ўсе сабакі. Нібы прыслухоўваліся ўжо не да іх, а да свайго вольнага калегі і таямнічай незнаёмкі.

— Напшуд! — махнуў рукой Лявонаў, але каля плота хітнуўся ўбок, а за ім — спрытна і яны.

— Рэкс! — пачуўся непадалёку старэчы голас.— Дзе ты, каб ты здох? За зайцам альбо за лісой пагнаўся?

— Вартаўнік,— шапнуў Лявонаў.— Слепаваты, але чуе добра.

— Рэкс! Рэкс!

Не дачакаўшыся свайго памочніка, вартаўнік патупаў назад; Лявонаў, спрактыкавана прыгінаючыся і нячутна ступаючы, пакраўся ўслед за ім. Неўзабаве ён выпрастаўся, сігануў, як куля, і тут жа збіў з ног старога, заціснуў таму рот — той анямеў, нібы імгненна памёр ад страху. Праўда, калі праз хвіліну, уссеўшыся, Лявонаў заломліваў яму рукі, а яны, падбегшы, звязвалі ногі, гэты дзядзька забрыкаўся і замычэў. І, трэба сказаць, быў пруткі. Каб як след звязаць яго, прыйшлося, лічы, успацець. Калі яго ўтаймавалі, Лявонаў лоўка адхапіў далонь і ткнуў у рот старому анучку.

Калі сталі на ногі, вартаўнік ужо свядома закідаўся, захрыпеў, але, канечне, падняцца не мог. Лявонаў, падабраўшы вартаўнікову стрэльбу, павёў іх уздоўж чыйгосьці плота, а потым і гумна да магазіна — як не раз і не два бачыў Кураглядаў, ёмістага драўлянага дома на высокім пабеленым вапнай цагляным падмурку, з закратаванымі вокнамі, з высокім дашчаным, вышчарбленым на ніжняй приступцы ганка — тут, у шчыліну, як заўважаў ён, мужчыны-курцы, ідучы ў магазін, кідаюць свае акуркі. Цяпер і ў цемені адчувалася: магазінныя вокны заслоненыя аканіцамі, на дзвярах — жалезная завала. Першы падняўся на ганак Лявонаў. Запыніўся, дастаў з кішэні пінжака звязку ключоў і, як раней, нацягнуў на рукі скураныя пальчаткі, падабраў патрэбны ключ, пакорпаўся ім у замку і неўзабаве аднёс завалу ўбок.

— Стой тут, на строме,— прашаптаў Кураглядаву, а сам з Курловым падаўся ў магазін, засвяціў там ліхтарыкам, але ўсё роўна вось падазрона і па-здрадніцку там зазвінела закранутае нагамі вядро, штосьці (ці не шклянка) упала і пакацілася па падлозе. Ліхтарык бліснуў сюды, на паўзачыненыя дзверы — у яго святле, сапучы, Курлоў нёс на спіне мяшок (канечне, з цукрам). Апусціўшы з яго дапамогай мяшок на ганак, Курлоў вярнуўся ў магазін і, як пачулася, пачаў там разам з Лявонавым складаць у мех адзенне, кансервы, бутэлькі.

Курлоў папёр гэты мяшок і далей, а яму, Кураглядаву, Лявонаў памог ускінуць на спіну мяшок з цукрам. Калі вярталіся ў лес, дык угледзелі і пачулі: вартаўнік качаецца па зямлі і глуха стогне.

— На, Лукіч, гэтая стрэльба ўжо твая,— сказаў каля калёс Лявонаў, маючы на ўвазе, што ён і Курлоў маюць ужо такую зброю. Пакорпаўся ў мяшку, які нёс Курлоў, дастаў з яго пляшку і зубамі садраў з яе накрыўку.— Давайце замочым пасяховую гаспадарчую аперацыю.

— Не спяшайся...— падаў голас Кураглядаў, адчуваючы, як дробна трымцяць ногі і рукі.

— Цыц, Лукіч! — абсек яго Курлоў.— Не накаркай!

Выпілі гарэлкі. З горла пляшкі. Па чарзе. Пустую бутэльку Лявонаў засунуў у мяшок. Пасля зняў з рук пальчаткі, усунуў іх у кішэню фуфайкі.

— Ёсць, хлопцы, на прыкмеце яшчэ адзін магазін...— прамовіў, закурваючы, а потым хаваючы запалку ў карабок.

— Можа, хопіць? — запытаў Кураглядаў, адчуваючы, што гэтыя цяперашнія «аперацыі» дабром могуць не скончыцца.

— Што — зажырэў ужо? — падсек Курлоў, таксама закурваючы.

— Небяспечна...

— Пакуль ёсць лесавікі, ёсць і на каго спісаць,— супакоіў яго Лявонаў. Ухмыльнуўся.— Так што каб не было іх, дык трэба было б іх выдумаць... Але хопіць прастарэкваць. Паехалі. Трэба яшчэ схаваць дабро і быць напаяўку. Вы то, чэрці, можаце дрыхнуць і да абеду, а мне будзе шмат марокі. Нават каб прыляпіцца да гэтага ўчастковага і неўпрыкмет замесці ўсе сляды, калі яны засталіся...

## 12

Калі выклікалі ў раён на нараду (а выклікалі досыць часта і па самай што ні ёсць сапраўднай дробязі, абы «даць новае ўказанне»), Кураглядаў адчуваў і трывогу, і заадно знаёмае радаснае ўзбуджэнне.

Трывожыўся з-за невядомасці: што будзе? «Новая надзённая за-

дача, што выцякае з прамовы таварыша Сталіна», альбо новы наганяй, а то і яшчэ адна партыйная вымова? А што да ўзбуджэння, дык яно было з-за патаемнай і жаданай надзеі: а раптам сёння ўдасца пазбегчы крыку, лаянкі, кары,— гэта значыць, можна будзе не толькі вырвацца з янкавінскага дрымлівага, сумнага асяроддзя, пабыць у горадзе, дзе зусім іншы дух, сустрэцца з сябрамі і разам з імі «ўдарыць па цымбалах» — махнуць рукой на цяжкі час, на нялёгкую сітуацыю, на ўсё гораснае і як след павесяліцца...

Дарогі да раёна дзве. Адна — карацейшая, але пятлістая праз параскіданыя астраўкамі вёсачкі і паўз хутары, праз прылесак Налібацкай пушчы (сюдой ён не ездзіў, асцерагаючыся лесавікоў і хутаранцаў), другая — даўжэйшая, праз вялікія сёлы, праз лес (тут ад яго нідзе не дзенешся, бо край гэты лясны), насыпная, мясцінамі (пакуль паспелі за палякамі) выбрукаваная. Ён ездзіў якраз па гэтай дарозе: яна была людная, па ёй часта шнуравалі нагружаныя і парожнія лесавозы, зрэдку праскоквалі на матацыклах міліцыя ці раённая служба бяспекі, праязджалі вайсковыя машыны, сюдой ахвотней ездзілі нарыхтоўшчыкі, паштавікі, настаўнікі, урачы і медсёстры, журналісты, некаторыя тутэйшыя сяляне.

Да раёна было вёрст васемнаццаць. Фурман, Мішка, маўчыць, думае свае думы, жарэбчык лёгка імчыць, калыша брычку, дагледжаныя колы мякка шамацяць па пяску, толькі зрэдку падскокваюць на камені ці западаюць у выбоіны, абапал паўстае, паволі застаецца ззаду хваёвы лес альбо змешаны, найбольш з бярозы, гаёк, балотца альбо аранае, з жоўтымі кратовымі горкамі поле, набліжаецца і ўсё аддаляецца нізкі, сёння шараваты небакрай — усё гэта настройвае ці на адмысловыя, спакойныя і засяроджаныя думкі, ці на адмысловы, трошкі сумнаваты, трошкі чуллівы ўспамін, што раптам можа абудзіцца ад нейкай самай што ні ёсць дробязі. Скажам, ад убачанага ацалелага коласа на жніўі альбо асотавага куста, ад раптоўна ўзляцелай з разоры птушкі ці ад знянацку выбеглага на дарогу зайца...

Сёння неяк выпадкова (а можа, і не само па сабе, а з-за абуджанай земляком-мяшочнікам памяці) усплылі ўспаміны пра свае маладыя гады...

## З «ХРОНІКІ» АПАНАСА КУРАГЛЯДАВА *

### 1. У РАЁНЕ

«...У свой райцэнтр я трапіў даволі позна, недзе на васемнаццатым годзе жыцця.

Наш Дзёгцеў, як па-цяперашняму, быў зусім малы. Плошча з трыма магазінамі, рынак, пошта, аптэка, бальніца, клуб, пару майстэрняў, забягалаўка і, можа, які дзесятак вуліц. Па іх ездзілі амаль толькі на калёсах ці санях, бо з тэхнікі было толькі два грузавікі і адзін легкавік.

Аднак тады, у маладосці, Дзёгцеў ашаламіў. Брат ты мой, колькі высокіх (на два паверхі!) дамоў, колькі вуліц, колькі добра апранутых людзей, што гаворацць ужо неяк іначай — мудрагеліста і культурна.

Напужаў мяне цягнік. Пад'ехалі з бацькам да чыгункі — перад самым носам перагарадзіла нам дарогу паласатая жардзіна — шлагбаум па-навуковаму.

* Пазней, на пенсіі, Кураглядаў напіша ўспаміны пра сваё жыццё. Тут і далей урыўкі з іх. Тлумачэнне пра ўспаміны — у эпілогу твора.

«Пачакайце,— сказала тоўстая кабеціна з жоўтым мурзатым сцяжком у руцэ.— Няхай цягнік пройдзе».

Я чуў, што ёсць на свеце паравоз, вагоны, але цяпер захваляваўся: што гэта за дзіва такое? Злез з калёс, падышоў, стаў каля паласатай жардзіны. Нічога не відно, чуваць толькі далёкі свіст, гул ды пачынае стагнаць пад нагамі зямля. Але праз хвіліну-другую шпарыць змей. Дым — снопам, сам — чорны, страшны, колаў ды колаў пад ім! Конь наш — на дыбы, ледзь калёсы не перакуліў. Ды што жывёла дурная! У мяне, чалавека новай эпохі, камсамольца, сэрца гойснула ў пяткі. Хітнуўся за бацьку, стаў, закалаціўся: ляскат, грук, вялізныя скрынкі (вагоны) з лесам, з пяском, з каменнем адна за адной ляцяць, вецер свішча, вось-вось з ног саб'е, а то гэтае жалезнае страшыдла абернецца, на блін сплюшчыць.

Карацей, шмат чаго новага пазнаў у горадзе, прыехаўшы туды вучыцца на шафёра. Там першы раз машыну, электрычнасць, аэраплан, кіно ўбачыў, па тэлефоне пазваніў (дужа ж у вуху казытала і незвычайным здаваўся чужы голас), марожанае з'еў, піва выпіў. Там мяне і абразілі балюча — як «дзеравеншчыну». Пазней бачыў вялікія гарады, вось тут, у тутэйшым гарадку, жыў і меў добрую пасаду, але да горада і да гарадскіх не прывык. Ці, лепш сказаць, ласкі не маю. Нават недалюбліваю іх. За іхнюю фанабэрыю, насмешку з вясковых людзей, хоць у горадзе, можа, болей, чым у вёсцы, усякага глупства, шантрапы: тут, у горадзе, звыш меры спецаў чужы чамаданчык сцібрыць, руку ў тваю кішэню засунуць, а то і без дай прычыны табе па карку засмаліць, а таксама звыш меры ўсякіх лайдакоў, цёмных і падазроных людзей, правакатараў і змоўшчыкаў.

Калі з бацькам пабылі ў школе, дзе мяне запісалі на шафёрскія курсы (пазней я ў анкеце, дзе была графа «адукацыя», пазначаў «ШК» — шафёрскія курсы, каб было і значна, і выпуклівала пралетарскасць майго навучання), заехалі на дзёгцеўскі рынак. Бацька хацеў цвікоў, мыла, шкла да лямпы, селядцоў купіць. Купілі. Захацелася мне ў туалет. Запытаў, дзе ён. Паказалі. Падышоў да аблезлай і засмечанай будынінкі. Перад уваходам стаяць тры маладыя здаравілы. Кураць, гамоняць, слінай цыркаюць. Адзін з іх, нізкі і рабаціністы, перагароджвае мне нагой шлях:

«Куды? У брудных чаравіках?»

«Сюды».

«Ну, дзярэўня! — засмяяўся той.— Прывыклі, дзе хочаш і ў чым хочаш, хадзіць. Тут — горад, чысціня, парадак. Тут, дзярэўня, нават у тувалет трэба не ў брудным абутку, а вось у чыстых тапках ісці,— паказаў вачыма на дол, дзе стаялі абрэзаныя, без халявак, дзіравыя паўботы.— Выйдзеш — зноў абувай сваё і чашы на здароўе».

Паверыў я, скінуў новыя чаравікі, усунуў ногі ў тыя нікчэмныя «тапачкі» і пашлэпаў. Вярнуўся — ні тых дзецюкоў, ні маіх чаравікаў. Бацька, прылюдна надаваўшы па карку, мусіў свае лапці аддаць, паехаў дадому босы.

Потым, калі ўжо вучыўся на шафёра, абабіўся трохі, знайшоў тых ашуканцаў. Чаравікаў яны, канечне, не аддалі, паскалілі толькі зубы: так табе, лапуху, і трэба. Затаіў на іх злосць: ну, прахвосты, пачакайце, быць не можа, каб я вас не нагрэў! У нас, у Ветраве, такі закон: у цябе раз укралі — ты тры разы таго абяры, табе раз па мызе смальнулі — ты таму рана-позна растаўчы нюхаўку! Доўга выношваў-выкалыхваў я сваю помсту і надумаўся, як яе спраўдзіць. Пазычыў аднойчы ў нашага гаспадарніка спісаны халат, у кожнага калегі-курсанта па некалькі рублёў і, сабраўшы ладную суму, падаўся на рынак. Убачыў тых траіх. Пачаў назіраць за імі: стаяць каля туалета, разуваюць вясковых даверлівых цельпукоў, збываюць з-пад крыса ўкрадзеныя шапкі ды хусткі. Падышоў.

«Купі капялюш,— зарагаталі.— У лапцях і ў капелюшы будзеш фраер!»

«Магу купіць. І капялюш, і паліто»,— адказаў я, дастаў з кішэні і паказаў кіпу грошай.

У іх — вочы па яблыку, агонь у зрэнках. Пакуль яны глыталі слінкі, я спакойна падзяліў грошы на дзве купкі, адзін стосік засунуў у адну кішэню парванага халата, другі — у іншую.

«Колькі хочаце за капялюш і паліто?» — запытаў у іх.

Адказалі. Яшчэ боты падсоўваюць купіць. Бачаць жа: у мяне грошай на ўсё хопіць.

«Трэба зайсці ў туалет і прымераць»,— сказаў ім.

Згадзіліся. Пайшлі. Я скінуў з сябе халат, згарнуў яго і падаў нізкаму і рабацінiстаму:

«На, патрымай».

Той ахвотна ўхапіў, а я ад іх узяў боты, паліто і капялюш ды накіраваўся ў туалет — нібы прымераць без лішніх вачэй. Аднак я і не думаў нават распранацца ды ўбірацца ў чужое, акуратна згарнуў усё, узяў пад паху і пастаяў з хвіліну-другую. Вызірнуў пасля на плошчу. Як і чакаў — нідзе з траіх гэтых нікога. Паперлі прадаўцы на ўвесь дух адгэтуль, лічачы, што нясуцца не толькі з маім халатам, але і з грашыма. Зноў, бачыце, акалпачылі дурня, удвая ці ўтрая садралі з мяне! Не здагадаліся, што я «абман зроку» ўчыніў (наўмысна грошы на дзве кіпкі падзяліў), як і не дапетрылі, што я яшчэ загадзя кішэні ў халаце абрэзаў і, адпаведна, грошы праз дзіркі засунуў у кішэні сваіх штаноў. Халат — у іх, а штаны ж — на мне! Але доўга там не стаяў, варон не лічыў, мірг-мірг туды-сюды ды ходу з рынку. Казалі, праз хвілін пяць імчаліся тыя трое з горада да туалета, лямантавалі, трэслі ў паветры кулакамі, паказваючы ўсім вывернутыя парэзаныя кішэні старога халата. Знайшлі міліцыянера, ад злосці ды ад разгубленасці доўга не маглі патлумачыць яму, што і да чаго. Але той і не слухаў, павёў іх, жучкоў, у міліцыю.

Болей я, ясна, на рынак той не хадзіў. Сабраныя грошы сябрам вярнуў, боты, паліто і капялюш у Ветрава завёз. Праўда, ад мазурыкаў не схаваўся. Горад невялікі — высачылі. Але... Расказваць пра тое не хочацца: і цяпер валасы дыбам устаюць. Так, звяры, наўскідалі, што страціў прытомнасць. Каб не агледзелі выпадковыя прахожыя ў яміне, дык, можа, не я, а хтосьці іншы ездзіў бы на старшынёўскай брычцы...

## 2. СЛАЎНАЯ МАЛАДОСЦЬ І НЯЎДАЛАЯ ЖАНІЦЬБА

Вярнуўся я з курсаў на новенькай машыне для свайго калгаса. Мала сказаць — вярнуўся. Сустракалі мяне, брат ты мой, як чэлюскінца альбо Чкалава. З музыкай і з кветкамі. З канца нашага Ветрава да самай канторы — з вярсту — люд па два бакі вуліцы стаяў і вітаў.

Як вылез з кабіны, дык сябры-камсамольцы падхапілі і на руках панеслі да трыбуны. Я, сын Апанаса-галетніка, стаў героем часу!

Старшыня калгаса (ужо не Сяргееў), наш камсамольскі важак Бяздомны і я сказалі прамовы, уславілі Савецкую ўладу, Леніна-Сталіна і наша шчаслівае жыццё. Карэспандэнт раённай газеты сфатаграфаваў мяне (і як вылазіў з кабіны, і як неслі мяне да трыбуны, і як я падсыпа́ў прамоўніцкі жарок), і праз колькі дзён дзве старонкі газеты славілі мяне на ўвесь былы павет. Можа, нясціпла, але я перастаў быць Афонькам, стаў Апанасам Лукічом і, паверце, героем эпохі.

Шафёрыў, ясна, зухавата. Насіў сандалеты, штаны з чортавай скуры, чырвоную кашулю і белую кепку (увосень — тыя капялюш і паліто). Еду спакваля ў Дзёгцеў, вязу поўны кузаў жыта, пшаніцы ці бульбы — гонар! Просіцца хто пад'ехаць са мной — пашана! Вяртаюся парожні, не еду, а лячу — пыл з-пад колаў, куры ды сабакі па ўсіх вёсках на бакі, вецер — за шклом. Высунуся з акенца, рот да вушэй, рукой махаю дзяўчатам — любата! На танцах — першы хлопец. Дзяўчаты аж млеюць. Праўда, тады я яшчэ нясмелы па гэтай лініі быў, можна сказаць, таўкач. Каля якой задрыпанай нішто сабе, а вось з прыгожымі дар мовы траціў. Зірне альбо што-небудзь скажа красуня — а ў мяне сэрца ўпрысядкі, язык нямее і калодаю робіцца.

Цяпер цяжка нават патлумачыць, чаму мяне чорт звязаў з Марусяю — дачкой Лыкавых-азіятаў. Невысокая, нязграбная, непісьменная. Раз-другі ў кабіне пакатаў, колькі разоў вальсік станцаваў, з вечарынкі дадому правёў, надудзеў на вуха ўсякай лухты, а яна — шусь, пада мной, лічы, адразу...

Эх! Адным словам, як кажуць, нядоўга музыка іграла — нядоўга фраер танцаваў. Лічы, не пазнаў, што ж яно такое — пагуляць па-маладому, кахаць па-сапраўднаму, а яна, Маруся, хліпае ўжо: «Лукіч, я цяжарная».

Зірнуў на яе іншымі вачыма, і сэрца абмёрла: божа ты мой, арол на варону спакусіўся! Але што рабіць? Звычайна ў такі «крытычны момант» многія хлопцы даюць драла. Але я не мог збегчы. Куды і як уцячэш, калі машына, такі давер, такая слава на табе! Параіў схадзіць у суседнюю вёску да старой бабы-знахаркі — асечка. Баялася нават паказацца на вочы той эскулапцы. Узлаваўся, махнуў на яе рукой: калі такая баязлівая авечка, дык...

Словам, пакінуў яе, праз нейкі час да іншай, прыгожай Анюткі-магазіншчыцы з бліжэйшага сяла, пачаў заляцацца. І цяпер з красуняй хутка ўсё на лад пайшло. Смеласць, спрыт заявіліся. Зразумеў: з жанчынамі трэба ласка, адмысловае языкачосніцтва, але заадно трэба і рашучасць, напорыстасць. Спакваля падступайся, улагоджвай, а калі ўсыпіў пільнасць, то хапай і не выпускай ужо з рук!

Дык... Еду аднойчы ад Анюткі позна дадому, песеньку пад нос мармычу — ажно бачу: на дарозе — стары Лыкаў, Марусін бацька. Мусіў прыпыніцца. Не душыць жа чалавека. Аж з лесу яшчэ і два яго сыны выходзяць. Усе сярэдняга росту, плячыстыя, малагаваркія і лютыя. Ну, тут у мяне і зубы заляскалі. Адчуў: будуць судзіць па нашым, ветраўскім, законе...

«Вылазь, герой, пагаворым»,— кажа Лыкаў-бацька.

«Пра што?»

«Не ведаеш?»

Слова за слова — ухапілі, вывалаклі з машыны, на калені паставілі.

«Што Маруську нашу сапсаваў — ладна... Але калі не возьмеш яе замуж, заб'ём і ў лоўж...»

Карацей, упірацца не было як: загубілі б. Не толькі прызнаўся ва ўсім, але даў слова, што выкуплю свой грэх. Праз некалькі дзён павёз яе ў сельсавет. Пасля ўжо, на вяселлі, і Анютка, і іншыя дзяўчаты шкадавалі: эх, уздыхалі, Лукіч-Лукіч, ты такі хлопец, на ўвесь раён славён, мог самую прыгожую ўзяць, а падчапіў замухрыху!

Што мне было гаварыць? Маўчаў, моршчыўся ды махаў ад адчаю рукою.

## 3. ВАЙНА, НОВЫ ЛЕС І «АСАБІСТАЕ ПЫТАННЕ»

Як перадавога чалавека новай вёскі ўзялі мяне ў армію. Старшыня калгаса даў прэмію: кавалак палатна, пару ручнікоў і цяля. Бялізну Марусі пакінуў, а цяляціна пайшла на развітальны вечар. Усёй вёскай гулялі, праводзілі мяне.

Потым усіх навабранцаў сабралі ў Дзёгцеве. Музыка, песні, свята. Праўда, Маруся плача. «Душа адчувае,— ные,— не вернешся ты да мяне, Апанас Лукіч. Гарадскую якую знойдзеш сабе...»

На камісіі, як і мой дзед некалі, шмат на вагах зацягнуў, і мною любаваліся ўрачы: мацак!

— Будзеш, герой, служыць на мяжы. У Брэсце,— сказаў старшыня камісіі.

З аднаго боку, быў рады, што ад Марусі ўцякаю, а з другога — душа ў пятк і. Я тады не вельмі ведаў геаграфічную карту. Ну, падумаў, траплю на край свету! Уладзівасток, Брэст — гэта ж крайнія кропкі нашай вялікай краіны. Уладзівасток на Далёкім Усходзе, непадалёку Японіі (фільм бачыў, як ехалі дзяўчаты туды па пуцёўках). А вось дзе той Брэст? Кажуць, за Мінскам, перад Польшчай, якой ужо Германія валодае. Ну, што да Германіі, дык такой бяды: з ёй жа вялікая дружба! Хоць, сказаць шчыра, душу ўсё ж нейкая трывога тачыла: хаўрус то хаўрус, але Гітлер — не такі ўжо добранькі ды лагодненькі, як прыкідваецца, як цяпер нашы гаварыць пачалі. Вунь колькі ўжо суседніх краін патаптаў і загроб!

Але нічога не зменіш. Пагрузілі ў вагоны — паехалі. У Магілёў, з яго — у Брэсцкую крэпасць.

Служба была не цяжкая. Вазіў на легкавушцы камандзіра палка. Страявой, лічы, і не нюхаў. Праўда, два разы «на губе» сядзеў. Адзін раз за выпіўку, другі — за самаволку.

У першы ж дзень вайны ледзьве ў палон не трапіў. Вёз камандзіра ў штаб — адкрылі па нас з аўтаматаў агонь дэсантнікі-дыверсанты. Камандзіра забілі, а я ўцалеў. Уцёк з-пад самага варожага носа. Адступаў. Каля Стоўбцаў запыніліся. Пачулі: немцы пад Смаленскам ужо. Куды ні ідзі — трапіш у іхнія лапы. Адным словам, рашылі дачакацца нейкай пэўнасці ў невялікай вёсачцы. У Заброддзі. Паскідалі сваю форму, панадзявалі вясковыя жупаны. Пайшлі ў найміты. Касцамі. Праз месяц-другі некаторыя мае сябрукі ў прымы да тутэйшых маладзіц папрыставалі (адзін з жаніхоў жанаты быў ужо). Кажуць і мне: ляпіся і ты, Апанас, да якой маладой удавы, ахватней вучыся гаварыць па-тутэйшаму ды жыць тут будзем, пакуль усё ўсталюецца. Немцаў, можа, і не варта надта баяцца. Яны ўсё ж культурная нацыя. Зямля тут неблагая, людзі гаспадарлівыя, спакойныя — жыць можна. Павернецца ўсё іначай — можна тады і лататы даць.

Я не спяшаўся атабарвацца тут. Мае сябры па няшчасці цёмныя, недалёкія былі, а я ўсё ж свядомасць меў. Ды асцерагаўся, што немцы мяне, камсамольца, наватара, патрасуць, а па-другое, яшчэ болей баяўся сваіх. Ведаў: не даруюць ні здрады, ні дэзерцірства. Чуў жа: Сталін сказаў, што ў яго палонных няма, усе яны — здраднікі. А з ненадзейнымі ў таго ды яго памагатых размова кароткая. Альбо куля ў патыліцу, альбо за калючы дрот. Адным словам, пачакаў да восені: хто — каго? Аж немец пад Масквой ужо. Сказаць шчыра: засумняваўся, што яго змогуць адтуль назад паперці.

«А што,— пачаў ужо думаць часамі,— можа, шмыгнуць ад Марусі? Нялюбая, бесталковая. Не бог, а прыкры выпадак яе за жонку даў. Зашыюся тут — хто знойдзе? Можна ж і прозвішча памяняць, тутэйшай гамонцы навучыцца».

Якраз добрую дзеўку нагледзеў — адна ў заможных, але хваравітых бацькоў, багатая на цела і не брыдкая. Праўда, спачатку гэтая панна Ванда цуралася, як чорт крыжа, а потым, калі ўюном пачаў каля яе пакручвацца, пусціў у ход усё сваё красоўства, пакрыху асвойталася, а праз яшчэ нейкі час сказала: «Вазьму ў прымы, калі ў каталіцкую веру пяройдзеш».

Хто ведае, як павярнуўся б мой лёс далей, можа, і я стаў бы беларусам ці паўпшэкам, каб не падзеі зімы сорак другога. Зайшлі раз уночы ў Заброддзе людзі з лесу... Хлопцы з Вялікай зямлі, строгія, суровыя, да трох не гаворы... Пайшоў з імі з цёплай хаты ў халодны лес... Папрадаваў нямала дрыжыкаў... Трос, як грушу, асабіст... Напачатку мяне, як і тых, што прыжаніліся ўжо, выпрабоўвалі, пры атрадзе трымалі, вока з нас не спускалі, але пазней, калі лёс звёў з закінутым сюды земляком, Уладаровым, пачалі на гаспадарчыя аперацыі пасылаць, а яшчэ пазней — у разведку, на чыгунку альбо ў засады. Як мог заваёўваў давер. На ражон не лез, бярог галаву, але і не філоніў. Дык і ў людзі выбіўся. Камандзірам узвода стаў, у партыю ўступіў, ордэн і некалькі медалёў атрымаў.

У блакаду Заброддзе спалілі, а людзей (маю «нарачоную» таксама) вывезлі ў Германію. Пасля вайны многія вярнуліся адтуль дадому, а Вандзя, выйшаўшы замуж за паляка, падалася ў Польшчу.

Пасля вызвалення была не толькі радасць, але і былі вялікія турботы ды хваляванні. Каму трэба было ўлівацца ў армію і ісці на Захад з баямі (бывала, былых партызан, «тых, што прасядзелі вайну пад бабскімі спадніцамі», гналі ў адкрыты бой, і яны гінулі дзесяткамі ды сотнямі), каму можна было трапіць «у лік партыйнага і савецкага актыву», застацца тут. Сказаць папраўдзе, не было вялікай ахвоты ісці на фронт, можа, у першым адкрытым баі зламыць галаву, а хацелася мірнага жыцця, далей ад перадавой, снарадаў і куль. Калі б не Уладароў, дык... Зямляк, які застаўся тут за першага сакратара райкома партыі, пачаў, як кажуць, падбіраць сабе каманду. Канечне, са сваіх найбольш давераных людзей. Спачатку ён як след уладкаваў самых блізкіх: да слова, яго начальнік штаба, маёр Сысункоў, стаў начальнікам міліцыі, былы зампаліт Працэнка — загадчыкам райана, асабіст Ламідзе — пракурорам, рэдактар нашай газеты Фрайзан — рэдактарам раёнкі, урач Буракоў — галоўурачом райбальніцы. Праўда, начальніка асобага аддзела забралі, а замест яго прыслалі новага. Ну, а што да нас, рангам ці дзвюма-трыма ступенямі ніжэй, то Уладароў усіх прасеяў: мяне, да слова, назначыў дырэктарам мясакамбінаціка, а іншых паслаў у вёскі дырэктарамі школ, у сельсаветы.

Стаў я, значыць, гарадскі жыхар. Першым чынам знайшоў сабе добрую кватэру, дзе пры немцах жыў нейкі важны цывільны чын, начальнік па зямельных справах, справіў належнае адзенне — афіцэрскі мундзір і дыяганалевае сіняе галіфэ, фуражку, а заадно набыў і афіцэрскую сумку-планшэт, плашч-накідку. Які ж ты кіраўнік, калі ніякай саліднасці не маеш?! Да ўсяго пачаў суровы выгляд і тон размовы выпрацоўваць. Вучыўся вельмі не размусольваць, а кідаць камандныя рэплікі. Майстры, забойшчыкі мясакамбіната, кліенты, праўда, як гаварылі мне мае давераныя людзі, пасміхоўваліся за вочы, але перада мной у струнку выцягваліся. Адмыўся, адкарміўся — чысты, гладкі стаў. Ды чаму было не паправіцца? Мясакамбінат ёсць мясакамбінат, тут не тая ўстанова, дзе бушуюць сходы, нарады, крык, лаянка і нервы, тут — свежанінка, кілбаскі, рулецік, грудзінка — што хочаш... Было, прывядзе ці прывязе хто што-небудзь здаць з жывёлы і хоча ўтарпачыць лепшым гатункам, дык спачатку да мяне ідзе. І не з пустымі рукамі. А я... Жывы чалавек. Быў не супраць з чалавекам паразуменне знайсці... Жыві, брат, і жыць хо-

чацца, пазбавіўшыся ад холаду і голаду. Ясна, кабінет сабе добры зладзіў, у прыёмнай рыжую красуню Святлану пасадзіў. Каб яна не толькі друкавала патрэбнае, але і кліентаў «перабірала», прыносіла мне паперы на подпіс у масіўнай скураной папцы.

Бывала, прыму наведвальнікаў, дам ЦУ падначаленым, пазваню па тэлефоне і пагавару са сваімі сябрамі, калегамі па наменклатуры, а пасля выйду ў прыёмную. А там яна, рыжулька, сядзіць за машынкаю, у люстэрачку свой харошы тварык разглядвае ці пазногцікі наждачком падпілоўвае. Шыкоўныя рыжыя валасы па паясніцу, поўныя шчочкі, пакатыя плечы, не высокія, але тугія грудзі пад беленькай блузкай з кароткімі рукавамі — дых займае! Сяду каля яе на край стала, усміхнуся і кудзеркі яе валасоў каля вушэй сабе на палец нагортваю:

«Хто ў нас такі малады і прыгожы?»

«Апанас Лукіч! — пунсавее.— Калі ласка, не трэба. Убачаць людзі — абы-што падумаюць».

«А ты? Не падабаецца табе? І я не падабаюся?»

«Што вы, Апанас Лукіч, гаворыце? Я ж замужняя жанчына!»

«Няўжо сама не разумееш: ты самая прыгожая ў гэтым гарадку?! — слаўся лістам.— І вельмі мне падабаешся. Нават болей — я ў цябе закаханы. Як хлапчук!»

І гэтак далей, і гэтак далей. Дазваляў ладны мясны кавалак дадому ўзяць, за свае грошы духі, хусткі, кофтачкі ёй купляў, адну ці дзве граматы за добрую работу даў.

Сышліся нашы сцежачкі аднаго дня ў абед. Тады я не пайшоў палуднаваць у рэстаран, застаўся ў кабінеце. Паклікаў яе да сябе. Зайшла — я дзверы на ключык, са стала газетку падняў, а на стале — добрае віно, адмысловая закусь. Спачатку адмаўлялася і застацца са мной сам-насам, і што-небудзь у рот узяць, ледзь-ледзь змусіў. Калі выпіла адну-другую чарачку, расчырванелася, зацвіла маладосцю і здароўем, а заадно памяняўся і яе настрой. Дзе я, згаладалы па жаночай ласцы, мог пасля гэтага адступіцца, выпусціць з рук такую вабную русалку, дзе яна, маладая і гарачая, магла ўстояць перад такім бурным націскам! Ды ўбачыла хутка: я — зух, мужчына-хват, нераўня яе хірляваму мужу-дарожніку. Палюбіла, прывыкла, што і не адарваць было. Праўда, своеасаблівая была. На рабоце нібы спакойная, разважная, а са мной у якім-небудзь зацішку, калі трохі вып'е, калі палашчу, распалю, дык быццам памяць траціла. Так паддавалася страсці, што заплюшчвала вочы, білася-кідалася, а ў самыя ўзнёслыя, пякельныя хвіліны бязлітасна хлістала мяне па шчоках і крычала: «Праклятая плоць! Праклятая плоць!» Лічы, кожны дзень сустракаліся ці ў маім кабінеце, ці на яе кватэры, ці на лоне прыроды. І, здавалася, шчасцю гэтаму канца-краю не будзе!

Малады яшчэ быў, не пільны. Нейкі асвядомлены зламыснік шапнуў — высачыў, залавіў нас Святланін муж. Дурань, мала чужым людзям нас у пікантным стане паказаў, дык яшчэ на ўвесь горад лямант падняў, пабег са скаргай да Уладарова, запіў і кожнаму першаму-сустрэчнаму расказваў сваё гора.

Ясна, зразумеў я, будзе партыйнае бюро — будуць «належныя вывады». Паспрабаваў пагаварыць з гэтым скаржнікам, грошы даваў — не, глядзець не хоча: «Вы жану маю іскусілі, а цяпер маю душу купляеце!» Ночы не спаў, схуднеў на кіло дзесяць, тры сівыя валасіны на скроні ўбачыў — адны думкі грызлі, як у горадзе ды на мясакамбінаце застацца.

Пакутаваў, але нічога толкам сам не прыдумаў. Разгубіўся. Пашнураваў да Фрайзмана: «Памажы, Абрам Евелевіч, ратуй». І яму ж нямала перападала ўсякіх далікатэсаў. Той паслухаў, пасмяяўся, а тады, стары ліс, прыдумаў мігам, як мне выратавацца ад бяды.

«Ідзі,— кажа,— да Буракова і прасі-малі, каб даў даведку, што ты імпатэнт».

«Як — імпатэнт?»

«А вось так,— гаворыць, а ў самога чорцікі ў вачах скачуць.— Што ты з жанчынай, маўляў, нічога не можаш».

«Сорамна ж такую даведку даваць».

«Дык хочаш ці не хочаш у цёплым кабінеце сядзець, есці-піць ад пуза?»

«Ну, а калі даведка не паможа?»

«Тады выганяць з партыі. За маральную разбэшчанасць».

«Але ж гэта — канцы...»

«Так-так, дарагі. Гэта значыць, што тваё асабістае пытанне перакрэсліць навек табе кар'еру. Станеш ізгоем грамадства. Ну, а калі скажуць мне прапясочыць цябе ў газеце, дык прыйдзецца, дарагі, такі фельетон жарнуць, што ўвесь раён ахне!»

«Дык што ўсё ж рабіць?»

«Калі такая даведка не выратуе, уздумаюць з партыі выключаць, дык тады станавіся ва фрунт і «Інтэрнацыянал» спявай. Убачаць, што да глыбіні верны марксізму-ленінізму, свой у дошку, дык, можа, пашкадуюць, пакінуць каля карыта».

Ну, што рабіць. Як паклікалі на бюро, пайшоў, панёс адмысловую даведку. Уладароў распаліўся, бэсціць на чым свет стаіць: «Маральнае разлажэнне!», «Падрыў аўтарытэту кіраўніка-камуніста!», «Учынак лье ваду на млын па-антысавецку настроеных заходнікаў!» Стала мне зразумела: пакаранне будзе строгае. Хочаш ці не хочаш, а выцягнуў, падаў тую даведку.

Спачатку ўсе замаўчалі, аж затаілі дыханне ад такога адмысловага дакумента, а пасля выбухнулі рогатам, аж за жываты пачалі хапацца. І Фрайзман, член бюро, рагатаў разам з імі — можа, і наўмысна ўсё дзеля вось гэтага падстроіў.

«Які імпатэнт? — нарэшце, выціраючы слёзы ад смеху, падаў голас Уладароў.— Ды зірніце вы на гэтага «няўдаку»! Вочы масляныя, як у ката, ражка дык ражка! Што ён нам голаў тлуміць! Ён жа жанаты, сына мае!»

«То раней, да вайны, а цяпер — іншае... Доўгае ўстрымліванне падзейнічала...» — замямліў я.

«І не сорамна табе, цнатлівец? Цябе ж на гарачым злавілі?»

«Не. Нічога не было».

«Ганьба!»

«Зразумейце мяне,— прашу,— не карайце строга».

Карацей, у партыі пакінулі, кар'еру мне не зглумілі, далі шанец на будучыню, але ўляпілі ў тым годзе ўжо другую вымову (на гэты раз з занясеннем ва ўліковую картку) і пастанавілі «вызваліць па меры магчымасці з пасады, што займае». Вызвалілі. Праз нейкі час паслалі старшынёй сельсавета ў Янкавіны».

## 13

Вось ужо і горад з даволі дзіўнай назвай Вянкі. На самай справе, канечне, гэта ніякі не горад, у ім толькі некалькі цагляных будынкаў (касцёл, царква, пяць ці шэсць былых царскіх і польскіх аднапавярховых дамоў), з тысячу насельнікаў, а астатняе ўсё тут мястэчковае: брук, абкладзены плітамі-крыважнякамі, студні-будкі, драўляныя платы, гародчыкі і сады, старыя хаты на высокіх каменных падмурках.

У драўляных дамах не толькі жывуць людзі (вянчане ці вян-

коўцы), але і ў многіх з іх — розныя канторкі, базы, магазіны, пошта, сталоўка і «Чайная» (забягалаўка), у мураваных — райком і выканком, школа, раённы дом культуры, «турма» (турма — па-мясцоваму, а так гэта толькі КПЗ) з міліцыяй і яшчэ адна салідная ды паважаная ўстанова — рэстаран. Амаль на ўсіх дзяржаўных будынках — лозунгі: «Слава партии Ленина-Сталина!», «Сталин — вождь всех народов!», «Да здравствует Советская власть — самая демократическая и гуманная в мире!» Драўляныя і цагляныя пабудовы старыя, але дагледжаныя. Прыстойна, чыста нават на невялікім рынку, куды па нядзелях і па тутэйшых фэстах з'язджаюцца навакольныя, прываложанскія, прыстаўбцоўскія, прыракаўскія і нават прымінскія сяляне, што прадаюць жывёлу, садавіну і гародніну, бульбу, мёд, нямецкае адзенне і гарэлку з-пад крыса, а таксама купляюць тое, што ім трэба. Карацей, Вянкі — звычайнае былое заходнебеларускае правінцыйнае мястэчка, што цяпер па волі лёсу стала раёнам, адпаведна і горадам. Без якіх-небудзь завода і фабрыкі, толькі з ганчарняй, пякарняй і мясакамбінацікам, дзе яшчэ летась цараваў ён, Кураглядаў.

Каля агароджы з цагляных тумбаў і жалезнага, завостранага наверсе частаколу самай высокай у гарадку будыніны — цёмна-чырвонай камяніцы з чырвоным і чырвона-зялёным сцягамі — стаяла ўжо нямала брычак, калёс з сенам ці навязаных асядланых коней, нямецкіх веласіпедаў і пару матацыклаў. Купкамі стаялі фурманы — яны, як і іхнія начальнікі, ужо ведалі адзін аднаго, таварышкавалі, а калі трэба, дык і хаўруснічалі. Хутка, калі навязаў Ваську і даў яму сена, да іх далучыўся і яго візнік, Мішка.

— Чакай, нікуды не адлучайся,— адыходзячы, наказаў яму Кураглядаў, ведаючы, што той любіць шмыгнуць ці да знаёмых, ці ў «Чайную», дзе можна здабыць не толькі чай. Не ў прыклад іншым янкавінскім мужчынам Мішка любіць не тое што падвесяліцца, а без меры нажлукціцца. Сам нядаўна чуў (праз акно), як той каля сельсавецкай сцяны хваліўся аднавяскоўцам, што неяк узімку са знаёмым «пальнулі» ў «Чайной» па дзве пляшкі «чырванаватага віна» і здзівіліся, што «акаселі»: як выявілі потым, яны «зафуфырылі» не віно, а па дзве пляшкі «Зуброўкі». Маніў хвалько: па-першае, дзве пляшкі «Зуброўкі» не адужае (ён, Кураглядаў, дзебялейшы, але ад такой нормы пачынае хістацца альбо, як кажуць у Янкавінах, ганяць гусей), а па-другое, «Зуброўку» ў Вянках даюць не абы-дзе і не ўсім, а толькі ў «бакоўцы» рэстарана для «партыйнага і савецкага актыву». Мог і ад звычайнага яблычнага віна ўпіцца.

— Ну што вы! — запэўніў цяпер Мішка.— Ніякіх адлучак!

— Глядзі, абармот!

Перасцярогшы свайго жулікаватага фурмана, Кураглядаў важна, набіраючыся і нейкай вышэйшай урачыстасці, і трывогі, ад якой халаднела душа і часцей білася сэрца, закрочыў у райком. Да яго вяла старая, досыць шырокая асфальтаваная паўплошча, абсаджаная ружамі (цяпер ужо ненакрытымі, але яшчэ з голымі, з пачарнелымі за зіму вяршкамі), а за імі былі ўсыпаныя торфам кветнікі.

За масіўнымі дзвярыма (узбоч — райкомаўскія і райвыканкомаўскія шыльды), каля масіўнага дубовага стала з тэлефонам, як і заўсёды, сустрэў паджылы бледны міліцыянер-старшына. Знаёмыя гады два ўжо, па-за райкомам не раз перакідваліся словам-другім пра жыццё-быццё, але тут, у гэтай будыніне, той нібы не ведае нікога. Вось і цяпер, казырнуўшы на прывітанне, запатрабаваў:

— Вашы дакументы!

Як і належыць, ён падаў партбілет — старшына разгарнуў, зірнуў на фотаздымак, на старонку, дзе была адзнака пра заплачаныя партузносы, нагнуўся, апусціў вочы на лісток, што ляжаў каля тэлефона, знайшоў яго прозвішча, зноў казырнуў:

— Калі ласка. Праходзьце.

Абы-хто і абы-калі да Уладарова не трапіць. Той тут як князь у замку. Гаспадар раёна. «Першы», як яны яго называюць.

На трэцім паверсе, дзе быў райком, стаяў гул — як і заўсёды, прыехаўшы раней і адзначыўшыся ў прыёмнай, старшыні сельсаветаў збіраліся ў адным і ў другім канцах калідора купкамі, расказвалі навіны альбо «травілі» анекдоты, рагаталі ды заўзята курылі, з'яднаныя не толькі нядаўнім мінулым, але і цяперашняй адной работай, аднымі турботамі, а таксама невядомымі простым смяротным сакрэтамі. Праўда, бывае, гэтая спаянасць калі не дае трэшчыну, то не мае моцы, калі кагосьці з іх пачнуць чубіць на бюро. Тады не толькі той-сёй, але і амаль усе могуць змаўчаць, маўкліва дазволіць «таптаць» ахвяру. Часамі бывае крыўдна, што нават сябры не заступаюцца, але, бывае (і не раз), што і ён, Кураглядаў, нібы набіраў у рот вады, калі трэба было падтрымаць каго. Але за гэта не варагавалі, ведаючы, што ніхто не ахаваны ад наганяю і што ён, гэты нага765няй, адбываецца за зачыненымі дзвярыма, у сваім асяроддзі. Могуць даць вымову, панізіць, але калі не будзе вялікай пагалоскі пра тваю правіннасць, калі яна «не кідае цень на мясцовую і вышэйшую ўладу, асабіста на кіраўнікоў», дык не прападзеш. Праўда, там, на самым версе, у Маскве, дзе правадыры, штаб, можа, і іншыя законы. Схаваныя не толькі ад простага люду, але і ад іх, службовай драбязы. Хіба, да слова, можна разабрацца, чаму многія тыя, хто быў разам з Леніным у падполлі, рабіў рэвалюцыю і выйграў грамадзянскую вайну, пазней «здрадзілі марксізму-ленінізму і сацыялізму», «сталі ворагамі народа»?.. Хоць трэсні, не дапетрыш: чаму яны разбурылі расійскі капітал і хацелі прадаць краіну заходняму? Чаму іх аказалася столькі шмат? Ды сярод сваіх? Чаму яны тапілі адзін аднаго, славілі, уздымалі Сталіна, а самі — здаецца, нават пакорліва — ішлі пад кулі? Як так выйшла, што сярод ленінскай гвардыі аказаўся толькі адзін з сапраўдным клопатам пра новы лад, пра народ? Як яму аднаму ўдалося звесці столькі змеяў, знайсці сабе верных саратнікаў ужо не з ленінскага гурту, а з навабранцаў? Як не разбярэшся і ў іншым: скажам, чаму было столькі незадаволеных савецкай уладай у дваццатыя і трыццатыя гады (вунь колькі іх пасадзілі) і чаму гэтулькі пайшло служыць немцам? Кажуць, пры царах, што «пілі кроў з люду», наладзілі «турму народаў», не было столькі здраднікаў у вайны...

Стоп! Хопіць пытацца нават у самога сябе, спрабаваць думаць і разважаць! Што ёсць — тое ёсць, так усё і трэба. Сталін-пераможца мудра кіруе і вядзе да шчаслівай будучыні. Народ яшчэ болей паверыў яму, нават палюбіў яго за выйграную вайну. А разам са Сталіным узмацнілася і партыя. Таму і трэба цяпер, калі хочаш быць на паверхні, абедзвюма рукамі трымацца за партбілет. Без яго ты нічога не даб'ешся. І чым далей — тым болей. Камуністы будуць расці і расці ва ўсё большую сілу, браць усё ў свае рукі, жыць заможна, мець усё, што толькі ёсць на свеце. Тое, што тыя, хто мае ўладу, дбалі і будуць дбаць найперш пра сябе, было відаць у вайну, відаць яно і цяпер, пасля вайны. Да слова, як толькі зайшлі ў гэтыя Вянкі, Уладароў адразу ж загадаў «узяць на ўлік усе нямецкія трафеі» і прызначыў іх не для люду, нават не для ўсіх партызанаў, а найперш «для патрэб партыйнага і савецкага актыву». Ім, ніжэйшым па ранзе, трапілі толькі крошкі, а вось жменьцы вышэйшых — усяго ўдосталь. Не сакрэт, сам бачыў, будучы неяк раз ва Уладарова, як таму прывозілі дадому харч, адзенне з магазінаў; той і яшчэ некалькі чалавек з раёна ездзяць лячыцца ў сталічную паліклініку, адпачываюць у прыморскіх спецсанаторыях. А каб ніхто не бачыў, як яны жывуць па-за работай, іх

засланяюць, ахоўваюць высокі плот і міліцыя. Просты люд нічога пра іхняе асабістае не ведае, яны, «ніжэйшае кіруючае звяно»,— толькі тое-сёе. Але ўсе з іх маўчаць. Па-першае, плявузгаць пра вышэйшых нельга, а па-другое, кожны жадае сам падняцца па службовай лесвіцы, атрымаць большае. Дык і трэба гаварыць, рабіць не так, як думае нехта, нават як думаеш сам, а так, як табе кажуць зверху, дабівацца большай лусты вернай службай. Зусім жа невыпадкова ў характарыстыках адна з самых каштоўных ацэнак такая, як «исполнительный»... Непаслухмяным, упартым і дзёрзкім не толькі няма ходу наверх, але іх падбіваюць на ўзлёце... Можа, і з-за ўсяго гэтага просты люд у душы не любіць, нават ненавідзіць усё начальства, хоць амаль заўсёды паддобрываецца і ліслівіць...

Праўда, цяпер вось, гледзячы на гэтых рагатуноў і курцоў на райкомаўскім калідоры, надта не пазнаеш, хто што думае і чаго хоча, усе нібы радыя адзін аднаму, жартуюць, але кожны свае намеры выношвае ў глыбокай тайне. Амаль усе ў афіцэрскай форме без пагонаў, у хромавых ботах, распраміліся, папаўнелі пасля лесу, адчулі смак улады.

Убачыўшы яго, насустрач памкнуўся Курлоў — невысокі, куртаты, з капой віхрастых цёмных валасоў на круглай, як качан, галаве і з цёмнымі густымі бровамі. Як і многія з іх, мае чэпкі, пранізлівы «партызанскі» позірк. Можа, каб з першага пагляду пазнаць чалавечую душу, можа, са звычкі позіркам абмацаць, чым можна ад цябе пажывіцца. Лепшы сябрук, хаўруснік, але... Заедзе калі, пасядзіць гадзіну-другую, кульне чарак дзесяць, пойдзе — глядзі, нечага няма: то нажа добрага, то нажніц альбо сякеры.

Вітаючыся, Курлоў красамоўна моцна пацiснуў руку і падміргнуў — за ўдалы «візіт» у прудскі магазін.

— Што за нарада сёння? — Кураглядаў адразу настроіў яго на дзелавы лад.

— Пра новыя нарыхтоўкі,— адразу пасур'ёзнеў той.

— Чаго?

— Пасяўнога матэрыялу.

— Якога?

— Бульбы.

— А дзе яе ўзяць?

— Гаспадар зараз падкажа...— усміхнуўся Курлоў.— Ён усё ведае, нам застанецца толькі выканаць яго заданне.

— Товарищи! — прагучаў знаёмы ўладны голас сакратаркі-машыніcткі Валянціны Мікалаеўны.— Пожалуйста, в кабинет к первому секретарю.

Гул на калідоры тут жа ўлёгся; курцы пачалі кідаць недакуркі ў драцяныя, абкладзеныя з сярэдзіны кардонам вёдры, зашпільваць па-вайсковаму, папраўляць на сабе гімнасцёркі і мундзіры, нібы нацягваць на твар маскі, з якімі яны ўжо не звычайныя людзі, а «ніжэйшае кіруючае звяно». Павалілі ў прасторную прыёмную, дзе вешалкі для іхняй верхняй вопраткі, стол з масіўнай нямецкай машынкай для Валянціны Мікалаеўны (яна заўсёды з кароткімі валасамі, у чорным прыталеным касцюме, мужчынскай белай кашулі і пад гальштукам, строгая і недаступная), з прыёмнай пацiснуліся праз двое дзвярэй у вялізны кабінет, дзе на паркетнай падлозе агромністы каляровы пакінуты немцамі дыван, на ім — некалькі засланых зялёным аксамітам сталоў і два рады крэсел пад імі, вялікі стол гаспадара з двума тэлефонамі, з папкамі і кадоўбчыкам завостраных алоўкаў. За сталом стаіць высокі, падцягнуты светлавалосы Уладароў у новенькай зеленавата-шэрай «сталінцы», над ім — партрэт маладжавага прыгожага Сталіна, на вуснах таго — лагодная ўсмешка, а ў вачах — строгасць. Побач з Уладаровым новая высокая тумба,

абцягнутая чырвоным матэрыялам, а на ёй — бюст Леніна ці, лепш сказаць, вялікая белагіпсавая галава, крыху — трохкутнікам — плечукоў і грудзіны, а на ёй вызначаюцца верх штрыфляў і гальштук з вялікім вузлом.

— Здравствуйте, товарищи председатели! — лагодна адказаў на хор іхніх прывітанняў Уладароў. Хоць цяпер голас мяккі, але ўсе ведаюць, што праз хвіліну-другую ён можа быць ужо сталёвы. Уладароў хутка адчуў сябе Першым тут, пачаў адасабляцца і ўзвышацца — кажуць, вельмі любіць, што яго якраз так называюць — «Першым».

Кожны са старшынь спрабуе сесці на крэсле каля сцяны — далей ад стала, дзе ўжо звыкла сядзяць старшыня райвыканкома, капітан Мірзоеў, сакратары райкома і некаторыя загадчыкі аддзелаў, начальнік міліцыі — «кіруючае ядро раёна».

— Якія ўсе маладыя і прыгожыя! — добра ведаючы ўсіх, паблажліва пажартаваў Уладароў, назіраючы, дзе і як усе садзяцца, ды трымаючы меншыя пальцы правай рукі паміж гузікамі фрэнча. Калі гэтак мякка сцеле, дык сёння не будзе даваць наганяй, а пачне азадачваць. Нападзе на кагосьці, падсыпле перцу пад канец нарады, калі пойдзе «рознае» альбо «індывідуальная гутарка» — ахвяра, канечне, яму ўжо вядомая, але ён пакуль што тоіцца пра гэта.

Сярод іх ёсць звычайныя гаваркія людзі і тыя, хто заўсёды хоча трапіць на вочы Уладарову, падхалімы, але цяпер, ужо ведаючы пра блізкі вялікі клопат, ніхто з іх угодліва не загарэзаваў, каб падхапіць жарт Уладарова. Не той выпадак, каб падтакваць, выбіцца ў любімцы.

Уладароў адчуў гэта, адмыслова ўсміхнуўся: хітрыя ўсе вы, чэрці; многія таксама зразумелі яго гэтую ўсмешку, па-свойму адмыслова ўсміхнуліся, чакаючы «азадачвання».

Першы вытрымаў паўзу, каб усе расселіся, «сабраліся ў кулак», а потым абапёрся далонямі на свой стол, адразу змяніўся, падзелавеў:

— Таварышы камуністы!

Усе падаставалі з планшэтак блакноты, самапіскі і наструніліся, ведаючы, што Уладароў любіць, калі ўсе сама ўвага, і злуецца, калі хто-небудзь не слухае, перамаўляецца.

— Мы з вамі жывём у няпросты час,— як і заўсёды, пачаў з «палітычнай ацэнкі моманту» (заўтра ў сваіх сельсаветах пачнуць так нарады і яны, старшыні).— Савецкі народ пад мудрым кіраўніцтвам вялікага і геніяльнага Сталіна і нашай слаўнай партыі атрымаў цяжкую, выдатную перамогу над лютым ворагам усяго чалавецтва — фашысцкай Германіяй, наладжваецца на мірнае стваральнае жыццё. Праўда, міжнародны імперыялізм спрабуе выкарыстаць нашы часовыя цяжкасці і паставіць нас на калені, палохае новай разбуральнай вайною...

Голас Уладарова пагучнеў, наліўся гневам.

— Ды нічога ў іх не выйдзе! — падняў, патрос у паветры кулаком.— Мы зноў супрацьпаставім цемрашалам і захопнікам нашу вернасць несмяротным ідэалам Леніна і Сталіна, нашу класавую свядомасць, еднасць, мужнасць і працавітасць — лепшыя рысы, уласцівыя найперш вялікаму савецкаму народу...

«Трыбун! Кіраў!» — які ўжо раз пазайздросціў Кураглядаў, ведаючы, што Уладароў не нашмат старэйшы і не асабліва болей адукаваны, але лепш умее гаварыць. Найперш з-за вёрткага языка быў заўважаны і падняўся ўверх у партызанах.

— Ясна, таварышы, гэтыя якасці нялёгка рэалізаваць у нашых умовах, ва ўмовах несвядомасці, былых буржуазных і жывучых уласніцкіх настрояў пераважнай большасці мясцовых насельнікаў...

«Зараз скажа: «Але нашто тут мы з вамі?»

— Але нашто тут мы з вамі? — сапраўды ўсклікнуў Уладароў і сам адказаў: — Выявіць, судзіць ворагаў, перакаваць нелаяльных...

Чуючы добра знаёмае, Кураглядаў расслабіўся і апусціў вочы долу — на свае бліскучыя боты, на шыкоўны рознакаляровы дыван. І нечакана ад таго, на што ўпёрся позірк, замёр. Колькі разоў слізгаў вачыма па гэтым прыгожым дыване (адзін такі ва Уладарова дома), разглядваў розныя спрытныя ўзоры і дзівосныя яркія колеры, але такое, як цяпер, убачыў упершыню: у вузкай палосцы, што акаймоўвала дыван з чатырох бакоў, сям-там вышыта свастыка! Дыван дык дыван! Сімволіка дык сімволіка! Ды дзе! У якім кабінеце!

Пахаладнела душа: перапыніць Уладарова, сказаць пра гэта пры ўсіх? Не скажы, рана-позна хтосьці агледзіць — усім непаздаровіцца за «страту пільнасці». Але скажы цяпер, пры такім мностве люду,— можа разысціся страшная чутка. Не. Трэба паказаць аднаму Уладарову. Няхай, пакуль не позна, прыбярэ з вачэй і адсюль, і з дому гэтае паганае хараство, засцеражэ сябе і іх ад наручнікаў.

Уладароў сеў, узяў свой блакнот, дзе былі загадзя падрыхтаваныя ягоныя тэзісы.

— Перад намі, таварышы, сёння некалькі, я сказаў бы, баявых задач,— прамовіў.— Першая — палітычная. Трэба як след адсвяткаваць Першамай. Трэба прывучваць мясцовых, што не самыя галоўныя святы каляды, вялікдзень, розныя Пятры, усе святыя і гэтак далей, а галоўныя іншыя, нашы: Першамай, Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя. Вывесьце сцягі, партрэты кіраўнікоў партыі і дзяржавы, склічце сходы, а то і правядзіце шэсце па вёсцы з транспарантамі, музыкай, наладзьце танцы. Каб выманіць несвядомы люд з хат на вуліцу, мы пастараемся прыслаць у цэнтральныя вёскі аўталаўкі... Усё зразумела?

— Усё.

— Зразумела.

— Другая задача, таварышы, гаспадарчая і ў той жа час таксама палітычная,— прадоўжыў Уладароў.— Многія рэгіёны краіны засталіся без пасяўнога матэрыялу, найперш без бульбы. Значыць, трэба тэрмінова правесці растлумачальную работу ў сваіх сельсаветах і сабраць звыш дзесяці тысяч пудоў бульбы — недзе па тысячы пяцьсот пудоў ад кожнага сельсавета.

Усе заварушыліся, уздыхнулі: ого, колькі!

Бачачы і чуючы, як застагналі старшыні, Уладароў пажартаваў:

— Калі, таварышы, здадзім яшчэ болей, дык нам усім будзе толькі лепш...

— Чаму, таварыш Уладароў, такая ўраўнілаўка? — падаў голас Кураглядаў, хоць яшчэ да апошняй хвіліны думаў маўчаць, баючыся гневу з-за свайго новага «асабістага пытання».— Ёсць сельсаветы, як у мяне, дзе ўсе вёскі згарэлі ў вайну, а ёсць такія, дзе амаль усе вёскі ўцалелі. Дык ім лягчэй.

— Кураглядаў! — занелюбіў Уладароў.— Ты — што? Не разумееш моманту, партыйнага задання?

— Разумею. Але я супраць ураўнілаўкі. Прашу з майго сельсавета скінуць пудоў пяцьсот.

Папрасіў так не таму, што пашкадаваў свой люд, які вярнуўся з Германіі і сама становіцца на ногі, а з-за таго, што баяўся трапіць у лік тых, «хто не справіўся з заданнем» і каго будуць бэсціць, дадуць вымову.

Некалькі старшынь, асцерагаючыся, што Уладароў паслухае і набавіць пудоў на іхнія сельсаветы, узарваліся:

— Бач, разумнік які!

— Хоча на чужой спіне ў рай уехаць!

— Кураглядаў, кінь мне партызанскія замашкі! — паківаў на яго пальцам Уладароў і нібы адрэзаў: — Гэта ўсім заданне № 1! Заданне ад партыі і Радзімы! Сам таварыш Сталін можа ў любую хвіліну пазваніць і запытаць, колькі мы ўжо сабралі бульбы!

Паспрабуй пасля гэтага адмоўся!

— Гавары з людам, прасі, патрабуй, вырывай, усе сродкі дапусцімыя, але каб паўтары тысячы пудоў бульбы прывёз у раён! — нібы яму, а на самай справе ўсім уталкоўваў Уладароў.— І каб ні ў раён, ні ў вобласць скарг ад сялян не было! Каб кожны аддаў па тры-чатыры, а то пяць пудоў і яшчэ дзякуй табе сказаў, што ты ўзяў!

Уладароў усміхнуўся ад свайго, як думаў, удалага жарту, але, бачачы, што ніхто не падтаквае, супакоіў:

— Ну, а калі хто будзе ўпірацца, не праяўляць свядомасць, разводзіць антысавецкую агітацыю, то звяртайцеся да таварыша Мірзоева...

Гэты Мірзоеў — малады, гадоў пад дваццаць пяць, чорнавалосы і смуглявы, нібы толькі што з поўдня — адметны чалавек. Калі ўсе, хто тут сядзіць, з нядаўніх партызан, то ён — з Вялікай зямлі. Раней, калі толькі ўтварыўся раён, службу бяспекі ўзначальваў таксама партызан, асабіст з брыгады Васільцоў. Той быў не толькі адмысловы, але страшны чалавек. Яго з групай яны затрымалі перад самай блакадай. Схапілі па незвычайнай прычыне, як ворагаў-карнікаў: сувязнікі данеслі камандзіру атрада, Уладарову, што на «іхняй тэрыторыі» блукае нейкі дзіўны нямецкі атрадзік, урываецца ў вёскі сярод белага дня, расстрэльвае на вачах усіх тых, «хто супрацоўнічае з партызанамі», паліць іхнія хаты, а ў апошні час пусціў дымам невялікую вёсачку. Яны, канечне, селі на хвост гэтай варожай купцы, залавілі і абкружылі. Якое было іхняе здзіўленне, калі тая здалася без стрэлу, а здаўшыся, сказала, што яна не нямецкая, а закінутая сюды па волі Цанавы і Берыі. Спачатку не паверылі старшаму, Васільцову: «Як вы маглі забіваць ні ў чым невінаватых людзей, паліць іхняе жытло?» Той адказаў: «Гэта — спецзаданне. Каб гэткім чынам узмацніць у мясцовых насельнікаў нянавісць да акупантаў, змусіць іх актыўней уліваццa ў шэрагі мсціўцаў». Звязаліся па рацыі з Вялікай зямлёй — так і ёсць, людзі Васільцова свае, не трэба замінаць ім. Да самага канца вайны яны рабілі ўсё, што хацелі, наводзячы жах і на іх, партызанаў. Неўзабаве пасля вайны Васільцова кудысьці адклікалі, а на яго месца прыслалі гэтага Мірзоева, які, кажуць, быў недзе на Поўначы оперупаўнаважаным. Ён, «той, хто не быў у акупацыі», не вельмі давярае ім, здаецца, сочыць не толькі за мясцовымі, але і за імі, а яны, партызаны, па-свойму не вельмі вераць яму, чужому чалавеку.

У гэтую хвіліну, калі ўсе скіравалі позірк на маўклівага і нібы каменнага Мірзоева, пачуўся тэлефонны званок па спецсувязі — Уладароў хуценька ўзяў трубку, назваўся, паслухаў крыху, а пасля пачціва перадаў яе Мірзоеву:

— Вас, таварыш капітан.

Той — звычайна скрытны, уладны — мігам змяніўся, ператвараючыся ў паслухмянага і ўгодлівага служаку:

— Ёсць, таварыш Цанава! Ёсць узмацніць барацьбу з бандытызмам!

Уладароў замахаў усім рукамі: ціха вы! Чуеце, з кім ідзе гутарка!

Мірзоеў пунсавеў, наліваўся чырванню: відаць, трапляла яму на арэхі і да ўсяго брыдкімі словамі. Кажуць, яго шэф з Мінска вельмі не цырымоніцца, сячэ з-за пляча і мала лічыцца нават з самім першым сакратаром ЦК КПБ, Панамарэнкам: ён, гэты Цанава,— любімец Берыі, а той — Сталіна.

Дагаварыўшы і паклаўшы трубку, Мірзоеў сеў і пачаў штосьці хутка запісваць у свой блкнот.

— Вы хочаце што сказаць, таварыш капітан? — паважна і пачціва запытаў у яго Уладароў.

Той нібы не чуў, нейкі час засяроджана пісаў, і ўсе, Уладароў таксама, цярпліва чакалі, калі ён падыме вочы і што-небудзь патлумачыць альбо загадае.

Урэшце той ускінуў галаву, зірнуў на гаспадара кабінета:

— Вы штосьці пыталіся, таварыш Уладароў?

— Вы хочаце што сказаць старшыням, таварыш капітан?

— Што да збору бульбы, то няхай сапраўды звяртаюцца да нас, калі трэба будзе дапамога,— важна адказаў той.— А што да пытанняў маёй кампетэнцыі, то я хачу пагаварыць з некаторымі старшынямі асабіста.

— Калі ласка,— згадзіўся Уладароў. І да старшыняў: — У вас ёсць пытанні да мяне, да старшыні райвыканкома?

Якія пытанні, калі сёння падкінулі такія турботы! Бадай, кожны хацеў сказаць, што цяжка сабраць столькі пудоў бульбы, у тым ліку і ад пагарэльцаў, але ўсе асцерагаліся падаць сябе за нязгоднага: два разы паплацішся за гэта — і цяпер, тут, пад гарачую руку, і пазней, калі не зробіш таго, што загадалі. Трэба кумекаць, як вытрасці з люду насенку.

— Поспехаў вам! — задаволена заззяў Уладароў.

Калі ўсе падняліся, рушылі, спяшаючыся хутчэй вышмыгнуць з гэтага кабінета, да Кураглядава праціснуўся Курлоў, шапнуў на вуха:

— Ну што, дзядзька Апанас, ударым па цымбалах?

— Таварышы! — затрымаў усіх, штосьці толькі цяпер успомніўшы, Уладароў. А калі ўсе азірнуліся, дадаў: — Зайдзіце на склад і атрымайце бюсты Леніна. На месцах павінна быць чым болей нашых атрыбутаў.— І яшчэ, іншым, строгім голасам: — Кураглядаў, застанься.

Старшыні, пачуўшы, каго пакідаюць для прачуханцаў, з палёгкай уздыхнулі і рванулі з кабінета ды з прыёмнай. А што да цябе, дружа Кураглядаў, дык сам вінаваты: выскачыў, захацеў палёгкі за чужы кошт!

Уладароў сеў, закурыў, набычана зыркнуў:

— Ты чаго гэта, землячок, даеш у хамут?

Запытаў іранічна. Што яны землякі, ад усіх таіўся і прасіў, каб ён таксама маўчаў пра гэта. Праўда, ад Мірзоева сакрэтаў не было, той усё ведаў. Кінуўшы гэтае «землячок» (раней называў «земляком» ці «зямелем»), наўмысна паказаў капітану дзяржбяспекі: іхняе зямляцтва справе не замінае, а па-другое, ён трымае падначаленага далёка ад сябе. Нават во чубіць.

— Чэсна кажу: Уладзімір Пятровіч, не выцягнем мы столькі,— адказаў ён, пазіраючы ў блакітныя халодныя вочы земляка.— Люд не стаў яшчэ на ногі.

— А там, ва ўсходніх абласцях, у Расіі, стаў? — ястрабам накінуўся Уладароў.— Гэтых, нелаяльных, нават варожых да нас, што не ішлі ў партызаны і на фронт, ты шкадуеш, а тых, нашых, свядомых,— не? Няхай пухнуць з голаду, гінуць?! Дзіўная, я табе скажу, твая «дыялектыка»! Стратай класавай свядомасці, антыпартыйнасцю пахне!

— Я канстатую факт...

— Я табе, такую тваю, дам «факт»! Факт такі, што тут, не зважаючы, што многія вёскі былі спаленыя, сытней ядуць. А раз так — трэба праявіць свядомасць, працоўную салідарнасць, інтэрнацыяналізм і падзяліцца з тымі, хто сёрбае нішчымнае. Калі не зразумела ім гэта самім, дык трэба ўталкаваць, убіць ім у башку! А па-другое,

задрыпаны дыялектык, хіба не ведаеш: сацыялізм не ўсталёўваўся і не ўсталёўваецца ў белых пальчатках! Ці не разумееш гэтага, яшчэ не дарос нават да нашага унтэр-афіцэрства, як называў ніжэйшы кіруючы склад партыі таварыш Сталін? Ці, можа, не разумееш, што такое партыйная дысцыпліна?

— Усё разумею,— пакорліва адказаў ён.

— Дык менш разводзь анцімоніі, сам не расслабляйся і не расслабляй іншых — больш і лепш выконвай! Не забывай: быццё вызначае свядомасць. І біццё! — Усміхнуўся.— Так, таварыш Мірзоеў?

— Ідэалагічная работа, у тым ліку і з камуністамі, найперш з тымі, хто праяўляе слабахарактарнасць альбо амаральнасць — ваш участак работы, таварыш Уладароў,— адказаў той, таксама курачы казбечыну і ходзячы па кабінеце.— У мяне асабіста да таварыша Кураглядава іншае пытанне. Я склаў карту, калі і дзе ў раёне абрабавалі магазіны. Скажыце, паважаны: чаму ў вашым сельсавеце магазіны нечапаныя?

Душу Кураглядава апёк холад — і ад намёку пра амаральнасць, і ад запытання пра абрабаваныя і неабрабаваныя магазіны. Што — гэты пёс штосьці вынюхаў?

— Хіба гэта кепска, таварыш Мірзоеў? — ледзь знайшоў сілу, каб падаць голас у даволі спакойным, упэўненым тоне.

— Не, не кепска. Але кепска іншае. Апрача вашага і яшчэ аднаго сельсавета, дзе старшыня Курлоў, астатнія магазіны пачышчаныя.

— Відаць, мы здолелі лепш наладзіць ахову вёсак ад бандытаў, таварыш Мірзоеў.

— Я не сказаў бы, што гэта так. Нядаўна мы ўзялі аднаго мацёрага злодзея, што меў сувязь з лесавікамі, дык ён клянецца: некаторыя магазіны ні ён, ні лесавікі не чапалі.

— Дзіўна было б, каб злодзей ва ўсім сумленна прызнаўся,— пачаў браць сябе ў рукі Кураглядаў.

— Згодзен, рэдка які злачынец прызнае сваю віну,— пыхкаў дымам Мірзоеў.— Але па-свойму дзіўна і тое, што вас рабаўнікі чамусьці абыходзяць.

— Вы што — хочаце сказаць, што я і Курлоў, камуністы, партызаны, урэшце, людзі з Вялікай зямлі, хаўруснічаем з мясцовымі бандытамі? — пайшоў у атаку Кураглядаў, палічыўшы, што з такімі пыхліўцамі, як Мірзоеў, трэба паводзіцца па-іхняму — лупіць ім у лоб. Яны паважаюць, нават высока цэняць сілу, смеласць і нахабства.

— Каб я такое падазраваў, то мы з вамі размаўлялі б у іншым месцы і па-іншаму...— Не сумеўся, адрэзаў той.— Я падазраю іншае: ці не праваронькваеце вы, ці не чапаюць у вас нічога лесавікі таму, што якраз у вас яны наладзілі сабе харчовую базу альбо, як тут кажуць, папас? Адпаведна, ці не трэба лепш памацаць некаторых вашых, асабліва хутаранцаў?

— Я згодзен ва ўсім памагаць вам, таварыш капітан,— ужо ўпэўнена прамовіў ён.

— Пра аператыўны план, пра найбольш падазроных і небяспечных тыпаў з вашага сельсавета мы пагаворым асобна. Тым больш, што пра таго-сяго з іх у мяне ўжо ёсць матэрыялы...

«Матэрыялы» на днях падкінуў ён, Кураглядаў. Тое-сёе за сваім подпісам, тое-сёе за подпісам «чалавека з народа» — Мішкі. На хутаранца Грыгарцэвіча і на яго пляменніка-каваля.

«Добра, што закінуў прынаду...— падумаў Кураглядаў, бачачы, што Мірзоеў задаволіўся і збіраецца пакінуць іх.— Няхай бачыць гэты каршун, што я таксама пільны, няхай трасе тых і выяўляе: вінаватыя яны альбо не? Чым болей будзе ў яго валтузні з мясцовымі — тым нам будзе спакайней...»

— Ты што, такую тваю, сабе дазваляеш? Пры ім? — калі Мір-

зоеў выйшаў, зашыпеў на яго Уладароў, наўмысна груба тушачы ў попельніцы цыгарэціну.— Заданне партыі аспрэчваеш, непачцівы тон размовы з дзяржбяспекай дапускаеш?

— Ды пайшоў ён!.. Каршун!

— Вось іменна: ён — каршун! А ты.. Ты — мокрая варона...

— Выскачка! Кар'ерыст!

— Цыц! — абарваў Уладароў і зашаптаў: — Хіба, дурань яловы, не бачыш: ён, а з ім і яго служба не толькі мясцовым, але і нам з табой не зусім вераць? Няўжо не цяміш: мы тады заваюем іхні давер, калі будзем не толькі прынцыповыя, але нават бязлітасныя да ўсіх?! Адпаведна, нам трэба не толькі трубіць у вушы нашы пропаведзі, але і лупіць між вушэй!

— Дык хто ў раёне гаспадар: вы альбо Мірзоеў?

Уладароў нервова ўзяў новую цыгарэціну, прыкурыў.

— Спыні распускаць язык! — Папунсовеў.— І ўвогуле... Ты што — зноў завёў шуры-муры?

«Данясла ўжо нейкая свалачуга»,— непрыемна кальнула яму ў сэрца, але ўсё ж спакойна адмахнуўся:

— Паклёп.

— Кінь! — зазлаваў той, што яго падманваюць.— Сігнал ад вас. З Янкавін.

«Хто накляпаў? Навуменкаў? Мішка?»

— Кідай бугайнічаць, імпатэнт! Калі пацвердзіцца чутка, то беражыся: цяпер ужо ліпавай паперкай не прыкрыешся!

— Кажу ж, паклёп, Пятровіч.

— А чаму жонку сюды не клічаш? Я сваю выклікаў.

— Вы тут як за сцяной, а я — у пушчы...

— Бандытаў рана-позна вылавім, нелаяльных перасадзім ці пераломім. А што да горада — дык пачакай, адбудзь пакаранне, заслужы давер. Але толькі не бугаёўствам...

«А сам...— абурыўся ў душы Кураглядаў.— Кажуць, цяпер ціскаеш былую маю сакратарку, Святлану».

— Хопіць гуляў,— нібы поп, наказаў Уладароў.— Ты ж — не абы-хто, а наша наменклатура. Адпаведна, павінен дбаць не толькі пра свой, але і пра наш аўтарытэт.

«Дбаць пра наш знешні бляск...— карцела сказаць земляку-двудушніку, але не, так не скажаш.— Але пачакай, зараз добра пстрыкну і табе па носе...»

— Я паслаў ужо ліст жонцы: каб ехала сюды,— кінуў мімаходзь.— А цяпер дазвольце, таварыш першы сакратар райкома партыі, задаць вам не пабытавае, а палітычнае пытанне!

Той набычыўся, аж, здаецца, прыпаднялся яго хіб.

— Як зразумець, што якраз гэтым дыванам вы заслалі падлогу ў сваім кабінеце?

— Дыван як дыван,— буркнуў той.— Трафейны. Народныя і партыйныя грошы на яго не патрачаныя.

— Я не пра гэта...

— А пра што?

— А вы як след апусціце вочы долу, прыгледзьцеся да гэтага трафея.

Той насцярожана падняўся з-за стала, агледзеў край дывана, што быў вольны ад крэслаў.

— Кажу ж, дыван як дыван.

— А вы зірніце пільней,— у меру зларадна і ў меру па-змоўніцку прыставаў Кураглядаў, потым таксама падняўся, паднёс насок бота да аднаго са страшных малюнкаў.— Не бачыце, што тут?

Уладароў нагнуўся ніжэй, а потым прысеў — тут жа дзябёлая шыя яго пачала густа налівацца чырванню. Здаецца, дакраніся іголкай

да яе, як вось ужо і да шчок, вушэй, дык з іх пырсне, як з пераспелага памідора. Калі ж падхапіўся на ногі, то твару яго было не пазнаць: вусны перакасіліся, у вачах застыў дзікі жах (з гэтага дня ён на ўсё жыццё пачне нервова смыкаць ротам).

Вылаяўся шэптам, потым паказаў дрыготкім пальцам на ўбачаны малюнак:

— Ты калі заўважыў гэта?

— Сёння.

— Паказваў каму? — пачаў нязграбна адшпільваць гаплік на фрэнчы.

— Не.

— Прашу, Апанас: маўчы! — зірнуў з мальбою. Здаецца, скажы, каб ён, старшы, строгі, стаў на калені, пацалаваў бот, дык і кінецца долу, лізне.— Іначай усім нам...— Правёў далоняй па шыі.— Зразумеў?

Падышоў да свайго стала, узяў графін з вадой, але не мог наліць з яго ў шклянку — толькі, сутыкаючыся, звінела шкло аб шкло. Так і не наліў, паставіў графін на месца.

— Сволач, сука гаспадарнік! — засіпеў, знайшоўшы вінаватага.— Бач, што падсунуў! Міну з мінаў! Падлаўлю на нечым, засаджу! — Павярнуўся, схапіў яго за рукі і затрос.— Дзякуй, Апанас! Я ніколі не забуду тваёй дабрыні. Памагу табе ва ўсіх тваіх бедах.

Кінуўся да свайго сейфа, адчыніў яго і дастаў адтуль, з-за папер, пляшку. У ёй было з большую палову каньяку. Наліў у шклянкі, адну падаў яму.

— Давай,— хітнуў галавой.— Бяры.

Уладароў першы выпіў, лепш сказаць глытнуў са сваёй шклянкі адным залпам. Сеў і ўжо ўпэўнена закурыў. Выцер хустачкай пот з лоба.

— Не хвалюйся, Пятровіч, усё будзе добра. Толькі тэрмінова прыбяры з вачэй гэтае ліха,— прамовіў Кураглядаў. Сказаць шчыра, яму было вельмі прыемна, што ўбачыў Уладарова гэтакага перапуджанага, але перамагаў сябе, не паказваў сваёй урачыстасці. Канечне, заваяваў права называць свайго ўладнага земляка на «ты».

— Дзякуй, Апанас,— нібы заведзена паўтарыў той.— Ты, можа, нават не ўяўляеш, ад якой бяды нас усіх выбавіў... Дазваляю, ідзі ў «Зару», здымі стрэс...

— А ты, Пятровіч, схадзі да Святланы...— асмялела ўсміхнуўся ён.— Разамні, расцвель да таго стану, каб закрычала: «Праклятая плоць! Праклятая плоць!» Не толькі на душы палягчэе, але як рукой увесь цяжар здыме! Страсць яе як агонь ачышчальная...

Уладароў падняў вочы — здаецца, вінаватыя, з сорамам ды памацаў адну, другую свае шчокі:

— Ладна, Апанас. Не помсці. Ідзі. Я хачу пабыць адзін.

Калі Кураглядаў выходзіў з будынка, усё яшчэ цешыўся ў душы, усміхаўся сам сабе. Пасля спахапіўся: ці не затанна прадаў Уладарову не толькі яго цяперашнюю, будучую кар'еру, але і ягонае жыццё! Можа, варта было прыберагчы гэтую тайну на больш цяжкі для сябе дзень? Не. Добра, што якраз сёння адкрыў таму вочы. З такой тайнай — жарты малыя, як з агнём за пазухай.

За варотамі падскочыў Мішка. Ужо адзін тут з усіх сельсавецкіх фурманоў. Вочы ззяюць, на вуснах — змоўніцкая ўхмылка:

— Ну што, шыбуем у «Зару»?

— На базу,— асек ён.— Трэба атрымаць тое-сёе для сельсавета. Справа, работа — найважней за ўсё! Ясна?

Неўзабаве на складзе ўзялі розных бланкаў, канторскіх кніг, паперы, самапісак, алоўкаў і гумак, а таксама новы бюст Леніна. Кураглядаў затрымаўся з загадчыкам склада, былым калегам па

адным атрадзе, каб яшчэ тое-сёе выцыганіць звыш нормы. Калі ж вярнуўся з такім-сякім новым набыткам да сваёй брычкі, абамлеў: Мішка мала што, накінуўшы на шыю бюста пятлю, трымаў-важыў цяжар на аборцы, дурасліва пасміхаўся, дык яшчэ і цэліўся вольны канец аборчыны прывязаць да ручкі калёс — каб бюст не зляцеў з брычкі па дарозе.

Кураглядаў, азірнуўшыся і бачачы, што нікога вакол няма, з наскоку з усяе сілы бухнуў Мішку нагой ніжэй спіны:

— Ты што, гад? Пасадзіць сябе і мяне заадно захацеў?

Той адскочыўся, вылупіў вочы: маўляў, за што? За нявінны жарт? Ага, «жарт»! Ён, Кураглядаў, добра помніць выпадак, што быў да вайны ў іхнім раёне. У горадзе сабралі перадавых калгаснікаў. Давалі ім падарункі: каму — адрэз матэрыялу, каму — кашулю альбо кепку, а аднаму далі звязку кніг Леніна. Гэты ўзяў іх і разгубіўся.

«Так табе, брахун, і трэба!» — пакпіў адзін вясёлы з залы. Зарагаталі і ў зале, і ў прэзідыуме. Але назаўтра веселуна і яшчэ некалькі самых заўзятых рагатуноў узялі, судзілі як «падкулачнікаў» і патарабанілі туды, куды, як кажуць, Макар цялят не ганяў.

— Здымі, сволач, пятлю з шыі! — засіпеў Кураглядаў.— Абгарні чым і трымай на каленях! Як самы каштоўны цяжар!

Затым, накіроўваючыся да рэстарана, выцер халодны пот з лоба. «Ну й дзянёчак сёння! На кожным кроку — сюрпрызы! Ды яшчэ якія!»

На стаянцы каля рэстарана, забіраючы з сабой партфель з паперамі, загадаў Мішку:

— Нікуды не адлучайся. Сцеражы бюст.

— Каму ён трэба? — адказаў той, дурны, незадаволены, што няможна і яму сысціся са сваімі калегамі ды кульнуць па чарцы-другой.

— Ціха ты!

— Прыплаці — ніхто не возьме...— Ныў, можа, і згаладалы Мішка.

— Насмешкі, дурань, могуць быць,— наставіў на розум Кураглядаў.— А насмешкі, кажу, рэч небяспечная.

## 14

Рэстаран «Зара» (за палякамі — «Ранэк», пры немцах — «Дэр Моргэн») быў зачынены з сярэдзіны. Як і заўсёды, у такі дзень, калі ў горадзе якая-небудзь сходка. На шкле ўваходных дзвярэй была прыклееная паперчына: «Извиницця. У нас сягодня спецабслужывания».

Каму-каму, а Кураглядаву ўсё ясна. Па-першае, тыя, хто прыязджае на нараду, жывыя людзі, ім трэба падсілкавацца, а па-другое, ім, «нізавому кіраўніцтву», паўлегальна дазваляецца, вырваўшыся з глухіх куткоў, сустрэцца тут з сябрамі, пасядзець разам, павесяліцца, дык вось Уладароў паклапаціўся, каб усё гэта было за зачыненымі дзвярыма, без лішніх вушэй ды вачэй. Такая завядзёнка з новага году, калі адзін з п'яных старшынь прылюдна аглушыў другога п'янага паўтарачкай з-пад шампанскага, даказваючы, што асабіста ён зрабіў болей подзвігаў у партызанах. Дзіва: усе добра знаёмыя, могуць успомніць кожны крок, кожнае слова адзін аднаго, але цяпер амаль усе, успамінаючы вайну, і фантазіруюць, і маняць, уздымаюць сябе ў вачах іншых, хваляцца. Усе — не абы-хто, а сама меней вартыя звання Героя Савецкага Саюза. Кураглядаў — таксама такі ж. Бывае, калі кульне чарку-другую, любіць фарсянуць звыш меры.

Той (з бойкай) скандал «замялі», усім «уклеілі» па вымове (далі строгую буяну, простую — ахвяры і тым, што ўмяшаліся ў спрэчку, паразбівалі адзін аднаму насы, памалацілі шмат пасуды, шыб у вокнах і люстэркаў, зламалі фікус), але з таго часу ўвялі «спецабслугоўванне», на варце ставілі не толькі вахцёра-швейцара, але і міліцыянера.

Як чулася, у рэстаране ўжо стаяў шум-гам, ішоў пір гарой — даносіліся з пласцінкі гарэзная музыка і песня Уцёсава. Праўда, вось цяпер ён спяваў не адзін, а разам са спявачкай — яе мала было чуваць, яна толькі тоненька падцягвала, а яго хрыплы голас нібы раз за разам узрываўся, цягнуў: «Всё хорошо, прекрасная маркиза...» Хоць Уцёсаў, калі прыслухацца добра, спяваў не толькі шурпата і не зусім патрыятычна, у іншых спевакоў былі нашмат лепшыя галасы, іншы рэпертуар, але яны, былыя ваякі, у час гулянак любілі слухаць якраз яго. За прыемную душы вольнасць, натхнёна-узбуджальны тон, за тое, што якраз такі голас, такі тон былі дарэчы тут, у рэстаране.

«Тры-чатыры чаркі кульну — і ўсё, гайда дадому!» — загадаў сабе Кураглядаў, бачачы, што на яго настойлівы стук ідзе адчыняць дзверы стары тоўсты вусаты швейцар у сінім касцюме і з чырвонымі лампасамі ды з чырвоным абадком на фуражцы. Кажуць, гэты Стах, Генерал, як яны жартам называюць яго, служыць тут яшчэ з дарэвалюцыйнага часу — адпаведна, быў тут і пры паляках, і пры немцах. За апошняе чамусьці не чапае яго Мірзоеў. Можа, і таму, што той «дае інфармацыю». Ну, а яны, старшыні, міралюбныя да яго таму, што ён можа, калі не пускаюць у рэстаран, усё ж знайсці два-тры вольныя месцы альбо прадаць з невялікай нацэнкай пляшку, а калі хто, бывае, перабярэ, забуяніць, дык ён не выкліча міліцыю, а вывалача з рэстарана, ускуліць на калёсы, ткне ў рукі лейцы ды цмокне на каня — едзь дадому, чалавеча, далей ад бяды. Ёсць погалас, што ён яшчэ адмыслова памагае за вялікія ўжо грошы — спрыяе знайсці ахвотную да гулянак маладзіцу і кватэру на некалькі гадзін.

— Здравствуй, пан Стах.

— Здраствуйця, Афанасій Лукіч,— адказаў той, умеючы, калі трэба, гаварыць не толькі на тутэйшай, але і на іншых мовах.— Всё харашо?

— Нармальна,— адказаў ён, не здзіўляючыся, што гэты стары рэстаранны служака ведае, дзе і чаму ён сёння затрымаўся. Бачыў ужо не раз: хтосьці з іх, каго затрымліваюць пасля нарады, прыходзіць сюды пазней альбо, калі добра падсыплюць, і зусім не зазірае.

Зайшоўшы ў залу, Кураглядаў убачыў: калегі павесялелыя, пад першай параю. Звычайна тут стаіць некалькі сталоў уздоўж сцен і акон (каля акон стаяць у вазонах высокія фікусы. Калі хто хваліцца, што быў у рэстаране, дык звычайна кажа, што «сядзеў пад фікусамі»), але цяпер тут свой, «партызанскі», лад: усе сталы ссунутыя ў адзін рад пасярод залы і іх вакол абселі спецнаведвальнікі. Каб і хацеў прысесці асобна, не ўхілішся: нідзе ніводнага вольнага стала. Мусіш ісці толькі ў гэты шумны гурт.

Адтуль угледзелі яго, заціхлі, а потым, перабіваючы музыку і песню Уцёсава, загалёкалі:

— Кураглядаў!

— Лукіч!

— Жывы!

Яго лепшы сябра, вясёлы і чырвоны ўжо, што печаны рак, Курлоў, пасунуўся, вызваліў месца каля сябе:

— Садзіся, Апанас.— А калі ён сеў, запытаў: — Ну што — выхоўвалі?

Ажывіліся і іншыя:

— Ды ў яго адабрала мову!

— Ушчэнт перапужаны!

— Я — як я,— непрыхільна адказаў ён.— А вось пра вас гаварылі, што вы — дрэнныя сябры. Пакідаеце таварыша ў бядзе.

— Кожны за сябе, Лукіч!

— Брат — мой, але хлеб еш свой!

— Ну, дык усё ж што, Лукіч? Чубілі?

— Чаго гэта мяне будуць чубіць? Пагаварылі з Уладаровым,— з выклікам прамовіў.— Як землякі. Мы ж з аднаго раёна.

— Ну, Лукіч!

— Ну, які змей! Колькі таіўся!

Бліжэйшыя кінуліся цiснуць яму рукі, як пераможцу. Ён жа стрымліваўся, не адказваў на гэты не зусім шчыры ды трывалы выбух сяброўства, толькі звысоку пазіраў на ўсіх: урэшце ведайце, чэрці, хто я Першаму! Калі ж прагна слізгануў позіркам па мностве пустых пляшак з-пад гарэлкі, віна, мінеральнай вады, па талерках са скрылікамі рэстараннага мяса і апольцамі свайго сала, варанымі яйкамі, амаль усе, паддобрываючыся, загулі:

— Штрафную Лукічу!

— Фужэр!

Курлоў набулькаў. Фужэр гарэлкі.

— Давай, Лукіч!

— Пакажы дыялектыку!

Ён, крыўдуючы, не браў, выцікоўваў, дзе афіцыянтка Ванда, хацеў сам заказаць сабе пітва.

— Ну, Лукіч!

— Ты што — крыўдзішся?!

— Ды ну! Крыўдзіцца? На сваіх?!

«Эгаісты! Сволачы! Але нідзе не дзенешся — сапраўды, свае... Адну ўладу трымаем, з аднаго жывём...»

Адпіў з фужэра. Крыху.

— Ну, Лукіч!

— Глядзі, так і непітушчым будзе!

— Н-не, давай да канца!

Дружна запляскалі ў ладкі, заспявалі хорам:

— Пі да дна, пі да дна, пі да дна!

Змусілі сілком апаражніць фужэр. Гарэлка пайшла добра — разлілася прыемным цяплом па гарляку і жываце, а пасля лёгка — не, не закружыла галаву, а як гэта сказаць лепш,— мабыць, лёгка заструменілася па жылах, паслала ў галаву павалоку, нейкі адмысловы туман, выціскаючы крыўду, злосць, змушаючы думаць іначай: ніякія яны ўсе не сволачы, а звычайныя, зямныя людзі, да ўсяго падперазаныя адным поясам.

Шумелі-гулі і пры дзённым святле, і пры не вельмі яркіх, але ўсё ж вабных электрычных люстрах, у густым дыме; паступова падзяліліся на купкі: хто ўспамінаў штосьці з нядаўняга былога, хто гаварыў пра сённяшняе, хто спяваў, а хто апусціў ужо галаву на стол, а хтосьці хапаў, мерыўся пасадзіць сабе на калені кругленькую, вабную ў кароткай шэрай спадніцы і белым фартушку афіцыянтку Ванду, спакушаючы яе чырвонцам,— тая, звыклая да такога нораву падпітых, сапсаваных уладай гулякаў, смяялася, нязлосна біла па руках, адыходзілася, каб прыбраць крыху на стале, а там ужо хапалі яе іншыя.

— Пані Ванда!

— Пані Ванда!

Бог ведае чаму, але сапраўды было прыемна яе бачыць, называць паняю, хоць яна была звычайнай местачкоўкаю. Можа, само імя яе — Ванда — добра стасавалася да слова «пані», а разам гэтае «пані Ванда» — да іхняга настрою, да цягі да чагосьці незвычайнага, узнёслага. Адзін са старшыняў, з Шашкоў, падпёр далоняй падбародак,

курыў, атупела пазіраў кудысьці ў кут, а потым, лічы, задушыў у талерцы з мясам цыгарэціну, ускінуў уверх сціснуты кулак і ні то заспяваў, ні то завыў:

— «І біла мяне маці бяр-р-розавым прутам!!!»

Цяжка было паверыць, што гэтыя цяпер па-дзіцячаму вясёлыя, а некаторыя і са страчаным чалавечым воблікам людзі звычайна стрыманыя, строгія і хітрыя.

Захмялеўшы, Кураглядаў падабрэў, не зважаў, што наперадзе ноч, няблізкая дарога, што меўся выпіць усяго тры-чатыры чаркі (такі зарок даваў сабе заўсёды, але і заўсёды парушаў яго): усе цяжкасці, беды забываліся, жыццё здавалася цудоўным, хацелася піць, весяліцца, сядзець тут бясконца, адчуваючы, што гэта ўсё больш і лепш, чым звычайны адпачынак. Пра тое, што можна спіцца, адысці-адсыпацца — і не аднаму, а цэламу пакаленню,— пра гэта, бадай, ніхто з іх не думаў і думаць не мог, бо перамагала іншае пачуццё — з а с л у ж ы л і п а г у л я ц ь...

Дык цяпер зноў было прыемнае гэтае, на першы погляд, недарэчнае хатаўскога старшыні:

— «І біла мяне маці бяр-р-розавым прутам!!!»

Калі выйшлі на хвіліну-другую асвяжыцца, ахмялелы, але яшчэ цямлівы Курлоў прыстаў:

— Ты што, дыялектык, сапраўды блізкі зямляк Уладарова?

— Сапраўды.

— Таіўся ж столькі! Нават ад мяне!

— Быў загад маўчаць.

— А чаму сёння прызнаўся?

— Сёння — можна.

— Чаму?

— Доўга гаварыць... А вось пра іншае скажу: трэба спыняць «гаспадарчыя аперацыі». Пёс садзіцца на хвост.

— Як?

— Дыялектычна вылічыў чорт: у нашых сельсаветах усё цэла...

Курлоў узяў яго за грудзіну, прыцягнуў да сябе:

— Давай, як ты кажаш, мысліць дыялектычна: трэба перанесці дзейнасць на іншыя раёны.

— Загрымім.

— Ні чарта, Лукіч,— адказаў той, хоць вось так, празрыста, не варта было гаварыць уголас.— Пакуль тыя ў лесе, датуль і мы...

Кураглядаў прыклаў палец да вуснаў: ціха ты! Махнуў рукой: хадзем у залу, возьмем яшчэ па чарцы-другой!

Пазней, «у крытычную часіну», калі нельга было марудзіць ні хвіліны, дырэктар рэстарана, пан Стах і міліцыянер каго выпхнулі, а каго разам з партфелем вынеслі на двор. Кураглядаў выйшаў сам, пачаў у цемені шукаць брычку, чуючы, як хтосьці не можа ўзабрацца на каня, падае з веласіпедам альбо доўга заводзіць матацыкл. Некаторыя ніяк не маглі разысціся, доўга абдымаліся і цалаваліся на развітанне, а шашковец, як адчувалася, ужо лежачы на калёсах, вылямантоўваў з сябе ўсе свае дурыкі:

— «І біла мяне маці бяр-р-розавым прутам!!!»

Нарэшце натрапіўшы на сваю брычку, Кураглядаў абмацаў на ёй Мішку. Заштурхаў яго. Той варочаўся, адбіваўся — значыць, недзе нажлукціўся, а цяпер спаў. Ачомаўся трохі, калі добра-такі атрымаў кухталёў пад бакі.

— П'яны, гад?

— Не-э,— замармытаў той.

— Дзе, сволач, бюст? — накінуўся ён, не абмацаўшы рукамі таго, пра што не мог забыць і цяпер.

— Пад брычкаю...

— На пятлі?
— На пятлі.
— Не сарвецца?
— Не-э.
— Ну й добра. А цяпер памажы мне сесці, а то я стаміўся...
— Ага, на нарадзе...
— Цыц, прайдоха!

Мішка паспрабаваў злезці са свайго сядзення — адразу ж кульнуўся, як сноп, пад ногі. Мычэў, гробся, але падняцца не мог.

— Ах ты, п'янчуга! — таўхануў яго нагой Кураглядаў.— Я ж загадваў табе не піць!

— Я не піў...

— Набраўся, як свіння,— зноў ударыў яго Кураглядаў, а потым, як дужэйшы, пачаў сам памагаць таму падняцца і ўскараскацца на брычку. Ткнуў лейцы ў рукі, штурхнуў пад рабрыну.— Не спаць! Звалішся — падымаць не буду. І з работы п'янчугу праганю! Пасаджу!

За горадам, дзе іх сустрэла густая і сырая цемень, Кураглядаў зацісн уў партфель нагамі, дастаў наган — калі трэба будзе, бараніцца ад бандытаў. Час ад часу тыцкаў кулаком Мішку ў спіну — каб той не заснуў. Мішка войкаў, выгінаўся, але, як адчувалася, тут жа спрабаваў схіліцца набок.

Яго таксама ахутваў сон. Змагаючыся з ім, знаходзіў адзін паратунак — бязлітасна, як ката, таўчы фурмана і крычаць:

— Мішка, не спаць! Мішка?
— Ну што, та-ва-рыш Ку-ра-гля-даў? — ледзь вымавіў той.
— Ты ненавідзіш мяне?
— Не.
— Паважаеш?
— Ага.
— Ненавідзіш альбо паважаеш?
— Ага.
— Што — ага?
— Ага...

Кураглядаў зноў ударыў Мішку:

— Ненавідзіш. Усе вы, чэрці, ненадзейныя. Калі б не наша сіла, дык вы... А Валю?
— Што — Валю?
— Любіш?
— Ну...— зацягнуў той.
— Што — «ну»? Любіш?
— Не-э.
— Чаму?
— Вы любіце...

Сабраўшы ўсе сілы і апошнюю разважлівасць, Кураглядаў хапіў яго за каўнер, прыцягнуў і ткнуў дулам нагана ў скронь.

— Я нічога не маю з Валяй. Ясна?

Мішка задыхаўся, мычэў.

— Ясна? — перапытаў.
— Яс-на.
— Яна — вольная. Добрая дзяўчына. І ты, друг сітцавы, возьмеш яе замуж.
— Не-э!
— Застрэлю гада! — мацней ткнуў наганам.— Тлуміў-тлуміў дзяўчыне галаву, даваў ёй надзею, перабягаў дарогу іншым — і ў кусты? Не дазволю! Антычалавечна і антымаральна! Гавары, сволач, што возьмеш, а то хопіш зараз кулю! Ну!
— Таварыш Кураглядаў...
— Ну-у!!!

— Вазьму,— плаксіва выдыхнуў Мішка.

— Вось так,— Кураглядаў задаволіўся, цмокнуў яго ў шчаку і адпіхнуў.— Заўтра ж запішу вас. Ты, ёлупень, нават не здагадваешся, якая дзеўка табе дастанецца! Адукаваная, пры добрай рабоце. Не тое што лепшая, а нават іншая такая, як Валя, за цябе, таўкача, не пойдзе!

Мішка адчайна скуголіў сам сабе; Кураглядаў яшчэ нейкі час пагудзеў абы-чаго, у што і сам не верыў, а потым пачаў быццам кудысьці правальвацца: боўтне галавой, адключыцца ад усяго — тут жа ўздрыгне, наставіць у цемень наган, пабудзе хвіліну-другую напружаны, а затым зноў бултыхне. Як ні змагаўся, усё ж не ўстояў, здаўся сну. Цяжка мусіў ачомвацца толькі ўжо каля сельсавета — да яго давёз іх, абодвух сонных, кемны конь, а пабудзіў, сцягнуў з брычкі і завалок у хату вартаўнік. Праўда, хоць быў малапрытомны, але нагана і партфеля Кураглядаў з рук не выпусціў, з імі ў абдымку зноў упаў у сон ужо на сваім ложку.

## 15

Сёння, за тыдні два да мая, янкавінскія мужчыны пераЖывалі своеасаблівае ўзрушэнне: на ўкапаныя ў грунт камяні (па кутах і на пасяродку) пачалі ладзіць тоўстыя, абрэзаныя пілой бярвёны — першы вянок школьнага зруба.

Францішак Грыгарцэвіч (ён сам па сабе камандаваў усімі) укладваў, прымяркоўваў бярвёны з грунтвагаю, а яго пляменнік, Сцяпан, чыркаў алоўкам, пазначаючы, дзе што трэба падрэзаць, падчасаць, дзе высекчы альбо выдзяўбці,— рашылі рубіць не па-простаму, як амаль усе рубілі ў вёсцы, а на нямецкі манер, у гладкі вугол. Сцяпан алоўкам і адмыслова зробленым калочкам пазначаў таксама, дзе, як тут казалі, выбіраць драчку — каб бервяно шчыльна легла на бервяно. Абодва, дзядзька і пляменнік, пільна сачылі, як хто рэжа, высякае і выбірае, падпраўлялі тое-сёе сякерай ці долатам, давалі каманду слаць мох, класці бярвёны, падганялі, а потым даручалі выкруціць тэбелем дзюркі і загнаць у іх калочкі — змацаваць вянкі, а заадно не спускалі вока з іншых — тых, хто часаў вярхоўе на кроквы, з нарэзаных ужо круглякоў драў спецыяльным вялізным нажом стружку, і ўсе ім падпарадкоўваліся. Як самым здольным і спрытным да цяслярскай работы. Ладзілі ўсё, на першы погляд, марудна, не спяшаючыся, але няўхільна, грунтоўна, і к вечару ўжо жаўцеўся зруб на ўзроўні грудзіны з вызначэннем, дзе будуць вокны, дзверы і глухія сцены.

Калі зашарэлася і той-сёй хацеў ужо ісці дадому, Францішак загадаў не адкладаць, а сёння паставіць рыштаванне — каб заўтра з раніцы класці новыя вянкі: хутка трэба будзе сеяць, садзіць бульбу, а там не агледзішся, як прыйдзе пара сенакосу, дык часу на будоўлю будзе вельмі мала.

Калі ўкопвалі слупы, падышла паштарка. Высокая, гонкая, заўсёды хмурная Гэля. Прынесла пошту ім, будаўнікам, а таксама хутаранцам. Сёння быў надзвычай хвалюючы дзень для Францішка Грыгарцэвіча: ён атрымаў не толькі раённую газету «Сталинский путь», але і адразу два трохкутнія лісты з вайсковымі штэмпелямі.

Раённую газету стары згарнуў і запхнуў за халяву бота (пачытае ўжо дома пры газоўцы, начапіўшы на нос акуляры), а вось што да лістоў, дык не выцерпеў, падаў іх дрыготкай рукой Сцяпану:

— Зірні: ад Адама?

Пачуўшы, што прыйшлі весткі ад Францішкавага сына, які першы з вёскі пайшоў служыць у савецкае войска з ахвотаю, падышлі астатнія мужчыны, абступілі іх: кожнаму цікава, што піша зямляк-салдат? Дзе ён? Як яму? Не поруць у вочы, як тут Кураглядаў, ужо толькі за тое, што якраз з гэтых адмысловых мясцін, быў пад панамі, у акупацыі і ў Германіі?

— Дзе ж ён? — не цярпелася бацьку ўведаць, куды трапіў служыць сын.

— У Хабараўскім краі.

— Ого, куды загналі! Пад Кітай і Японію!

Сцяпан разгарнуў адзін ліст і здзівіўся: напісана не Адамавай рукой, а кімсьці іншым па-руску. Той умее чытаць, пісаць па-польску, бо скончыў да вайны чатыры класы польскай школы, але вось чамусьці сам не напісаў ліст.

«Здраствуйте дарагия папаша, мамаша, братишка и снаха!

С приветам к Вам Ваш сын Адам, рядовой доблестной Советской Армии...»

Сцяпан прачытаў гэтыя радкі — дзядзька таксама не толькі здзівіўся, але нават проста збянтэжыўся. Тым больш, што тут жа Супраневіч, Мішкаў бацька, худы, як хрушч, чарнявы ядавіты мужчына, даў волю свайму языку-жалу:

— Глядзі ты, расеяц ужо!

— Што — гэтак сам піша? — схмурыўся Францішак.

— Не,— супакоіў яго Сцяпан.— Не яго рука.

— Сам па-свойму не хоча пісаць...— зноў уставіў свае два грошы Супраневіч.

— Не лезь, Пятро! — абарваў таго Францішак.— Дай паслухаць. Вось пойдзе твой у войска, прышле вестку — дык тады чытай і што хочаш пляці. А цяпер памаўчы. Чытай далей, Сцяпан.

«В первых страках своего письма саабщаю, что пишет Вам мой таварищ либо желательно писать письма дамой по... (некалькі слоў густа замазана чорнай фарбай).

Служу я дарагия мои... (тры радкі далей зноў закрэсленыя). Служба идет харашо. Честно выполняю уставные требования, командиры мной давольны. Освоился, даже присмотрел здеся одну девицу. Работает в медчасти. Говорят что гулящая но ничего, полногрудая, полнозадая, спирт дает и не только спирт...»

— Га-га-га,— зарагатаў Супраневіч.

— Чаго скалішся? — незалюбіў Францішак.— Хіба не разумееш: папрасіў хлопец напісаць па-іхняму, каб хутчэй дайшло пісьмо, а той, скалазуб, такі, як ты, пляце лапці... Не чытай, Сцяпан, гэтага болей, чытай другое.

— Ведама, хлопцы маладыя, дык выдурняюцца,— ліслíва апраўдаўся Супраневіч. Але, канечне, разнясе абы-што па вёсцы пра гэты ліст, прыпляце яшчэ нямала сваіх складанцаў.

Сцяпан расклеіў другі канверт. Там, як убачыў на лісціку ў клетачку, таксама было напісана не Адамавай рукою.

«Дзяньдобры, тата, мамуся, Вацік, Галена і Юзік!»

— Во гэта ўжо сам піша! — усцешыўся Францішак.

— І тут не сам, дзядзька.

—Але як чую: яго словы... І парадачны чалавек запісвае за ім.

«У першых радках свайго пісьма хачу сказаць, што я папрасіў аднаго салдата напісаць па-руску, але той насмяяўся. Я не хацеў пасылаць тое пісьмо, але мне не аддалі яго, самі паслалі Вам. Калі будзеце мець на руках, то не верце ніводнаму слову.

Цяпер мне піша наш чалавек, з-пад Маладэчна, які да вайны трохі вучыўся ў беларускай гімназіі...»

— Во гэта ўжо другое дзела,— усцешыўся Грыгарцэвіч-бацька.

«Служу я ў... (закрэслены радок). Як толькі прыехалі сюды, дык мяне цягалі... (закрэслена паўстаронкі)».

Сцяпан, убачыўшы, што дзядзька маршчыніць лоб, чакае патлумачэння, паясніў:

— Тут многа замазана...

— Цанзура...— як усёведай, сказаў Супраневіч.— Піша пра тое, пра што не паложана пісаць.

«Умею рабіць усё, што робяць усе, толькі не ўсё разумею, што гавораць камандзіры, салдаты. Але патроху здагадваюся. Ёсць такія, да слова, з Каўказа, з Сярэдняй Азіі, з Літвы, Латвіі альбо Эстоніі, што амаль нічога не разумеюць па-руску, дык камандзіры (затушавана некалькі слоў)... «Разве, черти, тяжело научиться разговаривать на культурном языке?»

Як вы там усе? Як Сцяпан з Марысяй і маткай? Паехалі ўжо ў Польшчу ці яшчэ дома? Калі дадуць адтуль вестку, дык дайце і мне іхні адрас. Як школа? Ці многа ўжо чаго зрабілі?»

Францішак — спакойны, мужны, нават часамі, здаецца, не толькі стрыманы, але і, як кажуць, сухі чалавек — не вытрываў, зацёр пальцамі заплюшчаныя вочы, сцёр слязіны:

— І пра школу нашу не забыў...

— Не перажывай,— усё зразумеўшы, падаў голас Супраневіч.— Не ўбачыш, калі мільгануць тыя тры гады. Вернецца жывы-здаровы, ажэніцца, дзяцей прыстараецца і сюды вучыцца прывядзе... Абы новай вайны не было...

— Вот-вот...— на гэты раз Францішак дружна згадзіўся, як усе лічаць, з несур'ёзным, зайздросным і з вераломным Супраневічам, пачуўшы ад таго разумныя словы. Расчуліўся, але тут жа браў сябе ў рукі, спакайнеў. Што б там ні было, можа, і патрэслі хлопца, але жывы-здаровы, служыць, цягне салдацкі плуг. Не пястун, змалку да работы, да цярплівасці, нягод прывучаны. Адным словам, устоіць, мужчынскі характар сцвердзіць.

— Гэта яшчэ не ўсё, дзядзька Францішак,— падала голас Гэля.— Вам вот яшчэ позва. У ваенкамат.

— Во! — загарэзаваў акрыялы Супраневіч.— Сын так спадабаўся, што рашылі і бацьку ўзяць! За капрала, а то і за плютановага!

— Ці не блытаеш ты чаго, дзяўчына? — не зважаючы на калючы, але не такі ўжо страшны кпін, знайшоў сілы ўсміхнуцца Францішак.

— Не, дзядзька,— шчыра адказала тая.— Там напісана, каб паслязаўтра вы там заявіліся. Але Навуменкаў сказаў не аддаваць вам позву, толькі даць, каб вы на ёй распісаліся. Што ведаеце пра яе.

— Во які сакрэт! — пакпіў Супраневіч.

Гэля падала невялікую паперку, самапіску, паказала, дзе паставіць подпіс. Францішак не завіхаўся распісвацца, бо ўжо добра ведаў, што на важных паперах свой подпіс трэба ставіць вельмі асцярожна, жмурыўся, збіраў у куточках некалі блакітных, а цяпер выцвілых вачэй глыбокія маршчыны і з усіх бакоў разглядаў гэтую дзіўную позву.

— Навуменкаў кажа: хочуць вярнуць вам Адамаву цывільную вопратку,— дадала Гэля.— Але толькі вам у рукі.

Каб такое сказаў сам Навуменкаў, стары і вопытны Францішак Грыгарцэвіч не вельмі паверыў бы ў гэта, але калі пра гэта сказала дзікаватая, але шчырая Гэля, ён ні ў чым не засумняваўся. Чыркнуў на падстаўленай Гэлінай сумцы сваё прозвішча на паперцы ўнізе і, думаючы ўжо зусім пра іншае, папрасіў:

— Хоць і цямнее, але давайце, мужчыны, усё ж сёння паставім рыштаванне.

Яму ніхто не сказаў супраць слова — разышліся: хто падаўся далей укопваць слупы, хто прыбіваць да іх, ужо ўкапаных, і да

зруба калкі, а хто пачаў усцягваць на перакладзіны аполкі.

...Дома, на хутары — пры запаленай ужо газоўцы,— перш чым вячэраць, Францішак спачатку ўсім прачытаў Адамаў ліст (той, што напісаў зямляк), даў кожнаму, жонцы, сыну і нявестцы, патрымаць яго ў руках, яшчэ некалькі разоў перачытаў моўчкі сам, узіраючыся ў кожнае слова, у кожную літару, нібы намагаючыся адчуць сынавы думы і пачуцці, а заадно па-сталаму ўжо зразумець, асэнсаваць тое, што было закрэслена альбо зафарбавана, а затым схаваў ліст у свой куфэрак, дзе быў сямейны «скарб» і «архіў». З гэтай хвіліны сынаў ліст стаў не простай паперкаю, а сямейнай рэліквіяй. Скалазубны ліст парваў і ўкінуў у печ. Затым пасёрбаў трошкі астылай, але пахкай і смачнай капусты, што пакінулі яму з полудня, няспешна і акуратна абрэзаў сцізорыкам мяса на костцы, выбіў з яе, як тут казалі, шпік, а тады, памыўшы тлуставатыя рукі, зноў начапіў акуляры, падсеў да лямпы і ўзяў у рукі раённую газету. Спачатку кінуў позірк на ўсе чатыры старонкі, прыкідваючы, што чытаць найперш, а пасля ўзяўся чытаць усё запар, спрабуючы адчуць, пра што і як піша новая ўлада.

«...Как сказал мудрый вождь всех времен и народов товарищ Сталин, мы должны преодолеть временные трудности. Еще немного терпения, еще более трудового энтузиазма, и мы придем к счастливой жизни, где каждый советский человек...»

«Можа, скора і палягчэе жыць,— згадзіўся, але заадно і заспрачаўся з тым, пра што чытаў.— Але кожны чалавек ніколі не будзе шчаслівы. Усе старыя людзі казалі: палавіна свету скача, а другая палавіна плача...»

Калі запар прачытаў дзве першыя невялікія, але аб'ёмістыя старонкі, адарваў палавіну газеты і пакінуў яе на стале — сыну на самакруткі, а другую, нячытаную, палову газеты ткнуў за бэльку, каб дачытаць заўтра. Не ўсяму ён верыў, што пісалася ў газеце, а ле ўсё роўна вабіла пачытаць, бо часамі сярод тутэйшых вестак былі навіны і пра свет вялікі, сустракаліся цікавыя, смешныя малюнкі, вершыкі — праўда, заўсёды крывіўся, не любіў, калі, бывала, непрыстойна і злосна пацяшаліся над папамі і ксяндзамі, а то і над самім Богам...

## 16

Назаўтра Францішак узяў акрайчык хлеба, скварку, кіёк і, як клікалі, патрухаў у раённы ваенкамат — пашкадаваў ганяць туды-сюды каня, падаўся пехатой. Цяжкога чаго купляць не меўся, а тое дробнае, што возьме, не зломак яшчэ, прынясе ў торбе за плячыма. Хоць хацеў забраць сынавыя рэчы, але заадно і шкадаваў, што змарнуе такі патрэбны вясновы дзень — недзе сёння мужчыны павінны ставіць ужо на школьным зрубе кроквы і лаціць.

У горадзе адразу пайшоў да ваенкамата — высокай і аб'ёмістай драўлянай будыніны, з усіх бакоў абнесенай дашчаным плотам. Дошкі ў гэтым плоце былі пафарбаваныя ў зялёны колер, на асобных кідаліся ў вочы яркія чырвоныя зоркі. Па дарозе, што вяла да будынка, па адзін і другі яе бок роўнымі радамі стаялі фанерныя шчыты, а на іх былі намаляваны суровыя воіны, розныя карціны з іхняга побыту, і на кожным шчыце стракацелі вялікімі чырвонымі літарамі надпісы: «Служба в Вооруженных силах — почетная обязанность каждого советского гражданина», «Советская Армия непобедимая», «Товарищ Сталин — лучший друг советских воинов»...

Ваенкамацкі дзяжурны, паджылы чырванашчокі і паўнаваты

старшына, паслухаўшы яго, спачатку зазірнуў у сваю кнігу-сшытак, а потым сказаў, куды ісці.

Ён падаўся туды, як і кожны вясковы чалавек, трошкі разгубліваючыся ў незнаёмай казённай будыніне і лічачы тут кожнага за вельмі важнага чалавека. Каля пафарбаваных дзвярэй пад нумарам «13» запыніўся і запыніў позірк на прадаўгаватай шыльдачцы:

Начальник
отдела учета воинов запаса рядового
и сержантского состава ст. л-т Рубинов В. Я.

Угледзеў вось гэтае «Начальник» — не тое што забілася, а нават заштуршкавала сэрца. Чаго, дурное? Няўжо ад спрадвечнай сялянскай боязі перад чужымі, з іншых краёў чыноўнікамі? Пастукаў раздругі костачкай вялікага пальца ў дзверы. Пачуўшы «Да», зайшоў. У вузкім прадаўгаватым, пафарбаваным у зялёны колер пакоі — акно, шафа з папкамі, стол, за ім — русявы маладжавы афіцэр у паношанай форме, з ордэнамі і медалямі на грудзіне.

Адказаўшы на прывітанне і пачуўшы, хто ён, старшы лейтэнант хуценька падхапіўся, узяў яго кіёк, паставіў у кут і ветліва запрасіў:

— Хадзем, калі ласка, са мной.

Вывеў на калідор і паказаў рукой (на ёй не было аднаго ніжняга пальца) на суседні кабінет:

— Вам туды, грамадзянін.

На гэтых, абабітых чорнай цыратаю, дзвярах не было ні нумара, ні шыльдачкі — не, сказаць праўдзівей, шыльдачка была, але невялікая і адмысловая: «Посторонним вход воспрещен».

Грыгарцэвіч пастукаў, а калі пачуў запрашальны голас, зайшоў туды. Тут таксама было адно акно (закрачанае, напалову замазанае белай фарбаю), сцяна злева была голая (толькі з вялізнай картай), а справа стаяў стол з тэлефонам, за сталом сядзеў малады, з рыжажаўцістымі (вожыкам) валасамі, з пукатым невысокім лобам, хмурны, з цяжкім позіркам незразумелага колеру вачэй лейтэнант у зялёнай гімнасцёрцы і сініх галіфэ. Над сталом вісеў партрэт Сталіна ў форме генералісімуса.

«Энкэвэдэ...— зразумеў ён.— Але чаму кліча якраз яно? Можа, з-за Янкавага ліста?»

— Усаживайтесь,— суха сказаў лейтэнант і паказаў на крэсла насупраць, а сам упёрся на яго калючымі, здаецца, жаўтаватымі, як у некаторых катоў, вачыма.— Ваша прозвішча, імя і імя па бацьку.

Ён адказаў, як і пасля пра тое, дзе і калі нарадзіўся, дзе быў-жыў, што рабіў да сённяшняга дня, колькі меў і мае зямлі, а лейтэнант акуратна ўсё запісваў.

«Напісаў неасцярожна хлопец пра тое, як цягалі, трэслі яго ў войску за тое, што быў у Германіі, дык вось паклікалі...» — падумаў сам сабе Грыгарцэвіч, чакаючы, калі гэты сыч пачне пытацца пра Янку.

— Вас выклікалі не ў ваенкамат, а ў органы бяспекі,— падняў галаву, сапраўды, як і чакаў, сказаў лейтэнант.— Але гэта павінна быць толькі паміж намі... Зразумела?

— Ведама,— завучана адказаў. Ужо не раз гаварыў так: і калі вяртаўся з германскага палону, быў на допытах у армейскіх асабістаў, і пазалетась у Янкавінах, калі да іх на хутар прыязджаў лейтэнант бяспекі і распытваў пра знаёмых паліцэйскіх, старастаў і самаахоўцаў. Кожны раз бралі з яго слова, што будзе трымаць язык за зубамі.

— Папрашу адказаць на мае пытанні,— па-ранейшаму суха прадоўжыў лейтэнант.— Скажыце: якія ў вас падставы, грамадзянін Грыгарцэвіч, агітаваць супраць Савецкай улады?

Ягоная душа раптоўна зледзянела. Што значыць: па-першае, гэтае

«ў вас», а па-другое, «агітаваць»? Хіба ім мала таго, што ён ужо не раз гаварыў шчыра і праўдзіва?

— Паўтараю: якія ў вас падставы, грамадзянін Грыгарцэвіч, агітаваць супраць Савецкай улады?

— У каго гэта «ў вас»? І што значыць «агітаваць»?

— Вы што — не разумеце рускай мовы?

— Разумею,— прамовіў дрыготкім голасам, адчуваючы, як лоб, спіну пакрывае халодны пот.— Але не разумею, пра што вы пытаецеся.

— Патлумачу. Чаму вы публічна ідэалізуеце стары лад, жыццё пры буржуазнай Польшчы?

— Гэта што — значыць, я хвалю-перахвальваю тое?

— Так.

— Дзе? Калі? Як? — запытаў, настройваючыся на доўгую і зацятую вайну нерваў. Гэтыя людзі, да каго цяпер трапіў, своеасаблівыя, чэпкія, лёгка з рук не выпускаюць.

— Тут пытанні задаю я,— яшчэ болей пазмрачнеў лейтэнант.— А вам трэба адказваць.

Адчуўшы, што трапіў у кімсьці закінутую сетку, Грыгарцэвіч падумаў, што не варта лішне трапятацца, як часам кідаюцца з аднаго на другое маладыя і гарачыя, трэба ўзяць сябе ў рукі і быць разважлівым, спакойным.

— Дык хваліце? Шкадуеце, што цяпер іншыя, не тыя, парадкі?

— Не.

— А што ж вы робіце?

— Жыву. Як і ўсе людзі.

— І не ўздыхаеце па буржуазным мінулым?

— Не такое яно лёгкае ды салодкае было, каб па ім шкадаваць.

— Ну-ну! — нядобра скрывіўся лейтэнант. Нібы ўсміхнуўся. Зларадна. Варожа.— Кіньце! Вам не ўдасца абвесці нас вакол пальца! Скажаце: асабіста вы не лічыце, што за панамі вы жылі і не тужылі вельмі, ніхто вас надта не чапаў, а вось там, у СССР, маўляў, абманулі люд, адабралі ў сялян зямлю, лепшых гаспадароў саслалі, пабілі, як пабілі ўвогуле самых разумных, сумленных? Не гаварылі, што некаторыя вашы цікаўныя хлопцы пайшлі ў БССР, каб на свае вочы ўбачыць савецкую рэчаіснасць, але не вярнуліся назад і іх цяпер нідзе не знайсці?

«Дык пра гэта ж гаварылі мы з Кураглядавым, калі той забіраў Адама...— Успомніў ён. Жахнуўся.— Божа мілы, чаму ты тады засляпіў ад крыўды мой розум? Чаму ты не адняў тады мой язык?»

— Бачыце: нам усё вядома?!

— Вам гэта нагаварыў наш старшыня сельсавета...— прамовіў ён.

— Дык гэта — праўда ці не?

— Не.

— Як — не? — нібы на кручку, трымаў яго лейтэнант.— Вы маеце іншую, добрую, думку пра СССР?

— Каб нешта пэўнае гаварыць, трэба нешта пэўнае ведаць Я ж не жыў там, дык добра ўсяго не ведаю.

— А ў прынцыпе?

Францішак Грыгарцэвіч запнуўся, спытаў:

— Выбачайце, пра што вы пытаеце?

— У прынцыпе вы «за» альбо «супраць» ідэй марксізму-ленінізму, Кастрычніцкай рэвалюцыі, сацыялізму?

— Я не такі адукаваны, каб пра такое гаварыць,— пасміхнуўся ён.

— Пытанне стаўлю ў іншым ракурсе: чаму, як вы кажаце, многага і вялікага не ведаючы, тым не менш заўзята дыскрэдытуеце СССР, сацыялізм? Вы робіце гэта на падставе нянавісці, атрыманай спачатку ў буржуазнай Польшчы, а пасля ў фашысцкай Германіі? Ці з падбухторвання тых, хто ў лесе?

Грыгарцэвіч змаўчаў. Раптоўна закружылася галава, вочы засланіў нібы туман. Здаецца, паплыла пад нагамі зямля. Ён душой адчуў: не столькі трапіў у сетку, як на яго шыю ўжо бязлітасныя рукі накінулі пятлю. Пайшла гутарка пра палітыку і пра палітыку вялікую. А дзе вялікая палітыка, там для простага чалавека — не толькі неразбярыха, але часам і згуба. Бо палітыкай займаюцца не толькі адукаваныя, разумныя, але і хітрыя ды жорсткія людзі.

— Падказваю,— канечне, адчуўшы яго душэўную разгубленасць, наступаў лейтэнант,— добраахвотнае прызнанне змякчае віну. Так што, грамадзянін Грыгарцэвіч, вам лепш не маскіравацца, не ўпірацца ды выкручвацца, а сумленна прызнацца ва ўсіх сваіх грахах.

— У якіх?

— Слухай! — лейтэнант імгненна наліўся чырванню, бухнуў па стале кулаком.— Хопіць прыкідвацца святой авечкай альбо прастачком! Я наскрозь цябе, кулака, бачу! Усё тваё звярынае нутро!

— Звер ёсць звер. І не кожны звер — драпежнік альбо людаед.

— Хопіць! — ужо зароў гаспадар пакоя.— Хопіць, такую тваю, папоўскіх пропаведзей! Мне трэба іншае. Мне трэба, каб ты, хутаранская, кулацкая поскудзь, шчыра і сумленна расказаў пра сваю скрытую варожую дзейнасць, пра агітацыю супраць Савецкай улады, супраць самага перадавога і гуманнага ў свеце гаспадарання — супраць калгасаў...

— Я, яшчэ раз кажу вам, не паліцік,— прамовіў Грыгарцэвіч.— Калі, бывае, што скажу, дык я на тое жывы чалавек, каб думаць і гаварыць, запытаць пра тое-сёе ў людзей.

— Дык усё ж — думаеш, гаворыш? Агітуеш? — загарэліся ў таго дагэтуль жаўтаватыя, а цяпер нейкія незвычайна ўзбуджаныя, злосныя вочы. З хвіліну памаўчаў, свідруючы яго гнеўным позіркам, а пасля, мусіць, сам супакоіўшыся, зноў «завыкаў»:

— Калі, дзе, з кім гаварылі ў апошні час?

— З Кураглядавым. У сваёй хаце.

— Дзе, з кім яшчэ?

«Назаві каго — пацягнуць і таго...»

— Нідзе і ні з кім.

— Няшчыры, абманшчык вы ў такім паважаным узросце! Мы ж добра ведаем: вы разам са сваім пляменнікам, кавалём,— зірнуў на паперку перад сабой,— Сцяпанам Грыгарцэвічам, збіраецеся на тайных, хутаранскіх, антысавецкіх сходках і бэсціце Савецкую ўладу, замышляеце супраць яе варожыя, тэрарыстычныя акты. І хочаце ажыццявіць іх, пачаўшы з ідэйна адданага, нядаўняга партызана таварыша Кураглядава. Адпаведна, падрываючы аўтарытэт, уладу прадстаўніка Савецкай улады, вы скіроўваеце ўдар супраць марксізму-ленінізму, супраць пралетарыяту, сацыялізму і асабіста супраць таварыша Сталіна.

«Што яму, таму Сталіну, зраблю, калі ён далёка і высока? Але ясна адно: скажы хоць слова супраць Сталіна, ты — нелюдзь... Вораг усім людзям, усяму свету. А што гэта значыць? А гэта значыць тое, што яны, тыя, што сядзяць высока, не любяць нас, баяцца нашага праўдзівага слова... Даюць волю трэсці нас...»

— Ну,— падагнаў лейтэнант,— прызнавайцеся!

— У чым?

— Кінь, такую тваю, міраед! — зноў грукнуў па стале кулаком той.— Ёсць неабвержаныя доказы, што якраз вы са сваім пляменнікам трымаеце ў сваіх руках усю вёску, фармуеце яе антысавецкі погляд!

— Бажуся вам, ніякія мы не падбухторшчыкі!

— Гэта — па-вашаму. А па-нашаму, вы ўсімі адкрытымі і патайны-

мі сродкамі перашкаджаеце ўсталёўваць іншую свядомасць, новы, савецкі лад.

— Дарослы чалавек, але такое гаворыце,— усміхнуўся Грыгарцэвіч.— Хіба двум па сіле стаць на дарозе ўладзе?

— Канечне, удвух вы не стрымаеце Савецкай улады, рукі кароткія ў вас,— працадзіў скрозь зубы вайсковец.— Але, паўтараю, у сваёй вёсцы вы, зламыснікі, адпаведны, нелаяльны, клімат ствараеце.

— У кожнага свой розум. Кожны сам бачыць: дзе — дабро, а дзе — зло.

— Мацёры аднаасобнік-уласнік! Ты, хітруга, можа, з абрэзам не пойдзеш. Ты — двудушны, са змяіным джалам. Ты, гад, супраць калгасаў.

— Чаму вы гэтак смела гаворыце за мяне? — запытаў ён.

— Я, такую тваю, нутром адчуваю. Класавым чуццём! А па-другое, у трыццатыя гады нагледзеўся на вас, кулакоў! Я,— сціснуў кулакі,— як арэхі, расколваў багатых і варожых! Знішчаў, як драпежнікаў!

— Выбачайце,— ціха прамовіў Грыгарцэвіч.— Вы — хто? З рабочага люду альбо з вёскі?

— Якое гэта мае значэнне? Я — чэкіст! Камуніст-інтэрнацыяналіст!

— Глядзіце,— уздыхнуў Грыгарцэвіч.— Паклічуць некалі і вас на Страшны суд!

— Не палохай,— звузіў вочы лейтэнант.— Пакуль нехта, дык мы вас забралі на наш праведны суд!

— Які ён праведны, калі вы гвалтам хапаеце, без віны вінаватым робіце!

— Невінаватых і сумленных не чапаем. Бяром за хобат такіх, як вы.

— Надта не палохайце, скажу я вам,— абурыўся стары, верачы, што яго, невінаватага, рана-позна адпусцяць дадому, а гэтаму прыдзіраку наківаюць пальцам за грубасць.— Вялікай віны за мной не было і няма. Ні перад людзьмі, ні перад вамі. Я ніколі нікога не абакраў, не забіў, не ссільнічаў і не абылгаў. І ў паліцыі альбо старастам не быў. Я працую на гаспадарцы, мала падымаю галаву ад зямлі, дзяцей і ўнукаў на ногі стаўлю. Калі трэба, дык і суседу памагу.

— Ай-яй-яй! — закруціў той галавою.— Сама святасць!

— Я не святы, просты чалавек, але, кажу, не злодзей, не бандыт.

— Не, стары хітрун,— заківаў лейтэнант пальцам.— Нас не падманеш.— Падсунуў да яго паперы.— Падпішы.

Пакуль ён учытваўся, разбіраў, што напісаў следчы, той узяўся званіць па тэлефоне. Дазваніўся.

— Таварыш капітан, гэта я — лейтэнант Сідарцоў.

Паслухаў крыху.

— Так, дапрасіў,— сказаў потым.— Як і трэба было чакаць, гэты хутаранін з антысавецкімі замашкамі ніякай сваёй віны не прызнае, маскіруецца і вешае лапшу на вушы. Ёсць, затрымаць і адправіць у КПЗ.

Грыгарцэвіч так і не дачытаў нязграбна напісанага пратакола; неўзабаве выкліканыя вайскоўцы ўвапхнулі яго, ашаломленага, у цёмную і без вокнаў машыну, а ў ёй — у закратаваную загарадку (насупраць сеў адзін з узброеных салдатаў), і яго павезлі ізалявана, як злачынцу.

## 17

Праз паўгадзіны, калі яго перадалі таўсматаму злому старшыне, калі той запісаў «дадзеныя», даў яму нумар 207, абмацаў з ног да галавы, адабраў сцізорык, грошы і рэмень, Грыгарцэвіч упершыню ў сваім жыцці апынуўся ў «казённым доме» — КПЗ.

У камеры было паўзмрочна ўжо (яна была на большую палову ў зямлі, выкладзеная цэглай, на двор выходзіла толькі невялічкае закратаванае, з матавымі тоўстымі шклінамі акенца) — здаецца, за палякамі тут быў мясны склад гандляра Рабіновіча. Але цяпер патыхнула не саланінай ды вяндлінай — холадам, чалавечымі адыходамі: пры самым парозе, як адразу ўчуў, а потым і ўбачыў, стаяла напалову напоўненая ражка. Уздоўж сцен — два паверхі дашчатых нараў. На іх — здаецца, з дзесятак маладых і пажылых мужчынаў. Некалькі (у кажушках, валёнках) — вясковыя, астатнія (у куртках ды паліто) — гарадскія.

— Заходзь, баця, не бойся,— пачуўся знарочыста бадзёры голас з дальняга, малабачнага палка.— Міласці просім у нашу святую абіцель, да нашай пачэснай кампаніі.

Ён збянтэжана патаптаўся: вольны быў толькі бліжні верхні палок. Пры дзвярах, гэта значыць на скразняку, і паблізу гэтай смярдзючай бадні. На ўсіх іншых палках, выцягнуўшы ногі, ляжалі людзі.

— Дзяньдобры вам,— павітаўся, нагінаючы галаву. Усе ж такія няшчасныя, як і ён.

Адказалі на розныя галасы:

— Дзяньдобры.

— Здраствуй, дзед.

— Прывет.

Паўзіраўся: можа, ёсць хто са знаёмых. Не, здаецца, усе чужыя.

— Займай, баця, вольнае, ганаровае для навічка месца,— прагучэў той жа малады голас.— Калі яшчэ прыбудзе папаўненне, то ўжо яно будзе мець гонар легчы на доле.

Ясна: тут свой лад, свае начальнікі і падначаленыя. Грыгарцэвічу хацелася, каб калматы чалавек у пакамечаным плашчы і брудных чаравіках, які ляжаў на ніжнім палку, падцягнуў ногі, дазволіў прысесці, памог асвойтацца ў незнаёмым, загадкавым для яго месцы, але той, хоць і адчуваў ягонае жаданне, нават не паварушыўся.

З верхняй кутняй лаўкі скінуў ногі, споўз долу чалавек. Ні то падлетак, ні то нізкі малады мужчына. У ботах, у доўгім чорным паліто і нацягнутай на вочы кепцы. З касмылямі за вушамі і на шыі, аброслы шчэццю. Значыць, дарослы ўжо чалавек. Вочкі — свярдзёлкі. Грэбліва зірнуў на яго валёнкі, прагна агледзеў кажушок.

— Грыша,— тыцнуў яму невялікую брудную руку, схапіў ягоную. Паспрабаваў сціснуць, але не змог як след абхапіць яго шырокую, як лапатка, далонь, тоўстыя пальцы.— А цябе, баця, як звацьвелічаць?

Грыгарцэвіч, прадчуваючы нядобрыя помыслы гэтага маларослі-ка, лёгка вырваў сваю руку.

— Ты што, баця? — здзівіўся той. Абурана, задзірыста.— Грэбуеш намі, аднакамернікамі?

«Жулік,— падумаў Грыгарцэвіч.— Той, што рэжа кішэні ці крадзе на станцыях валізкі».

Бачыў ужо такіх. У вайну і пасля яе, вяртаючыся з Германіі дадому. Іх, жулля, было нямала і ў ліхалецце.

— Бацця!

— Адчапіся, хлопец,— адмахнуўся.— Ты мяне не ведаеш, а я цябе не знаю.

— Ясна. Лапух. Першы раз арыштаваны,— ухмыльнуўся той, паказаў нязграбныя, сям-там чарнаватыя зубы.— За што ўзялі?

— За нішто.

— Як і нас. Усе трапілі сюды выпадкова.

«Прыліп жа. Як смоўж».

— Ладна, баця, разбяромся,— не адставаў ад яго маларослік.— А цяпер, калі ласка, ідзі пакланіцца старшаму, Прафесару. Пачастуй яго махорачкай альбо сальцам.

«Хоць бы хто абсек гэтага шчанюка! Лезе сляпіцаю, здзекуецца з маёй старасці!»

— Вунь там ён,— той паказаў на малабачнага адсюль чалавека, які ляжаў на спіне на ніжняй кутняй лаўцы — пад той, дзе толькі што быў гэты прыліпала.

Падштурхнуў у спіну — ідзі-ідзі. Ён упёрся. Каб у іншым месцы, дык сказаў бы пару моцных слоў альбо адпіхнуў бы нахабніка, але тут стрымаўся. Нечакана маларослік спрытна махнуў перад яго носам доўгім заточаным на шыла цвіком — Грыгарцэвіч зразумеў: гэты нягоднік проста так не адчэпіцца. Асцерагаючыся бяды, пакрочыў, чакаючы ўсякага падману і здзеку. Чым ішоў далей, тым болей сваёй дзябёлай постаццю засланяў святло. Тут жа не зразумеў, што здарылася: нечакана спатыкнуўся і ўпаў. Ага, гэта маларослік ззаду смаляну́ў яму пад калені. Хацеў падхапіцца, але не мог. Ці то ад страху, ці ад крыўды не слухаліся ногі. Хоць ты плач ад здзеку і свайго бяссілля.

— Што ж гэта ты, сволач, так паводзішся са старым чалавекам? — падаў голас мужчына з ніжняй лаўкі.

Паколькі ён цяпер быў блізка, Грыгарцэвіч падняў на яго вочы: паджылы, хоць цяпер трошкі абраслы, але тонкія вусны, даўгаваты роўны нос, высокі лоб, акуляры на тонкіх, пазалочаных дужках, паліто, белы шалік на шыі — усё паказвае, што гэты чалавек не толькі не апушчаны, але і не просты, вучаны. У гэты час «сволач» выхапіў з кішэні яго кажушка загорнутыя ў сурвэтку хлеб і сала, падаў старшаму.

— Я, пахан, выпадкова...— «апраўдаўся» ліхадзей.

— Устань, Тхор! — загадаў чалавек у акулярах мужчыне, які ляжаў злева ад Грыгарцэвіча.— Памажыце падняцца старому чалавеку.

Гэты Тхор і маларослік паслухалі, падхапілі яго пад пахі і, крэкчучы, пасадзілі на ніжнюю лаўку насупраць старшага.

— Я пакараю непачцівых,— прамовіў той, папраўляючы белы шалік і насоўваючы на лоб капялюш.— Можаце даверыцца мне. Я паважаю вясковых людзей. За шчырасць і сумленнасць.

— Дзякуй, дзякуй кажы,— штурхнуў яго локцем маларослік.

— Цыц! Прэч! — сыкнуў на яго старшы. І да яго: — Па вашых некалькіх словах я зразумеў: вы — чалавек мясцовы. Адкуль будзеце канкрэтна?

— З Янкавін.

— Дзе гэта?

— Перад Налібакамі.

— А! Ведаю. Наносіў туды во з гэтымі малойцамі неафіцыйны візіт. Даволі плённы, трэба сказаць.

Тыя абодва захіхікалі.

— Гаспадар?

— Гаспадар.

— У вёсцы жывяце ці на хутары?

— На хутары.

— Зямлі-ворыва шмат маеце?

— Не.

— Ну, колькі?
— Каля пяці дзесяцін.
— Не Траякураў, канечне, але і не галяк. Ну, а за што зняволілі?
— Не ведаю,— паціснуў плячыма Грыгарцэвіч.
— Невінаватыя?
— Не.
— Выбачайце, калі лічыце, што чаплюся,— гутарлівы чалавек прыўзняўся і абапёрся на локаць ды далонь.— Як вас зваць?
— Францішак.
— А па бацьку?
— Бацька Адамам быў.
— Я, паважаны Франц Адамавіч, прайшоў ужо вялікую жыццёвую школу, розныя, у тым ліку і лагерныя, універсітэты, дык маю ўжо не малы вопыт у галіне юрыспрудэнцыі. Магу быць пракурорам, суддзёй альбо адвакатам... Дык вось, паколькі чамусьці вы мне адразу спадабаліся, дам першую бясплатную юрыдычную параду: ніколі не гаварыце следчаму, што вы невінаватыя і вас арыштавалі выпадкова, несправядліва. Вас адразу ж абвінавацяць у новай правіннасці. За тое, што вы злосна паклёпнічаеце на савецкія органы, што стаяць на варце законнасці і невінаватых не чапаюць. Адпаведна, вы штосьці ўсё ж утварылі: да слова, магазін абабралі ці да суседа ў хлеў залезлі? Па злосці каго адлупілі? Альбо наша любімае начальства на тры літары паслалі?
— Не.
— Дык за што ўзялі вас, паважаны Франц Адамавіч?
— Кажуць, за агітацыю...
— За якую? Можа, за антысавецкую?
— Ага.
— Ого, бацька! — загуў (ні то пашкадаваў, ні то пасміхнуўся, чорт яго, такога языкачоса, разбярэ) акулярык.— Гэта — ужо вельмі сур'ёзнае злачынства, гэта — чацвяртак.
— Які чацвяртак?
— Самы звычайны. Гэта значыць, што вы, паважаны Франц Адамавіч, за сваю варожую дзейнасць можаце атрымаць дваццаць пяць гадоў лагероў.
— Як? — ледзь выдыхнуў ён.— На дваццаць пяць гадоў могуць пасадзіць? За што?
— Дазвольце яшчэ задаць вам некалькі пытанняў, шаноўны Франц Адамавіч. Вы супраць чаго агітавалі? Супраць СССР? Супраць сацыялізму і калгасаў? Не дай бог, можа, супраць асабіста Сталіна? Ці лаялі толькі, на вашу думку, бесталковую мясцовую ўладу, яе, як вы лічыце, неразумныя ўчынкі?
— Не агітаваў я і не лаяў нікога,— уздыхнуў ён.— Нагаварыў на мяне абы-што ліхі чалавек.
— Сусед?
— Не. Старшыня сельсавета.
— Згарача штосьці яму асабіста ляпнулі?
— Адзін раз.
— Што і трэба даказаць! Добраахвотнае прызнанне — царыца доказу! Адпаведна, вас, Франц Адамавіч, будуць судзіць як палітычнага, і хутка вы станеце фраерам...
— Які я, чалавек, палітык?! — горка ўсміхнуўся ён.— Усё сваё жыцце з плугам, касой, з пілою.
— Уся ваша віна, Франц Адамавіч, што вы — заможны і разумны селянін.
— Які я, чалавеча, заможны? Які я разумны? Дабіўся толькі, каб чытаць-пісаць умеў, каб хлеб за хлеб заходзіў.
— Не, Франц Адамавіч. Вы — гаспадар. Хрыбет вёскі і вёскі той,

старой, трывалай. Для новай вы не падыходзіце, бо будзеце яму, новаму, супрацiўляцца. Усёй душой. Адпаведна, па рэвалюцыйнай тэорыі, што цяпер мае сілу і тут, вы павінны знікнуць, трапляеце ў лік «дапусцімых ахвяр...».

— Занадта разумна гаворыш ты, чалавек,— прамовіў поўны самых супярэчлівых уражанняў Грыгарцэвіч.— Я мала што разумею.

— О, гэта глыбока прадуманая лінія, даражэнькі Франц Адамавіч! — гаварун лёг на спіну, заклаў рукі пад галаву і паклаў нагу на нагу.— Вам, такой глыбіннай сялянскай душы, жыць, квітнець пры старым, а не новым ладзе... Гэты, новы, лад мае не ваш, зусім іншы погляд на вёску, на сялян, на вашу працу і на яе здабытак. Цяпер вы не патрэбен як індывідум, як асоба альбо ўдумлівы гаспадар, а патрэбны як бязлікі, паслухмяны і працавіты член індустрыяльнай фабрыкі хлеба. Як рабсіла, як цягавіты і, галоўнае, цярплівы вол. Самастойныя, разумныя, сумленныя і дзёрзкія вы не трэба. Паспрабуй з вамі такімі зладзь!

Грыгарцэвіч абачліва змаўчаў.

— Так? — ухмыльнуўся гэты сапраўды разумны і хітры зняволены.— Зрэшты, можаце і не адказваць, я і без вашага адказу ведаю: сапраўдны селянін-гаспадар і новая ўлада — антыподы... Хто — каго... Паколькі сіла ў яе — дык яна вас... За глотку...

— А за што вы зняволеныя? — перавёў гутарку Грыгарцэвіч, лічачы, што раз той столькі распытвае, дык штосьці скажа і пра сябе, падкажа, як тут быць.— Вы ж, здаецца, не вясковы.

— Так, Франц Адамавіч, вы класавым пачуццём правільна ўгадалі: я — не селянін. Нават і не рабочы. Я — нашчадак альбо сабрат Чалкаша. Разумееце?

— Не.

— Патлумачу. Я — з люмпен-пралетарыяў, дзе басякі, валацугі, жабракі, крымінальныя элементы, як кажуць кансерватары.

— Значыць, вы нідзе не працуеце і жывяце з людской міласці?

— Амаль так, Франц Адамавіч,— адказаў той і, здаецца, угадаў ягоныя думкі.— Я ведаю: вы, спрадвечны селянін, не любіце такіх. Як гэта так, па-вашаму, маладыя, здаровыя, не працуюць, але хочуць жыць сытна? Ганьба! Так?

Грыгарцэвіч і на гэты раз рашыў быць абачлівым, не адказаў.

— Так, даражэнькі Франц Адамавіч. Што да няпростай гісторыі люмпен-пралетарыяў, то я... не раскажаш вось так адразу і некалькімі словамі. Будзе час — я, скажу вам, вялікі спецыяліст у гэтай справе — прачытаю адпаведную, можна сказаць, прафесарскую, лекцыю. Цяпер скажу толькі, што нас добра апеў, гэта значыць падняў на вялікую вышыню незабыўны Максім Горкі. Часова сам, а часова па заданні ён зрабіў наш элемент легендарным, героямі часу, наблізіў да бальшавікоў і рэвалюцыі... Нам, незадаволеным старым рэжымам, багатымі, адукаванымі і шчаслівымі, вельмі спадабаліся бальшавіцкія глабальныя лозунгі, і мы, калі прыйшоў спрыяльны час, кінуліся ў бой, знайшоўшы нарэшце, дзе і на каго выліць увесь наш гнеў, прыкласці сілу. Тым больш, што быў дарагі і мілы для нас дэвіз, не, нават не дэвіз, а, паўтаруся, просты, але ў той жа час пагібельны для пэўнага ладу лозунг: «Рабуй нарабаванае!» Асабіста я, шаноўны мой Франц Адамавіч, трапіў у такую ўсемагутную банду, як Вэ-чэка, не бязлітасна, а з любоўю — чуеце, з любоўю! — трос маёмасных і гнілую інтэлігенцыю. Я ўволю, у вялікі смак паквітаўся з тымі, каго ненавідзеў... Для вас, Франц Адамавіч, гэта сюрпрыз? У тым, што «самая гуманная і народная ўлада» спажыла нас, Чалкашоў? Горкага? «Пралетарскага», але на самай справе «люмпенскага» пісьменніка?

—Я ж, кажу вам, не паліцік,— адказаў Грыгарцэвіч, занепакоены

і пра тое, што будзе праз хвіліну-другую, і пра тое, што будзе заўтра-паслязаўтра.

— Я веру вам, святая прастата,— усміхнуўся чалавек з акулярамі і белым шалікам.— Але, трапіўшы сюды, у гэты адмысловы жыццёвы універсітэт, вы, я, кожны — хочаце альбо не хочаце — будзеце, не, нават не будзеце, а змушаны будзеце думаць, разважаць, мысліць і прыходзіць да пэўных пакутлівых, але больш-менш сапраўдных высноў. Там, на волі, усе не так мысляць, не падаюць, але і не падымаюцца, чэрці, да той планкі, да якой падымаемся мы, зняволеныя...

«О, гаварун! — здзівіўся Грыгарцэвіч.— А каб ён сядзеў не тут, а там, як ён кажа, на волі, на высокім крэсле!»

— Але я запыняю мой асабісты роздум пра «гісторыю пытання»...— нязмушана спакойна прамовіў гэты небяспечны, але і прыцягальны суразмоўнік і да ўсяго, канечне, бывалы чалавек.— Я шчыра скажу вам пра наш далейшы канфлікт. Урэшце, у выніку хітрых гульняў, так званых класавых бітваў, пасля грамадзянскай, звышкровапралітнай вайны на версе піраміды апынуліся не рабочыя, не сяляне, а сынкі былых лавачнікаў, ювеліраў, ліхвяроў, аптэкараў, адвакатаў і іншыя, хто і раней быў пры вялікіх кашальках і гальштуках, а цяпер аб'явіў сябе «ўладай працоўных». Яны абдумана і хітра не толькі захапілі дзяржаўны руль, вялікі пірог, але гэтак жа абдумана і хітра перабралі, адпіхнулі нас, саюзнікаў па захопе ўлады і багаццяў, прыблізілі, паднялі самых угодлівых, бязлітасных, а ад астатніх, найперш маладых і здаровых, захацелі адкараскацца, змяшаць з чарнамазым людам, шпурнуць гэтых Ваняў і Маняў на вялікія будоўлі... Хтосьці пайшоў, але не ўсе! — Прамоўца заківаў пальцам.— Бо хтосьці раней, а цяпер тым больш не захацеў ліць дурны пот, націраць непатрэбныя мазалі! Адчуваючы добры апетыт, выдатна ведаючы, дзе што ёсць і якое яно прынаднае, многія з нас пачалі самі дзяліць усіхную маёмасць...

Сябрукі гаваруна задаволена захіхікалі.

— Грошы, маёмасць, як і вы цудоўна разумееце, даражэнькі Франц Адамавіч, ва ўсе часы, ва ўсе ўлады рэчы вызначальныя. Можна што хочаш плясці, але... Але, калі я маю ў кішэні, дык я чалавек! Калі не маю... Люмпен-пралетарый... Як у тым апавяданні Аверчанкі, ідзі да мора, тапіся... Ніхто не выцягне — гінь у блакітных хвалях, нейкі дурны гуманіст выцягне — чапляйся за яго, аб'ядай і абпівай...

«Гаварун!!! Яшчэ большы за Кураглядава!»

— Ясна, Франц Адамавіч, былыя паплечнікі мала адпіхнулі нас, яны спрытна настроілі супраць грамадства і пачалі нас ізалёўваць. Пры гэтым страшней і горш, чым пры старым рэжыме. Больш — яны ўзялі нас за глотку. Усіх шчырых, сумленных, разумных таксама. Але пра тых — асобная гутарка... Не нам жа заступацца за іх, няхай з іхніх шэрагаў заявяцца свае праўдалюбы і абаронцы. Нам іх шкада, але ўрэшце нам на іх напляваць з высокай званіцы. Нам даражэй нашы інтарэсы. Якраз у выніку іх мы апынуліся тут, у краі з невядомымі для нас магчымасцямі...

«Рабавалі нешта і папаліся...» — Па-свойму зразумеў гэта Грыгарцэвіч. Рашыў асцерагацца гэтага мудрагелістага і яго небяспечных сяброў.

— Што да нас, то мы шмат не пабудзем у няволі,— той, аднак, не заціхнуў.— Выйдзем на волю праз пару гадоў. А вось вы, шаноўны Франц Адамавіч, рыхтуйцеся на вялікую разлуку. Неўзабаве вы ўбачыце свет, пра які дагэтуль сніць не снілі. Вы па-сапраўднаму, па-сялянску будзеце ўражаныя... Вы трапіце на своеасаблівы, нідзе не пазначаны на карце новы мацярык са сваім урадам і са сваім зако-

нам, і вас там пачнуць «перавыхоўваць»... Канечне, у чымсьці вам паможа ваша моцная сялянская струнка, але ў чымсьці яна вам прынясе боль і пакуты. Цяпер вы лічыце: праца, нават цяжкая,— абавязак, дабрачыннасць, а там праца будзе прымусам, вашай смерцю. Каб выжыць, вы, рыцар працы, пачнеце ўхіляцца ад яе, будзеце хітраваць, «гнаць туфту» альбо быць «прыдуркам...»

Заціх, а потым ухмыльнуўся:

— Разумееце, што гэта такое: «туфта», «прыдурак?» Разумееце сэнс прымавак «Ад работы коні дохнуць», «Работа — не воўк, у лес не збяжыць», «Цябе не дзяруць — дык не падмахвай»? Можа, і па-свойму разумееце. Як сялянскі гуманіст. А там вы гэта адчуеце на сваёй скуры, там ваша псіхіка пойдзе набакір... У гэтым сэнсе даю мудрую і бясплатную кансультацыю: не кідайцеся на так званыя «агульныя работы», шыйцеся ў столяры, лазеншчыкі, шаўцы альбо краўцы, абы, паўтараю, не трапіць на агульныя работы...

«Чорт яго ведае: праўду кажа альбо балабоніць абы-што, пацяшаецца са старога»?

— Кажушок свой не жадаеце змяніць на інтэлігентнае паліто? — нечакана зусім па-іншаму загаварыў той.

— Не.

— А ў карты хочаце пагуляць?

— Не.

— Гарэлачкі жадаеце?

— Не.

— Святы, але сумны вы чалавек, Франц Адамавіч,— цмокнуў сусед.— Трымаеце і цела, і душу ў залішне строгіх, рэлігійных абручах. Працавіты, шчыры, хочаце праўды і справядлівасці. Адсюль — ваш эмацыянальны пракол у экстрэмальнай сітуацыі. Да слова, у той спрэчцы з вашым старшынёй сельсавета. Я не быў тады з вамі, але магу ўявіць сцэнарый...

Загрымелі абабітыя жалезам дзверы — зайшоў пажылы вартаўнік у шынялі. Паставіў пасярод камеры табурэт, узлез на яго і падвесіў да высокай столі запалены ліхтар.

— Па месцах,— буркнуў-загадаў.

— Прашу, баця, на сваё логава,— прамовіў той, на чыёй лаўцы яшчэ сядзеў Грыгарцэвіч.

Дзе дзенешся, паслухаў. Патупаў, узабраўся на верхнюю голую дашчаную лаўку.

— Новенькі? — запыніўся, дыхнуўшы дымам, запытаў у яго вартаўнік.— Нумар 207?

«Не імя, не прозвішча, а нумар!»

— 207-мы? — груба перапытаў той, свідруючы заплытымі, можа, і ад п'янства, вочкамі.

— Ага.

— Не ўступаць ні з кім у кантакты. Ляжаць тварам не да сцяны, а сюды, на праход.

— Але я не магу спаць на левым боку,— сказаў ён.

— І без падушкі ды коўдры,— хіхікнуў са свайго месца маларослік.

— Тут — не гасцініца,— не зважаючы на таго, яму, Грыгарцэвічу, патлумачыў вартаўнік.— За парушэнне нашых інструкцый — кара...— І да ўсіх: — Адбой! Усякую балбатню спыніць!

Калі таўсмач выйшаў і замкнуў камеру, Грыгарцэвіч, як і загадалі, лёг на левы бок, падклаў пад шчаку рукі і падкурчыў стомленыя ў валёнках ногі. Хоць пратупаў сёння ладна, панерваваўся на допыце і панапружваўся тут, але спаць не хацелася. Няўжо гэты ў акулярах і белым шаліку, Прафесар ці як там яго, гаворыць праўду, што яго могуць запраторыць за калючы дрот і на гэтулькі гадоў?

Усяго за некалькі, хай сабе і не зусім пачцівых, слоў? Бывала, за царом, за палякамі і нават у акупацыю, пры немцах і паліцэйскіх, сабраўшыся разам на лузе, на прызбе ці нават і на людзях, заводзілі розныя гутаркі, лаялі, а то і клялі начальства (у вайну, праўда, асцярожнічалі, бо вайна ўсё ж ёсць вайна), але... Не, тыя, хто меў уладу, ківалі пальцам, абсякалі, бывала, і вялі туды, куды трэба, трымалі трохі, але такіх прыдзірак і гвалту не было. Хіба вось ён штосьці выдумляў? Паўтарыў тое, пра што людзі гаварылі! Ды не — «агітаваў», «падрываў лад»... Не такі ўжо дурны, разумее: агітацыя — гэта тады, калі, скажам, сабраць люд, узабрацца на якую перакуленую бочку і, размахваючы рукой, пачаць крычаць супраць улады і законаў, як, да слова, за палякамі, зазіраючы да іх, агітавалі камуністы і камсамольцы. Канечне, тыя агітавалі. Ён жа не збіраў люд, нікога не падбіваў на бунт супраць Сталіна і яго Канстытуцыі ды парадкаў, толькі згарача, ад крыўды ляпнуў — папытаў у таго ліхадзея пра тое, пра што хадзілі гутаркі... А той — адразу сюды, у раён... А тут — во сюды, да зладзеяў... Замест таго, каб выбачэння папрасіць, што ў свой час гвалтам аддалі палякам, а нядаўна гвалтам адабралі ад іх... Маўчы, жывёліна, і не пікні! Еш, дурань, то з макам! Бач, захацеў пра тое-сёе запытаць, тым-сім абурыцца! Нічога не скажаш, любімая дык любімая, народная дык народная ўлада! Ашчаслівіла!..

Пасля пачаў думаць пра іншае, пра сваю сям'ю і гаспадарку. Калі пасадзяць, то гаспадаром стане старэйшы сын. Стась — талковы гаспадар, павядзе ўсё добра, але, з другога боку, можа быць і бяда: без яго, старога, асмялее нявестка, захоча ўзвысіць сябе і мужа, прыбраць усё да сваіх рук. А гэта значыць, што адпіхне свякроў, змусіць адысці Адама. Канечне, рана-позна братам трэба дзяліцца, заводзіць сваю гаспадарку, але ці паразумеюцца яны мірна без яго?

Ляжаў, бачыў і чуў, як уздыхаюць, варочаюцца іншыя, як той-сёй падыходзіць да дзвярэй і, не саромеючыся, бурболіць у паўцабэрак, і ад усяго гэтага ныла, плакала яго душа...

## 18

Пасля першай бяссоннай ночы ў камеры яго з тыдзень не чапалі.

Адлежваючы бакі на цвёрдай лаўцы, задыхаючыся ад сырасці і цяжкога паветра, знясілены без работы, ён занудзіўся. Ажно, здаецца, заявіліся вошы. Гэтая нуда ўзмацнялася яшчэ і ад крыўды: прайшло ўжо столькі часу, а з родных ніхто не падаў ніякай весткі, лусты хлеба.

За гэты час таго-сяго забралі «з рэчамі», прывялі новых (у тым ліку і такіх, як ён, «агітатараў»-гаспадароў). Ён па праве нявольніцкага «стажу» перабраўся ад дзвярэй і заняў ніжнюю лаўку каля Тхара — разам з ім заставалася і кампанія чалавека ў акулярах і белым шаліку па прозвішчы Сядых і па клічцы Прафесар. Як даведаўся, гэты гаварун у зладзейскім свеце важны чалавек, «у законе», «пахан», старшы над многімі «братамі» — і над тымі, што на волі, і над тымі, што сядзяць.

За гэты тыдзень той дзівачыў. То з ахвотай кідаўся да навічка, распытваў, вучыў, расказваў пра сябе, то не зважаў ні на кога і цэлы светлы дзень быў маўклівы, адганяў ад сябе сваіх халуёў, што як маглі танцавалі перад ім, то нечакана спяваў сам сабе сумныя песні пра чыйсьці загублены лёс, пра ўцёкі з турмы і прагу волі, пра па-

кінутую ўсімі маці-гаротніцу альбо пра прыгожую, але няверную жонку, то раптам ускідваўся зверам і нападаў на ўсіх у камеры, і тады ўсе баяліся нават пікнуць. Ясна было: скажы хоць слоўка супраць яго — Тхор і маларослік адразу ж, тут, у камеры, заколюць.

Грыгарцэвіч ужо не толькі чакаў, але і патрабаваў, каб яго паклікалі да следчага. Каб хутчэй вызначыць свой лёс. Колькі ж можна папусту марнаваць час, жыць на нішчымнай паліўцы, гарэць душой. Трэба закончваць будаваць школу, сеяць авёс, а там хутка ўжо садзіць бульбу. За ўсё сваё жыццё ён столькі не траціў марна часу, не гультаяваў, не ведаючы за што зачапіць рукі,— сама вялікае мог усмак паспаць дзень-другі на Вялікдзень альбо паўдня ў нядзелю, а так — заўсёды нейкі клопат, нейкая работа ды работа, нялёгкая, цяжкая часамі, але патрэбная, а то і мілая рукам і душы...

І нарэшце ў адзн доўгачаканы дзень:

— 207-мы! На выхад!

Павялі з закладзенымі за паясніцу рукамі, пасадзілі ў накрытую шэраю бляхай машыну, павезлі пад канвоем і даставілі ў міліцыю, але ў гэтым будынку завялі ў пакой, на дзвярах якога была адмысловая шыльда «Посторонним вход воспрещен».

**Заканчэнне будзе.**



РЫГОР БАРАДУЛІН

## Я — арыец

Я — арыец,
Гэта значыць з аратаяў,
З суверэнных, ссівярэлых крывічоў,
На зямлі яны жылі не для харчоў,
З сёмым потам кнігу ворыва гарталі.
Ціміян ішоў смалісты ад карчоў.

І аралася й радзіла ўсё ў арыйцаў,
На сяброў у іх ставала дабрыні,
Не прымалі хцівасць, Божа барані,
І ставала злосці хціўцам не скарыцца,
Перамогу пераймалі на кані.

Ды суседзі, што мядзведзі з перасыпу,
Ад зайздросці як не грызлі валуны.
Род крывіцкі ненавідзелі яны,
Ненавідзяць гэтак трутні ў цвеце ліпу.
Аратаяў спавядалі перуны.

Крывічы крывіць душой
Не мелі моды.
Ад плугоў, а не ад мечаў мазалі.
Дзякуй, продкі,
Што ў радню сваю ўзялі!
Я — арыец,
Прысягаў на вернасць роду,
Як нарог,
Маёй крывіцкае зямлі.

## Зямля і маці

Зямля і маці —
Вечнасць і міг —
Яны на адным замяшаныя цесце.
Зямля і маці.
Кормяць усіх.
І толькі самі не просяць есці.

# Кум з кумою

Нарадзіўся чалавек.
Сталі з ціхаю думою
Пілнаваць ягоны век
Кумам Бог,
А смерць кумою.

Ясны кум даваў спаўна
І пяшчоты, і пакуты,
Цёмная кума здаўна
Толькі й помніла пра путы,—

Каб суцішыўся імпэт,
Спутаць ногі,
Скручыць рукі,
Каб на той няблізкі свет
Кіраваўся без прынукі.

Адхінецца кум куды,
А кума
Сама на покуць
Сядзе
Братавай бяды
І спагадна будзе цокаць.

Чалавек свой век жыве,
Як у казцы чарадзейнай:
З брагай коўш ля губ плыве,
Не крануўшы вусы пенай.

З дапатопнай даўніны
Ні вясною, ні зімою
Не згаворацца яны
Між сабою,
Кум з кумою.

Покуль сварка ў іх ідзе,
Чалавек свой род вядзе.



Інтэлігент у першым пакаленні,
А гэта значыць,
Што яшчэ, яшчэ
Кроў у малым ад нормы адхіленні
Па жылах першародная цячэ.

Інтэлігент у першым пакаленні,
А гэта значыць,
Што калі, калі
У небе згаснуць вечныя імгненні,
У далонях нясціме вугалі.

Інтэлігент у першым пакаленні,
А гэта значыць,
Што пакуль, пакуль
Сыходзяць мазалі, як тыя цені,
Пад цэпам развітання стогне куль.

За ім зачыняцца нябыту сені,
Знябудзецца, забудзецца зусім
У пакаленнях,
Што ідуць за ім,
Інтэлігент у першым пакаленні.

Наступнік будзе лепшы
Ці халерны,
Пра гэта не даведаецца першы.

# Ашуканка

Мама мая ашуканкай была.
Каля стала
У дзяльбе
Ашуквала сябе,
Калі дзяліла
Апошнюю скібку —
Меней сабе,
Сыну болей.
Доля маму
Абдзірала як ліпку,
Ды мама ішла
У перахітрыкі з доляй.

Ашуквала голад
Крапівою ці шчаўем,
Ашуквала холад
Паветкай дашчанай,
Ашуквала сон —
Уставала з расою,
Ашуквала соль —
Нішчымніцу саліла слязою.
Сын ашуканкі,
Душой халадзею,
Ці не ашукаў я
Яе надзею?



Мы, як і нашыя дамы,
Пабудаваныя на снезе,
Не на пяску.
На згон зімы
Снег з далані зямное злезе.

І зноў гаспода валуноў,
І кажушыстай руні ўлада.
Мы — толькі сцені ў храме сноў,
Пагонь
На свежых ранах ляда.

Ля Верасовачкі стаю.
Ралля шарэе ў снегастоі.
Час
Памяць заараў маю,
Маленства капішча святое.

Згарбеў пагорак ад пакут.
Няўтульна небу.
Долу гола.
Адны, відаць, жывыя тут
Плач мамін,
Бацькаў ціхі голас.



Бог спачатку неба стварыў,
А пасля ўжо зямлю надумаў.
Бёрны сплавіў з захмарных румаў,
Свет зрубіў,
Як святы наіў.

Тумановы клубіўся дым
Над яшчэ не патайнай вячэрай.
Не сякерай рубіў,
А верай
Свет,
Жагнаючы духам святым.

Нам у доме абначаваць,
А прачнуцца ўжо ў дамавіне.
Свет — наш дом.
Позірк неба сіні
Нам у душы шле багадаць.



«Прыйшлі канцы к гародам» —
Прыйшлі з Ушачы словы,
Як на паўдзён каровы.
І вочы есць куродым.

Бязладзіца ў гародах —
Ва ўсіх гадах мінулых.
Спяць шулякі на шулах.
Дождж сохне ў азяродах.

Бязлюдзіца ў гародах —
Тваіх усмяглых летах.
Яшчэ нязніклы ветах —
У небе смутку продых.

Гаротнасць у гародах —
Тваіх апалых вёснах.
З усмешкаю на вуснах
Пачуй халодны подых.

Зайздросцячы чародам,
Пашлі хоць думку ў вырай.
Будзь сам сабе апірай.
Прышлі канцы к гародам.

## Tibi et igni

Tibi et igni — табе і агню,
Не папраўляю лаціну.
Попелу дзьмушку на вецер ганю,
Рыфму спыняю ля тыну.

Стыну,
Пакуль дагараюць радкі,
З тыну
Ганю павуціну.
Грудкі твае нагадалі грудкі.
Гнаць мне ганкі па віціну.

Сцісне віціна ў цяжкую далонь
Мокрыя пальцы бярвення.
Можа, пакіне агонь
Абалонь.
Неба ахопіць барвенне.

Будуць палаці палаць.
Насланню
Жах спалатніць палатніну.
Tibi et igni — сябе не віню,
Клічу на змову лаціну.



Сапернік вечнага Тварца,
О скульптар,
Дужы глінамесец,
Зляпіць ці можаш
Поўны месяц
Ці хоць бы веташок з канца?

Ты з глінай месіш продкаў прах,
Як заўважаў Хаям цвярозы.
Табе чаляднiцамі крозы,
Табе дарадцам боскі страх.

Гарнушкі, міскі ды гаршкі,
Вядома, ў гаспадарцы трэба.
Ды атрымаў заказ ад неба
Ты на бажкоў і веташкі.



Гадуюць кабаноў
На свежыну,
Гадуюць сыноў
На вайну,
Усё спазнаўшы на сваім вяку,
Сяляне,
І застаюцца — як на пяску
Летаваць сані.



Віднее паволі,
Знянацку цямнее.
Зіма за плячыма. Зіма.
Я восені даў імя Паланея,
Палае і зябне сама.

Маліся на дзень
Да дрыготкі кароткі,
Свой дзень ад вятроў захіні.
Прасі ў Паланеі,
Ў разгубленай цёткі,
Не гарачыні —
Дабрыні.

Расінка
Ў апошняга яблыка ў садзе
Сцячэ па крамянай шчацэ.
Дабранач скажы
І даверу і здрадзе,
Каб дзень паўтарыўся
Яшчэ.



Плытчэе, святлее
Гадоў бруя,
А сорам саломы палае.
Душа твая,
Як і ўнучка твая,
Гарэзлівая і маладая.

Пястунка дазволіць
Сябе забаўляць,
Люляць
І насіць на шыі.
Пакуль твае плечы
Не забаляць
І стома торбу пашые.

І смеху жаўрук
Заціхне ўвушшу.
Абрынецца
Радасці восець.
Спытаюць:
— Што робіш?
— Душу нашу.
А можа, яна
Мяне носіць?

## Любоў да Радзімы

Вочы маюць сляпыя,
Вушы маюць глухія,
А бязмозглыя не без ілбоў.
Настальгія па настальгіі —
Гэта й ёсць
Да Радзімы любоў.



Мы заўважаем па сябрах,
Наколькі пастарэлі самі.
Не за дрымучымі лясамі —
Ён з намі,
Неўміручы страх.

Страх адысці і не прыйсці,
І, свой пражыўшы век,
Не збыцца,
І ў мітусні згубіцца,
Быццам
Апошні яблык у лісці.

І колькі б дух, як дых,
Ні праг,
Яго адна здаволіць мэта.
Наколькі мы жывыя,
Гэта
Пасведчыць сон вячніны —
Прах...

# Трысцё

*Лявону Баршчэўскаму*

Жыві самотна.
Без цябе
Тваё жыццё хутчэй прамчыцца.
І, можа, цельная ваўчыца
Завые ў лесе не ў жальбе,
А ў радасці,
Што ўсё яшчэ
Трывацьме доўга
Род ваўчыны —
І пах крыві,
І дух аўчыны
Халодны голад урачэ.

Жыві няўтульна.
Дабрабыт
Цябе ў сваё нутро зацягне,
І глухнуць будзеш,
Як у багне,
І прагнасць свой пакажа спрыт.

Жыві вясёла.
Без цябе
Пакумяцца твой сум
З тугою,
А смех званочкам пад дугою
На ўсіх забудзецца ў гульбе.

А кум куме рад,
Павёў куму ў вінаград:
— Шчыпі, кума, ягодкі,
Каторыя салодкі.
Каторыя горкі,
Для маёе жонкі,
Каторыя сладкі,
Ды для маёй маткі.

Ці вінаград,
Ці віны грады —
Жыццё?
Не скажа забыццё.

Лес малады заселіць ляды,
Звяселіць берагі трысцё.



Пачынаю восень адчуваць
І вясне не верыць паступова.
І гусцей смуга,
І пастухова
Мне туга нашчадная чуваць.

Кожны з нас ці ўдачлівы пастух,
Ці няўдаліца,
Сваю радоўку
Адбываць памалу ці падоўгу
Мусім,
Покуль прысак не атух.

Грэецца ля вогнішча бяда,
Лёс пасем свой,
Парабкуем, княжым.
І, галодная, за лёсам нашым
Сочыць ваўкарэзінай жуда.

Выскачыць з рабінавых начэй
Радасці маланка шаравая.

Перамяргваецца з журавамі
Вогнішча самотнае вачэй.



Homo homini lupus est —
Словы не прыскакалі з лесу,
З кіпцюроў сталёвых прагрэсу
Вырываўся канкрэтны змест.

Чалавек чалавеку воўк,
Воўк у лес глядзіць, як вядома,
І ваўчэе, карчэе homo.
Навісае цяжка дамок —
лаў меч,
І, нібы на фэст,
Распаўзаюцца з цемры жахі
У крыві па самыя пахі.
Home homini lupus est.

## Ліст у Межава

*Алесю Лобкісу*

Маладзенькім яблынькам тваім
Б'ю чалом,
Як спелы яблык долу,
За дары з зялёнага прыполу.

Мы садамі ўсохлымі стаім,
Каранямі мерзнем ад падзолу.

Дружа мой з ушацкае пары
Той, дзе сум
Здаваўся лёгкай ношкай,

Той, дзе хцівасць
Адзічэлай кошкай,
Помніш,
Не тачыла кіпцюры.
Там ні гуку ў цішыні старожкай.

Яблык кожны ў кулаку цвярдым
Сціснуў цёмнай ісціны зярняты.
Кожны яблык сам сабой заняты.
Таямніца яблыні
І ў тым,
Што сваёй усім хапае раты.
Яблык падае —
І мы за ім...



Я лёгка сябе адчуваю —
Ні славы, ні грошы няма.
І радасць надзіва жывая
Вяртаецца ціха з найма.

Старалася ў наймітках
Радасць,
Цярпела прыгнёт і прымус
За хлеба надзённага кус,
Чакала, што нехта
Дабра дасць.

Бо радасць —
Жабрачка святая,
Як мае,
Хутчэй раздае.
Туга неабдымна сытая
З закутка глядзіць на яе.

На куфрах сядзіць
Ды на клумках
І толькі зайздросціць туга.
Шкада адламаць пірага —
Скупая і ў кумках, і ў думках.

Адчай за ракою рыкае —
Бугай гэны ўсіх забадзе.
Вясёлая радасць чакае,
Каму засмяяцца ў бядзе.

## Urbi et orbi

### I

Горад — тая зямля,
Якую пазбавілі
Лесу, рэчкі, поля.

Горад — тая зямля,
Якую ўтаймоўваюць
Жалезам, асфальтам, каменем.

Горад — тая зямля,
Якую падахвоцілі
Даганяць небасхіл.

А небасхіл там,
Дзе лес, поле, рэчка
Яшчэ на волі.

## II

Снег толькі-толькі выпаў
І на ляту
З халоднай прагай выпіў
Гаркоту, чарнату.

Снег прыглушыў вітрыны,
Смех у дварах,
І ягадаў рабіны
Нерастаптаны страх.

Заход гарыць крывава —
Да знебыцця,
І палазня крывая,
Як лінія жыцця.

## III

Цемра хрыпне
Злоўленай варонаю,
Горад ціхне,
Быццам бохан надламаты.

І самотнеюць
Безабаронныя
Вуліцы,
Дзяўчаты,
Тэлефоны-аўтаматы.

## IV

Гораду сняцца
І негарадскія сны —
Загарадныя,
Прыгарадныя
І з даўніны —
Местачковыя,
Пулятыя, стракатыя,
Як палотны мастачковыя;
І вясковыя,
Васковыя,
Кужэльныя і шарачковыя,
Дзе гнецца маладзік

Над стрэхамі,
А маладзіца
Над лехамі
Урачкоўвае
Ноч думкі скаромныя
Параскоўвае,
Ды «Хуткая дапамога»
Ад болю завойкае.
Забялееца дасвецце
За вокнамі,
Як малако парашковае.

## V

Захацелася urbi
Пакачацца ў гурбе,
Абцярусіцца,
Абеларусіцца.
Дзе конь качаецца,
Там поўсць астанецца,
Дзе слова качаецца,
Кігіча чаіца.

Зажадалася orbi
Пабыць у торбе
Ды патупаць па ворбе.
Дзе слова ступіць па раллі,
Там ходзяць з песні жураўлі.

Гораду й свету
Доўгая лета!



## ГЕНАДЗЬ ЛАНЕЎСКІ

# УЗГОРАК ПЕРУНА

### АПАВЯДАННЕ

Веснавы вецер сушыць узгоркі. Снег у лясах асядае, робіцца зярністы. Па аселіцы, у рэчках і ярах, коцяцца вадзяныя патокі — бягуць талыя воды ў балоты і азёры, у Палату і Дзвіну.

З лесу выйшаў чалавек-прывід: высокі, худы, нібы жэрдка, з доўгай сівой барадой, у пакамечанай світцы.

Цяжка ісці бездарожжам з торбай за плячыма. Абапіраючыся на сукаваты кій, чалавек упэўнена кіруецца да Слабады, што раскінулася па ўзбярэжжы Палаты.

Зношаныя боты старога дзіравыя, але ён шыбуе наўпрост і не звяртае ўвагі, бо ногі даўно мокрыя. Суконную світку расхінае вецер — бачны нагавіцы пашарэлага палатна і гэткая ж кашуля. Чорная з аўчыны шапка з'ехала на патыліцу. На дзягу начэплены сцізорык, брусок, крэсіва, невялікі капшук, якія целяпаюцца пры боку.

Сумныя думкі апаноўвалі старога чалавека.

Усюды панаставілі хрысціянскіх храмаў, ад іх званоў не стала жыцця. Гуд пранікае ў самыя глухмяныя мясціны, непакоіць язычніцкіх багоў. Знішчаны трэйбішчы, драўляныя ідалы, спалены дрэвы-волаты, пераворваны Паляны-копішчы, а святыя валуны былі абкладзены вязанкамі сухіх дроў, якія палілі, а потым аблівалі валуны вадой, каб трэскалі і трацілі сваю моц.

Новая вера — хрысціянства — змятала ўсё. Хіба гэта добра? Веру заморскую — Хрыстовую — прывезлі князі. Яны гаварылі шмат добрых слоў пра справядлівасць, а самі лютавалі, рабавалі, забівалі адзін аднаго, не тое што простага смерда.

І раней было шмат ліхадзеяў, няпраўды. Па лясах і балотах сноўдалі таці-рабаўнікі, ад іх двары сцяной адгароджваліся. Але раней слова чалавека было сілай, асабліва калі пакляўся богу: дубу свайму ці каменю. Цяпер жа не было парадку. Усіх спрадвечных багоў

замянілі адным — нейкім Хрыстом. Людзі мусяць выракацца мудрасці замшэлых ялін, высачэзных дубоў, магутных бярэзін, дуплістых ліп, спагады ціхага возера, сасняку на ўзгорку, прыдарожнага клёну, таямнічасці бору, крыніцы, палёту бусла, спеву жаваранка, рачной водмелі, віру. І што ж? Чалавек без гэтых таямніц не зможа адолець нягод жыцця, не будзе жыць так, як яму падабаецца, цешыцца існаваннем сябе і блізкіх.

Прыпыніўшыся, стары доўга ўзіраецца ў Слабаду. Некалі тут, на ўзгорку, паміж высокіх бярэзін, стаяў ідал Перуна. На былым трэйбішчы стаіць новы драўляны храм з крыжам над званіцай.

У вачах чалавека загарэўся нядобры агеньчык. Шапнуў праз сцятыя зубы:

— Праклінаю вас, адступнікі! Здохніце!..— Зняўшы з плячэй торбу, паспешліва дастаў з яе драўлянага ідала. Гэта сам Пярун, ён здаўна служыў тутэйшаму люду. Паставіўшы ідала тварам да Слабады, стары пачаў маліцца:— Божа моцны, божа бессмяротны, літасцівы божа-Пярун, пакарай адступнікаў, пашлі на іх мор, голад, агонь...

Уся постаць старога выдавала чалавека, якому звыкла загадваць.

Пярун таропіць вочы-камяні на Слабаду. Сонечны вецер зрэдку варушыць яго скураныя вушы. Стары пільна глядзіць на ідала, заўважае каля рота шчылінку. Мільгнула здагадка: Пярун патрабуе ахвяр.

Стары ўзрадаваны і ўзрушаны, ён прыціскае ідала да грудзей і спешна кіруецца ў Слабаду. Так, яго малітвы Пярун нарэшце пачуў і падказаў, што рабіць!

У першай ад лесу хаціне жыве смерд Траццяк. Хаціна з праваламі-вокнамі і дзірваном замест саламянай страхі ўрасла ў зямлю. На дрывотніку сам гаспадар стаіць каля тоўстай калоды і вострай сякерай здрабняе маладое голле бярэзін — корм для жывёлы. Спрактыкаваным вокам стары вяшчун заўважае зашмальцаваную, усю ў латках вопратку на схуднелым Траццяку, яго вялыя рухі, злямцаваную бараду. «Вось яно, пакаранне Перуна: у Слабадзе ўжо голад»,— думае стары.

Убачыўшы вешчуна з Перуном у руках, Траццяк ад нечаканасці быццам слупянее і нейкі час стаіць з узнятай сякерай.

— Добры дзень, вяшчун Адзінец,— урэшце прытомнее Траццяк, вітае старога.— Заходзь, бог Пярун, у хату,— хіліцца ён у нізкім паклоне перад драўляным ідалам.

Вяшчун моўчкі ставіць драўлянага бога на высокі кругляк, сам садзіцца на сухую калоду. Праз расчыненыя дзверы з хаты валіць едкі дым і сцелецца па набрынялай ад вільгаці страсе. Парог пераступае нага ў растоптаным лыкавым лапці — з дыму на двор паволі выходзіць Траццячыха. Слёзныя вочы яе не адразу заўважаюць няпрошанага госця. Убачыўшы вешчуна і драўлянага Перуна, жанчына ўкленчыла, нешта хацела сказаць, але зайшлася доўгім кашлем, потым, прыціснуўшы рукі да грудзей, кінулася ў хату, у дым, крычучы:

— Гора нам, гора!

Вяшчун горда маўчыць. Ён добра ведае гэтых людзей, якія выкручваюцца скуратом на агні між старой і новай верай. За новай верай — моц князя, за старой — традыцыі, душа.

З дыму праз дзверы вынікае белы ручнік, яго нясе Траццячыха. Яна цалуе край ручніка і кладзе яго ля ідала. Вяшчун глядзіць уражана. Ён ведае, што такое ручнік. Ім пакрываюць багоў, вялікаму госцю падаюць на ім хлеб-соль, на ім апускаюць у яму памерлых, шаноўнаму госцю на ўмыванне падаюць чысты ручнік, калі ў чалавека гарачка — змочаны ручнік прыкладаюць да галавы. Ручнікам караюць — б'юць дзяцей, на ручніку вучаць хадзіць малых, ручнікам павязваюць сватоў, лепшы падарунак маці — ручнік.

Стары разумее, чаму жанчына цалуе ручнік — у ім яе праца. Тонка спрасці кужаль, выткаць, адбяліць ручнік, вышыць на ім васількі здолее не ўсякая жанчына.

Вяшчун бярэ ручнік, выцірае твар драўлянага Перуна, вяртае жанчыне: ён прыйшоў не дзеля падарунка. Гэта яшчэ болей бянтэжыць жанчыну. Яна аддавала богу Перуну самае лепшае, што ў яе было.

Праз расчыненыя дзверы доўга чуюцца яе ціхія горкія прычытанні.

— Ці ёсць княжыя грыдні ў Слабадзе?

— Пяць конных вартаўнікоў ля княжай клеці,— з гатоўнасцю паведамляе Траццяк.

З храма даносіцца меладычны звон.

— Чаго звоняць? — затрывожыўся вяшчун.

— Малебен па тых, хто памёр... Вялікі голад і мор у Слабадзе.

— Усе няшчасці ад новай веры,— мудра заключае вяшчун.— Выракліся старых багоў, забыліся на Перуна, то і памраце, як злыдні.

Траццяк кідаецца на калені і паўзе да драўлянага бога:

— Абарані, магутны!

— Ідзі, кліч людзей: смердаў, саматужнікаў, усіх чорных і меншых,— загадвае вяшчун.

Застаўшыся адзін, ён радасна думае пра мудрых багоў. Пярун не загіне. Гэта ён навучыў яго выйсці з лесу... Князь выгнаў яго з Полацка. Ён сам прыняў хрысціянства і змусіў да гэтага многіх гараджан. Хаця — не ўсіх. Вось і ён, Адзінец, ужо два гады на балотных астравах і ў дуплах дрэў хавае каменных і драўляных багоў: Дзіва, Перуна, Сварога, Вялеса, Ярылу, Каляду, Пералесніка, Святавіта, Вярбу, Зюзю, Стрыбога, Дажбога, Бабу Ягу, Жыжаля, Лёлю, Купалу, Мокаша, Жыву, Цётку, Хорса, Зніча; у глухіх таемных мясцінах ён збіраў людзей на трэйбішчы. Угаворваў, прасіў іх трымацца звычаяў дзядоў і прашчураў.

— Голад і мор дапамогуць. Чорныя і меншыя людзі будуць мяне слухаць,— шэпчуць вусны старога, у барадзе хаваецца ўхмылка.— Дапаможа і навальніца,— углядаецца ў неба.

Вестка, што выгнаны з Полацка вяшчун Адзінец з богам Перуном заявіўся ў Слабаду, узрушала ўсіх. Убачыўшы на дрывотні Траццяка вешчуна з богам Перуном, слабадзянцы нізка кланяюцца. Зрэбныя світкі, схуднелыя твары, галодныя вочы акружаюць вешчуна. Лепшыя людзі — багатыя, не прыйшлі, асцерагаюцца князя.

Вяшчун маўчыць. Пасля ён стаў на бервяно, паказаў рукой на ідала і звярнуўся да людзей. У голасе гучала вялікая крыўда:

— Вы цураецеся багоў, якім кланяліся прашчуры, страх сціскае вашы сэрцы... Услухайцеся, як гаротна шумяць дрэвы ў лесе — гэта ад радасці стогне Лясун, што хутка цмокі павыпіваюць кроў вашых дзяцей і будзе яму спажыва... Бачуся я з духамі, ведаю, чым іх трэба ўлагодзіць. Маліцеся Перуну! — у голасе вешчуна гучыць пагроза.

Слабадзянцы прыкрываюць рукамі грудзі, дзе ў іх на кашулях вісяць металічныя крыжыкі, спалохана панурваюцца. Неўзабаве яны адзін перад другім паўзуць на каленях да Перуна, цалуюць драўлянага бога. Моляцца шчыра, кожны праклінае князя, яго дружыннікаў і бязлітаснага новага бога, які паслаў на зямлю голад і мор. Раней, пры старых багах, такога не было.

— Што рабіць, што? Як улагодзіць Перуна? — пытаюцца людзі, не ўзнімаючыся з каленяў.

Вяшчун нібы абыякавы да ўсяго, што адбываецца. Губы шэпчуць малітву, але ўважлівыя вочы сцерагуць патрэбны момант.

— Вазьміце жыта з княжай клеці для Перуна і сябе, спаліце храм,— раптам чуюць слабадзянцы голас вешчуна.

Маленне, шэпты, словы сціхаюць. Людзі глядзяць на вешчуна:

ён гэта сказаў ці не ён?

— Разбярэм жытніцы, накормім Перуна і дзяцей! — рашуча закамандаваў Траццяк.

Людзі ў парыве хапаюцца за дубіны, калы і жэрдкі. Натоўп коціцца на пагорак да княжай клеці і храма новаму богу.

Вяшчун трымае ідала перад сабою, бяжыць у натоўпе, апанаваны злосцю. Настрой аднаго чалавека перадаўся ўсім, і цяпер усеагульны шал захапіў і яго, пачынальніка.

— Стой! — нацягвае цеціву лука адзін з княжых грыдняў.

Натоўп прыпыняецца.

— Біце іх! — люта крычыць вяшчун.

— А-а-а! — раве натоўп і кідаецца на грыдняў.

Грыдні пускаюць стрэлы. Цэляцца старанна, каб потым мець доказ перад князем. Крыкі параненых тонуць у агульным гуле чалавечай гурбы, іх ніхто не чуе. Двух грыдняў забілі. Адзін прыгнуўся да грывы каня, памчаў у Полацк. Двое гарцуюць на хуткіх конях вакол узрушанай грамады, зрэдку пускаюць стрэлы. Маладыя смерды спрытна мецяць у іх камянямі. Добрыя коні ў грыдняў, носяцца як віхор. Камяні ўсё ж вымушаюць грыдняў ад'ехацца далей у поле.

Вось разламалі завалы на клецях. Слабадзянцы, хто ў мяшкі, хто ў кашулі, беражна награбаюць жыта, сыплюць жменямі ў рот і жуюць. З мяшэчкамі, збанамі і сеўнямі бягуць жанкі і дзеці.

— Пусці! — крычыць Траццяк.— Гэта маё жыта! — І б'е старога смерда ў твар.

Усчыняецца сварка ля другой клеці.

— Кожнаму браць па чацверыку, і яшчэ адну меру на бога Перуна! — чуецца голас вешчуна.

Слабадзянцы разбіраюць жыта.

— Палі храм! — зноў загадвае ён.

Паліць храм ахвотнікаў мала. Бог ёсць бог, хоць і не прыняты, яго гнявіць няможна. Людзі моўчкі разыходзяцца, сваякі забіраюць параненых, нясуць на плячах. Каля вешчуна застаецца чалавек дзесяць, яшчэ не астылых ад узрушэння. Усе гурбою бягуць да храма.

Насустрач выходзіць свяшчэннік, у яго руках крыж.

— Апамятайцеся, праваслаўныя! — у папа дрыжыць моцны голас.

Вяшчун з Перуном і свяшчэннік з крыжам стаяць адзін насупраць другога, трымаюць свае святыні, нібы грозную зброю.

— Ізыдзі, сатана, са сваім паганскім богам! — раз'юшана крычыць поп: не вытрываў, не стрымаў сябе.

— Твой бог не наш. Прывезены. Не наш,— вяшчун падымае ўверх Перуна.— Бі грэка-сабаку!

Хтосьці шпурнуў у папа дубовым калом, зваліў з ног, доўгая вышытая вопратка расцягваецца па зямлі. Поп усхапіўся і пабег з усіх ног у поле да грыдняў.

Вяшчун выкрасае агонь, раздзьмухвае трут і сам падносіць да саламянай страхі храма. Праз хвілін колькі царква гарыць.

Стомлена валакуцца на селішча мужчыны, вяшчун хавае свайго ідала пад крысо, ідзе следам.

Яшчэ дымяць галавешкі згарэлага храма, а ўжо з Полацка імчаць княжыя дружыннікі. Вядзе іх баярын Гаўрыла. Акружыўшы Слабаду, яны бізунамі гоняць усіх жыхароў да пажарышча. Тут аддзяляюць купцоў і заможных саматужнікаў, а беднату — горшых людзей — акружаюць шчыльным конным строем.

Вяшчун Адзінец стаіць крыху ўбаку. Ён панікла глядзіць на пажарышча і, здаецца, нікога з людзей не бачыць.

Баярын прыўзнімаецца ў сядле, адзенне блішчыць на сонцы:

— Хто спаліў царкву, забіў грыдняў, збіў завалы з княжае клеці?

Слабадзянцы апускаюць галовы, маўчаць. Баярын робіць знак

рукой. Двое дружыннікаў узнімаюць дубіны і кідаюцца на людзей.

— А-а-а!!! — крычаць у адчаі пакалечаныя смерды.

Натоўп у жаху кідаецца назад, дзе стаяць коннікі. Коні храпуць. Дружыннікі ўздымаюць мячы.

— Траццяк, Траццяк збіраў людзей! — наперабой называюць «лепшыя» слабадзянцы вінаватага.

Да баярына падбягае жонка Траццяка, лямантуе:

— Вяшчун Адзінец усіх падбіваў, ён і царкву спаліў.

Баярын сурова зірнуў на старога вешчуна, які абыякава стаяў збоку, трымаючы ў руках ідала.

Баярын і сам баіцца бога Перуна. У яго пакоях стаіць такі ж ідал. Але загад князя прымушае баярына быць цвёрдым, ісці супраць сваёй волі і розуму.

— Чым апраўдаешся, вяшчун Адзінец? — пытаецца баярын.

Вяшчун глядзіць яму ў вочы і чытае ў іх смяротны прысуд.

— Спаліце храмы і выганіце грэкаў-сабак! — сіплы голас у вешчуна, але ўпэўненыя рухі: чалавек на ўсё рашыўся.

— Ты мог маліцца Перуну, колькі хацеў, але ты пайшоў супраць новага нашага бога, супраць волі князя, паліш храмы, бунтуеш смердаў. Па загаду князя прымеш смерць, вяшчун Адзінец!

— Гэта не твой бог. Твой бог — Пярун! — крычыць вяшчун.

— Не мая воля, гэта воля князя,— апраўдваецца баярын.

Страх ледзяніць сэрца старога, але ён мусіць з гонарам прыняць смерць, ён не зганьбіць вялікага Перуна. Няхай усе гэта бачаць. Стары беражна ставіць ідала на дол і, ступіўшы колькі крокаў, спыняецца. Баярын дае знак. Трое дружыннікаў саскокваюць з коней, бяруць лукі. Іх рукі дрыжаць. Над натоўпам нясуцца воклічы:

— Пярун, абарані! Хай жыве наш вяшчун!

Са свістам ляцяць гартаваныя стрэлы, ляцяць вышэй галавы вешчуна.

— Пярун абараняе! — хвалюецца натоўп.

У баярына крывяцца вусны.

— Рахвал, аркан! — загадвае ён наёмніку.

Той рэзка паварочвае каня і з месца бярэ ў галоп, з ходу накідвае валасяны аркан на шыю Адзінца.

Ускінуўшы рукі наперад, вяшчун падае. Аб'ехаўшы круг, наёмнік спыняе каня. Вяшчун ляжыць нерухома — ён мёртвы.

— Дзе ідал? — грыміць голас баярына.

Няма Перуна. Ніхто не ведае нічога, ніхто нічога не бачыў.

Баярын гаворыць да «лепшых» людзей:

— Імем князя: за кожны ўзяты чацвярык жыта восенню аддаць два. Перапісаць вінаватых. Да спаса адбудаваць царкву. Будаўніцтвам пакіруе святчэннік. Траццяка закаваць у жалеза і прыслаць у Полацк.

Павярнуўшыся да «чорных» людзей, баярын крычыць:

— У бізуны іх!

Дружыннікі без разбору хвошчуць бізунамі мужчын, жанчын, дзяцей і старых.

— Пярун, памажы! — лямантуюць ашалелыя людзі, многія падаюць на зямлю, акрываўленыя і аглушаныя бізунамі.

Раптам бліскае маланка, неба разрываецца ад звону, налятае шалёны парыў навальніцы.

— Паехалі хутчэй! — спалохана крычыць баярын.

Дружыннікі імкліва нясуцца полем, Рахвал валачэ на аркане нябожчыка.

Слабадзянцы ўздымаюць рукі насустрач навальніцы: яны вераць, што старыя багі абароняць іх, сваіх дзяцей.

## ЗІНАІДА ДУДЗЮК



Горад асенні, горад настылы,
Льдзіна пасцелі выстудзіць жылы,
Нібы ў магіле на гліняным дне
Холадна мне.

Ці засынаю, ці паміраю,
Снам ратавальным сябе даваряю,
Хворае сонца ў акно зазірне,
Холадна мне.

Доўжыцца час без патолі і веры,
Выстудзіў холад людзей недаверам.
Даўняя згадка святло адамкне.
Холадна мне.

Дзе яна, тая пара залатая?
Час анічога назад не вяртае.
Дзякуй, хоць некага восень міне.
Холадна мне.



У вышыню імкнуўся чалавек,
То думкаю, то вежай неба раніў.
Зжываў жыццё, а будаваў навек,
Існуючы на безразважнай грані,
Дзе ўсё няпэўна. І не прымірыць
Магчымасць з марай. Не адолець змогу.
І толькі б'ецца ў купал і звініць
Загубленага часу ціхі водгук.



Прыходжу ў лес,
Бы ў храм на споведзь,
Пагаварыць і памаўчаць.
Лістота думкі чуйна ловіць —
Каб дыялог са мной пачаць.

Рагоча вецер, стогне глеба,
Хварэе пасівелы мох,
І плача хмара ў змрочным небе
Ды мочыць стоены бярлог,

Гняздо, напоўненае страхам.
Дубы трухлеюць. Халады.
І пахне смерцю, пахне прахам
З лесапасекі чорны дым.



Міражы, муляжы,
Васкавыя эфірныя здані.
Можна верыць і жыць
Побач з імі пад воклічы кані.

Гэта д'ябальскі сон.
Ваўкалакі з народа смяюцца.
Смерць пакосіць касой,
Хто пасмее дачасна прачнуцца.

Калі чуеце смех,
Калі чуеце песні і скокі.
Гэта лёд, гэта снег,
Гэта сон летаргічна глыбокі.

Нас дарэмна будзіць.
Не крычыце ў метро, на трыбунах.
Піць і спаць, спаць і піць —
Вось адзіны ва ўсіх паратунак.

Мы не верым вачам,
Плоцім д'яблу крываваю мытай.
У халодных начах
Пацукі адпяваюць нас сыта.



Навошта гэты развітальны позірк?
Мы столькі дзён яшчэ не пражылі,
Не прыхапіла нашых свят марозам,
Вясну не акрылілі матылі.

Такія ў нас прадбачацца дарогі,
Такія ночы — шчодры заркапад.
Паабіваем шчасцю ўсе парогі,
Наведваючы ў час і неўпапад.

Кладу гады на шчырыя маленні,
Сівее мройна-думна галава.
Хапіла б толькі сілы ў аддаленні
Да новага спаткання датрываць.

## Буг

Славянская мяжа
Між Захадам і Ўсходам.
Тапіўся тут чужак,
І ладзілі род з родам.

Той бераг мне чужы
І моваю і верай.
Жыву я на мяжы
Сумнення і даверу.

Там іншая сям'я,
Іначай песні льюцца,
Ды гэтак жа, як я,
Там плачуць і смяюцца.

Ад бедаў і вайны
Ў матуль сівеюць косы.
Інакш жывуць яны,
Ды гэтак жнуць і косяць.

Славянская рака,
Ты мёртвых абмывала,
Як добрая рука,
Што злое даравала.

Дык паратуй, вада,
Ад смагі невылечнай.
Умела ты аддаць,
Дык брацьмеш сэрцы вечна.

Твой малады палон.
Так лёгка з хваляй зліцца.
Дазволь, рака, дазволь
Табою прычасціцца.

## Лобнае месца

На плошчы пукатай,
Што тайнаў шмат месціць,
Ля царскіх палатаў
Ёсць лобнае месца,
Дзяржаўнаахоўнае,
Любасць турыстаў,
Стаіць, нібы новае,
Год, можа, трыста.

Пра войны і страты
Разыдуцца весці.
Уздымецца раптам
Лобнае месца
Без скрытага сведкі,
Без бляску і гуду,
Ляціць на адведкі
Да螺 рознага люду.

Як сядзе, святкуе
Чорнае свята:
Тады не шкадуе
Брат роднага брата...

Калі налятаецца,
Жыццяў нап'ецца,
На плошчу вяртаецца
Лобнае месца.
Шляхоў яго цёмных
Павек не расплесці,
Былога не помніць
Лобнае месца.



Спелая восень стамілася ў доўгіх турботах,
Коціцца сонца па волі высокай Сварога.
Нібы надломлена ў сэрцы галіначка ўпотай —
Выспелі яблыкі ў садзе графа Талстога.

Яблыні родзяць, сябе не шкадуючы шчыра,
Добрых пладоў не бывае ніколі замнога.
Шкода, што душы людзей адлятаюць у вырай,
Выспелі яблыкі ў садзе графа Талстога.

Каб жа сабраць на бяседу былое з сучасным,
Не прыгнятаць паднябесным звычайна-зямное,
Стала б Паляна тады па-сапраўднаму Яснай.
Выспелі яблыкі ў садзе графа Талстога.

Пеклам дыхнула з Чарнобыля шызая хмара,
Не адхрысціўся сад ад рукі Чарнабога.
Грэх чалавечы — а дрэвам бязлітаснасць кары.
Выспелі яблыкі ў садзе графа Талстога.



Я пакінута сумам,
Ні лістоў, ні званкоў не чакаю.
Не баліць маім думам,
Калі да самоты звыкаю.

Занядбаная марай,
Я згубілася ў стомленым свеце.
Ні ратунак, ні кара
Мяне між людзьмі не прыкмецяць.

І няма ў мяне сілы
У мінулае згадкай вяртацца.
Я надзеі знасіла
На шляху да нязбытнага шчасця.



**АЛЕСЬ КАСКО**

## Спадчыннік

Стрымалі рост маладнякі,
і дажываюць век дубровы.
Няма паперы. Медзякі
цяпер званчэйшыя, чым словы.

Хто за пятак, а хто й за так
душу закладвае ў друкарні.
Шчэ не паэт, ды ўжо бядак —
ідзе з прасцёртымі рукамі.

Не просіць: «Дайце!» Просіць: «На,
вазьмі, народ, усё, што маю».
Вачэй узнёслых чысціня
не ўтойвае слязы адчаю.

Шчэ не паэт, а ўжо ізгой,
і спасцігаць яму не проста,
завошта, шчодрага, яго
змушаюць да жабрацкіх просьбаў?

Нішто сабе жабрак, калі,
да слова прагны, сціплы ў быце,
ён нават сэрца агаліў
і аддае з мальбой: «Бярыце».

Смуткуе. Ходзіць на паклон.
Не пагарджае прыніжацца.
Зважай, народ! Мо збавіць ён
цябе ад існага жабрацтва.



Здавалася, прорва такая — не выйду,
не выкараскаюся з тхлані, імглы
да ветлага сонца, на мяккую выдму,
пад цёплыя сосны з настоем смалы.

І хай тут бязлюдна, і вернецца страта
не хутка — яшчэ ні цябе, ні сяброў,
а ўжо я цалую маўкліва і свята
мой бераг, дзе рэхам блукае любоў.

Нанова здзіўляюся лёткім аблокам,
і сыпкай ігліцы, і зыбкім пяскам
ды цешуся думкай, што вы недалёка,
каго, разабрацца, пакінуў я сам.

Калі разабрацца, дык мог бы пазбегнуць
багністага шляху, дзе тхлом аддае.
Няхай не была непазбежнаю бездань —
я штосьці світальнае вынес з яе.

## З дзіцячых таямніц

Святочна рыфмаваў я «мама—рама»
і параўноўваў з матыльком сцяжок,
што плыў над вулкай... Гаманіла крама
і запыняла ўпэўнены мой крок.

Зусім няўцям было мне, што ў салюце
знаходзілі вясёлыя дзядзькі
не водбліскі сусветных рэвалюцый,
а вінных пырскаў лёткія снапкі.

Заманьвалі. Трапляла ў рукі шклянка
і мне — я чуў, затоены, як мыш:
змяняўся гімн вясковы «Ехаў Янка...»
на ўсенародны гімн «Шумел камыш...».

Не разумеў, чаму мне гэтак скрушна,
калі й настаўнік забягаў сюды.
Збянтэжаны, ён з важнасцю двурушнай
з вядра зачэрпваў голае вады.

А я сцяжок засоўваў у падстрэшша,
ішоў дамоў і рады быў, хлапчо:
пусцела вулка,існа і бязгрэшна
мне матылёк спускаўся на плячо.



Самоту я любіў за еднасць
з нябёсамі: умеў парою
забыць вясковай школкі беднасць
і плыць у воблаках над ёю.

Самоту я любіў за спеласць
крыві, што стукалася ў скроні
і разбівала аб нясмеласць
жаданне грэць твае далоні.

Самоту я любіў за мукі
з'яўлення слова — і начамі
такія чуліся мне гукі,
што век нікому не гучалі.

Самоту я любіў, а зараз
яна мне сэрца разрывае:
часткова — жаль,
часткова — зайздрасць
да тых, хто небам праплывае.

Была, як пачуццё святое,
была, як непаўторнасць шчасця.
Цяпер яна — звычайнасць, тое,
што ў тлуме не дае прапасці.



Дню люднаму не запярэчу.
Яшчэ не ведаю, чыю
азмрочу холадам сустрэчу
і ад каго сябе ўтаю.

Каму ў хвальбе не падыграю,
з кім слоў прыязных не знайду?..
Нуда, мой божухна, якая
дзьмуць у мінорную дуду!

На вуліцу ўцяку з падстрэшша,
ды запынюся на рагу:
панурым быць — занадта смешна,
а стаць вясёлым не змагу.

А людзі што? Па ўсіх прыкметах,
спяшацца будуць нездарма.
Не замінаць — і гэта мэта,
калі ў цябе другой няма.

І ў дзень няпэўны, недарэчны
пачну шчэ больш перажываць,
як не папросяць аб сустрэчы,
як не спакусяць падыграць.

## На Дзяды

Апоўначы на мой горад апусцілася залева.
У космах дажджу пад аціхлымі вокнамі
з'явіліся постаці — бязважкія і адзінокія.

І вузкія вулачкі неверагоднае дзеялі...
Старыя домікі выпростваліся і маладзелі.
Ля скквераў — нябачныя дзённым прахожым —
з травы падымаліся раскіданыя агароджы.
І лаўкі ля іх вытыркаліся рэбрамі-спінкамі.
Камлістыя вербы станавіліся кволымі вярбінкамі.
Па-над пляцамі — у змроку амаль непрыкметна —
змяняліся абрысы і вобразы манументаў.
Бялелі ў залеве на вулічных пераходах
уборы старамодныя — забытага веку і году...
А ўранку дождж сціхнуў; абуджаны горад
абмытымі вокнамі пазіраў пыхліва і горда.
Над мокрымі дахамі, над вадасцёкамі
знікалі постаці — бязважкія і адзінокія.
І толькі ў кватэрах усміхаліся ніякавата
абліччы юныя на парэпаных фотакартках.



З хацінаў без ганка і сенцаў,
дзе дух пракаветных гадоў,
глядзяць абразамі ў акенцах
абліччы бабулек-удоў.

Ні скаргі ў вачах, ні папроку,
ні страху ў чаканні сівець.
Ім звыкла: старых, адзінокіх
надоўга цураецца й смерць...

І толькі за нас, самавітых,
далёкіх ад стратнай пары,
нашэптваюць вусны малітвы,
хоць сілы няма гаварыць.

Не чуем, амаль не прыходзім,
не бачым... Часцей, чым да іх,
ідзём у святочным народзе
да намаляваных святых.

І раптам аконныя рамы
дыхнуць галізной крыжавін...
Хаціны — найсветлыя храмы,
пакуль з абразамі жывых.

## За горадам

Не грукнуць у дзверы.
Не сядуць за стол.
Адзін, быццам вязень-бягляк...
Выходжу, узяўшы з цвіка паліто,
нячутны для чуйных сабак.

Нябачны для горада і для цябе,
блукаю між дрэў,
а ў вадзе,
якой па калена сагнутай вярбе,
сачу, як з'яўляецца дзень.
Так ціха і мякка
світае на дне,
а вочы на ўсход падыму —
блішчыць, бы акенца на цёмнай сцяне,
край сонца...
Я рады яму.
Тады мяне чуе ўвесь бераг пусты,
тады мяне бачыць рака,
а горад шле вестку:
хапілася ты
знайсці і вярнуць бегляка.

## Далакоп

З вёскі ён, дык звыклая работа:
глыбкі дол і ўзгорачак пяску.
Хоць і не ўзрасці тут каласку —
з вёскі ён, дык звыклая работа.
І спаўзае на яго шчаку,
бы сляза, густая кропля поту.
З вёскі ён, дык звыклая работа:
глыбкі дол і ўзгорачак пяску.





НОВЫЯ ПЕРАКЛАДЫ

## СЯМЁН ШУРТАКОЎ

# ДВА АПАВЯДАННІ

## НЕСЦІХАНАЯ ПЕСНЯ

Гэта было на Лене.

Мы праплывалі тыя мясціны, дзе рака, якая ўжо набрала сілу, так далёка рассунула свае берагі, што яны нават на даляглядзе бачыліся на вялікай аддаленасці адзін ад аднаго.

Неахопная шырасць Лены, яе магутны несупынны рух да акіяна заварожвалі, магчыма, нават ціснулі, патлумлялі. Нябачная вокам, але як бы адчувальная бязмежнасць прасторы па берагах ракі яшчэ болей узмацняла ўражанне ад яе магутнасці і суровай першатворнай гожасці: пакажацца невялікае селішча на беразе, і зноў на дзесяткі і дзесяткі вёрстаў — бязлюддзе, неабсяжная зялёная тайга. Нават наша невялічкае судна, якое плыло пасярэдзіне вадзяной роўнядзі, і тое, здавалася, сваёю мізэрнасцю толькі пацвярджала велічнасць ракі і ўсяго, што па яе берагах.

Судна везла на новае месца, у нізоўе Лены, пошукавую экспедыцыю. Большая частка яе складу былі людзі бывалыя, якія пабачылі Сібір, Лена ім была не ў навіну, і яны даволі хутка разбрыліся па караблі, заняўшыся кожны сваім клопатам.

А мы, двое, што трапілі ў гэтыя мясціны ўпершыню, сядзелі на тоўстых канатах на носе судна, глядзелі шырока адкрытымі вачыма на Лену, на берагі, якія павольна плылі насустрач нам, і не маглі наглядзецца. Велічная Лена быццам адняла ў нас мову; мы сядзелі моўчкі, засяроджана. Любыя словы здаліся б мізэрнымі, нікчэмнымі побач з тым, што праходзіла перад нашымі вачыма, што акружала нас. Ды словы і не былі патрэбныя зараз, мы ўжо даўно прывыклі ў такія хвіліны разумець адно аднаго без слоў. І цяпер нам дастаткова было зрэдчас сустрэцца позіркамі або лёгкім дотыкам далоняў, каб выказаць пачуцці, якія валодалі намі. Ва ўсякім выпадку, так мне думалася, так мне здавалася...

Дзень хіліўся да вечара, сонца апускалася над левым берагам усё ніжэй, і ў той час, калі там паступова ўсё затуманьвалася, зацягвалася сіняю смугою і злівалася — правы бераг і ўсё на ім набывала яшчэ большую рэзкасць і выразнасць. Кожны яго выгін, кожнае дрэва ля берагавога крою бачыліся ясна і выпукла.

Пяшчотны блакіт ракі стаў як быццам злёгку рудзець, залаціцца, асабліва густа залаты водбліск клаўся на рачную далячынь наперадзе, там, куды мы плылі. І калі доўга, не адрываючыся глядзець у тую залаціста-ружовую далячынь, то пачынала здавацца, што з гэтага свету, хоць і цудоўнага, але ўсё ж рэальнага, плывём мы ў свет зусім іншы, казачны.

І раптам недзе зусім побач узнікла і загучала ціхая песня. Я яшчэ не паспеў разабраць ніводнага слова, не паспеў злавіць мелодыю, але песня ўжо кранула, усхвалявала маё сэрца. Кранула болем, які то затоена, то адкрыта звінеў тонкаю струною ў грудным, як бы рыдаючым жаночым голасе.

Я азірнуўся. Непадалёку ад нас, абапёршыся на борт і пазіраючы ў тую самую залатую далячынь, што віднелася наперадзе, стаяла светлавалосая дзяўчына ў сіняй нейлонавай куртцы наросхрыст і ў такіх жа сініх, пад колер курткі, штанах, увабраных у кеды. Спявала дзяўчо без ніякай натугі, спявала не для кагосьці, а для сябе. Хто ведае, можа, яна вось так размаўляла сама з сабою ці з кімсьці, каго тут не было, але ёй верылася, ёй хацелася верыць, што ён пачуе яе голас, яе тугу і смутак. А можа, яна таксама бачыла ўсё гэтае хараство ўпершыню, і ёй хацелася падзяліцца пачуццямі, якія поўнілі аж праз край сэрца, падзяліцца не было з кім, і таму радасць яе была няпоўная...

Я па-ранейшаму не ўнікаў у словы песні — да таго ж дзяўчына і не старалася выразна выгаворваць іх, бо яна спявала ўсяго толькі сама сабе,— я ўслухоўваўся ў гучанне голасу, у яго пераходы і пералівы. І нечакана адчуў, як пачынае цісонуць у грудзях, быццам мне стала не хапаць паветра (і гэта на такой прасторы!), а вось і зашчымела,— зашчымела салодкім невыказным смуткам сэрца. Чаму і адкуль гэта? Няма ў мяне ніякага смутку, а калі б і быў — мне ёсць каму выказаць яго. Мне ёсць з кім падзяліцца і радасцю. Дык чаму ж шчыміць у грудзях?.. А яшчэ і тое незразумела, што мне балюча чуць, як спявае дзяўчына, да горла падступае няпрошаны камяк, а я слухаю і баюся, хоць бы не абарвалася, хоць бы не скончылася гэтая ціхая, рыдаючая песня. Мне хочацца — не ведаю чаму,— каб яна гучала нязмоўкна...

Часцей за ўсё свае пачуцці мы выказваем словам. Але якой грубай і, як жабрачка, беднай здаецца нам нашая слічная і невычэрпна багатая мова, калі мы пачынаем вышукваць у ёй словы, якія дакладна і поўна выказалі б тое, што ў нашых сэрцах! Да таго ж яшчэ і клопат, а ці правільна, а ці добра зразумее нас той, каму мы выліваем сваю радасць або свой смутак.

Песня ліецца з сэрца ў сэрца. І чалавек, надзелены голасам, можа праз песню не толькі выказаць сябе, ён можа і спадзявацца, што яго добра зразумеюць: бо з сэрца — у сэрца!

Але...

Але калі дакладна знойдзенае слова надоўга — бывае, на стагоддзі! — застаецца жыць у памяці людзей, застаецца ў кнігах, то песня памірае разам са спеваком. Дакладней, словы песні і яе мелодыя застаюцца, але ж напісанае на паперы літарамі і нотамі — яшчэ не песня, а толькі тое, што можа стаць песняй. Песні без голасу няма. Літары і нотныя значкі друкарская машына можа паўтарыць тысячы разоў. Голас непаўторны. А голас адыходзіць разам са спеваком.

Я заўсёды верыў, што старажытныя грэкі былі не менш умелыя

і геніяльныя ў музыцы, чымся ў літаратуры, скульптуры і архітэктуры. Ды калі літаратура і многія іншыя мастацтвы да нас дайшлі, то ад песень засталіся толькі словы. Як яны спяваліся, мы не ведаем. Песні памерлі з іхнімі выканаўцамі...

Дык што, рана ці позна і гэтая песня памрэ і ад яе нічога не застанецца?.. Паверыць і змі693ыцца з гэтым было крыўдна і горка.

Паглыблены ў свой сумны роздум, я не адразу адгукнуўся на нясмелы дотык прахалоднай блізкай рукі. А калі павярнуў галаву, то ўбачыў у яе шырока адкрытых вачах слёзы.

— ...яшчэ мацней...

Яна вымавіла пачатак фразы аднымі вуснамі, а скончыла ціхім, ледзь чутным шэптам. Яна ведала, што я яе і так зразумею, а сваім голасам ёй, напэўна, не хацелася замінаць таму слічнаму голасу, той журботнай песні кахання, якую мы чулі.

Мне падумалася спытаць яе: дзяўчо вылівае боль свайго сэрца — гэта зрзумела. А адкуль і навошта твае слёзы, калі праз іх у вачах свеціцца не смутак, а радасць, што перапаўняе цябе?! Ды толькі пра такое, напэўна, не пытаюць. І я толькі ўсміхнуўся ў адказ, успамінаючы, як аднойчы, у нейкую святочную салодкую хвіліну, яна, як і зараз, сказала: «Я цябе кахаю...», памаўчала крыху і дадала: «Я цябе вельмі кахаю!»

Выліваючы свой душэўны боль, дзяўчына, відаць, паступова перадольвала яго, таму што ў яе голасе ўсё выразней чулася не пакута, а ціхі прасветлены смутак. Як у маленстве: наплачашся і як быццам выплачаш сваё гора, якое яшчэ зусім нядаўна здавалася непазбытным. Дзяўчына таксама як бы ўмылася сваімі слязамі, і яе позірк на свет пачаў прасвятляцца.

А мне было, як і раней, невыказна маркотна. Міжвольна, не задумваючыся, я час ад часу азіраўся назад, і радасць ад нядаўна ўбачанага гасілася ў маім сэрцы жалем, што ўсё, што праплывае перад тваімі вачыма, адыходзіць беззваротна. Адыходзіць назаўжды... Можна прыехаць на Лену яшчэ раз? Ды тады і Лена будзе ўжо не тая, і ты прыедзеш іншы, і гэтай песні не будзе.

Няўжо і песня таксама адыдзе ў небыць, адыдзе незваротна?

А можа, усё ж не адыдзе, не памрэ?

У свеце матэрыяльным, рэчыўным існуе закон захавання матэрыі. Матэрыя можа пераходзіць з адной формы існавання ў іншую, але не знікае. А няўжо гэты закон не распаўсюджваецца на быццё духоўнае? Мы не ведаем, якія песні спявала наша Кіеўская Русь, не ведаем і тое, з якімі песнямі ішлі рускія ваяры на чале з маскоўскім князем Дзмітрыем на Кулікова поле. Ды ўсё ж песні і Кіеўскай і Маскоўскай Русі, трэба меркаваць, весялілі народнае сэрца, дадавалі любові да сваёй зямлі і ўмацоўвалі веру ў свае сілы. І ці ж можна гаварыць, што яны памерлі разам з тымі, хто іх спяваў? Песні пераліваюцца з сэрца ў сэрца. І хіба яны не пераліліся, не перадаліся ў новыя пакаленні то маладзецкаю буесцю, то шырынёю рускае душы, яе радасцю і смуткам?!

Спевакі паміраюць, ды іх песні застаюцца жыць у сэрцах іншых людзей. Трэба толькі, каб песня кранала ці, як мы кажам, брала за сэрца. Тады яна застаецца з намі хоць бы ўжо тым, што робіць нас крыху — хай сабе нават крышачку — лепшымі. Каго — больш харобрым, каго — больш добрым, каго — больш пяшчотным...

Сотні, тысячы гадоў несціхана гучаць над планетаю песні!

Яна зноў ціхенька кранулася маёй рукі. Відаць, мая міжвольная ўсмешка навяла яе на думку, што я або недачуў або не зразумеў прамоўленых ёю слоў. А можа, ёй яшчэ раз захацелася паўтарыць тыя словы, бо яны найлепш выказвалі яе стан у гэтае імгненне. І яна сказала:

— Я кахаю цябе яшчэ мацней...

...Гэта было на вялікай сібірскай рацэ Лене.

Было ці то год, ці то дзесяць, а можа, сто або тысячу гадоў назад. Было са мною, а можа, і з кімсьці з вас...

**З рускай. Пераклаў С. ЗАКОННІКАЎ.**

# ПЕРШАЕ СПАТКАННЕ

## I

Ён паклаў бараду на далоні, ляжаў на верхняй паліцы насупраць мяне і пільна глядзеў у акно. Але гэта толькі здавалася, што Фёдар глядзіць у акно, што яму цікавыя гэтыя палі і вёскі, паўз якія мы праязджалі. Погляд яго быў невідушчы: вочы расплюшчаныя, а глядзіць чалавек кудысьці ў сябе, не то ў мінулы, не то ў заўтрашні свой дзень глядзіць. Толькі часам ён быццам страсаў з сябе забыццё, вочы пад густымі і нізкімі брывамі ажывалі. Але і тады яны глядзелі некуды паверх палёў, паверх лесу, за тую нябачную хвалістую рыску небакраю, што ўсё набліжалася і ніяк не магла наблізіцца.

У дарозе знаёмішся хутка. Але вось ужо і гадзіну, і другую еду з Фёдарам, а ведаю пра яго вельмі мала: быў у Сібіры, зараз едзе дадому. І ўсё.

Таму зусім неспадзяваным было, калі мой спадарожнік, працягваючы глядзець у вагоннае акно, раптам спытаў:

— Ты ў лёс верыш?

Я паціснуў плячыма.

— Ну, ад лёсу не ўцячэш, і ўсё такое,— быццам растлумачыў сказанае Фёдар і не то ўсміхнуўся, не то проста ўздыхнуў.— Смешна, вядома... А ўсё ж...

Ён памаўчаў, а потым ужо спакайнейшым голасам працягваў:

— Колькі гадоў я пражыў у роднай вёсцы, куды і цяпер еду! З дзяўчатамі карагодзіў, песні з імі пад гармонік пеў, праводзіў. І падабаліся, ды так падабаліся, што і ажаніцца трэба было б. Але не жаніўся. Завербаваўся, у Сібір паехаў. І зноў: толькі падумаць, колькі людзей за гэты час пабачыў! У Сібіры цяпер народу! З кім толькі не сустракаўся, нават землякоў з суседніх вёсак сустракаў. Спадабалася Сібір — раскошны край. А вось і адтуль адзін еду. Не збеглася мая сцежка з сібірскай прыгажуняй. Еду і ўсю дарогу пра тую думаю, што ведаў якіх-небудзь два дні... Ну, яшчэ тры лісты напісаў... Эх, шкада, а там цяпер, мабыць,— Фёдар кіўнуў за акно, у пралятаючыя вясновыя палі,— жаваранкі пяюць...

З чорных, набрынялых ад снегавой вільгаці палёў, якія падсыхалі, вілася пара, далёкі лес у дрыготкай смузе быццам плыў кудысьці. У лужынах, у дарожных каляінах зіхацела шчодрае, гарачае сонца, якое ляцела праз палі і лясы разам з нашым цягніком.

Фёдар прыўстаў, сунуў руку ў нагрудную кішэню пінжака і дастаў адтуль невялікую фотакартку. На картачцы — у квяцістай сукенцы маладая жанчына з пушыстымі валасамі, якія сабраны ў вялікі пучок. Побач з ёй — гэтакая ж пушыставалосая дзяўчынка гадоў чатырохпяці.

— Дачка,— тлумачыў Фёдар.

Нехта, мабыць, памыліўся, адчыніў дзверы, і сонца на імгненне шуганула ў купэ, бліснула на сценах, століі зноў, адгароджанае дзвярыма, патухла.

— А мне хутка выходзіць,— сказаў Фёдар.— Вось сонца ўжо на захад пайшло, значыцца, хутка...

І вось Фёдарава станцыя.

Цягнік прыпыняе хаду. Мы выходзім у тамбур. Фёдар увесь напружыўся, рука з запалкай, ад якой ён прыкурвае, дробненька дрыжыць.

— Дзівак ты, Фёдар,— кажу яму.— Калоцішся ўвесь, нібы табе семнаццаць і на першае спатканне ідзеш.

— Эх, хлопча! — цяжка ўздыхае Фёдар.— Яшчэ на якое спатканне!

Цягнік ідзе павальней, спыняецца зусім. Маленькая станцыя, ціхая, малалюдная.

Фёдар першы за мяне выскоквае на перон і хуценька азіраецца ў адзін бок, у другі. Ён спяшаецца ўбачыць яе, пакуль перон не запаланілі піжамы і халаты, якія вылазяць з вагонаў. На пероне стаіць таўставатая жанчына з падпалкоўнікам і процьмай чамаданаў, дзядзька ў шапцы, старая, два хлопцы з рукзакамі... Дзе ж яна?

Гэта поглядам пытае ў мяне Фёдар, і гэтулькі трывогі ў яго збянтэжаных вачах, што я адводжу свае ўбок. І тады — бачу яе, тую жанчыну, якую мы шукаем. Яна ідзе з дзяўчынкаю аднекуль збоку, ідзе шпарчэй, проста да нас. Яна не бачыць, не заўважае пасажыраў, што трапляюцца ёй на шляху. Яна бачыць толькі Фёдара. Аднаго Фёдара. І, быццам адчуўшы яе позірк, той рэзка абарочваецца.

Жанчына ўжо блізка. Але чым бліжэй яна, тым павальней становіцца яе хада. Яшчэ павальней, яшчэ...

— Добры вечар, Вера,— Фёдар пераводзіць позірк на дзяўчынку, нахіляецца да яе: — Добры вечар, Танечка.

Дзяўчынка саромеецца і закрывае далонямі тварык.

Што гаварыць далей? Яны не ведаюць, маўчаць.

— Я цябе адразу пазнала.

— І я цябе.

Вера падобная і непадобная на тую жанчыну, якую бачыў я на картачцы. Гэтакая ж квяцістая сукенка, гэтакія ж густыя пушыстыя валасы, якія яна сабрала ў цяжкі вузел на патыліцы, маленькі нос на шырокім твары, мяккія пухлыя губы. А ўсё ж нешта новае, незнаёмае праглядае ў гэтым твары. Мусіць, вось гэтае роўнае ззянне блакітных празрыстых вачэй, якое, зразумела, не здолее перадаць ніякі фотаапарат?

Цягнік кранаецца, і я доўга гляджу з вагоннай пляцоўкі, як яны ўтраіх ідуць паўз станцыйныя пабудовы і выходзяць на палявую дарогу. Чырвонае сонца з неахвотай хаваецца за дальнім пералескам, і ў яго апошніх промнях выразна бачны тры знаёмыя сілуэты, якія ўсё аддаляюцца і аддаляюцца.

Я не адразу зразумеў, чаму гэтак зашчымела сэрца, быццам яму стала цесна і няўтульна ў грудзях. Як добра, калі цябе нехта чакае! Мяне нідзе і ніхто не чакаў. Мяне чакалі толькі мае справы: у далёкім раёне нейкая незнаёмая мне жанчына (а можа, і знаёмая — далёкі раён быў маёй радзімай) вырошчвала цудоўныя каноплі — пра гэта і належала напісаць у нашу абласную газету нарыс...

## II

Гэтак, мабыць, часта здараецца: пакуль чалавек побач, ты і не спяшаешся даведацца пра яго нічога. А вось раз'ехаліся, разышліся ў розныя бакі, і адразу прачынаецца цікаўнасць да яго жыцця. Разумееш, што самае важнае ў гэтым чалавеку ты так і не ўбачыў, галоўнага — не даведаўся.

Што за чалавек Фёдар! І хто гэтая жанчына з дзяўчынкай? Чаму

ён паехаў ад іх, а вось цяпер зноў вярнуўся? Ніхто ўжо адказаць на гэтыя пытанні не мог, і, мабыць, таму яны ўпарта зноў і зноў лезлі ў галаву. Хацелася ведаць, як складзецца далейшы лёс гэтага негаваркога чалавека.

Можа, праз два, калі не болей, месяцы, ужо ў сярэдзіне лета, давялося мне быць у тых мясцінах, дзе Фёдар выйшаў з цягніка.

Сноўдаючы па прасёлках, аднойчы трапіў я ў адзін калгас.

І вось, калі я сядзеў у канторы гэтага калгаса і слухаў, як старшыня гаворыць па тэлефоне з якімсьці Фёдарам, а паклаўшы трубку, яшчэ і мацюкнуў яго «чортам крыварукім» за тое, што той патрабаваў нешта такое, што прымусіла старшыню неаднойчы пачухаць лысіну, я ўспомніў пра знаёмства ў цягніку і спытаў, а што за чалавек гэты Фёдар.

— Што за чалавек? — старшыня зноў пачухаў патыліцу, потым узяў са стала разьбяное драўлянае прэс-пап'е, пакруціў яго ў руках, падумаў: — Столяр ён. І работнік — дай божа. Гэта я для звязкі яго крыварукім абазваў, між іншым, рукі ў яго залатыя... А як чалавек...— яшчэ падумаў, шукаючы патрэбнае слова,— чалавек, дзівакаваты чалавек. Не такі, незвычайны нейкі. Габлюе, габлюе, а потым раптам, нібы стукне нешта ў галаву, возьме габлюшку смалістую і разглядае яе на святло, нюхае. І думае аб нечым, нібы і ён, і не ён гэта робіць...

«Ці не мой знаёмы?» — падумаў я. А старшыня працягваў:

— У бальнічку нашу, дзе жонка яго працуе...— тут ён на імгненне запнуўся,— ага, зараз, лічы, ужо жонка, распісаліся нядаўна. Дык вось, у бальнічку для дзетак, якім таксама там здараецца бываць, усялякіх стульчыкаў, палічак, цацак нарабіў. Ды ўсё гэтак хораша. І гавару, выпісвай, заплацім, не такі ўжо бедны калгас. А ён засмяяўся, нібы сказаў я нешта неразумнае. «Дзівак,— гаворыць,— ты, Барадзін...» І ўсё. Значыцца, не ён, а я — дзівак...

«Не, бадай, гэта не той Фёдар, якога я ведаю...»

— А аднойчы,— старшыня, мусіць, нешта ўспомніў, лагодна пасміхнуўся,— за вёскай гэта было, ён там рамы ў кароўніку папраўляў.— Гляджу, стаіць і ў полі нешта разглядае. Ды гэтак пільна, нібы работу робіць. Падыходжу, стаў побач, гляджу — за палямі, над лесам вясёлка гарыць. Няўжо на яе ўтаропіўся мужык? На яе! А мяне заўважыў — яшчэ і запрасіў: маўляў, ты глянь толькі, прыгажосць якая, усё роўна як і ён, і я гэтую прыгажосць першы раз убачылі.

Старшыню выклікалі па нейкай тэрміновай справе, і ён заспяшаўся.

— Другім разам раскажу. А калі цікава, сам схадзі ў суседнюю вёску, у Чыстую Паляну, ён там жыве, Фёдар гэты. Пасля аб'яднання там наша другая брыгада. Як у вуліцу ўвойдзеш — ці сёмая, а можа, і восьмая з левага боку хата. Ды там распытаеш...

Я, вядома, схадзіў у Чыстую Паляну. Было да яе кіламетры са два, і праз паўгадзіны я ўжо заходзіў у зялёную, вельмі ўтульную, што раскінулася на беразе ракі, вёсачку. Школу за ваколіцай абступалі высокія таполі: яшчэ адзін вялікі будынак, бадай, бальніца, патанаў у зеляніне; за хатамі буялі густыя сады.

Вось і сёмая злева хата.

Я прачыніў варотцы і спытаў у старой, што сядзела на ганку ў глыбіні двара, ці тут жыве сталяр Фёдар. Старая ўважліва паглядзела на мяне з-пад кашлатых, насупленых броваў:

— А табе ён навошта трэба?

Па бровах гэтых, па іншых рысах панурага твару можна было пазнаць Фёдараву маці. Я падышоў бліжэй. Толькі як сказаць, растлумачыць, нашто і чаго я прыйшоў? Я сказаў, што трэба мне яе сын проста так: давялося з ім сустракацца.

— А адкуль табе вядома, што я — маці? — строга спытала старая жанчына.— Мы ж з табой першы раз бачымся... Да ты сядай. Ён,

бадай, хутка з'явіцца, хіба што па Веру ў бальніцу зайшоў.

Я не вельмі складна пачаў нешта тлумачыць, як і чым Фёдар падобны на маці, пра суровасць, пра маўклівасць нешта гаварыў.

— Суровай, гаворыш? Сярдзітай? — старая ўсміхнулася.— Ды ты, мабыць, хлопец, ці ўвогуле не ведаеш Фёдара, ці з некім блытаеш. Суровай? — яшчэ раз паўтарыла яна, націскаючы на «с».— Калі б суровы! Гэта толькі з выгляду. Сарамлівы, як дзіця малое, добры без канца. Строгасці анізвання, ён гэтай суровасцю толькі прыкрываецца.

Я ўжо засумняваўся: ці той Фёдар, якога я ведаю, жыве ў гэтай хаце?

— Калі хочаш ведаць, строгасці, яму і не хапае,— жанчына цяжка ўздыхнула.— Добра, што баба такая трапілася яму, якая дабрыні яго на сваю выгаду не пераварочвае... Нічога не скажу: у згодзе жывуць. Праўда, дзіўна, неяк, незразумела. Бывае, пасядуць вечарам тут, на ганку, і моўчкі сядзяць, нібы і нежанатыя, на рэчку ды адно на аднаго глядзяць. А то ў лес неяк пайшлі, цалюткі дзянёк прабадзяліся, а ні грыбоў, ні ягад, так, донца закрыць. Ды бог з ім, гэты год іх процьма...

Старая не дагаварыла.

На вуліцы пачуўся смех, дзіцячы крык. А вось і мільгнула за плотам блакітная кашуля, а за ёй — крышку ніжэй — беленькая сукеначка. Варотцы рыўком адчыніліся, Фёдар — я пазнаў яго адразу — не заўважыў нас, забег на двор, крута павярнуў у сад і сцішыўся за кустом бэзу. Следам прыбегла Танечка, шмыганула за куст, наляцела на Фёдара і паваліла яго на траву.

— А-а, папаўся! — Танечка ўрачыста ўселася верхам на Фёдары.— Смерць ці жыццё?

— Вой, жыццё! — цяжка дыхаючы ці то ад бегу, ці то ад смеху, папрасіў Фёдар.— Вой, больш не буду...

Першай заўважыла мяне, як толькі зайшла на двор, Вера.

— Хопіць вам выдурняцца! — строга-лагодна сказала яна.— У нас госці...

Танечка перастала тузаць Фёдара, той прыўстаў з травы, глядзеў з-за пляча на ганак, падхапіўся і хуценька пайшоў — што пайшоў! — пабег да мяне. І гэтакай радасцю засвяціўся, нібы роднага брата сустрэў, з якім год дзесяць не бачыліся. Перад самым ганкам, мусіць, засаромеўся сваёй радасці і пайшоў павальней.

— Ну, гэта добра, што ты прыехаў! — Фёдар з размаху пляснуў далонню па маёй, моцна сціснуў...— Малайчына! Ай, які малайчына!.. Гэта, мама, мой...— Фёдар ледзь не сказаў сябар,— мой знаёмы таварыш. А ты, Вера, і ты, Танечка, мабыць, памятаеце...

Танечка схавалася за Фёдара, а Вера сказала:

— Ну як жа, вядома... Ды хопіць табе тармасіць яго. Запрашай у хату. З дарогі чалавек.

У хаце — чыста, утульна і, калі можна так сказаць, весела. На спінках крэслаў цвіце сланечнік, вясёлай дзіўнай разьбой упрыгожаны кніжная паліца, куфар. Вось Калабок коціцца ад ваўка да мядзведзя, вось на возе з дрывамі сядзіць Ямеля «па шчупаковым загадзе». А вось двое малых глядзяць на вялікую вясёлку над лесам... На паліцы побач з Пушкіным і Някрасавым — кнігі пра травы, пра птушак, пра паляванне.

Вера занялася вячэрай, а мы з Фёдарам памыліся і на ганку селі курыць. Танечка ні на крок не адыходзілася ад Фёдара. Спачатку яна баялася мяне, хавалася за Фёдара, выглядала з-за пляча ці з-пад рукі.

— Да не бойся, не з'есць ён цябе,— смяяўся Фёдар, ціскаючы пад пахай Танеччыну галаву.— Хіба што нос ці вуха адкусіць — дык новыя вырастуць...

— Ага,— недаверліва, але зусім сур'ёзна расцягвала словы Танечка,— вы-ырастуць!..

Але вось яна пабегла ў сад, і я падгадаў момант, спытаў у Фёдара пра Веру. Ведаў я пра яе вельмі мала. Амаль нічога.

— Калі ў Сібір завербаваўся, першы раз і ўгледзеў яе,— Фёдар сказаў гэта ціха, задуменна, быццам хацеў зноў у сваіх думках убачыць Веру ў той самы першы раз.— Спускаюся з райвыканкамаўскага ганка — насустрач жанчына. «Вы, кажуць, з Чыстыя Паляны. Ці можна з вамі паехаць?» — «Калі ласка, кажу, месца не шкода». Каля агароджы дзяўчынка на чамаданах, дачка. Паехалі. Тары-бары. Медыцынская сястра. Была замужам, разышлася. Едзе працаваць у нашу бальнічку. Прывёз яе ў вёску, а старшыня: «Дык трэба недзе пасяліць грамадзянку. Да сябе мо возьмеш — сам едзеш, хата пустая застаецца».— «Не ведаю, кажу, ці зжывецца з мамаю — старая з характарам, а так чаму і не ўзяць». Карацей, пасялілася яна ў нас, а на другі дзень я паехаў. Паехаў — хоць бы што. Ні сінь пораху. Пасля ўжо толькі там, у Сібіры, не-не а пачало думацца-ўспамінацца... Яшчэ калі сюды ехалі, недзе перад Чыстай Палянай ужо азірнуўся я на сваю медсястру, а ў яе ў вачах слёзы. Затрывожыўся: ці не пакрыўдзіў, думаю, словам якім? А мо што ўспомніла? А яна ўсміхнулася ціхенька так: ад радасці, кажа, гэта я — зямлёю пахне, жаваранкі спяваюць. Колькі год ужо не бачыла, не чула, забываць пачала... Дык вось што цікава: не што іншае, а менавіта вось гэта «зямлёю пахне, жаваранкі спяваюць» там, у Сібіры, мне ў галаву прыходзіла. Нібы нехта шапне на вуха: жаваранкі спяваюць... І адразу жаваранкаў тых пачую, і яе ўбачу: усміхаецца, а ў вачах слёзы. Ды гэтак ярка, дакладна ўбачу, што ў самога нешта там усярэдзіне скаланецца...

У гэты час заспяваў ціхенька, а потым густа зашумеў, забулькацеў самавар.

— Стоп! А ведаеш што,— раптам зарадаваўся Фёдар.— Вось што. Не будзем чакаць вячэры! Чайку пап'ем — самавар вунь гатовы... Чаю пасёрбаем, і ўсё. А вячэра... ты, відаць, даўно сапраўднай юшкі не спытаў? Па вачах бачу — даўно. Дык вось, шаснем мы з табою на рыбалку на ўсю ноч — сёння субота — і такую юшку зварганім, што ні ў казцы сказаць, ні пяром апісаць.

Ідэя Фёдара мне спадабалася, і, не губляючы час, мы селі да самавара.

Танечка за сталом круцілася каля Фёдара: лезла на рукі, прасіла падзьмуць на «кусучы чай», гуляла ў мацакі.

— Танька, ды не назаляй ты яму, адыдзіся хоць на хвіліну! — быццам бы строга выгаворвала дачцэ Вера.— Дай паесці чалавеку.

— А мне яна не замінае,— весела адказаў Фёдар, і Танечка яшчэ больш прыціскалася да яго.

Сярод незнаёмых людзей я звычайна адчуваю сябе няёмка. А ў гэтым доме мне было добра, вольна. Прыемна было глядзець на гэтую згоду ў сям'і. Ва ўсім панаваў нейкі шчыры, вельмі чысты і ясны тон.

Загадкавым для мяне заставалася толькі адно: за што спадабалася Фёдару Вера? Глядзеў я на яе і прымушаў сябе глядзець самымі добрымі вачыма, а сам думаў: прайшоў бы і не азірнуўся. І не тое галоўнае, што не прыгажуня Вера, што нос у яе маленькі і ўвогуле твар звычайны. Часам і ў непрыгожых людзей — ці выраз твару, ці стан, ці, можа быць, проста хада нейкая асаблівая, адметная. Гэтых адметнасцяў у Веры я не знаходзіў.

Гаспадыняй за сталом была Вера. Відаць, такая роля нявесткі ў нечым падабалася Фёдаравай маці, у нечым і не. Старая лічыла, гэта можна было заўважыць, што частаваць госця, значыць, мяне, належала лепш, а не проста: «Вам яшчэ кубачак?» І Танечку Вера перапыняла, бо ведала: баіцца маці, каб яе сын з-за дзяўчынкі галодны

не застаўся. І зразумела, не даспадобы было старой, што сядзіць яе сын за сталом калі не госцем, то і не гаспадаром.

Пра гэта і гаварыла яна, калі мы сядзелі на ганку. Тым часам Фёдар рыхтаваў снасці і разам з Танечкай капаў чарвякоў.

— Ну бачыў, які ён суровай і сярдзітай? Вера — баба добрая, нічога не скажу. Сябе глядзіць і дзяўчынку задарма не распускае, не раздурвае. Толькі Фёдар з ёй вельмі мяккі. Воск ды воск. Быццам і не мужык...

— Барабаншчык — ад барабана, а грыміць — ад грому?— гэта распытвае Танечка ў Фёдара.— Чарвякі жывуць у зямлі, а што яны ядуць?..

Вялізарнае сонца знікала ў зарэчнай далечыні. На выган, на сады клаўся ціхі малінавы водсвет, і ўсё наваколле — і далёкія, сцішаныя палі, і нерухомая, быццам застылая рэчка, і наш двор, сад, які павольна апускаўся ў прыцемкі, і невыразная дзіцячая балбатня,— усё дыхала абсалютнай цішынёй; лагодная, спакойная, някідкая прыгажосць абдымала з усіх бакоў. Хацелася думаць толькі пра нешта добрае, каб думка не краналася вось гэтай ужо назаўсёды адляцелай у мінулае хвіліны. Усё будзённае, нязначнае губляла свой сэнс і значэнне. Думалася, што акрамя твайго ўласнага жыцця з яго радасцямі і горам ёсць іншае, вялікае жыццё, і яно вечна, тое жыццё, было, ёсць і заўсёды будзе. Яно было, калі ты яшчэ не ўгледзеў свет, яно не зменіць сваю адвечную хаду, калі цябе ўжо не стане на зямлі. Ад гэтых думак рабілася крышку тужліва, але ў іх было і нейкае суцяшэнне, якое мірыла цябе з мудрым парадкам заўсёды абноўленага і таму заўсёды маладога жыцця.

Падышоў Фёдар з бляшанкай чарвякоў, памыў рукі.

— Гатова!

Мы надзелі ватоўкі, узялі вуды, вядзерца з бульбачкай на юшку і пайшлі.

— Не забыць па дарозе цыбулькі з кропчыкам сашчыкнуць! — сам сабе нагадаў Фёдар.

## III

Да рэчкі мы выйшлі гародамі і пабрылі па беразе. Лёгкі туманок клаўся над вадой, ён то знікаў, то зноў, мабыць, з лугоў, наплываў. У затоках гуляла рыба, і пасля кожнага ўсплёску па вадзяной роўнядзі доўга і далёка беглі кругі.

Адну такую ўтульную, шчыльна захінутую лазняком затоку мы і ўпадабалі.

Фёдар быў рыбак адмысловы. Я яшчэ не паспеў разблытаць лёску і закінуць сваю вудачку, а ён ужо цягнуў вялікага паласатага акуня. Хутка за першым шалёна заплёскаў хвастом, затрапятаўся і другі.

Не прайшло і гадзіны, а ў нас ужо над вогнішчам вісела вядзерца, якое прыемным пахам казытала нашы насы.

Згаслі апошнія промні. Неба ў тым месцы, дзе схавалася сонца, сцямнела. Толькі высока-высока, амаль у самым зеніце, яшчэ гарэлі водблескі сонца, якое свяціла недзе там, за краем зямлі. І рэчка таксама цьмяна тлела ад гэтага, адлюстраванага другі раз ад неба, святла.

— Добра як! — разглёгшыся на траве, прамовіў Фёдар.— Люблю ў лузе ноччу!

У траве вакол нас адбывалася ледзь чутная валтузня, трашчалі конікі, у рэчцы час ад часу глуха плюхала рыба, але начная цішыня

праглынала гэтыя гукі і рабілася ўсё цяжэйшай і глушэйшай. Яна гучала як далёкая музыка.

— Памятаю, аднойчы ў Сібіры, у Саянах, таксама каля рэчкі давялося начаваць, і я чамусьці доўга не мог укласціся. А дзядок-хакас мне: «Не замінай!» — «Што не замінай?» — не зразумеў я.— «Слухаць не замінай». Думаю, мо звера стары якога пачуў. «Не замінай ноч слухаць...» Быццам бы і смешна. А падумаеш — мудра...

Бывае, што чым больш ведаеш чалавека, тым ён менш цікавіць цябе. Але з Фёдарам мне было цікава і гаварыць, і нават проста так ляжаць і слухаць ноч. Праўда, я яшчэ не шмат ведаў пра яго. Вось Сібір тая. А як ён туды трапіў?

— Як трапіў? — задумаўся Фёдар.

Мы пад'елі ўжо юшкі і курылі. Патрэскваў, калі зацягваліся, самасад у цыгарках, патрэсквала вогнішча.

— Бачыш, цікаўны я, пра ўсё мне ведаць хочацца. І вось жыў, жыў у вёсцы, а ў галаве ўсё думка была: як яно там за вёскай, за полем, за лесам, ды яшчэ далей, за хрыбтом Уральскім? Цікава на зямлю паглядзець. Ну, гэта адно. А другое — кожны чалавек шчасця ў жыцці шукае. А ў сваёй вёсцы я быццам усе задворкі абшукаў, а жар-птушку так і не знайшоў.

Фёдар крышку памаўчаў.

— Вось і паехаў я ў Сібір. Наважыўся на адну будоўлю, з яе пераехаў на другую. Быццам даганяў штосьці, думаў, шчасце сваё, жар-птушку. Толькі дагнаць ніяк не мог. На Ангары і спыніўся. Вырашыў, дай на адным месцы пабуду, на сябе азірнуся... Работу выбіраў цяжэйшую, каб з рызыкай, на марозе ды пры ветры. Не дзе-небудзь у майстэрні. Вось пальцы тады і памарозіў,— Фёдар глянуў на крывыя пальцы левай рукі.— Да не пра гэта гаворка... Думаў пра сябе, пра жыццё сваё і пачынаў разумець, што хоць і здавалася жар-птушка тая абавязкова далёка, за гарамі, за лесам, а толькі яно нешта не так. Чым больш я ездзіў, чым больш прыгажосці ўсялякай бачыў, тым часцей і часцей усплывалі ў памяці родныя мясціны, вось гэтыя нашыя, быццам ужо і не такія «аж як прыгожыя» мясціны. І вось гэтыя палі, і вось гэтая рэчка. А я ж Енісей бачыў, Ангару — што можа быць прыгажэй! І вось яна штука якая. Каб не пабыў я ў Сібіры — ні той бы прыгажосці не ведаў, ні гэтай як след не разгледзеў. І як бы ў нас з Верай атрымалася — таксама невядома...

Вогнішча згасла. Я падкінуў дроў, яны зашыпелі, схаваліся ў дыме, а пасля разам успыхнулі. Заскакала, затрапятала, заструменілася вясёлае, жывое і ўвесь час рознае, то вялікае, то зусім маленькае, і зноў яркае полымя.

Фёдар глядзеў на агонь, на яго твары блукала ледзь заўважная стоеная ўсмешка. Я ўспомніў, як ён узрадаваўся, калі ўбачыў мяне, і падумаў, што, бадай, гэта таму, што першы раз у вагоне мы сустрэліся ў цяжкі для яго час. Цяпер яму захацелася, каб я зразумеў яго тады і ўгледзеў яго такім, які ён ёсць зараз. Таму і не скупіўся на словы.

— Гавораць, суджаная. Значыцца, быццам наканаваная лёсам. А што такое лёс? Памятаеш, я ў цябе пытаўся? Я вось пра што. Быццам лёсу няма і ўсё такое. Чалавек пранікае ў таямніцы быцця і ўсё астатняе. Добра. Згода. А ўсё ж, як гэта растлумачыць, што вось дзе я толькі не быў, якія толькі тысячы людзей не сустракаў, а чамусьці да Веры вярнуўся. Што я, прыгажэйшых жанчын не бачыў? Бачыў. Дык што тут? Ну вось ты пісьменны, вучоны — растлумач?

Што я мог яму растлумачыць.

Я ўспомніў кірпатую семнаццацігадовую дзяўчынку Надзю. Дзяўчынка як дзяўчынка, як і іншыя. Але аднойчы раптам яна ста-

ла для мяне не «як іншыя», а асаблівай. Стала раптам прыгажэйшая за ўсіх, разумнейшая. Зараз я намагаўся ўспомніць, за што я пакахаў Надзю, і не мог. І гэта не таму, што мінула шмат гадоў. Проста я тады не думаў пра гэтае «за што». І сёння, мабыць, дарма я шукаў нешта такое ў Веры, за што б яна, на маю думку, магла спадабацца Фёдару... У памяці ўсплыло: за сталом Вера падняла вочы на Фёдара і — быццам засвяціўся, зазіхацеў цудоўным святлом увесь яе твар. І ў тую хвіліну я забыў, вялікі ці малы ў яе нос, прыгожы ці не рот. Вядома, аднаго такога позірку мала, каб пакахаць чалавека. Гэта можа быць хіба што маленькі агеньчык, ад якога будзе вялікае цяпло. А можа, тым агеньчыкам было «жаваранкі спяваюць», сказанае Верай так, што Фёдар нібы і сам упершыню пачуў тых жаваранкаў... Розныя могуць быць агеньчыкі. Астатняе залежыць, мабыць, ад самога чалавека, ад таго, ці моцныя яго пачуцці, ці вялікае яго сэрца. Калі вялікае — цяпло будзе моцнае і доўгае.

Надзю — зараз ужо Надзею — я бачыў два месяцы назад. Выпадкова аказалася, што яна і была тая жанчына, пра якую мне належала пісаць нарыс. Надзея выйшла замуж у суседнюю вёску, і зараз у яе іншае прозвішча. А між тым яна засталася такой, якой я яе калісьці ведаў. Хіба што стала больш дарослай. Дык у чым прычына? Чаму тыя агеньчыкі ўва мне патухлі, а ў іншага чалавека разгарэліся ясным полымем?!

— Не, на свеце яшчэ шмат таямніц,— пасля паўзы зноў загаварыў Фёдар.— Вазьмі Танечку — таямніца. Яна балбоча-балбоча нешта і не такое ўжо цікавае і значнае, ды што там значнае — рознае глупства, дробязі,— а я слухаю, і на сэрцы добра робіцца. І я гатовы слухаць гэтую лухту, розныя там «чаму» ды «навошта» цэлы дзень, з раніцы да вечара. А чаму так — зноў не растлумачыш.

Усё менш начных гукаў, усё цішэйшыя яны. І палі змоўклі, і вёска заснула, і ўсё вакол заціхла. Ноч быццам бы паступова напаўнялася цішынёй. І вось ужо цішыня запаланіла ўсё, налілася да самых краёў.

— А вакол нас, вокам кінь на прыроду,— працягваў Фёдар,— колькі тут усякіх таямніц, колькі дзіўнага і незвычайнага! Толькі вось з гадамі мы перастаём заўважаць гэта дзіўнае... Танечка неяк схапіла мяне за руку, пацягнула ў сад: «Глянь, якое дзіва!» Я і не адразу зразумеў, пра што яна. «Ды вось жа яно, ды вось жа!» — і паказвае на кветку. Ды не на якую-небудзь незвычайную, не — проста на кветачку, каля якіх мы, дарослыя, праходзім, і нішто ў нас не варухнецца — і не такое бачылі! І лічым, што дзеці, яны яшчэ малыя, дурныя, а мы — разумныя. Мы пра ўсё ведаем, мы ведаем, што вось гэта песцік, а вось гэта тычынка — і што ж тут дзіўнага?.. Вось мы з табой, як сонца апускалася, глядзелі, а скажы каму-небудзь — дык ён цябе абсмяе: што, хіба я гэтага не бачыў? А колькі ні глядзі, яно кожны раз па-рознаму заходзіць, і лічы, што бачыш яго ты ўпершыню. І не пра тое гаворка, што войкнуць абавязкова трэба: ах як прыгожа! Не вачыма — сэрцам трэба бачыць...

Фёдар зноў змоўк.

— Ты мне тады, памятаеш, пра першае спатканне казаў? Калі мы з табою ў тамбуры стаялі. Дык вось, я ўжо не ведаю, як сказаць, а толькі да мяне нібы зноў вярнулася дзяцінства. Зноў я кожную раніцу нібы на першае спатканне з усім, што вакол мяне, выходжу. І ўсё мне новае, і ўсё заўважаю — і воблачка на небе, і кожную травінку на зямлі — нібы зрок у мяне палепшаў. І жыць таму цікавей стала!..

Вогнішча наша патухла. Сіні змрок запанаваў над зямлёй і адмежаваў яе ад неба. Было відаць, як там, угары, павольна нешта рабілася, адбываліся нейкія непрыкметныя для вока змены. Слабы,

ледзь бачны водсвет на небе, які быў пад Вялікай Мядзведзіцай і патух там, зноў з'явіўся на ўсходзе, а ўсё астатняе неба стала яшчэ больш цёмным, і зоркі зіхацелі, нібы раслі, павялічваліся, набліжаліся да зямлі.

Навокал запанавала абсалютная цішыня і спакой. Мы былі адны ў гэтым велізарным свеце. І мне падумалася пра далёкага продка, пра таго чалавека, які прыйшоў сюды першым, на гэтыя, тады яшчэ дзікія, зарослыя дрымучым, непраходным лесам берагі рэчкі. Выкарчаваў паляну, пасеяў хлеб. А ў рэчцы ён ставіў перамёты ці сплеценыя вось з такога ж лазняку венцеры. І ў тым, што акружала гэтага чалавека, было шмат дзіўнага і таямнічага. Вось толькі што свяціла сонца, а вось яго ўжо няма, сонца закрылі хмары, а пасля ў цёмных хмарах заблiскалі белыя змеі, і неба раскалолася з жудасным, страшэнным грукатам, быццам упала на зямлю. І на зямлю паліліся бясконцыя струмені вады. Але вось неба зноў зрабілася чыстае, і на ім, над далёкай рачной затокай, устала дзівосная каляровая дуга. Адкуль узяцца на пустым небе такой таямнічай дузе, хто зрабіў яе? Хто грыміць і пускае маланкі на небе, хто ноччу страшэнным голасам крычыць у лесе?.. Продак па-свойму намагаўся растлумачыць усе гэтыя дзівы, але для яго яны так і засталіся загадкаю. Мы ведаем, чаму грыміць і адкуль раптам з'яўляецца на небе вясёлка. Мы ведаем усё. І гэта, вядома, добра. Дрэнна, што ўсё гэта ведаючы — твая праўда, Фёдар! — мы не заўважаем тое дзіўнае і незвычайнае, што вакол нас.

Мы дамовіліся не класціся: баяліся праспаць ранішні клёў. Ды і чакаць было нядоўга.

Пасвяжэла. Лёгкі туманок лёг на рэчку і на лазняк, які рос вакол.

Але вось яшчэ бліжэй да небакраю апусціўся далёкі водсвет, які пачынаўся там, за краем зямлі, туман крышку паружавеў і пачаў знікаць. У нас на вачах адбывалася вялікая таямніца. З туману, з ночы, з небыцця паступова, незаўважна праступілі кусты, акрэслілася рэчка, той бераг і яшчэ нешта няпэўнае за ім. І ўсё, пакуль яшчэ ледзь бачнае, без абрысаў, быццам гатовае прыняць тую альбо іншую форму, гатовае афарбавацца ў той ці іншы колер.

Здавалася, што свет вакол нас ствараецца нанава, упершыню. Ствараецца вось зараз, на нашых вачах, і ў нас павінна адбыцца першая сустрэча, першае спатканне з ім.

**З рускай. Пераклаў Д. ЖУК.**





# ПУБЛІЦЫСТЫКА НАРЫСЫ

АНДРЭЙ ЗАЕРКА

# ВІЦЕБСКАЯ МАДОННА

**У кожнага чалавека свой лёс. У адных ён — шчаслівы, у другіх — не надта. Ёсць людзі, споведзі якіх пра сваё жыццё прыносяць боль і здзіўленне — няўжо можна вытрымаць нечалавечыя пакуты?..**

**Працяглы час Андрэй Заерка робіць дакументальныя запісы маналогаў людзей, якія так альбо іначай сутыкаліся са сталінскімі рэпрэсіямі. Адзін з такіх маналогаў прапануецца чытачам.**

Жывем у вёсцы Трушкі, пад Ломжай, у Польшчы. У 14-м годзе дарогі запаўняюцца пешымі і коннымі, калёсамі з нацягнутым брызентам, вазамі з саломай і сенам, павозкамі з чырвонымі крыжамі. Усё гэта брыдкасловіць, рыпіць, крычыць і клякоча. Вайна. Да нас далятае глухі водгалас грому гармат. Нам прапанавана, каб не трапіць пад абстрэл, эвакуіравацца. Вырашаем ад граху з'ехаць як мага далей у Расію.

Людская плынь расплываецца па тракце: калёсы, заваленыя пажыткамі, засяроджаныя твары мужчын, жанчыны галосяць, дзеці плачуць. І я іду з бацькамі. Пастукваюць зубы. Валачэмся па дарозе. Неба колеру патухаючых вугольчыкаў, чорна-барвовае. Праўда, праз колькі хвілін яно святлее, але тут жа ізноў становіцца пахмурным, яго зацягваюць шэрыя, каламутныя дажджавыя хмары, што дыхаюць холадам. Раптам аднекуль з бяздоння выплывае нешта вялікае, агромністае і рушыць на нас, бліскаючы гранямі. Добра чуваць роў матораў. Усё спынілася на імгненне, а затым людзі, нібыта ачомаўшыся, кідаюцца ў бакі. Бягу і я. Успыхвае, аглушаючы, слуп дыму

і зямлі, чуецца енк параненай жанчыны, нешта штурхае мяне ў спіну. Падаю. Другі выбух. Самалёт пачынае вывяргаць свінец, здаецца, чуваць, як кулямёт там, наверсе, дрыжыць у ярасці, паліваючы ўсіх смертаносным полымем. Гэта доўжыцца хвіліны, што расцягнуліся ў памяці на гадзіны, пасля чаго лётаючая грамада пачынае аддаляцца і знікае.

Падымаюся, у вушах звініць. Знаходжу бацьку. Ён, бязвольна раскінуўшы рукі, ляжыць каля варонкі. Грудзі ў крыві. У нагах застыла мама. Так у чатырнаццаць гадоў застаюся сіратой. Родзічы дапамагаюць выкапаць магілкі. Час прыспешвае. Ідзём на станцыю, рассаджваемся па вагонах і едзем.

У Самары працую на трубным заводзе. У пачатку 17-га года прыязджаю ў Бабруйск і ўладкоўваюся на цагельню. Маладзенькая дзяўчынка, цяжка нароўні з дарослымі, раствор раз'ядае рукі, вельмі пакутую. З адной дзяўчынай вырашаем вяртацца ў Самару. Едзем на цягніку. Празмерна халодны, шэры, набіты людзьмі вагон. Жанчына з жывымі вачыма садзіцца насупраць, азіраецца па баках, нібы шукае ўтульны куточак, куды можна заціснуцца, а можа, і сагрэцца. «Куды вы, дзяўчаты, едзеце?» — незнаёмка гаворыць такім тонам, які пры жаданні можна прыняць за шкадобу. «А мы бежанцы, едзем у Самару»,— адказваю і кладу побач свой вузельчык. «А пашпарты ў вас ёсць?» — «Адкуль, мы ж бежанцы».— «Калі так, дык вас арыштуюць,— са здзіўленнем у голасе працягвае жанчына.— Паедзем са мной у Віцебск». Калі яна адварочваецца, я штурхаю ў бок сяброўку: «Паехалі». Тая, упіраючыся локцямі ў сценку вагона, аглядае мяне няўцямным поглядам, цяжка ўздыхае і шэпча на вуха: «Я не паеду, а ты як хочаш».

Выходжу ў Віцебску разам з маёй новай спадарожніцай. Некалькі гадоў працую ў яе хатняй работніцай, затым уладкоўваюся на панчошную фабрыку. Працую ў тры змены. Выходжу замуж. Ды няшчасце: пад час працы зрываюся і падаю з другога паверха. Вымушана пакінуць вытворчасць.

З мужам усё часцей і часцей сварымся. Але гэта не мае аніякага значэння — мы даўно не кахаем адно аднаго і з маўклівай згоды абмяжоўваем свае адносіны ложкам. Ды і спім хутчэй па звычцы, таму што аб блізкасці няма і размовы. У 32-м падаём на развод.

Наймаюся на шчоткамбінат рабочай. Знаёмлюся з Іванам Сявашчанкам. Усё ў ім напоўнена дабрынёй: вочы, голас, марудныя, але ласкавыя рухі, вытрыманы характар, пяшчотнае сэрца, што не памятае ніколі зла. У канцы 36-га згулялі вяселле. Нам даюць хатку, у ліпені ў нас з'яўляецца дачка. Крыклівы, жаданы дзіцёнак. Называем Людачкай.

Начальніка НКУС горада Гарбаленіна ведаюць многія. Яго энергічная, баявая фізіяномія і спакойна-абыякавы погляд заўсёды наводзяць на дурныя думкі.

Цвёрдым крокам ідзе па двары, за ім дробненька тупае нейкі вайсковец. Ад яго істоты павявае нечым моцным і грубым, нечым нястрымным і ўладарным. «У мяне ёсць задумка знесці гэтую хібару,— паказвае на наш домік і трасе цяжкімі валасамі.— І пабудаваць прыгожы фантанчык. Туды правядзём водаправод. Так што засталося прыбраць дом, і фантан будзе гатовы».— «А гаспадароў куды?» — «Знойдзем для іх месцечка»,— гаворыць напаўголаса, нібы сам сабе, і кідае погляд на мяне.

Начальнік гарадскога НКУС з жонкай і сямігадовым сынам Гогам жыве ў бакавой кватэры двухпавярховага асабняка. Наша хібарка стаіць у двары гэтага дома, на рагу вуліцы Суворава і завулка Бабкіна, і псуе, па словах Гарбаленіна, увесь выгляд.

На пачатку жніўня 37-га нас перасяляюць на Ніжнепятроўскую вуліцу.

Гляджу ў адчыненае акно. Вось-вось павінен з'явіцца Іван. Лёгкі летні ветрык слаба надзьмувае белыя шторы: яны напінаюцца, як ветразі, адрываюцца ад падваконня і падаюць зноў. У пакоі пах толькі што зваранага булёну. Саджуся на крэсла і здымаю фартух, папраўляю валасы і падыходжу да люлькі. Людачка моцна спіць. Мужа ўсё няма, нядобрыя здагадкі мучаць мяне. Нядаўна арыштавалі прама на працы Кухарэнку, мужа суседкі, што жыве насупраць. Гэта Іван расказваў, разам працавалі. Бяру дачку на рукі, тое-сёе, каб перакусіць, і выбягаю на вуліцу. У траншэі нехта капошыцца. Падыходжу. Людзі мяне ведаюць, вітаюцца. Адзін з іх, быццам саромеючыся за сваю старую, брудную робу, пазбягае майго позірку, нібы не жадаючы паказваць запэцканыя пылам твар і рукі. «Ты разумееш,— кажа і паступова чырванее, нібы словы патрабуюць намаганняў,— перад абедам, Іван збіраўся ўжо дадому, прыйшлі міліцыянеры і павялі яго». Гэтыя словы раздражнілі мяне. Нешта горкае, ці то крыўда, ці то страх перад невядомасцю, таямніча забіраецца ў маю істоту. Іду ў міліцыю, дзяжурны буркліва кажа, што ў спісах затрыманых ён не лічыцца. У гарадскім НКУС мне гавораць тое ж самае. Абураючыся на сваю маладушнасць, няздольнасць грукнуць кулаком, запатрабаваць, кіруюся дадому. Сэрца балюча ные. Дні праходзяць у невядомасці.

Грукат у дзверы. Падскокваю і саджуся на ложак, нібы мяне падкідвае. Грукат паўтараецца. Сёння — 12 жніўня. Тры дні, як узялі Івана. Падыходжу да дзвярэй. Хто гэта так рана? Адчыняю. Ля парога два маладзенькія міліцыянеры. Убачыўшы гасцей, нямею і ўважліва разглядаю іх. Іх моцныя, круглыя твары здаюцца белымі пад першымі ранішнімі промнямі. «Адзявайцеся, зойдзем у міліцыю». Непрыемна. Здаецца, пры гэтых знешне спакойных словах складка вакол вуснаў у таго, хто гаворыць, правальваецца, нібы сказанае мае нейкі таемны, гнятучы сэнс. Падыходжу да дачкі.

Няёмка, калі на цябе касавурацца, глядзяць з непрыязнасцю, а ў тым, як я акуратна спавіваю ў пялюшкі дачку, бачаць толькі маё жаданне зацягнуць час. Хачу нешта запытаць, але замест гэтага бязгучна расціскаю вусны і ціхенька пакашліваю, каб зразумелі і не спяшаліся. Адварочваюся, закусіўшы вусны, хутка спавіваю Людачку, якая мірна спіць.

Бяру на рукі дачку, як раптам, без усялякіх «ну», «так» ці іншых слоў, за спіной чуецца надзіва спакойны, халодны барытон: «Няхай яна паляжыць». Унутры ўсё абрываецца, але стараюся не паказваць выгляду. «Як паляжыць?» — гляджу на чыста паголены твар маладога чалавека ў форме. Мяне кідае ў жар. Іх халоднасць і спакойныя твары, нейкая браня нахабнасці прыкрывае іх незразумелую сціпласць у вачах. Міліцыянер не адказвае... І другі маўчыць, нібы ў кожнага ў роце па паўшклянкі вады — як бы ім трошкі сорамна за тое, што адбываецца.

Кватэру не абшукваюць.

Нясмела, нават марудна цягну на сябе дзверы. Бязвольнасць і адчужанасць — мае пачуцці...

Дзяжурны не спяшаючыся афармляе пропуск. Двое вайскоўцаў неўпрыкмет знікаюць. Чалавек з павязкай, адзначыўшы час майго прыходу, закідвае галаву, непрыемна паводзіць плячыма і ціха, але выразна кажа: «На другі паверх, у шаснаццаты кабінет». Цяжка падымаюся ў невядомасць. Па калідоры соўгаюцца безаблічныя цені. Нічога не заўважаю перад сабой, толькі кругі ў вачах. Вось і дзверы. Стукаю, але, не дачакаўшыся адказу, зазіраю ў кабінет. Адразу — погляд чалавека, што сядзіць за пісьмовым сталом. «Праходзьце,

сядайце,— мяккім голасам цэдзіць ён. Вочы бліскаюць, на лбе разгладжваюцца зморшчыны.— Чаго ты прыйшла?»

З'едлівае «ты» хаця і абурае мяне, аднак само пытанне трохі супакойвае. Уніклівае пытанне мужчыны за сталом дае надзею на памылку. «Не ведаю, прывялі сюды»,— адказваю. Яго востры нос як бы выпрамляецца, трохдзённае шчацінне на твары тырчыць. Чую, як гучна адсоўваецца крэсла і павольна выпроствaецца па-жаночы ладная фігура следчага. Яго санлівыя белыя вочкі вывучаюць мяне, бясколерныя вострыя вусны на худым жоўтым твары ціха варушацца. Ён рэзка ківае галавой, нібы кліча, каб я ішла за ім.

Ідзем па бясконцым калідоры. Дзяўчынка мая спіць. Радуюся ў душы. Спускаемся ўніз, непрыемна ёкае сэрца. Куды ён мяне вядзе, у мяне ж немаўля на руках! Няўжо ў камеру? У твар — струмень вільготнага, змешанага з цвіллю паветра. Перад намі вырастае надзірацель. Высокі паказвае на жалезныя дзверы. Яны адчыняюцца. Асцярожна зазіраю ў камеру. У гэтым маленькім, квадратным закутку па калені ў вадзе стаіць жанчына. Уся чырвоная ад напружання, скурчылася і мармыча нешта незразумелае. Вочы, шыя, увесь твар яе — адна пакута. Няшчасная глядзіць на мяне — як бы ўмольвае, і ў вачах яе надзея. Баязлівасць знікае, толькі жах, як распаленае жалеза, пячэ мяне. Аглухлая, скаваная гэтым відовішчам, я бязвольна крычу.

Высокі, заўважыўшы мой жах, спачатку іранізуе, а потым з пагардай глядзіць у мой бок. «Чаго раскрычалася, маўчы»,— кажа рэзкім, непрыемным тонам. Людачка, цмокнуўшы вуснамі, працягвае спаць. Надзірацель, імгненна схамянуўшыся, як пеўнік перад бойкай, паказвае, каб я ішла за ім. Сэрца маё б'ецца нястрымна. Падымаемся наверх. Высокі ідзе наперадзе, стукае без патрэбы абцасамі і фыркае: «Хутчэй». Мацней прыціскаю мой дарагі вузельчык і іду, стараючыся не адстаць. Сустрэчны вайсковец праводзіць нас круглым, цікаўным поглядам.

Падымаемся на другі паверх, ідзём паўз абшарпаныя, брудныя сцены да напаўадчыненых дзвярэй. Высокі схіляе галаву, расчыняе іх і прапускае мяне наперад. У кабінеце ўсё выглядае нудна-звычайна: пісьмовы стол з чарнільным прыборам ды некалькі крэслаў. Ля сцяны стаіць жанчына. Вочы яе замутнёныя, поўныя бессэнсоўнасці, погляд блукае, а яе скамечаная, скураная фігура выклікае ўва мне трывогу. Галава жанчыны моцна трасецца, шчокі ад страху рдзеюць румянцам. Худая фігура патанае ў белавата-бруднай сукенцы. Рукі з сухімі, кашчавымі пальцамі з абгрызенымі пазногцямі выцягнуты ўздоўж цела.

У вочы кідаецца чырвань, якой запэцканы сцены. Балюча б'е здагадка — кроў! Усё так дзіўна, нібы ўсё гэта адбываецца ў сне, нібы няма мяне. «Тварам да сцяны!» — загадвае следчы, убачыўшы, што жанчына торгаецца каля сцяны. Затым падыходзіць і завязвае ёй вочы. Мяне ахоплівае няпэўнасць. Так засяроджваюся, што не заўважаю, адкуль у следчага ў руцэ з'яўляецца пісталет. Ён цаляе ў жанчыну. Чуваць некалькі стрэлаў. Кулі цяжка ўпіваюцца ў тынкоўку, акрэсліваюць абрысы цела той, што стаіць тварам да сцяны.

Гляджу на следчага прыгнечана, нібы самае незвычайнае з убачанага зараз не стрэлы, не віскат куль, не жанчына ля сцяны, а вочы ка́та — абыякава спакойныя, нават халодныя. Ноздры пачынаюць дрыжаць, вусны торгаюцца. Мой твар крывіць грымаса, хачу крычаць. Нечалавечы гук выдзіраецца знутры... Ці то клёкат, ці енк аб дапамозе разлятаецца па кабінеце. Свядомасць зацягвае моцны туман абыякавасці. Прачынаецца Людачка. Плач, брыдкія словы следчага, нехта вядзе мяне па калідоры. Свядомасць вяртаецца ў «варанку».

Прывозяць да шэрага будынка на Смаленскай вуліцы. Турма ўражвае суровасцю і зусім незнаёмай унутранай архітэктурай. Уваход у яе зусім негасцінны, падобны на варожую пашчу. Там начальнікам мой сусед, ён сам пра тое расказваў. Так і ёсць, сутыкаюся з ім на калідоры. Хацела яму перадаць, што казаў следчы, і расказаць усе падрабязнасці, але чамусьці замаўкаю. Усім сваім выглядам сусед паказвае, каб я не выдавала нашага знаёмства.

Вядуць. Крок за крокам, з дзіўным адчуваннем іду, чакаючы наперадзе чагосьці немагчымага і незразумелага. Заводзяць у асветленую камеру з вялікімі, без «наморднікаў», вокнамі. У ёй стаяць 12 маленькіх ложкаў, на кожным — спавітае немаўля. Гэта турэмныя яслі. Паміж радамі ходзіць нейкая жанчына ў белым халаце. Яна бярэ ў мяне Людачку, а мяне выводзяць у калідор.

Пераступаю парог камеры. Яна запоўнена жаночымі целамі. Гэтыя вымучаныя, кашчавыя фігуры пакрыты цвілымі, падранымі сукенкамі і кофтачкамі. Зусім не думаю пра сваё няшчасце: думкі толькі пра Людачку. Вяртае да рэчаіснасці нейкі страшны гвалт. Ачомваюся: доўгая камера, падобная на выцягнутую клетку; дзікунская штурханіна і мат за дзвярыма; пранізлівы жаночы віск. З глыбіні нар чуецца: «Хадзіце сюды, тут ёсць месца». Іду на голас. Пасунуўшыся, нейкая жанчына саступае мне вузкую палоску драўлянага насціла. Кладуся ніцма. У мяне нешта пытаюць, але я не ў стане сказаць і слова, у вушах гучаць стрэлы. Тут перада мной вырастае жанчына з уважлівым і спалоханым выразам твару. Пазнаю ў ёй Кухарэнку, маю суседку. «І цябе таксама?» — голас ціхі і нягоўны. У яе ўсмешцы нешта нервовае і таропкае. «Даўно тут?» — пытаю яе. «З учарашняга дня,— вузкія рукі з доўгімі пальцамі варухнуліся.— Міліцыянер такі ласкавы, на рукі маю Зіначку пасадзіў, даў цукерку».— «А колькі тваёй?» — «Ужо два годзікі». Замаўкае. Мне таксама не да роспытаў.

Мяне нібы пакідаюць у спакоі. Праходзіць тры дні, прыходзяць па мяне. Надзірацель са шкадобай на твары, ён гэта адчувае, ён задаволены гэтым і ў той жа час вымушаны панура паказваць на дзверы. «На допыт»,— б'е адрывістым словам. Ад тае думкі, што зноў убачу следчага, зміраю, перапыняецца дыханне, і мне так хочацца ўчапіцца ў тоўстыя пруты аконных кратаў. Бяру сябе ў рукі. Збіраюся ісці за надзірацелем, але спыняюся, пачуўшы за спіной павольна-спакойны голас начальніка турмы: «Я цябе не выпушчу без дзіцёнка». Заходзім у турэмныя яслі, на хуткую руку спавіваю свой дарагі, сонны камячок і іду да выхаду.

Ля парога салдат. Яго твар дыхае шчаслівай весялосцю, здароўем, бяспечнасцю і выпешчанасцю. Прапускае наперад, праводзіць фанабэрыстай усмешкай. Паказвае на «варанок», дзверцы якога шырока расчыненыя. Паехалі. Гляджу на пустыя ўдзень вуліцы горада. Людзі нібы баяцца хадзіць каля турмы. Дамы як нежылыя, але пабліскваюць на сонцы. Ніхто не выглядае з вокнаў, нібы невядомая пошасць апанавала ўсіх жыхароў гэтых каменных высокіх будынін. Згадваю мужа. Ён напэўна тут, у турме, але блізкасць каханага чалавека не вымяраецца прасторай, бо мы жывём у іншым вымярэнні — вымярэнні зла. У мяне цяпер адна мэта — зберагчы Людачку. Адчуваю, што няма на зямлі той сілы, якая б змагла вырваць яе ў мяне. Мацней прыціскаю дачку да сябе.

Зноўку ля будынка НКУС. Знаёмы, пыхлівы малады салдацік вядзе па калідоры. Заходзім у кабінет. За сталом — высокі. Некалькі імгненняў маўчым. Цішыня вісіць над намі. Цягне да сну. Як толькі мой кат падымае вочы, яго твар перакошвае грымаса паблажлівай пагарды, нібы ён кажа сам сабе: «Ну, нарэшце, галубка!» — і, не кажучы ні слова, нават не зварухнуўшыся, ён кіруе погляд на пялюш-

кі. Затым, як на дзіва,— на сур'ёзны твар маладога салдата: «Ды які ты, да д'ябла, мужчына...» — далей ідзе брыдкаслоўе. Кажа гэта нейкім незнаёма вісклівым голасам. Крывіць рот, апускае вочы і працягвае: «Нашто ты прывёз мне яе з дзіцём. Яна патрэбна адна...»

Сярдзіты і роўны голас выводзіць мяне са здранцвення. Падымаю галаву: следчы з ухмылкай скоса глядзіць на мяне. Пачуццё злосці, і пагарды, і брыдоты, а больш за ўсё апантанай смеласці ахоплівае мяне. Кладу Людачку на канапу. «Дачушка мая вам нічога не скажа, яна не ўмее казаць словы,— пачынаю сіплым голасам.— Рабіце са мной што хочаце, хоць зарэжце». Перахоплівае дыханне так моцна, што няўсцерп ад болю ў грудзях. Становіцца сорамна і страшна за сваю смеласць. Высокі глядзіць на мяне, злёгку прымружыўшы вочы, і дакранаецца пальцамі да вуснаў. Усё яшчэ цяжка дыхаючы, ён падсоўвае чысты аркуш паперы. «Не хвалюйся, усё будзе добра,— пачынае нарэшце, і голас яго такі мяккі, што прымушае насцярожыцца.— Проста ваш подпіс не сыходзіцца. Распісвайцеся, і мы ў хуткім часе вас выпусцім».— «Я непісьменная і магу толькі тры літары паставіць»,— адказваю нясмела, з нейкай насцярожанасцю. «Як можаце, так і распісвайцеся». Акуратна выводжу свае ініцыялы, але літары атрымліваюцца нягеглыя. У грудзях з'яўляецца раднасае, але ў той жа час нейкае пачуццё прыгнечанасці. Хутка скончыцца гэты кашмар. Высокі бярэ ліст і адпраўляе мяне ў турму.

Ізноў вядуць у камеру. Начальнік турмы праходзіць міма. Затым нечакана вяртаецца і адсылае надзіраццеля па нейкую дробязь. Сціскаю зубы ад хвалявання. «Не хвалюйся. Цябе павінны выпусціць,— кажа з ласкавай і ў той жа час выратавальнай усмешкай, нібы просіць прабачэння за тое, што я тут.— Таму што, калі сведкаў будуць выклікаць, яны пацвердзяць, што ты невінаватая». Мне прыемна, што такі важны чалавек падтрымлівае мяне, супакойвае. Начальнік турмы адмахваецца, нібы праганяе мух. «Нічога, усё высветліцца. А пакуль ці не жадаеш пайсці на кухню кухару дапамагаць? Будзеш часцей бачыцца з дзіцёнкам». Ківаю галавой у знак згоды.

У камеры падыходжу да Кухарэнкі. На працягу дня мы мала гаворым, амаль што нічога не ядзім і глядзім па баках, нібы спадзеючыся разгледзець нешта... Толькі зрэдку суседка сярдзіта кудлачыць валасы, рыпіць зубамі і кажа: «Дачка ў дзетдоме. Хай мяне хутчэй направяць у лагер. Буду добра працаваць, і мяне хутка выпусцяць». Нібы пачуўшы яе просьбу, Кухарэнку выпраўляюць на этап.

Аднаярусныя нары. Праз тры гадзіны выклікаюць на кармленне. Дзеці пад медыцынскім наглядам увесь час, на ноч застаецца з імі нянька. Сваёй камеры амаль не заўважаю, мне ўсё роўна, што ў ёй адбываецца. Адзінае, што трывожыць маё сэрца,— гэта вочы дачушкі. Замацаваўшыся ў падсвядомасці, яны ўвесь час глядзяць на мяне, нібы пытаюць: чаму мы тут?

Калі я сустракаюся з начальнікам турмы, ён незаўважна падміргвае правым вокам і адварочваецца з выглядам калі не строгім, дык абыякава-задумлівым.

Твар мой агрубелы, асунуўся: амаль поўная адсутнасць рухаў точыць маё здароўе, але я ўсё адно ніколі не пачувала сябе такой шчаслівай, як у хвіліны маіх сустрэч з дачкой. У гэтыя імгненні мяне не мучаць жахлівыя прадчуванні і дакоры сумлення.

Праходзіць першы камерны месяц. Да нас запіхваюць жанчыну. Пазнаю жонку Гарбаленіна. Твар змучаны, стомлены, ніякага выразу, акрамя страху. Яна падобна на чалавека, які вось-вось упадзе ад знямогі, хаця цела поўніцца здароўем. Праходзіць некалькі хвілін. Становіцца няёмка. Гарбаленіна першая адчувае неабходнасць парушыць немату. «Мужа майго арыштавалі. Сынулю Гогу адправілі ў дзіцячы дом. А ў вас як?» — прыглушана пытаецца жанчына, бес-

перастанку гледзячы па баках. Маўчу і гляджу ёй у твар. Яна рэзка адварочваецца, каб схавацца ад майго погляду. У яе чырванеюць шчокі, вусны дрыжаць, і тонкія музычныя пальчыкі шнарaць па кофтачцы ў пошуках насоўкі. Мінае яшчэ колькі хвілін... Затым дзверы адчыняюцца, і знаёмы голас камандуе: «Гарбаленіна, з рэчамі на выхад». На парозе стаіць начальнік турмы і глядзіць на жонку начальніка НКУС, што выходзіць, вінавата апусціўшы галаву.

Год хаджу на кухню. Дапамагаю вольнанаёмнаму кухару абіраць бульбу, буракі, мыць посуд. Але мяне ўвесь час цягне прэч з гэтага брыдкага памяшкання да дачкі. Здавалася, нейкая таемная, невылечная хвароба падточвае мяне. Гэтае пачуццё не вытлумачыць стратай каханага мужа, як бы я ні была прывязаная да яго, мяне ўвесь час цягне да Людачкі. Як заведзеная, раблю ўсю работу на кухні і іду ў яслі. І чым бліжэй запаветныя дзверы, тым мацней невядомае таемнае пачуццё. Нешта моцнае і таямнічае ахоплівае мяне пры выглядзе гэтых ціхіх, ласкавых вачэй. Люблю назіраць, як спіць Людачка. Гэтыя нерухомыя, дзіўныя, сціснутыя вуснaчкі. Тонкія кудзеркі валасоў, маленькія, пяшчотныя ручкі. З кожным месяцам дзяцей становіцца ўсё меней. З годзіка іх адпраўляюць у дзіцячы дом.

Начавaць хаджу ў яслі, забяруся пад дзіцячы ложак, ляжу з расплюшчанымі вачыма і чакаю нечага; прыслухоўваюся да таго, што адбываецца за дзвярыма, але гукі дасягаюць нейкія расцягнутыя і таму непрыемныя. Засынаю ад няясных думак і спадзяванняў. Сплю мала, але сны бачу штоночы. Намагаюся раніцай не забыцца на іх і зразумець таемны сэнс.

Загадваюць збірацца з дзіцёнкам. Таемны ўнутраны чарвяк падточвае мяне. П'янкая ад слабасці і бездапаможнасці — галава кружыцца, рукі не слухаюцца і сэрца стукае балюча. Прыводзяць у кабінет. Там фатограф ставіць трохножнік, замацоўвае вялікую фотакамеру, наводзіць фокус, садзіць Людачку на столік і папярэджвае пра птушку, якая хутка вылеціць. Дзяўчынка напружваецца, нешта шчабеча. Праз два дні прыносяць фотаздымак. Ён мутны, нярэзкі.

Ходзяць чуткі, што дзяцей будуць забіраць у дзіцячы дом. «Давайце мы вам дапаможам»,— чуецца хлапечы голас. Словы гэтыя здаюцца дзіўнымі, а ціпшыня, што наступае затым, ненатуральнай. Гэта непаўналеткі з суседняй камеры. Яны сядзяць за дробныя рабункі. «Дайце нам пялюшкі. У нас, як і ў вас, няма намордніка ў»,— яго словы нібы турхаюць у грудзі. Прыслухоўваюся. Ён працягвае: «Плот вялікі, але з вуліцы будзе бачна. Патрэбны пялюшкі». Не ведаем, скуль узяўся гэты шалапутны хлопчык, але пачуццё, што ахапіла нас у першую хвіліну, хоць не давала аніякага спадзявання, ды падтрымлівала бадзёрасць.

Даю навалку. Праз некалькі гадзін да мяне даходзіць незнаёмы гук, мноства крокаў чуем за дзвярыма. Акунаюся ў соннае трымценне. На наступны дзень выклікае следчы. У кабінет, акрамя шолаху шын, не прабіваецца ні гуку, калі не лічыць крокаў салдата, які грукае абцасамі аб паркет. «Расказвай, адкуль у малых узялася прасціна?» — «Якая прасціна? І нашто яна ім?» — выціскаю з сябе з недаўменнем, у спадзяванні дазнацца праўду ад следчага. «Не ведаеш? А хто іх падвучыў напісаць чарнілам на прасціне дурацкія словы: «Таварышы! Ратуйце! Дзяцей бяруць ад маці. Матуляў б'юць». Ён налівае ў шклянку ваду, выпівае яе, заціскае ў зубах папяросу, устае, недаверліва аглядае мяне з ног да галавы, кіруе да дзвярэй, але, перш чым адчыніць іх, зноў пытае: «Не ведаеш? Малыя сваё атрымалі. Падумай. Але крый Божа, калі гэта ты перадала гэтую

анучу!» Адчыняе дзверы. Выходжу. Услед чуецца: «Дурныя, гэтым дзяцей не выратуеце».

Праўдай і няпраўдай імкнуся затрымаць сваё дзіця ў турме. Людачцы ўжо год і два месяцы. Усе мае думкі і памкненні — аб ёй. Яе жыццё зліваецца з маім. Прашу адправіць на вечную высылку, але толькі з ёй. У адказ чую сіпаты голас: «Не маем права».

Але той дзень настае. Прыціскаю Людачку да сябе, прыціскаю мацней, чым калі-небудзь... І вось цяпер, калі яна ляжыць на маіх руках з заплюшчанымі вачыма, у маім параненым сэрцы цяплом расцякаецца любоў да гэтай істоткі. Цельца ў сне рухаецца, як бы жадаючы прыціснуцца тварыкам да маіх, даўно ёю забытых грудзей. Іду ўся нібыта ў ліхаманцы. Людачка прачынаецца і зліваецца са мной. Шэпча на вуха: «Ма-ма». Вось і грузавік, яго з'яўленне ўспрымаю як канчатковае няшчасце. На мяне находзіць паралюш. Нехта штурхае ў спіну, з цяжкасцю даходжу да машыны. Нейчыя рукі бяруць дачку. Падпарадкоўваюся. Людачка плача, супакойваю. «Куды вы маю дачку?» — з мальбой у голасе пытаю наглядчыкаў. «У дзетдом»,— кажа адзін з іх.

Цягнік прыпыняе рух. Вось і канечны пункт — Мядзведжагорск, Карэла-Фінская ССР. Свіст, пыхканне, скрыгат на імгненне глушаць нас. Але гэтыя хвілі пралятаюць. Цягнік спыняецца, і ўсё замірае ў незразумелай цішыні. Працягваецца гэта нядоўга, хутка эшалон ператрушвае каманда: «Вызваліць вагоны!» Усё вакол мітусіцца, рухаецца. Выстрайваемся ў калону па пяць уздоўж бясконцай чарады вагонаў і ідзем па пероне чыгуначнай станцыі. Хутка перад намі вырастае мноства баракаў, абгароджаных высокай сцяной з калючага дроту. Вароты з нудным скрыгатам адчыняюцца.

Перад намі накіданы груд старых, смярдзючых рызманоў. Распранаемся поўнасцю і нацягваем на сябе закамянелыя ад бруду і поту робы. На трэці дзень выклікаюць. Заходжу ў кантору. За сталом сядзіць вайсковец, застыў, нібы стол, брывом не варухне, і глядзіць на мяне. Вусны складзены ў горкую ўсмешку. «Ярнутоўская Ніна Валянцінаўна»,— кажа, нібы сякерай рубіць. Ківаю галавой. «Які артыкул?» — «А я скуль ведаю, што за артыкул?» — адказваю без хітрыкаў. «СНЭ» — проста і злобна ўдакладняе застылы вайсковец. Пасля шматмесячнага сядзення нічога не разумею. «Савецкі чалавек?» — здзівіўшыся, мармычу сабе пад нос. «Дурная! Сацыяльна-небяспечны элемент,— словы аднастайна і ліпка выстрэльваюць адно за другім з парэпаных вуснаў, нагадваючы з дзяцінства аднастайны брэх старой Жучкі.— Дзесяць гадоў выпраўленча-працоўных лагераў».

Пачула такое — і нервы нацягваюцца, як струна, усё трымціць ува мне. З нейкім адчаем, са слязамі на вачах, з крыкам кідаюся на вайскоўца, нібыта гэта ён вінаваты ва ўсім гэтым. Але нехта хапае мяне ззаду за плечы і выцягвае прэч.

Хударлявы і жылісты, з упалымі грудзямі і сухімі рукамі стары. Рысы твару рэзкія, нос з гарбінкай, шырокі, разумны лоб, вялікія, уважлівыя вочы. Ідзе ўздоўж шарэнгі і тыкае пальцам. Ён зрэдку ўсміхаецца, тады паказваюцца на імгненне з-пад тонкіх вуснаў жалезныя ўстаўленыя зубы. Торкае ў мяне крывым указальным пальцам. Нас, жанчын, адабралі каля трох дзесяткаў. Аказваецца, жылісты стары — гэта аграном Бурман. Усе гавораць пра яго, як пра добрага чалавека. Родам ён з Украіны, паспеў адседзець тэрмін і працуе вольнанаёмным.

У Мядзведжагорску саўгас, які спецыялізуецца на вырошчванні бурых ліс. У першы ж дзень не засцераглася, і адна з гэтых чорных

шэльмаў хапае мяне за руку. Спрабую вызваліць фуфайку, штурхаю рукой і выдзіраю лісу з клеткі. Яна радасна піскнула і знікла. На наступны дзень мяне выпраўляюць на сельскагаспадарчыя работы: саджаем, полем, прыбіраем.

У мяне адрас, куды павезлі Людачку: «Віцебская вобласць, Лёзненскі раён, станцыя Порына, дзіцячы дом». Прашу палітычную напісаць ліст. Дыктую з ахвотай, шмат і не тоячыся. Выхавацелька адказвае рэдка, кароткімі няўклюднымі фразамі. Але мне і не трэба расцягнутых адказаў. Галоўнае — Людачка жывая і здаровая.

Мужчыны-зэкі будуюць аэрадром, узводзяць шлюз на водаканале. У лістападзе 39-га перадаём лётчыкам аэрадром. Як толькі першы самалёт падымаецца з нашага лётнага поля, даведваемся — вайна з фінамі. На працягу сутак пяцітысячную «зону» рыхтуюць да эвакуацыі.

Вядуць па дарозе. Дзесьці ззаду з'яўляюцца маленькія кропкі. Гэта самалёты. Канвойныя прыпадаюць да зямлі і крычаць: «Лягайце!» Салодкі пах смерці з кожным уздыхам уядаецца ў самую глыбіню грудзей. Удалечыні, за Мядзведжагорскам, на небасхіле ўсё ярчэй вымалёўваюцца самалёты. Мы не падаем на зямлю, а прыціскаемся адзін да аднаго і стаім, адчуваючы на сабе подых ветру і дарожнага пылу. Жалезныя птушкі ляцяць над галавой, марудна заварочваюць управа. Вось і вада. Аднекуль падымаецца высокі, як грыб, слуп густога, чорнага дыму, расце і расплываецца. Гарыць нафтаналіўное судна. На беразе нас ахоплівае снежаньскім холадам, і адрывісты ўсплёск хваляў рэжа слых. Ля прыстані нас чакаюць пяць барж. Загружаемся. Жах, што можам патануць, ахоплівае ўсё больш і больш, з кожнай прыступкай, якая зацягвае мяне ў невядомую цямрэчу трума. Адплываем. Нас не бамбяць, Бог злітаваўся.

Вось мы ўжо на Каме. Праз колькі дзён швартуемся, усіх гоняць на прычал і выстрайваюць у калоны. Мы ў Салікамску, тут размяркоўваюць па камандзіроўках.

Падыходзім да «зоны». Сутонее. Моўчкі і хутка ідзём па заснежанай роўнай дарозе. Наперадзе, паміж дрэвамі, мільгаюць агеньчыкі белых баракаў, у якіх мы вымушаны жыць. Лагпункт складаецца з дзесятка змрочных, замураваных сумётамі домікаў. Ля калючага дроту, справа ад варотаў, акуратна прыцярушаны снегам, узвышаецца кантрольна-прапускны пункт. Гэта халупка без вокнаў, толькі шырокая палоса святла падае веерам з дзвярэй на вытаптаную сцежку. З дзвярэй выплывае вайсковец, не спяшаючыся падыходзіць да варотаў і адчыняе іх.

Размяркоўваюць на брыгады. Брыгадзірам у нас Бяляева. Да лесапавалу некалькі кіламетраў. Крочым марудна, топчам снег, што выпаў ноччу. Гудуць адмарожаныя ногі. Наша жаночая брыгада, узброеная ржавымі піламі і такімі ж сякерамі, дзеліцца на звёны. У кожным па шэсць чалавек: абрубшчык, збіральшчык сукоў, дрывасек, бракёр і падкатчык. Прайшоўшы ў «зоне» кароткі інструктаж, хутка абтаптваю снег вакол першага свайго дрэва і адразу набіраю поўныя чуні снегу. Не звяртаючы ўвагі на вільготныя пяты, злёгку падсякаю ствол. Працаваць трэба хутка, бо норма на ўсё звяно 24 кубы. Некалькі дзён нам даецца на засваенне нормы. Напачатку сякера, нібы непаслухмянае дзіця, скача ў руках. Піла ўваходзіць у ствол марудна, супраціўляючыся нашым няўмелым намаганням. Але час ідзе, і, звычная да цяжкай працы, вучуся ладна, спраўна рабіць падсечку, хутка ваджу пілой. І сасна, адчуваючы сваю бездапаможнасць, пакорліва кладзецца ў снег.

Пад'ём у пяць. Аддзіраю стомленыя бакі ад мулкіх «кругляшоў», якімі высланы нары. У галаву лезе ўсялякая дробязь: дзе мае чуні?

Не ўзялі б блатнякі! Ці заточаная піла? Падыходжу да «буржуйкі» і з кучы брудных, сатлелых анучаў выцягваю свае. Снедаем і ідзём на лесапавал. План выконваем, а таму ежы хапае: пайка 200 грамаў хлеба і 400 грамаў прыкупнога.

Заканчваецца фінская вайна. Да нас у брыгаду назначаюць былога палкоўніка. Гэта чалавек гадоў каля сарака, сярэдняга росту, з рэдкімі, зачасанымі назад валасамі, ужо кранутымі сівізной, вузка пастаўленымі і выпуклымі вачыма і мясістым з вуграмі носам. За што яго арыштавалі, мы не ведаем. Ён катэгарычна адмаўляецца выходзіць на працу. За тыдзень высах, як трэска, але стаіць на сваім. Усёй брыгадай угаворваем пайсці на лесапавал. Увесь час, пакуль размаўляем, сіваваты глядзіць на нас. Яго вялікая, трохі нахіленая ўперад галава, вузкі і маленькі, але разумны лоб, прыемныя вочы з недаўменнем глядзяць на нас. Ён нібы не чуе, што мы кажам, засяроджаны на сваіх думках. Нарэшце робіць над сабой намаганне і выціскае, як бы падпарадкоўваючыся тым абставінам, у якіх так нечакана апынуўся: «Добра, пайду». Працуе збіральшчыкам сукоў, па першым часе дапамагаю яму. «Што, цяжка?» — «Ды нялёгка»,— вымаўляе былы палкоўнік, з натугай дыхаючы, што гучыць для мяне як сігнал і вымушае самой брацца за галіну і цягнуць да вогнішча. Паступова ён звыкаецца з працай.

Тыдзень-другі працуем разам, але неяк перад зменай падыходзіць да мяне былы палкоўнік. Ён надзіва напоўнены нейкай прыемнай, абнадзейваючай радасцю, нібы адбылося тое, што даўно павінна было адбыцца. «Апошні дзень працую,— пачынае ён, і голас яго, трохі хрыпаты, але па-маладому моцны.— Сышоўся з трэцяй часткай, з аховай. З заўтрашняга дня — загадчык сталовай. Перад табой я даўжнік, таму адплачу яшчэ». Шчыра радая за яго і трошкі зайздрошчу.

Год працую дрывасекам. Хлеба хапае, нават не з'ядаем увесь, аддаем салдацікам, што нас вартуюць. Яны з рук не бяруць, служба не дазваляе, дык пакладзеш кавалак хлеба на пянёк і адыдзеш убок. Канвойны, зазвычай зусім малады хлопец, падыдзе, падыме галаву і, пабачыўшы на сабе погляд, апускае вочы. Адварочваюся на некалькі хвілін, а потым ізноў гляджу на пянёк, але хлеба там ужо няма. Лаўлю на сабе ўдзячны погляд хлопчыка з вінтоўкай, погляд, які западае ў душу.

Але тут здараецца бяда — ад крывавых мазалёў набрыняла кісць правай рукі. Доктар раіць ампутаваць. Катэгарычна адмаўляюся. Настойваюць. Адчуваю хваравітае, балючае пакалванне ў сэрцы і ў грудзях, але патроху боль знікае і вяртаюцца сілы. «Не дам руку, не хачу быць калекай,— адказваю неспакойным голасам.— Дома мяне чакае дачка. Ей патрэбны мае здаровыя, моцныя рукі, каб магла імі паставіць сваю дачку на ногі».— «Ты проста не жадаеш працаваць,— абураецца доктарка з простым, лепш сказаць, дурнаватым аблічам.— Дык мы цябе пасадзім на трыста грамаў. Сама прыбяжыш рэзаць».

Сапраўды, садзяць на гэты пайкавы мізэр. Але я не застаюся самнасам са сваёй бядой. Трохі дзіўнаватым здаецца мне жаданне брыгады выконваць за мяне норму. І справа зусім не ў шкадаванні, а ў жаданні дапамагчы выйсці з гэтага становішча. Вельмі прыемна адчуваць сапраўдную дапамогу і падтрымку. У душы з'яўляецца патрэба ісці на лесапавал і хаця б адной, здаровай рукой працаваць. Дапамагаю, а з вачэй цякуць слёзы замілавання. Мая істота мякчэе, як вата. Прага працы, нават ахвярнасць, ахвярнасць у імя сваіх таварышаў — пад цяжарам гэтага я знемагаю. Але рука працягвае ныць, боль ва ўсім целе. Мяне здымаюць з лесапавалу. Займаюся

дастаўкай абеду на дзялянку, дзе мяне чакаюць брыгадзіры. Пасля чаго бяру мех і іду ў тайгу па грыбы.

Там, у лесе, адчуваю насалоду ад шуму стогадовых хвояў, водару, птушынага спеву. Выходжу да маленькага балота. Ранішні туман ужо даўно сышоў з яго, але там-сям яшчэ курэе дымам, выкідваючы ў неба ўздыхі зямлі. Збіраю грыбы. Іх поўна ў лесе. Праз гадзіну-другую прыношу поўны мех. Да гэтага часу ўсе паелі, мыю посуд, стаўлю сушыцца на сонцы і іду збіраць ягады. Да канца дня прыношу два поўныя вядры суніц. Дзелім слоікамі, каб дасталося ўсім у брыгадзе. Маліну нясу дзесятніку і нарадчыку. Стаўлю, выкарыстаўшы першую хвіліну маўчання, і выходжу. Іх збянтэжанасць не хаваецца ад мяне, але, мяркуючы па ветлівым паглядзе, якім мяне праводзяць, расцэньваю гэта як нешта непрадузятае і добрае. Пасля кожных вандровак у тайгу прыношу ім падарункі лесу.

Так і працую. Хутка мне выпісваюць пастаянны пропуск, па якім я магу знаходзіцца па-за лагерам да пэўнага часу. Папярэджваюць: спазнюся — аб'явяць уцёкі і накінуць тэрмін. Але куды ўцякаць і навошта? Маё сэрца пачынае моцна стукаць і пагляд ляціць удалячынь, калі згадваю пра Людачку. Дзеля яе, якую так люблю, за якой гатовая ісці хоць на край свету, усе пакуты пекла перацярплю. І нічога, што ідзе вайна, што Беларусь цяпер пад немцамі, што перарвалася перапіска. Гэта мяне не палохае, бо ваююць і гінуць дарослыя, а дзеці павінны жыць. Вызвалюся і знайду дачку, якую бязмежна люблю — маё шчасце і крывінку.

Глыбокая восень 41-га. Спыняе мой знаёмы — сівавалосы. «Ніна, ты хочаш працаваць у сталовай?» — звяртаецца да мяне ціха, напаўголаса, так, каб ніхто не пачуў. Гляджу на яго і нібы ўпершыню бачу гэты твар, які поўніцца ўдзячнасцю і ўзаемаразуменнем. «Не, я ўжо прызвычаілася па лесе хадзіць».— «Падумай, будзеш на кухні начным кухарам. Ніхто камандаваць не будзе, поўная воля. Ды і ежы ўдосталь». Згаджаюся, аб чым хутка шкадую. Блатныя прыходзяць па начах і патрабуюць ежы. А што ім даць? Праца цяжкая і няўдзячная. Капусту, якую збіраюць на полі, сячэм, звальваем у кацёл і варым — гэта на першае. На другое, як правіла, бульба. Яе не абіраем, толькі некалькі разоў перамываем кіпнем. Зрэдку гатуем пярлоўку, аўсяныя крупы, гарох. Зіму і вясну трымаюся, потым вырашаю — усё, досыць! Іду да загадчыка, майго нядаўняга таварыша па лесапавале. Што прымушае прасіць яго — пэўна, пачуццё поўнай лясной свабоды, ды адчуванне, што слабею апошнім часам. Сіваваты толькі падміргвае мне і адпускае на ўсе чатыры бакі. Зноў раблюся адказнай па збору ягад і грыбоў. Як толькі пачынаю ўдыхаць першыя глыткі таежнага паветра, мяне перастае свідраваць унутраны чарвяк незадаволенасці.

Пасля чарговага абеду мыю посуд і збіраюся ў тайгу. Але тут аб'яўляюць уцёкі. Калі ўцёкі, значыць, ніхто нікуды не ідзе. Чакаем, пакуль зловяць уцекачоў. Ужо нізкае сонца асвятляе нашы загарэлыя, бледныя ад нерухомасці твары. Пад вечар уцякачак ловяць. Гэта дзве жанчыны. Яны моўчкі брыдуць пад лаянку канвойных, іх вусны трымцяць, нібы шэпчуць невымоўныя, невядомыя закляцці. Уся роба падраная да лахманоў. Гэта пастараліся дагледжаныя аўчаркі, якія бягуць побач з падцягнутымі жыватамі. На целах у жанчын — ніводнага ўкусу, надзіва натрэніраваныя сабакі. Выяўляецца, тыя збеглі адразу пасля абеду. Адбеглі ад лагера кіламетраў на дзесяць і трапілі ў балота. Тут іх дагналі сабакі. Але не магу зразумець, навошта ўцякалі, бо кожнай праз некалькі месяцаў павінна было прыйсці вызваленне.

Мне даюць яшчэ адну жанчыну. Удзвюх назбіраем больш. Яна ідзе наперадзе, злёгку хістаецца, як медзведзяня, пры кожным кроку

і адкідвае рукой цвёрдыя доўгія кудзеркі ад твару. Вакол некранутая тайга. Калі адна — я ведаю, як зайсці і як выйсці. А як мы будзем удзвюх? Так і здарылася — заблукалі. На трэці дзень выходзім на дарогу. Брыдзем, нахіліўшы галовы і мяркуем: што нас чакае ў лагеры. Ззаду чуецца тупат конскіх капытоў. Паварочваемся — з чорнага ценю, што падае ад дрэваў, паказваецца румяны ўпаўнаважаны. «Грамадзянін начальнік, як патрапіць на трэцюю камандзіроўку?» — з вымушанай абыякавасцю пытаю яго. «А вы што, уцякаць збіраецеся?» — пытаннем на пытанне адказвае чырванашчокі вайсковец. «Ды не, заблудзілі. Нас адправілі на збор грыбоў і ягад, а мы далі маху».— «Добра, веру. Ідзіце прама, не зварочвайце. Убачыце трактар,— гаворка ўпаўнаважанага ліецца лёгка і проста, без адзінага мату.— Ён паедзе на камандзіроўку і вас захопіць. Скемілі?» Мы ківаем галовамі.

У пыле, потныя, уваходзім у «зону». Хваёвыя іголкі, зялёныя ніткі моху на нашых фуфайках, галасы хрыпатыя... Нас абступаюць канвойныя, маладыя хлопцы. Побач з імі камандзір узвода, падслепаваты з паважнай пастаў вайсковец. «Калі б вы не з'явіліся, праз некалькі гадзін было б аб'яўлена аб вашых уцёках,— кажа і намагаецца здавацца раўнадушным.— А гэта значыць, за першую спробу накінулі б тры гады». Падыходжу да яго і заўважаю на твары радасць, якую адчуваю і сама. «За цябе паручылася брыгада. Ды і мы цябе добра ведаем. Куды ты ад нас падзенешся?» — працягвае камандзір узвода. «Дзякуй, што верыце мне. Дайце мех». Нехта працягвае мех, закідваю за плечы і кірую ў лес. «Ты хоць паеш!» — нясецца наўздагон голас падслепаватага. Хачу аддзячыць, але захрасла ў горле. Праз некалькі гадзін вяртаюся з поўным мехам баравікоў. Скідваю каля каравулкі. Салдацікі задаволены. Камандзір узвода мычыць нешта незразумелае, а потым ківае галавой і сур'ёзна кажа: «Ну, Ярнутоўская, ласку зрабіла. Аб'яўляю ўдзячнасць ад усяго калектыву».

Лета 42-га. Нас, пяць соцень мужчын і жанчын, строем вядуць у закінутае паміж скаламі забалочанае месца.

Вакол анікога, робім з лапак буданы. Уся мясцовасць называецца Нічыпароўская паляна. Вакол толькі неба і тайга. Косім сена. Норма 45 сотак. Цяжкасць касы мне знаёмая, у дзяцінстве даводзілася дапамагаць бацькам. Выстройваемся ў бясконцую шарэнгу і пачынаем. Перашкаджаюць купіны, каса хутка тупіцца. Ногі вязнуць у балаціне, рукі пад канец працы саслаблыя, вісяць, як чужыя. Сонца хаваецца за высокімі сопкамі. Вяртаемся да буданоў. Мокры прыпол спадніцы прыліпае да амярцвелых ног. Цела лёгкае і абыякавае да вечаровай прахалоды. Час, здаецца, спыніўся для нас, нічога, акрамя самалёта, які дастаўляе нам ежу, не прасочваецца за межы далёкага аазіса зеляніны.

Косім на паляне. Тут з-за скалаў пазірае чалавек. Спыняемся і глядзім, спрабуючы зразумець, скуль тут могуць з'явіцца людзі. Раптам жаночыя крыкі разносяцца па акрузе: «Людажэры! Людажэры!» Гляджу, з лесу выходзяць дзве аброслыя, падобныя на людзей істоты. Яны незразумелага ўзросту, валасатыя і непрыгожыя, усе ў скурах, з вялікімі цёмнымі вачамі. У руках дзіды і лукі. Асцярожна рухаюцца ў наш бок, размахваюць рукамі, ураджанне — як пра людзей не ад нашага свету. Мы адсоўваемся, перагаворваемся, нехта збегаў па канвойных. Прыходзяць салдаты: «Дзе вашы пачвары?» Паказваем на аброслых істот. Падыходзім бліжэй. Яны кажуць надзіва мала, так мала, што, можна сказаць, увесь час маўчаць,— толькі незразумелае бу-бу-бу зрэдку вылятае з іхніх вуснаў. Канвойныя працягваюць ім хлеб. Кусаюць і тут жа пачынаюць выплёўваць.

Мне здаецца, што яны баязліва сумеліся. Аднак хутка апамята-

лісяі спрабуюць нам нешта растлумачыць. Вучым распальваць агонь. Трэм вату аб сухі сук і з жарынкі раздзьмухваем агонь. Паўчалавекі ўважліва разглядаюць, прыслухоўваючыся да кожнага нашага слова. Нібы разумеючы нашу гаворку, коратка і дзелавіта ківаюць галовамі. Усмешкі здзіўлення і захаплення амаль не сыходзяць з твараў, і ўсмешкі іх няхітрыя, дзіцячыя і бездапаможныя. На наступны дзень істоты ў скурах прыцягнулі тушу аленя. Тут жа на месцы распальваем вогнішча і варым суп. Ім гэта нязвыкла, бо яны ўжываюць толькі сырое мяса. Калі варыва гатовае, частуем дзіўных людзей. Паспрабаваўшы, яны ўдзячна ківаюць галовамі. Пад вечар сыходзяць. На развітанне дзелімся апошнім: даем трошкі ваты і адсыпаем прыгаршчы солі.

Вось ужо і восень. Пачынае халадаць. Буданы не трымаюць цяпло. Заканчваюцца прадукты, а самалёта ўсё няма. Слабеем. Кожную раніцу адцягваем ад нашага прыстанішча двух-трох памерлых. Паміраюць усё больш мужчыны. Нешта дзіўнае адбываецца з салдатамі. Яны нібы не задаволеныя сабой, становішчам і сваёй бяздзейнасцю. Гаворка іх напаўняецца жоўцю і з'едлівасцю ў бок начальніка, які колькі дзён таму паехаў высвятляць, чаму няма прадуктаў. На душы ў канвойных — неспакойна. Ці гэта вынік голаду, ці, можа, першы раз за ўсю службу яны пашкадавалі нас,— сказаць цяжка, але нам, па сутнасці, усё роўна, абы сысці з гэтага жахлівага месца. Але вось недалёка паказваецца чорная кропка. «Самалёт ляціць! — крычыць салдат і тут жа, звярнуўшыся да нас, дадае: — Кажыце, усё дрэнна, не пужайцеся!» Самалёт падлятае да нашых буданоў і прызямляецца. З кабіны вылазіць пузаты вайсковец з кручкаватым носам і жылістымі рукамі. Ён ідзе няроўнымі крокамі, то павольна, то спяшаючыся. Мы напружваемся ў паставе «смірна», а нашы салдацікі адзначаюць з'яўленне пузатага аддаваннем чэсці, усмешкамі ці проста замучанымі поглядамі. «Што мітусіцеся? Ежы не прывёз»,— каротка мовіць нам пузан. Затым ушчыльную падыходзіць да шарэнгі і спыняецца насупраць мяне. Погляд яго сонны, твар засяроджаны і суровы. «Кажыце, ці дрэнна вам тут?! — голас перапыняецца. Ён надзьмуваецца на вачах, чырванее і прымае выгляд раззлаванага чалавека.— Як вас тут трымаюць?» Пачынаем жаліцца на дрэнныя ўмовы. «Ух, фашысты, страляць вас трэба!» — балюча б'е словамі вайсковец. Адчуваю агіду: дурным здаецца само знаходжанне гэтага пузана тут, за дзесяткі кіламетраў ад «зоны», і больш дзіўна здаецца, што яго шчырасць зусім мяне не палохае, яна натуральная. Яго цела знікае ў «кукурузніку». Праз колькі хвілін самалёт адлятае, нібы і не было, толькі пакамечаная трава нагадвае пра яго прысутнасць.

Пад маўклівую згоду канвою мы збіраемся, выцягваем рэчы з замерзлых буданоў. Цярусіць сняжок. Выцягваемся ў бясконцую шарэнгу. Маўкліва крочым па балотцы, схопленым першым марозам. Ношка за плячыма цісне да зямлі. Чуні намоклі і цяжэюць з кожным крокам. Паступова замярзаем. Але тут прабягае загад: «Бягом, марш!» Усе рухаюцца. Бяжым нядоўга, наколькі хапае сіл, але і гэтага дастаткова, каб нашы патухлыя вочы пачалі блішчэць, а на шчоках з'явіўся румянец. За паўдня прайшлі кіламетраў дваццаць. Насустрач едзе наш начальнік, вольнанаёмны. Спыняе коніка і раптоўна, хоць ніхто яму не пярэчыць, пасвідраваўшы вачыма, кажа ўсхваляваным голасам: «Мяне ж пасадзяць, мяне расстраляюць. Сена столькі загіне!» Моўчкі працягваем рухацца. Ён спрабуе нас спыніць: «Хутка прывязуць прадукты!» — «Вы згодныя вяртацца?» — пытаецца адзін з салдат. Працягваем рухацца. «Выкусі, не вернемся»,— бязгучна шэпчуць мае вусны. Стома, а голас унутраны бадзёрыць: «Трымайся, мала засталося». З цяжкасцю выбіраемся з гэтага

ляснога пекла. Адводзяць на камандзіроўку для саслабелых. На працу не гоняць, толькі тым і займаемся, што ядзім ды спім.

Вось і канец вайне. Знаёмлюся з Аленай Лазараўнай Эпштэйн. Гэта моцная, майго ўзросту мінчанка, з цёмнымі валасамі, смуглявым ад загару тварам, з дзіўнымі добрымі вачамі. Яна пасе авечак. Люблю слухаць апавяданні гэтай старой камуністкі пра рэвалюцыю, у якой яна прымала актыўны ўдзел, пра яе журналісцкую дзейнасць. Тэрмін у яе заканчваецца ў 48-м годзе.

А гады бягуць і бягуць; марудна і нудна цячэ маё жыццё ў «зоне», знешне бяздзейснае, але з унутранай барацьбой і неспакоем за лёс дачкі. Вось і жнівень 46-га. У маіх дакументах указана, што ў мяне непаўналетні дзіцёнак, таму вызваляюць на год раней. Ірвуся на волю. Душа то распаляецца, то патухае, яна б'ецца, як птушка ў клетцы, а клеткі ўжо няма — у мяне на руках даведка аб вызваленні. Усё сцішваецца ў свядомасці, успаміны самых трагічных лагерных будняў пастулова губляюць моц і перамагае надзея абняць, прыціснуць да сябе дачку, родную крывіначку. Што для мяне словы начальніка: «Ярнутоўская, заставайся. Мы дом дадзім, ён у цябе будзе ўвесь абклеены грашыма. Нам такія працаўнікі патрэбны». Гляджу на яго вясковыя абрысы твару: ладны лоб, буйныя чорныя вочы, востры нос. Ён не зможа зразумець пачуцці маці. «Дзякуй. Мне не трэба грошай,— кажу павольна.— Да дзіцяці свайго паеду».

Грукат колаў. Не спіцца. За акном знаёмая жалезная труба. Гэта фабрыка Халтурына, значыць, пад'язджаем да Бабруйска. Вось і станцыя. Не думала сыходзіць, але нешта незразумелае выштурхоўвае мяне з вагона. Блукаю ў лабірынце вулак, да бляску вымытых дажджом, прыслухоўваюся, намагаючыся пачуць крокі рэдкіх у такі ранні час падарожных. Там-сям трапляецца незачыненае акно, а за ім — ледзь асветленыя абрысы. Каля дзевяці я стаю ля варот фабрыкі. Заходжу ў аддзел кадраў і пачынаю нецярпліва тлумачыць, потым пытаю: «Ці трэба рабочыя?» — «Трэба»,— адказвае начальнік і глядзіць на мяне празрыстымі зрэнкамі, што надае ягонаму пагляду цікаўна-трывожны выраз. «Я прашу вас узяць мяне на працу. Вось мой пашпарт,— кажу не сваім голасам і крыўлюся, як ад болю.— Хачу, каб вы пасялілі мяне ў інтэрнаце. На прыватную кватэру мяне не возьмуць. Спужаюцца. Хто паверыць, што я чэсная? У мяне ж трохмесячны пашпарт».— «Пасядзіце»,— адказвае цяжкім басам чалавек з празрыстымі зрэнкамі і выходзіць. Пытаюся ў дзяўчат, як яго прозвішча. Аказалася — Петрычэнка.

Ля парога начальніка аддзела кадраў, у руках мой пашпарт. Ён яшчэ раз прабягае вачыма па яго старонках і, шматзначна сціснуўшы вусны, спакойна і нетаропка працягвае яго мне. «Пайшлі, пакажу, дзе будзеш жыць»,— кажа Петрычэнка і прапускае мяне наперад.

Прыводзіць у інтэрнат. Падымаемся на трэці паверх, адчыняе дзверы. У пакоі сем ложкаў. Дзве дзяўчыны — фэзэвушніцы — стаяць спіной да акна, трэцяя сядзіць на крэсле. Твар чацвёртай захінае цень. Настойліва глядзяць на мяне. У іх маладыя, смелыя пагляды — глядзяць ва ўпор, нібы стараюцца зразумець, навошта Петрычэнка прывёў мяне, пажылую жанчыну, да іх. «Вось ваша маці,— ціха пачынае чалавек з празрыстымі зрэнкамі, і яго ўзбуджанасць, якую я заўважыла пры ўваходзе ў інтэрнат, спадае.— Каб вы яе паважалі, як родную маці». Дзяўчаты даверліва ківаюць галовамі, акідваючы мяне цікаўнымі паглядамі. Падумалася: «Пасябруем».

З цяжкасцю расшукала выхавацельку дзіцячага дома, з якой да вайны падтрымлівала цесную сувязь. З таемнай надзеяй пішу ёй. Хутка прыходзіць адказ. Доўга трымаю дасланы аркуш паперы; устаю, чытаю. Хутчэй, хутчэй...

«Калі нямецкія самалёты пачалі бамбіць дзетдом, загадчыца Партнова крыкнула спалоханым дзецям: «Ратуйцеся як можаце!» — і кінулася бегчы. Усіх ахапіла паніка, усе пабеглі. А тут немцы. Я згубіла Людачку, шукала яе, але так і не знайшла...» Дачытваю і, сама не ведаючы чаму, хапаюся рукамі за галаву, заціскаю твар у падушку і, нягледзячы на ўсе намаганні не паддавацца, плачу горкімі і балючымі слязамі.

Пішу ў арганізацыю Чырвонага Крыжа і Паўмесяца, на радыё, у газеты дасылаю здымак Людачкі, езджу на станцыю Порына. Ніякіх слядоў. Адчуваю дзіўную стомленасць. Усе апошнія гады думала пра немагчымасць такога жыцця, без дачкі, хацелася шукаць і шукаць. Але як? Без ваганняў бяруся за пяро і пішу паэтэсе Агніі Барто, Варашылаву. Кляменцій Яфрэмавіч адказвае хутка: дасылае рэабілітацыю на мяне, раіць звярнуцца ў аблана. Але там пра лёс дачкі нічога не могуць сказаць. Зноў пішу Варашылаву, прашу рэабілітаваць мужа і дапамагчы адшукаць Людачку. Адказу доўга не чакала. У мяне на руках даведка аб пасмяротнай рэабілітацыі Івана і доўгі адказ: росшукі вашай дачкі працягваюцца.

У 55-м годзе першы выпуск пенсіянераў. Усіх выганяюць з вытворчасці, як паршывых авечак. Налічваюць 350 рублёў пенсіі і — паспрабуй пражыві на іх! Сяджу каля бухгалтэрыі і плачу. Праходзіць дырэктар, трымаецца годна, з гонарам і ў той жа час — проста, з разуменнем. «Ніна, дрэнна?» — «Дрэнна»,— кажу хрыпатым голасам, і кропелькі слёз сцякаюць па шчоках. «Сапраўды, тым, хто прывык працаваць, тым цяжка. Але нічога, што-небудзь прыдумаем!» — адказвае, і твар яго такі прыветлівы. Пачуццё безвыходнасці знікае. Удзячнасцю напаўняецца душа. Сапраўды, часова ўладкоўваюць на працу. Развожу бярвенне, фанеру, езджу па торф. Затым выдзяляюць пакойчык — дзевяць квадратных метраў. Тут мяне падкасіла хвароба, злягла, прыйшлося звальняцца. Як жыць, не ведаю.

Падыходзіць да мяне нейкая незнаёмая пажылая жанчына. «Давай хадзіць у лес, ягады збіраць. Потым з табой прададзім іх на кірмашы». Гэтае з «табой» кажа яна так лёгка і нязмушана, нібы інакш і нельга — як старой сяброўцы. Раніцай ідзём у лес збіраць ягады, а ўвечары прадаем — па сем капеек за шклянку.

У 60-х гадах атрымліваю ліст. Уважліва, не спяшаючыся, ваджу вачыма па радках, чытаю. Гэта піша Зінаіда Кухарэнка, дачка маёй суседкі, з якой сядзела ў віцебскай турме. Яна прасіла дапамагчы адшукаць яе маці. Сама Зінаіда працавала начальнікам пошты ў Гродне. Праз сяброў і знаёмых мне ўдаецца расшукаць месцазнаходжанне Кухарэнкі-старэйшай. Але што адкажу? Што «зона» зрабіла з яе мамы сапраўдную рэцыдывістку і п'яніцу? Пішу ў Гродна, указваю адрас і прашу, каб Зінаіда зразумела і не папракала маці. Праз колькі месяцаў яна мне адказала, што не застала маму жывой — тая памерла ад гарэлкі.

Працягваю пошукі, езджу ў Мінск. Спыняюся ў Эпштэйн, мы з ёй перапісваемся, ездзім адна да адной у госці. Мяне сустракаюць шэрыя, трохі выцвілыя вочы Лазараўны, яны свецяцца радасцю; яна без стомы распавядае ўсе навіны Рэспубліканскага інтэрната для персанальных пенсіянераў. Затым дзеліцца тым, што ёй удалося высветліць пра маю дачку. Нічога суцяшальнага. Больш за ўсё пакутую ад таго, што росшукі нічога не даюць. А час ляціць безупынна.

Жывецца цяжка. Атрымліваю 45, потым 49, пазней павялічылі да 65, а ў 90-м годзе далі ажно 70 рублёў. Век гаравала з упэўненасцю: усе цяжкасці перажывай сама, моўчкі, не жалься, не лаві спачувальных поглядаў. Але гады, як кажуць, бяруць сваё, і ўсё цяжэй і цяжэй становіцца жыць. Хаджу цяжка. Як не хапае мне менавіта зараз маёй Людачкі!



СТАРОНКІ НАШАЙ ГІСТОРЫІ

# МАГІЛЁЎСКАЯ ХРОНІКА
## *ТРАФІМА РАМАНАВІЧА СУРТЫ І ЮРЫ ТРУБНІЦКАГА*

*Выдатным помнікам пісьменства Беларусі першай палавіны 18 стагоддзя з'яўляецца «Магілёўская хроніка»*[1] *Трафіма Раманавіча Сурты (? — пач. 18 стагоддзя) і Юры Трубніцкага (1680 (?) — 1747). Праз гады і ліхалецці, праз пажары і войны дайшла яна да нашага часу ў рукапісе, які зрабіў сын Трубніцкага — Аляксандр. На жаль, частка яе тэксту, якая адносіцца да дзеяў 1705 і 1710—1744 гадоў, згублена і, відаць, назаўсёды.*

*Аўтары «Хронікі...», жыхары слаўнага, асвечанага Святым Апосталам Андрэем Першазванным краю, магілявяне, былі прыхільнікамі праваслаўя, беларусамі па духу, але спісалі яе па-польску. Дзіўнага ў гэтым мала: пачынаючы ад канца 17 стагоддзя, мовай, на якой пісалі насельнікі з-над берагоў Нёмана, Дзвіны і Дняпра, была польская. Прычын тут некалькі, а галоўная — наша гісторыя, трагічная і прыгожая адначасна.*

*Сёння «Полымя» прапануе сваім чытачам першую ў нас спробу няпоўнага перакладу «Хронікі...» (поўны выйдзе ў выдавецтве «Мастацкая літаратура») на беларускую мову. Гэта патрабаванне сённяшняга дня, гэта знамянальна. Таму зусім невыпадкова назвай прадмовы да перакладу сталі словы паэта, блаславіўшага вячэрняй «гвездай» нялёгкую працу летапісцаў і перапісчыкаў кніг, што збіралі, як рупныя пчолы нектар з кветак, дзеі нашай зямлі:*

*Хай тые ведаюць, што з'явяцца па нас,*
*Ўсю праўду пра жыцьцё у наш і пройшлы час,*
*Пра войтоў, лаўнікоў, і райцоў і паспольства,*
*Пра розных каралёў, і бітвы і пасольсва.*

*Што тут чынілося у даўные гады.*
*Што думалі, чаго бажалі мы тады,*
*За што змагаліся, як баранілі веру —*
*Хай зьведаюць усё патомкі праз паперу!..*

*Асноўную частку «Магілёўскай хронікі» складаюць два самастойныя летапісы, якія выйшлі з-пад пяра двух аўтараў. Першы ўклаў член магілёўскага магістрата, купецкі стараста Трафім Раманавіч Сурта. Выхадзец з кола гарадской арыстакратыі, Сурта быў чалавек неардынарны і высокаадукаваны. Ён добра ведаў працы слынных у свеце гісторыкаў М. Стрыйкоўскага, А. Гваньіні, Баронія і скарыстаў іх у сваёй. Як палітык — меў цвярозы розум дзяржаўнага мужа і сваё меркаванне на грамадскія і палітычныя падзеі, што адбываліся ў краі. Як патрыёт — быў душой і сэрцам адданы гораду Магілёву і яго жыхарам.*

*Летапіс Сурты ахоплівае перыяд з 1526 па 1701 год. Цікавая і каштоўная ў ім гісторыя Магілёва, які, на думку аўтара, «з Ласкі Маткі Божай», нічым не саступае Кіеву. Пачаў яе летапісец легендай, згодна з якой Святы Апостал Андрэй Першазванны ў час падарожжа па Дняпры, з Херсона ў Вялікі Ноўгарад і далей у Рым, благаславіў горы, на якіх «Года 1526-га. За Жыгімонта, караля польскага, і ў шасці гадах будучага сына яго Жыгімонта Аўгуста, горад Магілёў заклаўся...».*

*Зрэшты, Сурта не абмежаваўся падзеямі выключна пра места Магілёў. Пісаў ён і пра ўкраінскіх казакаў, і пра «марсавыя гульні», што вяліся на землях Беларусі ў час польска-маскоўскай вайны 1654—1667 гадоў, і пра дзяржаўных стырнавых, у прыватнасці пра Жыгімонта Аўгуста, Стафана Баторыя, Яна III Сабескага. Даволі многа месца адвёў летапісец навінам, якія людзі прывозілі «з-за мора» ці з суседняй Маскоўскай дзяржавы. Сурта быў чалавекам набожным і забабонным, адсюль ягоная схільнасць да падзей, што адбываліся ў лоне царквы або, як ён меркаваў, тварыліся ў мірскім свеце з Ласкі і Волі Усямоцнага Бога і Яго Маткі. З асуджэннем піша летапісец пра уніятаў, якія вялі духоўную вайну «супраць дагматаў праўдзіва святой праваслаўнай веры», называе іх кажанамі. Падрабязна распавядае пра цудоўнае яўленне абраза Найсвяцейшай Панны Марыі ў часе асады Магілёва войскамі князя Радзівіла. Як бы inter alias (між іншым — лац.) падае інфармацыю пра юнака, які цудоўным Божым чынам з'явіўся на свет з залатым зубам і якога ў Вільні паказвалі людзям за грошы.*

*Увогуле, фактура летапісу Сурты даволі багатая і разнастайная. Кожная яго старонка — гэта новы час, новыя падзеі і новыя людзі. Пра адно летапісец піша коратка і суха, ён як бы толькі рэгіструе факт; у другім чуецца душа і сэрца неабыякавага чалавека і грамадзяніна; трэцяе вырастае ў сюжэтнае апавяданне, і тады мы бачым у ім руку здатнага гісторыка і літаратара, руку Майстра.*

*Другая частка «Магілёўскай хронікі» (запісы за 1701—1746 гады) належыць пяру Юры Трубніцкага, рэгента гарадской канцылярыі, які ў 1747 годзе і аб'яднаў яе з летапісам Сурты. Як і Сурта, Трубніцкі быў лепшым прадстаўніком свайго народа, вылучаўся адукаванасцю і незалежнасцю ў меркаваннях, прыхільна ставіўся да праваслаўнай веры і да нацыянальных традыцый, якія склаліся ў беларускай культуры на працягу стагоддзяў.*

*Летапіс Трубніцкага — з'ява, несумненна, неадназначная. Многія яго старонкі прысвечаны грамадска-палітычным і гаспадарчым справам «горада яго каралеўскай мосці Магілёва», але не толькі ім. Яго цікавіла бурлівае жыццё цэлай дзяржавы, у прыватнасці, ваенныя дзеі Кароны і Літвы першай палавіны 18 стагоддзя,*

*палітычныя інтрыгі і, зразумела, асобы, што былі пасаджаны на мірскі і духоўны маестат з правам вышэйшай улады. Безумоўна, цікавымі і каштоўнымі ў летапісе з'яўляюцца выпіскі з «дакладна друкаваных» гістарычных кніг, якія Трубніцкі рабіў для большай дэталізацыі і праўдзівасці. З гэтай жа мэтай ён уключыў у сваю працу і асобныя літаратурныя творы, напрыклад, вершаваныя пасквілі невядомых аўтараў на польскага прымаса Міхала Радзеёўскага і караля Аўгуста II, «Карнавал замежны ў Польшчы ў 1701—1705 гг.», скіраваны ізноў жа супраць Аўгуста II і «саксончыкаў» з яго акружэння.*

*Не меншую пазнавальную і гістарычную каштоўнасць маюць і запісы летапісца пра ход Паўночнай вайны на Беларусі. Выразна пададзены тут фігуры цара Пятра I, шведскага караля Карла XII, князя Меншыкава, гетмана Мазепы і беларускага шляхціца, мечніка Бонч-Сініцкага. Да «слаўнага на ўвесь свет манарха» Пятра I летапісец адносіўся лаяльна, без уласных каментарыяў і эпітэтаў апісаў царскія «прыгоды» ў Полацку, калі той, будучы падпітым, у дзень Святых Апосталаў Пятра і Паўла, учыніў крываваю расправу над уніяцкімі ксяндзамі. Шведскага караля Карла XII называе ён Люцыферам, а першага царскага дарадцу і любімца, князя Меншыкава «чэрствым масквіцінам» і «праклятым чарвяком». Негатыўнае стаўленне летапісца да двух апошніх небеспрычыннсе: абодва яны дапускалі рабункі і тэрор, чынілі здзекі над гараджанамі і давялі слаўны горад Магілёў да страшнага ўбоства.*

*«О горад, горад Магілёў! Першы летапісец, не могучы ўзяць ніякай весткі, адкуль бы горад назваўся Магілёвам, растлумачваў, што ёсць гэта магутны леў, але ў год тысяча семсот восьмы Марс, завастрыўшы свае клыкі і зубы, аблупіў з цябе аздобную ільвіную шкуру і абвалок цябе чорным і грубым мяшком, які і будучыя часы не забудуць, што ўжо адсюль не можаш ты называцца магутным ільвом, хіба магіламі фартун тваіх грамадзянаў...»,— так пачаў летапісец год 1708, які сапраўды стаў для Магілёва чорным, бо 8 верасня, за адзін дзень, абярнуўся ён праз агонь у попел і тло. Карціна пажару, людскіх слёз і пакутаў у летапісе незвычайна драматычная, пэўна, адна з лепшых па літаратурных вартасцях і самавыяўленні аўтара, яго грамадзянскасці і чалавечнасці. Падобнае, дзе гучыць папрок за жорсткасць, за гвалт і рабаўніцтва, сустракаем мы ў Трубніцкага не так часта, хіба што яшчэ ў апісанні ўзяцця ў 1709 годзе ўкраінскага горада Батурына маскоўскім войскам ды ў некаторых эпізодах шведскай навалы. Часцей гісторыя пануе над ім, а не ён над гісторыяй, адсюль і бясстраснасць пісьма, што, патрэбна прызнаць, зусім не азначае бясстраснасць душы летапісца.*

*Падзеі «вялікай гісторыі» — несумненна, галоўнае ў працы Трубніцкага. Аднак кантрастныя рэаліі тагачаснага жыцця давалі летапісцу і такі матэрыял, які ніякім чынам да «вялікай гісторыі» не адносіўся. Яго не так многа, але ён падфарбоўвае мазаіку летапісу, дапамагае нам лепш адчуць і зразумець агульную атмасферу той эпохі, светапогляд людзей і, нарэшце, асобу самога аўтара. Як чалавек набожны, Трубніцкі верыў у знакі і цудадзейную Божую сілу. На поўным сур'ёзе пісаў ён, напрыклад, пра чарвяка-воўка, які жыў у назе ўкраінскага гетмана Мазепы і з'ядаў за дзень дзве печаныя курыцы; пра Палея, хітрага ў рыцарскіх справах і незвычайнага ваеннага прадказальніка; пра польскага пана, які, за тое, што дапусціў Бог паморак на яго быдла, не вельмі шаноўна выказаўся ў адрас Усявышняга і быў за гэта пакараны: з чалавека абярнуўся ў сабаку. З пазіцыі пэўнай выключнасці падзеі, годнай для людской памяці рэчы, падаў летапісец*

*і гісторыю пра нежынскага архімандрыта Мадэста Бялецкага, які «злёгся з замужняй грачанкай», і пра магілёўскага войта Базыля Аляксандравіча Бацвінку і ягоныя «выбрыкі», і пра свяшчэнніка Лупалаўскай царквы Яна Мамоніча Кажамячку, які выракся праваслаўя і стаў уніятам. Зрэшты, не пабаімся паўтарыць напісанае: палітра тэм, вобразаў і сюжэтаў летапісу Трубніцкага, як і ўсёй «Хронікі» ў цэлым, багатая і аздобная. У ёй, як у люстэрку, адбілася жыццё-быццё нашых продкаў, іхнія справы, вера і запаветы.*

*Таму, шаноўныя чытачы, давайце разам з Вамі перагорнем старонкі хронікі горада Магілёва і акунёмся ў даўніну, у гісторыю, бо яна, як пісаў знакаміты візантыец Леў Дыякан (X стагоддзе н. э.), больш за ўсё аказвае нам паслугу, «уваскрашае ці ўдыхае жыццё ў памёрлае, не дазваляе яму апусціцца і згінуць у бездані забыцця...».*

Гэтая кніга ягамосці пана Аляксандра Трубніцкага перапісана Юры Трубніцкім, рэгентам[2] магілёўскай гарадской канцылярыі, у годзе 1747 месяца ліпеня 30 дня з розных летапісаў, а часткаю са сваёй памяці патомным часам на памяць, што дзеялася ў горадзе Магілёве і па розных гарадах, якія паходы, войны ды іншыя рэчы. Гэта ўсё не хлусліва напісана, а як сама справа была, так прыйшламу веку да ведама і падана ў годзе 1747.

(...) Як пчала збірае з розных кветак...[3], так і я, ласкавы чытачу, часткаю з вышэйназваных... ці летапісцаў, бо пасля іх смерці пазаставаліся запісныя кніжкі..., таксама дакументы, праўдзіва, на веру, годнымі людзьмі напісаныя, а часткаю, за некалькі дзесяткаў гадоў, таксама, са сваёй памяці, што магло з яе здабыцца, і з майго меркавання, і так тады да ведама напісаў я. Хаця, таксама, не з палітычным сэнсам... невучоны летапісец, а асабліва некаторым здасца як бы і не да смаку маё меркаванне (прашу не лаяцца), бо не падаваць гэта да друку. Толькі ж як звычайна летапісцы, розным хронікам давяраючыся, каб тое, што напісана, не забывалася, пісалі, так і гэты мой летапіс пісаў я, спакушаны ахвотаю (магчыма, хто будзе ўдзячны), прыйшламу часу на скарыстанне. А так як аўтар паважнай Хронікі Аляксандр Гваньіні[4] аб нашым слаўным горадзе Магілёве ў кнігах апісання зямлі Рускай, а менавіта Мсціслаўскага ваяводства на старонцы 24, якое ні да якага ваяводства не належыць, а толькі да Аршанскага павета, так цьмяна ўспомніў, што ляжыць між Шкловам і Быхавам... А ты, чытачу ласкавы, прашу, чытаючы, не лайся, калі ёсць добрым, а гэта ўсё дабрадзейна папраў, і аб тым не шкадуй, калі хто ў дабрадзейнасці цябе вышэй, і так спазнаеш сябе самога, а хто ведае сябе самога, не пасудзіць другога і мяне, нягоднага летапісца. Дапісаў я тады гэтую маю хроніку года 1693 месяца мая дня 29 па старому календару.

Трафім Раманавіч Сурта, лаўнік[5] і купецкі стараста.

Кароткае апісанне розных гісторый.

Года па нараджэнні Хрыстуса Пана 430-га заснаванне Кіева так мы апішам. Па Узнясенні Божым на неба, святыя апосталы, жэрабям абраўшы сабе бакі свету, якія якому дасталіся па святому евангельскаму прароцтву, падрыхтавалі сабе па наканаванню Святога Духа, паводле пісьма Баронія, Апостальскі Запавет, гэта значыць дванаццаць дагматаў веры. Таму, як звычайна палкаводцы войскам... аў... запавет... між непрыяцелямі са сваімі не заўсёды роўнымі справа-

мі Святога Духа, будучы абранымі для нашага выратавання, кожны прапаведуючы Запавет і Святую евангельскую навуку, атрымаў карону вечславы. Вяртаюся я тут да сваёй справы. Выпала жэрабя Святому Апосталу Андрэю Першазваннаму на ўсходнія краіны Расійскія, якія Руссю называюцца ад рассейвання Яфетава [6] па Еўропе, пра што будзе ніжэй. Гэты Святы Апостал, убачыўшы Днепр, які блізка Херсона [7] ўпадаў у мора, пусціўся па ім лоддзю і, прыплыўшы па Дняпры да высокіх і бязлюдных гор, дзе цяперашні Кіеў, заснаваны потым, гады праз чатыры, іх блаславіў і Святы Крыж паставіў. Гэтыя горы, не дзелячыся, ідуць паласою аж на некалькі соцень міль уверх Дняпра, на якіх і Магілёў. А калі ў самым вярхоўі Дняпра не змог плысці лоддзю, уступіў у возера і пусціўся да Вялікага Ноўгарада, а адтуль у Рым. Не абмінула таксама блаславенне весляра Святога Апостала Андрэя і горы, дзе ёсць Магілёў. І так, як вышэй пісалася, Кіеў заснаваў, які называецца ад князя Кія, паводле Стрыйкоўскага, польскага храніста, які піша, што года Божага 790-га ад Святога Кірылы і з блаславення Святога Духа пісьму ў мове славянскай пачалі вучыцца рассіяне ці, дакладней, Русь [8].

Года 1526. За Жыгімонта, караля польскага, і ў шасці гадах будучага сына яго Жыгімонта Аўгуста, горад Магілёў заклаўся, а замак і валасць былі ўжо за некалькі соцень гадоў да гэтага. Праз чатыры гады пасля заснавання Магілёва, дзесяцігадовы Жыгімонт Аўгуст пры жыцці свайго бацькі Жыгімонта каранаваны на каралеўства. Пасля каранацыі свайго новакаранаванага сына, Жыгімонт І, кароль польскі, праз дзесяць гадоў памёр, гэта значыць года 1540-га [9].

Няма ніякай весткі, адкуль бы мог быць названы Магілёў назвай. Паводле б майго розуму, так патрэбна тлумачыць гэтую назву: Магутны леў, па-славянску названы, тлумачыцца моцны, дужы, вялікі, бо такі і ёсць, калі несказана меў на сябе розных ваенных навалаў, пра што будзе ніжэй, аж з Ласкі Ўсямоцнага Бога і Найсвяцейшай Панны Марыі, Маткі Божай, якой горад адведваў і адведвае, застаецца ён у сваёй годнасці.

Не паддаецца, ізноў, горад Магілёў, з Ласкі Маткі Божай, Кіеву (выключэнне толькі мошчы святых). А з Божай Ласкі і ў гэтым горадзе паказаць целы святых, бо ёсць у царкве Святых Багаяўленняў Божых бездакорнае жаночае цела гадоў сарака. Ёсць, ізноў, гэты горад Магілёў багатым на людзей вучоных, набожных, гандлёвых і на розныя рамёствы багаты, цэрквамі ўпрыгожаны, цэрквы скарбамі, працамі і штодзённым квітнеючым грэка-рускім набажэнствам упрыгожаны, з-за чаго варта прыпомніць такі верш:

Богам ратуем мы гэты град Магілёў
Праайцец і айцец Яфетавых сыноў.

Выводзячы гэты верш, тады так я яго патлумачу. Калі пасля патопу патрыярх Ной даў траім сваім сынам Сіму, Хаму і малодшаму Яфету блаславенне і раздзяліў зямлю на тры часткі, з падзелу тады прыпала на Яфета Еўропа, на якой аселі русь альбо славяне, з такімі віднымі гарадамі, не называючы ўсіх, як Кіеў, Чарнігаў і Магілёў; Яфет, паводле Кіева-Пячэрскага Сінопсіса [10] і Стрыйкоўскага, тлумачыцца славянскаю моваю як той, што расцягваецца, распаўсюджваецца і далей пашыраецца. І так, з Божай Ласкі і Найсвяцейшай Яго Маткі, з пратэкцыі найяснейшага непераможнага караля ягамосці Яна III павялічыўся гэты горад Магілёў, які з папраўленнем людскіх цнотаў можа і болей павялічыцца, бо, як піша Стрыйкоўскі-храніст, тых, што жывуць у Еўропе, называюць унукамі Яфетавымі альбо племенем Яфетавым.

Жыгімонт Аўгуст, які ў гэты час шчасліва валадарыў, бачачы, што як пчолы збіраюцца людзі да Магілёва, і каб справядлівасць і слава Божыя шырыліся, прыгожа ўмацаваў горад правам і вольнасцямі ўзнагародзіў. Адпанаваўшы тады гадоў 40, развітаўся ён года 1572-га, на вялікую жалобу Кароны Польскай і Вялікага княства Літоўскага, са светам, і так intercegnum [11] было аж да Генрыха Француза [12].

Года 1574. Генрых з Францыі з вялікім і неацэнным выдаткам абраны на Польскае каралеўства. Адпанаваўшы толькі месяцаў сем, уцёк ён у Францыю, калі ж хто жадае ведаць чаму, няхай не пашкадуе часу і працы, а прачытае хронікі, аб гэтым будзе ведаць.

Года 1576. Стафан Баторы, сямігродзкі князь, быў абраны на Польскае каралеўства і каранаваны. Пасля гэтай каранацыі былі высланы да яго ад горада Магілёва паслы-гараджане для атрымання і прысуджэння згодна з парадкам Магдэбургскага права, які, як ласкавы бацька іх прыняўшы, правам утытулаваў і атрымалі аб чым прасілі. Потым, у годзе 1577-м, пачаў горад Магілёў судзіць Магдэбургскім правам, якое мы і цяпер ужываем.

Гэты штонайяснейшы кароль, пан наш міласцівы, надаў лацінскаю моваю гораду Магілёву права на розныя вольнасці, якія зараз in archivo civitatensi conservatur [13], а гербам гораду — адну вежу з надпісам наўкола рускім пісьмом: «Пячаць горада Магілёўскага», а надаўшы, і прывілей выдаў, як тут бачыш. Кіеў у гэты час быў ва ўладзе Стафана Баторыя.

(...) Года 1586. Памёр кароль Стафан Баторы, каралягаў 10 год, 7 месяцаў і 12 дзён. Праз чатыры гады пасля яго смерці, гэта значыць у годзе 1590-м, прыйшоў да Магілёва з войскам невядома адкуль нейякісь казак ці гультай па прозвішчы Мацюша і нарабіў вялікіх шкод, было на што паглядзець, аднак горад Пан Бог уратаваў.

Года 1595. Прыйшла ізноў на Магілёў навала, ад Налівайкі. Невядома таксама, з якіх прычын гэта сталася, ці з гультайства, ці з маскоўскага махлярства, бо ў гэты час міру з Масквою не было. Таму старэйшыя людзі часта ўспаміналі Налівайку, Мазепу і Лабаду. Нездарма, відаць, не выходзіла гэта з людской памяці, бо нарабіла гэтая саранча новазбудаванаму і заселенаму гораду бед нязносных і крыві праліла нямала. Але Пан Бог гараджан-мучанікаў благаслаўляў і благаслаўляе. Гэты Налівайка Магілёў зрабаваў і цэрквы папаліў.

(...) Года 1610. У час каралявання Жыгімонта III, а за войтаўствам у гэты час Яраша Валовіча, падскарбія земскага і пісара Вялікага княства Літоўскага, войта магілёўскага, пачаліся былі ў Магілёве бунты. Зачыншчыкамі гэтых бунтаў былі Іван Харковіч, Мікіта Мілковіч, Максім Талбішаў, Гаўрыла Івановіч, Міхал Чабатар, Лавар Міхайловіч і Ісай Шчэсны. Гэтыя бунтаўшчыкі са сваімі хаўруснікамі не ладзілі з магістратам, плаціць падаткі гораду і выконваць розныя павіннасці магістрату не хацелі, на рады і сходы асобам сваім на месцы, асобна, у свой уласны звонік біць загадвалі, на ратушу і на магістрат нападалі, гвалту перад ратушаю жадалі, на судовую хату напалі, дзверы адбілі. У гэты ж час мусіў заставацца ў вялікай небяспецы і магістрат. Потым, з выданнем уласна каралеўскай граматы названаму магілёўскаму войту, памянёныя бунтаўшчыкі былі асуджаны, а пасля прысягі — пяцёра абезгалоўлены, але няма весткі, на якім месцы. Толькі даводзілася чуць ад старэйшых людзей, якія расказвалі, што былі яны пакараны на Ільінскай гары, на гэтым месцы, дзе цяпер стаіць крыж. Некаторыя гаварылі, што пакараныя людзі былі паспалітакамі, аднак

у выраку пра гэта, што былі паспалітакамі, не сказана. Калі хочаш пра гэта ведаць дакладна, чытай вырак, упісаны ў акты магілёўскай майдыберыі [14] пад датаю года 1610-га месяца ліпеня 23-га дня.

Дваіх жа асоб з гэтых бунтаўшчыкоў, менавіта Лавара Міхайловіча і Ісая Шчэснага ад пакарання памілавана, толькі што прысуджана, каб былі, калі адседзяць дванаццаць месяцаў у турме, пабіты ля ганебнага слупа і за горад выгнаны, і каб ад яго міль трыццаць circum circa [15] не жылі і не знаходзіліся. Розная маёмасць вышэйназваных бунтаўшчыкоў, рухомая і нерухомая, была пазабірана і ахвяравана ў скарб яго каралеўскай мосці. Калі ж за парушэнне законаў гэтым двум было ўчынена пакаранне, ніякага ўпаміну ў гарадскіх магілёўскіх актах я не знайшоў.

(...) Года 1611. Праз 24 гады пасля каранацыі, бо быў каранаваны года 1587-га, Жыгімонт Трэці Непераможны, кароль польскі, забраў ад вялікага маскоўскага князя Івана Васільевіча Смаленск, які здабываў гадоў сем, разбурыў, падклаўшы пяцьдзесят цэнтнераў пораху, 4 вежы, альбо, дакладней, башты, і тры сцяны мура. А Смаленск перад узяццем Жыгімонтавым ад вялікага князя Івана Васільевіча пачата будаваць гадоў за 14, будавана гадоў 7. Потым гадоў 7 жылі ў міры. А ўсіх вежаў, альбо баштаў, было вакол Смаленска 40. Князь гэтага Смаленскага замка Іван Васільевіч Тыран памёр года 1584-га. Пасля яго царом абрана князя Шуйскага, нашчадкі якога царствуюць і цяпер, аднак мужчынскі род у нядаўнія гады звёўся, пануе толькі жаночы род.

(...) Года 1632. Красавіка 29 дня памёр, пакінуўшы двух каралевічаў, Уладзіслава і Казіміра, Жыгімонт Трэці Непераможны, кароль польскі. Пасля смерці Жыгімонта абрана на Польскае каралеўства Уладзіслава, які, шчасліва пануючы, валодаў Смаленскам. Захацеў тады маскоўскі цар адпомсціць крыўды і, каб забраць Смаленск, выправіў з войскам гетмана Шэіна, а дзеялася гэта ў 1633 годзе, які моцна Смаленск здабываў і аслабіў горад, але тут прыйшоў на дапамогу гораду кароль Уладзіслаў. Пасля яго, лёдам і вадою, прыбылі вялікім войскам казакі-запарожцы са сваім гетманам па прозвішчу Залатарэнка, якія, як толькі прыйшлі, з каралеўскага дазволу ўзялі лагер Шэіна, і мусіла маскава паддацца і, пакідаўшы зброю, выпрошваць жыццё, якім, калі адпускана, давалі на дзесяць чалавек адзін нож і сякеру. Толькі немцы, якіх старэйшыя людзі называлі свавольнікамі, бо чынілі вялікія беды і гвалцілі жанчын, не паспяшаліся каралю на дапамогу, і былі б пакараны, каб не пайшлі на Запарожжа, у Кадак. У гэтым жа годзе масква Полацк высекла.

(...) Гэтага ж 1633 года. Месяца чэрвеня 2-га дня з наканавання Божага і з ласкі караля ягамосці Уладзіслава вернуты да набожнасці магілёўскія цэрквы, якія ўсе былі пазамыканы і апячатаны, гадоў 30 застаючыся без набажэнства. Пан Бог будзе судзіць за занядбанне Яго Святой Славы. А царква Узнясення Святога Крыжа, гэта значыць Ваздзвіжання Чэснага Крыжа, вернута праз год пасля гэтага. Пра тое, як жылося ў час закрыцця святых цэркваў набожным праваслаўным людзям, у пісьме і пісанні летапісцаў не давялося адшукаць ніякіх вестак. Толькі гэта прыйшлося чуць ад старэйшых людзей, што была на выгане, на Віленскім тракце, драўляная хібарка, дзе ў дзень Хрыстова Уваскрасення благаверны свяшчэннік, калі збіраліся набожныя людзі, адпраўляў святую літургію, а тады ўніяты ці жаўнеры, напаўшы, людзей разагналі і ў час самай імшы памянёнага свяшчэнніка забралі і, звязаўшы, Бог ведае куды яго завязлі. Толькі была такая чутка, што быў мучаны, а потым трапіў у Кіеўскія пячоры. А прозвішча таму свяшчэнніку было Зара.

Года 1633. Месяца чэрвеня 10 дня ў час крыжовага ходу Святой Тройцы Пан Бог, пасля прыйшлай радасці, што былі вернуты Божыя цэрквы, адведаў смуткам. Вялікая колькасць людзей, якія плылі паромам на другі бераг Дняпра да Святой Тройцы на набажэнства, патанула. Гаварылі старэйшыя людзі, што гэта ўніяты ад зайздрасці ноччу падрэзалі паром. Пан Бог гэта рассудзіць. У гэтым жа годзе Сухадольскі здаў Самсонскаму магілёўскае ландвойтаўства. У гэтым жа годзе згарэў Магілёўскі замак.

Года 1636. Месяца жніўня 1-га дня, пасля той духоўнай вайны, што вялі супраць дагматаў праўдзіва святой праваслаўнай веры тыя кажаны, альбо ўніяты, Брацкая царква асвечана, гэта значыць усё брацтва магілёўскіх гараджан, запаліўшы ў сваіх сэрцах агонь, падахвочаныя Святым Духам і ўзрушаныя Божаю Міласцю, з дастаткаў сваіх убогіх такі слаўны будынак царквы Святога Багаяўлення, альбо, дакладней, па-руску, Хрышчэння ў Іярдане, а з правага боку Паслання Святога Духа, а з левага — Нараджэння Найсвяцейшай Панны, пачаўшы збудавалі і асвяцілі. Аднак жа з дакументаў, што належаць Брацкай царкве, аказваецца, што калятарамі [16] збудавання гэтай царквы былі Агінскія, якія, застаючыся ў гэты час у веры, аддалі на збудаванне царквы і на славу Божую многа грошай і старанняў.

Года 1648. Месяца мая 20 дня, адпанаваўшы шчасліва на польскім каралеўстве 16 гадоў, Уладзіслаў IV, кароль польскі, замяніў жыццё на смерць, а ў яго панаванне і брама, якая называецца Алейнай, у нейкім годзе збудавана. А пасля смерці Уладзіслава абрана за караля Казіміра.

У гэтым жа годзе падняўся згубны вецер супраць манарха і Рэчы Паспалітай як Польскай, так і Вялікага княства Літоўскага. Багдан Хмяльніцкі, які ў многіх бітвах супраць палякаў даказваў рыцарства, і Украіну ад польскага падданства вызваліў. Што ў гэты час адбывалася, адсылаю я да наступных летапісцаў. Праз год пасля гэтага меў Хмяльніцкі пад Пілавай [17] бітву з польскімі гетманамі Патоцкім і Каліноўскім, а пад Збаражам [18] заключаны з казакамі дагаворы.

Года 1654. Маскоўскае войска наступіла, сіле якога горад Магілёў не змог працівіцца, мусіў з рады правялебнага ў Бозе айца Еля Труцэвіча, ігумена Куцеінскага кляштара, паддацца, якога ў 1655 годзе маскоўскі цар Аляксей Міхайлавіч з усёю браццяюманахамі, і каштоўны алтар з Куцеінскай царквы, зэгар, таксама, вывез за Маскву, пад Вялікі Ноўгарад, міль трыццаць ад Ноўгарада, а ад маскоўскай сталіцы міль сто дваццаць, на востраў, на возера, якое называна Святым. Там жа за вялікія грошы маскоўскага патрыярха Нікана кляштар з замкам і горад, названы Валдаем, на беразе заклаў і польскімі людзьмі засяліў.

У гэтым жа годзе месяца лютага 6-га дня масква пад Шапялевічамі разграміла Радзівіла. Пакуль Радзівіл цягнуўся пад Магілёў, тут жа, каля Новага Быхава, натрапіў ён на Залатарэнку, дзе з ім і змагаўся. Потым пад Старым Быхавам быў Залатарэнка забіты.

Года 1655. Труп гэтага Залатарэнкі з помпай праводзілі ў Корсунь, дзе яго пышна ў драўлянай царкве і хавана, што на яго стан і не гадзілася б. Ад катафалка загарэлася царква, а людзі, ціснучыся, пазачынялі царкоўныя дзверы, толькі самога Хмяльніцкага выцягнулі, а ўвесь народ, якога і не лічана, згарэў у попел, толькі потым назбіралі некалькі скрынак пагарэлых падковаў. Такое няшчасце Пан Бог дапусціў, што, як гэта гавораць, пры сухім і сырое гарыць.

Года 1655. Месяца лютага 6 дня, на святога Міколу, рушыўся

Радзівіл з Шапялевіч да Магілёва, а Паклонскі хацеў узяць горад раней, з-за чаго магілёўцы, асцярогшыся, пахаваліся за вал, бо такога замка яшчэ не было. Хутка пасля яго наступіў князь Радзівіл, тыдняў дванаццаць рабіў розныя штурмы, як мог здабываў падкопамі, нават гусарыю, глумячыся над ёю, гнаў на штурм, хацеў зраўняць горад з зямлёю. Аж з ласкавым умяшаннем Найсвяцейшай Панны Марыі, Маткі Божай, якая свае гарачыя малітвы і найдаражэйшыя слёзы скіроўвала да маестату Божага, застаўся горад цэлым, якім ён яўлены на абразе Найсвяцейшай Панны Марыі, што знаходзіцца ў Брацкай царкве. А гэтае цудоўнае яўленне было года 1655 дня 19 сакавіка, на святых Фрысанфа і Дар'і. З'явіўся гэты абраз у адной удавы бабкі, пякаркі, якая ў гэты час жыла на тым месцы, якое мы цяпер называем капліцай Яўлення Іконы. Была на гэтым месцы, дзе цяпер архірэйскі сад, драўляная капліца, ад якой цяпер і следу няма, а толькі выбудаваны ў два паверхі дом, унізе якога крамы, а наверсе — пакоі. І аб'явіўся гэты цудоўны абраз якраз тады, калі Радзівіл, не могучы здабыць горад, зрабіў пад яго падкопы і, уставіўшы ў іх некалькі дзесяткаў бочак пораху, хацеў узарваць вал. І калі ўжо ўсё войска стаяла напагатове, чакаючы ўзрыву горада, у гэты час гэтая белагаловая, каб вырataваць канец свайго жыцця, горача малілася перад абразам Найсвяцейшай Панны. А ў той час, калі пад горадам быў запалены порах, яна ўбачыла, што з абраза цякуць слёзы. І малітвамі Найсвяцейшай Панны гэтая Божая кара адступілася ад горада, а абярнулася на вайсковы люд, што горад здабывалі. І многа паспалітых людзей у час гэтага ўзрыву загінула, а горад з людзьмі засталіся цэлымі, і адступіў Радзівіл (...)

У гэтым жа годзе, а менавіта дня 2-га мая, Радзівіл, загадаўшы выпаліць усе прадмесці, павярнуўся наўцёкі і многа людзей розных станаў за сабою ў чужыя землі забраў блукаць, і ўсе прадмесці спустошыў, абрабаваў і зруйнаваў.

Перш чым прыйшоў Радзівіл да Магілёва, Паклонскі, сабраўшы скуль мог гультайства, уцешыўшы сябе фантазіяй узбагаціцца з рабунку, задумаў вывесці жыдоў як бы ў Літву і загадаў усім жыдам рыхтавацца ў дарогу. А яны, выбіраючыся са сваімі скарбамі, дзе маглі хавалі залатыя дукаты, у хлябы запякалі, жанчыны і дзяўчаты ў косы заплятaлі. І так вывеўшы за Пячэрск, усіх жыдоў загадаў пасекчы і ў магілы (капцы якіх ёсць і сёння) пазасыпалі, і многа ў іх багаццяў у розных схованках пазнаходзілі. Многа, таксама, у гэты час жыдоўства, што засталіся, якія не пайшлі з Паклонскім да Літвы, пахрысціліся, з якіх і дзесятая частка не памёрлі ў хрысціянстве, зноў потым жыдамі сталі. Сцвярджаюць, што гэты Паклонскі быў паповіч з Чарнігава. А жыды магілёўцы і зараз святкуюць гадавіны па загубленых, ходзяць за Пячэрск на іх капцы плакаць.

Года 1655. Хутка пасля адступлення Радзівіла прыцягнуўся да Магілёва з вялікім войскам маскоўскі цар Аляксей Міхайлавіч, які, пабыўшы тут толькі адзін дзень, пайшоў пад Вільно, Вільно ўзяўшы, падышоў пад Рыгу. Рыжане быццам бы падвялі падкоп пад палатку, дзе стаяў цар, але яго папярэджана, і так адступіў ад Рыгі. А так далася Рыга маскве ў знакі, што акружылі яе і з вачэй, і з тылу. А калі масква стругі цягнула, то навучылася прыгаворваць: «Братцы осудары, сматрыця, гаріцці гэтая блядзь Рыга, праўда, што яе чорт выдумал». А калі плылі стругамі з гарматамі і з правіянтам, не так спявалі, плывучы да Рыгі: «Праўда ету Рыгу Бог выдумал, пагрaбай, пагрaбай, да за гушчў, сухаркі ў галавах, квасок у нагах»,— чаго і цяпер успамінаць не любяць. А пасля гэтага за год і Шклоўскую браму муравaць пачата. Вярнуў-

шыся тады з-пад Рыгі да Магілёва, стаяў цар ягамосць два тыдні ў Магілёве.

(...) Года 1659. Прыцягнуліся да Магілёва тры маскоўскія ваяводы, адзін з якіх — Даўгарукі. Гэты загадаў высекчы ў Магілёве сады, па якой прычыне, няма вестак. Другі — Лабаноўскі, трэці — Сямён Данілавіч Змееў. Адсюль гэтыя трое з войскам падступілі пад Быхаў, стаялі тыдняў трыццаць, а потым са здрады і намовы Ільнічаў, Рачкоўскіх і Шульцаў здаўся горад. Пасля здачы горада Быхава ўвесь люд у горадзе быў высечаны пад корань.

У гэтым жа годзе. Пад Брэстам князь Сямён Урусаў з маскоўскім войскам быў моцна сеў на польскае, якога прасілі на некалькі дзён перадышкі і які не даў, а сказаў: «Нам у Брэсце ганарова». Так і заганарыліся, што да аднаго паляглі на полі бітвы.

Года 1660. Гетман Чарнецкі, ваявода рускі, і Сапега, гетман літоўскі, на Палонцы, пад Ляхавічамі, дашчэнту разбілі Хаванскага. А, скажам, рупліўца-воін Змееў, мілуючы паражэнне пад Ляхавічамі, загадаў намаляваць гэтую бітву мастаку Марыяну, італьянцу, які ў гэты час сваім домам жыў у Магілёве, там, дзе ва ўласнасцях магілёўскіх ксяндзоў езуітаў пабудавана Тычынава камяніца. Выпісаў па такому выпадку па-маскоўску, паказаўшы сутычкі гусарыі панцырнай, казацкай, райтарскай, венгерскай, драгунскай і іншых як след, як уборам, так і адзеннем, з рыштункам харугвы літоўскія і каронныя, маскоўскія, таксама конных райтараў і салдатаў. Толькі здалося Змееву, што неяк не па форме мае масква ўборы, таму, сеўшы каля карціны, сказаў мастаку: «Марыян, такія тут у цебя прамыя, хітрыя ляхавскія глаза (гэта значыць вочы), нашых тут хужэй папіса́л, а сваіх ляхав лучшы, а калі б сам быў у гэтай бітве, дазнаўся б самой сутнасці».

(...) Адтуль уцякаючы, быў Хаванскі біты пачынаючы ад Друцка аж да Чарэі, асабліва пад Кушлікамі Кміціцам, Чарнаўскім і Лісоўскім, аж прыходзіць царская грамата, у якой жадаў цар ведаць пра бітву.

Чарнецкі тады з Сапегам у гэтым жа годзе месяца чэрвеня 18 дня прыйшлі пад Магілёў, у Пятроўку. Чарнецкі стаў лагерам на гары ў Буйнічах, а Сапега за Лупалавам, за гарою, потым пабудавалі на Дняпры мост і для абароны маста ўмацавалі гарадок. Потым з горада масква і ахвотнікі гараджане пайшлі раскапаць гарадок і разбурыць мост, якіх Сапегава войска, якое ішло ад Мышаковай гары, прыціснуўшы да берага, днём пасцінала ўсіх пад корань і патапіла. А потым усе прадмесці, дорага брусаваныя, цэркви Успення Найсвяцейшай Панны Марыі і новазбудаваную Пакрова і другія папалілі, цэлаю засталася толькі Узнясення Святога Крыжа, хоць і яна была некалькі разоў запалена, але абаронена. У гэтым жа годзе меў Даўгарукі з Чарнецкім і Сапегам бітву на Басі-рэчцы, дзе, таксама, быў і Аскірка, тут Даўгарукага разгромлена.

(...) Года 1661. Месяца лютага 1-га дня, на святога Трыфана, высеклі ў Магілёве гараджане магілёўцы маскоўскі гарнізон. А траіх ваяводаў, Сямёна Савіча Гарчакова, Мацвея Андрэевіча Палуэктава і Сямёна Іванавіча Чэкіна, стралецкага галаву, палонена і да караля Яна Казіміра з пасланымі ад горада панамі Пятром Казановічам, войтам, Базылём Леашкевічам, Юзафам Порам, бурмістрамі, адвезена і аддадзена. За такую значную паслугу і адвагу для ўсёй Рэчы Паспалітай і пячаць вялікая: на крывавым полі ў адчыненай браме тры вежы, узброены рыцар з узнятым мячом, а наверсе, над сярэдняй вежай, літоўская пагоня з надпісам вакол у лацінскай мове: «Sigillum civitatis Mohiloviensis» [19], як тут бачыш. Гэтага парубання маскоўскага гарнізона з рады на гэты час галоў-

ных гараджан атаманам быў Пора, бурмістр, са сваімі памочнікамі на такое адважнымі. Аднак была ў гэты час і таемная змова гараджан, што кожны гаспадар ноччу ў сваёй гасподзе выкруціць салдату з ружжа крэмень. І калі ўжо надыходзілі час і гадзіна, Пора, бурмістр, меў схаваны пад адзеннем катаўскі палаш, а калі ўбачыў, што маскалі гвалтам бяруць пірагі і гарадскіх пякарак, перахрысціўся і пачаў маскву секчы, а гэтым часам на гвалт у брацкі звон ударана, стаў шум, разруха, бой, вайна. І пачалі былі масква браць верх, але нейкі гараджанін адамкнуў турму, у якой знаходзілася многа вязняў палякаў. Гэтыя вязні добра дапамаглі, бо за некалькі гадзін маскву збіта і абрабавана. І так большую частку голымі пахавана на Самусёвай гары, тут, дзе стаіць крыж, а частку каля Пакроўскага шпіталя, дзе луза [20], а другіх пахавана дзе было можна. Гараджан у гэтай бітве загінула мала, толькі некаторых паранена. Герб за гэтыя паслугі такі гораду дараваны [21].

(...) Зноў Хаванскі з Пацам, які ў гэты час быў рэйментарам [22], меў пад Віцебскам, на Вобалі, такую вялікую бітву, што Хаванскага разбіта дашчэнту. І калі б сам Хаванскі не схаваўся пад мост, быў бы палонены. Які пазней, калі прыйшла ад цара грамата, каб уведаміў пра бітву, так загадаў паддзячаму: «Пішы, што быў роўны бой з панам Пацам, да д'ябла роўны, калі пад мост схаваўся». Потым гэтаму ж Пацу, калі ўжо стаў гетманам, трапілася, што быў злоўлены маскаль-шпег, якога ён загадаў павесіць. Паслаў Пац да яго жаўнера, каб спытаўся, як бы хацеў памерці. Адказаў: «Право, ні на што ахота не берот». І так, дзеля смеху, вызвалілі яго ад смерці.

Года 1604. Месяца лютага [24], на першым тыдні вялікага паста, адведаў Пан Бог горад агнём. Пачало гарэць ад дома Савы Ціхенкіна, дзе цяпер за весавою камяніца. Крамы пагарэлі ўсе, а дамоў мала што.

У гэтым жа годзе. Месяца сакавіка 20 прыйшоў з-за пушчы кароль Ян Казімір. Потым, пры ягонай бытнасці, месяца красавіка 6 дня ізноў адведаў Пан Бог горад агнём ад дома, што недалёка ратушы, дзе ў гэты час жыў Гаўрыла Пжэкста, а цяпер камяніца Васілеўскіх (якая ў 1740 годзе разабрана і аддадзена на збудаванне кармеліцкага кляштара). У гэты час згарэлі ратуша, крамы, царква і званіца, а званы нават паплавіліся. Гарэла аж да жаночага кляштара, у якім была цудоўная студня, ад таго часу згінула. Кароль жа, бачачы, што пры ягонай бытнасці гораду нешчаслівіць, месяца красавіка восьмага дня ад'ехаў з горада.

(...) У гэтым жа годзе. Князь Якаў Кудэнекавіч Чаркаскі з Празароўскім і з Баратынскім абложылі Копысь і Шклоў. А Міхал Пац, ваявода віленскі, стаў з войскам пад Шкловам, дзе масква, патаемна пераправіўшыся цераз Днепр, наступіла вялікім войскам месяца чэрвеня 15-га дня. Што бачачы, адступіў гетман да Магілёва, а князь Якаў следам з усім войскам таксама пад Магілёў, дзе маскоўскія войскі сталі за дальнім валам, а гетман, з усім войскам і з гусарыяй, таксама за валам. З'язджаліся цэлы дзень. А масква моцна біла з гармат аж пад самы горад, туды, дзе са сцяны Шклоўскай брамы глядзелі людзі, і нямала гэтых, што глядзелі, напалохалі, бо брама была яшчэ не накрыта. Бачачы каля горада такую страляніну, назаўтра загадалі гарадскім збройнікам нарыхтаваць разбуральныя гарматы. І калі апоўдні ў лагеры пад намётам князь Якаў Кудэнекавіч з другімі абедаў, гарадскі пушкар навёў з круглай вежы малельні, з бакавога выхаду (бо войска стаяла на Віленскім полі) гарматы і, даўшы агню, забіў князя Якава Кудэнекавіча Чаркаскага. Што бачачы, затрывожыліся масква і, забраўшы целы забітых, у гэтую ж ноч кінуліся наўцёкі. І калі б у гэты

час насеў на іх гетман, усіх паваліў бы пагалоўна. А так праставу гетман лагерам за Дуброўнам у дальнім вале тыдняў 14. Пры бытнасці на гэты час гетманаўскай, забракавала яму здагадкі, а ў караля Казіміра з'явіліся шэлегі [23].

(...) Года 1666. Ягамосць пан Любамірскі ваяваў супраць караля Яна Казіміра як бы з гэтых прычын. Каралева, яемосць Казіміра ва, мела брата, якога розныя сенатары (што згаварыліся) меліся абраць за караля, а кароль Казімір, яе муж, меўся каралеўства ўступіць, таму і ўступіў, пра што будзе ніжэй. Падпісаліся тады панове на такое, чаго ягамосць пан Любамірскі не дазваляў. Каралева, каб Любамірскі падпісаўся, прыдумала такі фокус, паабяцала з сабою прыяцельства, што «я за свайго брата вазьму тваю дачку, і так будзе ў Польшчы каралеўнічаць». Любамірскі, згадзіўшыся на такое, падпісаў. Потым, помнячы абяцанне каралевы, доўга не мог давесці яго да выніку. Бачыць, што з гэтага нічога не будзе, і прыдумаў фокус на фокус. Калі кароль Казімір паехаў на курорты, ён, выбраўшы час, з падуладнымі панамі прыехаў на палац і кажа, што: «Міласцівая каралева, нямаш тут яшчэ ўсіх». Яна ж, узяўшы аўтэнтык [24], паказала яму, які прачытаўшы, пытаецца Любамірскі: «Калі ж наступіць абяцаная прыязнь?» Аж адказвае каралева: «Як свет светам, не будзе Любамірскі сватам каралевы». Ён, бачачы такі вынік, парваў аўтэнтык. І так быццам бы з такіх прычын была гэтая вайна, чаго праўда ці не, я не ведаю.

Года 1667. Месяца ліпеня 20 дня, на святога Гальяша, ізноў адведаў Пан Бог горад агнём. Пагарэлі крамы і частка дамоў. У гэты ж час прыбыў да Магілёва ягамосць айцец Есіф Нялюбавіч Тукальскі, кіеўскі мітрапаліт. Зімаваў у Магілёве, а потым вадою ад'ехаў да Кіева. У Кіеве, у Брацкім кляштары, быў нядоўга, з квадранс [25], і хутка ад'ехаў, не ведаю чаму, у Чыгірын, дзе жыў з Дарашэнкам, там і памёр. А Дарашэнка, які бунтаваў супраць караля, знюхаўшы нешта не да смаку, перакінуўся да маскоўскага цара Аляксея. Жыў пад маскоўскімі царамі ў спакоі, але не было яму вольна выехаць за граніцу. Памянёны мітрапаліт Тукальскі тры гады сядзеў у Мальборку ў замкавай вежы, а гэта з той прычыны, што быў ён дарадцам адлучэння ад палякаў. А калі вызваліўся з Мальборка і ехаў да Магілёва, у час ягонай бытнасці ў Вільні, у праваслаўным кляштары, было прывезена з Рыма, з кансервацыі, цела святога Ёзафата, і па такому выпадку жадана, каб у праваслаўнай царкве Святога Духа звонена. Тады гэты мітрапаліт, ведаючы, што быў Ёзафат галоўным непрыяцелем благавернасці, загадаў не званіць. За што хацелі ізноў узяць яго ў турму, але ён, папярэджаны, патаемна выехаў з Вільні ў Магілёў.

Года 1668. Кароль Ян Казімір, злажыўшы, не ведаю чаму, з Польскага каралеўства карону, падаўся ў кляштар, бо і на каралеўства пасля свайго брата Уладзіслава быў узяты з кляштара, а стаўшы каралём, узяў за сябе брата ву жонку, з-за чаго не вельмі шчасліва вялося ў Польшчы і Літве. Пан Бог гэта ведае. А пасля яго ў ваяводствах і паветах каптурам [26] суджана, таму з гэтых судоў, пакуль згадзілася на элекцыю [27] караля, было вельмі цяжка як гарадам і мястэчкам, так і розным людзям, якія ў гэты час мелі справы.

(...) Года 1670. Міхала Карыбута Вішнявецкага... за караля абрана, месяца верасня дня 19 каранавана. Хутка і вайна з туркам паўстала. У гэтым жа годзе Міхал Пац, вялікі гетман Вялікага княства Літоўскага, атрымаў пад Хоцімам перамогу над туркам. Пасля гэтага і Камянец-Падольскі страцілі. Пан Бог будзе судзіць, як ён дастаўся турчыну. У гэтым жа годзе дрэвы і птаства, людзі і быдла мёрзлі, а потым настала дарагавізна на збожжа. Нядоўга панаваўшы, кароль Міхал развітаўся са светам...

У гэтых жа вышэйназваных гадах з'явіўся ў турэцкай дзяржаве нейякісь самазванец, жыдовін на імя Сапсай Гершонавіч, які называў сябе месіяй і які сваім шарлатанствам ці чарамі быў чуцён амаль ва ўсім свеце. Бо калі падыдзе пад горад і падман свой пусціць, загадае ў трубы затрубіць народу жыдоўскаму, тады са страху некалькі дзесяткаў гарадоў паддалося. А жыды тыя смярдзючыя былі ў гэта так уверылі, што з жонкамі і з дзецьмі пасцілі, па снезе качаліся, у рэках зімой купаліся. Потым з Ласкі Божай і за малітвамі канстанцінопальскага патрыярха ў Канстанцінопалі, у царкве, у прысутнасці турэцкага імператара, калі ён быў акаваны і прыведзены, ягоны падман закончыўся. І так загадаў імператар злупіць з яго жывога шкуру і павесіць на круку. І так псота закончылася, а падманваў чатыры гады, бо быў чуцён яшчэ ў 1667 годзе.

У гэты ж час... пачаліся такія страхі. Як у Кароне Польскай і ў Вялікім княстве Літоўскім, так і ў розных краях і гарадах, і ў Магілёве, невядома кім былі пісаны чырвонай крэйдай надпісы на касцёлах і цэрквах так высока, што на некалькі сажняў уверх, што ніхто гэтага напісанага не мог прачытаць. Таксама ў некаторых месцах людзям, якія бахваліліся, што гэтага страху не баяцца, бароды стрыжана, а жанчынам сорамныя члены.

Года 1674. Паказвана ў Вільні юнака з залатым зубам, паказвана людзям за грошы, пра што сведчыць ягамосць ксёндз Катовіч; загадаў віленскі біскуп залатніку спрабаваць зуб на камені з залатым дукатам. А нарадзіўся быў гэты юнак у вёсцы недалёка ад Вільні. Потым са зрокаў адной жанчыны-чараўніцы юнак і матка памёрлі.

Года 1676. Месяца чэрвеня Яна III караля польскага, нам шчаслівага ў панаванні, каранавана, які, дай Божа, каб шчасліва пануючы жыў доўгія гады. Avditum [28]. За морам немец, што страляў у неба, абярнуўся ў сабаку.

Патрыярхі Паісій александрыйскі, Макарай анціёхскі былі на маскоўскай сталіцы ў цара ягамосці Аляксея Міхайлавіча, які са згоды маскоўскага патрыярха змяніў у царкоўных кнігах малітву «Госпадзі Ісусе Хрысце» (Сыне Божы выкінулі). Ад гэтага часу многія, такога не прымаючы, паканалі смерцю. У гэты ж час у Бароўску спалена княгіню Бароўскую, ужо старую жанчыну, якая за гэтую малітву ішла на агонь як пад вянец. За гэтую ж малітву Салавецкі кляштар праз штурм высечана. У гэты ж час памёр Аляксей Міхайлавіч, цар маскоўскі. І так з гэтага часу пачалося блюзнерства, якіх называюць Піліпаўцамі, і так гэтых блюзнерцаў у розных краінах размножылася... У гэтым жа годзе моцна выгарала Рыга, але магілёўскім купцам мала што нашкодзіла.

(...) Года 1681. На рымскае Божае Нараджэнне з'явілася з зоркі страшна вялікая камета, якая ўсяму свету была відома, і бачна была некалькі тыдняў. Праз год пасля гэтага ў Маскве пасечана штонайадборнейшых баярынаў, з палацаў выкідвана без лічбы, шкадуючы час, не называю я гэтых людзей.

У гэтым жа годзе. Перад Дзесятаю Пятніцаю [29] гаспадарылі страшныя перуны; у Камаровічах, пад Крычавам, забіта рагатага быдла штук 113, што мы самы бачылі. У гэтым жа годзе ў Маляцічах у возеры выбіты ляшчы, і кожны ў правы бок. Што ўсё, як быдла, так і рыба, каб не смярдзелі, пазакопвана ў зямлю.

Года 1682. Міхал Пац, ваявода віленскі, гетман Вялікага княства Літоўскага, дасканалы палкаводзец і знаўца ў ваенных справах, развітаўся са светам. Даўся гэты палкаводзец у знакі розным народам, нямецкім, турчынам, татарам, і маскаль яго некалькі соцень гадоў не забудзе, якому дай Божа вечную святасць.

У гэты ж час былі багатыя ўраджаі, што мерка жыта ў 10 гарнцаў [30] каштавала па 13 і 14 грошаў.

(...) Года 1683. За мілю ад Магілёва, у вёсцы пана Каркоўскага Котушы, нарадзіўся вырадак жаночага полу а дзвюх галавах і адным целе, які нежывы быў паказаны ў Магілёве ў двары і якога невядома дзе закапалі.

(...) Года 1684. У верасні пад Венай атрымана з вялікім трыумфам палякамі вікторыя над туркам.

Гэтага ж года 1684. Камісары, ягамосць пан Гжымалтоўскі, пазнаньскі ваявода, ягамосць пан Агінскі, канцлер Вялікага княства Літоўскага, ягамосць пан Гэнбіцкі, стараста ускі [31], ягамосць пан Пшыемскі, стараста каліскі, што ездзілі ў Маскву дамаўляцца аб вечным міры, вярнуліся назад. А ў Маскву ехалі ў годзе 1683. У гэтым жа годзе баярын Чадаеў, другі — Шарамецьеў, трэці Волкаў, маскоўскія камісары, ехалі ў Польшчу.

У гэтым жа годзе. У Магілёве за валам, на Шклоўскай вуліцы, жыдоўка па імені Шэйна, дачка чашніцкага арандатара Вульфа, жонка Азіка Габрыяловіча, нарадзіла дзіця нечалавечага выгляду, з кіпцюрамі, падобнае на калматага мядзведка. Гэтага вырадка тут да д'ябла і закапана.

(...) Года 1686. У Магілёве, у самім горадзе, было мноства рысяў, якіх некалькі дзесяткаў забіта і на прадмесці, і ў горадзе некалькі забіта, а гэта напэўна з незвычайна вялікіх снягоў (бо ў гэтую зіму гаспадарылі шчодрыя снягі і лютыя маразы), што не маглі мышкаваць, а магчыма, таксама, і з якой другой прычыны.

Года 1688. З напісанага авізо [32] зрабіў я для памяці копію. У Неапалітанскім каралеўстве, у святочны калядны дзень, адбылося нечуванае і страшнае трасенне зямлі..., бо ў самім слаўным горадзе Неапалі зруйнавала самыя слаўныя касцёлы і каля тысячы палацаў..., дамоў, духоўных камяніц. У час такога жахлівага трасення, якое працягвалася да Віншавання Панны Марыі [33], зямля ў розных месцах трэскалася і правальвалася, горы і скалы разыходзіліся, творачы енкі і мукі... у людзях і неацэнныя страты. Inter alias [34]: касцёл айцоў езуітаў упаў разам з купалам і з тысячы людзей забіў трох айцоў езуітаў. І не толькі ў Неапалі нарабіла такой вялікай бяды, але і ў іншых гарадах гэтага каралеўства і ў другіх месцах. Горад, называны Баневента, праваліўся цалкам, акрамя аднаго касцёла, дзе цудоўным Божым чынам кардынал Гравані, біскуп гэтага горада, крыху паранены, выратаваўся. Лічаць, што ў гэтым горадзе загінула каля васьмі тысяч чалавек. Аднак у самым Неапалі не маглі яшчэ ведаць лічбы загінуўшых, толькі знойдзена іх сярод руінаў нямала. Пашырыўшыся потым далей па Неапалітанскім каралеўстве, гэтае трасенне зямлі акрамя шкоды, што нарабіла ў горадзе Капны і ў другіх гарадах, вывернула з грунту чатыры воласці князя Металонскага. Вось, проста, такая гісторыя. Каля тысячы гадоў не пішуць пра такое страшнае трасенне зямлі. І думалі ўсе, што наступіў гэта ўжо Божы Суд. Дасталося, таксама, гэтага трасення і Рымскай зямлі, толькі тут было яно слабейшым і з меншай шкодай. Болей нашкодзіла ў Феражы, бо ў гэты ж час тут, як і ў самім Рыме, бесперапынна панавалі дажджы, вятрыскі і халады, што было вельмі страшна.

(...) Гэтага ж года 1688. Паводле заключаных дагавораў з каралём, панам нашым міласцівым, выправілі іх мосці царове на Крым гетмана маскоўскіх войскаў Васіля Васільевіча Галіцына, пляменніка іх царскіх вялікасцей, з Іванам Паповічам, на гэты час ужо былым северскім гетманам, дзе, калі яны зайшлі за Сумарраку, пад замак, пастаўлены над гэтаю ж ракою, называны Багародзіцын горад, згаварылі на Паповіча нейкую здраду і, яго ўзяўшы,

акавалі і з сынам вярнулі назад. Паповіча саслана ў Сібір, а Рыгору, ягонаму сыну, загадана адсекчы галаву, Якава, малодшага, цесць, пан Швайкоўскі, выкупіў. Пасля гэтага казакі, бачачы зычлівасць Мазепы, аднадушна абралі яго гетманам, пра якога будзе напісана ніжэй.

Тады маскоўскія царове, выпрабоўваючы вернасць новаабранага гетмана, выправілі на наступны год ізноў гэтага ж Галіцына з гетманам Мазепам, якія сумленна пайшлі на нечуваную ад веку вайну, бо каб хто да Крыма дайшоў, і хронікі пра такое не сведчаць. Прыйшоўшы да Перакопа, сталі яны з войскам на полі, называным Бычыным востравам, альбо Малочным полем, а паганыя, убачыўшы з перакопскіх валоў такую нечуваную на сябе навалу, пачалі самі, як дзяўчаты, так і жанчыны, сябе забіваць, тапіць і вешаць. А хан з мужамі, з жанчынамі, пасля амавення пачаў перагаворы, і так у п'яных размовах падарункамі, засыпаўшы ў бочках медныя пласціны золатам, скваппнага палкаводца Галіцына ашукалі. Тады царове, даведаўшыся, што паквапіўся Галіцын на ласунак, бочкі з меднымі пласцінамі, засыпаныя залатымі дукатамі, пазабіраў, а Галіцына, акаваўшы, загадаў заслаць туды ж, куды і Паповіча, і яшчэ ў сто разоў далей.

Года 1688. У Варшаве на вальным сейме аб'явіўся супраць Пана Бога, супраць Яго Святой Волі, блюзнерца, атэіста па прозвішчы Лышчынскі, брэсцкі падсудак, якога, хоць і бунтаваў, асуджана на агонь і спалена. Блюзнерства яго было цяжка і слухаць, якое я, каб не распуснічаць, пісаць апускаю. У гэтым жа годзе, у маі, адліты звон царквы святога Міколы.

Года 1690. З Божай кары на Украіне, за Дняпром і на Севежы, таксама на Палессі і каля Слуцка, на Чорнай Русі, саранчы, ад веку мала чуванай, так было многа, што калі яна на што нападала, ці на збожжа якое, ці на травы, то ўсё з'ядала, што не было чаго ані жаць, ані касіць. Каля Магілёва і ў горадзе яна нічога не шкодзіла. Аднак жа злавіў я ў самім горадзе такую вялікую, як малы палец на руцэ, галава, як лясны арэх, падлюгаватая, вочы, як гарчычнае зерне, зубы белыя, вострыя, як канец іголкі, крылаў чатыры, ног шэсць, пярэднія меншыя, сярэднія большыя, а заднія, як у вераб'я, таўсцейшыя і даўжэйшыя. І калі б Пан Бог не даў дажджоў, то за некалькі дзесяткаў тыдняў моцна яна і ў нас нашкодзіла б, аж з макрэчы ўся пагінула, што было тут яшчэ і ў мінулым годзе, чаго я сам сведка.

(...) У гэтым жа годзе. Пан Бог адведаў агнём горад Шклоў, амаль увесь замак з вялікай вежай, фара і крамы пагарэлі. Пасля гэтага, месяца жніўня 15-га, панамар Данііл запамятаваў патушыць у царкве свечы, ад якіх згарэла багатая шклоўская царква з усімі скарбамі, кнігамі, начыннем, званамі, нічагусенька не засталося. І так гэты здрайца ўцёк, бо быў бы сам спалены.

Года 1692. Кароль ягамосць, пан наш міласцівы, з сілаю каронных і літоўскіх войскаў хадзілі на турка і арду, дзе, прайшоўшы валашскія землі каля гарадоў Сачавы і Ясы і пакінуўшы ў замку, называным Немец, гарнізон, пусціліся шукаць непрыяцеля далей. А ў гэтым разе, яшчэ ў неспадзяваныя часы, знянацку, выпаў страшэнна вялікі снег, і так ад голаду, без корму, коні іх паздыхалі, і самі, таксама, досыць нацярпеліся голаду. Нямала людзей у гэты час загінула. Папакідаўшы падводы, намёты і другія безваротныя скарбы, з вялікаю нэндзаю вярнуліся назад, адкуль таварыства прыходзілі і пеша.

Годную да ведама рэч тут запісаў я. Каля маскоўскай сталіцы, у адным гарадку, жанчына, будучы цяжарнай, калі прыйшоў час родаў, некалькі дзён цяжка мучылася, а калі ўжо не мела надзеі

Цяпер, прыгадваючы тую далёкую пару, пачынаю разумець, што́ адыграла ў гэтым немалаважную ролю.

Час маёй вучобы ў сямігодцы прыпаў на 1931—1934 гады. А тады яшчэ не настолькі схаластычна былі ідэалагізаваны падручнікі, якімі яны сталі пазней. Ва ўсякім разе, тагачасная школьная праграма, відаць, не забараняла настаўніцы выкладаць літаратуру менавіта як прыгожае пісьменства.

Не ведаю, ці паводле праграмы ці адпаведна густу настаўніцы, але творы, якія мы праходзілі, чыталіся ў класе ўголас. Пасля настаўніца распытвала ў вучняў, пра што расказваецца ў прачытаным, якімі мастацкімі сродкамі пісьменнік выказвае сваю думку.

Ці таму, што я не надта ўважліва паводзіў сябе на ўроках, ці, можа, таму, што чытаў уголас выразней, чым іншыя, але настаўніца чамусьці даручала чытаць толькі мне.

Я паварочваўся тварам да ўсяго класа, сядаў на накрыўку пярэдняй парты, паставіўшы ногі на сядзенне, і, трымаючы на каленях кнігу, чытаў уголас патрэбны верш або апавяданне.

Да гэтага часу памятаю, як чытаў я такім чынам «Тамань» Міхаіла Лермантава, «На прасторах жыцця» Якуба Коласа.

Прычым чамусьці з аднолькавай сілаю ўздзейнічалі на маю дзіцячую душу, уражвалі мяне і, здавалася, пераклікаліся вершы Мікалая Някрасава з вершамі Янкі Купалы, вершы Міхаіла Лермантава з вершамі Максіма Багдановіча.

Праўда, творы Янкі Купалы, а вывучалі мы тады верш «Мужык», «Там», «Перад вісельняй», «Ворагам беларушчыны», паэмы «Курган» і «Магіла льва», не маглі, вядома, не абуджаць у мяне нацыянальнай свядомасці, бо прымушалі задумвацца над тым, сынам якога народа я з'яўляюся. Не кажу пра тое, што сціслыя па форме і скандэнсаваныя па думцы паэмы «Курган» і «Магіла льва» захаплялі займальнасцю сюжэта і музычнаю інструментоўкаю верша.

Я зачытваўся імі дома, а «Курган» і паасобныя месцы з «Магілы льва» ведаў на памяць і часта дэкламаваў уголас, ідучы за шэсць кіламетраў у школу.

Значна шырэйшаму знаёмству з творчасцю Янкі Купалы пасадзейнічала яшчэ і тое, што дома ў мяне аказаліся разрозненыя тамы з ягонага пяцітомнага выдання ў мяккіх рознакаляровых вокладках. У іх творчасць паэта была прадстаўлена шмат паўней, дый не ў такім ператрэсеным і адрэдагаваным выглядзе, як у многіх пазнейшых ягоных выданнях.

У гэтых тамах асабліва часта чытаў і перачытваў вершы зусім іншага характару, у прыватнасці, такія, як «Паязджане», «У начным царстве», «Явар і каліна», «Адцвітанне», «Спадчына», «Беларушчына», «На купалле», «Як у лесе зацвіталі», «Заклятая кветка», «Над Іматрай», «А ты, сіраціна, жыві», што, як малітвы, зачароўвалі загадкавай таямнічасцю і хараством прыроды.

Між іншым, забягаючы наперад, прызнаюся, што ў мае перадваенныя студэнцкія гады, калі ў Маскве ці не ўпершыню выйшаў на рускай мове аднатомнік Янкі Купалы ў прыгожай зялёнай вокладцы, я з такім жа захапленнем і неаслабнай увагаю перачытваў у ім некаторыя з вышэйназваных вершаў, па-майстэрску перакладзеных Валерыем Брусавым, Сяргеем Гарадзецкім, Эдуардам Багрыцкім і Міхаілам Ісакоўскім.

Янку Купалу я ўпершыню ўбачыў ранняй восенню 1938 года на тратуары, калі ён выйшаў з Дома пісьменнікаў. Як зачараваны дзівак, пайшоў услед за ім па праспекце, міма польскага консульства, кінатэатра «Чырвоная зорка», тэатральнага сквера, за будынкам педтэхнікума перайшоў праспект налева і назіркам суправаджаў паэта да самага ягонага дома.

Гэты дом, што патанаў тады ў зяляніне і кветках там, дзе цяпер стаіць будынак Літаратурнага музея Янкі Купалы, як магнітам, прыцягваў увагу не аднаго мяне.

Помню, як у душы зайздросціў свайму прыяцелю Альфрэду Радзюку (Алесю Салаўю), з якім зблізіўся ў часе вучобы на месячных курсах маладых пісьменнікаў, што ён жыве ў педтэхнікумаўскім інтэрнаце амаль побач з хатаю Янкі Купалы.

Я неаднойчы прыходзіў да прыяцеля, каб як-небудзь лішні раз убачыць паэта на ягоным падворку, пакуль аднойчы не трапіў у няёмкае становішча, апынуўшыся не па сваёй волі ў Купалавым доме.

Газету «Піянер Беларусі», у якой я працаваў адначасова з вучобаю ў педінстытуце, рэдагаваў вельмі сур'ёзны і ўдумлівы чалавек з дзіўнай завядзёнкаю. Ён не цярпеў, каб рэдакцыйныя супрацоўнікі па тэлефоне заказвалі аўтарам матэрыялы, а заўсёды патрабаваў, а часта і сам накіроўваў нас на кватэру да вядомых дзеячаў культуры.

Аднойчы ён паслаў мяне па вершы да Янкі Купалы.

Сарамлівага, да глыбіні душы ўсхваляванага, мяне ветліва сустрэла ў доме жанчына, у якой значна пазней я пазнаў Уладзіславу Францаўну, жонку Янкі Купалы, і прапусціла ў пакой да паэта. Даведаўшыся, чаго я прыйшоў, Янка Купала разгублена развёў рукамі і, неяк вінавата апраўдваючыся, сказаў, што, на жаль, не мае нічога такога, што мог бы прапанаваць дзіцячай газеце.

У сваіх успамінах «Старонкі памяці» я ўжо часткова расказваў пра тое, як да вайны ў Доме пісьменнікаў аўтары абмяркоўвалі свае новыя творы.

Я не прапускаў ніводнага з гэтых абмеркаванняў. Праводзіліся яны на першым паверсе, ва ўтульнай гасцінай справа, перад уваходам у бібліятэку. Сама мэбля тут (з белымі чахламі мяккія крэслы, расстаўленыя вакол круглых столікаў з таршэрамі) вымагала таго, што абмеркаванні праходзілі неяк па-сямейнаму. Збіралася на іх чалавек дванаццаць-пятнаццаць. Зрэдку прыходзіў сюды і Янка Купала.

Кожны раз я глядзеў на яго як на Бога і сарамліва, неўпрыкмет сачыў за кожным яго рухам.

Звычайна пры абмеркаванні ён не праяўляў актыўнасці, моўчкі слухаў і рэдка калі ківаў галавою, падтакваючы каму-небудзь. Быў ён вельмі далікатны і ціхмяны. Часам здавалася, што ягоны твар злёгку задуменны. Але часцей на ім адлюстроўваліся дабрыня і пяшчота, з непрыкметнай, ледзь улоўнай усмешкаю ў вачах і ў куточках вуснаў.

На дне маёй душы застаўся прыкры асадак ад недарэчнага выпадку, што адбыўся на адным з абмеркаванняў. Перад гэтым у нейкім перыядычным выданні прамільгнула задзірыстая публікацыя Андрэя Ушакова, у якой крытыкаваліся некаторыя слабыя мясціны ў вершах нашых старэйшых паэтаў. Сярод нас, пачаткоўцаў, тая публікацыя выклікала дваістае пачуццё, нягледзячы на тое, што ў ёй выказваліся і слушныя заўвагі. Калі б з такімі прэтэнзіямі выступілі ў друку Аркадзь Куляшоў або Пімен Панчанка ці нават Алесь Жаўрук, якія тады падавалі нам прыклад сваёй творчасцю, дык іншая справа. А Андрэй Ушакоў не вызначаўся сваімі вершамі.

Цяпер не памятаю, хто з прамоўцаў і ў сувязі з чым у даволі агульных рысах таксама намякнуў на паслабленне ў творчай працы старэйшых пісьменнікаў.

Трэба было бачыць, як гэты неабачлівы закід узбударажыў Янку Купалу. Да гэтага ён сядзеў спакойна і не падаваў голасу. А тут

раптам прыкметна занерваваўся, крыўдліва прамармытаў: «Ужо і Купала піша кепска...», падняўся з крэсла і, нервова пастукваючы па падлозе кавенькаю, на якую злёгку абапіраўся, дэманстратыўна пакінуў пакой.

Ягоныя паводзіны ўразілі мяне. Тады, вядома, я не падазраваў, што давялося перажыць яму ў трыццатыя гады, і не разумеў, чаму гэтак абвострана ён рэагуе, здавалася б, на дробязную крытычную заўвагу, кінутую нават не ў ягоны адрас.

Глыбока запаў у маю памяць вялікі літаратурны вечар, што адбыўся ў Мінску апошняй перадваеннай зімою.

Пасля вайны я знайшоў у вёсцы сярод сваіх студэнцкіх канспектаў імянны запрашальны білет на яго, які аддаў у Літаратурны музей Янкі Купалы.

Фармальна вечар праводзіўся ў сувязі з трыццаціпяцігоддзем творчай дзейнасці паэта. Хаця дата была не круглая, але цяпер я разумею, чаму яна адзначалася гэтак урачыста. Пасля пагалоўнага вынішчэння нацыянальных кадраў П. К. Панамарэнка, якога напярэдадні прыслалі з Масквы ўзначальваць рэспубліканскую партыйную арганізацыю, відаць, хацеў супакоіць і задобрыць беларускую інтэлігенцыю.

Тэатр оперы і балета быў біткам запоўнены народам. У прэзідыуме разам з Янкам Купалам і Якубам Коласам сядзелі кіраўнікі ўрада і госці з Масквы і іншых рэспублік. Даклад аб жыцці і творчасці Янкі Купалы зрабіў акадэмік С. Я. Вальфсон. Ад імя пісьменнікаў Савецкага Саюза паэта вітаў Аляксей Суркоў, ад украінскіх — Тэрань Масэнка, ад літоўскіх Антанас Венцлава, ад беларускіх — Кандрат Крапіва і Піліп Пестрак, ад яўрэйскіх і маскоўскага дзяржаўнага яўрэйскага тэатра Самуіл Галкін, які зачытаў таксама прывітальны ліст юбіляру выдатнага рускага драматурга Канстанціна Транёва.

Я з цікаўнасцю разглядаў Самуіла Галкіна, бо ведаў, што ён нарадзіўся на Беларусі. Ягоныя п'есы «Бар-Кохба» і «Суламіф», што незадоўга да гэтага былі напісаны, ішлі на сцэне дзяржаўнага яўрэйскага тэатра ў Мінску. Але з асаблівым хваляваннем назіраў за тым, як вітаў Янку Купалу, чытаў свой верш, прысвечаны яму, і абдымаўся з паэтам Сяргей Гарадзецкі, таварыш і паплечнік Аляксандра Блока і Сяргея Ясеніна. Я ведаў, што ён быў адным з першых акмеістаў і арганізатарам «Цэха паэтаў». У цэнтральнай бібліятэцы да таго я чытаў ужо ягоныя зборнікі вершаў: «Ярь», «Перун», «Ива».

На пахаванні Эдуарда Самуйлёнка я ўпершыню пачуў, як чытае свае вершы сам Янка Купала. Ці таму, што паэт быў балюча ўзрушаны заўчаснай смерцю таленавітага празаіка і кароткі верш «Памяці Эдуарда Самуйлёнка» прачытаў на адным дыханні, са своеасаблівай жаласлівай інтанацыяй, ці таму, што жалобны настрой садзейнічаў успрыманню твора, але верш прагучаў даволі непасрэдна і крануў многіх на могілках.

Другі раз я слухаў Янку Купалу на вялікім літаратурным вечары ў актавай зале педагагічнага інстытута, дзе абодва народныя паэты звярнулі ўвагу на мяне, і Якуб Колас, папярэдне параіўшыся з Янкам Купалам, благаславіў мяне ў дарогу.

Як бы ні быў я тады ўсхваляваны тым, што ў іх прысутнасці мне далі слова першаму, і якое расчараванне не адчуваў бы пасля свайго разгубленага выступлення, але ўсё роўна вельмі ўважліва слухаў, як выступалі яны абодва.

Янка Купала чытаў верш «А мы сабе сеем і сеем» і ўрывак з паэмы «Тарасова доля».

Ці ад таго, што выбраў ён даўгія памерам і даволі агульнаватыя

рэчы, ці таму, што чытаў іх нараспеў, са звонкай працяжнасцю, трохі крывячы рот, ягонае чытанне на гэты раз здалося мне аднастайна-манатонным і нуднаватым.

Пераконвала ў гэтым і тое, як расслаблена ўспрымала ягонае чытанне шматлюдная аўдыторыя, хаця я не сумняваўся, што пераважная большасць студэнтаў не толькі слухала, але і бачыла паэта ўпершыню.

Тады, вядома, я нават і не ўяўляў сабе, што з цягам часу лёс звядзе мяне з роднымі і блізкімі Янкі Купалы, з ягонай жонкай Уладзіславай Францаўнай, з ягонымі сёстрамі Марыяй Дамінікаўнай Аўлачынскай і Леакадзіяй Дамінікаўнай Раманоўскай і яе сынам Янкам Раманоўскім, што я буду бываць у іх дома, выступаць разам з імі на Купалаўскіх вечарах.

Праўда, адбылося гэта пазней, у першыя пасляваенныя гады, калі ўжо не было самога паэта, а на вызваленай беларускай зямлі шырока разгортвалася ўшанаванне яго памяці і прапаганда ягонай творчасці.

Галоўным арганізатарам, ад вялікіх літаратурных вечароў да шматлікіх сустрэчаў на прадпрыемствах, у калгасах і ў навучальных установах, была Уладзіслава Францаўна або цёця Уладзя, як пяшчотна называлі яе многія.

У далейшым усё сваё жыццё яна цалкам прысвяціла гэтай пачэснай і высакароднай справе. Працы ў гэтым напрамку вельмі спрыяла тое, што жылі яны разам з сястрою Янкі Купалы Марыяй Дамінікаўнай, якая займалася хатнімі гаспадарчымі справамі. Спачатку кватэра іх знаходзілася на праспекце ў старым цагляным доме, які пасля быў зруйнаваны, а пазней — на другім паверсе невялікага асабняка, насупраць польскага консульства, па вуліцы Румянцава.

Уладзіслава Францаўна была дырэктарам Літаратурнага музея Янкі Купалы, які размяшчаўся спачатку ў Доме прафсаюзаў на плошчы Волі, а пазней па вуліцы Энгельса, у старым будынку Саюза пісьменнікаў, дзе пасля размясцілі паліклініку Літфонда.

Я не сумняваюся ў тым, што толькі дзякуючы энергіі і турботам Уладзіславы Францаўны было распачата і ў 1959 годзе закончана будаўніцтва новага памяшкання літаратурнага музея.

Канечне, займацца ўшанаваннем памяці паэта, выданнем яго кніг і прапагандай ягонай творчасці ёй было прасцей, чым каму-небудзь іншаму, бо яе ведалі многія кіраўнікі рэспублікі.

Некаторым з іх яна проста званіла па тэлефоне, а калі вельмі неабходна было, наведвала асабіста. Можа, таму многія члены ўрада заўсёды прысутнічалі на агульнагарадскім Купалаўскім вечары, які штогод праводзіўся тады ў будынку акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы.

Адны з іх, мусіць, адчувалі святы абавязак перад памяццю паэта, што не вярнуўся ў вызвалены Мінск, дый ведалі і паважалі Уладзіславу Францаўну, другія проста вымушаны былі раўняцца на першых, пераймаць іх і міжвольна падтрымліваць заведзены распарадак.

Я ўжо не кажу пра пабочных і асабіста незнаёмых ёй людзей, якія часам бянтэжыліся, калі даведваліся, хто перад імі.

Аднойчы мы ўначы вярталіся пасля выступлення ў Вязынцы. Па баках паводдаль ад дарогі сям-там палалі купальскія вогнішчы. І раптам нашу аўтамашыну спынілі ўзброеныя афіцэры і асвяцілі нас ліхтарыкамі. Калі Уладзіслава Францаўна апярэдзіла шафёра і падала ім сваё пасведчанне, яны, зазірнуўшы ў яго, збянтэжана аддалі чэсць і рэціраваліся.

Часам даводзілася назіраць і іншае. Аднойчы я быў у кабінеце аднаго з кіраўнікоў Саюза пісьменнікаў і міжвольна стаў сведкам

тэлефоннага званка Уладзіславы Францаўны, якая прасіла пасадзейнічаць у арганізацыі чарговага Купалаўскага вечара.

Кіраўнік адгаворваўся, спасылаючыся на занятасць. А пасля заканчэння тэлефоннай размовы два нашы вядомыя пісьменнікі, што таксама прысутнічалі там, на маё здзіўленне, пачалі падтрымліваць сваё начальства. Маўляў, няўжо яна хоча штогод праводзіць Купалаўскія вечары?

І я падумаў тады: ці гэта зайздрасць чужой славе, ці гэта лянота і непаваротлівасць робяць людзей абыякавымі нават там, дзе, здавалася б, яны павінны быць чулымі і добразычлівымі.

Праўда, забягаючы наперад, скажу, што сярод высокага начальства траплялiся людзі, якія не толькі з-за павагі да Уладзіславы Францаўны прыхільна ставіліся да Купалаўскіх мерапрыемстваў, але і таму, што глыбока ў сэрцы насілі светлы вобраз вялікага паэта.

Адным з такіх кіраўнікоў быў Сяргей Восіпавіч Прытыцкі — чалавек-легенда для людзей майго пакалення.

З юнацкага ўзросту я ведаў пра яго адважны і дзёрзкі ўчынак, калі Сяргей Восіпавіч у польскім судзе з двух рэвальвераў ва ўпор страляў у правакатара, пасля чаго сам атрымаў каля дваццаці кулявых ран, быў вылечаны ў шпіталі і прыгавораны судом да смяротнай кары. Супраць гэтага суровага прыгавору тады пратэставаў увесь свет, у выніку чаго польскія ўлады вымушаны былі замяніць смяротны прысуд пажыццёвым зняволеннем. Толькі ўз'яднанне Беларусі вызваліла Сяргея Прытыцкага з астрога.

Штогод улетку мы прыязджалі ў Маладзечна праводзіць Купалаўскія сустрэчы. Праходзілі яны звычайна ў гарадскім парку культуры і адпачынку. Кожны раз, нягледзячы на сваю занятасць, кіраўнік абласной партыйнай арганізацыі Сяргей Восіпавіч Прытыцкі кароткім уступным словам адкрываў гэтыя ўрачыстасці, да канца прысутнічаў на іх, а пасля яшчэ клапаціўся, каб мы абавязкова павячэралі перад ад'ездам.

А ён жа мог не займацца гэтым. У яго падначаленні былі сакратар абкома па прапагандзе, а таксама загадчык ідэалагічнага аддзела.

Помню, як у 1957 годзе Сяргей Восіпавіч на шматлюдным мітынгу ў Радашковічах адкрываў помнік Янку Купалу і даваў слова братнім паэтам: латышскаму Юлію Ванагу, чувашскаму Аляксандру Алга, рускаму перакладчыку Паўлу Кабзарэўскаму і нам: Уладзіславе Францаўне, Рыгору Няхаю, Раману Сабаленку, мне.

Толькі адзін раз за ўвесь час Сяргей Восіпавіч у сувязі са сваім ад'ездам даручыў правесці Купалаўскія ўрачыстасці сакратару абкома па ідэалогіі М. Южыку.

На цэнтральнай сядзібе саўгаса «Яхімоўшчына» сабраліся хлебаробы навакольных вёсак, рабочыя торфапрадпрыемства «Бярэзінскае», мясцовая інтэлігенцыя. Яны прыйшлі ўшанаваць памяць любімага паэта, які паўстагоддзя назад працаваў тут чорнарабочым на панскім бровары. Пад гукі аркестра апусцілася пакрывала з мемарыяльнай дошкі, умацаванай на будынку, у якім жыў Іван Дамінікавіч. На дошцы надпіс: «Тут, у Яхімоўшчыне, на бровары ў 1906—1907 гг. працаваў чорнарабочым народны паэт Беларусі Янка Купала».

Шасцідзесяцісямігадовы Макар Бялан успомніў свае сустрэчы з маладым Іванам Луцэвічам, расказаў пра тое, з якой павагаю ставіліся да яго сяляне. Свае вершы, прысвечаныя Янку Купалу, чыталі Васіль Вітка, Рыгор Няхай, Раман Сабаленка і я. На мітынгу выступілі таксама Герой Савецкага Саюза Марыя Осіпава і Уладзіслава Францаўна.

Сціплыя і стрыманыя паводзіны Сяргея Прытыцкага ў прысут-

насці Уладзіславы Францаўны выклікалі ў мяне павагу да гэтага чалавека і нават захапленне ім. Штосьці святое адчувалася ў ягоных адносінах да Івана Дамінікавіча.

Уладзіслава Францаўна была тыповым прадстаўніком старой беларускай інтэлігенцыі, што ўцалела ў гады сталінскага вынішчэння нацыянальных кадраў.

Сваю безабароннасць перад новым ладам яна, як бранявым шчытом, закрывала словам «таварыш», з якім звычайна звярталася да ўсіх, замест таго, каб называць іх па імю і імю па бацьку.

Мяне, вечнага з-за вайны студэнта і запозненага маладога пісьменніка, доўгі час бянтэжыла гэтае «таварыш Аўрамчык», пакуль я нарэшце прызвычаіўся.

У гэтай жанчыне выгодна спалучаліся энергічнасць з тактоўнасцю, сціпласць з весялосцю. Я ніколі не чуў, каб яна абгаворвала або высмейвала каго-небудзь.

Калі Уладзіслава Францаўна з'яўлялася на ажыўленых вуліцах Мінска, з ёю на кожным кроку віталіся, яе спынялі. Здавалася, што ўся сталіца ведае яе асабіста. А ведалі яе не толькі знаёмыя Янкі Купалы, але і былыя калегі па працы, а таксама шматлікія выхаванцы. Доўгі час Уладзіслава Францаўна працавала ў дашкольных дзіцячых установах.

Дзякуючы яе асабістым сувязям Купалаўскія вечары і сустрэчы вельмі часта, нярэдка па два-тры разы на тыдні, праводзіліся па просьбе яе знаёмых на многіх прадпрыемствах. Наладжваліся яны, здавалася б, зусім не ў гуманітарных арганізацыях і ўстановах: на фарфоравым заводзе, у фінансава-эканамічным тэхнікуме або ў тэхнікуме лёгкай прамысловасці.

Памятаю, якія хвалюючыя Купалаўскія сустрэчы бывалі ў 19-й сярэдняй школе, якая носіць імя Янкі Купалы. У вестыбюлі яе стаяў бюст паэта, набыты не без дапамогі Уладзіславы Францаўны.

Дарэчы, пасля яе смерці ў гэтых установах ужо ніколі падобныя мерапрыемствы не праводзіліся.

Як вядома, у сталінскі час большасць беларускіх пісьменнікаў была рэпрэсіравана, частка загінула на франтах Айчыннай вайны і ў партызанскіх атрадах. Старэйшых засталося вельмі мала, дый тыя займалі адказныя пасады ў інстытутах Акадэміі навук, у Саюзе пісьменнікаў і ў рэдакцыях часопісаў. Таму Уладзіслава Францаўна запрашала сабе ў дапамогу нас, малодшых, не гэтак занятых службаю, асабліва тых, хто сустракаўся з Янкам Купалам або пісаў пра яго творчасць.

Спачатку дапамагалі ёй прапагандаваць Купалава слова Янка Брыль, Анатоль Вялюгін, Іван Грамовіч, Рыгор Няхай і я.

Помню, як мы з Янкам Брылём падрыхтавалі для чарговага агульнагарадскога Купалаўскага вечара праграму з лірыкі паэта і дамовіліся з іншымі калегамі-пісьменнікамі, што будзем дэкламаваць яе на святочных урачыстасцях. На жаль, адзін з адказных чыноўнікаў міністэрства культуры не адобрыў і не падтрымаў нашага пачынання. Калі праз два-тры дзесяцігоддзі рускія пісьменнікі пачалі на юбілейных урачыстасцях Аляксандра Пушкіна, Аляксандра Блока і Сяргея Ясеніна на памяць дэкламаваць іхнія вершы, мы толькі пасмейваліся з асцярожнасці таго бюракрата-чыноўніка.

У пасляваенны час у Вязынцы штогод праводзіліся Купалаўскія сустрэчы з мясцовымі жыхарамі. Часцей за ўсё ў іх удзельнічалі Максім Лужанін і Канстанцыя Буйло, якая жыла ў Маскве і амаль

заўсёды ўлетку прыязджала. У яе былі сяброўскія адносіны з Уладзіславай Францаўнай яшчэ з юнацкай пары. Яны часта ўспаміналі свае маладыя гады, пяшчотна называючы адна адну Косткаю і Уладкаю, часам дазваляючы сабе вольныя пакепліванні.

Праз вуліцу, насупраць хаты, у якой нарадзіўся Янка Купала, тады быў калгасны двор, на якім утрымліваўся на прывязі магутны бугай. Аднойчы, калі мы праходзілі міма, ён, як ашалелы, сарваўся з ланцуга. Калі б не трывалая агароджа, невядома чым бы скончыўся наш шпацыр.

— Гэта ты вінавата,— пажартавала Уладзіслава Францаўна.— Мажная гэтакая, ідзеш, ажно зямля дрыжыць пад нагамі!

Абедзьве яны задаволена рагаталі.

У хаце, дзе нарадзіўся паэт, тады не наводзілі ніякага глянцу, усё было ў першародным выглядзе, з глінабітнай падлогаю. Часам, калі сустрэча заканчвалася вельмі позна, мы насцілалі ў пярэднім пакоі свежага сена і спалі ўпокат: Максім Лужанін, шафёр і я — у адным кутку, а Уладзіслава Францаўна з Канстанцыяй Антонаўнай — у другім.

— Што ты не супакоішся ніяк, а ўсё шамаціш сенам? — аднойчы пакпіла з сяброўкі Уладзіслава Францаўна.— Ці не папаўзла ўжо ў другі кут?

Калі сустрэча заканчвалася раней, мы на аўтамашыне вярталіся ў Мінск. Канстанцыя Буйло з Максімам Лужаніным у дарозе вельмі хораша спявалі беларускія народныя песні. Адну з іх, пра гаротную долю нявесткі, якая, каб не падавіцца ў чужой хаце чэрствай скарынкаю, запівае яе горкай слязінкаю, я пачуў тады толькі ад іх, і больш ужо ніколі не чуў у жыцці.

У першыя пасляваенныя гады Купалаўскія чытанні сістэматычна праводзіліся ў педагагічным інстытуце і ў акадэмічным драматычным тэатры. У іх зрэдку прымаў удзел Яўген Мазалькоў, аўтар першай манаграфіі пра нашага народнага паэта. У акадэмічным тэатры ў часе паказу «Паўлінкі» я неаднаразова чытаў перад заслонаю вершы, прысвечаныя паэту.

Аднойчы на Купалаўскіх чытаннях у перапоўненай актавай зале галоўнага корпуса педагагічнага інстытута адбылося прыкрае здарэнне.

Міхась Ларчанка выступаў з дакладам, а мы сядзелі ў прэзідыуме, калі раптам адчыніліся найбліжэйшыя да сцэны дзверы і ў залу ўвайшоў незнаёмы чалавек.

— Бэндэ!..— спалохана прамовіла Уладзіслава Францаўна, і ёй зрабілася кепска. У яе быў сардэчны прыступ.

У зале абвясцілі кароткі перапынак. Уладзіславу Францаўну павезлі дадому, а мы прадаўжалі чытанні.

Праз пару дзён у невялікай зале Саюза пісьменнікаў, які знаходзіўся тады з адваротнага боку Дома ўрада, Бэндэ апанаваў мяне (я працаваў у рэдакцыі «Літаратуры і мастацтва») і на поўным сур'ёзе даказваў, як ён ашчаслівіў Янку Купалу, ледзь не сілком справадзіўшы таго ў саўгас «Сосны», дзякуючы чаму паэт і напісаў паэму «Над ракою Арэсай».

Я ўжо чуў пра тое, як некалі гэты крытык, павышаючы голас і папраўляючы на сваім баку кабур з наганам, з трыбуны называў Янку Купалу грамадзянінам. Некаторыя казалі, што нібыта яго прозвішча па-латышску азначае «кат». Таму, калі я глядзеў на ягоную аголеную грушападобную галаву з глыбока пасаджанымі на твары вачамі, ён чамусьці нагадваў мне гітлераўскага эсэсаўца. А калі неўпрыкмет слізгаў позіркам па ягонай камсастаўскай гімнасцёрцы, напушчанай на дыяганалевыя галіфэ, і па наглянцаваных ботах, Бэндэ здаваўся мне берыеўскім апрычнікам.

Між іншым, тады хадзілі чуткі, нібыта ў яго невядома якім чынам апынулася частка рукапісаў не толькі некаторых рэпрэсіраваных, але і такіх беларускіх пісьменнікаў, як Максім Багдановіч і Паўлюк Трус.

Уладзіслава Францаўна беспамылкова разбіралася ў людзях, нейкім унутраным пачуццём улоўлівала, што ўяўляе сабой чалавек.

У адным райцэнтры, дзе штогод праводзіліся Купалаўскія сустрэчы, пасля заканчэння іх кіраўнік заўсёды запрашаў нас разам павячэраць. Але яна ветліва дзякавала за запрашэнне, спасылаючыся на тое, што надта спяшаемся, і мы рушылі ў зваротны шлях. А ад'ехаўшы трохі, спыняліся. Тады яна рассцілала абрус-самабор — і мы вячэралі. І гэтак паўтаралася кожны раз. Аднойчы я не вытрымаў і пацікавіўся, чаму яна адмаўляе кіраўніку ў ягонай гасціннасці. Уладзіслава Францаўна нават не падала ніякага выгляду, стрымана прамовіўшы, што не варта назаляць начальству, дый на прыродзе папалуднаваць вальней.

Пазней я выпадкова даведаўся, што той кіраўнік у мінулым няўдачнік-літаратар, які раўніва адносіцца да нашага брата, называючы яго «піцьменнікамі». Але я не думаю, што Уладзіслава Францаўна таксама ведала пра гэта. Яна проста навылёт бачыла чалавека.

Добра арыентавалася Уладзіслава Францаўна і ў любых нечаканых абставінах, удала выходзіла са складанага становішча, часам умеючы ўтаймаваць чалавека, які кепска паводзіць сябе сярод людзей.

Неяк у першыя пасляваенныя гады нас запрасілі на юбілей бібліятэкі імя Янкі Купалы ў вёсцы Вялікая Кракотка, на Слонімшчыне. Уладзіслава Францаўна, супрацоўнік Літаратурнага музея Янкі Купалы Яўген Крамко і я прыехалі цягніком у Слонім, адкуль загадчык райана і сакратар райкома камсамола на грузавіку прывезлі нас у вёску.

Мы з цікаўнасцю аглядалі бібліятэку, былі гасцямі яе загадчыка Жыткевіча Аляксандра Іванавіча, які, дарэчы, і стварыў яе ў Польшчы яшчэ ў 1927 годзе.

Надвячоркам некалькі разоў да нас прыходзілі дэлегацыі вучняў, запрашаючы ў школу. Уладзіслава Францаўна кожны раз дзякавала за запрашэнне, абяцаючы, што мы абавязкова прыйдзем, і прасіла, каб яны займаліся сваімі справамі, надта не чакаючы нас.

Нарэшце, калі мы прыйшлі ў школу і разгледзеліся, я зразумеў, што да чаго.

Аказваецца, дзесяцікласнікі праводзілі свой выпускны вечар і вельмі хацелі, каб мы прысутнічалі на ім. А Уладзіслава Францаўна адразу ацаніла абставіны і зразумела, што мы будзем толькі замінаць ім і што без нас яны будуць адчуваць сябе значна вальней.

У прасторным класе сабраліся вучні, настаўнікі, мясцовыя жыхары. Вечар, прысвечаны жыццю і творчасці Янкі Купалы, адкрыў дырэктар школы, выкладчык беларускай літаратуры. Слова пра паэта сказаў Яўген Крамко, я чытаў вершы. Уладзіслава Францаўна таксама расказвала пра некаторыя дэталі з жыцця і творчасці паэта і падзякавала жыхарам за тое, што яны ў цяжкі час стварылі бібліятэку імя Янкі Купалы і ўшаноўваюць памяць аб ім.

І тут адбылося непрадбачанае. Дырэктар школы, які, мабыць, добра захмялеў за гэты час, рашыў закончыць сустрэчу сваім выступленнем, але яго, як сані на расслізганай дарозе, раптам пачало кідаць на ўхабы. І дырэктар забалбатаў штосьці накшталт таго,

што хаця Купала памёр, але жыве Купаліха і вось яна прыехала да нас. Няправільна называў некаторыя вершы паэта і даты іх напісання.

Вечар праходзіў у недабудаваным памяшканні саманнай школы, аконныя праёмы якой былі без рамаў.

А якраз у гэты час з пашы вяртаўся вясковы статак, авечкі акружылі школу і ва унісон дырэктараваму выступленню моцна забляялі «б-я-я!». Я не мог утрымацца, заціснуў рот далонямі, каб не зарагатаць уголас, і кінуўся наўцёк з прэзідыума.

Але на гэтым прадстаўленне яшчэ не закончылася. Назаўтра, калі мы сабраліся ад'язджаць у Слонім, да нас прыйшла дэлегацыя дзесяцікласнікаў з просьбаю сфатаграфавацца разам з іхнім класам.

Уладзіслава Францаўна з задавальненнем адгукнулася на запрашэнне, мы прыйшлі да школы і на пагорку ў зяляніне дрэваў засталі незвычайнае відовішча.

Збянтэжаныя дзесяцікласнікі не ведалі, што рабіць, бо ніяк не маглі ўтаймаваць свайго дырэктара, які, напэўна, з ранку гарэлкаю яшчэ больш узвінціў свой настрой і цяпер нікому не падпарадкоўваўся, лаяўся і не хацеў фатаграфавацца.

За некалькі метраў ад ажыўленага зборышча стаяў разгублены фатограф з вялізным фотаапаратам на трыножніку.

Уладзіслава Францаўна імгненна зарыентавалася ў абставінах і, нягледзячы на тое, што прысутным тут жа загадчыкам райана дырэктар ужо быў звольнены са сваёй пасады, усё-такі падышла да яго, лагодна, па-жаноцку ўзяла пад руку і запрасіла сядаць з ёю побач для фатаграфавання.

Пасля гэтага мы спакойна паехалі ў Слонім.

Пазней Уладзіслава Францаўна, весела смеючыся, часта расказвала ў пісьменніцкім асяроддзі, як я, заціснуўшы даланёю рот, каб не зарагатаць уголас, кінуўся наўцёкі з таго літаратурнага вечара.

На працягу многіх гадоў былі толькі два выпадкі, калі я адсутнічаў на Купалаўскіх урачыстасцях.

Аднойчы братняя Польшча запланавала Купалаўскія сустрэчы, на якія мы павінны былі ехаць з Уладзіславай Францаўнай. Але ў самы апошні момант мая кандыдатура раптам была адхілена, як не добранадзейная для сацыялістычнага ладу, таму што я быў у фашысцкім палоне. Замест мяне паехаў адказны сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікола Ткачоў.

А другі раз, улетку 1982 года, па ўважлівых хатніх абставінах я не змог удзельнічаць у адкрыцці помніка Янку Купалу ў Ляўках. І вельмі шкадую, што не прысутнічаў на гэтых урачыстасцях, тым болей, што і дэлегацыя, у якую мяне ўключылі, была даволі салідная: аўтар помніка скульптар Анатоль Анікейчык, Рыгор Барадулін, Янка Брыль, Іван Драч і Васіль Зуёнак.

Чаму менавіта я ўдзельнічаў у шматлікіх Купалаўскіх урачыстасцях?

Па-першае, я ніколі не мог забыць, што ўсім у сваім жыцці абавязаны абодвум нашым народным паэтам, якія калісьці прывецілі мяне, юнака, і благаславілі ў дарогу. А чым жа я мог аддзячыць ім за гэта, як не ўшанаваннем іхняй памяці? Усё жыццё я адчуваў і адчуваю сябе ў неаплачаным даўгу перад імі.

Па-другое, яшчэ адна падзея, пра якую я раскажу падрабязна, адыграла тут вырашальнае значэнне.

Улетку 1949 года ў Мінску праходзіў чарговы з'езд пісьменнікаў рэспублікі, што супаў з Купалаўскімі днямі, якія міжволі ператварыліся ў грандыёзныя юбілейныя ўрачыстасці, прысвечаныя вялікаму паэту.

Якраз тады ў нашай сталіцы адкрываўся першы помнік Янку Купалу, той, што цяпер стаіць у Вязынцы, на ягонай радзіме. Хаця выглядаў гэты помнік даволі сціпла, але затое ён быў устаноўлены на людным месцы Мінска, пры ўваходзе з галоўнага праспекта ў тэатральны сквер.

На ўрачыстым адкрыцці помніка прысутнічалі не толькі члены ўрада рэспублікі, але і вядомыя савецкія пісьменнікі: Якуб Колас, Аляксандр Твардоўскі, Канстанцін Сіманаў, Андрэй Малышка.

Якуб Колас у сваім выступленні на гэтым мітынгу выказаў шкадаванне, што Янка Купала ўсяго толькі некалькі дзён не дажыў да свайго шасцідзесяцігоддзя, і прыгадваў, як у той грозны, трывожны час беларусаў глыбока ўсхвалявала і засмуціла жалобная вестка пра смерць вялікага паэта.

— Для мяне,— прадаўжаў Якуб Колас,— гэтая смерць была найцяжэйшая ўдвая, бо я страціў не толькі любімага паэта, але і самага блізкага сябра.

Пранікнёнае слова пра Янку Купалу сказаў на мітынгу Аляксандр Твардоўскі. Ён гаварыў пра найвялікшае шчасце, якое выпала на долю Янкі Купалы, пра шчасце пры жыцці быць прызнаным і любімым сваім народам.

Верш, прысвечаны Янку Купалу, з цеплынёю і эмацыянальнасцю прачытаў украінскі паэт Андрэй Малышка. Палымяныя словы пра нашага народнага песняра сказалі таксама армянскі паэт Ашот Грашы і Ларыса Александроўская.

З мітынгу ўрачыстасці перамясціліся ў тэатр імя Янкі Купалы, куды прыйшлі члены ўрада і слынныя госці, якія занялі месцы ў прэзідыуме.

Даклад аб жыцці і творчасці Янкі Купалы зрабіў Пімен Панчанка.

Са словамі пра вялікага паэта і з чытаннем сваіх вершаў, прысвечаных яму, выступалі рускія паэты Аляксандр Пракоф'еў і Аляксандр Яшын, украінскі паэт Платон Варанько, літоўскі пісьменнік Іёнас Шымкус, латышскі Карліс Фімберс, эстонскі Ральф Парве, армянскі Ашот Грашы, узбекскі Мірмухсін, а таксама Максім Танк, Эдзі Агняцвет, Анатоль Астрэйка, Максім Лужанін, Піліп Пестрак і я.

Кожнага прамоўцу зала прымала з захапленнем. Я прачытаў свой верш «У той дзень» і быў здзіўлены шквалам воплескаў. Два гады ўзапар да гэтага я таксама чытаў верш «У той дзень» на агульнагарадскіх Купалаўскіх вечарах і не адчуваў падобнага рэагавання слухачоў, хаця і тады яны ажыўлена апладзіравалі.

У часе антракту перад пастаноўкаю «Паўлінкі» некаторыя знаёмыя выказвалі меркаванне, што на такую рэакцыю залы ўздзейнічалі паводзіны Аляксандра Твардоўскага, які, як казалі яны, вельмі ўважліва слухаў маё выступленне. З трыбуны я, вядома, не бачыў гэтага, але сумняваюся, што менавіта ў той час за Аляксандрам Твардоўскім магла назіраць вялікая колькасць слухачоў. Мне здаецца, што яны гэтак ажыўлена ўспрынялі мой верш з-за радкоў «а ўжо нам сніўся... з бронзы выліты Купала», якія прагучалі праз пару гадзін пасля ўрачыстага адкрыцця помніка. Многія, мусіць, падумалі, што я спецыяльна да гэтых урачыстасцяў напісаў верш. А хутчэй за ўсё, што яшчэ адна немалаважная акалічнасць магла таксама садзейнічаць такому ўспрыняццю майго выступлення.

З прэзідыума я добра бачыў у першым радзе партэра родных Янкі Купалы. Прадэкламаваўшы пачатак верша, я міжвольна зірнуў на іх — і заўважыў, што Леакадзія і Марыя Дамінікаўны выціраюць з вачэй слёзы.

Як бы там ні было, але верш «У той дзень», які раней друкаваўся ў Маскве ў перакладзе на рускую мову, з'явіўся ў друку яшчэ і ў

Ленінградзе. І адным з яго перакладчыкаў быў Аляксандр Пракоф'еў, які таксама выступаў на гэтым, памятным для мяне, вечары.

А ў тым, што Аляксандр Твардоўскі паводзінамі сапраўды выдаваў свой настрой, я пераканаўся праз тры гады на чарговым агульнагарадскім вечары ў Мінску. Прысвечаны ён быў 70-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы і праходзіў таксама ў Купалаўскім тэатры.

Адкрыў і вёў вечар Якуб Колас.

Даклад аб жыцці і творчасці Янкі Купалы рабіў Пятрусь Броўка.

У сваім выступленні на гэтым вечары Аляксандр Твардоўскі гаварыў пра вялікую ролю і месца нашага песняра ў агульнасаюзнай літаратуры.

На вечары выступалі дырэктар Інстытута літаратуры Акадэміі навук Літвы Костас Корсакас і беларускія паэты Эдзі Агняцвет, Канстанцыя Буйло, Максім Лужанін, Рыгор Няхай і я.

Калі я прачытаў верш «Вянкі Янку Купалу» і сеў на сваё месца ў прэзідыуме, да мяне хуценька перасеў Дзмітры Осін і папрасіў для перакладу гэты верш, спаслаўшыся на тое, што на маё выступленне станоўча адрэагаваў Аляксандр Твардоўскі.

Аляксандру Трыфанавічу, вядома, мог спадабацца не столькі верш, колькі маё чытанне. Дык у гэтым жа заслуга маёй школьнай настаўніцы і выкладчыка выразнага чытання ў педагагічным інстытуце.

У свядомым узросце я заўсёды хацеў як мага больш даведацца пра жыццё і творчасць нашага вялікага паэта і імкнуўся расказваць пра яго іншым. А тут для мяне склаліся шчаслівыя абставіны, якія асабліва спрыялі і садзейнічалі гэтаму.

Маральна я ўжо як бы не меў права ўхіляцца ад Купалаўскіх сустрэчаў, асабліва калі ўдзельнічаць у іх мяне запрашалі Уладзіслава Францаўна ці пляменніца паэта Ядвіга Юльянаўна Раманоўская, якая доўгі час працавала захавальнікам фондаў Літаратурнага музея Янкі Купалы, або яе дачка Жанна Казіміраўна Дапкюнас, якая і цяпер узначальвае гэтую ўстанову.

У першыя пасляваенныя гады ўстанавіліся моцныя сувязі паміж беларускімі і ленінградскімі пісьменнікамі. Спрыяла гэтаму тое, што кіраўнік Ленінградскай пісьменніцкай арганізацыі Аляксандр Пракоф'еў сябраваў з многімі старэйшымі беларускімі пісьменнікамі, сам прыязджаў у Мінск амаль на ўсе літаратурныя вечары, прысвечаныя жыццю і творчасці Янкі Купалы і Якуба Коласа, або накіроўваў на іх Мікалая Брауна, Марыю Камісараву, Паўла Кабзарэўскага.

У Мінску тады выйшла анталогія паэтаў Ленінграда на беларускай мове, а ў іх — анталогія беларускай паэзіі і многія паэтычныя і празаічныя творы нашай літаратуры. Некалькі разоў нашы гарады абменьваліся пісьменніцкімі дэлегацыямі. У Ленінградзе праводзіліся вялікія Купалаўскія і Коласаўскія ўрачыстасці. А пісьменнікі Усевалад Раждзественскі, Вадзім Шэфнер і іншыя працавалі ў Доме творчасці «Каралішчавічы».

У канцы чэрвеня 1955 года мы адвезлі ў Ленінград мемарыяльную дошку, на белым мармуры якой залатымі літарамі было напісана: «В этом доме с 1909—1913 гг. жил народный поэт Белоруссии Янка Купала (Иван Доминикович Луцевич)». Умацавалі яе на доме № 45 па 4-й лініі Васільеўскага вострава.

На ўрачысты мітынг, прысвечаны гэтай падзеі, сабраліся прадстаўнікі працоўных і літаратурная інтэлігенцыя горада.

Адкрыў мітынг Аляксандр Пракоф'еў, выступіў паэт Мікалай Браун.

На мітынгу выступіла таксама Уладзіслава Францаўна.

Другі раз вялікай групаю мы ездзілі ў Ленінград зімою 1958 года праводзіць вечар, прысвечаны 75-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа. У Доме пісьменніка вечар адкрыў Мікалай Браун.

Даклад аб жыцці і творчасці абодвух народных паэтаў зрабіў Васіль Вітка. Максім Лужанін, Пятро Прыходзька і я чыталі свае вершы, прысвечаныя нашым народным паэтам. Выступалі на вечары і пісьменнікі Ленінграда: Усевалад Раждзественскі, Усевалад Азараў, Браніслаў Кежун, Марыя Камісарава, Павел Кабзарэўскі.

Уладзіслава Францаўна з незвычайнай цеплынёю і сардэчнасцю расказвала пра цікавыя факты з часоў знаходжання Янкі Купалы ў Пецярбургу.

Майстар мастацкага слова Аляксей Слесарэнка прачытаў урывак з трылогіі Якуба Коласа «На ростанях» і верш Янкі Купалы «Сват».

Рамансы і песні на словы народных паэтаў спявалі народны артыст Беларусі Міхаіл Зюванаў і заслужаны артыст рэспублікі Аляксандр Самарадаў.

Саліст Ленінградскага Малога тэатра оперы і балета, наш зямляк Фёдар Андруковіч на роднай мове выканаў некалькі беларускіх народных песень і рамансаў на словы Янкі Купалы і Якуба Коласа.

Удзельнікам вечара быў паказаны дакументальны фільм.

Пасля старшыня праўлення Ленінградскага аддзялення саюза пісьменнікаў Аляксандр Пракоф'еў наладзіў цёплы прыём беларускім гасцям.

Праводзячы Купалаўскія мерапрыемствы, Уладзіслава Францаўна не абмяжоўвалася ўдзелам у іх адных пісьменнікаў, а часта запрашала мастакоў, кампазітараў і акцёраў. Праўда, сустрэчы з імі праходзілі толькі ў Мінску.

Звычайна ў такіх сустрэчах удзельнічалі: Уладзіслава Францаўна, мастак або актор і я. Часцей за ўсё гэта былі — Ларыса Александроўская, Заір Азгур, зрэдку — Рыгор Шырма, Павел Малчанаў і Барыс Платонаў.

Ларыса Пампееўна спявала песні на словы Янкі Купалы «Восень», «Як на свет радзіўся Янка», «Вечарынка», «Як у лесе зацвіталі», а таксама беларускія народныя песні.

Заір Ісакавіч успамінаў пра сваю вучобу ў Віцебскім мастацкім тэхнікуме і ў Акадэміі мастацтва ў Ленінградзе, дзе штомесяц атрымліваў пасылкі і стыпендыю ад Янкі Купалы і Якуба Коласа, расказваў пра тое, як жыў дома ў Янкі Купалы на Правіянцкай вуліцы, як некалькі разоў у розныя гады ляпіў бюсты паэта, прычым расказваў пра ўсё гэта падрабязна, з цікавымі дэталямі і характарыстыкамі.

Рыгор Шырма звяртаў увагу на важную ролю, якую адыграў у развіцці беларускага раманса кампазітар Канстанцін Галкоўскі, вучань Мікалая Рымскага-Корсакава і Аляксандра Глазунова. Канстанцін Міхайлавіч з асаблівай любасцю пісаў музыку на вершы Янкі Купалы «Выйдзі спаткаці вясну», «Абнімі ты мяне, маладая», «Як у лесе зацвіталі», «Тры сыны», «На Полацкім замчышчы».

Рыгор Раманавіч таксама высока цаніў творчасць Мікалая Чуркіна, які запісаў каля трох тысяч беларускіх народных песень і нямала пісаў на Купалавы творы, пачынаючы ад песень і канчаючы операй «Раскіданае гняздо».

Да глыбіні душы крануў мяне расказ Рыгора Раманавіча пра рускага кампазітара, дарэчы, таксама вучня Мікалая Рымскага-Корсакава Аляксандра Грачанінава, які яшчэ ў самым пачатку дваццатага стагоддзя заснаваў пры Маскоўскім універсітэце музычную секцыю этнаграфічнага таварыства і з'яўляўся яе віцэ-старшынёю. Там і пачалося знаёмства Аляксандра Ціханавіча з беларускімі народнымі песнямі, якія ён «асабліва палюбіў», як сам пісаў у кнізе «Моя музыкальная жизнь».

Павел Малчанаў прыгадваў пра сустрэчы з паэтам, з якім пазнаёміўся яшчэ з часоў Беларускай студыі, дзе Янка Купала, Якуб Колас, Змітрок Бядуля, Цішка Гартны і Міхась Чарот былі частымі гасцямі. Расказваў пра тое, як у драматычным тэатры імя Якуба Коласа яны рыхтаваліся ставіць «Паўлінку» і «Прымакі» і як ён, жадаючы зрабіць прыемнае Янку Купалу, спецыяльна прыязджаў з Віцебска ў Мінск, каб сустрэцца з паэтам. У часе працы над спектаклем артыст зблізіўся з сям'ёю Янкі Купалы і, калі тэатр прыязджаў на гастролі ў Мінск, па запрашэнні Уладзіславы Францаўны, заўсёды спыняўся ў гасцінным доме паэта. Іншы раз без грыму Павел Сцяпанавіч выконваў маналогі купалаўскіх герояў.

Барыс Платонаў у часе гэтых выступленняў заўсёды чытаў паэму «Курган». Чытаў ён хораша, своеасаблівым звонкім голасам.

У час паездак у тыя мясціны, дзе калісьці жыў або працаваў Янка Купала, Уладзіслава Францаўна нярэдка расказвала пра некаторыя эпізоды з ягонага жыцця і працы.

Цяпер я вельмі шкадую, што па свежых слядах не занатоўваў яе ўспаміны. Тады мне здавалася, што гэты фактычны матэрыял можа спатрэбіцца толькі літаратуразнаўцам, а я, апрача вершаў, нічога іншага пісаць не буду.

А як бы зараз маглі спатрэбіцца тыя цікавыя занатоўкі.

Вельмі часта Уладзіслава Францаўна прыгадвала многіх рэпрэсіраваных пісьменнікаў. У той час яшчэ ніхто з іх не быў рэабілітаваны і ніводзін з уцалелых не вярнуўся на Беларусь. А паколькі нікога з іх я не бачыў і не ведаў асабіста, дык з асаблівай цікавасцю слухаў яе ўспаміны пра іх. У мяне склалася ўражанне, што ці то часцей бывалі ў Купалы, ці то ён болей вылучаў сярод іншых Цішку Гартнага, Міхася Чарота, Міхася Зарэцкага, Уладзіміра Хадыку і Сымона Баранавых.

Паводле расказаў Уладзіславы Францаўны, як жывы, паўстае перада мною прыгажун Валеры Маракоў, якога міліцыянер аштрафаваў за парушэнне правілаў пры пераходзе вуліцы.

— Дык Валька пасля адпомсціў таму міліцыянеру: адбіў у яго каханую дзяўчыну,— смяялася Уладзіслава Францаўна.

Паводле яе ўспамінаў уяўляў сабе, як, пераязджаючы на іншую кватэру, сям'я Тодара Кляшторнага па дарозе згубіла з саней загорнутае ў коўдру дзіцё.

Смешнае заўсёды запамінаецца болей, чым сур'ёзнае.

Уладзіслава Францаўна вельмі патрабавальна адносілася да ўдзельнікаў паездак, не дазваляючы ніякіх вольнасцяў, пракудаў ці заляцанняў. Варта ёй было заўважыць, што хто-небудзь з удзельнікаў не вытрымлівае яе строгага патрабавання, як ён у далейшым назаўсёды пазбаўляўся магчымасці трапіць у паездку.

У 1962 годзе, праз дваццаць гадоў пасля смерці Янкі Купалы, напярэдадні васьмідзесяцігоддзя з дня нараджэння паэта было вырашана перавезці з Масквы ў Мінск яго астанкі і пахаваць на Вайсковых могілках.

Мне здавалася, што гэтая падзеяператворыцца ў нацыянальную

жалобную працэсію, накшталт той, якой стала пахаванне Якуба Коласа. Узрушаны гэтым, я напісаў верш «Вяртанне».

Аднак па паводзінах кіраўніцтва рэспублікі адчувалася, што яно пабойваецца ўздыму нацыянальнага пачуцця народа. Шырокая грамадскасць была ўведзена ў зман. Прызначыўшы пэўны час для правядзення жалобнага мітынгу, кіраўніцтва за некалькі гадзін да таго, у прысутнасці родных Янкі Купалы і абмежаванага кола прадстаўнікоў грамадскасці, употайкі ад народа пахавала астанкі вялікага паэта. Гэты ўчынак абурыў дзеячаў культуры. Было сорамна за нашых гора-кіраўнікоў.

Я трохі насцярожана чакаў выхаду ў свет «Маладосці», баючыся, што прыдзірлівыя цэнзары здымуць мой верш. Праўда, яны не надалі яму асаблівага значэння, і верш з'явіўся ў сёмым нумары часопіса.

Улетку 1982 года ў Маскве ў Вялікім тэатры адзначалася 100-годдзе з дня нараджэння Янкі Купалы. На гэтую ўрачыстасць запрасілі і нас, групу беларускіх пісьменнікаў. Адкрываў вечар Георгі Маркаў. Слова пра паэта сказаў Аляксандр Кузьмін, а потым выступілі Барыс Алейнік, Альфонс Малдоніс, Міхаіл Дудзін, Максім Танк, Сібгат Хакім. У гонар юбілею нам далі прыём з таварыскай вячэраю.

Купалаўскія ўрачыстасці якраз супалі з Някрасаўскімі, і кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў СССР запрасіла мяне прыняць у іх удзел. Мне самому даўно хацелася пабываць на радзіме вялікага рускага паэта, муза якога са школьных гадоў у маім уяўленні асацыіравалася з Купалаўскай і чамусьці, як ніякая іншая, выкрасала з вачэй слёзы.

Таму я з радасцю прыняў запрашэнне, адчуўшы, што прадстаўляецца магчымасць спалучыць абодва літаратурныя юбілеі і скарыстаць гэта ў сваім выступленні на радзіме Мікалая Някрасава. Праўда, патрэбна была тэрміновая дапамога Літаратурнага музея Янкі Купалы. За адну ноч я з'ездзіў у Мінск, наспех захапіў тое, што змог, і наступнай ноччу вярнуўся ў Маскву, адкуль разам з удзельнікамі Някрасаўскіх урачыстасцяў паехаў у Яраслаўль.

Калі мне далі слова на мітынгу на радзіме вялікага рускага паэта, я павіншаваў удзельнікаў з Някрасаўскім святам, адзначыўшы, што яно супала з Купалаўскім, якое толькі што прайшло ў Маскве. Потым прачытаў па-беларуску някрасаўскі верш «Што ні год, памяншаюцца сілы» ў Купалавым перакладзе і ад імя Літаратурнага музея Янкі Купалы перадаў мемарыяльнаму музею Мікалая Някрасава вялікі партрэт нашага народнага паэта, ягоныя кнігі, сувенірныя значкі, буклеты.

А калі ў Спаса-Яраслаўскім манастыры, дзе, як мяркуюць, спачатку захоўваўся рукапіс «Слова аб палку Ігаравым», мы знаёміліся з матэрыяламі, якія пацвярджаюць гэтую здагадку, я сказаў Аляксею Суркову, што яшчэ ў 1919 і 1921 гадах Янка Купала зрабіў празаічны і паэтычны пераклад на беларускую мову гэтага помніка старажытнай літаратуры.

Каля падножжа Крымскіх гор у Гаспры, сярод вечназялёных кіпарысаў і ліванскіх кедраў, раскінуліся карпусы санаторыя «Ясная паляна». На двухпавярховым будынку, пабудаваным у выглядзе сярэднявечнага замка, узвышаюцца дзве вежы, на фасадзе ўзбоч дзвюх дзвярэй умацаваны дзве мемарыяльныя дошкі. На адной з іх, справа, надпіс: «В этом доме с 2.XI.1901 г. по 25.VI.1902 г. жил Лев

Николаевич Толстой. Здесь у него бывали А. П. Чехов и А. М. Горький».

А на той, што вісіць злева, напісана: «Здесь в 1923 году народный поэт Белоруссии Янка Купала написал цикл стихов «Крым».

Калісьці ў гэтым будынку была дача графіні Панінай, у якой адпачываў геніяльны рускі пісьменнік у час свайго апошняга прыезду ў Крым. Тут ён цяжка захварэў і яго ледзьве выхадзілі дактары.

Пасля грамадзянскай вайны гэтая дача была ператворана ў санаторый для вучоных. Тады і адпачываў у ім Янка Купала.

Цяпер у новых вялізных карпусах санаторыя адпачываюць дзеці з бацькамі. На працягу дзесяці гадоў амаль кожны месяц з восені да вясны то ў кіназале, то ў бібліятэцы санаторыя я сустракаўся з імі, нагадваў пра тое, што тут калісьці адпачываў Янка Купала, дарослым расказваў пра значэнне яго творчасці ў беларускай літаратуры, а дзецям чытаў верш «Хлопчык і лётчык» і зазначаў, як у маленстве любіў гэты верш будучы першы касманаўт Юры Гагарын.

Ад старэйшых пісьменнікаў я неаднойчы чуў пра гасціннасць у Купалавым доме, а пасля вайны меў шчасце сам пераканацца ў гэтым. Не помню ніводнай Купалаўскай сустрэчы, перад выездам на якую мы не сядалі б за стол або заканчэнне якой не адзначалі б сціплым полуднікам ці вячэраю. Звычайна ў кватэры пачастункі на стол ставілі Уладзіслава Францаўна і Марыя Дамінікаўна, але ў дарогу іх заўсёды рыхтавала апошняя. Уладзіслава Францаўна тымчасам клапацілася і пераправярала, ці сабраны і ўзяты падарункі для ўстановы або арганізацыі, у якую мы едзем: кнігі паэта, закладкі для іх з ягоным партрэтам, настольныя бюсты, плакаты.

Шчыра кажучы, тут я па-сапраўднаму прыціраўся да людзей, дый не абы-якіх, назіраў за імі, вучыўся паводзіць сябе сярод іх. Бо да гэтага лёс мой складваўся так, што я пасля пачатковай школы фактычна не стыкаўся дома і рэдка калі бываў на вачах у бацькоў. То на працягу шасці гадоў хадзіў за шэсць кіламетраў у школу, а таму толькі начаваў дома, то тры гады жыў у студэнцкім інтэрнаце і адначасова працаваў у рэдакцыі, то — салдацкае жыццё на фронце, то лагер ваеннапалонных.

А калектыў з ягоным статкавым жыццём не столькі выхоўвае чалавека, колькі падаўляе ў ім індывідуальнасць асобы дый не вучыць добрым паводзінам.

У гэтых адносінах Уладзіслава Францаўна ў нейкай меры была для мяне нібы клапатлівая маці.

Пасля смерці Уладзіславы Францаўны застоллі ў дні Купалаўскіх юбілеяў зрэдку наладжваліся на кватэры Леакадзіі Дамінікаўны, дзе таксама панавала тая ж сардэчнасць і гасціннасць.

Купалавы сёстры заўжды прысутнічалі на агульнагарадскіх вечарах, прысвечаных жыццю і творчасці іхняга брата. Часамі мы выступалі разам на некаторых Купалаўскіх сустрэчах.

Асабліва запомнілася мне вялікая перадача па тэлебачанні, у якой удзельнічалі Марыя і Леакадзія Дамінікаўны, а таксама першая выканаўца ролі Паўлінкі ў Пецярбургу Паўліна Вікенцьеўна Мядзёлка, Пятро Глебка, Кастусь Цвірка. Арганізаваў і вельмі ўдала вёў яе Іван Курбека, прафесійны супрацоўнік літаратурных музеяў, у той час Купалаўскага, а пазней Коласаўскага. Дарэчы, ён быў адмысловым арганізатарам шматлікіх літаратурных сустрэчаў, прысвечаных жыццю і творчасці абодвух народных паэтаў.

Сама прысутнасць сясцёр Янкі Купалы на такіх вечарах заўсёды была сімвалічнаю, не кажучы пра тое, што часамі яны сваімі ўспамінамі ўзнаўлялі характэрныя рысы і звычкі маладога Янкі Купалы.

Праўда, на іх удзеле ў падобных вечарах часам спрабавалі спеку-

лявацЬ некаторыя занадта спрытныя арганізатары Купалаўскіх мерапрыемстваў. У сувязі з гэтым не магу не расказаць пра адзін прыкры выпадак, сведкам якога мне давялося быць.

На месцы цяперашняга кінатэатра «Кастрычнік» некалі стаяў яго невялікі папярэднік — «Зорка». Дырэктарам яго была жонка нейкага адказнага кіраўніка. Яна панадзілася праводзіць сустрэчы гледачоў з пісьменнікамі перад пачаткам сеансаў. Рабілася гэта, вядома, толькі дзеля птушачкі.

Пазней апетыт гэтай асобы настолькі распаліўся, што яна пачала ад імя свайго кінатэатра арганізоўваць падобныя сустрэчы ў навакольных навучальных установах. А сама нават не прысутнічала на іх.

Аднойчы ўлетку яна запланавала вялікі Купалаўскі вечар у актавай зале Інстытута механізацыі сельскай гаспадаркі. На яго запрасіла вядомых акцёраў Купалаўскага тэатра, сясцёр паэта і мяне. Я з'явіўся туды загадзя. Неўзабаве прыехалі Марыя і Леакадзія Дамінікаўны, а пасля акторы Купалаўскага тэатра і грузавік з тэатральным рэквізітам. Інстытут быў бязлюдны. Не ведаю, на якую аўдыторыю спадзявалася арганізатар вечара ў часе летніх канікулаў. Я гатовы быў скрозь зямлю праваліцца ад сораму перад сёстрамі Янкі Купалы. Каб як-небудзь згладзіць непрыемнае ўражанне, пачаў дапамагаць народным артыстам Савецкага Саюза Глебу Глебаву і Уладзіміру Дзядзюшку насіць з грузавіка сталы, крэслы і розныя дробныя рэчы хатняга ўжытку. Тут жа стаялі збянтэжаныя народная артыстка Савецкага Саюза Лідзія Ржэцкая і народная артыстка рэспублікі Вера Пола.

Даўно мінуў прызначаны час адкрыцця вечара, на сцэне быў расстаўлены тэатральны рэквізіт, сярод якога расхаджвалі пераапранутыя выканаўцы аднаго з актаў «Паўлінкі», і толькі ў зале не было ніводнага гледача.

Выратаваў становішча хтосьці з выпадковых наведвальнікаў, які знаў, што дзесьці непадалёк у інтэрнаце жывуць навучэнцы курсаў павышэння кваліфікацыі старшыняў сельскіх Саветаў.

Добры чалавек схадзіў туды і прывёў у залу мноства гледачоў, дый не абы-якіх, а зацікаўленых, якія ніколі не бачылі ні сясцёр Янкі Купалы, ні славутых беларускіх акцёраў.

Пустарэвіч і Крыніцкі, увайшоўшы ў свае ролі, з такімі жэстамі размаўлялі за сталом, што лыжкі з яго ўзляталі ажно пад столь, а Альжбета і Агата ніяк не маглі ўтаймаваць сваіх мужоў.

Вечар прайшоў ажыўлена, мы былі ў захапленні ад слухачоў і гледачоў.

Марыя і Леакадзія Дамінікаўны з твару былі непадобныя. Першая больш нагадвала брата. Але, пільна прыгледзеўшыся да абедзвюх, усё-такі можна было прыкмеціць іх агульнае падабенства да Янкі Купалы. Толькі калі ў Марыі Дамінікаўны на твары была найбольш ягоная дабрыня і сардэчнасць, дык у Леакадзіі Дамінікаўны выразней — Купалава высакародства і чалавечая годнасць.

Я, вядома, не мог бачыць маладога Купалу. Але мне чамусьці здаецца, што ён быў такім, як ягоны пляменнік, сын Леакадзіі Дамінікаўны мастак Янка Раманоўскі, з якім мы працяглы час працавалі разам у «Маладосці». Праўда, іхняе падабенства было ўнутранае: далікатнасць, ціхмянасць, дабрыня і сардэчнасць. Хаця і вонкава штосьці ад дзядзькі: прамы нос з тэмпераментнымі ноздрамі, трошкі задуменныя вочы, у якіх, як і ў куточках вуснаў, была прыхавана ледзь улоўная ўсмешка.

Шкада, што заўчасная смерць мастака перашкодзіла развінуцца на ўсю шырыню ягоным здольнасцям. Аднак Янка Раманоўскі

паспеў таленавіта праілюстраваць творчасць Янкі Купалы, па-мастацку ўзнавіў на палотнах ягоных бацькоў і многіх герояў, а таксама пакінуў арыгінальныя, чорна-белыя партрэты абодвух нашых класікаў.

На сцяне ў маёй кватэры вісіць гэты партрэт Янкі Купалы са шчырым надпісам мастака. А на пісьмовым стале стаяць першы пасляваенны бюст паэта работы Сяргея Селіханава, ваза для алоўкаў і драўляны абразок з партрэтамі Янкі Купалы, падараваныя Уладзіславай Францаўнай, Марыяй і Леакадзіяй Дамінікаўнымі. А на кніжнай паліцы — юбілейны том Янкі Купалы з надпісам: «Паважанаму тав. Аўрамчыку М. Я., на шчыры ўспамін аб Янку. В. Луцэвіч 26.2.1949 г.»

На вялікі жаль, мне не давялося з-за розных паездак правесці ў апошні шлях Якуба Коласа, Уладзіславу Францаўну і сясцёр Янкі Купалы. Я не бачыў іх у труне, і таму назаўсёды яны засталіся для мяне жывыя, пра што я засведчыў вершам «Роднае».





# КРЫТЫКА І ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА

ВЯЧАСЛАЎ РАГОЙША

# БАЦЬКА НАЦЫІ

## АРТЫКУЛ ДРУГІ

Нават пасля гвалтоўнага Рыжскага дагавору падзеленая на часткі Беларусь усё роўна — жыла! Жыла — у канкрэтнай дзяржаўнай форме савецкай сацыялістычнай рэспублікі. Відавочна, Янка Купала не спадзяваўся менавіта на такое вырашэнне сацыяльных і нацыянальных праблем роднага народа, бо добра помніў «чрезвычайку» 1919 года, у прамежку паміж нямецкай і польскай акупацыямі: «Курганы сотняў нявінна расстраляных... Над Менскам павіс крывавы кашмар. Людзі на вуліцах баяліся галасна гаварыць. Кожную ноч — павальныя вобыскі» («Справа незалежнасці Беларусі за мінулы год»). Таму спачатку і не было з боку паэта радаснага вітання новай рэчаіснасці і новай улады.

Але ж, нягледзячы ні на што, на палітычнай карце свету з'явілася яго, Янкі Купалы, рэспубліка — Беларусь! Прычым, БССР, як і РСФСР, Украіна, Закаўказская Федэрацыя, спачатку абвяшчалася як незалежная рэспубліка, звязаная з астатнімі трыма на аснове двухбаковых пагадненняў. Як самастойны суб'ект міжнароднага права яе пачалі прызнаваць асобныя замежныя дзяржавы (у 20-х гадах у БССР былі дыпламатычныя адносіны амаль з дзесяццю краінамі свету). Ды і «гэтыя саветы» былі ўжо трохі іншыя, чым «тыя», ранейшыя,— і ў ідэалагічным, і ў сацыяльным, і нават у нацыянальным сэнсе. Неяк неўпрыкмет у Беларусі не стала А. Мяснікова, В. Кнорына, ва ўладных структурах з'явіліся свядомыя беларусы: А. Чарвякоў, М. Галадзед, У. Ігнатоўскі, А. Баліцкі, П. Ільючонак...

У сакавіку 1921 года ў Маскве адбыўся X з'езд РКП(б), які вызначыў шляхі нацыянальна-культурнага развіцця краіны. Янка Купала,

несумненна, з зацікаўленасцю ўспрыняў рэзалюцыю з'езда «Аб чарговых задачах партыі ў нацыянальным пытанні», дзе ўжо ў прэамбуле было слушна сказана пра лёс многіх, прыгнечаных у мінулым, народаў былой «турмы народаў» — царскай Расіі, у тым ліку і пра лёс беларускага народа: «Палітыка царызму, палітыка памешчыкаў і буржуазіі ў адносінах да гэтых народаў заключалася ў тым, каб забіць сярод іх пачаткі ўсялякай дзяржаўнасці, калечыць іх культуру, заціскаць мову, трымаць іх у цемры і, нарэшце, па магчымасці, русіфікаваць іх...». Паэт з радасцю і надзеяй учытваўся ў радкі пастановы з'езда, праект якой падрыхтаваў У. Ленін: ...б) развіць і ўмацаваць у сябе дзеючыя **на роднай мове** суд, адміністрацыю, органы гаспадаркі, органы ўлады, складзеныя з **людзей мясцовых**, якія ведаюць быт і псіхалогію **мясцовага насельніцтва**; в) развіць у сябе прэсу, школу, тэатр, клубную справу і ўвогуле культурна-асветныя ўстановы **на роднай мове;** г) паставіць і развіць шырокую сетку курсаў і школ як агульнаадукацыйнага, так і прафесійна-тэхнічнага характару **на роднай мове...»** (усюды падкрэслена мною.— **В. Р.**). У той час да нацыянальнага пытання звярнуўся і сам Ленін, які ў сваім палітычным завяшчанні («Да пытання аб нацыянальнасцях ці аб «аўтанамізацыі», 1992 г.) нават прасіў прабачэння ў расійскага рабочага класа, што розныя турботы і хвароба не далі яму раней заняцца з усёй сур'ёзнасцю гэтым пытаннем. Тады ж ленінскія думкі сталі вядомыя кіраўнікам партыі, хоць да радавых партыйцаў і ўсяго насельніцтва яны дайшлі толькі ў 1956 годзе, пасля XX з'езда партыі, калі завяшчанне Леніна з'явілася ў друку.

Відавочна, не ўсё з выказванняў і канкрэтных памкненняў камуністычных «прарокаў», у тым ліку і самога Леніна, Янка Купала ў той час прымаў. Але тыя думкі былі б, несумненна, «пад мысль» і беларускаму песняру-прароку. Гэта — і выказаная Леніным неабходнасць абароны «іншародцаў ад ісцінна рускага дзяржыморды», і тое, што партыйны і дзяржаўны апарат першых савецкіх гадоў «уяўляў сабою буржуазную і царскую мешаніну», а «нязначны працэнт савецкіх і саветызаваных рабочых» тануў «у моры шавіністычнай велікарускай дрэні, як муха ў малацэ», і тое, што «інтэрнацыяналізм з боку прыгнятаючай ці так званай «вялікай» нацыі (хаця вялікай толькі сваім насіллем, вялікай толькі так, як вялікі дзяржыморда) павінен заключацца не толькі ў захаванні фармальнай роднасці нацый, але і ў такой няроўнасці, якая кампенсавала б з боку нацыі прыгнятаючай, нацыі вялікай, тую няроўнасць, якая складваецца ў жыцці фактычна»... На ўласным жыццёвым вопыце не раз Янка Купала пераконваўся і ў слушнасці ленінскага меркавання, што «абрусельыя іншародцы заўсёды перасольваюць адносна сапраўды рускага настрою»...

Гэтыя і шэраг іншых высноў Леніна абумовілі сутнасць пастановы «Па нацыянальным пытанні» XII з'езда РКП(б), які адбыўся ў красавіку 1923 года. У гэтай пастанове, што прадвызначыла савецкую нацыянальную палітыку 20-х гадоў, было недвухсэнсоўна сказана: «Рашучая барацьба з перажыткамі велікарускага шавінізму з'яўляецца першачарговай задачай нашай партыі». Зразумела, пэўная пагроза існавала і з боку нацыяналізму не рускіх народаў. Але і тут была зроблена скідка для калісь прыгнечаных нацый: «Перажыткі нацыяналізму ўяўляюць своеасаблівую форму абароны супраць велікарускага шавінізму, рашучая барацьба з велікарускім шавінізмам з'яўляецца надзейнейшым сродкам пераадолення нацыяналістычных перажыткаў». Развіваючы асноватворныя рашэнні X з'езда РКП(б), пастанова XII з'езда партыі патрабавала, каб «былі выдадзены спецыяльныя законы, якія б забяспечвалі выкарыстанне роднай мовы ва ўсіх дзяржаўных органах і ва ўсіх установах, што абслугоўваюць

мясцовае іншанацыянальнае насельніцтва і нацыянальныя меншасці, законы, якія б праследавалі і каралі з усёй рэвалюцыйнай суровасцю ўсіх парушальнікаў нацыянальных правоў і асабліва правоў нацыянальных меншасцяў». Прымаючы да ўвагі, што агульная армія — пры вяршынстве ў краіне рускай нацыі — з'яўляецца адным з верагоднейшых сродкаў русіфікацыі, пастанова з'езда патрабавала ад партыйных і дзяржаўных органаў, каб «была ўзмоцнена выхаваўчая работа ў Чырвонай Арміі ў духу насаджэння ідэй братэрства і салідарнасці народаў Саюза і былі прыняты практычныя мерапрыемствы па арганізацыі нацыянальных вайсковых «часцей».

Рашэнні X і XII з'ездаў РКП(б) ляглі ў аснову шматлікіх пастаноў кіраўнічых органаў КПБ, ЦВК і СНК БССР па пытаннях нацыянальна-культурнага будаўніцтва — палітыкі, якая атрымала афіцыйную назву «беларусізацыя». Аналагічная палітыка планава і цэнтралізавана праводзілася ва ўсіх калісьці прыгнечаных царызмам рэспубліках, якія ў канцы 1922 года аб'ядналіся ў СССР (на Украіне яна называлася «ўкраінізацыяй», у іншых мясцовасцях — «карэнізацыяй»). Янка Купала, несумненна, не мог не вітаць такую палітыку, якая цалкам адпавядала ягоным імкненням і марам яшчэ з дарэвалюцыйнага часу. Ён — і не толькі ён — пераконваўся: савецкая ўлада і камуністычная партыя на справе вырашае нацыянальнае пытанне, стварае ўсе ўмовы для развіцця беларускай мовы, культуры, навукі, народнай гаспадаркі. Гэта асабліва добра было відаць пры супастаўленні з палітыкай на беларускай зямлі, што паводле Рыжскага дагавору адышла да Польшчы. У той час, калі ў Польшчы зачыняліся беларускія школы, праследаваліся беларускія грамадскія арганізацыі і выданні, у БССР адчыняліся нацыянальныя навучальныя і навуковыя ўстановы (у 1921 — Белдзяржуніверсітэт, у 1922 — Інбелкульт, які ў 1929 быў ператвораны ў Беларускую Акадэмію навук) і беларускія перыядычныя выданні (у 1922 — «Полымя», у 1923 — «Маладняк», у 1925 — «Наш край», у 1927 — «Узвышша» і інш.), тэатры (у 1920 — Беларускі дзяржаўны тэатр імя Янкі Купалы і Беларускі трэці дзяржаўны тэатр, у 1926 — Беларускі тэатр імя Якуба Коласа). Беларуская мова станавілася афіцыйнай мовай дзяржаўных і грамадскіх устаноў, у тым ліку і камуністычнай партыі Беларусі (так, ліпеньскі пленум ЦК КПБ(б) 1924 года абавязаў усіх членаў партыі, якія па тых ці іншых прычынах не ведалі беларускую мову, авалодаць ёю да 1 студзеня 1928 года). Пашыраліся адміністрацыйна-тэрытарыяльныя межы БССР. У 1924 годзе па пастанове ЦВК СССР да Беларусі адышлі 15 паветаў і шэраг воласцей Віцебскай, Гомельскай і Смаленскай губерняў, у 1926 — Гомельскі і Рэчыцкі паветы. Не забываліся і культурныя запатрабаванні нацыянальных меншасцяў. Разам з беларускай дзяржаўнымі мовамі ў рэспубліцы былі прызнаны руская, польская і яўрэйская. Беларускай аддавалася перавага, паколькі звыш 80 працэнтаў насельніцтва рэспублікі былі беларусы, але ва ўсіх дзяржаўных установах прымаліся дакументы і на іншых мовах. Больш таго, ствараліся нацыянальныя сельсаветы (польскія, яўрэйскія, рускія, латышскія, літоўскія, нямецкія). У Інбелкульце працавалі нацыянальныя аддзелы (яўрэйскі, польскі, латышскі і літоўскі), узніклі нацыянальныя дзяржаўныя тэатры (рускі, яўрэйскі і польскі), выходзілі кнігі і газеты не толькі на беларускай і рускай мовах, але і на яўрэйскай, польскай, літоўскай, латышскай, нават на эстонскай (шматтыражка). Без перабольшання, нават сёння мы не маем таго, што мелі беларуская і іншыя культуры народаў Беларусі ў тыя нялёгкія, няпростыя 20-я гады.

А яны і сапраўды былі нялёгкія, няпростыя. З пэўнаю асцярогай, паступова прымаючы новую рэальнасць, Янка Купала не мог не бачыць, а тым самым — і не раніць свайго сэрца асобнымі негатыўнымі

праявамі тагачаснага жыцця. Як і Якуб Колас, ён балюча ўспрыняў вынікі Рыжскага дагавору 1921 года. Надта ж дарагой цаной заплацілі за мір — амаль паловай Беларусі і Украіны. А саміх беларусаў і ўкраінцаў нават на мірныя перагаворы не запрасілі...

Таму Якуб Колас у вершы «Беларускаму люду» (1922) з болем у сэрцы пісаў:

Нас падзялілі — Хто? Чужаніцы,
Цёмных дарог махляры.
К чорту іх межы! К д'яблу граніцы!
Нашы тут гоні, бары!

Янка Купала ў вершы «Па Даўгінаўскім гасцінцы» (1926) тураваў свайму літаратурнаму пабраціму:

Калісь мы ў Рыгу збожжа везлі,
Цяпер зямлі завезлі часць...

Праўда, тут жа «станавіўся на горла ўласнай песні», перапыняў ход паэтычнай думкі:

Але куды мы, думка, ўлезлі?
Глядзі, наклічама напасць!

У сярэдзіне 20-х гадоў, як бачым, ужо станавілася небяспечным крытыкаваць афіцыйныя ўлады...

Перажываў Янка Купала за многіх людзей з «эксплуататарскага класа» (чыноўнікаў, папоў, святароў), якіх ДПУ масава садзіла ў створаны ў 1920 годзе менскі канцлагер. Паэта трывожылі рэцыдывы цэнзурнага ўціску, ад якога з беларускіх пісьменнікаў пацярпеў ён першы. У 1922 годзе з-за яго верша «Перад будучыняй» цэнзура канфіскавала надрукаваны ўжо альманах «Адраджэнне», а са зборніка «Спадчына» зняла верш «Паўстань...». Гнялі яго і праявы ў свядомасці многіх беларусаў «тутэйшавінізму» (нацыянальны нігілізм, самапрыніжэнне, прыстасавальніцтва да любых улад), які ён востра высмейваў у камедыі «Тутэйшыя» (1922).

На самым пачатку 20-х гадоў Янка Купала стаяў яшчэ ў баку ад палітычных падзей, хоць і імкнуўся прывітаць асобныя з іх альбо нават і паўплываць на іх. У прыватнасці, гэта добра выявілася ў вершы «Пазвалі вас» (1922), прысвечаным Леніну і яго саратнікам. «Пазвалі вас на пір піроў... Тварыць вы шлі і кроў лілі Сваю, чужую на зямлі... Рос вашай моцы блеск і мрок... І вось к вам вылез цень з магіл: Крывавы грош і «гаспадзін»... Збэшчаны павук... у сто кагцістых рук Хапае вас, рабы-цары...» Усюды «вы», «вас», «вам»... Паэт хоць і радуецца, што Еўропа нарэшце «Саветы кліча на «савет» (верш выклікала паведамленне аб запрашэнні Леніна на Генуэзскую канферэнцыю), але ўсё ж яна, Еўропа, «кліча ў госці **вас**», а не — «нас». Нават у славутым вершы «Перад будучыняй» (1922), дзе цалкам фігуруе «мы», дзе паэт імкнецца разбудзіць нацыю, нацыянальную інтэлігенцыю ад традыцыйнай культурна-палітычнай беларускай спячкі, адчуваецца адмежаванасць паэта (і невялікага кола яго аднадумцаў) ад тых, хто «правіць баль» у рэспубліцы. «Мы», кажа паэт, «задушаны, як мышы Пад жорсткім венікам з усіх старон», «гінем марна пад чужой апекай, Адбіўшыся ад родных вехаў, меж», «мы дзякуем, што торбы апранулі На нас ды з нашых нітак-валакон», «а хтось далёкі ці хтось, можа, блізкі Засеў за наш бяседны, сытны стол і кідае, як з міскі, нам агрызкі, А мы к зямлі з падзякай гнёмся ў пол...».

Тым не менш недзе да 1924 года Янка Купала ўжо адчуў сябе сваім у Савецкай Беларусі. Пачалося гэта з вычування новага, хоць і невядомага, часу («З Новым годам, што крыніцай, Новай пойдзе ў пераходзе, Беларуская зямліца! Беларускі мой народзе»! — «З Новым годам!», 1921), з радасці, што «вяртаюцца з выраю жоравы, гусі»

(1921) — вяртаюцца сыны беларускія да сваёй маці-Беларусі. Гарталася яно, адчуванне, дружбаю з новай камсамольскаю моладдзю («Арлянятам», 1923), з некаторымі нацыянал-камуністамі, кіраўнікамі Савецкай Беларусі — С. Булатам («На смерць Сцяпана Булата», 1921), Цішкам Гартным («Цішку Гартнаму», 1923), У. Ігнатоўскім («Наш летапісец», 1924)... Вось чаму ў 1924 годзе так радасна-лёгка плылі з сэрца словы пра Савецкую Беларусь, так арганічна кладліся яны ў строфы паэмы «Безназоўнае»:

Беларусь на куце
Ў хаце сваёй села,—
Чарка мёду ў руцэ,
Пазірае смела...

Сядзіць важна, сама
Сабе гаспадыня...

А мы самі, сабе самі
Ўжо гаспадары,
Малатамі і сярпамі
Звонім да зары...

Адчуваеце розніцу? У 1922 годзе — «хтосьці... засеў за наш бяседны, сытны стол», у 1924-м — «Беларусь на куце ў хаце сваёй села...». За нейкія два гады — і такая розніца ў пазіцыі паэта!

І не толькі Янка Купала прызнаў тую, Савецкую Беларусь 20-х гадоў. Поспехі беларусізацыі, сацыяльна-эканамічныя пераўтварэнні (у прыватнасці, новая эканамічная палітыка — нэп, якая абумовіла ўздым сельскай гаспадаркі, развіццё прамысловасці, ажыўленне гандлю), палітыка замірэння з былымі ідэйнымі праціўнікамі (11 ліпеня 1923 года Прэзідыум ЦВК БССР амніціраваў усіх, хто не выступаў са зброяй у руках супраць савецкай улады і не быў на службе ў органах контрразведкі і палітычнай ахранкі) прывялі да самароспуску партыі беларускіх эсэраў, да самаліквідацыі былога ўрада Беларускай Народнай Рэспублікі. Група былых членаў урада БНР, вядомых беларускіх культурных і грамадскіх дзеячаў — В. Ластоўскі, А. Смоліч, Ф. Аляхновіч, А. Цвікевіч — пераехалі з-за мяжы ў Менск і актыўна ўключыліся ў нацыянальна-культурную працу.

У 1925 годзе ўрачыста і ўсенародна адзначалася 20-годдзе літаратурнай працы Янкі Купалы. Песняру да гэтага юбілею было прысвоена ганаровае званне народнага паэта Беларусі. І калі ён у юбілейным «Лісце ў рэдакцыю» (газеты «Савецкая Беларусь») пісаў, што «гэта ёсць свята не маё, а беларускай нацыянальнай ідэі, гэта ёсць трыумф вызваленай працоўнай Беларусі», то ў шчырасці гэтых слоў нельга сумнявацца. Як і ў шчырасці наступных: «Інакшай Беларусі, як сялянскай і работніцкай, я сабе ў сваіх думках і песнях не ўяўляю, інакшых песень, як песень змагання, вызвалення і свабоды, я не ўмею складаць і не патраплю». **Такую** савецкую ўладу, якой яна была ў 20-я гады, **такую** нацыянальную палітыку, якая ў асноўным праводзілася тады на падставе ленінскага запавета па нацыянальным пытанні, рашэнняў X і XII з'ездаў РКП(б), Янка Купала прымаў і розумам, і сэрцам. Рэцыдывы ж вялікадзяржаўнага шавінізму, сацыяльнага ўціску, цэнзурных забаронаў, нават асобныя беззаконныя дзеянні ДПУ (як, напрыклад, арышт Ф. Аляхновіча ў 1926 годзе) успрымаліся паэтам як горкія выдаткі, асобныя пралікі ў змаганні за лепшую будучыню, за сацыяльны прагрэс, нацыянальны росквіт, інтэрнацыянальную еднасць савецкіх народаў.

Сёння нават уявіць цяжка, да якіх вяршынь творчасці, нацыянальна-культурнага і дзяржаўнага росквіту мы дайшлі б, калі б усё развівалася так, як яно пачалося ў 20-я гады, калі б не жудасныя 30-я і наступныя гады. Ленінскі план пабудовы справядлівага

сацыяльнага грамадства, здаецца, улічыў усё, апрача... патрэб і жаданняў самога чалавека, дзеля якога і стваралася гэтае грамадства. У апошнія гады жыцця, калі сістэма, створаная Леніным, пачала крышыць яго самога, ён, незадоўга да смерці, многае, відаць, зразумеў, бо заклікаў «памяняць увесь пункт погляду на сацыялізм». Але было позна... Аднапартыйная каманднa-адміністрацыйная сістэма, ды яшчэ пры панаванні аўтакратычных прынцыпаў (у прыватнасці, прынцыпу дэмакратычнага цэнтралізму), аб'ектыўна прыводзіла да самаўладства ў палітыцы, культуры, навуцы, да жорсткага цэнтралізму і унітарызму ў дзяржаўным будаўніцтве, да адмены аб'ектыўных законаў эканомікі, да мілітарызацыі і гулагізацыі ўсяго жыцця.

Неўзабаве пасля смерці Леніна пачаў згортвацца нэп. Адсутнасць належных механізмаў абароны дэмакратыі прывяла да захопу асноўных кіраўнічых пасад у партыі жорсткім недавучкам Сталіным і яго памагатымі, да канцэнтрацыі ў некалькіх руках кіраўніцтва ўсёй дзяржавай з яе магутным рэпрэсіўным апаратам, да падначалення ўсёй дзяржаўнай структуры адной, камуністычнай, партыі. Развіццё дзяржаўнасці, няхай сабе і савецкай, а таксама шматнацыянальнай культуры, няхай сабе і сацыялістычнай паводле зместу, супярэчыла самой сутнасці цэнтралізацыі ўлады, нараджала цяжкасці ў кіраванні такой дзяржавай і культурай. І супярэчнасць вырашалася вельмі проста: рэальная самастойнасць рэспублік паступова ліквідоўвалася, заставалася толькі на паперы; што да культуры, то ад яе адсякалася самае непаўторнае, арыгінальнае, своеасаблівае.

Зразумела, ідэю беларусізацыі духоўнага жыцця, якая надзвычай цесна лучылася з суверэнізацыяй рэспублікі, сталіністы не прынялі адразу ж. Разграміўшы трацкізм, Сталін разам з тым пераняў ад Троцкага некаторыя яго погляды, у тым ліку нянавісць да патрыятызму, зрабіў усё для таго, каб «нацыянальнае» разумелася як «нацыяналістычнае», а «дэмакратычнае» ледзь не як «фашысцкае». Вось чаму нацыянальна-дэмакратычныя погляды пачалі ўспрымацца як варожыя савецкай уладзе. У той час як пасля Кастрычніцкага перавароту ў некаторых судовых выраках з трацкісцкай праматой пісалі: «Расстраляць як контррэвалюцыянера і патрыёта», з пачатку 30-х гадоў людзей пачалі судзіць як «нацдэмаў». Нацыянальны дэмакратызм спачатку разумелі толькі як правую небяспеку ў культуры. З канца 20-х гадоў у партыйных дакументах ён стаў кваліфікавацца як варожая савецкай уладзе, контррэвалюцыйная, нацыяналістычная плынь у ідэалогіі і практыцы нацыянальна-культурнага будаўніцтва.

Сталінізм набіраў абароты не адразу. Ён мацаваў сваю структуру паступова. З аднаго боку, на месцах умацоўваліся рэпрэсіўныя органы, якія падначальваліся толькі Маскве (канкрэтна Яжову, Ягодзе, Берыю). З другога боку, Цэнтр метадам ідэалагічнага сепарыравання насаджаў касмапалітычнае, паслухмянае, усеўладнае партыйнае кіраўніцтва. Прычым, трэба заўважыць, што першыя сакратары ЦК КПБ у 20—30-я гады былі не беларусы: Мяснікоў, Кнорын, Багуцкі, Асаткін-Уладзіміраў, Крыніцкі, Гамарнік, Гей, Гікала, Волкаў, Панамарэнка (выключэнне — Шаранговіч, быў сакратаром толькі некалькі месяцаў, да свайго арышту ў 1937 годзе). І адна, і другая ляйчыны знаходзіліся ў руках самога Сталіна і Палітбюро ЦК ВКП(б).

Янка Купала, безумоўна, не мог у той час ведаць многага з таго, што ведаем мы сёння. Яшчэ ў канцы таго ж 1924 года, калі Купала ўжо канчаткова прыняў савецкую ўладу і Савецкую Беларусь успрымаў, як сваю нацыянальную дзяржаву, Іосіф Апанскі, тагачасны намеснік паўнамоцнага прадстаўніка АДПУ па Заходнім краі, у сваёй «Докладной записке» першаму сакратару КПБ А. Крыніцкаму характарызаваў яго, а таксама Якуба Коласа, Язэпа Лёсіка і Змітрака Бядулю як «попутчиков, интеллигентов-шовинистов, вносящих в ли-

тэратуру настроения, чуждые Революции, а иногда и контрреволюционные тенденции». Тайнае дасье на беларускіх літаратараў, як бачым, пачало збірацца яшчэ ў першай палове 20-х гадоў, каб у канцы таго ж дзесяцігоддзя можна было выкарыстаць яго спаўна.

Аднак не толькі тайных, але і яўных «ворагаў беларушчыны» ў 20-я гады хапала. Янка Купала іх бачыў і вёў з імі — да пэўнага часу — даволі вострую палеміку. Так, трацкісцка-сталінскі касмапалітызм ён іранічна «паддзеў» у наступным васьмірадковіку, які ўжо сваім пачаткам (няма загалоўка, пачынаецца са шматкроп'я) паказвае, што паэт не распачынае гаворку, а падключаецца да ранейшай дыскусіі:

...О так! Я — пралетар!..
Яшчэ учора раб пакутны —
Сягоння я зямлі ўладар
І над царамі цар магутны!

Мне бацькаўшчынай цэлы свет,
Ад родных ніў я адвярнуўся...
Адно... не збыў яшчэ ўсіх бед:
Мне сняцца сны аб Беларусі!

Усё тут: і самаўпэўненая самахарактарыстыка «пралетара», і жаданне пахваліцца тым, чым ганарыцца нельга («ад родных ніў я адвярнуўся») — усё працуе тут на іранічнае стварэнне вобраза «новага савецкага чалавека». І гэта адразу адчулі самі «рабы-цары», адзін з якіх, крытык-сексот Лука Бэндэ, пісаў, што гэты верш Янкі Купалы — «па крайняй меры карыкатура на пралетарскі інтэрнацыяналізм». Сапраўды, своеасаблівая карыкатура. Але што было рабіць паэту, калі менавіта такі, далёкі ад паэтавага ідэалу, «пралетарскі інтэрнацыяналізм» (дакладней — касмапалітызм) пачаў насаджацца ў краіне і насаджаўся зусім афіцыйна?..

Па меры таго, як сталінскае кіраўніцтва адыходзіла ад ідэалаў Кастрычніка (улада — Саветам, фабрыкі — рабочым, зямля — сялянам, нацыянальна-дзяржаўнае самавызначэнне — нацыям), у краіне нарастала прыхаваная незадаволенасць, нават супраціўленне новым парадкам. У Беларусі пік вонкава нябачнай канфрантацыі — хто каго? — прыйшоўся недзе на 1926—1927 гады. Пра гэта, у прыватнасці, сведчыць і тагачасная творчасць Янкі Купалы, які таксама ўключыўся ў ідэалагічнае змаганне за лёс Бацькаўшчыны.

Як прызнаваўся сам паэт (верш «У лесе», 1926), у гэты час яму не раз было «маркотна», і маркоціўся ён штораз усё часцей. Пагранічныя слупы па-ранейшаму дзялілі беларусаў, вялікая іх частка жыла ў Польшчы, а Янка Купала перажываў за ўсю нацыю, за яе лёс («Па Даўгінаўскім гасцінцы», «На пагранічы»). У Польшчы ўсчаліся ганенні на беларусаў і беларускую культуру (разгром «Беларускай сялянска-работніцкай грамады», арышт Б. Тарашкевіча, закрыццё беларускіх навучальных устаноў і інш.). Тут жа, у БССР, пачыналі ажыццяўляцца ўказанні Сталіна адносна «абвастрэння класавай барацьбы па меры разгортвання сацыялістычнага будаўніцтва». Хоць «год вялікага пералому», год суцэльнай калектывізацыі — 1929-ы — быў яшчэ наперадзе і яшчэ не «знішчаліся цвёрдай рукою Пралетару варожыя класы» («Песня будаўніцтву»), усё ж сяляне пачалі адчуваць на сваёй шыі «цвёрдую» руку. Жорсткі класавы падыход вызначыў адносіны да ўсяго сялянскага як да другараднага: у лепшым выпадку — як да саюзніцкага, папутніцкага, у горшым — як да дробнабуржуазнага, варожага. Сяляне па-ранейшаму заставаліся галоўнымі носьбітамі «беларушчыны»: нацыянальнага менталітэту, мовы, культуры, з сялян выйшлі і амаль усе беларускія пісьменнікі, навукоўцы, дзеячы культуры, большасць прадстаўнікоў

тэхнічнай інтэлігенцыі. Таму адпаведнае стаўленне пачало складвацца ў афіцыйных партыйных улад найперш да нацыянальнай беларускай інтэлігенцыі.

Не зусім гладка ішла і беларусізацыя. Пры яе несумненных поспехах былі і паасобныя арганізацыйныя ўпушчэнні, памылкі. Нярэдка сустракаліся абруселыя беларусы, для якіх, як для той «дамачкі» з п'есы «Міна Мазайла» ўкраінскага драматурга М. Куліша, было «лепей быць згвалтаванымі, чым украінізаванымі» (у нас, зразумела, беларусізаванымі). Падчас беларусізацыя сустракалася з яўным ці тайным супраціўленнем розных «расійскіх чынадралаў», ранейшых «царадворцаў», якія не маглі ніяк змірыцца з развалам «единой и неделимой» Расійскай імперыі, утварэннем асобных рэспублік, ды яшчэ са сваімі мовамі ў якасці дзяржаўных. «Масквы каронная гразь» — трапна, апелюючы да выслоўя Шаўчэнкі («Варшавське сміття, грязь Москвы»), назваў тых «скінутых сатрапаў» Янка Купала ў вершы «Акоў паломаных жандар» (1926). Верш паэт напісаў у сувязі з публікацыяй у «Савецкай Беларусі» ананімнага ліста з Полацка «Вражда из-за языка». У гэтым лісце, абразлівым і для самога Янкі Купалы, і для ўсёй беларускай культуры, былі, у прыватнасці, такія «перлы: «Ведь язык белорусский, не имеющий литературы (ибо нельзя же в самом деле считать большими литераторами таких «письменников», как Янка Купала, Якуб Колас...), в сущности говоря, служит лишь для того, чтобы портить, извращать фонетику, стиль, грамматику чисто русского языка» (?!). Як гэта нагадвала пасквілі дарэвалюцыйных «ворагаў беларушчыны» тыпу Саланевіча, Кавалюка і К$^0$! Як гэта, на жаль, нагадвае некаторыя сучасныя выказванні «сяброў беларушчыны» ў «Политическом собеседнике», «Славянских ведомостях», дзе гэтаксама беларускія літаратары ў рускіх тэкстах імянуюцца не інакш, як высакамерна-абразліва — «письменники»!

Да ўсіх цяжкасцей нацыянальна-культурнага развіцця 20-х гадоў дадавалася яшчэ адно, што надзвычай непакоіла няўрымслівага Янку Купалу. Традыцыйная беларуская асцярожнасць (каб чаго не выйшла!), нежаданне «выпінацца» наперад, імкненне плесціся ў хвасце падзей (як гэта нагадвае і наш час!!!) прыводзіла да нескарыстання многіх магчымасцяў у дзяржаўна-палітычным будаўніцтве, якія тады адкрыліся перад беларускім народам. «Заляглі, бы ў ступе груца,— Той не хоча, а той квол»,— пісаў Янка Купала пра сваіх сучаснікаў-беларусаў у вершы «Праз гультайства...» (1926). Праз гэтае «гультайства», іншасказальна-вобразна выказваўся паэт, беларусы «лазма лезлі самі ў нерат, Як бы гнаў хто у каршэнь», а таксама «ад падданства, ад начальства, Як начныя ніклі цьмы». Янка Купала, як і некалі, у 1919 годзе, заклікаў беларусаў да большай самачыннасці: «Быць затычкай пустой бочкі — Сорам вольнай грамадзе!». Паэт заклікаў сваіх землякоў «працерць... Вочы хоць бы кулаком і заняць у куце месца, а не недзе за вуглом». Тая, купалаўская, Беларусь, якая ў першай палове 20-х гадоў «на куце ў хаце сваёй села», у другой палове таго ж дзесяцігоддзя, як бачым, пачынала адціскацца «за вугал»...

Калі ў вершы «Праз гультайства...» Янка Купала проста журыў беларусаў за іх інертнасць, то ў напісаным у тым самым годзе вершы «І прыйдзе» ён ужо ўстурбавана папярэджваў: «А ўжо свой выдасць непадкупны Аб нас гісторыя прысуд...». І нават пагрозліва дадаваў: «А суд гісторыі цяжкі!..».

За што ж, на думку паэта, гісторыя будзе судзіць беларусаў 20-х гадоў? За што яна папросіць іх даць адказ? А спытаецца гісторыя, ці яны «па-даўняму нясмела Жылі не ў лад і неўпапад», ці «дабравольна, без прынук, Самі сабой не гандлявалі, Не неслі ў петлі

дум і рук»? Гэтыя пытанні былі, несумненна, рытарычнымі, ужо ў іх саміх бачыўся станоўчы адказ. А яшчэ, на думку Янкі Купалы, гісторыя будзе судзіць пакаленне 20-х гадоў за тое,

Што нейкі з нас, хоць бы не зломак,
А плечы гнуў у крук не раз;

Не йшоў з адкрытымі вачыма
У свет і сцежкі не прастаў,
А ўсёй магчымасцю магчымай
Таптаў сляды, сябе таптаў.

Ці можам мы пасля гэтых радкоў сумнявацца ў геніяльнай відушчасці Янкі Купалы, які так лаканічна-вобразна выявіў асобныя прычыны катаклізму, што наступіў у 30-х гадах?!

Што да самога Янкі Купалы, то ў тыя часы ён выкарыстоўваў усе мажлівасці праявіць сябе не толькі Песняром, Прарокам, але і Ваяком. Ваяком за праўду, за свой народ, за Бацькаўшчыну: «Ёсць жа яшчэ ў мяне сіла Крыўдзе не даццa, змагацца». Гэта — пра сябе. Да асабістага адносіліся і іншыя адчуванні: «Ёсць жа яшчэ ў мяне сэрца, Поўнае шчырых жаданняў... Ёсць жа ў мяне яшчэ песень, Поўных надзеі, жыцця...». Разам з тым было ў паэта яшчэ адно, што дадавала яму моцы і гарту — вера ў родны народ, яго свабодалюбства:

Ёсць жа яшчэ ў мяне вера
Ў вольны мой родны народ,
Што — у патрэбе — з сякерай
Выйдзе за волю ў паход!

А пастаяць за агульную, нацыянальную «волю» варта было. Свой юбілейны «Ліст у рэдакцыю» (1925) Янка Купала завяршаў заклікам: «Няхай жыве незалежная Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка ў яе этнаграфічных межах!». Хоць у 1926 годзе, як ужо адзначалася, і адбылося другое ўзбуйненне БССР, але да паўнаты этнаграфічных межаў рэспублікі было яшчэ далёка. Да яе так і не адышлі асобныя, населеныя беларускім этнасам, тэрыторыі Смаленшчыны, Пскоўшчыны і Чарнігаўшчыны, амаль палова Беларусі ўсё яшчэ заставалася за пагранічнымі слупамі. Што да нацыянальнай самастойнасці, то Цэнтр спакваля, але няўхільна пазбаўляў рэспублікі нават таго адноснага самакіравання, якое яны мелі ў 1922 годзе, пры ўтварэнні СССР. Федэратыўны саюз суверэнных рэспублік ператвараўся ў адну унітарную дзяржаву, пераемніцу Расійскай імперыі. Розніца была толькі ў тым, што ў той, ранейшай, імперыі руская нацыя была пануючай, элітарнай. Савецкая ж імперыя была ўсеагульнай «турмой народаў», у тым ліку і рускага, якому адводзілася роля касмапалітычнага сродку-мацавальніка гэтай імперыі.

Сёння пра ўсё гэта адкрыта гаворыцца і пішацца. Тады ж, у 20-я гады, пра гэта не тое што нельга было гаварыць і пісаць, але тых грамадска-палітычных працэсаў многія нават не разумелі. У той жа час Янка Купала і ў падцэнзурным друку здолеў выказаць трывогу з выпадку паступовай страты савецкімі рэспублікамі сваёй суверэннасці. Я маю на ўвазе верш «Царскія дары» (1926) з «вокаадводным» падзагалоўкам: «З мінулага». Што гэта за царскія дары? А менавіта ўласная дзяржаўнасць, якую цар нібыта дараваў народам Расійскай імперыі (хоць усе разумелі, што такога «дару» рускі цар ніколі «іншародцам» не даваў). А ўзамен у народаў былі забраны іх прыродныя багацці, вынікі іх працы, іх сыны і дочкі (для адстойвання ў арміі царскіх інтарэсаў і выканання царскіх прыхацяў). Дык для чаго ж тады такая спустошаная, фіктыўная дзяржаўнасць? — такое пытанне павінна было ўзнікаць у чытачоў верша. На самай справе гэта не «царскія», а — данайскія дары...

Яшчэ адзін бой за нацыянальнае, беларускае Янка Купала вытрымаў у сувязі з пастаноўкай цяпер ужо шырока вядомай п'есы «Тутэйшыя». Напісаная ў 1922 годзе, яна, нягледзячы на аўтарытэт аўтара, ніяк не магла прабіцца на сцэну. Нават надрукавана была толькі праз два гады пасля напісання, ды і то адно ў часопісе («Полымя»). І вось якраз ва ўзлётным 1926 годзе Янка Купала дачакаўся нарэшце пастаноўкі «Тутэйшых» на сцэне БДТ-1. Што гэта быў за спектакль, можна часткова ўявіць хаця б з невялікага дзённікавага запісу М. Папова — рэжысёра спектакля і тагачаснага галоўнага рэжысёра тэатра. Як ён пісаў, спектакль «спалохаў камуністаў Мінска». Рэакцыя на «спалох» была імгненнай: «пасля першага і адзінага прадстаўлення п'есы былі зняты са сваіх пасад усе, хто меў дачыненне да дазволу пастаноўкі п'есы на сцэне». Сам жа М. Папоў (рускі па нацыянальнасці) быў вымушаны пакінуць Беларусь...

Хоць для «Тутэйшых» спроба іх сцэнічнага ўвасаблення скончылася трагічна (рэабілітацыя твора — у друку і на сцэне — адбылася толькі ў канцы 80-х гадоў), Янка Купала, думаецца, у цэлым быў задаволены. Удалося кінуць выклік антыбеларускім сілам, якія тады ўжо гуртаваліся, каб пачаць працэс дэбеларусізацыі, «раздзяржаўлення» БССР.

Тым, «хто над Беларусяй Хоча распасцерці Свой бізун чужацкі І народ усмерціць», кідаў выклік паэт і ў вершы «Каб...», напісаным у стылі народнага кленіча. Праклёны былі жахлівыя: «Каб вады гарачай На таго нагрэлі І не ўстаў ён болей Са сваёй пасцелі... Каб таго парвала З сэрцам на тры часці І звяр'ё збрылося Мяса параскрасці...» Відаць, трэба было моцна дапячы паэту, каб з яго вуснаў вырваліся такія словы. І дапячы не яму асабіста, а яго, паэтавай, бацькаўшчыне, яго роднаму народу.

Не толькі далакопы тагачаснай «беларушчыны», але і «аўтары» Рыжскага дагавору 1921 года («Хто быў прычыніўся Нашаму падзелу, На кускі парваўшы Маці роднай цела»), несумненна, бачылі сябе ў гэтым адчайным купалаўскім вершы-кленічы. Праўда, да пэўнага часу яны адкрыта не выяўлялі сябе. Але хутка зноў спатрэбіўся адзін з тых галоўных «далакопаў» і «аўтараў» — Вільгельм Кнорын. Гэта ён быў упэўнены і ўпэўніваў іншых, што «беларусы не з'яўляюцца нацыяй і што тыя этнаграфічныя асаблівасці, якія іх аддзяляюць ад астатніх рускіх, павінны быць зжытыя» («Звязда», 6 кастрычніка 1918 г.). Праўда, у другой палове 20-х гадоў погляды яго на беларусаў і нацыянальныя праблемы ўвогуле трохі змяніліся. Але, відаць, не канчаткова. Таму менавіта Кнорына выбраў Сталін для правядзення сваёй палітыкі ў Беларусі. Таму менавіта Кнорын быў другі раз накіраваны ў Менск, дзе на пасадзе першага сакратара ЦК КПБ замяніў «ліберальнага» А. Крыніцкага і адразу ж узняў партыйны «молат» — распачаў барацьбу з «нацдэмамі». «Кавадлам» сталі органы НКУС. Актыўнымі памагатымі — крытыкі тыпу Л. Бэндэ, А. Кучара, М. Клімковіча, Я. Бранштэйна, розныя вывіжоўшчыкі, сексоты, даносчыкі. В. Кнорын прабыў у Менску ўсяго паўтара года. За гэты час ён, аднак, да належнай ступені «абвастрыў» класавую барацьбу, а затым перадаў усе справы ў рукі іншых «малатабойцаў» — Я. Гамарніка (1928—1929), К. Гея (1930—1932), М. Гікалы (1932—1937), А. Волкава (1937—1938)...

1930-ы год — важнейшы рубеж як у жыцці і творчасці Янкі Купалы, так і ў гісторыі беларускай культуры ўвогуле. Калі яшчэ тры і нават два гады таму назад можна было спадзявацца на іншы кругабег падзей, то цяпер усялякія надзеі на класавае замірэнне адпалі. У крытыцы ваўсю пачаў разгульваць вульгарны сацыялагізм, які чарніў дарэвалюцыйную класіку, пісьменнікаў старэйшага пакалення, «выводзіў на чыстую ваду» літаратараў-сучаснікаў. І ў літара-

турным асяроддзі пачалася «класавая вайна». Сталі распадацца асобныя літаратурныя аб'яднанні, зачыняцца часопісы (у 1928 — «Маладняк», у 1931 — «Узвышша»). Дбайна падрыхтаваныя тэкстолагамі зборы твораў выдатных пісьменнікаў пачалі выходзіць або ва ўрэзаным выглядзе (так, з запланаванага трохтомніка М. Багдановіча ў 1927—1928 гг. выйшлі толькі два тамы), або ўвогуле не выходзілі. Пад цэнзурную забарону трапіў зборнік Янкі Купалы «Творы. 1918—1928» (1930).

У 1929—1930 гадах пракацілася першая хваля рэпрэсій супраць беларускай навуковай і творчай інтэлігенцыі. У апалу трапілі першы рэктар БДУ У. Пічэта, першы прэзідэнт Беларускай Акадэміі навук У. Ігнатоўскі, наркам асветы А. Баліцкі, наркам земляробства З. Прышчэпаў... З пасад дырэктара Белдзяржвыдавецтва і галоўнага рэдактара «Полымя» быў зняты Цішка Гартны, з пасады галоўнага рэдактара «Савецкай Беларусі» — Міхась Чарот. У ліку першых былі арыштаваны і асуджаны пісьменнікі Я. Дыла, У. Дубоўка, Я. Пушча, М. Гарэцкі, А. Бабарэка... Творы іх тут жа былі забраны з бібліятэк і кнігарняў і знішчаны, прозвішчы іх нельга было ўпамінаць у станоўчым сэнсе (праз нейкі час — і ўвогуле ўпамінаць).

НКУС пачаў фабрыкаваць калектыўныя справы на «нацдэмаў». Па адной з іх, «Саюз вызвалення Беларусі», спечанай па маскоўскім рэцэпце (у кожнай з рэспублік фабрыкаваліся свае «Саюзы вызвалення...»), у 1930 годзе было арыштавана 86 чалавек, у тым ліку буйныя пісьменнікі і акадэмікі В. Ластоўскі, С. Некрашэвіч, А. Смоліч, Я. Лёсік. На чале СВБ хацелі паставіць самага аўтарытэтнага ў рэспубліцы, найбольш уплывовага чалавека. Выбар паў на Янку Купалу, які, як даносіў Гей сакратару ЦК ВКП(б) Постышаву, «з'яўляўся і ідэйным цэнтрам нацдэмаўскай контррэвалюцыі, што знайшло адлюстраванне і ў яго творчасці» (?). Аднак Янка Купала, па словах таго ж Гея, «не праявіў ні малейшага жадання пайсці насустрач ДПУ ў сэнсе хаця б асуджэння контррэвалюцыйнай дзейнасці сваіх сяброў — удзельнікаў і кіраўнікоў СВБ». Больш таго, ён не даў магчымасці органам ДПУ справакаваць і сябе, абняславіць: вярнуўшыся дадому пасля чарговага допыту, ён у лістападзе 1930 года зрабіў спробу самагубства.

Тыя, хто хацеў беларускі «народ усмерціць», дабіваліся найперш Купалавай смерці. Смерці фізічнай і палітычнай — у адначассе. І яны дабіліся б гэтага — варта толькі было народнаму паэту паддацца на правакацыі і згадзіцца з угатаванай яму роллю кіраўніка СВБ.

Паэт, відавочна, адгадаў езуіцкія намеры сталіністаў. І таму вырашыў: «Лепей смерць фізічная, чымся незаслужаная смерць палітычная». І дадаў у сваім перадсмяротным лісце на імя старшыні ЦВК СССР і БССР А. Чарвякова: «Павесіўся Ясенін, застрэліўся Маякоўскі», інтуітыўна вычуваючы прычыну і іхняй смерці.

«Фізічная» смерць, як небеспадстаўна спадзяваўся Янка Купала, магла дапамагчы выратаваць яго ад «палітычнай» смерці. А Купала-паэт патрэбны быў усяму беларускаму народу. Засталіся ж жыць у рускай літаратуры і ў рускім народзе творы Ясеніна і Маякоўскага! У той жа час, бачыў паэт, «смерць палітычная» Дубоўкі, Пушчы, Гарэцкага і іншых беларускіх пісьменнікаў адразу і цалкам выкрасліла іх творы і нават самі імёны творцаў з тагачаснай культуры беларусаў.

Самагубства, аднак, не ўдалося. Менскія лекары ўратавалі паэта. Чалавек, які пабываў на «тым свеце», ужо некалькі па-новаму глядзіць на гэты свет. Па-новаму, відаць, пачаў адчуваць каштоўнасці жыцця і Янка Купала. Але галоўнае, што яго засцерагло ад паўторнага самагубства, вымусіла рашыцца падпісаць пакаяльны і асуджальны «Адкрыты ліст», было, думаецца, жаданне ў новых абставінах, а таму і па-новаму паслужыць беларускай нацыі.

Янка Купала, несумненна, зразумеў, што ў тых абставінах ні пра якую самастойную Беларусь, няхай сабе нават савецкую, і мовы быць не магло. Калі хата гарыць, не да пацераў. Ва ўмовах палітычнага генацыду, што пачаўся са знішчэння розуму нацыі — інтэлігенцыі, перш за ўсё творчай і навуковай, на пярэдні план выступіла праблема захавання нацыі. Калі да рэвалюцыі Янка Купала нястомна займаўся «стварэннем» нацыі, калі ў 1918—1920 гадах ён дапамагаў гэтай нацыі атрымаць сваю незалежную дзяржаву, калі ў 20-я гады ён услаўляў і ўмацоўваў беларускую дзяржаўнасць у яе канкрэтным, няхай сабе і абмежаваным, савецкім выглядзе, то цяпер паэт убачыў сваю ролю народнага песняра зусім па-іншаму. Гэтаму, у прыватнасці, дапамог У. Ігнатоўскі. Як успамінае Іна Рытар («Конадні», 1963, № 7), Ігнатоўскі ў часе адведзін паэта ў шпіталі неўзабаве пасля спробы яго самагубства сказаў:

— Табе трэба жыць, Янка... Трэба жыць. Ты ў нас адзін.

У гэтых словах было не толькі суцяшэнне, але і — просьба, нават наказ. Просьба і наказ чалавека, які адначасова з Купалам трапіў у той самы нерат (Ігнатоўскага знялі з усіх пасад, выключылі з партыі, цягалі на допыты ў ДПУ) і які ў лютым 1931 года застрэліўся.

Янка Купала ў беларусаў, на шчасце, быў тады не адзін. Жылі і працавалі яшчэ Якуб Колас, Цішка Гартны, Змітрок Бядуля, падрасло маладзейшае пакаленне пісьменнікаў. Але з нацыянальных геніяў, якія б з такой паўнатой і таленавітасцю выяўлялі самую сутнасць нацыі, быў сапраўды адзін Янка Купала. І ён, як і да рэвалюцыі (помніце: «А беларусы ж нікога не маюць»?), гэта разумеў. Разумеў, што без яго ўся нацыя асірацее, страціць тое, што ніхто замяніць не зможа. Сёння мы смела можам назваць «тое» — гэта душа. Бо Янка Купала быў і застаецца душой беларускай нацыі. Цяпер ужо — бессмяротнай душой.

Што да «Адкрытага ліста», а яны былі тады ў модзе (іх пісалі Якуб Колас, У. Ігнатоўскі і інш.), які быў тут жа растыражыраваны ў друку («Звязда», 14 снежня 1930 г.; «Камуністычнае выхаванне», 1930, № 12; «Маладняк», 1931, № 6—7; «Матэрыялы да нарысаў па гісторыі беларускай літаратуры» Л. Бэндэ і А. Кучара), то і тут Янка Купала зрабіў усё па-свойму. Востра асуджаючы сябе і іншых «нацдэмаў», паэт не назваў ніводнага прозвішча, ні на кога канкрэтна не нагаварыў, хаця ў ДПУ настойвалі «на патрабаванні выступіць з адкрытым асуджэннем контррэвалюцыйнай дзейнасці» канкрэтнай «групы беларускіх інтэлігентаў, арыштаых па справе СВБ» (з ліста Гея Постышаву). Ды і сам ліст, відавочна, пісаў нехта іншы (хутчэй за ўсё Бэндэ), а не ён сам, бо не купалаўскі, а надта ж бэндаўскі стыль гэтага ліста, не купалаўскія, а бэндаўскія ў ім словы і выразы (угняценне, памыкаліся... павярнуць, пладатворнай, быўшая ўвасабленнем, праступна і да т. п.).

Такім чынам, у 30-я гады Янка Купала заставаўся бацькам нацыі, хоць, зразумела, не мог быць больш Пракрокам нацыянальнага адраджэння, тым больш — нацыянальнай незалежнасці. Паміж паэтам і ўладай быў дасягнуты неафіцыйны кампраміс. Улада больш не імкнулася знішчыць паэта ні фізічна, ні палітычна, наадварот, выкарыстоўвала яго імя для пацвярджэння «плённасці ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі». Са свайго боку, паэт услаўляў «правадыра», «Сталіна-сейбіта», апяваў тое станоўчае, што бачыў навокал сябе (мір, дружбу народаў, калектыўную працу, індустрыялізацыю краіны і г. д.), не закранаў драматычных і трагічных бакоў тагачаснага жыцця (прымусовая калектывізацыя, раскулачванне сялян, рэпрэсіі і інш.). Магчыма, пра рэальнае, трагічнае паэт далёка не ўсё і ведаў, паколькі сталінскія апрычнікі рабілі сваю чорную справу шыта-крыта, дзейнічалі хітра. Так, у сярэдзіне і другой палове 30-х гадоў на Янку

Купалу абрынулася цэлая лавіна ўзнагарод, прывілеяў, матэрыяльных даброт, што значна аддаліла яго ад рэальных народных клопатаў. Урад БССР падараваў паэту машыну, дачу ў Ляўках, ён стаў членам ЦВК БССР, дэпутатам Мінскага гарадскога, а пасля — і Вярхоўнага Савета БССР, членам праўлення СП БССР і СП СССР, удзельнічаў у рабоце з'ездаў Саветаў БССР і СССР, у шыкоўных прапагандысцкіх ваяжах (на Днепрагэс, Беламорска-Балтыйскі канал)... Палітыка «бізуна і перніка» прымянялася тады спаўна.

І ўсё ж нават такі, суб'ектыўна і аб'ектыўна аддалены ад людскіх клопатаў, Янка Купала «сваім уласным існаваннем ужо быў чымсьці неад'емным ад духоўнага жыцця народа» (А. Твардоўскі), паказваў і гэтаму народу, і ўсяму свету: нягледзячы на страшэнны палітычны і эканамічны ўціск, беларускі народ існуе! А гэта было асабліва важна ў тыя нялёгкія трыццатыя гады, калі паступова была вынішчана амаль уся свядомая нацыянальная інтэлігенцыя і ў вялікай ступені — сялянства, асноўны захавальнік духоўных каштоўнасцяў нацыі. Дастаткова сказаць, што ў канцы трыццатых гадоў з усіх беларускіх пісьменнікаў, што актыўна выяўлялі сябе ў 20-я — першай палове 30-х гадоў (а гэта некалькі сот чалавек), на волі заставаліся ўсяго чатырнаццаць творцаў...

Дзякуючы Янку Купалу і Якубу Коласу ў 30-я гады пакрысе ўмацоўвалася нацыянальная самасвядомасць беларусаў, яны пазбаўляліся «нацыянальнага комплексу», «тутэйшавізму», у іх узнікаў зразумелы нацыянальны гонар за сваіх песняроў (не кожны народ мог пахваліцца такімі паэтамі, жывымі класікамі!). Уратаваная ад «палітычнай» смерці, асноўная частка творчай спадчыны песняра 1905—1930 гадоў актыўна служыла беларусам, стала іх нацыянальным скарбам, духоўным спажыткам. У тыя гады творы Янкі Купалы пачалі перакладацца ва ўсіх рэспубліках СССР, часта прыходзілі да замежнага чытача. Тым самым, апрача ўсяго іншага, замацоўваліся ў свядомасці і савецкіх, і еўрапейскіх народаў паняцці «Беларусь», «беларусы», якія да рэвалюцыі нават на самой беларускай этнічнай тэрыторыі не ўсюды былі пашыраныя.

У грозным 1941 годзе народны пясняр стаў на чале духоўнага супраціўлення фашысцкай агрэсіі, якая хацела пазбавіць беларускі народ самага дарагога — Бацькаўшчыны. Янка Купала пісаў палымяныя звароты да насельніцтва акупаваных раёнаў, да партызанаў. Усяляў веру ў перамогу над крыважэрным ворагам, «Гітлерам ашалелым».

У гэты час народны паэт, відавочна, выразна ўбачыў і другога злачынцу беларускага ды іншых савецкіх народаў — «бацьку» Сталіна, па волі якога былі знішчаны мільёны людзей, у тым ліку — тысячы лепшых афіцэраў, военачальнікаў. Менавіта самаедская сталінская палітыка прывяла да хуткага захопу фашыстамі Беларусі, значнай часткі тэрыторыі СССР, да таго, што гітлераўцы апынуліся ля самай Масквы. Але нават не словы — думкі такія ў той час станавіліся вядомыя ведамству Берыі...

У чэрвені 1942 года пры загадкавых абставінах у маскоўскай гасцініцы «Масква» здзейснілася «самагубства» Янкі Купалы. Аднак фізічная смерць песняра на гэты раз не змагла пацягнуць за сабою смерць палітычную. Ніхто, нават ведамства Берыі, ужо не ў стане быў адабраць ад беларусаў іх Песняра. Прарока нацыянальнага адраджэння, Уладара дум, Ваяка за родны край, за народ!



ФРАНЦ ГІНТАЎТ

# СТАРОНКІ ПАЭТЫЧНАЙ СПАДЧЫНЫ

*З зямлёй і небам звязвае мяне ніць —*
*Неразарваная веквечна павуціна:*
*Зямля мяне галубіць, як вернага сына,*
*А сонца мне душу не кідае туліць.*

*ЯНКА КУПАЛА*

## Ад першага кроку

Апанавала жаданне выказаць свае думкі і развжанні пра зямлю малой радзімы Купалы, што «галубіла свайго сына», спагадала квітненню яго творчасці. Біяграфія Купалы падрабязкова пададзена ва ўспамінах людзей пачынаючы з 20-х гадоў, а ранейшы перыяд, асабліва Селішчанскі час, застаўся мала даследаваны. Я, як зямляк і былы сусед яго родзічаў, адчуваю патрэбу паварушыць здабыткі сваёй памяці і ўдакладніць тыя звесткі, што былі раней выказаны ў артыкуле «Жменька думак, здагадак пра Янку Купалу» («Полымя», № 5, 1984 г.).

У Вязынцы хлапчук Ясь Луцэвіч нарадзіўся, пражыў там каля дзесяці месяцаў, дзе яму над калыскай мілагучна спявала маці. Мы выказваем вялікую пашану дому, які атуліў жыццё будучага паэта ад магчымых нягод.

Зямля, на якой Ясь Луцэвіч стаў народным паэтам Янкам Купалам, называецца Лысагорскім узвышшам, яно на Лагойшчыне. Бытаванне паэта на Лысагоршчыне адбывалася ў дзвюх сядзібах; спачатку ў Селішчы, пасля ў Акопах. Тут яму «душу акрылялі прыгожасці свету, песню кваціл ўзорам прыгожым, вучылі, як словы ў вянок завіваці... Каса і сякера, і цэп малацьбітны магутную волатаў сілу далі».

Распачну размову пра справу спрэчную, мала даследаваную, а менавіта пра тое, якой сядзібе на Лысагоршчыне аддаваць пальму першынства ў станаўленні паэта: Селішчу ці Акопам? Пакуль што большасць даследчыкаў біяграфіі Купалы настойліва ўсхваляюць Акопы, ды як іх не ўсхваляць, калі значная колькасць яго твораў

напісана там. Аднак Купала пачаў наведваць Акопы толькі з 1911 года, калі стаў вядомым паэтам. Але ж творы, напісаныя ім да Акопаў, таксама сведчаць пра вялікае багацце думак, вобразаў, якія ён вынес з Селішча, надоўга захаваў у памяці, насіў пры сэрцы.

Мемуарная спадчына Купалы даволі сціплая і недакладная. Не было ў паэта імкнення многа пісаць пра сябе. Гэта відаць і ў тых аўтабіяграфічных лістах, якія ён дасылаў Л. Клейнбарту па яго просьбе. У адным з лістоў (ад 25.X.1911 г.) Купала пісаў: «Я сам ораторским искусством не обладаю и собеседник ⟨из⟩ меня, пожалуй, скучный...» Такую асаблівасць паэта заўважыў і трапна падаў М. Лужанін («Вачыма часу», 1964 г.): «Купала быў стрыманы на выяўленне пачуццяў, раскрываўся суразмоўнікам не часта і ненадоўга. Гаварыў мала і скупа, ажыўленую размову падтрымліваў хіба што ў коле прыемных яму людзей, калі быў у асабліва добрым настроі. Хто ведае, можа, ім кіравала жаданне ашчадзіць сваё ўнутранае багацце для вершаў, можа, вяло падсвядомае імкненне ўвабраць паболей уражанняў ад людзей, ад таго, што адбывалася на яго вачах».

На пачатку нашай размовы неабходна нагадаць пра тыя падзеі, якія адбыліся з Ясем Луцэвічам да прыезду ў Селішча.

Маленства Купалы, як падае біяграфія, прайшло на калёсах: з месца на месца пераязджалі бацькі Луцэвічы ў пошуках арэнды. Да Селішча пабывалі ў шасці паселішчах. Для арыентацыі дат прыезду і выезду неабходна прытрымлівацца наступнага парадку: кожны арандатар рабіў пярэбары толькі вясной, не пазней красавіка, да пачатку сяўбы. Перабірацца раней было нявыгадна з-за клопатаў перавозу паназапашанага корму для жывёлы, паліва на зіму. Пра гэта пісаў і сам Купала: «Растапіліся гурбы, зачарнелі скібы — гайда, беззямельнік! Пашукай сядзібы».

Частыя пераезды бацькоў не спрыялі вучобе Яся, пераважна таму, што арэндныя сядзібы знаходзіліся далёка ад школ. У такіх выпадках выручалі хатнія настаўнікі, з жартаўлівай мянушкай «дарэктары». Вандроўным, хатнім настаўнікам мог быць кожны, хто ўмеў чытаць, пісаць, крыху рахаваць, хто закончыў двухкласнае народнае вучылішча. Вобраз такога «дарэктара» выдатна паказаў Якуб Колас у «Новай зямлі»: «Ён толькі летась скончыў школку і веды меў у адну столку, ды й тых патраціў з палавіну, у поле гонячы скаціну».

У каталіцкіх сем'ях вялося так: напачатку навучалі дзяцей польскай мове, каб яны маглі шаптаць пацеры, мовіць пахвалёнку, уваходзячы ў хату, карыстацца рэлігійнымі кніжкамі і катэхізісам, малітоўнікам, кантычкай (зборнікам рэлігійных песень). Аднак у жыцці штодзённа ўжывалася беларуская мова, і дзецям вывучаць нязвыклую польскую мову было цяжкавата, давалася такое апалячванне часам пасля бацькоўскай папругі ці аброці, пра што Купала ўспамінаў: «Учился я тогда, по-видимому, не очень усердно, потому что отцу моему пришлось за неуспехи отколотить меня, кажется, уздечкой. После этого начал учиться я чересчур усердно. Учился сначала по-польски, только впоследствии, по переезде из Косино в Сенницу, я от няни научился русскому алфавиту и легко осилил и русскую грамоту».

У Сенніцкім народным вучылішчы Купала правучыўся ўсяго тры месяцы, пасля — некалькі месяцаў у Мінскай прыватнай падрыхтоўчай школе, але тамтэйшы настаўнік мала цікавіўся ведамі вучняў, бо з вялікім замілаваннем хіліўся да асалоды Бахуса.

У Прудзішчах на працягу дзвюх няпоўных зім зноў давялося звярнуцца з-за польскай мовы да «дарэктараў», і толькі на трэці год бацька намерыўся падрыхтаваць сына да рэальнай школы. З гэтае мэты Дамінік Луцэвіч паслаў хлопца да замужняй сястры пад Мін-

скам (у Радзькавічы), дзе па суседстве жыў сын дырэктара Мінскай рэальнай школы У. І. Самойла, які меўся за кароткі тэрмін падрыхтаваць Яся да рэальнай школы.

Адукаваны чалавек, У. Самойла на першых занятках заўважыў вельмі ж небагатыя веды вучня, атрыманыя ад «дарэктараў». Польскія грамацеі налягалі больш на хуткае чытанне, прыгожае пісанне, нешта тлумачылі і з матэматыкі. Самойла паступіў сумленна, сказаў бацьку праўду: хлопец кемлівы, можна было б, па знаёмстве, прыняць у школу без экзаменаў, але ён за адзін год праграму 1-га класа не асіліць, давядзецца прасядзець два гады. Збянтэжаны Дамінік Луцэвіч, мабыць, падзякаваў за праўду, спаслаўся на патрэбу хлопца ў гаспадарцы і забраў дадому. Пасля гэтага больш касавурыўся на Ясевы забавы з кніжкамі, пачаў старанна прыкладаць яго да работы.

У Прудзішчах, успамінаў Купала, чытаў без разбору ўсё, што траплялася ў той глушы: і «Северо-Западный край», і незразумелую «Філасофію польскай гісторыі». Аднак чытанне тое, напэўна, мала ўзбагачала інтэлект. Найвялікшае ўражанне засталося ў яго ад дружбы з парабочкам Післяком: з замілаваннем слухаў Ясь з яго вуснаў народныя казкі, што былі зразумелыя і цікавыя.

## Селішча

Лысагоршчына гарыстая і лясістая, значная частка яе ворных зямель і сенажацяў, што параскіданы невялікімі кавалкамі сярод лесу і ўзгоркаў, пасля «Уставы на валокі» (1557) у Вялікім княстве Літоўскім апынулася па-за межамі сялянскіх надзелаў і называлася засценкамі. Паселішчы на гэтых засценках хутарскога тыпу здаўна арандавала дробная шляхта ад дзяржавы. З бегам часу землі гэтыя былі выкуплены арандатарамі ці часткова панамі з бліжэйшых маёнткаў.

Засцянковы хутар Селішча належаў да маёнтка Вайцяхоўскага з Вялікіх Бясяд. Вясной 1895 года на яго з Прудзішча і перасяліўся арандатар Дамінік Луцэвіч.

Прывабіла Луцэвіча гэтая сядзіба, мабыць, тым, што на ёй было больш зямлі, чым на ранейшай, што знаходзілася яна каля самай хаты. Меўся і невялікі сад, на дзядзінцы высілася ліпа з тымі бусламі, што прыносяць шчасце.

У лесе можна было часам папасвіць жывёліну, набраць сушняку на паліва, ніхто не забараняў збіраць грыбы і ягады. Праўда, не было тут ні рэчкі, ні возера.

Напэўна, Ясю Луцэвічу была не даспадобы гэтая бязлюдная глуш, бліжэйшыя паселішчы знаходзіліся на адлегласці двух-трох кіламетраў. Не было надзеі займацца тут і адукацыяй.

Аднак пашанцавала сустрэцца і пасябраваць з трыма дабрадзейнымі асобамі: высокаадукаваным гаспадаром маёнтка ў Малых Бясядах Зыгмунтам Чаховічам, гаспадаром фальварка ў Карпілаўцы Антонам Лявіцкім і аднагодкам з хутара Ляўшова Ясем Аўлачынскім. І кожны з іх пакінуў дабрачынны след у паэтычнай біяграфіі.

# Загадкавы Зыгмунт Чаховіч

*...Бясяды. Невялічкая кропка на карце Беларусі, якая выклікае шмат гістарычных, літаратурных асацыяцый.*

*Г. КІСЯЛЕЎ*

Невядома, што сталася б з прыродным талентам Яся Луцэвіча, калі б лёс не паспагадаў яму пасяліцца ў Селішчы побач з легендарным Зыгмунтам Чаховічам з Малых Бясяд.

Перад прыездам у Селішча, як мы помнім, пад час той няўдалай падрыхтоўкі сына ў рэальнае вучылішча, Дамінік Луцэвіч вырашыў, што няма ў яго такіх раскошаў, каб аддаваць сына далей у навуку. Меркаваў, што адкупіць у пана для Яся гэтую ўтульную сядзібу. Такую думку падаў яму сам пан, калі ра́дзіліся пра арэнду. Але нечакана аб'явіўся сусед-чарадзей з Малых Бясяд і «сапсаваў» Дамініку хлопца: адбіў ахвоту займацца тым, чым займаліся дзяды і прадзеды, заваражыў і наслаў на хлопца жаданне ісці ў свет шукаць лепшай долі.

Зыгмунт (Сігізмунд Бярнардавіч) Чаховіч-Ляхавіцкі нарадзіўся ў 1831 годзе ў Сурвялішках Віленскай губерні (цяпер Пастаўскі раён), быў гаспадаром вялікага маёнтка. Скончыў Віленскі дваранскі інстытут і камерцыйнае (юрыдычнае) аддзяленне Пецярбургскага універсітэта. У 1859 годзе ажаніўся з Анэляй Арамовіч, уласніцай маёнтка Малыя Бясяды ў Вілейскім павеце (цяпер Лагойшчына).

Жыў з жонкай у сваім маёнтку, падтрымліваў сталыя сувязі з віленскай інтэлігенцыяй, асабліва са сваім сябрам па вучобе паэтам Ляскарам, у доме якога бывалі Сыракомля, Каратынскі, Манюшка.

Багаты дваранін Чаховіч, уласнік двух маёнткаў — бацькоўскага і жончынага, звязаў свой лёс з паўстаннем 1863 года, прытрымліваўся левага «чырвонага» крыла. Стаў самым актыўным паплечнікам Кастуся Каліноўскага па падрыхтоўцы і кіраўніцтве паўстаннем на Літве і ў Беларусі. Быў экспедытарам, да якога сыходзіліся ўсе канспіратыўныя сувязі з правінцый, адрасы і яўкі. Калі паўстанцам спатрэбіліся дадатковыя сродкі, рабіў пазычкі на сваё імя. Цікава і тое, што пра пазыкі не забыў, і калі яму, праз 30 гадоў, пашанцавала прадаць са спадчыны маёнтак, то першым чынам сплаціў даўгі, каб не кідаць цень на паўстанне і яго людзей.

За ўдзел у паўстанні напачатку яму быў прызначаны смяротны прыгавор, пасля яго замянілі 12-гадовай катаргай у Сібіры.

Давялося зведаць усе пакуты катаргі — месячныя этапы да руднікоў. Пабываў Чаховіч і ў турмах — Іркуцкай і Пермскай. На дзевятым годзе няволі, дзякуючы пэўным захадам сяброў, яму пашанцавала вярнуцца на радзіму і пасяліцца, не зусім легальна, у маёнтку жонкі Малыя Бясяды, побач з Селішчам.

Чаховічу на Лысагоршчыне жылося няўтульна: не ладзілася штосьці з жонкай, якая не ўпадабала мужаў характар і спагадныя адносіны да наймітаў, марнаванне грошай на кніжкі і вечнае карпенне над імі, псаванне паперы на нейкую непатрэбную мемуарную пісаніну. Мясцовыя паны таксама не зусім прыхільна глядзелі на пана-паўстанца і былога катаржаніна. Мабыць, такія абставіны спрыялі сяброўству Чаховіча з Дамінікам Луцэвічам і яго сынам. Зблізіла Чаховіча з суседам і тое, што Дамінік быў беззямельны, несправядліва пакрыўджаны лёсам. А такім людзям ён стараўся заўжды дапамагаць чым толькі мог. Катарга не зламала, не выветрыла ў Чаховічу прыроднае імкненне да спагады і справядлівасці.

Нечакана лёс падкінуў кемлівага хлапчука, які замяніў яму сына: свайго гадаваць не давялося. Ад Яся пасвятлела на душы, было каму перадаць скарб сваіх ведаў, было каму выслухаць яго старэчыя скаргі, адчуць сардэчнае спачуванне. Хацелася зацікавіць падапечнага юнака тым, што яму падабалася з паэзіі М. Канапніцкай, А. Міцкевіча, А. Пушкіна, М. Някрасава, усім тым, што калісьці хвалявала бунтарскую натуру.

З. Чаховічу, як і У. Самойлу, давялося хутка выявіць хібы ведаў у хлапчука Луцэвіча, і не толькі заўважыць, але і прыкласці стаpанне, каб гэтую справу паправіць. Педагог К. Д. Ушынскі казаў: «Кніга застаецца немай не толькі для таго, хто яе не ўмее чытаць, але і для таго, хто, прачытаўшы механічна старонку, не можа выцадзіць з амярцвелай літары жывую думку». Бясспрэчна вядома, што сапраўдная культура чытання немажлівая без адпаведнага запасу ведаў — літаратуразнаўчых, псіхалагічных, гістарычных і іншых. На жаль, іх у Яся не было. Гэтыя веды яму давялося паступова чэрпаць ад суседа, гаспадара багацейшай бібліятэкі. Па сутнасці, Чаховіч быў неафіцыйным настаўнікам, які пеставаў талент прышлага паэта на працягу амаль сямі гадоў. Вучоба адбывалася не толькі за сталом, але пры кожнай сустрэчы, пад час доўгіх гутарак.

На працягу двух гадоў Чаховіч падбіраў кнігі і тлумачыў іх у такім парадку, каб яны адпавядалі праграме народнай школы. Гэта відаць з таго, што пасля заняткаў Чаховіч урэшце звярнуўся да Дамініка Луцэвіча, парэкамендаваў паслаць сына вучыцца ў школу. Згода была атрымана, і Ясь з аднаго заходу закончыў Беларускую двухкласную народную школу. Сам Купала ва ўспамінах хваліўся, што меў веды звыш школьнай праграмы.

Поспехі акрылілі і вучня, і настаўніка. Ды і Дамінік Луцэвіч пачаў больш паважна адносіцца да сынавых заняткаў з кніжкамі, менш абцяжарваць працай на гаспадарцы.

Заняткі ў «ліцэі» Чаховіча, аднак, не спыніліся, падняліся на вышэйшую ступень пазнавання кніжнай мудрасці, якая без тых агульных пачатковых ведаў была б недасягальнай.

Не варта забываць і такой асаблівасці, што Чаховіч увесь час паглыбляў свае веды, многа чытаў, пісаў свае мемуары. І ён не мог не пазнаёміць прагнага да навукі хлопца з рознымі дапаможнікамі для самаадукацыі, слоўнікамі, энцыклапедыямі, бібліяграфіяй, літаратуразнаўствам.

Пасля знаёмства з бібліятэкай у свайго апекуна ў М. Бясядах Ясю Луцэвічу было лёгка ўладкавацца і працаваць у Віленскай бібліятэцы.

Менавіта ў Селішчы, пад уплывам паэзіі польскіх паэтаў і, мабыць, таго ж Чаховіча, Купала распачаў першыя паэтычныя вопыты на польскай мове. Хаця ў біяграфіі пачатак паэтычнай працы датуецца 1902 годам, аднак адбылося гэта значна раней. Як мне помніцца, сястра паэта Марыя расказвала, што Янка пасылаў у друк вершы цераз Чаховіча і нават, яшчэ да смерці бацькі, неяк атрымаў з яго рук ганарар за нешта надрукаванае, выпісаў з таго ганарару часопіс «Родина».

## Антон Лявіцкі

У Коласа, казалі, была фенаменальная памяць — помніў не толькі год, месяц, але часам дзень, у які адбылося тое ці іншае здарэнне ў яго жыцці. Купала валодаў іншым феноменам — ён не звяртаў увагі на дробязі каляндарных дат, захоўваў пераважна пачуццёвыя аса-

цыяцыйныя ўражанні. У аўтабіяграфічных лістах Клейнбарту Купала часам папярэджваў, што яго даты могуць быць недакладнымі. Такія недакладнасці сустракаюцца пераважна ва ўспамінах пра бытаванне яго ў Селішчы.

Успаміны Купалы пра селішчанскага суседа, Антона Іванавіча Лявіцкага, таксама сціплыя, а даты недакладныя.

Сядзіба Лявіцкага знаходзілася не менш як за шэсць кіламетраў ад Селішча. Знаёмства Купалы з Лявіцкім, з вусных успамінаў сястры Купалы МАРЫІ, адбылося яшчэ да смерці іх бацькі (1902). У гэты час Яся ЛУЦЭВІЧА Ў Селішчы не было, ён жыў у Бараўцах, Лявіцкі — у Вільні. Сустрэча доўжылася да паловы 1903 года. Знаёмства і сяброўства Луцэвіча і Лявіцкага склалася цераз Яся Аўлачынскага, які першаму быў блізкім сябрам, а другому — суседам. Гэтая падзея адбылася тады, калі хлопцы падраслі і памужнелі, калі ўзнікла жаданне і адвага валэндацца па вёсках і фальварках, цікавіцца бытавымі і сацыяльнымі канфліктамі, знаёміцца з аднолеткамі.

Фальваркоўцаў, пераважна каталіцкага веравызнання, называлі засцянковай шляхтай. Ці былі яны сапраўднымі шляхціцамі, ніхто дакладна не ведаў. Некаторыя, відаць, прытвараліся, прыдавалі сабе вонкавы шляхецкі гонар, і ці не пра іх Купала неяк сказаў: «Вось шляхціц, марны шэршань, той выскачак адзін, душу заціркай муча,— ужо ён гаспадзін! Бяднейшаму ўжо брату рукі не падае, хоць сам такія ж лапці на ногі надзяе».

Частавата сябры наведвалі блізкіх суседзяў: Аўлачынскіх у Ляўшове, Станіслава Несцяровіча ў Міхалішках, Гіляра Аўлачынскага ў Рубяжах, Міхала Навіцкага ў Айчызне. Дайшла чарга і да Антона Лявіцкага ў Карпілаўцы.

Франуся Аўлачынскага, заможнага гаспадара з мянушкаю «Вось цо да», ведалі як выключнага гуляку-камедыянта. З ім цяпер сустракаемся ў купалаўскай «Паўлінцы» — у вобразе Пранцыся Пустарэвіча. Было ў яго дзве сястры на выданні. Вясёлыя, гаварлівыя шляхцянкі не цураліся вясковых хлопцаў. Ці не іх Купала і ўвекавечыў — адну Паўлінкай, у аднайменнай п'есе, другую ў паэме «Адплата кахання».

Станіслаў Несцяровіч, не вельмі багаты фальварковец, меў двух дарослых сыноў і дачку прыгажуню Ванду. Сыны добра сябравалі з нашымі вандроўнікамі. У адной кампаніі хадзілі на вечарынкі, фэсты, кірмашы. Луцэўчыку спадабалася іх сястра Ванда, і хлопец частавата яе наведваў. Паўторна давялося спаткацца з Вандай у Мінску тады, калі яна выступала на сцэне Беларускай хаткі. З часам Ванда выйшла замуж за доктара Горэля і вярнулася на сваю бацькаўшчыну, у Міхалішкі. Міхалішкі сталі прывабным месцам для Купалы. Ён будзе часта наведваць іх у час побыту ў Акопах.

Ванда Горэль доўжыла сваю тэатральную дзейнасць — арганізавала з мясцовай моладзі Міхалішак драмгурток, у якім прымаў удзел і я. Спектаклі адбываліся ў яе пуні, летам. Разыгрывалі такія п'ескі: «Пашыліся ў дурні», «Збянтэжаны Саўка», «Дзе чорт не зможа, там бабу пашле».

У гады калектывізацыі Ванду Горэль выслалі ў Сібір. З вусных успамінаў яе дачкі Зіны яна і там, на высылцы, не пакідала сцэну.

Недалёка ад Міхалішак высіўся курган, легенда пра які, мабыць, прыдалася для сюжэта купалаўскай паэмы.

Цяпер — пра Аўлачынскага. Гіляры Аўлачынскі, заможны гаспадар, па мянушцы «Каханенькі родненькі», дапамог Купалу змайстраваць вобраз Сцяпана Крыніцкага для «Паўлінкі».

Сядзіба і яе гаспадар славіліся вялікім «Гіляркавым лесам». Сам гаспадар быў заядлым паляўнічым і любіў запрашаць на гэтую справу гасцей, у тым ліку і Купалу, калі той бываў у Акопах. Меў чатырох дачок; сваіх было трое, чацвёртая — прыёмная сірата.

Міхал Навіцкі, доктар, пасля доўгіх блуканняў па свеце спыніўся нарэшце ў Айчызне, што дасталася яму ад бацькоў. Марыў тут, на Лысагоршчыне, арганізаваць закладку парку-дэндрарыя. Пасадзіў напачатку вялікі сад, а ў дадатак завозіў «заморскія» дрэвы і кустоўнікі. Сядзібу абгарадзіў жывой агароджай — стрыжаным ельнікам. Любіў расказваць пра дзівосы, якія яму давялося пабачыць не толькі ў Расеі, але і за яе межамі.

Фальварак Лявіцкага быў ад усіх самым бяднейшым, зямлі было мала і тая неўрадлівая, параскіданая кавалкамі ў розных мясцінах. Славілася сяліба на ўсю акругу рэдкасным яблыневым садам. Яблыкі здзіўлялі памерамі, колерам і сакавітасцю. Гэты цуд бачыў я на свае вочы, смакаваў, бо сябраваў і вучыўся ў адной школе з малодшым сынам Лявіцкага. Пашанцавала мне пасмакаваць цудоўныя папяроўкі з мядовым водарам, велічэзныя апорты, нейкія чырвоныя цыганы, разнастайныя ранеты, духмяныя антонаўкі і іншыя. Напэўна, гэты «райскі сад» стаў прычынай для наведвання Лявіцкіх, бо тады мала хто ведаў пра тое, што гаспадар яшчэ і піша.

Пад час гасцявання і пачастунку, слова за словам, Ясь Луцэвіч і Антон Лявіцкі разгаварыліся. Паддаўся гаспадар «пачаставаць» гасцей і вершамі — Францішка Багушэвіча, Дуніна-Марцінкевіча, якія ведаў на памяць і якія любіў дэкламаваць са сцэны яшчэ ў Радашковічах. Вось так, на маю думку, распачалося знаёмства маладога Луцэвіча з Лявіцкім.

Ва ўспамінах Купала пісаў, што сустрэў у Карпілаўцы цікавага, дасціпнага субяседніка, беларускага пісьменніка, які пазнаёміў яго з іншымі пісьменнікамі і іх творамі. Пазнаёміў таксама і са справаю нацыянальнага адраджэння на Беларусі. Наогул трэба зазірнуць у біяграфію Ядвігіна Ш., каб уявіць, пра што ён мог апавядаць Луцэвічу, якімі ведамі ўзбагачаў яго інтэлект.

Лявіцкаму давялося пабываць у шматлікіх краях, давялося не раз спатыкацца «на камені тыя, што губяць сілы маладыя». У Мінску Лявіцкі скончыў гімназію, пасяліўся ў Маскве, марыў стаць медыкам. Паступіў і вучыўся ва універсітэце на медычным факультэце. Неўгамонны юнак прыняў удзел у бунтарскай дэманстрацыі студэнтаў, трапіў у Бутырку, што стала жыццёвай школай. У студэнцкім шматнацыянальным асяроддзі адчуў Лявіцкі і сваю нацыянальную свядомасць, упершыню заняўся прыгожым пісьменствам, пераклаў на беларускую мову апавяданне «Сігнал» У. Гаршына. Пасля Бутырак яго ветліва папрасілі зачыніць дзверы ва універсітэце. Дома, пры бацьку, доўга не засядзеўся, скончыў курсы аптэкараў у Мінску і пачаў працаваць у Радашковічах. Там пазнаёміўся з творамі Ф. Багушэвіча, Дуніна-Марцінкевіча, працягваў пісаць апавяданні і п'есы на роднай мове. Смерць бацькі змусіла вярнуцца на гаспадарку. Якраз у яго, Лявіцкага, Луцэвіч і студыяваў, пасля Чаховіча, другі курс навукі, беларусазнаўства.

Доказам таго, што пад час сустрэч з Лявіцкім Я. Луцэвіч пачаў пісаць на беларускай мове, сведчыць яго ліст да Клейнбарта ад 28.IX.28 г.: «В особенности после одной-другой рюмки вина беседа у нас рекою лилась. В то время я уже писал стихотворения по-белорусски».

У 1905 годзе іх сустрэчы прыпыніліся: Лявіцкаму па стану здароўя нельга было займацца цяжкай фізічнай працай на гаспадарцы і ён знайшоў работу ў Вільні ў выдавецтве. Перад ад'ездам паклапаціўся даць Луцэвічу адрасы тых сваіх знаёмых у Радашковічах і ў Мінску, якія маглі б садзейнічаць юнаку ў пошуках працы.

Сустрэнуцца яны яшчэ тады, калі Лявіцкі стаў Ядвігіным Ш., а Луцэвіч — Янкам Купалам, спачатку ў Вільні, пасля ізноў на Лысагоршчыне, у Акопах.

## Ясь Аўлачынскі

Пра Яся Аўлачынскага (Івана Казіміравіча Аўлачынскага) у Купалаўскім даведніку паведамляецца: «Муж Марыі Дамінікаўны (сястры Купалы). У 1897—1898 гг. разам вучыліся ў двухкласным народным Бяларуцкім вучылішчы, сябравалі». Вельмі сціпла. Гэты спадарожнік Купалы ў юнацкія гады заслугоўвае больш пачэснага месца ў біяграфіі паэта.

У падлеткавыя і юнацкія гады Купала выхоўваўся пераважна на хутарскіх сядзібах, воддаль ад кагорты вясковых аднагодкаў. Не давялося яму паварыцца і ў вучнёўскай бурсе. Пераважна трымаўся дому, забаўляўся са сваімі сёстрамі, з часам знайшоў сталы занятак — чытаць кніжкі, прыглядацца ў адзіноцтве да людзей, да прыроды. Выбіраць сябра яму было цяжкавата.

Самым блізкім яму стаў не хто-небудзь з блізкага паселішча, Лугаўцоў, а менавіта Ясь Аўлачынскі, які жыў на значнай адлегласці ад Селішча.

Ясь быў сіратой, жыў у брата-апекуна, вядомага прататыпа Пранцыся Пустарэвіча з «Паўлінкі», карыстаўся вялікай павагай сярод моладзі не толькі фальваркоўскай, але і вясковай. Добра ведаў тамтэйшых людзей, асаблівасці мясцовай прыроды, быў своеасаблівым гідам у азнаямленні з Лысагоршчынай.

У вольны час сябры рабілі паходы, знаёміліся з цікавымі суседзямі, прыгожымі краявідамі.

Яшчэ ў Селішчы Аўлачынскі пакахаў Ясеву сястру Марыю. Калі сям'я Луцэвічаў пераехала вясною ў Бараўцы (1904), Ясь Аўлачынскі ў хуткім часе перасяліўся да іх жыць і пачаў дапамагаць весці гаспадарку. У 1906 годзе адбылося вяселле.

Гэтыя свае думкі і разважанні пра жыццё Янкі Купалы ў Селішчы я выказаў, можа, трохі канспектыўна. Але, думаю, яны не будуць лішнімі для біёграфаў. Імкнуўся паказаць тое асяроддзе, якое спагадала росквіту прыроднага таленту Яся Луцэвіча. Вядома, без дапамогі Чаховіча і Лявіцкага не змог бы вясковы хлопец сам-насам, у глушы і малапісьменнай сям'і, асіліць скарб «кніжнай мудрасці» і выбраць дарогу на Парнас.

Аўтабіяграфічныя лісты Купалы Клейнбарту па стылю нагадваюць адказы на анкетныя запытанні, да таго ж сам аўтар падчас не перакананы ў дакладнасці некаторых фактаў.

Пры аналізе мемуарнага матэрыялу неабходна звяртаць увагу на час іх напісання, інтэлектуальны ўзровень адрасата і тагачасныя грамадска-палітычныя ўмовы. Гэтыя асаблівасці добра высвятляюцца пры параўнанні зместу лістоў, напісаных, з аднаго боку, у 1910—1911 гадах і, з другога, у 1928—1929-х.

Вярнуся яшчэ раз да пытання пра тое, калі ўсё ж Ясь Луцэвіч распачаў складаць вершы. Ва ўспамінах пададзена, што з 1904 года. Аднак у яго лістах можна заўважыць факты, якія супярэчаць гэтай даце. Да знаёмства з Лявіцкім Купала пісаў на польскай мове, пасля перайшоў на беларускую. Дату 1904 год, мабыць, трэба разумець інакш: з гэтага года Купала распачаў упэўнена займацца літарацкай працай, да гэтага ж толькі практыкаваўся.

Узнікае і другое пытанне: чаму ў Купалы захаваліся пачатковыя вершы на польскай мове, а не на беларускай?! У мяне роіцца такая здагадка — паэт захаваў і першыя беларускія вершы, але з часам іх перапрацаваў і выдаў пад другой датай. Менавіта яны ўвайшлі ў «Жалейку». Інтуіцыя падказвае мне, што такімі вершамі маглі быць: «І як тут не смяяцца», «Янка канцавы», «Змачу пёрка...», «Вось

тут і жыві», «З песень аб сваёй старонцы», «Ліпа», «Саха», «Дума маркоты».

З першых вершаў, як паведамляе даведнік, захаваўся адзін — «Мая доля», з паметай 15.II.1904 год. Гэты твор выключна аўтабіяграфічны, шукаць у ім нешта надуманае няма патрэбы. Аўтар выказаўся пра сваю долю-ведзьму, якая ганялася за ім і станавілася поперак дарогі. У Селішчы Дамінік Луцэвіч, пад уплывам Чаховіча, меркаваў ужо аддаць сына ў навуку, але гэтая мара не здзейснілася. Пасля смерці бацькі сыну давялося заставацца на гаспадарцы. У 1903 годзе маці дала згоду адпусціць яго на волю. Але пасля ўсіх няўдач Ясь зноўку вярнуўся на камяністае поле. Ці не тады паэт і выказаў скаргу на свой лёс: «Мая доля, дык вось доля, Каб ты лопнула была!.. Куды толькі не парвуся, каб хоць троха лепей жыць, Дык калі ні аглянуся, Мая доля тут бяжыць».

Не маем да гэтага часу апісання Лысагоршчыны, дзе бруяцца паэтычныя крыніцы яго натхнення. У аглядах творчасці Купалы яны адсутнічаюць.

Мы добра ўяўляем Палессе з празаічных твораў І. Мележа, Случчыну з твораў К. Чорнага, Дняпроўскі край ад У. Караткевіча, Прынямонне ад «Новай зямлі» Якуба Коласа. А пра якую «невясёлую старонку» Беларусі спяваў Янка Купала, на жаль, мала ведаем.

Для параўнання ўспомнім, як выглядае коласаўскае Прынямонне:

Зялёны луг, як скінуць вокам,
Абрусам пышным і шырокім
Абапал Нёмна рассцілаўся —
За хатай зараз пачынаўся
Ды йшлі кваціста раўніною
З мурожнай слаўнаю травою...
За хатай поле пачыналась,
Дзе жыта хараша гайдалась
І рос авёс, ячмень і грэчка,—
Было прытульнае гняздзечка!

Невясёлай, няўтульнай выглядала пэўны час для Купалы зямля Лысагоршчыны:

Невясёлая старонка,
    Наша Беларусь:
Людзі — Янка ды Сымонка,
    Птушкі — дрозд ды гусь.
Поле — горы ды каменне,
    Потам зліта ўсё,
Сенажаць — адно карэнне,
    Сівец ды куп'ё.
Родзе шнур несамавіта,
    Колькі б працы ўнёс,—
Ячмень з сажай, з званцом жыта,
    З свірэпкай авёс.
Небагатыя і вёскі,
    Садоў ў іх не знаць,
Толькі часам дзе бярозкі,
    Як тычкі, стаяць.

Згадаем акалічнасці, што натхнялі Купалу на пачатку свайго пісьменства называць Беларусь «невясёлай старонкай», у якой жыве: «цёмны, цёмны народ гэты...» Ці апраўдана, падстаўна, наконт гэтага рабілі паэту заўвагі Ядвігін Ш. і М. Багдановіч?

Нашы класікі, Якуб Колас і Янка Купала, аднагодкі, сучаснікі, паплечнікі прыйшлі ў літаратуру адначасна, толькі не аднолькавымі жыццёвымі дарогамі.

Коласу пашанцавала жыць праз доўгі час ва ўтульным, багатым, ва ўсіх адносінах, гняздзечку Прынямоння. З аўтабіяграфічнай паэмы «Новая зямля» відаць, як з маленства, у сям'і лесніка, узбагачалася

пазнанне прыгажосці прыроды і сацыяльных канфліктаў. Пашанцавала Коласу ў атрыманні дастатковай адукацыі. Па-людску закончыў пачатковую школу, затым бацька паспагадаў паступіць у настаўніцкую семінарыю і паспяхова закончыць. Вядома, настаўніцкая семінарыя дала больш ведаў, чым «ліцэй Чаховіча» на Лысагоршчыне.

У Купалы жыццёвая дарога выдалася больш складанай, цярністай. Доля была няўстойлівая, віхрастая, з падманамі, нібы тая таямнічая кветка папараць. У стыхіі ўдач і няўдач гартаваўся і крышталізаваўся прыродны талент паэта.

Склад і побыт сям'і, у якой выхоўваўся Купала, рэзка адрозніваўся ад коласаўскай. Дамінік Луцэвіч, небагаты арандатар, малапісьменны, асабліва не цікавіўся нічым, акрамя земляробства. Па натуры быў чалавекам маўклівым, малагаваркім. Адно жонка, Бянігна, маладзейшая ад яго на 11 год, была больш руплівай, вяла справы з людзьмі. Мабыць, маці і падтрымлівала моўны кантакт з сынам, а таму Купала, з часам, скажа: «навучыўся я слоў беларускіх ад маці...» Ад бацькавай навукі ў маленстве добра запамятаў тую аброць, якая дапамагла аддана чытаць польскі лемантар.

Мне давялося частавата сустракацца з Бянігнай Іванаўнай не толькі ў Акопах, яна тады дружыла з нашай сям'ёй, але і ў Мінску, калі жыла ў сына. У яе гаворцы заўжды адчуваўся сакавіты сялянскі гумар, цеплыня і павага да субяседніка. У паводзінах ніхто не заўважаў так званай шляхецкай фанабэрыі, жанчына спраўна магла касіць, араць і, вядома, жаць.

Купала прыйшоў на літаратурную ніву з сям'і селяніна-беззямельніка. Сацыяльнае становішча беззямельнікаў у той час, у пэўным сэнсе, нагадвала часткова былую паншчыну — рабіць на пана. Адсюль у ранніх творах Купалы гучаць пераймальна напевы ад паэтаў з прыгоннага часу: Т. Шаўчэнкі, М. Някрасава, М. Канапніцкай і іншых. Лысагорцам даводзілася цяжка працаваць на камяністым, малаўрадлівым полі, але жылі яны значна лепш ад прыгоннікаў — хлеб з мякінай не елі.

У вершы «З песень аб сваёй старонцы» Купала адлюстраваў непасрэдна пачуццёва Лысагоршчыну, на зямлі якой ён працаваў.

На самым высокім чубе скандынаўскага падарунку, магутнага ледавіковага скопішча, так званага Мінскага ўзвышша, побач са знакамітай гарой Лысай, знаходзіліся Селішча і Акопы — родныя куты Янкі Купалы. Мала радасці давалі «панам сахі і касы» камяністыя нівы ды сенажаці, на якіх раскашаваўся калючы сівец. Араць камяністае поле — праца потная.

Але не знойдзеш тут ні рэчанькі, ні азярца, каб пасля патлівай працы асвяжыцца. Лысагоршчына бязводная, вада залягае глыбока. Нездарма адну з вёсак, побач з Лысай гарой, назвалі Сухой гарой.

Нівы і сенажаці параскіданы сярод лесу ці ўзгоркаў. Тутэйшыя землі ўжыткавалі пераважна невялікія вёскі і хутары. На вузкіх палосках-шнурах селяніну было не да саду. У вёсцы каля дамоў, па выбару гаспадара, красаваліся адзіночныя бярозы, ліпы, дубы, клёны, ясені; з кустоў мог быць — бэз, язьмін, шыпшына, ірга.

Затое лесу тут было багата. Лес шмат у чым выручаў лысагорцаў: летам грыбамі, ягадамі; зімой можна было адвезці некалькі возікаў дроў у Мінск, прадаць і купіць нешта для ўжытку.

Твор «З песень аб сваёй старонцы» адносіцца да 1905—1907 гадоў, з чаго відаць, што ён, бадай, адзін з першых пачатковых вершаў Купалы. У ім заўважаюцца некаторыя пагрэшнасці першапачаткоўца. Веды з прыродазнаўства і геаграфіі былі невялікія. У той лысагорскай глушы паэт напачатку пераважна пачуццёва аддаваўся сацыяльным справам. Лысагорская глухамань выклікала ў яго смутак: «Так няміла, як магілай неяк аддае».

Пройдзе пэўны час, паэт паблукае па свеце, навучыцца бачыць незвычайнае ў звычайным і звычайнае ў незвычайным. Пачне ў думках вяртацца на сваю былую «невясёлую старонку», дзе бытавала яго юнацтва, вынаходзіць у тым звычайным шмат чаго незвычайнага. Прачытае паўторна верш пра сваю старонку і дапіша: «Эй, дзе воўк нарадзіўся, яму той куст міл», ды яшчэ шмат іншых замілаванняў да сваёй радзімы.

Аб'явіцца нарэшце знакамітая купалаўская «Паўлінка» (1912), дзе лысагорцы — адзеты, абуты, умеюць чытаць, спяваць і танцаваць.

У вядомым вершы «Спадчына» паэт з вялікай пашанай, цеплынёй успамінае вобразы з Селішча: «Вясеннія праталіны, і лесу шэлест верасны, і ў полі дуб апалены»; і іншае — ліпу на дзядзінцы з буславым гняздом, і крык вароніных грамад на Бясядскім кладзішчы, старажытныя вандолы (яры), якія заляглі пад Янушкевічамі.

Зачаруе з часам паэта на Лысагоршчыне экзотыка неспакойнага рэльефу — безліч разнастайных узгоркаў, здавалася, нібы там пакінута шмат курганоў пасля вялікай бітвы. Цудоўныя даляглядь з высокіх узвышшаў, мабыць, натхнялі паэта складаць узнёслыя вершы, спяваць гімны зямлі і сонцу: «Дык глянь з хорамаў вольных; шырокіх да крывіцкіх туманных нізін...» З «высокіх хорамаў», здаецца, паэт і пачаў заклікаць беларускі народ да сацыяльнага і нацыянальнага адраджэння.

Высокі ўзгорак у Янушкевічах (на ім цяпер красуецца помнік беларускаму партызану), мабыць, паслужыў паэту вобразам для легендарнага кургана з аднайменнай паэмы. З яго відаць многа пустак і балот беларускай зямлі. Ды стаіць ён на ўзбярэжжы шумнацечнай Сліжанкі, што далучаецца да Гайны.

Лысагорская зямля шчодра галубіла Купалу як вернага сына, і паэт шчыра аддзякаваў за ласку шматлікімі творамі. У час трагічнага развітання (1929) з Лысагоршчынай, у маркоце паэт напісаў верш «Сыходзіш, вёска, з яснай явы...».

Як жа выглядае паэтычная бацькаўшчына Купалы напярэдадні святкавання 110-годдзя яго нараджэння?

Як сон маркотны, нежаданы, адышла Лысагоршчына з яснай явы. Селішча і Акопы, шматлікія паселішчы засталіся зруйнаванымі, там цяпер «так няміла, як у магіле неяк аддае». Існуе толькі адзіны мемарыяльны знак на валуне ў Акопах, на якім калісьці паэт любіў адпачываць.

На канцоўку просяцца такія радкі з паэта:

І калі здзекуецца нада мною —
Над бацькаўшчынай здзекуецца ён маёй,
Калі ж над ёй — мяне тым крыўдзіць найцяжэй.

А ўжо свой выдасць непадкупны
Аб нас гісторыя прысуд,
Калі аглядам гляне рупным
І разбярэ, ў чым справа тут.



ВАСІЛЬ ІВАШЫН

# ТАДЫ З'ЯЎЛЯЮЦЦА ПРАРОКІ...

Чым далей мы адыходзім ад эпохі, што выклікала да жыцця творчасць Янкі Купалы, тым больш набліжаецца да нас яго спадчына. Такі лёс усіх набыткаў чалавечага генія.

У творчасці Янкі Купалы з выразнай сілай праявілася імкненне беларускай паэзіі да ўсебаковага развіцця, акрэсліліся асноўныя яе кірункі, пошукі новых форм паэтычнага самавыяўлення. У яго лірыцы, ліра-эпічных і драматычных паэмах загучала музыка самых разнастайных танальнасцей. Купалава паэзія ўвабрала ў сябе і народна-песенную стыхію, і лірыку вечавага звону, паэтыку закліку і паэтычнага роздуму, высокую патэтыку і гнеўную палітычную інвектыву. Пясняр і баян, прамоўца і апавядальнік, Купала трагедыйны і гераічны, глыбока лірычны і адкрыта публіцыстычны, традыцыйны і наватарскі, такі знаёмы і такі незнаёмы, схільны да фантастыкі, рамантычнай сімволікі і разам з тым рэалістычны ў самых рамантычных рэчах.

Шлях, пройдзены Купалам ад юнацкіх вершаў на польскай мове, праз асваенне традыцый Багушэвіча, беларускай дэмакратычнай і славянскай класічнай паэзіі, выводзіў яго да вяршыняў грамадска-палітычнай і філасофскай лірыкі, да адкрыццяў ліра-эпічнай, драматычнай паэмы і нацыянальнай драматургіі. Ва ўсіх гэтых жанрах паэт сінтэзаваў творчыя набыткі беларускай літаратуры, яе грамадска-маральныя і эстэтычныя каштоўнасці.

Сілай свайго творчага духу Купала здолеў адкрыць цэлыя скарбы народнай паэзіі, угадаць законы пераўтварэння яе вобразнасці ў якасна новы мастацкі сплаў, дасказаць зноў жа на новай аснове тое, што недасказаў сам народ. Паэт моцна адчуваў сваю сувязь з народам і мог сказаць:

Што думаў селянін, што парабак-работнік думаў,
Падслухаў іх і ў песню шчыра пераліў,
А ўжо яны пад гоман вольных шумаў
Мне свой прыхільны водклік падалі.

*(«Шляхам гадоў»)*

Купала не толькі адрадзіў народную паэтычную традыцыю, прымусіў «працаваць» на сучаснасць народную міфалогію і фантастыку, ён сваёй творчасцю, сваімі перакладамі адкрыў для беларускага народа на яго роднай мове багацці агульначалавечай паэтычнай культуры.

Гістарычная маштабнасць творчасці Янкі Купалы, веліч і значэнне створанага ім найбольш выразна раскрываюцца ў шырокай сувязі з тымі глыбіннымі духоўнымі крыніцамі, якія з самага пачатку жывілі яго мастацкае слова, з якімі генетычна яно было звязана. Апрача нацыянальнага мастацкага вопыту Купалава паэзія ўмясціла ў сябе дасягненні еўрапейскай паэтычнай традыцыі, перш за ўсё багатую эстэтычную культуру славянства. Яна знаходзіла і адкрывала сугучнае, роднае сабе ў Пушкіна і Лермантава, Някрасава і Шаўчэнкі, Міцкевіча і Славацкага, іншых славутых паэтаў.

Лірычнае поле прыцягнення і адштурхоўвання ў паэзіі Купалы ахоплівае не толькі традыцыі рэалізму і рамантызму, але і некаторыя тэндэнцыі мадэрнізму. Гэтае імкненне да сінтэзу выразна праявілася ў эстэтыцы Купалы, у асэнсаванні тэмы паэзіі і паэта.

Заслугі купалазнаўства агульнавядомыя. Яно адкрыла многія «горныя вяршыні» яго паэзіі, дало магчымасць адчуць веліч спадчыны паэта і па-сапраўднаму ацаніць яе здабыткі. У апошнія гады з'явіліся працы, сярод іх «Энцыклапедычны даведнік», у якіх зроблена спроба падагульніць дасягнутае.

Аднак дагэтуль літаратуразнаўчая думка галоўным чынам была засяроджана на высвятленні народных, нацыянальных вытокаў творчасці Купалы, яе сувязі з гістарычнай эпохай, вызваленчым рухам, на раскрыцці асаблівасцей яго творчага метаду, паэтыкі і мастацкага стылю. І недастатковая ўвага аддавалася асэнсаванню суадносін мастацкага свету паэта з класічнай спадчынай, перш за ўсё з традыцыямі славянскіх блізкародных літаратур. У гэтым плане неабходны далейшыя даследаванні, патрэбен паглыблены разгляд тэмы паэзіі і паэта ў творчасці Купалы, дзе найбольш яскрава выяўляецца дыялектыка нацыянальнага і агульначалавечага і высвечваюцца асаблівасці мастацкага мыслення паэта ў святле еўрапейскага літаратурнага працэсу.

Па агульным прызнанні даследчыкаў, канцэпцыя паэта і паэзіі ў творчасці Янкі Купалы выяўляе асаблівасці рамантычнага светаадчування. Імкненне да высокага, ідэальнага, проціпастаўленне ідэалу рэчаіснасці, сцвярджэнне свабоды, суверэннасці і самакаштоўнасці асобы паэта, ідэя яго грамадзянскага служэння — усе гэтыя рысы так ці інакш адбіліся ў творчасці Купалы, але вельмі своеасабліва. Пры ўсёй агульнасці з рамантычнай традыцыяй праблема паэта, яго ролі і прызвання заключала тут новае, арыгінальнае і перш за ўсё азначала далейшую дэмакратызацыю эстэтычных прынцыпаў паэзіі, самога вобраза мастака.

Рамантычная эстэтыка ўвасобіла своеасаблівы тып паэта з характэрным самаадчуваннем і самавыяўленнем. Адчужаны ад грамадства, ён становіцца «вечным вандроўнікам», пакутуе ад «адзіноцтва», набывае рысы «выбранніка». Аднак гэтая тыпалагічная агульнасць прысутнічае толькі як пэўная тэндэнцыя, яна заўсёды разнастаіцца, індывідуалізуецца, набывае канкрэтна-гістарычнае выяўленне ў розных літаратурах і ў розных мастакоў. І ў творчасці Янкі Купалы яна выступае ў вельмі адметнай, у значнай меры мадыфікаванай форме, у розных аспектах набліжанай да рэалізму.

Вялікія паэты заўсёды пашыраюць межы магчымага ў паэзіі. Кожны з іх стварае сваю ўласную эстэтычную меру, меру сваёй творчай свабоды, якая адкрывае неабходнасць развіцця, далейшай пераемнасці. Пры гэтым індывідуальнае кожны раз імкнецца ўзняцца на ступень агульнага і ўсеагульнага, захаваць сябе ў выглядзе пэўнага ўзору, традыцыі.

Паэт сам заканадаўца. Ён творыць па законах ім самім над сабою прызнаных, але можа гэта рабіць, калі авалодае майстэрствам, калі спасцігне вопыт папярэднікаў, багацце чалавечай культуры. Традыцыя знаходзіць свой працяг у наватарстве, яна тая сфера, без якой новае не магло б нарадзіцца, знайсці і ўсвядоміць сябе як «самасць», як творчую індывідуальнасць.

Прадаўжальнік класічных традыцый літаратуры, Янка Купала разам з тым і вялікі рэфарматар беларускай паэзіі, шукальнік яе новых шляхоў, стваральнік свайго ўласнага арыгінальнага паэтычнага свету, сваёй паэтыкі, свайго мастацкага стылю. Як і ўсе паэты-наватары, ён увайшоў у літаратуру не толькі як выканаўца законаў мастацтва, але і як заканадаўца. Яго творчасць паказвае прыклад свабодных, сапраўды творчых адносін да літаратурнай традыцыі, глыбокага пераўтварэння яе на аснове народнай паэтычнай культуры.

Ад народнай, родавай памяці заўсёды цягнецца тонкая ніць пераемнасці і спосаб адчуваць і ўспрымаць жыццё. У кожнай літаратуры сваё нацыянальнае аблічча, свой ракурс бачання не толькі свайго ўласнага, але і чужога, іншанацыянальнага. Тут усе глыбінныя вытокі мастацкага мыслення, яго нацыянальная адметнасць. Адсюль бярэ пачатак і генетычная роднасць культур. Тут закладзены рэальныя асновы для іх асацыятыўнай агульнасці, узаемасувязей па гарызантальных і вертыкальных параметрах.

У народнасці — вытокі арыгінальнасці, своеасаблівасці, нацыянальнай самабытнасці паэзіі Янкі Купалы і аснова яе пераемнасці з агульначалавечымі мастацкімі каштоўнасцямі. Народнасць напаўняла змест грамадска-эстэтычнага ідэалу Купалы, вызначала яго грамадзянскую пазіцыю. У абароне інтарэсаў народа, у змаганні за яго свабоду і шчасце ён бачыў свой песнярскі абавязак, галоўную мэту жыцця і творчасці. Паэзія была для яго выражэннем праўды, дабра, справядлівасці, высокай грамадскай трыбунай, адкуль ён мог «з цэлым народам гутарку весці, сэрца мільёнаў падслухаць біцця...».

У шэрагу выдатных твораў, асветленых традыцыяй сусветнай паэзіі, стаяць яго вершы «Я не для вас», «З кутка жаданняў», «Песня мая», «Песні і толькі...», «Прарок», «За ўсё», «Мая навука». У гэтых праграмных творах ключавыя вобразы яго паэзіі, яе семантыка, яе сімволіка. Тут душа Купалавай народнасці, яго этыкі і эстэтыкі, дэмакратызму і гуманізму. Тут на ўсю моц раскрыты эстэтычны ідэал Купалы, паэта-грамадзяніна, патрыёта, цэласнасць яго мастацкага светаадчування і светаразумення.

Лірычнае «я» Купалы шматмернае, шматаблічнае. Яно выходзіць за межы канкрэтна-біяграфічнага, максімальна набліжаецца да народа, яго светаадчування, думак і пачуццяў мужыка, становіцца абагульненым, шматгалосым. І паэт пераўвасабляецца, выступае ў розных іпастасях. Яго аналагамі з'яўляюцца песняр, лірнік, гусляр, званар, музыка, прарок. Купалавы сінонімы паэта злучаюць у сабе арганічна, непадзельна дзве вялікія традыцыі: уяўленне пра паэта, успрынятае ад народа, з фальклорных крыніц і ад багаццяў класічнай мастацкай культуры, выверанае вопытам рамантызму і рэалізму.

Паэт і народ — гэтая вечная тэма паэзіі нязменна хвалявала Купалу і з самага пачатку ўвайшла ў яго духоўны свет, адгукнулася ў многіх творах, засведчыла інтэнсіўнасць яго эстэтычных пошукаў.

Па сваёй глыбіннай сутнасці вершы Купалы пра паэта і паэзію,

пра песняра і песню — гэта запаветы народнасці і грамадзянскасці. Яны ідуць ад сэрца, закранаюць самыя чуйныя струны яго душы. Гэта, пачынаючы з «Жалейкі», пошукі сябе, свайго паэтычнага прызвання, свайго месца ў літаратуры. Хіба не ў гэтым глыбокі сэнс аднаго з першых вершаў Купалы «Я не паэта», дзе праз іранічнае самаадмаўленне сцвярджаецца права народа на нацыянальную паэзію і сваё права быць яго песняром?

Купала ішоў у літаратуру ад песні, ад душы народа. І зусім натуральна, што, пачынаючы свой шлях, ён знаходзіў блізкае сабе перш за ўсё ў творчасці тых паэтаў — сваіх папярэднікаў,— якія моцна былі звязаны з народнай паэтычнай культурай. Сярод сваіх любімых аўтараў, творчасць якіх яго напачатку найбольш цікавіла, Купала называў Сыракомлю, Кальцова, Някрасава, Канапніцкую, Шаўчэнку. У іх творах ён знаходзіў блізкае, роднаснае сабе. І погляд на паэта, песняра і прызначэнне паэзіі ў яго з самага пачатку знаходзіўся ў пераемнай сувязі з іх дэмакратычнай спадчынай; азначаў як падобнае, так і адрознае, своеасаблівае ў параўнанні з папярэднім вопытам. І гэта заканамерна: Купала быў прадстаўніком хаця і блізкай, але ўсё ж іншай нацыянальнай літаратуры, жыў і тварыў у іншую эпоху, глядзеў на жыццё іншымі вачыма.

Перш за ўсё ў творчасці Купалы адбывалася далейшая дэмакратызацыя вобраза паэта і паэзіі, самой прыроды паэтычнага натхнення. Муза — сімвал высокага мастацтва,— шматвяковая гісторыя якой пакінула такі глыбокі след у еўрапейскай літаратуры, не ўвайшла ў Купалаў паэтычны лексікон, не закранула яго паэтыкі. Аналагамі музы з'явіліся ліра, жалейка, гуслі і песня, якая набыла шырокі абагульнены сэнс, увабрала ў сябе характэрныя нацыянальныя асаблівасці паэзіі.

Вобраз песні стаў адным з галоўных герояў Купалы, яго голасам, яго лірычным «я», маральным і эстэтычным крытэрыем. У гэтым вобразе ён увасабляе сваё паэтычнае крэда, глыбокі дэмакратызм сваёй творчасці, яе псіхалагічную і духоўную роднасць з народам.

Песня ў мастацкім уяўленні Купалы — найдаражэйшы нацыянальны духоўны набытак, непасрэдная форма выяўлення самасвядомасці і сумлення народа. Яна сумная, пакутная, загнаная, але свабодная, незалежная і, як воля, магутная. Гэта песня змагарка. Яна звініць, як звон, грыміць, як пярун. Усімі гэтымі рысамі яна падобная да пакутнай «музы помсты і смутку» Някрасава, «прачыстай і святой музы» — заступніцы народа Шаўчэнкі, якія непадобныя да велічных антычных багінь, набліжаныя да народнай самасвядомасці, родняцца з вобразамі ліры, песні, думы.

І паэт у творчасці Купалы — не служыцель муз, не жрэц, не богаабраннік, а пясняр, адухоўлены ідэяй служэння народу. Ён жыве ў глушы, у беднасці, церпіць «за крыўды ўсе», пакутуе за ўсіх абяздоленых, перажывае іх боль як сваё ўласнае гора.

Паэт — чалавек крыштальнай маральнай чысціні, бескарыслівы, праўдзівы; ён не гоніцца за славай і багаццем:

Песня паэту усё тут багацце,—
Цешыцца, плача ў песні з народам.

*(«Першыя песні»)*

Аднак лёс яго трагічны. Ён не зразуметы народам. Гэты матыў трагізму ўзаемаадносін паэта і народа прысутнічае ў першай кнізе «Жалейка». Пясняр праходзіць свой цярністы шлях пошуку паразумення і прызнання. Ён ідзе да блізкіх яму людзей са сваім словам і, не знаходзячы падтрымкі, пакутуе ў адзіноцтве:

Дарэмна прывету чакаю,
Дарэмна вітаю, пяю.

Душа мне і шэпча, і плача:
Адзін ты, адзін, небарача!

*(«Адзін»)*

Боль, роспач і безнадзейнасць ахопліваюць яго пакутуючую душу ад усведамлення трагічнасці свайго лёсу:

Дзе я ні кінуся, з песняй ні вылету,—
Выхаду, сцежкі няма...
Лёдам гасцінец мой выбіты, выліты,—
Лёд — як магіла сама.

*(«Легла на сэрцы гора нядольнае...»)*

І ўсё ж песняра не пакідае надзея на лепшае: калі не людзі, то, можа, хоць прырода адклікнецца на яго песню, «а можа, і людзі не пагардзяць ёй?».

Вобраз песняра хаця і набывае напачатку ў творчасці Купалы асобныя рамантычныя рысы, усё ж ён не надзяляецца цудадзейнай сілай, не абагаўляецца, а паўстае ў сваім рэальным абліччы чалавека з народа.

У Пушкіна лірычнае «я» паэта размежавана на звычайнае, чалавечае і незвычайнае, цудоўнае. У час творчасці, калі «божественный глагол» дакранаецца да чулага слыху паэта, душа яго страпянецца, як абуджаны арол, калі ж Апалон не патрабуе, душа паэтава спіць, і тады сярод людзей нікчэмных свету ён самы нікчэмны.

У Купалавага паэта адухаўленне ад народа, з якім ён падзяляе агульны лёс. Духоўнае яднанне з ім, абвостранае пачуццё да яго долі — вось што дае яму сілу жыць і тварыць для людзей.

Аднак паступова вобраз паэта рамантычна ўзвышаецца, набывае новыя незвычайныя рысы. Лірычнае «я» песняра становіцца антынамічным, раздвоеным у сваёй цэласнасці, выступае як адзінства зусім процілеглых пачаткаў.

Паэт самы абяздолены і самы ўладарны сярод людзей. Служэнне і ўладарнасць — гэтыя дзве іпастасі паяднаны ў Купалавым рамантычным светаадчуванні, у яго поглядзе на прызначэнне і сутнасць паэзіі:

Пясняр — слуга слугі усякай,
Пясняр — і цар усіх царэй!

*(«Песняру-беларусу»)*

Гэты ж матыў паўтараецца і ў вершы «Гусляр»:

Ты — слуга і цар,
Ты — дудар-званар...

Яшчэ раз ён узнікае ў паэме «На куццю». Тут гусляр — трэці ганец князя — надзелены зноў такімі ж процілеглымі, амбівалентнымі ўласцівасцямі. Ён увасабляе непадуладнасць і залежнасць, несвабоду, слабасць і дужасць, маладосць і старасць, уласцівую вечнасці, самому жыццю:

А трэці быў і раб і цар,
І слаб і дуж ва ўсякім дзеле;
Як вечнасць, молад быў і стар;
Меў гуслі — на грудзях віселі.

У далейшым вобраз паэта ў Купалы паўстае ў абліччы народнага трыбуна, вестуна, будзіцеля, прарока. Яго постаць незвычайная, рамантызаваная і разам з тым звычайная, духоўна зродненая з простым людам. Ён нясе свайму народу:

Думак дар, сэрца жар,—
Вольных, звонкіх песень чар.

*(«Я нясу вам дар...»)*

Ужо тут адчуваецца прарочае прызванне паэта-прадракальніка, здольнага стварыць песню-паходню будучыні, закліканага даць народу «з песень дар», «дум вялікіх чар», паказаць яму «к сонцу зорны шлях».

Тэма паэта-прарока адгукнулася ў многіх славянскіх літаратурах. Да гэтай тэмы звярталіся дзекабрысты Глінка, Кюхельбекер, пазней яна ўвайшла ў паэзію Пушкіна, Лермантава, Баратынскага, Някрасава, Пляшчэева; своеасабліва адбілася ў творчасці Шаўчэнкі, Ю. Славацкага, П. Негаша і іншых паэтаў. Беларуская паэзія ўступіла ў дыялог з гэтай вялікай традыцыяй у творчасці Янкі Купалы значна пазней, толькі ў пачатку XX стагоддзя, прадоўжыла яе ў новых гістарычных умовах і па-новаму.

Аднак тэма прарока заставалася ў гэты час актуальнай не толькі для беларускай паэзіі. У канцы XIX — пачатку XX стагоддзя яна працягвала жыць у творчасці многіх паэтаў: І. Франка, Г. Тукая, А. Туманяна, С. Надсана, А. Белага. Па-свойму праявілася і ў творчасці У. Маякоўскага — у вобразе паэта-вестуна, прадказальніка будучыні, гатовага выйсці на «Лобнае месца», каб пазбавіць свет ад жахаў і нягод мінулага. Да гэтай тэмы звяртаўся і С. Ясенін. У 1912 годзе ён прызнаваўся Г. Панфілаву: «Хачу пісаць «Прарока», у якім буду ганьбіць сляпы, увязнуты ў заганах натоўп...».

Руская паэтычная традыцыя паэта-прарока выступала ў складаным узаемадзеянні з еўрапейскім мастацкім вопытам і ўяўляла сабою дыялог розных падыходаў, розных мастацкіх увасабленняў і адкрыццяў, абумоўленых зменамі ў грамадскай і эстэтычнай свядомасці. Важна ўлічваць шматварыянтнасць гэтай традыцыі і альтэрнатыўнасць яе ўспрымання ў розных літаратурах, тое, як яна трансфармавалася на нацыянальнай глебе, чым узбагацілася, якія яе элементы ўвайшлі ў новы мастацкі сінтэз.

Рух традыцыі паэта-прарока, яе дынамічнасць, яе мастацкае ідэйна-эмацыянальнае напаўненне і вытлумачэнне ў нацыянальных літаратурах нельга аддзяліць ад таго сапраўды наватарскага, што было адкрыта Пушкіным і Лермантавым на гэтым шляху. Творчасць Янкі Купалы знаходзіцца ў рэчышчы гэтай вялікай традыцыі. Даследчыкі справядліва бачаць непасрэдную сувязь яго верша «Прарок» з аднайменнымі творамі Пушкіна і Лермантава. Тут заўважаюцца прамыя лініі пераемнасці, блізкія аналогіі, падабенства. Аднак тыпалагічныя супастаўленні нярэдка носяць вельмі агульны, сумарны характар і ад гэтага шмат страчваюць. Можна прачытаць, напрыклад, што «у Купалы, як і ў Пушкіна, прарок — пасланец святла і праўды, носьбіт свяшчэннага агню». У Пушкіна і Купалы «ідэнтычнае асэнсаванне... ролі паэта ў грамадстве», «Я. Купала, як і М. Ю. Лермантаў, лічыць, што паэт надзелены велізарным паўнамоцтвам, ад яго залежыць сацыяльнае, маральнае, духоўнае жыццё народа...».

Пры такой метадалогіі параўнанне знаходзіцца на ўзроўні абстрактнага, агульнага, за ім не бачыцца асаблівае, адметнае, індывідуальнае. Імкненне сцвердзіць толькі падобнае, аналагічнае, ідэнтычнае прыводзіць да уніфікацыі розных, неаднолькавых, своеасаблівых мастацкіх з'яў. Не прымаецца пад увагу спосаб быцця пушкінскай традыцыі ў іншанацыянальнай літаратуры, тое, што яна ўспрымаецца пісьменнікам хоць і блізкай, але ўсё ж іншай рэгіянальнай і нацыянальнай культуры.

Купалаў «Прарок» — не адбітак, не рэха пушкінскага або лермантаўскага голасу, не прамы іх працяг, а апасродкаваны далейшым развіццём паэзіі мастацкі вобраз, які займае сваё адметнае, непаўторнае месца ў агульнай тыпалогіі іншых вобразаў паэта-прарока.

У Пушкіна прарок валодае звышнатуральнымі ўласцівасцямі, выключнай здольнасцю: «Глаголом жечь сердца людей». Гэты цудоў-

ны дар шасцікрылага Серафіма дае яму магчымасць тварыць, адкрываць багацце свету, адклікацца на ўсе шматстайныя праявы жыцця. Лермантаўскае «ўсёведанне» прарока таксама ад Бога — «вечнага суддзі». Нават у Някрасава прарок усё яшчэ пасланец Бога:

Его послал бог Гнева и Печали
Царям земли напомнить о Христе.

У Лермантава прарок абвяшчае «любві і праўды чыстыя вучэнні», у Купалы ён ідзе «з навукай новаю» да абяздоленых людзей «зямлі забранай», нясе ў сабе «вялікіх праўд святы агонь», такі дзіўны жар душы, такую яе палымянасць,

Што свет магла б сваім пажарам
Абвіць і к сонцу ўваскрасіць.

Рамантычная місія прарока ў Купалы выяўляе высокія грамадскія, патрыятычныя, асветніцкія імкненні асобы. Прароку адводзіцца роля будзіцеля, вяшчальніка будучыні, духоўнага правадыра народа, яго слугі і абаронцы. Ён кліча людзей з рабства на волю, абуджае іх свядомасць, пачуццё нацыянальнай і гістарычнай годнасці. Яго ідэал — свабода народа.

Прарок Лермантава — пакутуючы паэт, асуджаны на адзіноцтва, да яго адносяцца з пагардай, ад яго адвярнуліся блізкія, грамадства, яго гоняць, ён вымушаны хавацца ў пустыні.

І ў Купалавага прарока трагічны лёс. Яго не могуць зразумець людзі, да якіх ён ідзе, якім нясе святло. Аднак тут зусім іншы паварот тэмы, іншая логіка яе развіцця. Трагізм узаемаадносін паміж прарокам — выразнікам вышэйшай духоўнасці — і асяроддзем захоўваецца, але характар канфлікту прынцыпова адрозніваецца, набывае новую мэтанакіраванасць; актуалізуецца і вылучаецца на першы план ідэя нацыянальнага адраджэння, паэт становіцца яго прарокам. І тут бачыцца прамая сувязь Купалавага «Прарока» з польскай рамантычнай традыцыяй, якая выпрацавала свой погляд на грамадзянскае прызначэнне мастацтва і дзе ідэя паэта — духоўнага кіраўніка народа, прарока, вешчуна — знайшла сваё арыгінальнае ўвасабленне ў творчасці А. Міцкевіча, Ю. Славацкага і іншых аўтараў на аснове нацыянальнага адраджэння. І асабліва блізка ідэя Купалавага прарока суадносіцца з шаўчэнкаўскай ідэяй прарока — носьбіта «святой праўды». У Купалы і ў Шаўчэнкі па-рознаму раскрыты падобны трагедыйны канфлікт паміж прарокам — ідэолагам адраджэння і несвядомай масай, якая вышэй за ўсё ставіць карыслівасць. Асуджэнне рабскай пакорлівасці, адказнасць народа за сваю ўласную долю, «нацыянальная самакрытыка» — усё гэта набліжае Купалу да шаўчэнкаўскай дэмакратычнай традыцыі. І не толькі ў гэтым вершы. Галоўны матыў «Прарока», яго крытычны, грамадзянска-патрыятычны пафас у абодвух паэтаў пераклікаецца з іншымі іх творамі, дзе таксама гучаць заклікі да народа духоўна абудзіцца ад векавога сну, пазбавіцца ад пасіўнасці, пакорлівасці і іншых рысаў рабскай псіхалогіі, якія прыніжаюць нацыянальную і чалавечую годнасць народа і з'яўляюцца вялікай перашкодай на шляху яго вызвалення.

Р. Бярозкін бачыць у «Прароку» Купалы «відавочны «перабор», «крызісную з'яву», «гістарычна зжытую калізію»: «адзіна відушчы, горды і адзінокі прарок-абраннік — і загрузлая ў «нізкіх» практычных турботах, не з'ядналая з агульнай ідэяй сялянская безыменная маса» (Рыгор Бярозкін. «Звенні».— Мн., 1976).

І сапраўды, ці не спазніўся Купала? Што гэта: запозненая, састарэлая «абстрактна інтэрпрэтаваная рамантычная канцэпцыя», ужо запозненае мінулае?

Думаецца, аўтар трохі недаацэньвае рэальны гістарычны змест

гэтай трагічнай калізіі. Яна была адлюстраваннем не запозненай абстрактнай ідэі, а выражала рэальны жыццёвы канфлікт.

«Вечная» тэма паэта-прарока атрымала ў Купалы арыгінальнае мастацкае ўвасабленне. Яна ўвабрала ў сябе істотныя адзнакі нацыянальна-гістарычнага вопыту, драматызм народнага жыцця эпохі адраджэння. Купала адрадзіў гэту тэму, даў ёй новае жыццё, развіў яе ў адпаведнасці з задачамі свайго часу. Вобраз паэта-прарока выяўляў складаныя духоўныя пошукі Купалы, ён засведчыў, што прароцкае прызванне паэта, асветленае вялікай сусветнай традыцыяй, захоўвае сваю жывую надзённасць.

Вялікія мастацкія творы не ствараюцца пад уражаннем ад прачытанага, яны ідуць ад душы творцы, нараджаюцца самім жыццём, адкрываюцца ў працэсе глыбокага мастацкага спасціжэння. «Прарок» Купалы — менавіта такі твор. У ім ён увасобіў усю сілу свайго мяцежнага духу, сваёй роспачы і сваёй веры. І не ў адным гэтым вершы. Тэма прароцкага прызвання своеасабліва адгукнулася і ў іншых яго творах. Яшчэ раней яна прагучала ў вершы «Калі пачнуць». Характэрна, што і тут прароцтва не абагаўляецца. З'яўленне прарокаў тлумачыцца не воляй божай, а зямнымі, канкрэтна-гістарычнымі ўмовамі і патрэбнасцямі жыцця:

Калі прыгнечены няпраўдай
Які знябудзецца народ,—
Тады з'яўляюцца прарокі
І ўсенародны клічуць сход...

Як іншабыццё гэтай жа тэмы, асветленай народнай традыцыяй, можна разглядаць і верш «Забытая скрыпка», напісаны ў 1909 годзе. Доўга ляжала скрыпка ў вясковым жыцці, пакуль не знайшоў яе падарожны пясняр. І вось яна ажыла, загаласілі яе струны. Аб чым жа спявае пясняр? Ён хоча разудзіць тых, хто яшчэ спіць, кліча іх да новага жыцця:

Я пакажу ўсе вам чары —
Чары ўсе неба, зямлі,—
Шчасця другога пажары.
Дзе б вы сагрэцца маглі.
Праўду ў лад новы настрою,
Новыя песні злажу...
Гэй жа, за мною, са мною!
К сонейку шлях пакажу!..

Але дарэмна: тыя, хто слухаў песняра, не адгукнуліся. Музыка, што сілай сваёй камень бы зрушыць змагла, не кранула сэрцы вясковых людзей:

Спеў пясняр. Глянуў, угледзеў:
Хата пустая была...

«Забытая скрыпка» — гэта, па сутнасці, паэтычны аналаг «Прарока». Тут той жа лейтматыў, тая ж трагічная калізія: захоплены ідэяй нацыянальнага адраджэння герой і цёмная, несвядомая сялянская маса. І толькі ў паэме «На папасе» гэтая супярэчнасць перамагаецца. Падарожныя пачынаюць прыхільна ставіцца да таго, пра што спявае ім Незнаёмы пясняр, у іх на вуснах словы яго песні пра Лявона. Незнаёмы ў драме «Раскіданае гняздо» — яшчэ адзін аналаг прарока-будзіцеля. Ён ідзе да людзей з той жа мэтай — разбудзіць іх; кліча іх і вядзе за сабой усіх, хто пайшоў за ім, «На вялікі сход! Па Бацькаўшчыну!».

Пасля Кастрычніка, у 1919 годзе, Купала яшчэ раз звярнуўся да тэмы прарока. Праўда, цяпер місія прарока і місія песняра раскрываліся ў новым асвятленні, хоць і суаднесеныя, яны былі размежава-

ны. Прарок набывае выразныя рысы палітычнага дзеяча, нацыянальнага важака, духоўнага правадыра народа, заклікананага «зняць з Бацькаўшчыны путы», сабраць Беларусь у адну сям'ю. Пясняр выступаў у ролі асветніка, будзіцеля, змагара. Яго прызваннем было — дапамагчы народу ўсвядоміць сваю сілу, сваю годнасць, свой нацыянальны ідэал:

Паўстань з народу нашага, пясняр,
Былых і будучых вякоў баян,
І ў бурны кліч, як буры ўдар,
З віхрамі загудзі пад звон кайдан!
Гудзі над Беларусяй з краю ў край,
У сэрцах спячых распалі пажар,
Над курганамі перуном зайграй!
Збудзіць нябожчыкаў паўстань, пясняр!

Сцвярджэнне свабоды нацыянальна-духоўнага адраджэння народа, яго роўнасці і чалавечай годнасці вызначае змест не толькі «Прарока». Гэта той фокус, дзе зыходзяцца, засяроджваюцца ўсе духоўныя грані, усе эстэтычныя вымярэнні і параметры Купалавай паэзіі; гэта «генеральная дума» паэта, мера яго дэмакратызму і гуманізму. І не толькі разуменне паэзіі, яе грамадскай і эстэтычнай каштоўнасці, але і сама ідэя свабоды творчасці раскрываецца шырока ва ўсёй сваёй сутнасці ў святле гэтай праблемы.

Янка Купала абвяшчае ідэал свабоды, незалежнасці, непадкупнасці сваёй песні, адданай народу, Бацькаўшчыне, найдаражэйшай грамадскай, маральнай і эстэтычнай каштоўнасцю. Песня паэта не мірыцца з прымусам, не ведае «службы лакейскай»:

Воля жывая ёй вечнай зарукай,
Волі нязмернай служба адна.

*(«Песняй толькі»)*

Купала асуджае адступніцтва ў паэзіі, выкрывае тых, хто адрокся ад сваёй свабоды, прадаўся за грошы, здрадзіў народу. Лермантаўскі матыў паэта-адступніка, які страціў сваё прызванне,

На злато променяв ту власть, которой свет
Внимал в немом благоговенье,—

знаходзіць свой водгук і далейшы працяг у творчасці Купалы:

Брат паэт! І ты тут, як быдлё, у ланцугах...
Дзе свабодны твой дух, што не рвеш ты кайдан?
Божа! Золата йскрыцца ў кастлявых руках...
Песняй роднай таргуе, як коньмі цыган.

*(«У бяссонную ноч»)*

Купала абараняе свой ідэал свабоды, сваю незалежнасць не толькі ад улады, ад паноў, якія «знячулі ў сытасці, віне» і якіх «не разжаліш праўды словам», але і ад рабскага аслепленага натоўпу. Ад яго таксама дарэмна чакаць «жаданых ласк, сардэчнага цяпла». Ён не зможа ацаніць «парывы чыстыя таемных душ», а толькі стопча іх бязлітасна. Навошта вымалiваць паэту, як жабраку, тое, што ён заслужыў сваім жыццём. У яго адзіны шлях — адстойваць сваю незалежнасць, заставацца верным свайму ідэалу, не адракацца ад свабоды, не прыніжаць «духу вольнага».

Літаратуразнаўства даўно звярнула ўвагу на рамантычную калізію «паэт і «чэрнь», «паэт і натоўп» у творчасці Купалы. Прысутнасць гэтай тэмы даследчыкі звязваюць перш за ўсё з пушкінскай традыцыяй, не заўсёды, аднак, выяўляючы своеасаблівы характар яе творчага ўвасаблення. Прамую залежнасць ад Пушкіна бачаць

найперш у вершы «Блізкім і далёкім». Тут заўважаюць відавочны ўплыў Пушкіна, нават тэкстуальныя спасылкі на яго вершы «Чэрнь», «Паэту», «Помнік», «...Сонца не вашай чэрні раскрасці!», «Сам я суддзёю!», «Я не памру ўвесь, як не мруць ветры...».

«Купала, на думку Р. Бярозкіна, размеркаваў радкі ў такім парадку, што яны міжволі акрэслілі не толькі храналагічную, але і змястоўную паслядоўнасць, з якой сам Пушкін расставіў акцэнты ў гэтым тэматычна завершаным цыкле вершаў пра паэзію і паэта».

Але ці абавязкова Купалу было выбіраць ажно з трох вершаў гэтыя «шырокавядомыя пушкінскія формулы»? Сапраўды, асацыяцыі з Пушкіным тут відавочныя. Ключавыя словы-вобразы «чэрнь», «сам я суддзёю...», «увесь я не памру» — ствараюць пэўнае семантычнае поле, блізкае пушкінскай традыцыі. Відавочна, што гэтыя вобразныя ўяўленні жылі ў паэтычнай памяці Купалы, але інакш, як выяўленне іншай мастацкай сістэмы. Абапіраючыся на Пушкіна, Купала застаецца самім сабою, паэтам свайго арыгінальнага непаўторнага светаўспрымання і светабачання. Галоўнае ў вершы «Блізкім і далёкім» — грамадзянскі пафас Купалы, яго караючая іронія, якая даходзіць аж да сарказму. На ўсю моц гучыць тут выкрывальнае слова паэта. Купала абараняе ад цемратворцаў «блізкіх і далёкіх» сваю незалежнасць, сваю свабоду. Ён прызнае над сабою толькі свой суд і суд гісторыі; гэта значыць, суд народа:

Сам я суддзёю! Й прышлых лет сотні
Выдадуць суд свой правы, не кніжны.

Гэты ж матыў паўтараецца з новай сілай і ў вершы «Слугам алтарным»:

І маіх песень судзіць сказ
Не вам, не вам, хрыстапрадаўцы!

Народ — вышэйшы суддзя, і толькі ён можа па-сапраўднаму ацаніць песняра, і толькі яму аднаму ён аддае сваё натхненне:

Не папе рымскаму служу
І не «свяцейшаму» сіноду!
Я аддаю сваю душу
Свайму няшчаснаму народу!

Пушкінскае: «Нет, весь я не умру — душа в заветной лире мой прах переживет...» і Купалава: «Я не памру ўвесь, як мруць ветры...» маюць неаднолькавае значэнне, выклікаюць розныя асацыяцыі. У Пушкіна бессмяротнасць паэта звязана з ідэяй нерукатворнага помніка, у Купалы — яна асацыіруецца з ветрам, з прыроднай стыхіяй і, відаць, мае народныя вытокі. Паводле старадаўняй славянскай міфалогіі стыхія ветру азначае адухаўленне, свабодную, абнаўляючую творчую сілу, процілеглую маральнай смерці.

І ўсё ж галоўная думка тут — адносіны да паэтычнай памяці, вера ў неўміручасць паэта, усяго таго, што ён стварае для народа. І гэта асноўнае, што збліжае Купалу з Пушкіным і не толькі з ім.

Адносіны да паэтычнай памяці, эстэтычны запавет нашчадкам, духоўная бессмяротнасць паэтаў у народнай свядомасці — адна з самых старадаўніх тэм паэзіі. Яна бярэ свой пачатак у антычнасці. Упершыню ідэя помніка ўзнікае ў творчасці Гарацыя. У рускай літаратуры яна знаходзіць свой працяг у творчасці Дзяржавіна, Пушкіна, Някрасава.

Пераасэнсоўваючы ідэю гарацыеўскага «Помніка» аб паэтычнай бессмяротнасці, Дзяржавін бачыць сваю заслугу ў тым, што ён зрабіў для грамадства, для рускай дзяржаўнасці, а Пушкін ідзе далей: ён звязвае сваю паэтычную славу з дзейнасцю на карысць народу, з ідэалам свабоды.

Працягваючы традыцыю Пушкіна, Някрасаў усведамляе сябе змагаром за народнае шчасце, ставіць вышэй за ўсё сваю службу народу:

Я лиру посвятил народу своему.
Быть может, я умру неведомый ему,
Но я ему служил — и сердцем я спокоен...

І ўсё ж у яго закрадваецца пачуццё неспакою за лёс сваіх песень. Але голас маці гаворыць яму не баяцца горкага забыцця:

Уступит свету мрак упрямый,
Услышишь песенку свою
Над Волгой, над Окой, над Камой...

Шаўчэнку таксама непакоіць будучая доля сваёй песні-думы:

Каму ж яе пакажу я
І хто тую мову
Прывітае, угадае
Вялікае слова?

Аднак яго не пакідае вера ў дзейснасць свайго вялікага слова, у яго будучыню.

У Купалы гэтая трывога за лёс сваіх песень, за іх будучыню, за іх жыццё ў памяці нашчадкаў набывае асабліва драматычнае гучанне. Самае дарагое, самае запаветнае паэтава жаданне — каб яго слова дайшло да народа, было ўспрынята і зразумета ім:

Каб мой люд маю песню запеў
І пазнаў, аб чым песня мая.

*(«Чаго б я хацеў...»)*

І ён верыць, што гэтае жаданне збудзецца: народ не забудзе яго песні, прыйдзе час, «і новыя людзі будуць пачатую думку снаваць».

Шлях паэта з народа цяжкі, цярністы, але гэтым шляхам ён павінен прайці да канца, і яго задача — будзіць «сыноў сваёй зямлі», і толькі тады, калі прачнецца «мільённы прыспаны народ», пясняр заслужыць прызнанне і славу:

Ты ў сваім вянку цярністым
Убачыш міртавы вянок...

*(«Песняру-беларусу»)*

Ужо напачатку ў Купалы ўзнікае вобраз народнай памяці, якая здольная ўвекавечыць песню:

Песня жыць будзе, у магіле не ўтоне,
Блага ці добра — жыць будзе навекі!

*(«Першыя песні»)*

У вершы «Лірнік вясковы», напісаным да 50-годдзя з дня смерці У. Сыракомлі, зноў гучыць тэма вечнасці песні ў памяці народнай:

Час патрапіць усё пакрышыць, адалеці,
Путы нават змарнеюць у плесні,—
Покі ж будзе душа хоць адна жыць на свеце,
Будуць жыць і лірнікаў песні...

З гэтых жа пазіцый Купала ацэньвае і паэтычны подзвіг Шаўчэнкі, песняра, які абудзіў духоўныя сілы народа, навучыў яго любіць свабоду, паклікаў на змаганне, і гэтым

Здабыў сабе славу не з мармурнай пліты,
А з слоў, што не крыша ні век, ні тапор.

*(«Памяці Т. Шаўчэнкі»)*

Некаторыя даследчыкі лічаць, што верш Купалы «За ўсё» стаіць у шэрагу твораў тыпу гарацыеўскага і пушкінскага «Помнікаў». Аднак своеасаблівых адзнак «Помніка» гэты верш не мае. У цэнтры ўвагі Пушкіна — пасмяротная слава паэта, яго слова звернута тут да памяці нашчадкаў, а ў вершы «За ўсё» Купалы яно скіравана да сучаснікаў. Розніца відавочная. Але ёсць тут і пэўная адпаведнасць. Збліжае гэтыя творы высокі прамоўніцкі стыль, і галоўнае — абгрунтаванне сваіх заслуг, права паэта сцвердзіць велізарную каштоўнасць свайго мастакоўскага подзвігу на карысць народа. «Помнік» завяршае пройдзены Пушкіным шлях, верш Купалы «За ўсё» ўзнікае на рубяжы дзвюх эпох, калі адбываецца пераацэнка духоўных каштоўнасцей, калі ёсць неабходнасць азірнуцца назад, паглядзець на сваю творчасць, ацаніць зробленае і на поўны голас сказаць:

Я адплаціў народу,
Чым моц мая магла:
Зваў з путаў на свабоду,
Зваў з цемры да святла.
Для бацькаўшчыны беднай,
Для ўпаўшых яе сіл
Складаў я гімн пабедны
Сярод крыжоў, магіл.

У гэтых словах — паэтычнае крэда Янкі Купалы, мера яго грамадзянскага служэння, поўнай самааддачы і самаадданасці народу.

Глыбокая любоў да народа, да бацькаўшчыны, служэнне ідэалам свабоды і дэмакратыі адухаўлялі грамадска-эстэтычныя пошукі Купалы ў літаратуры. Яго погляды на мастацтва, на прызначэнне паэзіі і ролю паэта грунтаваліся на прынцыпах народнасці, грамадзянскасці і гуманізму. Гэтыя прынцыпы вызначалі сутнасць Купалавай эстэтыкі, яе асаблівасці і галоўныя лініі яе пераемнасці з рускай і ўсёй славянскай мастацкай традыцыяй.

Янка Купала ўвайшоў у літаратуру як вялікі народны і нацыянальны паэт, як пясняр і прарок беларускага нацыянальнага адраджэння.



ЛЮДМІЛА ГЕРАСІМЕНАК

# ПЕРАКЛАДЫ ВЕРША «А ХТО ТАМ ІДЗЕ?»

Рэнесанс нацыянальнай самасвядомасці, працэсы рэабілітацыі кожнай нацыянальнай літаратуры, усведамленне яе нацыянальна-гістарычнай своеасаблівасці надаюць асаблівы імпульс развіццю нацыянальнай ідэі, актывізуюць гістарычную памяць народа, садзейнічаюць росквіту культурнай спадчыны і ўзаемасувязяў народаў.

Стварэнне сапраўднай, а не скажонай карціны таго, як, з якімі набыткамі і стратамі адбываўся абмен каштоўнасцямі паміж беларускай і рускай літаратурамі, можна прасачыць на прыкладах перакладчыцкай дзейнасці.

Трэба зазначыць, што ў перыяд сталінскага дыктату рускія перакладчыкі 20—30-х гадоў выбіралі з беларускай літаратуры часцей тое, што адпавядала ідэалагічным пастулатам часу. Так, адна з першых анталогій беларускай паэзіі на рускай мове — «Сборник белорусской поэзии» (М.-Л., 1930) — была складзена з твораў, якія ўслаўлялі «перамаганосны» шлях «няшчаснага беларускага народа» да сацыялістычных вяршыняў. Праўда, аўтар прадмовы прафесар М. Піятуховіч як бы вінавата зазначае, што ў паэзіі Янкі Купалы «не заўсёды з аднолькавай бадзёрасцю гучыць гэты пераможны гімн», што часамі тут чуюцца мелодыі сумныя, і тлумачыцца гэта «перавагаю вобразаў натуралістычных і аграрных». Згодна з такім падыходам прадстаўніцтва Янкі Купалы ў «адзінай савецкай шматнацыянальнай літаратуры» было няпоўным: перакладалі ў 30-я гады тыя яго творы, што найбольш адпавядалі існуючым стандартам, а сам паэт з яго складанай творчай эвалюцыяй заставаўся мала вядомым рускаму чытачу.

Акрамя таго, па тэме «Янка Купала ў рускіх перакладах» наогул ёсць нямала недаказанага і нават скажонага. Справа ў тым, што старыя перакладчыцкія школы віталі перш за ўсё рускамоўныя пераклады паэта, што нібыта адзіна дазвалялі яму ўваходзіць у асяродак літаратур Еўропы і СССР. Прамыя ж кантакты з іншымі славянскімі літаратурамі разглядаліся як нешта выпадковае, што парушала мона-

цэнтрызм шматнацыянальнай савецкай літаратуры. Нават яўныя недахопы ў перакладах на рускую мову твораў Янкі Купалы не заўважаліся, каб падкрэсліць сам факт выхаду беларускага паэта на ўсесаюзную арэну.

Менавіта з гэтай пазіцыі купалазнаўства і асэнсоўвала ідэйна-мастацкія вынікі рускіх перакладаў купалаўскай паэзіі, зробленыя Міхаілам Ісакоўскім (Адамович В. «Михаил Исаковский — переводчик белорусских поэтов // «Дружба народов», 1957, № 3; Масик Вл. «Содружество талантов» // «Дружба народов», 1965, № 11 і інш.).

Дарэчы, даволі патрабавальна ацэньваючы пераклады В. Брусава, А. Пракоф'ева, М. Святлова, Э. Багрыцкага, беларускі даследчык Ц. Ліякумовіч, выступаючы ў калектыўным зборніку «Мастерство перевода» (М. 1981), безагаворачна аддае перавагу перакладам М. Ісакоўскага, якія, з яго пункту гледжання, адзначаны «пранікненнем у дух арыгінала, вылучаюцца строгасцю формы і інтанацыйным багаццем».

А. Яскевіч настойвае на больш асцярожным, узважаным падыходзе да гэтага пытання і пераканаўча раскрывае прычыны няўдач, якія спасцігаюць рускіх перакладчыкаў у працы над ранняй паэзіяй Янкі Купалы, у тым ліку і М. Ісакоўскага, у чыіх перакладах народная мова толькі вылучана з глыбаў моўнай руды, лучыцца з надзвычай ёмістым акцэнтна-танічным вершам («Художественный перевод», М. 1986). У тым жа зборніку гэтую думку падзяляюць таксама Г. Трэстман і К. Хадзееў: «Янку Купалу пашанцавала з перакладам на рускую яшчэ меней, чым Тарасу Шаўчэнку».

Ёсць яшчэ адзін аспект гэтай праблемы. Вядома, што ва ўсіх зборніках, якія прадстаўляюць паэзію Янкі Купалы рускаму чытачу, верш «А хто там ідзе?» нязменна прыводзіцца ў перакладзе Максіма Горкага. Гэтым самым як бы падкрэсліваецца, што яго можна лічыць адным з лепшых, узорным. Між тым зусім відавочна, што пераклад Максіма Горкага, які мае бясспрэчнае гісторыка-літаратурнае і палітычнае значэнне як факт першага апублікавання беларускага нацыянальнага паэта, да паэзіі, па сутнасці, мае малое дачыненне. Гэта разумеў і М. Ісакоўскі, які стварыў сваю перакладчыцкую версію знакамітага твора. Лепш зразумець дадатнае і адмоўнае ў перакладах М. Ісакоўскага дапаможа супастаўленне яго перакладу верша «А хто там ідзе?» з тым, што выканаў Максім Горкі («А хто там ідзе?» на мовах свету. Уклад. В. Рагойшы, Я. Раманоўскай.— Мн., 1983).

Дарэчы, зборнік В. Рагойшы і Я. Раманоўскай унікальны як збор перакладаў верша «А хто там ідзе?» на 82 мовы свету, куды ўвайшлі працы такіх мастакоў слова, як Л. Арагон, М. Рыльскі, Р. Гамзатаў, К. Куліеў, і іншых. Сапраўды, усеагульны інтарэс да гэтага твора абумоўлены прызнаннем яго як магутнага акта сцвярджэння самасвядомасці беларускай нацыі ў рэвалюцыйную эпоху і ўсведамлення наватарства паэтычнай структуры беларускай паэзіі.

Верш быў прызнаны класічным і на I з'ездзе савецкіх пісьменнікаў, а таксама на літаратурных сустрэчах рускіх і беларускіх пісьменнікаў на дэкадзе беларускага мастацтва і літаратуры ў канцы 30-х гадоў.

Яшчэ раз нагадаю, што пераклад твораў Янкі Купалы на рускую мову пачаўся менавіта з верша «А хто там ідзе?», які зрабіў у 1910—1911 гадах Максім Горкі. Пераклад увайшоў у артыкул «О писателях-самоучках», надрукаваны ў 1911 годзе ў часопісе «Современный мир». Вітаючы імклівы рост «молодой литературы белорусов — самого забитого народа в России», рускі пісьменнік звяртае ўвагу на «глубокий смысл этой песни, которая, может быть, на время станет народным гимном белорусов».

Не падлягае параацэнцы сам факт публікацыі твора ў кантэксце

таго лепшага і таленавітага, што, на думку Максіма Горкага, зроблена пісьменнікамі Расіі ў першае дзесяцігоддзе XX стагоддзя. Горкі настойліва скіроўвае грамадскую думку на тое, каб падтрымаць абуджанасць «вялікіх і малых народаў Расіі», у тым ліку і беларусаў. Аднак нельга не заўважыць, што першы пераклад, які ўключаўся ў літаратурна-крытычны артыкул, меў не столькі творчы характар, колькі ілюстрацыйна-азнаямляльнае значэнне. Зусім невыпадкова сам Горкі падкрэсліваў: «Прошу Янку Купалу извинить мне дурной перевод его красноречивой и суровой песни».

Аднак, нягледзячы на магнетызм думкі такога бясспрэчнага аўтарытэту, як Максім Горкі, і яго асабістае прызнанне няякаснага перакладу, гэты пераклад уключаўся ва ўсе зборнікі Янкі Купалы на рускай мове.

Між тым рускія перакладчыкі адчулі, што ў вольным, амаль што празаічным перастварэнні Горкага страчаны такія рысы арыгінала, як непаўторнасць моватворчасці, рытміка-меладычнага ладу, сістэмы вобразаў.

Звярнуўшыся да У. Раждзественскага, М. Брауна, М. Ісакоўскага, якія перакладалі гэты верш на рускую мову (Раждзественскі — у 1929 годзе, Браун — у 1946, Ісакоўскі — у 1950 годзе), У. Содаль («Нёман», 1975, № 12) атрымаў ад іх цікавыя адказы на пытанне, чаму яны перакладалі менавіта гэты верш. Так, Раждзественскі адзначыў, што пераклаў верш Купалы з ліста, не ведаючы яшчэ перакладу Горкага, прызнаючы высокія вартасці арыгінала; Браун падкрэслівае, што жадаў удасканаліць пераклад верша; М. Ісакоўскі, які лічыў гэты твор Купалы высокамастацкім, адказаў, што яго не зусім задавальняў пераклад Горкага. На нашу думку, цікава супаставіць пераклады гэтага твора, зробленыя Горкім і Ісакоўскім.

Каб доказна вызначыць ідэйна-мастацкія вартасці варыянтаў перакладу верша «А хто там ідзе?», варта спыніцца на некаторых асаблівасцях жанравай формы арыгінала, спецыфічнасці вершаскладання, вобразнасці, структуры гэтага твора, якія і забяспечылі разнагалоссе думак, настрояў, пачуццяў, дзякуючы чаму ўвасоблена пранізлівасць трагічнага светаадчування Купалы з-за нацыянальнай абяздоленасці народа і гордая ўпэўненасць у яго немінучым пратэсце супраць страшнага гістарычнага лёсу.

Р. Бярозкін («Звенья». М., 1984) указвае, што ў гэтым творы інтэграваны рысы **балады** з яе цягай да сюжэта і матываў рэфрэна, **гімна** як верша праграмнага палітычнага зместу, насычанага ўрачыстым публіцыстычным пафасам, і **марша** з яго структурай тактавіка, устаноўкай на дэкламацыйнае, рэвалюцыйна-прапагандысцкае выкананне.

Р. Бярозкін глыбока раскрыў складаны полірытмічны план усіх строф купалаўскага твора, прынцып роўнаскладовасці ў радках-пытаннях і радках-адказах, змяшанне памераў, ролю слоўнага і фразавага націску, свабоднай цэзуры, усяго таго, што ў сукупнасці перадае «беспредельность людской «грамады» и авторское переживание этой беспредельности».

В. Рагойша бачыць у верш Купалы падабенства з **харалам** з-за наяўнасці іх харавога пачатку і ўрачыстай мелодыі праслаўлення народа. Такую метажанравую форму верша арганізуе яго своеасаблівая дыялагічная структура, вагомасць паэтычнага ладу, ёмістасць акцэнтна-танічнага верша, блізкага да фальклору па разнастайнасці рытміка-меладычных сродкаў і прыёмаў.

Скіраванасць аўтара на жывы струмень вуснай народнай мовы разам з наўмысна-запаволенай плынню рытма надаюць вершу філасофска-эпічную танальнасць, нараджаюць пачуццё грандыёзнасці, прасторавай працягласці створанай карціны.

У сувязі з гэтым узнікае пытанне, наколькі ўдалы мастацкі пераклад верша і ці магчыма наогул стварыць нешта раўнацэннае, вартае нацыянальнай з'яве.

У купалазнаўстве распаўсюджаны пункт гледжання, згодна з якім горкаўскі варыянт папракаюць у «неподогнанности» пад памер арыгінала, у адступленні ад купалаўскай метрыкі. Але, на наш погляд, больш правамернае меркаванне А. Яскевіча, які даводзіць, што «болей за ўсё стыхія нашай бытавой рэчыўнасці просіцца ў пераклад... белым вершам», калі ёсць магчымасць «увасобіць эпічнасць беларускага арыгінала... падоўжваннем рускага верша на адну-дзве стапы». Гэта і дало магчымасць Горкаму ў безрыфмовай вершатворнай тэхніцы белага верша без асаблівых перакладчыцкіх страт перастварыць верш беларускага паэта.

Так, купалаўская эпічная інтанацыя як бы першародна прысутнічае ў рускім белым вершы, што і надавала твору асаблівы настрой і тон.

М. Ісакоўскі, наадварот, імкнецца зберагчы рытміка-інтанацыйны малюнак верша Янкі Купалы.

Янка Купала:

«А хто там ідзе, а хто там ідзе
У агромністай такой грамадзе?
— Беларусы.

Максім Горкі:

А кто там идет по болотам и лесам
Огромной такою толпой?
— Белорусы.

М. Ісакоўскі:

А кто там идет, а кто там идет
Посреди лесов и гнилых болот?
— Белорусы.

У арыгінале выразна адчуваецца рэгулярная метрычная аснова, роўнаскладовы прынцып у пытаннях і адказах, строгае выкарыстанне канцавых сумежных рыфмаў.

Паэтычны тэкст Янкі Купалы — характэрны ўзор танічнага верша, у якім унутраная структура строга адладжана, а анакрусы неўпарадкаваны: міжнаціскныя інтэрвалы ў першым радку складаюць чатыры ненаціскныя склады. У айчыннай паэтыцы па традыцыі гэты верш называюць акцэнтным. Другі ж радок будуецца ўжо так, што колькасць ненаціскных складоў узрастае да васьмі. Янка Купала шырока выкарыстоўвае рытмічныя варыяцыі праз расцяжэнне складоў і ўвядзенне паўз павышанай працягласці для стварэння эфекту мернага падоўжанага гучання.

Супастаўленне арыгінала з перакладам М. Ісакоўскага пераконвае, што рускі паэт імкнуўся зберагчы «паэтычную графіку» першакрыніцы.

Першы радок, дзякуючы амаль поўнай лексічнай і фанетычнай адэкватнасці беларускаму тэксту, таксама захоўвае форму акцэнтнага верша, прычым з'яўленне ў канчатку слова «идет» гука «т» пасля «ё» пад рэзкім націскам стварае ўражанне больш строгага ўрэгулявання міжнаціскных прамежкаў.

Другі радок, зусім не супадаючы з арыгіналам,— рытмічны паўтор першага (міжнаціскныя паўзы запоўнены таксама чатырма ненаціскнымі складамі). У гэтым выпадку «образцовый мелодист» М. Ісакоўскі адмаўляецца ад рытмічнага перабою, які дазволіў Купалу выкарыстоўваць у другім радку іншы рытмічны ход (не 4, а 8 ненаціскных складоў).

Далейшае параўнанне паэтычных тэкстаў Купалы і Ісакоўскага дазваляе зрабіць выснову пра тое, што беларускі паэт ідзе на ўскладненне верша рознымі рытмічнымі прыёмамі, то скарачаючы між-

націскныя інтэрвалы да 1—3 (як у тактовіку), то расцягваючы да 6 і больш складоў. Дарэчы, такі верш блізкі фальклорнай паэзіі.

М. Ісакоўскі, наадварот, адмаўляецца ад свабоды рытмічных варыяцый і дапускае толькі 4-дольныя анакрусы — выразна абазначаны паўзіраваны рытм, што ўносіць эфект рытмічнай уладкаванасці верша.

Але гэтыя нюансы не парушаюць прынцыпу адпаведнасці арыгіналу ў галоўным: дынамічнай прыдзе верша Янкі Купалы з яго танічнай і рытмічнай гнуткасцю. Усё гэта дае падставу сцвярджаць, што рытміка-інтанацыйная структура перакладу М. Ісакоўскага больш адэкватная першакрыніцы, чым «белы верш» Максіма Горкага. Аднак самае істотнае заключаецца ў тым, што пераклады Горкага і Ісакоўскага не перадаюць асноўны пафас верша, яго ўнутраны сэнс. Страта галоўнага матыву купалаўскага твора пачынаецца ўжо з першай страфы перакладу Максіма Горкага.

Абапіраючыся на агульнапрынятую філасофію таго часу, Горкі перадае карціну «огромной толпы», што ідзе па балотах і лясах. Тым самым перакладчык замацоўвае ў свядомасці людзей існуючы штамп вобраза беларускага народа як славутага жыхара балотаў і лясоў.

Услед за Горкім Ісакоўскі ўключае ў паэтычны малюнак тыя ж лясы і балоты, але пры гэтым пазбаўляе яго сэнсавай ёмістасці, што хоць і слаба, але прысутнічала ў перакладзе Горкага.

Выключыўшы наогул з тэксту словы «огромная толпа», М. Ісакоўскі вывеў тым самым за межы твора галоўнага суб'екта дзеяння — народную грамаду. Дарэчы прывесці тут і няўдалы яго выраз «посреди лесов и гнилых болот», у якім выкарыстоўваецца прыназоўнік **посреди. Посреди** можна знаходзіцца ў стане нерухомасці, змярцвеласці, ісці ж, рухацца магчыма толькі **по, через, сквозь.** Эпітэт **гнілых** толькі ўзмацняе ўражанне пра мёртвую, гіблую прастору.

Такія інтанацыі, безумоўна, не маглі ўзнікнуць у творы беларускага песняра, які смуткаваў аб няшчаснай долі свайго народа, але і прадбачыў яго нацыянальны ўздым. Наўрад ці дапусціў бы паэт у гэтым кантэксце і эпітэт «гнілы»: родная зямля для яго — бацькоўскі край. Тым больш, што Янка Купала вырас у светлым лясным краі і ні разу не выкарыстоўвае ў сваёй паэзіі грэблівых вобразаў.

Зазначым, аднак, што пераклад Горкім слова «грамада» як «толпа» таксама недакладны. У беларускай мове яно мае некалькі значэнняў: «толпа, ватага»; «дореволюционная община, громада, общество, мир». Зразумела, што ў вершы Купалы размова ідзе менавіта пра грамаду, што падкрэсліваецца эпітэтам «агромістая», а не пра натоўп. Звернем увагу на наступныя радкі.

Янка Купала:

А што яны нясуць на худых плячах,
На руках у крыві, на нагах у лапцях?
— Сваю крыўду.

Максім Горкі:

А что они несут на худых плечах,
Что подняли они на худых руках?
— Свою кривду.

М. Ісакоўскі:

А что ж несут они на худых плечах,
на согбенной спине, на истертых руках?
— Свою кривду.

Першая страфа ўзнаўляецца ўсімі перакладчыкамі амаль як калька. Іншае ўражанне пакідаюць пераклады наступнай страфы. Так, у купалаўскім радку — вобраз змучанага («на худых плячах») жабрака-народа («на нагах у лапцях»), асуджанага на цяжкую паднявольную працу («на руках у крыві»). На першы погляд здаецца, што М. Ісакоўскі знайшоў лексічную адпаведнасць арыгіналу. Але выкарыста-

ныя азначэнні пераконваюць у тым, што рускія лексічныя адзінкі па сваёй эмацыянальнай і змястоўнай значнасці не супадаюць з зыходнымі купалаўскімі рэаліямі. Так, словазлучэнні «худыя плечы» і «согбенная спина», па сутнасці, дубліруюць адно аднаго, выяўляючы толькі фізічную немач людзей, а не іх сацыяльную прыніжанасць. Не ўласціва дакладнасць словазлучэнню «на истертых руках», бо прыметнік «истертый» у рускай мове часцей ужываецца са словам «ладони». У гэтым выпадку тут павінен быць ужыты прыназоўнік «в», а не «на».

Здаецца няўдалым таксама варыянт адказу Горкага ў трэцяй страфе «божий свет», які ўносіць у твор не ўласцівае арыгіналу рэлігійнае гучанне. Больш удалае словазлучэнне «свет белый» у М. Ісакоўскага як аналаг тэкставай інфармацыі арыгінала.

Янка Купала:

А куды ж нясуць гэту крыўду ўсю,
А куды ж нясуць на паказ сваю?
— На свет цэлы.

Максім Горкі:

А куда они несут эту кривду всю,
А кому они несут на показ свою?
— На свет божий.

М. Ісакоўскі:

А куда ж они с этой кривдой идут,
А куда ж ее на показ несут?
— На свет белый.

У наступнай страфе Горкі і Ісакоўскі амаль паўтараюць першакрыніцу.

Янка Купала:

А хто гэта іх, не адзін мільён,
Крыўду несць наўчыў, разбудзіў іх сон?
— Бяда, гора.

Максім Горкі:

А кто ж это их — не один миллион —
Кривду несть научил, разбудил их сон?
— Нужда, горе.

М. Ісакоўскі:

А кто ж это их — не один миллион —
Кривду несть научил, разогнал их сон?
— Нужда, горе.

Замена М. Ісакоўскім слова «разбудил» на «разогнал» не зусім удалая, бо першы дзеяслоў абазначае больш актыўнае, мэтанакіраванае дзеянне ў параўнанні з расплывістым паняццем у словазлучэнні «разогнал сон».

Акрамя гэтага, слова «нужда» не ахоплівае ў поўным аб'ёме таго сэнсу, які нясе ў сабе слова «бяда» ў рускай і беларускай мовах. Бяда — гэта і цяжкая пакута, і нястача, няшчасце, гора. Па сваім значэнні слова «нужда» ўсяго толькі сінонім галечы, беднасці, гэта значыць, часткі таго мнагамернага трагічнага стану, які перадаецца словам «бяда». Янка Купала добра разумеў «аб'ёмнасць» слова «бяда», паставіўшы яго ў акцэнтуемую пазіцыю верша. Рускія пераклады некалькі збяднілі змест арыгінала.

Апошняя страфа, якая выводзіць трагічны змест верша на новую, гераічную ступень,— гэта квінтэсенцыя ўсяго твора Купалы. Тут усё пабудавана на ўнутранай антытэзе: сляпыя і глухія захацелі «людзьмі звацца»,— значыць, яны знайшлі свой голас, слых, зрок, гістарычна сталі відушчымі.

Янка Купала:

А чаго ж, чаго захацелася ім,
Пагарджаным век, ім, сляпым, глухім?
— Людзьмі звацца.

Максім Горкі:

А чего ж теперь захотелось им,
Угнетенным века, им, слепым и глухим?
— Людьми зваться.

М. Ісакоўскі:

А чего ж, чего захотелось им,
От ярма векового слепым и глухим?
— Людьми зваться.

У гэтай страфе ў Янкі Купалы ўсё шматзначна, але асаблівую награзку нясе вызначэнне «пагарджаным век». Яно звязваецца з цяжкай доляй беларускага народа — народа-ізгоя. Гэтае паняцце «отторгнутости», «национального изгойства» дакладна суадносіцца з тым асаблівым метавобразам прасторы, што так выразна ўзнаўляецца ўсёй сістэмай выяўленчых сродкаў верша «А хто там ідзе?» (рытмам, рытміка-інтанацыйнай структурай танічнага верша і інш.). Замкнёнае поле раней занядбанага народа як бы расхінаецца да «свету цэлага», у якім сваё пачэснае месца займае раней прыгнечаны народ, прычым заваёўвае яго, падпарадкоўваючыся голасу ўзрослай нацыянальнай свядомасці.

Асэнсоўваючы вынікі параўнальнага вывучэння рускіх перакладаў верша Янкі Купалы, можна заключыць, што эквівалентнага перакладу пакуль што няма, хаця ёсць добрыя знаходкі, удачы.

Вельмі важна, што вопыт перакладаў верша «А хто там ідзе?» не прайшоў бясследна для саміх перакладчыкаў. Стала зразумела, што перакладаць Купалу — нялёгкая праца, і тут не так проста дасягнуць поспехаў. Але добра, што інтарэс да паэзіі Янкі Купалы набывае ўстойлівы характар, які падтрымліваецца ўсё больш моцнымі сувязямі перакладчыкаў з беларускай паэзіяй.



РУМЯНА ЭЎЦІМАВА

# ПРА ДАКАСТРЫЧНІЦКІЯ ПАЭМЫ ЯНКІ КУПАЛЫ

Мэтай даследавання гэтай працы з'яўляецца пытанне пра мастацкую структуру купалаўскіх паэм дакастрычніцкага перыяду. Маюцца на ўвазе перш за ўсё паэмы, створаныя ў 1910—1913 гады, калі паэтычны талент маладога пісьменніка разгарнуўся і выявіўся ў эпічным жанры.

Стрыжань мастацкай структуры паэм Купалы — гэта паэтычны вобраз, які на працягу вызначанага перыяду адчувальна мяняецца.

Генезіс мастацкай вобразнасці Купалы, безумоўна, паходзіць з вуснай народнай творчасці, і гэтая з'ява хораша даследавана. Усе свае паэмы 1910—1913 гадоў Купала прысвячае або мінуламу, або сучаснасці мужыцкага жыцця, багата карыстаецца песнямі і легендамі, каб адлюстраваць сялянскі свет, найперш адрадзіць вобраз сваёй Беларусі.

На пачатку свайго паэтычнага шляху Купала надзяляе фальклорную вобразнасць канкрэтным сацыяльным зместам. У гэтым плане ўспрыманне катэгорыі дабра і зла залежыць ад праблем сацыяльна разрозненага свету вёскі, якая стагоддзямі была падзелена, і яе бедната спазнавала толькі зло, у той час як багатыя займелі дабрабыт. У гэтым жыцці людзі не звяртаюцца да агульнага, філасофскага зместу названых палярных паняццяў. Часцей за ўсё сацыяльны сэнс дабра і зла перададзены ў паэмах пры дапамозе алегарычных сюжэтаў, калі падзеі ўспрымаюцца не толькі ў сваім канкрэтным змесце, але і праз напружаны падтэкст.

Распаўсюджана думка, што фармальна Купала ў гэты перыяд знаходзіўся пад моцным уплывам рамантызму. Амаль ва ўсіх даследчыцкіх працах можна сустрэць разважанне пра тое, што звязвае Купалу з рускай і польскай рамантычнай літаратурай.

Але сутнасць так званага купалаўскага рамантызму можна лепш зразумець толькі маючы на ўвазе літаратурны кантэкст часу. Як вядома, Купала пісаў свае творы ў Пецярбургу. Нельга не ўявіць таго асяроддзя паэтычнага мадэрну, якое праз доўгія гады ацэньвалася толькі ў адмоўным плане. Праўда, не захаваліся асабістыя паметкі Купалы пра яго адносіны да дэкадэнтаў, апрача сведчанняў пра захапленне паэзіяй Блока. Але тут гаворка — ані пра ўплыў, ані пра вучобу; згадваецца толькі тое паэтычнае асяроддзе, якое стварыла новую мастацкую форму і надало новы змест паэтычнай вобразнасці. Не зважаючы на паэтычны кантэкст Купалавых твораў, нельга адшукаць сапраўдныя вытокі яго рамантызму. Гаворка можа пайсці ці пра адметны неарамантызм, ці толькі пра аплікацыю мастацкай сістэмы твораў.

Гэтую з'яву тут варта звязваць з тагачасным літаратурным працэсам, калі ў творчасці сімвалістаў, акмеістаў, футурыстаў адчулася моцная цяга да крыніц народнага майстэрства і арыгінальных народных сюжэтаў. Гэтае памкненне не толькі звычайная зацікаўленасць яркім арнаментам і экзотыкай, а найперш імкненне адрадзіць у новых культурных мадэлях народную памяць, аднавіць плынь развіцця цывілізацыі ў яе дыфузных узаемаадносінах.

Такое меркаванне аніяк не змяншае высокай мэты паэта служыць сваёй лірай Беларусі. Прарочы абавязак і прыхільнасць да ўсяго роднага — у аснове зместу яго творчасці.

Спроба выявіць генезіс купалаўскага рамантызму ў мастацкіх пошуках таго часу можа пашырыць уяўленне пра асаблівасці яго творчага стылю.

Уводзячы Купалу ў паэтычны кантэкст часу, з улікам, вядома, асаблівасці яго нацыянальнага светаўспрымання, можна паказаць яго стваральнікам умоўна-асацыятыўнай вобразнай сістэмы з вялікім экспрэсіўным уздзеяннем, калі вобразы маюць надзвычай экспрэсіўны алегарычны сэнс.

Пачынаючы з твораў адкрытага сацыяльнага гучання, такіх, як «Курган» і «Бандароўна», Купала стварае ў 1910 годзе сваю драматычную паэму «Адвечная песня», дзе паэтычны вобраз адыходзіць ад канкрэтнага зместу і надзяляецца абагульняльнай функцыяй. Захаваўшы першародным сацыяльны матыў, Купала тым часам дасягае новых мастацкіх рашэнняў, ствараючы такія ўмоўныя вобразы, як Доля, Бяда і г. д., што вызначаюць найважнейшыя з'явы чалавечага жыцця. У паэме выяўлены іх сутнасны, грунтоўны сэнс, абумоўлены, аднак, не агульнафіласофскімі, а сацыяльнымі крытэрыямі. Таму яшчэ на пачатку паэмы парушаецца тое паняцце пра чалавека, што было ўласціва рамантызму.

Так будзе ён царам прыроды
Сам найдасканальшага роду...

«Цар прыроды» і «ўсяго на свеце» робіцца рабом сваёй долі. Жыццё, найвышэйшае багацце для любога чалавека, тут настолькі невыноснае, што Мужык у канцы паэмы выбірае магілу — таму што «людзі, свет страшней яе».

У адкрытасці сацыяльнага гучання «Адвечнай песні» — вернасць першапачатковым мастацкім пошукам паэта. Але з яе пачынаецца і лінія новых мастацкіх рашэнняў. Цікава, што гэта здараецца найперш у драматычнай паэме, дзе наяўнасць дзеяння абумоўлена жанрам. Падзеі паэмы — праявы чалавечага жыцця, яго няспыннага руху ад хрэсьбін да магілы — адлюстроўваюцца ў адухоўленых порах года. Тэндэнцыя дэструкцыі сюжэта паглыбляецца ў адным з самых арыгінальных купалаўскіх твораў — драматыч-

най паэме «Сон на кургане», дзе назіраецца аддаленасць ад сацыяльнай канкрэтыкі. Такое ж адмаўленне ад яўнай сацыяльнай акрэсленасці ўласціва і паэмам «Магіла льва» і «Яна і я», дзе сэнсавы націск падае — у першай — на этычнае пытанне, у другой — на эстэтычнае вырашэнне праблемы творчасці.

У паэме «Сон на кургане» разгортваецца ўмоўнасць паэтычнай вобразнасці, а таксама па-новаму канструюецца мастацкая прастора. Новы падыход да праблемы мастацкага часу і прасторы, абмежаванасць канкрэтыкі сведчаць пра пошукі паэтам новага мастацкага мыслення, імкненне ўвасобіць светаадчуванне ў своеасаблівыя мастацкія мадэлі.

г. САФІЯ





КУЛЬТУРА МОВЫ

АЛЕСЬ КАЎРУС

# «НАЎЧЫЎСЯ Я СЛОЎ БЕЛАРУСКІХ АД МАЦІ...»

**Стала аксіёмай: творчасць Янкі Купалы і Якуба Коласа — школа роднага слова. І ўсё ж калі глядзець на іхнюю творчасць не юбілейна-святочна, а цвяроза, аб'ектыўна, дык трэба прызнаць, што мы не ведаем як мае быць моўна-літаратурнай спадчыны песняроў Беларусі і не выкарыстоўваем яе належным чынам. Пра гэта клопат і Васіля Быкава: «...у нашай літаратуры ёсць выдатныя прыклады высокага густу ў галіне мовы, прыгоднай для самых розных стылёвых мэт — і мастацкай літаратуры, і публіцыстыкі, і нашага справаводства. Дрэнна толькі, што лепшыя здабыткі нашых пісьменнікаўстылістаў застаюцца прыватнай іх прывілеяй, не распаўсюджваюцца, не пераймаюцца, амаль не вывучаюцца. А шкада. Нават стылістыка Купалы і Коласа не стала, на жаль, эталонам для ўсеагульнага карыстання, хоць менавіта яна па праву ляжыць у падмурку сучаснай беларускай літаратурнай мовы»** (падкрэслена мною.— **А. К.**) («Нашы надзённыя клопаты»).

Перачытаем яшчэ раз творы Янкі Купалы, паўзіраемся, услухаемся ў яго простае, паэтычнае і магутнае слова.

У чароўны свет купалаўскай паэзіі мы ўваходзім змалку:

І лягла ж цішына
У бары за гарой,—
Каб дравінка адна
Хоць кіўнула сабой.

*(«Зімой у лесе»)*

Нескладаныя, але глыбокія лірычным зместам мілагучныя радкі ідуць з чалавекам праз усё жыццё. Кожнае пакаленне чытачоў, засвойваючы багатую песнярову спадчыну, эмацыянальна, духоўна далучаецца да скарбніцы думак і пачуццяў, імкнецца спазнаць сакрэты хараства і моцы Купалавага слова.

Пачатак творчасці Янкі Купалы прыпадае на гады рэвалюцыйнага ўздыму (1905—1907), калі народы царскай Расіі выступілі за сваё сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. Вельмі актуальнай задачай для беларусаў было адраджэнне іх культуры, мовы. Увесь цяжар гэтай пачэснай працы лёг на плечы найбольш свядомых руплівцаў і абаронцаў роднага слова — пісьменнікаў. Малады Купала пакутліва раздумвае над лёсам роднай мовы.

Сярод вершаў, прысвечаных мове, асэнсаванню яе ролі ў жыцці грамадства, бадай, самы палымяны, сацыяльна завостраны — «Роднае слова» (1908). Гэта гімн матчынай мове, яе сіле, неўміручасці:

Магутнае слова, ты, роднае слова!
Са мной ты на яве і ў сне;
Душу мне затрэсла пагудкаю новай,
Ты песень наўчыла мяне.

Родная мова, паводле Янкі Купалы,— найважнейшы сродак выхавання чалавека-грамадзяніна, аснова духоўнай, мастацкай дзейнасці народа.

З дзяцінства будучы паэт палюбіў прыгожую мову жыхароў Міншчыны, Лагойшчыны. (Купалавы бацькі былі беззямельныя, і сям'і даводзілася часта пераязджаць з месца на месца, шукаючы працы.) Мова беларускіх сялян, матчына мова і стала асновай яго паэтычных і драматургічных твораў. Пра гэта — у вершы «Мая навука»:

Мне мудрасці кніжнай не даў Бог пазнаці,
Мой бацька не мог даць раскошаў такіх —
Наўчыўся я слоў беларускіх ад маці
І дум беларускіх без школы і кніг.

Як падкрэсліваюць даследчыкі, у паэта была выключная памяць на жывое народнае слова. Аднак грунт Купалавай мовы не зводзіцца толькі да згаданых сярэднебеларускіх гаворак (і часткова — паўночна-ўсходняга дыялекту). Яго істотна дапаўняе вусна-паэтычная творчасць, якая не «прывязваецца» да пэўнай мясцовасці, а распаўсюджваецца па ўсёй Беларусі і, такім чынам, узбагачае палітру пісьменніка сродкамі агульнанароднай мовы. Характэрна, што ў купалаўскіх творах, напісаных паводле народных матываў, найменш сустракаецца вузкамясцовых моўных рысаў.

Паэт не спыніўся ў сваёй «навуцы» на этапе засваення жывой народнай мовы і фальклору. Ён самастойна авалодваў кніжнымі скарбамі: знаёміўся з творамі беларускай літаратуры, чытаў паэзію і прозу польскіх, рускіх і ўкраінскіх пісьменнікаў, а некаторыя іх творы пераклаў на родную мову. Вывучаў Янка Купала помнікі старажытнага беларускага і ўсходнеславянскага пісьменства, ён зрабіў пераклад на беларускую мову «Слова аб палку Ігаравым». У рэчышча Купалавай мовы сцякаліся крыніцы літаратурнага маўлення, якія бруілі ў культурным асяродку беларускага нацыянальнага адраджэння ў Вільні і Пецярбурзе (П. Садоўскі).

Пакажам некаторыя асаблівасці сярэднебеларускіх гаворак, адлюстраваныя ў Купалавых творах. Вось некалькі дыялектных слоў з мовы жыхароў Міншчыны, якія ўжыў народны паэт: *гойна* „добра“ («Як ты [поле] мне за працу // Адплацішся **гойна**, // Да вясны к налец-

цю // Пражыву спакойна» — «Поле»); *краплісты* „з буйнымі кроплямі“ («Пот **краплісты** // Худы мой твар мачыў, слязіў» — «Сон»); *кусок* „крыху“ («Пайду к грушцы пад галінкі // Пасяджу **кусок**» — «Выйду, выйду...»); *наругацца* „назаляць, дакучаць“ («[Сцяпан:] Як будзеш яму **наругацца,** дык гатоў яшчэ адбіцца, а яго страюся прыручыць» — «Паўлінка»); *піргнуць* „піхнуць, штурхнуць“(«Як хмар недаступных махнатыя скібы // Адна [хваля] адну схопіць, **піргне** — «Над Іматрай»); *правіць* „апавядаць, расказваць“ («Гэтак **правіў** у карчомцы // Раз убогі, Куксай званы» — «Калека»); *упякаць* „страціць, марна загубіць“ («І пойдзе бядак нешчаслівы // Здароўя **упякаўшы** цвет // Праз цёмныя боры, праз нівы // З жабрацкаю торбаю ў свет» — «Зімою»).

Апрача дыялектызмаў у творах Купалы сустракаюцца русізмы *(дрож, жалець, праступнік, пявец, сільны)* і паланізмы (*айчызна, змарлы, млека, пакрыёма, цёнгле).* Асноўная прычына іх ужывання — нераспрацаванасць лексічнай сістэмы беларускай літаратурнай мовы на пачатку XX стагоддзя.

Яскравая марфалагічная асаблівасць Купалавай мовы — канчатак *-а, -е* ў 3-й асобе адзіночнага ліку дзеясловаў другога спражэння: *ахопе, збура, прыкмеце, скосе, усходзе.* Такія формы (іх крыніцай — мясцовыя гаворкі) адлюстроўваюць тагачасны ўзровень літаратурнай мовы, незамацаванасць граматычных нормаў і пэўную традыцыю беларускай мастацкай літаратуры. Параўн. у Ф. Багушэвіча: «Чым то дзеецца на свеце // Што не роўна **дзеле** бог...» («Бог не роўна дзеле»).

На арганічную сувязь мовы Купалы з народна-дыялектнай паказвае варыятыўнасць націску. Некаторыя назоўнікі, прыметнікі, словы іншых часцін мовы ўжываюцца і ў форме, адметнай ад кадыфікаванай: галу́б, ляка́р, планы́, тыраны́, гасця́я, звяра́ (родны склон, адзіночны лік); вузкі́, даўгі́, дзікі́, цвярды́; вы́сака; напіса́на.

Часам зрушэнне націску абумоўлена будовай канкрэтнага вершаванага кантэксту:

Што нахлыне ў душу,
Што сасню **вечаром,**
Праз што вочы рашу,—
Усё выллю пяром.

*(«З маіх песень»)*

Ходзіш ты **вячорамі**
З ціхаю пакораю,
Бачаць неба з зорамі,
Полейка з разорамі.

*(«З песень беззямельнага»)*

Змена месца націску ў словах — не паэтава сваволя. Такую з’яву часта назіраем у народных песнях:

Там за гаем **зеляненькім**
Брала ўдова лён **драбненькі.**

У купалаўскім вершы знайшлі адлюстраванне рысы жывога маўлення. Так, у шматлікіх выпадках зафіксавана вымаўленне пачатковага *й* у словах: «Па жыццёвай па цярністай // Пуцявіне **йду**» («Па жыццёвай пуцявіне»). «Я ж ціха **йграю,** хто ж ціхіх прымеце?» («Я не паэта»). «...І зоркі сталі ў небе **йрдзеці**» («Паляўнічы і пара галубкоў»).

Цікавыя ўжыванні, якія сведчаць пра асваенне вуснай маўленчай практыкай беларускага народа слоў іншамоўнага паходжання са спалучэннямі *ыя, ія: камед’я, кампаня, матар’ял, пралетар’ят, эпітаф’я.* «Прагледзе й скажа: **«Матар’ялу** // Каб прасачыці быт людзей // **На Беларусі, тут нямала...» («Каму вас, песні?..»).**

Бывае, слова ўжыта ў форме, якая перадае характэрнае для вуснай мовы пры паскарэнні яе тэмпу выпадзенне гукаў: *запрэча* (запярэча), *вызве* (вызаве), *вызву* (вызаву), *праступаць* (перaступаць), *прашкода* (перашкода), *спраўды* (сапраўды). «**Прашкоды** ўсе крышы, // На долю не крыўдуй...» («На добры стары лад»).

Нарэшце, адзначым страту гука на стыку слоў:

Янка сяк, то так
Лета прамадзеў,
Стаў жыць не 'бы як,—
Стаў есць больш, як еў.

(*«Янка Канцавы»*)

Пад лясок, за вёску,
**Бы** далей ад дому,
Ляціць на спатканне
К панічу ўдалому.

(*«Паніч і Марыся»*)

Словы гутарковай афарбоўкі *бы як, бы* адпавядаюць стылістычна нейтральным *абы-як, абы*. Разгледжаныя вышэй моўныя з'явы і факты пацвярджаюць думку, што адна з падвалін мовы Янкі Купалы — родныя гаворкі. Засваенне паэтам іншадыялектных слоў адбывалася ў працэсе непасрэднага кантакту з носьбітамі мясцовых гаворак ці праз пісьмовыя крыніцы. Як прыклад назавем слова *шчур* „пацук" у вершы «Каму вас, песні?..»: «Хвалько паэта, знаць, не раз // Цаніць даваў... [рукапіс] для шчураў; // А шчуры — спраўджана і ў нас — // Істоты подлыя, нізкія...» Паралельна з гэтым дыялектным словам у папярэдніх радках верша ўжыты літаратурны адпаведнік *пацук*.

Пра пашырэнне народнай асновы Купалавай мовы сведчаць граматычныя формы, у прыватнасці, двухскладовы канчатак *-ае (-ое, -яе)* прыметнікаў, займеннікаў, лічэбнікаў у родным склоне адзіночнага ліку: «Вяселіць сонца цэлы свет // Надзеяй **блізкае** вясны» (Думкі перад вясной»). «Аб той славе небывалай // **Нашае** зямлі... («Усе разам»). «Кабеты, дзяўчаты, // Борздзенька збірацца // Да **аднае** хаты, // Да супольнай працы!» («Тканне намёткі»). Такія формы ўжываюцца ў паўднёва-заходнім дыялекце. У творы Купалы яны маглі прыйсці з літаратурнай мовы таго часу.

Сціплы ў жыцці, у побыце, не вельмі гаваркі, паэт у сваіх вершах актыўны прамоўца, суразмоўнік. Ён то голасна ў форме маналога выказвае думкі і памкненні селяніна («Я мужык-беларус, // Пан сахі і касы...»), то вядзе гутарку, каб паказаць моц і веліч народа («А хто там ідзе, а хто там ідзе...»), то кліча да дзейнасці, працы, змагання. Паклічны, публіцыстычны характар паэзіі абумовіў скарыстанне звароткаў, формаў загаднага ладу ў іх шматстайнасці і нацыянальнай адметнасці.

Для твораў Янкі Купалы характэрна шырокае ўжыванне дзеясловаў загаднага ладу, у тым ліку з канчаткам *-ма*: «Дык **запейма**, хай імчыцца // Нашых песень рой!» («Усе разам»). «Дык **любімася**, суседзі! // **Кіньма** сваркі, звадкі, // **Жыйма**, як родныя дзеці // Адной нашай маткі» («Любімось, мае суседзі!»). «[Данілка:] Дык **уцякайма** адгэтуль, мамачка! Там будзе нам усім хораша і весела. **Уцякайма!**» («Раскіданае гняздо»). Можна меркаваць, што паэт браў такія формы з літаратурнай мовы пачатку XX стагоддзя, дыялектная ж крыніца іх — гаворкі Брэсцкай, Гродзенскай, паўднёвай часткі Мінскай і Гомельскай вобласцяў.

У Купалавай паэзіі рэгулярна выкарыстоўваецца клічная форма назоўнікаў у ролі звароткa. Прычым клічную форму набываюць не толькі традыцыйныя словы-звароты (*браце, дружа, нябожа, па-*

*ночку, старча),* але і словы, арыентаваныя на кніжную сферу ўжытку: *дэпутаце, складальніку, украінча* і інш. Прывядзем некалькі сказаў-ілюстрацый: «Пасаромся, **дэпутаце,** // Хоць сваёй чорнай бялізны» («Дэпутату N. N.»). «Гэй, **песняру** мой, **браце** мой родны, // Сэрца для гэтага [для шчасця краю, люду] дай, не жалей» («Песняру Альберту Паў<ловi>чу»). «Скажаш, напэўна, добры **чытальніку**: // Смутная песня твая, брат пясняр! // Ці ты не мог бы, рыфмаў **складальніку,** // З дум сваіх лепшы зрабіць для нас дар?» («Зімою»). «О, слаўны **ўкраінча,** сын верны народа! // Ты роднага слова ў сабе не глушыў...» («Памяці Т. Шаўчэнкі»). «Весяліся, ганарыся, // Мой «Чырвоны **аратаю»**! («Вечарынка»). Як бачым, у Купалы зваротак, выражаны клічнай формай,— дзейсны граматычны і стылістычны сродак. З яго дапамогай перадаецца эмацыянальнасць, шчырасць і адкрытасць паэтычнага выказвання.

Пра фальклорныя вытокі купалаўскага верша сведчыць выкарыстанне сродкаў і прыёмаў народнай паэтыкі: паралелізмаў, паўтораў, сталых эпітэтаў і інш. Вось тыповыя страфы, пабудаваныя на супастаўленні людскога жыцця і з'яў прыроды (паралелізмы):

Не дубок пры ніўцы ў гаі,
Не ў лузе лілейка,—
Малады тут засядае
З сваёй дабрадзейкай.

(*«Маладым на вяселлі»*)

Жудка стогнуць рэкі,
Ўзбураны вясною;
Плачуць мае песні,
Галосяць са мною.

(*«Плачуць мае песні»*)

У паэзіі Купалы часта сустракаецца характэрны для вуснай народнай творчасці прыём — шматпрыназоўнікавасць: **Да** працы **да** роўнай, **да** волі шырокай // Ахвочы крычаці, ўзываці... («Песенька для некаторых маладых людзей»). «**Ля** дарогі, **ля** далёкай, // **Каля** крыжавой, // Спіць карчма там адзінока...» («Забытая карчма»). «Як пайду я, пайду **па** загонах, // **Па** мазольным аратых сляду, // **Па** лугах і **па** борах зялёных, // І **па** сёлах убогіх пайду» («Як пайду я, пайду...»).

Прыкметнае месца ў Купалавых творах займае таўталогія — паўтор блізказначных слоў або выразаў: «І роім у думках так цэлымі днямі, // Ды шчасце не **роіцца ройна...**» («Шчасце»). «**Шуміць шумненька** барок // Песняй жаласнянай» («Люлі, люлі, мужычок!»). «**Весела** квеціцца ў небе **вясёлка,** // Скрозь хмары-воблакі свеціць...» («Наша моладзь»).

Цесна лучаць Купалаў верш з народнай паэзіяй сталыя эпітэты: «Кветкі дзеўчынка зрывала // Ля дубровы ля **зялёнай**»; «Выйшаў хлопец з той дубровы, // Хлопец **пекны, стройны** гэткі»; «Удваёчку ўжо шукаюць //Кветкі ў **буйнай** сенажаці» («Дзяўчынка і вянок»). «Маё поле, мае гоні — // Воблакі **сівыя,** // Маё стадка, мае коні — // Хмары **вараныя**» («З песень беззямельнага»).

Чэрпаў Янка Купала і з багатай скарбонкі народных параўнанняў:

Пара пасымкаў мятлічкі —
Броўкі мілыя ў сястрычкі;
Дзве пралескі — яе вочкі
Ці два ў збожжы васілёчкі;
Яе шчочкі — роўны ў сонцы
Цвету-ружы ля аконца;
Яе губкі — не калінкі,—
Проста спелыя малінкі!

(*«Мая дзяўчынка»*)

Вядома, у гэтым вершы паэт не абмяжоўваецца гатовымі тропамі, знаходзіць арыгінальнае вобразнае выказванне: «**Ручкі** — хто зраўняўся з імі! // **Так і шчасце не абыме...**».

У духу народнай моватворчасці — выражэнне прыкметы прадмета з дапамогай прыдатка. Сярод такіх азначэнняў-прыдаткаў шмат індывідуальна-аўтарскіх: асіна-**ласуха, брахунец**-адвакат, бусел-**клекатун, заўцы**-званы, зямля-**матка,** боты-**мімаходы, сяміцвет**-вясёлка, сена-**прынада.**

Як працяг фальклорных традыцый у творчасці Янкі Купалы трэба разглядаць кароткія і ўсечаныя формы прыметнікаў: «Не дружы з панамі, // **Бедзен** мужычок. // На дружбу з багатым // **Вузак** твой шнурок» («Не дружы...»). «**Крэпкі, магутны** аковы зімовыя...» («Паводка»). Падкрэслім, што поўныя прыметнікі ў вершаванай мове пераважаюць, а ў празаічнай — адзіныя.

Звяртаюць на сябе ўвагу дзеясловы неазначальнай формы з суфіксам *-ці* пасля галоснага: *даці, жыці, мураваці, пазнаці, спаці.*

Чым з табою піць, **гуляці,**
Ночкі **каратаці,**—
Лепш навекі косці парыць
У зямельцы-маці!

*(«Бандароўна»)*

Такія формы павялічваюць колькасць адкрытых складоў, павышаюць мілагучнасць мовы. Яны прыйшлі ў купалаўскі верш з народных песень і ўжываюцца як традыцыйны сродак паэзіі. У гаворцы Купалавых землякоў згаданыя дзеясловы маюць форму *даць, жыць, спаць* і г. д. І ў мове персанажаў драматычных твораў — таксама: «[Паўлінка:] Ну, ужо зусім няма як без агню **шыць**! Зараз трэба **запаліць** лямпу».

Нацыянальную спецыфіку мовы Янкі Купалы ў вялікай ступені выражае фразеалогія. У ягоных вершах, паэмах, п'есах вельмі часта сустракаем фразеалагізмы, а таксама і прымаўкі. Гатовыя ўстойлівыя выразы надаюць мастацкай мове каларыт жывой гаворкі, павышаюць вобразнасць і эмацыянальнасць: «**Вераб'ю па калена,** што сею, расце»; «Зося **парыць зямлю, у свет** дзеці **пайшлі...**» («Гэта крык, што жыве Беларусь»).

Нярэдка паэт трансфармуе фразеалагізмы — замяняе або дадае словы: «**З балотам мяшалі,** пагардай плявалі // Ўсе тыя, што выраслі нават са мной!» («Ужо днее»). «Убег у хату, **дух** не **змене...**» («Страх»). «Сват гэтага толькі не цяміць нічога: // Яму ўсюды **проста, як з моста дарога**» («Сват»). Выдзеленым фразеалагізмам у літаратурнай мове адпавядаюць *мяшаць з гразёю (з зямлёю), перавесці дух (дыханне), проста з моста.*

Некаторыя фразеалагізмы зменены гэтак, што пазнаём толькі іх элементы, асколкі: «Лесніковая дасціпнасць // **Косткай** усім стала» («За чужую елку»). «Жыву з суседзьмі па-суседску,— // Пакорны згоды я слуга; // Не быць нікому ў воку **рэдзькай** // Я век стараюсь як мага» («Мой пагляд і мэта»). У прыведзеных сказах — рэшткі агульнамоўных фразеалагізмаў: *як костка ў горле, як горкая рэдзька.* Падкрэслім грань майстэрства Янкі Купалы: фразеалагізмы ў яго, як правіла, не паўтараюцца. Паводле звестак І. Лепешава, з 143 фразеалагізмаў у камедыі «Паўлінка» 128 ужыты па адным разе, 15 фразеалагізмаў паўтараюцца, але ўсе паўторы апраўданыя.

Маладому чытачу не могуць не кінуцца ў вочы багацце і выразная адметнасць купалаўскага сінтаксісу, спецыфічныя для беларускай мовы словазлучэнні і сказы, некаторыя з якіх звузілі сферу літаратурнага ўжытку. У якасці ілюстрацыі прывядзем словазлучэнні з прыназоўнікамі *з, па,* у якіх выражаюцца адпаведна прычын-

ныя і часавыя адносіны: **«Загіне з выстралу** каршун» («З песень аб вясне»). «Вось з **наказу** раз **пайшоў** я // Вартаваць у лес павалы» («Калека»). «Нішто жыць не можа векі — // З сваёй, з божай **нікне волі»** («Сцёпка Жук»). **«Спіць** вёска сном моцным **па працы** па цяжкай» («Адплата кахання»). «Марная ўрода **па ўсякай сяўбе»** («Вёска»). **«Па смерці ўбачыў** галубкоў...» («Паляўнічы і пара галубкоў»).

Трэба мець на ўвазе, што словазлучэнні і сказы, якія сёння могуць успрымацца як асаблівасць сінтаксісу Купалы, раней былі пашыраныя ў беларускай мове. Такая, напрыклад, форма састаўнога іменнага выказніка, выражаная назоўнікам у творным склоне без звязкі *ёсць, з'яўляецца:* «Хто смяецца са слёз — сам **прычынай** тых слёз» («Дзе б і праўда жыла»). «У вёсцы у роднай ён добрым **суседам»** («Адплата кахання»). «Ад прадзедаў спакон вякоў // Нам засталася спадчына; // Паміж сваіх і чужакоў // Яна мне **ласкай** матчынай» («Спадчына»).

Глыбокая народнасць купалаўскіх твораў выяўляецца не толькі ў скарыстанні жывой народнай мовы і паэтычных сродкаў фальклору. У аснове шмат якіх вершаў і паэм ляжаць народныя ўяўленні, народная мараль, звычаі, гістарычная памяць людскіх пакаленняў. Зразумела, гэтыя кампаненты нацыянальнай духоўнай спадчыны не проста ўзнаўляюцца паэтам, а служаць задачы эстэтычнага асваення рэчаіснасці, што, у сваю чаргу, патрабуе адпаведнай арганізацыі мастацкага кантэксту. Так, у вершы «Дужыя і слабыя» вобразна высноўваецца думка, што ганаровае месца за сталом — не адно толькі ад звычаю паважаць госця. Гэта прадыктаванае жыццём права багатага на вяршэнства:

На балі жыцця шумнага
Не ўсім адзін абед,—
Для дужага і слабага
Не аднолькоў прывет.

Сядзіць дужы з павагаю
За бесядным сталом,
На куце ён пасаджаны
Жыццём-гаспадаром.

На першы погляд ледзь прыкметнае дапаўненне слоў *баль* («баль жыцця») і *гаспадар* («жыццё-гаспадар») памацніла сацыяльнае гучанне радкоў.

Не змяншаючы ролі аўтарскай моватворчасці (пра гэта гаворка яшчэ будзе), трэба з усёю пэўнасцю сказаць, што арыгінальнасць вобразнага прамаўлення дасягаецца галоўным чынам за кошт актывізацыі стылістычнага патэнцыялу агульнанароднай лексікі і фразеалогіі. Разгледзім некалькі прыкладаў. «Акавала сонца праўды // Няпраўды зіма» («Па жыццёвай пуцявіне»). Метафарычнаму, эмацыянальна-экспрэсіўнаму гучанню радкоў садзейнічае ўжыванне назоўнікаў-антонімаў (*сонца — зіма, праўда — няпраўда).*

Пры стварэнні паэтычнага вобраза нярэдка спалучаецца лексіка абстрактная з канкрэтна-бытавой: **«Душу напасціць** перад сканчынаю // Дайце шчаслівасці новай» («Дайце мне...»). «Эх, кіньце **крыўдамі карміцца,**— // Кожны народ сам сабе пан...» («Ворагам Беларушчыны»). «Як людзі добрыя, **навукі** // Я з малку дзён **пакаштаваў»** («Мой пагляд і мэта»). **«Няпраўда праўду акялзала** // І едзе **людскасці** па **спіне»** («Разлад»). «А мы сабе **сеем і сеем** // Пшаніцу, і **радасць,** і кветкі... («А мы сабе сеем і сеем...»). **«Шчасце** так рэдка над светам **усходзе** («Я не паэта»).

Плённа карыстаючы з мастацка-выяўленчых здабыткаў беларускага народа, Янка Купала стварае непаўторныя паэтычныя кантэксты. Нетрадыцыйнасць выказвання вымагае адметных слоў, формаў.

Яшчэ вокал цемната
Над светам пануе,—
**Яшчэ міласць, дабрата**
**Людзей не раўнуе...**

(*«Люлі, люлі, мужычок!»*)

— Глянь во з жалем — я калека,
Аднарукі, аднаногі,
**Беспрытульнасці апека**
**Ацямніла ўсе дарогі.**

(*«Калека»*)

У сістэме моўна-выяўленчых сродкаў значнае месца займаюць перыфразы, у якіх адбілася індывідуальнае бачанне свету, спецыфіка мастацкага мыслення. Звычайна кажуць: дні мінулі (прайшлі). Паэт перадае гэты сэнс вобразна, эмацыянальна: «Дрэмле памятка дзён, што ў **нябыт уцяклі** — // Ўдзірванелы курган векавечны» («Курган»). Яшчэ радкі з выкарыстаннем перыфразы: «Без яго ёй не жыці, // А яму без яе, // **Думка ў думку злажыці** // **Так умелі свае»** («Ён і яна»). «І выйшлі людзі сільныя // На бітву на крываваю, // Дый **смерцяю акрыліся,** // Хоць несмяротнай славаю» («*** Я відзеў душы сільныя»).

Галоўны герой, беларускі селянін, не перастае захапляць паэта сілаю, цярплівасцю і адначасова засмучаць бяспраўным, прыгнечаным становішчам. Гэтыя асноўныя матывы і вызначаюць змест Купалавых перыфраз — характарыстычных назваў селяніна: царскі нявольнік; панскі нявольнік; дзіця нядолі, цемнаты; сын нядолі; гаротны брат; доляй убогі; брат замучаны мой; нявольнік з краю нядолі; брат слёзнавокі; бедачок сярмяжны; сын бяды і працы; цёмны і галодны брат; ахвяра трудоў, беднаты, цемнаты; пан сахі і касы; пан сошкі, і коскі, і поля.

Дзякуючы сэнсава-эмацыянальнай важкасці і дасканальнасці формы, шмат якія выразы сталі крылатымі: А хто там ідзе, а хто там ідзе; воля сонейку раўня; не шукай ты шчасця, долі на чужым, далёкім полі; падняць скібіну слова; слова, дум ніхто не зважа; людзьмі звацца.

У мастацкім тэксце важную ролю адыгрываюць сінонімы. Характэрна, што літаратурныя словы ўступаюць у сінанімічныя адносіны з дыялектнымі, а таксама з індывідуальна-аўтарскімі ўжываннямі (словамі і зваротамі): *дужа, надта* («Песенька для некаторых маладых людзей»), *прыгожы, пекны* («Прыпеўка»), *пявун, певень* («Каршун»), *рыдлёўка, землякопніца* («Грабар»), *скрыпка, струнніца, скрыпуля, святая здабыча* («Забытая скрыпка»), *дзевачкі, любанькі, сонейкі, галубанькі, сонейкі-дзевачкі, любачкі, любка, ненаглядачка, дзевачкі-галубачкі* («Да дзяўчатак»).

Самабытнасць Купалавай мовы грунтуецца і на багатай словатворчасці паэта. Не заўсёды можна вызначыць, што́ перад намі: аўтарскі наватвор ці слова з народнай гутаркі або з гістарычных ці іншых крыніц. І ўсё ж ёсць падставы аднесці да «Купалавых» такія, напрыклад, словы, як азярняціць, аквечаны, ацямраць, жыўчы, мглавіца, невыдумны, неразвейны, няпамяць, павеўны, разгуканы, спочаны, усешчаслівасць, цемравіца. Такія паэтычныя словы не падаюцца слоўнікамі літаратурнай мовы. Гэта поўнае сведчанне, што яны не выйшлі за межы твораў Янкі Купалы. Чаму ж тады звычайна падкрэсліваюць значэнне Купалавай моватворчасці ў літаратурным працэсе? Па-першае, дзякуючы ёй дасягнута адэкватнае эстэтычнае самавыяўленне паэта, па-другое, дадзены ўзор іншым пісьменнікам, як карыстацца роднай мовай з найбольшым мастацкім плёнам.

Шматлікія адметныя словы і словаформы з'явіліся ў выніку «выраўноўвання» на адпаведную рыфму: «Праўду з няпраўдай, // Цно-

ту з **гарэзіяй** // Вымешай спрытам,— // Будзе паэзія» («Паэзія»). «Спі ў вечнай, сіротка, **хатулі,** // Дзе тата спіць твой і матуля» («З сіроцкай долі»). «Шмат зямлі на свеце, // Шмат на свеце хатак,— // Толькі беззямельных // Мінуў гэты **датак»** («З песень беззямельнага»). «Дзе якая звадка, **схопка,** // Годзіць, рае ў полі, ў хаце,—// Адным словам, як наш Сцёпка, // Рэдка знойдзеш гэткіх, браце» («Сцёпка Жук»). «На могілках Янку-хамулу схавалі, // А далей, за могілкі,— гожу паненку, // Народ жа над імі маліўся і **кленкаў»** («Адплата кахання»). «Жыве гэта песня, як віхар клакоча, // Над лесам магілішч, над цьмою бяжыць, // Зрывае запоры і брамы **ламоча,** // І крыўда нямее, і змога дрыжыць» («Памяці Т. Шаўчэнкі»).

Відавочна, аказіяналізмы гарэзія, хатуля, датак, схопка, кленкаў, ламоча выкліканы да жыцця ў вершах сугучнымі словамі паэзія, матуля, хатак і г. д.

Вымогамі гукавой арганізацыі паэтычнага радка, будовай страфы абумоўлена, з аднаго боку, падаўжэнне, расцягванне слова, з другога — усячэнне, падкарочванне. Пры нарматыўнай форме назоўнікаў з беглым галосным *пеўня, лапці, жорны* ў творах Янкі Купалы сустракаем: *певеня, лапаці, жораны.* «Як віхар, як куля імчыцца каршун // І **певеня** тут жа насмерць забівае» («Каршун»). «Цягай ты зрэбную кашулю, // Цягай ты **лапаці** з лазы» («Куды ты рвешся!..»). «Чакаюць справы **жораны** —// Зярнятаў незаморaных...» («Безназоўнае»).

Падаўжэнне слова дасягаецца выкарыстаннем іншых суфіксаў: «За **правіненне** // Розгамі секлі» («Даўней і цяпер»). «Пахаваў, насып даў **небарачніку,**— // Бач, другі ўжо расстаўся з душой» («Грабар»). «**Аздобнасць** неба — сонца, зоры, // Спавіты месяц туманом» («Брату ў чужыне»). «Як гляну я, гляну ў свет зрэнкай **хмурліваю...»** («Доля ўдавы»). «**Адвечністым** шумам [хвалі] калышуць прастор» («Над Іматрай»). «Ён рыдлёўку сваю **жалязяную** // Кавалю пацягнуў, паказаў» («Грабар»).

Часты зварот да памяці продкаў, паказ духоўнай повязі пакаленняў, натуральна, запатрабавалі шырокага ўжывання слоў, якія здаўна бытавалі ў беларускай мове. Збліжэнню цяперашняга плана з мінулым садзейнічае наданне назоўнікам формы, якая імітуе першапачатковую марфемную будову — словы нібы пазбаўляюцца пазнейшых структурных і семантычных прырашчэнняў, чысцей падаюць «гістарычны голас»: *дзіў, завід, лек, магут, нізь, падмур, світ, узгор* і інш. «Як дамоўку спускаюць вяроўкамі... // Ажно **дзіў**, які важны спачын: // Глыбіня, шырыня дапасованы, // Не дагодзіць так бацьку і сын» («Грабар»). «Так патухла іх імя, // Дый праз **завід,** ці што, // Не заплакаў над імі // І нідзе, і ніхто» («Ён і яна»). «Як у прошчу па **лек** стане йсці чалавек // К мохам высланай крушні камення,— // Ад звана чарапок, цэглы — муру кусок — // Будуць несці падмогу ў цярпенні» («Песня званара»). «А ваякі ўсе яны сусветныя: // Там і **магуты,** й шальберы, // І татраны упобач з равугамі; // Там тапчакі і альберы» (пераклад «Слова аб палку Ігаравым»). «На высокай гарэ, дзе ніхто не арэ, // Толькі птушка-арол дзе садзіцца, // Там збудую, ўзвяду, **нізі** ўсёй на віду, // Мураваную вежу-званіцу» («Песня званара»). «Аж ад рук і ад хмур вежы рухне **падмур,** // Толькі розгалас пойдзе на полі» («Песня званара»). «**Світы,** захады крыляцца, // На адной таўкуцца кладцы, // Цемра вабе згубным дном...» («Знямога»). «Ліло, як з рэшата, дажджом, // Раўняла нізкі дол з **узгорам,** // І лес і поле абняло, // Як пеклам, як шалёным морам» («Паляўнічы і пара галубкоў»).

Асаблівасць купалаўскай мовы — назоўнікі жаночага роду з суфіксам *-ін-,* якія ідуць з мясцовых гаворак: гурбіна, дзяніна, дравіна (дравінка), жывіна, жыліна, кабыліна, магіліна, сасніна, скібіна, слязіна, стральбіна, яміна.

Павялічыць сэнсавую і эмацыянальную напоўненасць слова дапамагае змена формы ліку. Абстрактныя назоўнікі, якія ў беларускай мове звычайна адзіночнага ліку, у Купалавых вершах нярэдка ўжываюцца ў форме множнага: «Бяссмертнае слова, ты, роднае слова! // Ты крыўды, **няпраўды** змагло» («Роднае слова»). «...Каб чорныя **долі** з мяцеліцаў **шумамі** // Ўжо больш не шалелі над роднай зямлёй» («Мая малітва»). «Праўда, поўны **сумаў** весці // Буйны вецер нам прыносіць» («Хай жа вам так не здаецца»). «Дзіўна вам, што часам з **нудаў** // Заглядаю у карчомку» («Калека»).

Адзначым і такую марфалагічную адметнасць: назоўнікі жаночага роду трэцяга скланення ў творным склоне адзіночнага ліку часта маюць канчатак *-ай (-яй): ночай, радасцяй, Беларусяй* і пад. «Лісцікі **зеленяй** хваляцца // Небу панятлівай мовай...» («Явар і каліна»). Такія ўжыванні адлюстроўваюць нормы беларускай літаратурнай мовы да рэформы правапісу 1933 года.

Лексічная і граматычная варыянтнасць у творах Янкі Купалы — гэта перш за ўсё вынік неўсталяванасці літаратурнай мовы. Трэба ўлічваць і тое, што за дзесяцігоддзі ў мове адбыліся змены. Аднак вельмі важна, што такое багацце і разнастайнасць моўных адзінак зафіксавана ў самай аўтарытэтнай крыніцы — Купалавых творах, адкуль патрэбнае слова ці сінтаксічная канструкцыя можа быць узята, калі на іх з'явіцца попыт. Напрыклад, ужываюцца формы дзеяслова тыпу *гадаваны, калыханы, неспыняны, паганяны* са значэннем залежных дзеепрыметнікаў цяперашняга часу: «**Калыханы** ветрамі // Дый на ўсе староны, // Стогне дуб сярод поля, //Стогне дуб зялёны» («Дуб»). «Доляй **мучаны** паганай, // След слязой пачнеш крывавіць; // Крыжам ляжаш распластаны, // На сваім абы паставіць» («Крыжы»). Такія дзеепрыметнікі — не толькі асаблівасць стылю народнага паэта, але і характэрная рыса беларускай мовы. Згаданыя формы дзеяслова патрабуюць большай увагі пісьменнікаў, журналістаў.

Стылістычны дыяпазон Купалавай мовы шырокі. Ужо не раз падкрэслівалася натуральнасць яе будовы і гучання, высокая ступень эмацыянальнасці. Гэтыя рысы ідуць ад прыроды таленту мастака, улюбёнага ў Беларусь, у чалавека працы, ад жывой гаворкі народа і фальклору — урадлівай глебы, на якой прарасло і расквітнела паэтава слова: «Я грудзямі прыльну к **сенажатцы**, // Маліць стану даваць больш **сянца**» («Як пайду я, пайду...»). «Прыйшла зіма халодная, // **Нягодная** зіма,— // Цярпі, **зямелька родная**, // Няма жыцця, няма» («Зіма»). «Ці вас [думкі-весялушкі] выараў сахою // На шнуры **вузенькім**? // Ці вас выкасіў касою // На сіўцы сівенькім?» («Да сваіх думак»). «Натачы, **кавалёк**, // Вострым-востра **сярпок**, // Адпусці, назубі, загартуй...» («Зажынкі»). Далей у вершы — нанізванне формаў суб'ектыўнай ацэнкі, якія рыфмуюцца: шнурок, каласок, грамок, дажджок, хлябок, снапок, крыжок, бедачок, тачок. Дзякуючы канцэнтрацыі назоўнікаў з памяншальна-ласкальным суфіксам *-ок (-ёк)* ствараецца мастацкі кантэкст светлай, аптымістычай танальнасці, перадаецца настрой нецярплівага чакання жніва, пачуццё любасці да зямлі-маткі, непарыўнай сувязі працоўнага чалавека з навакольным светам.

Часта верш нагадвае даверлівую, шчырую гутарку: «Эй, скажы, мужычок, // Дзе ты долю падзеў? — // Ці ўтапіў ў ручаёк, // Ці прапіў, ці праеў?» («Эй, скажы, мужычок!..»).

У цэлым паэзіі Янкі Купалы ўласцівы глыбокі лірызм: «Шумныя бярозы // Пабяліў мароз. // Хацеў бы я плакаць, // Дый не маю слёз» («З песень нядолі»). «Песняй вясны лебядзінаю, // Скінуўшы зімнія чары, // Шэпчуцца явар з калінаю // Ў сумнай даліне над ярам» («Явар і каліна»).

Шмат якія творы маюць выразна публіцыстычнае гучанне. Ла-

канічнымі, амаль лозунгавымі фразамі беларускі селянін прамаўляе: «І кожны, хто мяне спытае, // Пачуе толькі адзін крык: // Што хоць мной кожны пагарджае, // Я буду жыць! — бо я мужык!» («Мужык»).

Поклічнае, мужнае і адначасова шчырае, адкрытае слова песняра было з народам на ўсіх гістарычных паваротах. У вершы «Касцам» (1908) ён гукаў-клікаў:

Дзе вы, брацці-ўдальцы, дзе вы, хлопцы-касцы?
Гэй, дакуль на вас трэба чакаць?
Час вам косы кляпаць, час вам на сенажаць,
Час вам сілу сваю паказаць!

Не страціла сваёй палымянасці і вастрыні Купалава слова і ў гады жыццёвай сталасці паэта:

Партызаны, партызаны,
Беларускія сыны!
За няволю, за кайданы
Рэжце гітлерцаў паганых,
Каб не ўскрэслі век яны.

(*«Беларускім партызанам»*)

У адпаведнасці з мастацкім заданнем Купалавы радкі гучаць прыўзнята-ўрачыста, эпічна шырока і раскоціста:

Паміж пустак, балот беларускай зямлі,
На ўзбярэжжы ракі шумнацечнай,
Дрэмле памятка дзён, што ў нябыт уцяклі,—
Ўдзірванелы курган векавечны.

(*«Курган»*)

Творчая манера Янкі Купалы грунтуецца на цесным спалучэнні рэалізму (абмалёўка побыту, характараў, што ажыццяўляецца пераважна сродкамі жывой гутаркі і фальклору) і рамантызму (паказ «незвычайных» герояў, бязмежнага палёту думкі, фантазіі, мары; тут значную ролю адыгрывае індывідуальная моватворчасць).

Зразумела, паэт не абыходзіцца без слоў, фразеалагізмаў, сінтаксічных канструкцый кніжнай мовы: «Для беларускіх грамадзян байцом, слугой // Так шчырым быў, а грамадзяне — // Эх! ніткаю к пятлі плацілі не адной...» («Памяці С. Палуяна»); «Сцежку хутчэй ідэалам!.. // Квецься, палай, хараство! // Куйся, зарнічная хвала, // Вечная радасць, дабро!» («Жальцеся, грайкія струны...»).

Кніжная плынь Купалавай мовы знайшла працяг у вершах і паэмах савецкага часу.

Новае, што ўзнікае ў жыцці і мове беларускага народа, заканамерна адлюстроўваецца ў творах паэта. Але пры гэтым не слабее апора на скарбы вуснай народнай творчасці і жывога маўлення. Як ідзе мастацкае асваенне рэчаіснасці з дапамогай традыцыйных моўных сродкаў, можна бачыць на вершах «Алеся», «Лён», «Хлопчык і лётчык», «Я — калгасніца...», «Дзве дзяўчыны».

Закончым артыкул выказваннем Кузьмы Чорнага, якое трапна акрэслівае галоўную лінію ў мастацкай дзейнасці Янкі Купалы: «Творачы сваё паэтычнае слова з мовы народнай, паэт узводзіў родную мову ў новую якасць, у якасць мовы літаратурнай. Збіраючы моўны скарб, паэт нават самыя «этнаграфічныя» і «мясцовыя» элементы ягоператвараў у новае гучанне».





# СЯРОД КНІГ

ВАСІЛЬ
ШУР

## БЕЛАРУСКІ ЭТНАС У КАРТАХ І КАМЕНТАРЫЯХ

Е. Е. Ширяев. **Русь Белая, Русь Черная и Литва в картах.** «Навука і тэхніка», 1991.

Імя Яўгена Шыраева, члена Маскоўскага таварыства беларускай культуры імя Францыска Скарыны, прафесара, доктара тэхнічных навук, вядомага вучонага ў галіне аўтаматызацыі пераўтварэння і аналізу картаграфічнай інфармацыі і аэракасмічных здымкаў, досыць аўтарытэтнае і сярод гісторыкаў, этнографаў, лінгвістаў, якія даследуюць ўзаемадзеянне балта-славянскіх этнасаў, асабліва ў межах беларуска-польскага, беларуска - літоўскага, беларуска - латышскага, беларуска - рускага сумежжа.

Пабуджальнымі матывамі для аўтара гэтай кнігі былі падзеі, звязаныя з дзейннямі нацыяналісцкіх па-экспансіяністцку настроеных польскіх і літоўскіх колаў, што прэтэндуюць на асобныя беларускія землі. Дзеля гэтага імі выкарыстоўваюцца фальсіфікаваныя этнаграфічныя і іншыя карты і статыстычныя звесткі, што з'явіліся ў перыяд паміж першай і другой сусветнымі войнамі як вынік выгадных кан'юнктурных момантаў у палітычнай гісторыі тагачаснай Літвы і Польшчы.

Гэтая кніга напісана з любоўю, па манеры выкладу матэрыялу, арыентацыі ў ім відаць, што даследчык вывучаў і добра знаёмы з разнастайнай айчыннай і замежнай літаратурай па згаданай праблеме. Навізна фактаў, асабліва ўзятых з замежных крыніц, даступнасць і пераканальнасць вывадаў, на нашу думку,— істотная вартасць гэтай працы.

У прадмове да кнігі Алесь Адамовіч, адчуваючы далікатнасць пастаўленых на парадак дня праблем, адзначаў, што кніга Я. Шыраева вылучаецца пераканальнасцю, дакументальнасцю і пры гэтым некатэгарычнасцю. Яна дае прастору для абмеркавання, узгаднення розных пунктаў гледжання, тонам і манерай выкладу яна інтэлігентная і навуковая. Таму што важная не толькі ісціна, але і тое, як яна выкладаецца, які твар у гэтай ісціны, бо вельмі стаміліся мы і краіна ад агрэсіўнасці і злосці...

Ствараючы кнігу пра беларусаў, Я. Шыраеў спецыяльна падкрэслівае, што наш народ з надзвычай трагічным лёсам, з невымерна вялікай колькасцю ахвяр; ён мае багатую і самабытную культуру, мову, аднак гэтыя набыткі ў выніку шматлікіх трагічных абставін падчас зусім не вядомыя сярод беларусаў або сталі прыналежнасцю іншых народаў, іншых культур.

З карт, сабраных Я. Шыраевым, відаць, што ні адна этнічная тэрыторыя ў Еўропе не падпадала такому перакройванню, як Беларусь. І на сённяшні дзень даволі значная частка спрадвечна беларускіх земель у выніку вялікадзяржаўных інтарэсаў суседніх краін (у асноўным Польшчы, Літвы, Расійскай імперыі і СССР) разарвана па жы-

вому і ўваходзіць у склад суседніх дзяржаў. На жаль, гэтыя трагічныя старонкі з гісторыі нашага народа яшчэ не ў поўнай меры асэнсаваны пераважнай большасцю яе насельнікаў, не кажучы ўжо пра беларусаў, што жывуць за межамі сучаснай Беларусі, бо, як справядліва адзначана ў прадмове, Беларусь — тая анамальная рэспубліка, многія грамадзяне якой сваю культуру і гісторыю падчас ведаюць не больш, чым яе суседзі. Для астатняга ж свету яе гісторыя — гэта малавядомая старонка ў агульнай гісторыі народаў.

У кнізе з выкарыстаннем карт, а таксама разнастайных поглядаў і меркаванняў тлумачацца наступныя найбольш вядомыя назвы-этнонімы нашай радзімы: Русь Белая, Русь Чорная і Літва, аўтар падрабязна спыняецца на такіх пытаннях, як славянізацыя балтаў; беларускі этнас; аб пераемнасці назваў і экспансіяніскай палітыцы суседзяў. Новае слова ў вывучэнні беларусістыкі — гэта набор і каментарыі да шматлікіх этнаграфічных і лінгвістычных карт, большасць якіх складзена не беларусамі і не прадстаўнікамі суседніх з Беларуссю народаў, а ў асноўным нямецкімі, аўстрыйскімі, галандскімі, англійскімі вучонымі. Каштоўнасць такіх карт у тым, што іх складальнікі былі аб'ектыўнымі рэгістратарамі рэчаіснасці, бо прадстаўлялі краіны, якія тэрытарыяльна не былі зацікаўленыя беларускімі землямі. Аўтар кнігі не ставіў задачу распаліць нацыянальныя спрэчкі, стварыць у цэнтры Еўропы новы Карабах. Пра гэта ж сведчыць і яго артыкул у газеце «Звязда» «Чыя Віленшчына? Хай рассудзіць ААН», апублікаваны ў пачатку гэтага года.

Як сціпла адзначана ў прадмове, аўтар зрабіў спробу з дапамогай старажытных і сучасных картаграфічных і іншых дакументаў і матэрыялаў узнавіць сапраўднасць некаторых фактаў з гісторыі беларускага народа, якому нярэдка адмаўлялася ў праве на самастойнае нацыянальнае існаванне. Цяпер ёсць магчымасць сказаць праўду пра тых беларусаў, якія, не маючы магчымасці памнажаць набыткі свайго народа, унеслі важкі ўклад у сусветную цывілізацыю — у рускую, польскую культуру, навуку. Назавём толькі некаторыя імёны, якія вельмі яскрава гавораць за сябе: Сімяон Полацкі, Іван Фёдараў (Федаровіч), Міхаіл Глінка, Восіп Гашкевіч, Фёдар Дастаеўскі, Адам Міцкевіч, Міхаіл Агінскі, Станіслаў Манюшка, Ігнат Дамейка, Тадэвуш Касцюшка. А вядомыя на ўсё Еўропу магнацкія роды Сапегаў, Глебавічаў, Валовічаў, Тышкевічаў, Астрожскіх, Друцкіх, Саламярэцкіх, Дарагастайскіх...

На жаль, лёс для многіх беларусаў распарадзіўся так, што асобныя імёны мы адкрываем для сябе толькі тады, калі пра іх шырока загавораць у чужых і далёкіх ад нас краінах. Да такіх, напрыклад, належыць Восіп Гашкевіч, якога наўрад ці ведаюць школьнікі цяперашняй Светлагоршчыны, адкуль вядомы дыпламат, падарожнік, вучоны, пісьменнік быў родам. А ў далёкай Японіі яго імя з гонарам згадае кожны культурны чалавек.

Я. Шыраеў дае аб'ектыўную карціну, як фальсіфікавалася беларуская гісторыя на працягу цэлых стагоддзяў. Напрыклад, вельмі тэндэнцыйнымі і неаб'ектыўнымі ў асвятленні беларускага этнасу былі многія польскія карты. На іх, асабліва тых, што выкананы ў 20—30-я гады XX стагоддзя, пададзены значна перабольшаныя звесткі аб колькасці польскага насельніцтва на тэрыторыі этнічнай Беларусі. Аўтары гэтых карт адносілі да польскай нацыянальнасці і беларускамоўнае насельніцтва, калі яно належала да каталіцкай царквы («польскай веры»), што з навуковага пункту гледжання зусім неправамерна і непрымальна. Пададзеныя ў кнізе рускія дарэвалюцыйныя карты ў асноўным аб'ектыўна адлюстроўваюць беларускі этнас. У адрозненне ад іх на савецкіх картах, пачынаючы з 30-х гадоў, звесткі пра аседласць беларусаў у Смаленскай і заходняй частцы Бранскай вобласці фальсіфікаваныя. Яны істотна разыходзяцца з этнаграфічнымі картамі, складзенымі да рэвалюцыі, а таксама з картамі першага дзесяцігоддзя Савецкай улады. Пры супастаўленні палітычных межаў Беларускай ССР з этнічнымі межамі, паказанымі на этнаграфічных картах, складзеных у заходнееўрапейскіх краінах і ў Расіі, выявілася, што тэрыторыя Беларусі абкарнаная з усіх бакоў, асабліва значна з усходу (карты 39, 49, 50, 51). Выключэнне — паўднёвы захад Брэсцкай воб-

ласці, дзе на большасці карт засведчана пашырэнне палескіх гаворак, блізкіх з гаворкамі ўкраінскамоўнага насельніцтва.

У перакройванні па жывому беларускай этнічнай тэрыторыі Я. Шыраеў, як і іншыя даследчыкі, што вывучалі разнастайныя этнічныя аспекты і праблемы этнагенезу беларусаў, бачаць вынік экспансіянісцкай палітыкі дзяржаў — суседзяў Беларусі, за выключэннем хіба Украіны, якія імкнуліся да несправядлівага расшырэння сваіх тэрыторый. Гэта вынік палітычных здзелак, якія заключаліся паміж таталітарнымі рэжымамі, ва ўладзе якіх знаходзілася беларуская зямля, а таксама памылак, звязаных з парушэннем пераемнасці гістарычных этнічных назваў (асабліва назвы Літва), перайменаваннем геаграфічных раёнаў і самога насельніцтва гэтых раёнаў. Апошняе асабліва праяўляецца, калі аналізуецца лінгвістычны матэрыял, зафіксаваны на беларуска-польскім, беларуска-літоўскім, беларуска-латышскім, беларуска-рускім моўным пагранiччы і шырока прадстаўлены ў такіх фундаментальных працах, як пяцітомны «Слоўнік паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча», падрыхтаваны супрацоўнікамі Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН Беларусі пры ўдзеле літоўскіх і польскіх калег, «Словарь народных говоров Западной Брянщины», складзены вядомым беларускім і рускім мовазнаўцам П. Растаргуевым, «Смоленский областной словарь» В. Дабравольскага, і інш.

Пастаўленыя Я. Шыраевым пытанні хвалююць грамадскасць, бо яны вострыя і надзённыя. Напрыклад, газета «Звязда» за апошні час змясціла матэрыялы, прысвечаныя Віленскаму краю — тэрыторыі, якая на працягу некалькіх стагоддзяў была калыскаю беларускай дзяржаўнасці, а Вільня ў гісторыі і культуры ўсяго славянства, асабліва ўсходняга, займала адметнае месца, была своеасаблівай славянскай Меккай. Воляй палітыкаў гэтая тэрыторыя цяпер не беларуская, хоць многім вядома, што ўжо з восьмага стагоддзя там шчыльна жылі славяне-крывічы. Горад Вільню, заселены русінамі, ужо ў XIV стагоддзі ўпамінаюць шматлікія замежныя падарожнікі, купцы. Пра гэты спрадвечны беларуска-славянскі Віленскі край сведчаць і афіцыйныя звесткі аб перапісе насельніцтва за 1897 год. Тады там пражывала 57 працэнтаў беларусаў, 8 — палякаў і 17 — літоўцаў, якія ў асноўным жылі на самым сумежжы з этнічнай Літвой. На большай частцы Віленшчыны і ў самой Вільні літоўскае (летувісцкае) насельніцтва не перавышала аднаго працэнта.

Віленскі край не ўваходзіў у склад Літоўскай рэспублікі і быў далучаны да яе толькі ў 1939 годзе ў выніку закулісных здзелак сталінскага кіраўніцтва з Германіяй і Літвою як адзін з этапаў сумна вядомага пакта Рыбентропа — Молатава.

Улічваючы гэтыя і многія іншыя фактары, група беларускіх вучоных, пісьменнікаў, дзеячаў культуры звярнулася да Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь з прапановамі абмеркаваць набалелае пытанне на прадмет перагляду і прызнання незаконнасці і антыдэмакратычнасці актаў урадаў СССР, з аднаго боку, і Літвы — з другога, па дзяржаўным размежаванні паміж Літвою і Беларуссю, што былі заключаны без удзелу прадстаўнікоў беларускага народа і без уліку народнага волевыяўлення. Улічваючы рэаліі сённяшняга дня, вярхоўным уладам абедзвюх рэспублік — Літвы і Беларусі прапануецца стварыць сумесную камісію па распрацоўцы кампраміснага варыянта будучага ўладкавання Вільні і Віленскага краю (статус самакіравання, свабоднага горада, незалежнай ад Літвы і Беларусі зоны або аўтаноміі) з запрашэннем экспертаў-назіральнікаў Савета Бяспекі ААН.

У гэтых і іншых міжнародных, міжэтнічных праблемах, што ўзнікаюць цяпер, надзвычай актуальная і карысная будзе і грунтоўная праца Я. Шыраева «Русь Белая, Русь Черная и Литва в картах», што выйшла якраз у наш складаны і супярэчлівы час. Яе з поспехам можна выкарыстоўваць у вышэйшай школе пры падрыхтоўцы беларускіх нацыянальных кадраў усіх профіляў; яна з цікавасцю будзе ўспрымацца ўсімі, каго хвалююць праблемы станаўлення і развіцця беларускай нацыі, яе духоўнай і матэрыяльнай культуры. Арыгінальнасць яе і ў тым, што пра гісторыю беларускага народа расказана надзвычай пераканальна, а галоўнае, праўдзіва.

АЛЕСЬ
МАРЦІНОВІЧ

# НАЗВАЦЬ СУМЛЕННЕ ШЧАСЦЕМ...

А л а  К а б а к о в і ч. **Пасеянае ўзыходзе.** Вершы. Пераклады. Літаратурна-крытычныя артыкулы. «Мастацкая літаратура», 1991.

Не сказаць каб Ала Кабаковіч не была заўважанай пры жыцці. У яе выйшла кніга «Паэзія Максіма Багдановіча», а ў калектыўным зборніку «Паэзія абнаўлення свету», падрыхтаваным навуковымі супрацоўнікамі Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы, было змешчана даследаванне «Ідэйна-стылявыя пошукі беларускай паэзіі 20-х гадоў». Шмат друкавалася А. Кабаковіч у рэспубліканскай перыёдыцы, у тым ліку і на старонках «Полымя». Нарэшце, у 1984 годзе пабачыла свет яе манаграфія «Беларускі свабодны верш». Але, на жаль, праз некалькі месяцаў аўтаркі — крытыка і даследчыка, паэтэсы — не стала.

Я не агаварыўся, хоць правільней сказаць: і паэтэсы таксама. Незадоўга да смерці А. Кабаковіч закончыла навуковую працу «Анталагічныя і фальклорныя традыцыі ў беларускай паэзіі», а яшчэ мелася прапанаваць выдавецтву «Мастацкая літаратура» зборнік вершаў і крытычных артыкулаў. Цяпер кніга прыйшла да чытача. Канечне, у пашыраным выглядзе, бо, па сутнасці, гэта ўжо і выбранае: вершы, пераклады, літаратурна-крытычныя артыкулы. Выбранае ёсць выбранае. Сабрана лепшае, але далёка не ўсё, прынамсі, аб'ём не дазволіў уключыць сюды згаданыя вышэй публікацыі (хоць артыкулы пра Максіма Багдановіча і белы верш успрымаюцца як фрагменты больш грунтоўных навуковых прац даследчыцы).

Пра мёртвых ці добрае, ці нічога... Гэта якраз той выпадак, калі няма неабходнасці падкарэкціроўваць свае ацэнкі. Ёсць мажлівасць гаварыць па высокім рахунку пра літаратуру, патрабавальна ставячыся да таго, што было напісана таленавіта, а ў дачыненні да рэцэнзій і артыкулаў — з добрым мастакоўскім густам. Ведаючы асобныя рэаліі жыцця А. Кабаковіч, можна лепш зразумець і адчуць падтэкст твораў, найперш, зразумела, паэтычных, пра якія падрабязна расказвае ў прадмове «Жыццядайнасць» Міхась Тычына.

Нарадзілася А. Кабаковіч на Драгічыншчыне, у вёсцы Гутава. Бацьку, падпольшчыка, немцы расстралялі. Пасля вайны А. Кабаковіч скончыла універсітэт, затым — Літаратурны інстытут імя Горкага ў Маскве. Гэта, так сказаць, асноўныя штрыхі жыццяпісу. Многае ж, больш удакладненае — у вершах. Мо нават і не ўдакладненае, а паглыблена асэнсаванае. Свае пачуцці ў паэзіі яна выяўляла і па-беларуску, і па-руску. У вершах А. Кабаковіч, канечне, шмат уласна перажытага, прытым яшчэ з гадоў маленства: «Маркотна туманяцца далі, што вечар, што восень, што час той цячэ. А маці мая, удава маладая, смяецца і дзічкі у прыску пячэ». І «Святло Радзімы» (так называецца адзін з яе вершаў), вядома ж, бярэ пачатак з роднай вёскі:

Над Гутавам маім
Стаяла Мілавіца,
Цвіў белым цветам бэз,
А месяц — бляскам рос,
Каб маладосць мая
Паспела надзівіцца
На прыгажосць крыла,
Што ахінула лёс.

Колькі аўтараў, напісаўшы які дзесятак падобных твораў, ужо настырна стукаліся ў дзверы Саюза пісьменнікаў. Ала Кабаковіч — пісала для сябе, знаходзячы ў паэзіі аддушыну, у пэўнай ступені адыходзячы ад тлуму паўсядзённасці. Гэта, аднак, не значыць, што аўтарка свядома імкнулася абысці вострыя, драматычныя моманты. Наадварот, яна спрабавала знайсці глыбінную сутнасць дабра і зла, радасці і гора, жыцця і смерці. І гэта ёй удавалася. Для прыкладу, гэты верш: «У адной вадзе мыюць мёртвых і немаўлят — ідэал цярплівасці. Сонца п'е з ракі жыцця адну чысціню. Не ўмеючы, падраблюся — пішу вершы». Як бачна з завяршэння твора, паралель з уласнай творчасцю — толькі сціплы роздум пра свае паэтычныя намаганні.

Талент заўсёды сціплы ў сваім выяўленні. Прынамсі, тады, калі неабходна як бы пастаяць за сябе. Маўляў, гэта іншыя вершы пішуць, а я ж — крытык. Таму — толькі

практыкаванні, і не болей... Практыкаванні? «Прыходзіць ранак, такі прывабны, такі пяшчотны, як твая шчака ў промнях сонца...»

І гэткая адкрытасць, радасць, чуйная ўважлівасць у той час, калі сэрца гняла пастаянная туга-прадчуванне, пра што верш «Поле»: «Калі я ведаю здавён, што мне за доля. І немінучае маё мяне чакае. Гайдае вецер палыны, жыты гайдае». Паэтэса задумвалася над уласным лёсам і як бы спрабавала глянуць далёка наперад, пачаць жыццё ў нейкім новым, незразумелым кожнаму з нас, вымярэнні,— незразумелым, але такім, да якога ўсе мы, бадай, імкнёмся:

Цяпер, калі я ведаю самоту,
Як поле жнівень,
Перажыву свае сонцавароты
З цярплівасцю зярняці і травы.
Забыўшыся на вечны холад слоў,
На зменлівасць і шчасця, і адчаю,
Я калі-небудзь нараджуся зноў,
Але не ўсіх па імені пазнаю.

Кніга «Пасеянае ўзыдзе», па сутнасці, ёсць тое «другое нараджэнне», дзённік лёсу. Сваё, асабістае заўважаецца і ў літаратурна-крытычных артыкулах А. Кабаковіч. Яна разважае пра асаблівасці і адметнасці паэзіі, асабліва прадстаўнікоў свайго пакалення. У адной з самых ранніх, пазначаных яшчэ 1972 годам, публікацый «Каб муза па начах будзіла» Алы Кабаковіч няцяжка заўважыць і схільнасць ахапіць неабдымнае — нейкіх пяць-шэсць старонак машынапісу, а замах у думках на вялікі артыкул, але за гэтай усеахопленасцю праступае і важнае, што сведчыла аб раннім вызначэнні аўтаркаю сваіх арыенціраў. «Паэзія ніколі не была і не магла быць прыватнай справай. З імёнамі Дантэ, Шэкспіра, Руставелі, Пушкіна мы звязваем адзнакі пэўнага часу, чалавечых адносін і пачуццяў, нацыянальнай культуры цэлага народа. Гаворачы пра лірычнага героя Багушэвіча альбо Багдановіча, Купалы альбо Коласа, мы ўяўляем канкрэтны сацыяльны тып чалавека не толькі пэўнага часу, але і з рэальнымі асаблівасцямі мыслення і мовы, постаці і нават адзення»,— пісала А. Кабаковіч. Адразу ж адчувала, што сямутаму не спадабаюцца падобныя аналагі, таму, не чакаючы наступу, уступала ў спрэчку: «Не хацелася б, каб хто-небудзь з тых, каго сапраўды хвалюе стан нашай сучаснай паэзіі, паморшчыўся ад гэтых гістарычных аналогій,— маўляў, пра што гутарка... Гутарка ідзе пра беларускую літаратуру, якая імёнамі сваіх лепшых талентаў выйшла на сусветную арэну...»

Задзірыста? Са старэйшымі «ў рожкі»? Не без гэтага, як кажуць. Сцвярджэнне вядомага, у чым ніхто не сумняваецца: «імёнамі сваіх лепшых талентаў выйшла...»?! Што было, дык было. Але зноў жа хачу вярнуцца да таго, з чаго і пачаў. А. Кабаковіч з першых крокаў засвоіла для сябе ісціну, да якой абавязкова павінен прыйсці кожны, хто піша. Найбольш той, хто дае ацэнкі іншым: «Паэзія (чытай «літаратура») ніколі не была і не магла быць прыватнай справай». І імкнулася, каб уласная творчасць не разыходзілася з дэкларацыямі. А тут, бадай, і цяжэй было, таму што неабходна пераступіць мяжу, што падзяляе імкненне да ведання прадмета гаворкі ад самога ведання. І яна пераступіла яе. Як бы мімаходзь сказана ў артыкуле «Дзяўчынка на шары», прысвечаным творчасці Р. Баравіковай і напісаным ужо ў 1983 годзе, аб асаблівасцях уваходжання ў літаратуру. І Р. Баравіковай, і Л. Філімонавай, і І. Ласковай, і яе, А. Кабаковіч, бо паехалі яны тым годам у Маскву разам.

Можна сказаць, А. Кабаковіч пашанцавала, што яе літаратурным настаўнікам у інстытуце стаў Леў Озераў. У тым жа артыкуле «Дзяўчынка на шары» яна не прамінае выпадку, каб не згадаць «азёрную школу», прамовіўшы словы ўдзячнасці і падзякі: «Леў Озераў, уважлівы і нават самаахвярны ў сваіх намаганнях «адукаваць» пераважна вясковых «семінарыстаў» з Беларусі, чаго толькі не перапрабаваў з гэтай мэтай! Паэзія самага шырокага дыяпазону — ад старажытнагрэчаскай да навейшых публікацый, айчынная, замежная, у лепшых перакладах і ў арыгінальным гучанні,— вучыся, прымервай, спрабуй...»

Вучні аказаліся вартымі свайго настаўніка. А. Кабаковіч — тым больш. Найперш, калі ставіцца да напісанага ёю ў крытыцы і літаратуразнаўстве з пазіцый, да якіх набліжаў сваіх выхаванцаў Л. Озераў,— пазбаўленне ад густаўшчыны і валоданне бездакорным густам. Мастацкім, эстэтычным, крытычным. Патрабавальнасць, але — не выбарачная, калі «сваім» можна

зрабіць і паблажку, а «чужых» і ні за што «аблаяць». Ужо з артыкула «Дзяўчынка на шары» бачна, як адчувае А. Кабаковіч паэзію. Хоць і піша пра творчасць таварышкі, але не злоўжывае дзяжурнымі камплі-ментамі, а вызначае адметнае. Спрабуе — і гэта ёй удаецца — зразумець саму прыроду таленту паэтэсы. І сам вобраз «дзяўчынкі на шары», што ўзяты з аднаго з вершаў Р. Баравіковай, таксама ўжыты невыпадкова. За ім — здзіўляючая лірычнасць, нейкая безабароннасць гераіні перад светам і людзьмі, тая рамантычнасць, якая з гадамі не праходзіць і не губляецца. Адчула гэта А. Кабаковіч ужо тады, на пачатку творчага шляху Р. Баравіковай. Я ж, прызнаюся, рэцэнзуючы некалі першую кнігу гэтай паэтэсы «Рамонкавы бераг», гэтага не заўважыў, напісаў нешта пра адсутнасць у Р. Баравіковай грамадзянскіх матываў. Не ў апраўданне пра гэта кажу, а каб яшчэ раз падкрэсліць, што ў асобе А. Кабаковіч мы мелі таленавітага крытыка.

А наконт пазбаўлення ад густаўшчыны? •Пра якую густаўшчыну можа ісці гаворка, калі што ні артыкул А. Кабаковіч, дык згадваюцца дзесяткі прозвішчаў. І старэйшых паэтаў, і маладзейшых. Ды і рэцэнзавала А. Кабаковіч кнігі не «прымерваючыся», а перш за ўсё маючы на ўвазе вартасць саміх твораў. Разгорнуты тэматычны і жанравы дыяпазон твораў шматлікіх аўтараў таксама дазваляе гаварыць аб яе творчай «угрунтаванасці».

Калі пісала, кіравалася сумленнем. Між іншым, невыпадкова ў Кабаковіч ёсць верш «Пахвала сумленню»:

О, не дай Бог!
Калі мой горкі вопыт
У талацы людской
Не дасць назваць
Сумленне шчасцем,
Не дасць даверыцца
Ні дабраце, ні ласцы,
То што тады асвеціць клопат
Пра хлеб надзённы мой?

«Назваць сумленне шчасцем...» Як ні дзіўна, не кожны нават задумваецца над падобнай магчымасцю. А шкада, бо як бы ў такім разе пабольшала дабрыні на зямлі. Калі ж казаць канкрэтней, увязаўшы з задачамі крытыкі, дык, мяркую, трапілі б у поле зроку многія творы і аўтары, якія чамусьці «забываюцца». Пра гэта А. Кабаковіч выказалася яшчэ ў 1979 годзе, калі, гаворачы пра А. Разанава («Права на складанасць»), не ізалявала яго ад іншых: «У творчасці Алеся Разанава найбольш радыкальна і з найбольшымі выдаткамі адлюстраваліся пошукі цэлай генерацыі паэтаў апошняга дзесяцігоддзя, сярод якіх імёны *Уладзіміра Някляева* і *Яўгеніі Янішчыц*, Сяргея Панізніка і Генадзя Пашкова, Раісы Баравіковай і Валянціны Коўтун, Мар'яна Дуксы, Казіміра Камейшы, Алега Салтука. Відавочна, што наша крытыка вельмі неаператыўна падыходзіць да асэнсавання творчых здабыткаў названых паэтаў».

Крытык, безумоўна, знаходзіцца ў менш выйгрышным становішчы перад будучыняй, чым прадстаўнікі іншых жанраў. Канечне, і ў паэтаў дэкларацыйныя творы хутка адыходзяць у нябыт. Але ж гэта тычыцца асобных твораў. Крытыка ж глядзіць на літаратуру і жыццё канцэптуальна. І не яе віна, а яе бяда, калі ў грамадстве адбываюцца важныя зрухі, якія вядуць несумненна да пераацэнкі каштоўнасцяў. Мяняюцца розныя «ізмы», а тут ужо знаходзяцца ахвочыя папракаць таго ці іншага аўтара, што і празмерна рамантызаваў сацыялістычную рэчаіснасць, і станоўчым героем захапляўся. Сёй-той, пры жаданні, нешта падобнае знойдзе і ў А. Кабаковіч. Нават у адным з апошніх яе артыкулаў «Ці пазнаем мы яго? (1984), у якім аўтарка спрабуе прадугадаць заўтрашняга героя нашай літаратуры: «Што ж рабіць пісьменнікам, якія валодаюць дарам бачыць будучыню, яго чытачам, крытыкам? Адказ просіцца ў радок адзін. Стварыць сапраўднага станоўчага героя, з аднаго боку, а з другога — пазнаць і прыняць яго. Гэта значыць — матэрыялізаваць ідэю».

Усё да месца, калі б толькі не гэтае — «сапраўднага станоўчага героя»... Як баімся мы цяпер гэтай станоўчасці, як выступаем супраць яе. Найперш тыя, хто зусім нядаўна прымерваў метад «сацыялістычнага рэалізму» да літаратурнага працэсу. А мо проста выкінем адно-адзінае слова і ўжо, глядзіце, атрымалася: «стварыць сапраўднага героя». Значыць, усё ў парадку. І няважна, хто будзе гэты герой. Таталітарнік ці дэмакрат, камуніст ці прадстаўнік іншай партыі, сем'янін ці халасцяк... Важна, каб ён быў сапраўдным чалавекам. Урэшце такога героя і мела на ўвазе А. Кабаковіч, калі пісала

свой артыкул «Ці пазнаем мы яго?», адзін з нямногіх, у якім яна «здраджвала» паэзіі і асэнсоўвала набыткі прозы.

Аднак пра што я? Ды ўсё пра тое, што артыкулы і рэцэнзіі А. Кабаковіч вытрымліваюць выпрабаванне часам. А паэзія? Паэзія — вечная, калі жыццёвая. За такую паэзію і выступала А. Кабаковіч. Такую паэзію і яна сама пісала. Наколькі дазваляў талент. Наколькі адпускалі ад сябе іншыя абавязкі.

...Адкрываю старонку, на якой загадзя зрабіў закладку. Адтуль, з небыцця, але і з вечнасці адначасова — чуцен голас А. Кабаковіч:

Я буду ўдзячна таму,
Хто мяне назаве
Маладой,
Бо толькі ў веку маім
Вядома цана маладосці.

Маладой, зусім яшчэ юнай прыйшла яна ў літаратуру. Маладой заставацца ёй у літаратуры. Маладой... Бо хіба гэта шмат — усяго нейкія сорак два пражытыя гады?!





# ДЗЯДОЎНІК НА ПАРНАСЕ

МІХАСЬ РАПІРА

## «ЛЕБЯДЗІНАЯ» ВЕРНАСЦЬ Міхася Скоблы

*Клямкі ніхто не падыме.*
*Вокны забіты бядой.*
*Дзе ж ты пайшла, гаспадыня?*
*Кветнік зарос лебядой.*

*М. СКОБЛА «Зэльвенская мроя», 1987 г.*

*Клямкі ніхто не падыме,*
*кветнік зарос лебядою.*
*Дзе ж ты пайшла, гаспадыня?*
*Сцежкаю поруч з бядою.*

*М. СКОБЛА «Зніклі альвасы. І вата...», 1990 г.*

Помню —
Некалі было! —
Да абеду з ранку
Я ў калгасе прапалоў
Не адну дзялянку.

І шчаслівы старшыня,
Сеўшы на каняку,
Мой прэстыж
Тады падняў:
Аб'явіў падзяку...

Пустазелля лепет той
Прыгадаю першы —
Нібы кветнік,
Лебядой
Зарастаюць вершы.

## Пасля магазіна

*Хоць і падобны, але не такі.*
*Горадам ходзяць твае двайнікі.*

*ГАЛІНА КАРЖАНЕЎСКАЯ*

Я не дарэмна пайшла ў магазін:
Мяса няма, ды ёсць вершык адзін.

Несла дахаты свой сціпленькі верш,
Раптам, гляджу, ты насустрач ідзеш.

Блізіцца твой заклапочаны твар:
Не атаварыў, відаць, ганарар.

Вершы, як ты, не ацэніць ніхто...
Джынсы твае, і твае паліто,

Шапка твая, і твой стан, і шнуркі...
— Мілы мой, свежыя слухай радкі!..

Вочы твае, і твае валасы,
Голас: — Я свежай хачу каўбасы! —

Хоць і падобны, але не такі.
Горадам ходзяць твае двайнікі.

## Ахвяраванне

*Яна спынілася перада мной,*
*І ўсё забылася — і сын, і жонка...*
*. . . . . . . . . . . . . . .*
*Страшна! Бо часам хвілінне вышай,*
*Вышай за жонку тваю, і за сына,*
*І за ўсе вершы з дзвюх тваіх кніжак.*

ЛЕАНІД ДРАНЬКО-МАЙСЮК

Яна спынілася (мой густ!),
Калі лунаў у высях,
Зірнула — і, нібыта Руст,
Знячэўку прызямліўся.

Не дзіва, што не засяклі
Нас жончыны радары.
Сябры ўсміхаюцца:
— Уліп:
З памадаю на твары...

А дома страшны сон сасню,
Што я — ушчэнт цвярозы —
Кідаю вершы і сям'ю
Дзеля жыццёвай прозы...

---

*Да ведама аўтараў*

***Аўтары апублікаваных матэрыялаў у адпаведнасці з Законам аб друку нясуць адказнасць за дакладнасць прыведзеных фактаў і звестак.***

***Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункту гледжання аўтара.***

***Рукапісы не рэцэнзуюцца і аб'ёмам да двух друкаваных аркушаў не вяртаюцца.***

**Ва ўсіх выпадках паліграфічнага браку ў экземплярах часопіса звяртацца ў друкарню.**
**Пытаннямі падпіскі і дастаўкі часопіса займаюцца аддзяленні «Саюздруку».**

Тэхнічны рэдактар **Г. У. Скакун.**

Карэктары: **М. І. Гусева, Н. І. Кукіна, З. К. Надумовіч.**

Здадзена ў набор 08.05.92. Падпісана да друку 22.06.92. Фармат паперы 70×108 1/16. Друк афсетны. Друк. арк. 16. Ум. друк. арк. 22,4. Ум. фарб. адб. 22,325. Ул.-выд. арк. 21,88. Тыраж 7 540 экз. Зак. 1033. Цана 2 руб.

Цана 2 руб. Індэкс 74985

## «Полымя» — 1993
## ПРАПАНУЕ СВАІМ ПАДПІСЧЫКАМ:

Раманы і аповесці **ЯНКІ БРЫЛЯ, ВАСІЛЯ БЫКАВА, ІВАНА ШАМЯКІНА, ІВАНА ЧЫГРЫНАВА.** А таксама новыя творы **УЛАДЗІМІРА ДАМАШЭВІЧА, ВІКТАРА КАЗЬКО, ВІКТАРА КАРАМАЗАВА, АНАТОЛЯ КУДРАЎЦА, БАРЫСА САЧАНКІ, ЯНКІ СІПАКОВА, ЛІДЗІІ АРАБЕЙ, АЛЕСЯ МАСАРЭНКІ** і іншых;

невядомыя творы са спадчыны **МАКСІМА ГАРЭЦКАГА;**

нізкі вершаў і паэмы **МАКСІМА ТАНКА, ПІМЕНА ПАНЧАНКІ, МАКСІМА ЛУЖАНІНА, СЯРГЕЯ ГРАХОЎСКАГА, АЛЕСЯ ЗВОНАКА, РЫГОРА БАРАДУЛІНА, ГЕНАДЗЯ БУРАЎКІНА, НІЛА ГІЛЕВІЧА, ВАСІЛЯ ЗУЕНКА, ПЕТРУСЯ МАКАЛЯ, ВАСІЛЯ МАКАРЭВІЧА, ДАНУТЫ БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВАЙ, РАІСЫ БАРАВІКОВАЙ,** творы маладых паэтаў.

**Часопіс працягвае пастаянныя рубрыкі «З літаратурнай спадчыны», «Вяртанне», знаёміць чытачоў з творамі незаслужана забытых пісьменнікаў, з літаратурай беларускай эміграцыі.**

**У раздзеле крытыкі і літаратуразнаўства будзе аналізавацца сучасны літаратурны працэс, змешчаны публікацыі, прысвечаныя праблемам адраджэння роднай мовы і культуры, матэрыялы ў дапамогу настаўнікам і выкладчыкам. Гэта артыкулы ВІКТАРА КАВАЛЕНКІ** — пра сучасную беларускую прозу; **УЛАДЗІМІРА КАЛЕСНІКА** — аб беларускай літаратуры пра Вялікую Айчынную вайну; **УЛАДЗІМІРА КОНАНА «Кроў людская — не вадзіца»** (філасофія, дзяржава, гістарычны працэс, літаратура); **ІРЫНЫ БАГДАНОВІЧ «На суровых крыжавых дарогах»** (серыя публікацый пра трагічны лёс беларускіх пісьменнікаў у гады сталінскага тэрору); **АЛЕСЯ ЯСКЕВІЧА «Хрысціянская мараль і працэсы развіцця беларускай літаратуры»; ЛІДЗІІ САВІК** — пра літаратуру беларускага замежжа; раздзелы са слоўніка **МІКАЛАЯ КРЫЎКІ «Народная фразеалогія Дзісеншчыны».**

Шмат увагі ўдзеліць часопіс развіццю сучаснага тэатральнага і выяўленчага мастацтва, надрукуе матэрыялы пра архітэктуру на Беларусі.

У раздзеле гісторыі літаратуры і культуры чытач пазнаёміцца з **«Хронікай Быхаўца»**, пра Полаччыну ад XVI ст. да нашых дзён раскажа **УЛАДЗІМІР АРЛОЎ.**

Публіцыстыка і нарыс будуць прадстаўлены серыяй матэрыялаў пра экалагічную сітуацыю. Адзін з іх — **«Ці ўратуе лес ад радыяцыі?»** Друкуецца цыкл публікацый **«Эканоміка Беларусі сёння і заўтра»**, даследаванне **«Дзяржаўнасць Беларусі і мова народа».**

Рэдакцыя часопіса чакае ад чытачоў цікавых праблемных допісаў, якія будуць апублікаваны ў раздзеле «З рэдакцыйнай пошты».

Рэдкалегія часопіса «Полымя»

ISSN 0130—8068 Полымя 1992. № 7. 1—256.